Пераклад Васіля Раманава 2016 год.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Хрыстос

(Гісторыя чалавечай культуры ў прыродазнаўча-навуковым асвятленні.)




# Кніга III

## БОГ І СЛОВА

ЗМЕСТ

# Прадмова да трэццяй кнігі.

Гэтае даследаванне, якому я даў агульную назву «Хрыстос» (разумеючы гэтае слова не ў адным толькі евангельскім сэнсе, а згодна з яго грэцкім значэннем «прысьвечаны ў таямніцы акультных навук») было задумана мной яшчэ ў адзіноце Аляксееўскага равеліна і ў першыя гады зняволення ў Шлісельбургскім умацаванні, пасля таго як мне дазволілі даваць для чытання кнігі выключнага рэлігійнага зместу. А напісана яно было ў разгар грамадзкай буры, калі ўсё навокал як бы бурылася, нібы пры землятрусе. І абедзве гэтыя ўмовы працы наклалі на яго свой незабыўныя сьлед. Даводзілася абдумваць у розны час то тую, то, іншую дэталь і запісваць урыўкамі, то тут, то там, часта ў холадзе і голадзе, з вялікімі перапынкамі і пераездамі з аднаго месца на другое дзеля зусім іншых спраў. Часам здавалася, як быццам бы ляціш на аэраплане, які ўвесь час нечакана робіць мёртвыя петлі, і пісаць паспяваеш толькі ў тыя моманты, калі, перавярнуўшыся, ён зноў станавіцца галавой угару.

Вось чаму ў гэтых кнігах адсутнічае канчатковая адшліфаванасць і ўся мая праца падобна на статую высечаную сякерай із мяккага мармуру. Але ўсё ж яна ў агульных рысах – закончаная статуя, і мае некаторае грубае падабенства з былой рэчаіснасьцю, тады як ранейшыя працы па старажытнай гісторыі ўяўляюць сабой, як мне здаецца, просты міраж, паказваючы нам раскошныя вісячыя сады Семіраміды ў такіх месцах даўно існуючай пустыні, дзе ў рэчаіснасьці нічога не было апроч куч пяску ды праслоек чэзлай расьліннасьці.

Як у першай кнізе я паклаў у падмурак астраномію, а ў другой – геафізіку, так і тут я карыстаюся, галоўным чынам, псіхалагічнай апрацоўкай нашых першакрыніц, разглядаючы іх перадусім з боку гледжання аперцэпцый першабытнага чалавечага розуму, г. азн. непадабенства ўспрымання у слухаючага ці чытальнага з успрыманнямі апавядаючага ці пішучага пра што б там ні было, асабліва калі справа мае дачыненне да складаных і хвалючых масы падзей жыцця. Дзякуючы гэтаму, адна і тая ж падзея, маючая дачыненне да дзейнасці той ці іншай вядомай асобы, набывае тым большую колькасць варыянтаў, чым шырэй і глыбей яна захапіла грамадзкае жыццё. І гэта асабліва выразна выявілася падчас аглушаючых выбухаў вулканічнай дзейнасьці Вязувія, Этны і Флегрэйскіх мясцовасьцей і наступіўшае за імі ажыўленне дзейнасьці падземных магутнасьцей амаль на ўсіх узбярэжжах Міжземнага мора ў IV і V стагоддзях нашай эры, – дзенасьці, якую народнае ўяўленне непарыўна злучыла з жыццём прысутнічаўшых у асабліва пацярпеўшых мясцовасьцях трох народных правадыроў, якія атрымалі найменні Збаўцы (Майсея), Асьветніка (Арона-Арыя) і Ратавальніка (Езуса). Водгаласы гэтага выбуху падземных магутнасьцей адбіліся магутнымі хвалямі не толькі на адной атмасферы зямнога шара, але і на душах амаль усяго насельніцтва Старога сьвету, аж да аддаленых Тыбета і Індыі, нарадзіўшы шмат аперцэпцыйных варыянтаў ва ўяўленнях пра адну і тую ж падзею і разнастайных апавяданняў пра

адных і тых жа толькі што згаданых дзеячоў і навукоўцаў, не кажучы ўжо пра іхных спадкаемцаў-апосталаў – Сымона, празванага Каменем (Пятром), Яна, празванага Залатавустам, Абула Казема, празванага Славутым (Магаметам), Гаўтаму, празванага Мудрым (Будай) і сына Ламы (Вар-Ламе), якога з новага боку гледжання на храналогію даводзіцца прызнаць родапачынальнікам індускага «багаслоўя» (брамаізму – па-санскрыцку).

Але само сабой зразумела, што перш, чым перайсьці да разгляду ўсіх далёкіх атажылкаў той жа самай складана-адзінабожнай, містычнай тэалогіі, мне неабходна было напісаць, так бы мовіць, лінгвістычную інтэрмедыю, якой прысвечаны ўвесь пралог гэтай кнігі «Хрыста», і паказаць, перш за ўсё, штучнасць лацінскай, старажытна-жыдоўскай і санскрыцкай моваў, на якіх напісаны галоўныя са згаданых аперцэпцый. Дзякуючы гэтаму, тут, у III кнізе, менш дакладных астранамічных вылічэнняў часу тых ці іншых падзей ці дакументаў, але гэта будзе папоўнена ў наступных кнігах.

Даючы некаторыя метады для лінгвістычнага даследавання першакрыніц (шляхам лінгвістычных спектраў і фанетычнага складу моваў), я не карыстаўся тут сучаснай палеаграфіяй, бо лічу яе вельмі ненадзейным сродкам, з нагоды таго, што папярэдні характар пісання захоўваўся ў глухіх правінцыях яшчэ доўга пасьля таго, як у сталіцах перайшлі да новага напісання. Таму што раней пісаць вучыліся толькі прыватным чынам, у асоб, без агульнага дзяржаўнага кантралявання над школамі, як зараз. Ды і пасьля пачатку друкавання кніг з іх яшчэ доўга рабіліся рукапісныя копіі, з нагоды адсутнасьці кнігарняў у правінцыі і цяжкасьці атрымання друкаваных кніг са сталіцы ва ўмовах адсутнасьці наладжанага паштовага паведамлення, так што далёка не кожны рукапісны дакумент, нават і напісаны старажытным почыркам і кійком замест гусінага пяра, можна лічыць папярэднічаўшым эры кнігадрукавання.

Толькі пасля згаданай мной філалагічнай інтэрмедыі, вельмі патрэбнай для далейшага выкладання маіх высноваў, а таксама і для разумення некаторых маіх меркаванняў у папярэднічаўшых кнігах, я і адважваюся ў гэтай трэццяй кнізе прыступіць да высвятлення першараднага значэння псіхічнай аперцэпцыі для развіцця міфаў і ўсіх наогул старажытна-гістарычных паданняў. Я хачу паказаць, што яна – галоўны фактар першабытнай калектыўнай творчасьці, калі ў стварэнні апавяданняў брала ўдзел вялізная колькасць асоб. Толькі тое, што створана ёю, і можа быць названа народным эпасам. Пры спакойных умовах жыцця, гэта – фактар часта эвалюцыйны, а пры грамадзкіх катастрофах гэта аперцэпцыя можа быць нагодай і вельмі рэзкіх змен у апавяданні, раптоўна перамяняючых стаўленне перадатчыкаў да яго герояў або дыслакуючых апавяданне ў прасторы і ў часе, г. азн. пераносячы падзеі ў нейкую мала вядомую краіну, куды цяжка дабрацца, ці пераносячы апавяданне ў такі аддалены час, калі яму ніяк не могуць пярэчыць ўжо існуючыя іншыя апавяданні.

Выдатныя выпадкі такога рэзкага ўздзеяння аперцэпцыі я ўжо паказаў у першых дзвюх кнігах гэтай маёй працы, на прыкладах перакідання біблейскіх паданняў із Італіі ў Сірыю і з IV стагоддзя нашай эры ў XI да яе, а тут я паведамляю і разглядаю некалькі выпадкаў чыста эвалюцыйнага дзеяння той жа аперцэпцыі пры разборы варыянтаў адных і тых жа апавяданняў у біблейскіх кнігах «Цары» і ў «Закінутай кнізе» (Параліпаменане), а таксама і пры параўнанні аднастайных паданняў у евангеллях Марка, Мацвея і Лукі.

Відавочныя супастаўленні некаторых біблейскіх і евангельскіх уяўленняў пра Сусьвет і пра яго існаванне з сучаснымі, навуковымі, асабліва выразна паказваюць, што ўсе гэтыя даўнейшыя кнігі ўжо аджылі свой век і што да біблейскіх і евангельскіх апавяданняў, нават і проста як да крыніц для вывучэння старажытнага жыцця, мы павінны ставіцца з яшчэ меншым даверам, чым, напрыклад, да раманаў Дзюма-бацькі пры вывучэнні гісторыі французскага народа.

Я яшчэ раз нагадваю, што накіроўваючым компасам маіх пошукаў служыць асноўнае цьверджанне, якое павінна быць пакладзена ў падмурак рацыянальнай сацыялогіі і гісторыі: кожная цывілізацыя і ў старажытнасьці магла пашырыцца толькі такім жа чынам, як і зараз: са шмат адораных прыродай мясцовасьцей у менш надзеленыя, са сталіц у вёскі, а не наадварот. Асабліва ж неверагодна, калі нас пераконваюць, быццам астраномія, вышэйшая філасофія і нават сама пісьмовасць прыйшлі ў сталіцы старажытнага свету з нейкіх качавых стэпавых станаў і нават трахі не з пустынь.

З рацыянальнага боку гледжання не магло існаваць нічога падобнага, і нават даводзіцца (грунтуючыся на стратэгічных меркаваннях) усумніцца, ці сапраўды Кастусь I і яго спадчыннікі жылі ў Істамбуле (які толькі еўрапейцы, невядома з якога часу, завуць Канстантынопалем), а не ў Александрыі, і ці сапраўды Абул-Казам (ён жа славуты Магамет) збег із аравійскай Мекі ў Медыну, а не із ягіпецкага Мемфіса ў Каір ці ў нешта падобе гэтага.

Усе падобныя лакалізацыі, мала прыдатныя як са стратэгічнага, так і з культурна-гістарычнага боку гледжання, павінны быць падвергнуты строгай крытычнай праверцы, на падставе толькі-што паказанага асноўнага закона пашырання культуры, і таму немагчыма папракаць мяне за тое, што я пасільна імкнуся гэта зрабіць у сваім гэтым дасьледаванні, хаця б я тут у чым-небудзь і памыляўся.

Але да гэтага часу мне не было паказана на нейкую сур'ёзную памылку, акрамя некалькіх недаглядаў чыста карэктурнага характару, якія я і выправіў у другім выданні I тома «Хрыста».

Із крытычных заўваг пасьля выдання другой кнігі «Хрыста» я адзначу толькі спасылкі на нямецкую працу Франца Боля пра Апакаліпсіс.

Праца Боля была надрукавана праз некалькі гадоў пасьля таго, як з'явілася (перад вайной) на нямецкай мове мая кніга «Die Offenbahrung Iohannis» з уступным артыкулам А. Дрэўса і выклікала ў нямецкім друку ажыўлены абмен думак. Няма ні найменшага сумневу, што калі-б мае вылічэнні часу гараскопа, змешчанага ў VI главе Апакаліпсіса, вызначылі канец I стагоддзя нашай эры, то ўсе тэолагі і артадаксальныя гісторыкі ўхапіліся б за іх, як за неаспрэчнае астранамічнае падцверджанне слушнасьці дат, якія даюцца старажытнымі царкоўнымі пісьменнікамі. Але, на жаль, мае вылічэнні далі дату 30 верасня 395 года нашай эры, на трыста гадоў пазней царкоўнай, і прызнанне слушнасьці майго вылічэння азначала б, разам з тым, і крушэнне ўсёй царкоўнай гісторыі да пачатку IV стагоддзя нашай эры. Боль, як гісторык, дастаткова знаёмы з астраноміяй, адразу зразумеў сур'ёзнасць утварыўшагася становішча і таму, пераканаўшыся ў безпахібнасьці маіх вылічэнняў і ў немагчымасьці грунтуючыся на іх вылічэння іншай даты, паспрабаваў у сваёй кнізе, напісанай як бы цалкам незалежна ад маёй, пахіснуць сам падмурак маіх вылічэнняў, падказваючы чытачу, што ў шостай частцы Апакаліпсіса няма гараскопу, г. азн. што чырвоны, белы, блеклы і вараны коні на небе зусім не планеты Марс, Юпітар, Сатурн і Меркурый, а проста – што б

вы думалі? Рознакаляровыя вятры (!!), якія, як вельмі зменлівыя не могуць быць ніколі нікім вылічаны, а таму і кожная спроба вылічэння тут адпадае!

Аднак, апроч таго што ніхто не здольны разлічыць на небе блеклых, чырвоных, белых і вараных вятроў (якія спатрэбіліся прытым жа выключна для таго, каб абыйсьці мае вылічэнні) гэта немагчыма ў Апакаліпсісе нават і ў квадратнай ступені.

Як бы прадбачучы, што нехта выкажа такую дзіўную рэч, каб пахіснуць яго гараскоп, аўтар Апакаліпсіса, апісаўшы ў шостай главе сваіх коней-планет, паведамляе ўслед за імі і пра чатыры (але ўжо не маючых колеру, як і патрэбна было чакаць!) вятры, аб'яўляючы іх такім чынам іншымі прадметамі ў дачыненні да коней.

«Пасьля гэтага (г. азн. пасьля разглядання на небе планет-коней) пабачыў я, – кажа ён, – чатырох анёлаў, стаячых на чатырох кутах зямлі і трымаючых чатыры вятры зямлі, каб не дуў вецер ні на зямлю, ні на мора, ні на нейкае дрэва» (Апак. 7, 1).

Гэта азначае – коні былі не вятрамі, і ўсё, што я казаў пра іх, – слушна.

А астатнія пярэчанні, якія выказваліся мне некаторымі, нападобе таго, што быццам бы сузорная Панна намалявана на нейкай сярэднявечнай мапе з мячом, замест пшанічнага коласа у руках (як-быццам знарок, каб пахіснуць маё вызначэнне Марса пад мячом Пярсея!), яшчэ менш пераканаўчыя, чым шматкаляровыя вятры Боля.

Бо ж галоўную і самую яркую зорку ў сузор'і Панны нават і «Пталямей» называе Коласам, а не мячом, ды і да гэтага часу яе ўсе клічуць так. Калі ж адбылася такая замена наймення супраціўнага асноўнаму астралагічнаму значэнню сузор'я? Намаляваць гэтую Панну з мячом на нябеснай мапе мог толькі нейкі напалову страціўшы розум астролаг нападобе таго, які намаляваў ратуемую Пярсеем неапранутую Андрамеду з падабенствам мужчынскага фаласа (гл. маю кнігу «Прарокі», дзе змешчаны гэты малюнак) і гэтым даў нагоду аднаму тлумачальніку выказаць выснову, што Андрамеда ў старажытнасьці лічылася гермафрадыткай... Акрамя таго, замена коласа жнучай Панны мячом і прыдумана выключна для таго, каб пазбавіць падмурку маё, у іншым выпадку фатальнае для ўсёй старой храналогіі хрысьціянства, астранамічнае вылічэнне часу назіранняў аўтара Апакаліпсіса ў 395 годзе нашай эры. Без гэтага такое грознае ўзбраенне для Панны ніколі б не прыйшло ў галаву маім крытыкам.

Зразумела, што падобнага роду пярэчання (ці два прачытаныя мною заклікі на адрас Дзяржаўнага Выдавецтва спыніць друкаванне маіх кніг пра Хрыста) толькі падцвярджваюць непахіснасць майго астранамічнага падмурку пры вылічэнні часу ўзнікнення Апакаліпсіса, прарокаў і іншых старажытных паданняў, а з ім застаюцца непахіснымі і ўсе мае астатнія высновы.

Мікалай Марозаў.
Навуковы Інстытут ім. Лесгафта
Астранамічнае Аддзяленне
19 чэрвеня 1926 г.

# ПРАЛОГ

## Ферменты чалавечай думкі і культуры



Мал. 1.
*Узор старажытнага ліста на папірусе. адзін із грэцкіх манускрыптаў, захоўваемых ў Брытанскім музеі.*

# ГЛАВА I.
## Старажытная кабалістыка як прадчуванне будучай магутнасьці слова.

Элементы мовы забіраюць у сябе поспехі доследнай думкі і ў сваю чаргу служаць падмуркам для яе далейшага развіцця.
У. Багародзіцкі.

### I.
### Літары-чараўніцы.

Ці можам мы назваць абмежаваныя па сваёй колькасьці гукі нашага вымаўлення і адпавядаючыя ім пісьмовыя значкі літаратуры ферментамі чалавечай думкі і навукі?

Мне цяжка прыдумаць для іх больш прыдатную назву.

Як у вобласьці фізіялагічных працэсаў асноўную трансфарміруючую ролю выконваюць параўнальна невялікія і абмежаваныя па колькасьці сваіх малекул энзімы нападобе пепсіна, дыястазы і вылучэнняў розных залоз, так і гэтыя

нешматлікія значкі і гукі непрыкметна перапрацоўваюць усё ваша грамадскае і асабістае жыццё. Без знаёмства з іхным значэннем у справе стварэння нашай псіхікі немагчыма свядома паставіцца да гісторыі чалавечай культуры, аднаму із аддзелаў якой прысвечана гэтая мая праца.

Мне непазбежна давялося дадаць да яе апрача астранамічных, геафізічных і іншых пралогаў і гэтую лінгвістычную інтэрмедыю, якую я ўжо не магу назваць уступленнем да нейкага аднаго із аддзелаў таму, што лінгвістычныя меркаванні ўскосна кіравалі маім шляхам ва ўсіх ранейшых высновах і будуць кіраваць далей.

Перадусім пагаворым пра пачаткі пісьмовасьці.

Ці памятаеце вы той час, калі вы яшчэ не ўмелі чытаць? Ці памятаеце вы, што вы думалі тады пра чытаючых? Уявіце сабе, я памятаю!

У маёй свядомасьці выразна захавалася, што мастацтва чытання я лічыў тады безнадзейна недасягальным для маёй галавы. Я памятаю, якімі незвычайнымі людзьмі, проста чараўнікамі, я лічыў тых, хто ўмее чытаць!

– Як яны здольны гэта рабіць без нейкай таямнічай магутнасьці? Як магчыма, гледзячы на аркуш паштовай паперы, размаляваны нейкімі дзіўнымі значкамі і дасланы вам у канверце, часам цалкам незнаёмым чалавекам, раптам паўтарыць тое, што выказваў ён, калі размалёўваў гэты аркуш?

Так, мне гэта здавалася сапраўдным чараўніцтвам! А так як я ведаў, што не быў чараўніком, то быў цалкам упэўнены, што ніколі ў сваім жыцці я не буду ў стане прачытаць ніводнага аркуша, ніводнай кнігі!

Мая бабуська-няня, таксама непісьменная, яшчэ больш пераконвала мяне ў незвычайнай цяжкасьці чытання, хоць і не сумнявалася, што я ўсё адолею.

– Навучаць, навучаць і цябе! – гаварыла яна мне са слязьмі засмучэння на вачах,

– Але як жа навучаць?

– А ўжо так... ты сам даведаешся! Дадуць кніжку і загадаюць чытаць, а калі не будзеш, то настаўніца, якую для цябе возьмуць, будзе секчы цябе, пакуль не будзеш умець.

– Але я хутчэй памру, чым здолею паўтарыць, што гварыў той, хто пісаў кнігу.

– Ужо я і сама не ведаю як, а толькі прымусяць! Доўга-доўга будуць катаваць! Вось Ваську на кухні (гэта быў сын кухара) ужо колькі секлі, а ён чытае пакуль толькі тыя кнігі, якія яго вывучылі чытаць, а яго старэйшая сястра Вольга можа чытаць ужо і тыя кніжкі, якія бачыць першы раз у жыцці.

– Як жа яна можа, калі ніколі не бачыла? Я магу вывучыцца чытаць толькі тыя кніжкі, якія мяне навучаць чытаць, а кніжкі, якія пабачу першым разам у жыцці, ніколі не прачытаю.

Гэтае ўяўленне пра немагчымасць прачытаць ніколі нябачаныя кніжкі без асобнага цуда трымалася ў мяне аж да таго часу, пакуль маці ўпершыню пачала вучыць мяне літарам; але і тады я яшчэ ніяк не мог зразумець спосаб іхнага ўжывання. Ды і як, было здагадацца? Мне паказвалі на паперы асобныя фігуркі.

– Калі бачыш такую літару, – казалі мне, – вымаўляй *а*, пры выглядзе гэтай – *о*, і гэтак далей.

Я пазнаваў, вымаўляў, але ўсё яшчэ не разумеў, якое яны маюць дачыненне да чытання.

– Калі мне скажуць, – пярэчыў я, – пабачыўшы адну фігурку, вымаўляй Коля, пабачыўшы другую, вымаўляй Ян, пабачыўшы траццюю вымаўляй сядзіба –

гэта я зразумеў бы. Але як жа можна пераказаць усе думкі пры выглядзе фігурак? Думкам жа няма ліку і немагчыма для кожнай прыдумаць сваю фігурку!

Я яшчэ не ўсведамляў, што ўсе выказванні складаюцца із асобных слоў, а словы із нешматлікіх гукаў. Для мяне, як і для першабытнага чалавека, здавалася, што гаворка, гэта – асаблівае суцэльнае цурчанне, падобнае цурчанню ручая, але толькі нейкае таямнічае цурчанне, якое, пранікаючы ў вушы, прымушае ў слухаючага ўзнікаць тым жа думкам, што і ў прамаўляючага, пакуль ён гаворыць. Словы і выказванні здаваліся мне не простым ваганнем паветра, а таямнічымі, не маючымі цела істотамі, выскокваючымі із вуснаў вымаўляючага і заходзячымі ў вушы слухаючага, каб набыць там формы ідэй і выяваў.

І вось, калі пасьля доўгіх, цалкам не маючых мэты на мой пагляд, указанняў на розныя фігуркі мяне навучылі складам, даўшы нейкую казку, прымусілі чытаць яе па складах, я пабачыў, што з іх атрымліваюцца цэлыя апавяданні.

Збегшы пасьля першага ж невялікага чытання ў наш парк, я там доўга сядзеў, шырока расплюшчыўшы свае дзіцячыя вочы, цалкам страціўшы розум ад захаплення і здзіўлення.

«Дык вось у чым складаецца чараўніцтва! – думаў я. – Вось гэтыя трыццаць шэсць фігурак у альфабэце і ёсць тыя чараўнікі, якія падказваюць чытаючаму тое, што думае пішучы? Але як жа гэта так? Мне здавалася, што колькасць гукаў бясконцая, а фігурак толькі трыццаць шэсць! Ці ўсё словы і думкі можна скласьці з іх, ці не ўсе?» Гэтае пытанне моцна хвалявала мяне (бо я баяўся, што існуюць і такія думкі, якія немагчыма з іх скласьці), і таму я з прагнасьцю узяўся за чытанне, чакаючы сустрэць нешта, для чаго спатрэбяцца яшчэ іншыя фігуркі, і не знаходзіў.

Такім чынам, гэта азначае, што ўсё што толькі можна думаць і выказваць, складаецца толькі із трыццаці шасьці гукаў, але як жа можна із трыццаці шасьці скласьці ўсё незлічваемае, могучае быць вымаўленым і падуманым?

Тут зноў уяўлялася таямніца, а потым з'явілася і пытанне, чаму ж фігурак менавіта трыццаць шэсць (я лічыў грунтуючыся на старажытным рускім альфабэце з іжыцай). Відавочна, што «трыццаць шэсць» – гэта нейкая магічная, усёскладаючая лічба.

Калі я думаў такім чынам, я і не падазраваў, што гэтым я толькі ўвасабляю асноўны прынцып кожнай эвалюцыі, прынцып эмбрыянальнага паўтарэння ранейшых стадый развіцця чалавечай думкі.

Падобна таму, як мой фізічны зародак ва ўлонні маці паўтарыў увесь цыкл развіцця сваіх продкаў, пачынаючы ад двух маленькіх мікробаў, зліўшыхся адна з другой, потым прайшоў праз стадыю першапачатковых жывёл, меў часовыя жабры, як рыба, быў неадрозны ад зародка малпы і, нарэшце, ператварыўся ў чалавека, –дакладна так і мой душэўны настрой пасьля вывучэння альфабэта быў толькі кароткачасовым паўтарэннем настрою, ахапіўшага ўсё чалавецтва пад час тых стагоддзяў, калі фанетычная азбука была яшчэ апошнім словам ведання. Я і не падазраваў, што, здзіўляючыся, чаму чароўных значкоў менавіта трыццаць шэсць, і лічачы гэтую лічбу нейкай усёахопліваючай у свеце ідэй, я стаяў, не ведаючы таго, на парозе старажытнай містычнай кабалістыкі, раскошна расквітнеўшай каля паўтары тысяч гадоў таму назад на глебе таго ж самага здзіўлення перад усемагутнасьцю гэтых «трыццаці шасьці».

Нагадаем, што людзей ведаючых некалькі моваў, тады амаль не было нават сярод першакласных навукоўцаў, якія, па шырыні свайго далягляду і ўзроўню ведаў, наўрад ці перасягалі сучаснага грамацея-селяніна.

Сваю мову яны шчыра лічылі адзіна выразнай, а астатніх людзей звалі «народамі з гаворкай глухой, невыразнай» (як выказаўся адзін із біблейскіх пракокаў – Ісая 33, 19).

Яны нават і ўявіць не маглі, каб рэчы можна было так жа лёгка пазнаваць грунтуючыся на назвах іншых моваў, а не толькі на іхнай мове. Ім здавалася, што замежную назву патрэбна спачатку перакласьці на іхную родную і толькі тады ўжо можна зразумець, што яна азначае. Так робяць і зараз усе, хто прызвычаіўся думаць толькі на адной мове. Яны заўсёды спачатку складаюць выказванне на сваёй звыклай мове, а потым перакладаюць яе на замежную, пакуль доўгая практыка не прызвычаіць іх разумець іншую мову і складаць выказванні непасрэдна на ёй, без пастаянных вяртанняў да роднай гаворкі. Гэта мае назву прызвычаіцца думаць на іншай мове.

Найбльш адукаваныя людзі старажытнасьці, калі і навучаліся нейкай замежнай мове, то, відаць, ніколі не засвойвалі яе так, каб думаць на ёй і, такім чынам, пераканацца ў яе раўнапраўнасьці са сваёй. Вось чаму кожны і лічыў тады сваю мову адзіна слушнай.

Калі я, перапрануўшыся ў фабрычнае адзенне, ішоў аднойчы з кіем і торбай із Курска ў Варонеж вывучаць настрой мясцовага сялянства, – усе, у каго я прасіў дазволу пераначаваць, зараз жа пазнавалі, што я із паўночнай Расіі.

– Чаму? – пытаўся я.

– Таму, што ты вымаўляеш не чыста, – стэрэатыпна адказвалі яны мне.

Іхнае ўласнае прыроджанае, даўно звыклае вымаўленне адно здавалася ім чыстай мовай, а астатнія рускія гаворкі ўжо сапсаванымі, а замежныя – канчаткова сапсаванымі, так што іх можна разумець толькі, перакладаючы папярэдне на сваю мову, ды і то не асабліва добра. І гэта быў водгалас таго ж дачынення, якое было ўсеагульным у старажытнасьці, калі нашы продкі звалі сябе славяне ці славакі (г. азн. валодаючымі дарам слова), а замежнікаў звалі немцамі (г. азн. нямымі).

Вось чаму найменне рэчы, вымаўляемае на роднай мове, уяўлялася старажытнаму навукоўцу не выпадковай камбінацыяй гукаў, складзеных шляхам гукапераймання (на падобе слоў: шы-пенне, чыры-канне, свіс-танне) ці выпрацаванай іншымі штучнымі прыёмамі, а як бы неад’емным, натуральным ценем, кідаемым ад сябе рэчу і знаходзіўшуюся з ёю у такой жа заканамернай сувязі, як і сонечны цень з целам ідучага чалавека.

Зразумела, што пры такім дзіцячым уяўленні зараз жа прыйшло ў галаву, што ўласцівасьці прадметаў (фенаменаў) можна вывучаць грунтуючыся на іхных найменнях (наменах). Узнікла філасофска-тэалагічнае вучэнне пра Логас ці боскае слова[1].

Як слова, вымаўленае чалавекам, пранікшы ў нашы вушы, выклікае ў нашай галаве безцялесныя выявы рэчаў і з'яваў, так вымаўленае богам, як найвышэйшай істотай, яно стварае рэчы. Яно дзіця бога... З гэтага боку гледжання здавалася зразумелым што мова, асабліва блізкая да «спраўднай», «боскай», утварае ў нашым розуме больш выразныя выявы.

«Але якая ж іншая, апроч мовы майго ўласнага народа, – думаў старажытны мысляр, – робіць гэта лепш? Гэта азначае, вывучаючы ўласцівасьці слоў маёй мовы, я маю магчымасць даведацца, грунтуючыся на іх, утоеныя ад нас уласцівасьці саміх рэчаў. Словы ж маёй мовы складаюцца із чароўных літар альфабэта, які ўпершыню быў адкрыты самім богам-Грамабоем таму, хто першым

[1] Логас па-грэцку азначае слова.

вяіўся яе годным, і перадаецца ад яго зараз пад вялікім сакрэтам ад настаўніка да вучня, як першая ступень іхнага пасьвячэння ў акультныя веды, прыводзячы на заканчэнні да ўсёведання і ўсемагутнасьці!» ...

І вы бачыце самі, што такое пасьвячэнне пасьля шэрагу практыванняў, якія здавалася не мелі сэнсу, нападобе вымаўлення *о* пры выглядзе адной напісанай фігуркі, вымаўлення *і* пры выглядзе іншай, сапраўды, мела наступствам тое, што, атрымаўшы ў рукі кавалак драўнянай кары ці папірусу, «пасьвечаны ў таямніцу» набываў веды пра думкі таго, хто раней трымаў у руцэ гэты «кабалістычна размаляваны кавалак», а пры накіраванні позірку на прыдарожны слуп з такімі ж «кабалістычнымі знакамі» набываў веды, нікога не пытаючыся, пра накірунак шляху, куды ямуісьці.

Усё гэта, вядома, здавалася чараўніцтвам для ўсіх недасведчаных, і людзі ўмеючыя чытаць, уяўляліся ім знаходзячыміся ў непасрэдных стасунках з багамі.

Вучань, які прайшоў гэтую першую ступень спазнання не ў самым дзяцінстве, як вы – напэўна, ужо не памятаючыя свае першыя адчуванні, ці не меўшыя іх цалкам дзякуючы несаспеласьці вашага тагачаснага дзіцячага розуму, – а большай часткай дасягнуўшы паўналецця, выразна ўсведамляў, што гэтае «прысвячэнне яго ў чараўнікі і магі» было не проста адной фармальнасьцю. Вось чаму ён з запалам аддаваўся душой і целам сваім настаўнікам і звыкаўся з думкай, што на выгляд не маючыя сэнсу практыкаванні маюць наступствам і ў некаторых выпадках вялікія вынікі.

Зрабіўшыся, у сваю чаргу, настаўнікам і пачаўшы самастойныя пошукі, адэпт старажытнай навукі перадусім заўважаў, што яго чароўныя значкі, складаючыя словы, пры сваёй перастаноўцы рознымі спосабамі могуць утварыць і такія камбінацыі, вынікам якіх з’яўляюцца словы невядомага значэння, сэнс якіх яшчэ «ўтоены ад людзей» і вядомы толькі богу. Гэта – словы «божыя» ў адрозненні ад «чалавечых». Ён заўважаў, што ўсе словы могуць мець і адваротнае чытанне, і імкнуўся спазнаць узаемадачненні паміж тым і іншым чытаннем. Каб паказаць вам гэта навочна, выкажу здагадку, што даследнік, кажучы па-руску, чытаючы слова «мір», заўважаў, што яго можна прачытаць і ззаду наперад, і тады атрымлівалася «рым».

«Вось чаму – прыходзіла яму ў галаву – «Рым – сталіца сьвету!». Гэтая таямніца – думаў ён – адкрылася мне зноў дзякуючы тым жа чароўным значкам альфабэта».

Чытаючы слова «нос» у такім жа адваротным парадку, ён атрымваў «сон» і ўсклікаў:

– І тут таямніца! Вось чаму пры сне храпуць носам! Узяўшы слова «пуп», ён прыходіў да высновы, што, як яго ні чытай, ён застанецца пупам, і ўсклікаў:

– Гэта азначае, што ён – цэнтр цела! Падобна на тое, як у акружнасьці, куды па ёй ні накіруйся, не патрапіш у яе цэнтр, так і тут, адкуль ні чытай, сэнс слова не змяняецца!

Занадта яшчэ наіўны, каб зразумець незалежнасць складання слоў із літар ад утваэння пазначаемых імі рэчаў з іхных элементаў, ён пачынаў нават шукаць падобныя цэлыя выказванні. Заўважыўшы, напрыклад, што выказванне: “*уведи у вора корову и деву*” – і пры адваротным чытанні застаецца тым жа самым, старажытны мысляр лёгка зрабіў бы выснову, што калі б нехта змог забраць у злодзея іх абедзвюх, то ён набыў бы вялікае шчасьце...

Валер Брусаў напісаў у падобным выглядзе нават цэлы верш-пярэверацень пра месяц. Яго можна чытаць і злева направа, і справа налева.

Вядома, чытач сам разумее, што я, маючы жаданне патлумачыць яму логіку старажытнага грамацея, тут толькі выкарыстаў вельмі нглядны спосаб, г. азн. наўпрост парадыраваў метад. Будучы грэкам ці жыдом, невядомы заснавальнік старажытнай кабалістыкі рабіў усё гэта на сваёй роднай мове і прыходзіў да аналагічных высноваў. І ўсе падобныя высновы здаваліся яго наіўнаму, захопленаму розуму вынаходніцтвамі і ён паведамляў іх сваім вучням, а тыя, здзівіўшыся ў сваю чаргу, імкнуліся працягваць гэтую справу. Узнікла ілжэ-навука – паліндраматыка – якая займалася вынаходніцтвам выказванняў маючых сэнс пры чытанні іх як у адзін бок, так і ў другі. Характэрнай рэшткай падобнай навукі служыў грэцкі надпіс на купале храма св. Сафіі ў Канстантынопалі: «ΝΙΣΠΩΝ ΆΝΟΜΗΜΑ ΜΗ ΜΟΝΑΝ ΏΠΣΙΝ», што азначае: «абмывайце грахі, не адзін твар». Такімі ж з'яўляюцца і лацінскія словы, быццам бы вымаўленыя д'яблам і заключаючыя ў сабе д'ябальскі сэнс: «Signa te, signa, temere me tangis et angis!», г. азн.: «Пазнач сябе, пазнач (крыжом)! Дзёрзка датыкаешся да мяне і душыш!».

Плынь чалавечай думкі, захопленая вынайдзеным ёю альфабэтам, адразу накіравалася, такім чынам, на ілжывы шлях, і яна адразу ж заблудзілася ў нетрах і багнах, у якія мімаволі патрапіла, не ведаючы яшчэ сапраўднага шляху і не маючы для яго ніякага компасу, ніякіх указанняў. Зразумела, што, не абышоўшы ўздоўж і папярок гэтых нетраў, без вынаходніцтва ў іх нечага плённага, апрача блукаючых агеньчыкаў у выглядзе выпадковай сугучнасьці словаў, старажытная навука ўжо не магла вярнуцца да пачатковай кропкі і пайсьці, нарэшце, у правільным накірунку фактычнага навуковага даследавання жыцця і прыроды.

Толькі пад час навейшага перыяду гісторыі яна, нарэшце, адкінула гэтую не маючую плёну дыялектыку, і сама назва *кабала* набыло злавесны сэнс такой навукі, у якой закабаліш сябе, г. азн. незваротна загубіш сваю волю дзейнасьці, калі надумаеш у яе паглыбіцца...

І ад яе, сапраўды, пачалі бегчы, як ад пасткі...

Але мы, абароненыя ў наш час ад небяспекі загрузнуць у старажытных багнах, ужо асушаных усемагутнасьцю сучасных навуковых ведаў, маем магчымасць бяспечна вярнуцца і ў гэтую старажытную, высахшую багну, навукова даследаваць яе дно і паспрабаваць зразумець яе першапачатковую прывабнасць для неспрактыкаваных розумаў сярэднявечча.

## II.
## «Сефер-Іеціра», ці альфабэт як «шыфр тварэння».

Калі маюць жаданне, каб ніхто акрамя прысвечаных не мог зразумець змест ліставання, звычайна выкарыстоўваюць шыфраванне, г. азн. пазначэнне словаў умоўнымі знакамі. Так і згодна з наіўнай здагадкай старажытных навукоўцаў, яшчэ поўных захаплення і запалу ад вынаходніцтва імі магчымасьці на якой заўгодна адлегласьці даведвацца пра думкі адзін аднаго дзякуючы нешматлікім значкам, альфабэт мог здавацца шыфрам для выведвання таемных законаў усяго светаўладкавання.

Але які ж альфабэт быў для гэтага самым пыдатным? Грэцкі, ягіпецкі, жыдоўскі?

Кабала – навука адмыслова жыдоўская, а таму, грунтуючыся на толькі-што павядомленым намі, у падмурак даследавання законаў сусьвету – у ёй быў

пакладзены жыдоўскі альфабэт, як дадзены самім богам яго абранаму народу пры стварэнні першага чалавека. Паглядзім жа, да чаго яна прывяла.

Чытаючы старажытныя жыдоўскія кнігі па кабале, мы знаходзім там, перадусім, апалогію лічбы дваццаць два.

Чаму так? – Вельмі проста! Жыдоўскі альфабэт змяшчае ў сабе дваццаць дзьве літары, у ім дваццаць два чараўнікі, складаючыя ўсе жыдоўскія словы, і вось як захоплена апісвае іх невядомы аўтар (згодна з жыдоўскімі паданнямі сам прабацька Аўраам) у сваёй кнізе «Сефер Іеціра», г. азн. «Шыфр Тварэння»[2].

«Дваццаць дзве літары, – выказваецца ён, – гэта падмуркі. Тры із іх маці, сем – падвойныя і дванаццаць – простыя.

Тры маці – гэта А, М, Ш.

Асноўная ўласцівасць літары А – правасць, літары Ш – вінаватасць і літары М – закон, усталёўваючы паміж імі раўнавагу. А, М, Ш! Літара М – нямая, Ш – шыпячая, і А – паветра пасярэдзіне паміж імі!» (Гл. II, 1).

Ведаючы жыдоўскую мову, вы лёгка заўважыце, што ўсё гэта выведзена таму, што з літары М пачыналіся жыдоўскія словы: закон і вада (нямая стыхія), літара Ш складала асноўны гук у словах: правіна і полымя (якое было ў той жа час і шыпячай стыхіяй), а літара А была першай у словах: праўда і паветра (якое лічылася сярэдняй стыхіяй паміж полымем і вадой). Адпаведна з гэтым траістым прынцыпам, панаваўшым пад час сярэдніх стагоддзяў, і ўсе літары жыдоўскага альфабэту былі няправільна падзелены толькі на тры групы – нямыя, шыпячыя і сярэднія, прыстасоўваючы да траістай лічбы, якой надавалі асноўнае значэнне для ўсяго існуючага ў сьвеце.

«Дваццаць дзве літары, гэта – падмуркі! – працягвае далей Сефер Іеціра. – Бог напісаў іх, выбіў іх, зрабіў іхныя спалучэнні і перастановы, узважыў іх і стварыў імі ўсё створанае і абумовіў усё маючае быць створаным» (таму, што ўсе спалучэнні літар, не утвараючыя асэнсаваных словаў, лічыліся назвамі яшчэ не створаных рэчаў).

«Дваццаць дзве літары, гэта – падмуркі! – паўтарае аўтар зноў і зноў, як бы жадаючы замацаваць гэта ў галаве чытача. – Бог усталяваў іх на нябесным скляпенні нападобе сьцяны із 231 спалучэння (22 літары па дзве разам даюць 231 спалучэнне). Сфера ж круціцца наперад і назад». «Якім жа чынам бог іх узважыў і зрабіў з іх спалучэнні і перастаноўкі? Адну літару з усімі і ўсе з адной! Дзве з усімі і ўсе з дзвюма! І гэтак далей, і гэтак далей! І атрымліваецца 231 радкоў! Такім чынам, усё створанае і ўсё наша вымаўленне ўзніклі аднолькавым чынам.

«Бог стварыў нешта із хаосу, ён із нічога зрабіў нешта і высек вялікія слупы із неабсяжнага скляпення неба, і вось гэтаму знак: адна літара з усімі і ўсё з адной! Ён агледзеў, перамяшаў і стварыў усе створаныя рэчы і ўсе іхныя найменні адным і тым жа спосабам, і знак гэтаму: дваццаць два прадметы ў адным (чалавечым) целе (колькасць костак і вантробаў таксама лічылася тады не згодна з назіраемымі фактамі, а вызначалася варажбітным спосабам, згодна з колькасьцю літар жыдоўскага альфабэта, што, вядома, цалкам не адпавядае рэчаіснасьці)».

«Тры літары-маці А, М, Ш! – працягвае далей гэтая кабалістычная кніга, – вялікая таямніца, цудоўная, таемная і запячатаная шасьцю пячаткамі. Із гэтых літар атрымаліся паветра, вада і полымя; ад іх утварыліся бацькі, а ад бацькаў дзеці!»

---

[2] Папюс. «Кабала», пераклад Н. А. Пераферковіча, выд. В. Л. Багушэўскага, 1910.

«Тры літары-маці А, М, Ш! Бог іх напісаў, выбіў, зрабіў з іх спалучэнні і перастановы, узважыў і стварыў імі тры маці сусьвету, тры маці года і тры маці мужчынскага і жаночага цела».

«Тры маці сусьвету – паветра, вада і полымя, яны адпавядаюць літарам А, М і Ш! Неба створана із полымя, зямля із вады, а паветра із эфіру і займае сярэдняе месца паміж імі».

«Тры маці года, гэта – цёплае лета, створанае із полымя, халодная зіма, створаная із вады, і дажджлівая восень із эфіру «верадзі іх, яны таксама адпавядаюць літарам А, М і Ш!»

«Тры маці цела мужчынскага і жаночага, гэта – галава, жывот і грудная клетка. Галава зроблена із плымя, жывот із вады, а грудная клетка із эфіру пасярод іх. Ім адпавядаюць тыя ж літары!»

«Бог прызначыў літару А валадарыць над эфірам... Літару М валадарыць над вадой... Літару Ш валадарыць над полымем... Ён надзеў на іх вянкі і зрабіў іхныя спалучэнні...»

## III.
## Літары – шыфры ўсіх найменняў.

Такімі з’яўляюцца тэарэтычныя абгрунтаванні першапачатковай кабалістыкі. Я не цытую далей гэтую яе фундаментальную кнігу, – Сефер Іеціры – якая прыпісваецца «прабацьку Абраму», але складзеная, хутчэй за ўсё пад час сярэдніх стагоддзяў. Яна мала цікавая для агульна-адукаванага чытача таму, што там такім жа кабалістычным метадам выводзяцца ўяўляемыя ўласьцівасьці нябесных сьвяціл і, наогул, усяго сусьветнага ўладкавання, маючых не больш праўдзівыя здагадкі, чым і папярэднія, быццам бы чалавечая галава створана із полымя, а жывот із вады.

Гэты агульны, і як бачыць сам чытач, фантастычны метад кабалістычнага даследавання ўзнік грунтуючыся на захапленні першых пісьменных людзей дзіўнымі ўласцівасьцямі фанетычнага альфабэту, які здаваўся чароўным для ўпершыню пасьвечаных, і прытым у спелым узросьце, ў гэту вялікую таямніцу старажытных чараўнікоў.

Але запал перад такім адкрыццём павінен быў пайсьці і яшчэ далей, чым мы тут паказалі. Справа ў тым, што ў грэкаў і жыдоў у старажытнасьці літарам надавалася і іншае значэнне: кожная літара пазначала таксама і асобную лічбу: *а* – азначала адзінку, *б* – азначала два, *г* – тры і гэтак далей да *і*, якое ўсюды азначала 10, а *к* – азначала 20 і г. д., пакуль зноў не вярталіся да а – са значком для пазначэння 1000.

Ужыванне тых жа самых літар як для пісання, так і для злічэння прывяло да наступных вынікаў. Кожнае імя і кожнае слова, напісанае такім альфабэтам, выяўлялася, разам з тым, і некаторай лічбай: патрэбна было толькі скласьці лікавыя значэнні ўсіх яго літар.

Можаце ж сабе ўявіць, якім прывабным прадметам для тэарэтычных даследаванняў павінна была выглядаць гэтая акалічнасць пры існаванні тых поглядаў на вялікае містычнае значэнне альфабэту, узор якога мы толькі што бачылі на прыкладзе ўрыўку із «Шыфру Тварэння!»

Навукоўцы пачатку сярэдніх стагоддзяў амаль пагалоўна пачалі складаць літары найменняў багаў, людзей і разнастайных рэчаў і ламаць галаву над тым, што маглі б азначаць такія лічбы! І яны будавалі высновы нападобе тых, якія я тут зрабіў, парадыруючы іх дзеля простага і зручнага тлумачэння пытання на прыкладах прамога і адваротнага чытання рускіх словаў. І кожная падобная выснова здавалася ім вынаходніцтвам, пасланым для іх самім богам! Асобны ўзор,

узнікшы на падставе падобнага накірунку плыні чалавечай думкі, мы бачым, між іншым, і ў вядомай апакаліптычным лічбе 666, якая смвалізуе імя ворага тагачасных месіянцаў.

Перакладанне найменняў у лічбы заўсёды рабілася вельмі проста. Возьмем хоць бы рускае слова бог; відавочна, што яго лічба ці шыфр, грунтуючыся на славянскім альфабэце будзе 75: б = 2, о = 70, г = 3, с усё слова бог = 75. Такім з'яўляецца лікавае адлюстраванне слова бог.

Дакладна такім жа чынам можна вылічыць адпаведную лічбу і для кожнага слова, як гэта рабілі жыды і грэкі грунтуючыся на сваіх альфабэтах. Зразумела таксама і тое, што ў кожнага народа для кожнага слова атрымлівалася асобная лічба. Але што магла азначаць гэтая акалічнасць для людзей, якія лічылі выключна сябе ўладальнікамі сапраўднага, дадзенага богам, альфабэту і адзіна чыстай божай мовы? Пераважаючай частцы абмежаваных старажытных грамацеяў нават і ў галаву не прыходзіла думка пра іншыя мовы і іншыя альфабэты. Утаропіўшыся ў свой кут, яны нават і не заўважалі, што існуюць і іншыя падобныя куты. Яны без канца лічылі і лічылі грунтуючыся на сваёй роднай гаворцы, ламаючы галовы над значэннем кожнай, выпадкова атрыманай імі, камбінацыі лічбаў і лічылі свае фантастычныя здагадкі за неадменныя наданні звыш. Такім чынам, яны, сапраўды, траплялі ў залежнасць ці кабалу да свайго хібнага метаду даследавання. Яны шчыра лічылі магчымым даведацца пра усё на сьвеце падобным чынам. «Лічба наймення» стала для іх неад'дзяляемай уласцівасьцю не толькі гэтага наймення, але і рэчы маючай гэтае найменне ці чалавека. Яна была для яго фатальнай лічбай.

Водгаласы такога старажытнага ўяўлення захаваліся ў перайначанай форме і да нашых дзён сярод мала адукаваных людзей, часта робячых высновы, што нейкі дзень месяца з'яўляецца для іх «фатальным», і вылічаючых такія ж фатальныя дні для розных вядомых людзей, пра што і змяшчаліся час ад часу нататкі ў раздзеле «Рознае» ў нашых ілюстраваных часопісах ранейшых часоў.

На пачатку сярэдніх стагоддзяў такое перакананне было ўсеагульным сярод тагачасных навукоўцаў, г. азн., прасьцей кажучы, грамацеяў, як лепш за усё называць мысляроў гэтай эпохі, маючы на ўвазе іхную нізкую стадыю сярэдняга разумовага развіцця. «Лічба наймення» з іхнага боку гледжаня, сапраўды, вызначала не толькі імя, але і фіксавала кожную рэч у храналогіі светаўладкавання. На гэтай падставе непазбежна павінны былі ўзнікаць спробы кабалістычнага тлумачэння ўсіх гістарычных падзей, – спробы стварэння кабалістычных храналогій, пачынаючы ад вызначэння часу стварэння сусьвету. Такім жа чынам, пры дапамозе астралогіі, прадказваліся і розныя падзеі будучыні. Усё ў свеце, – здавалася старажытнаму чараўніку-грамацею, – можна было вылічыць такім спосабам, грунтуючыся на гэтых 22 чароўных фігурках. Лёс кожнага чалавека вызначаўся адной лічбай яго імя і парадкам яго асобных літар. Патрэбна было толькі даведацца, ад якога года і дня патрэбна адлічваць лічбы. Да гэтага «пачатку злічэння» зводзілася адзіная цяжкасць, непераадольная для жыхароў сярэднявечча, у якіх не было яшчэ вызначанай храналогіі, як у сучасных народаў, якія лічаць пачатак сваёй эры той ад часу «нараджэння Хрыста» (які таксама вылічаны кабалістычна), то ад часу збягання Магамета із Мекі ў Медыну, то ад кабалістычна ж вылічанага, уяўляемага стварэння сусьвету. Звычайна ж летапісцы лічылі гады ад часу ўцаравання іхнага апошняга манарха, і ад уцаравання новага пачыналася новая эра. Працягласць жа царавання папярэдніх манархаў паступова забывалася з нагоды псавання, згублення ці сьвядомага знішчэння старажытных дакументаў.

Гэта азначае, пры патрэбе, наступнаму гісторыку даводзілася аднаўляць колькасць гадоў кіравання ранейшых валадароў з дапамогай нейкіх кабалістычных вылічэнняў грунтуючыся на літарах іхнага імя, г. азн. усё адно, што выведваць з дапамогай гульнёвых карт, якія таксама маюць непасрэдную сувязь з кабалістыкай.

Вось усю гэтую блытаніну і даводзіцца зараз вывучаць сучаснаму навукоўцу, каб аддзяліць, нарэшце, тое што мы ведаем праўдзівага са старажытнай гісторыі, ад дайшоўшых да нас фантастычных ведаў, так бы мовіць, «найграных ў карты» навукоўцамі-грамацеямі пад час эпохі іхнага росквіту паміж IV і X стагоддзямі нашай эры. Гэтыя ілжывыя веды, вылічаныя збольшага згунтуючыся на кабалістычных, астралагічных, а збольшага, магчыма, і па проста картах для гульні, і дайшоўшых да нас у якасьці сур'ёзных гістарычных дакументаў, на якіх, як на трывалым падмурку, мы да гэтага часу засноўваем свае ўяўленні пра культурнае жыццё пад час старажытнага перыяду гісторыі чалавецтва. А для таго, каб можна было разабрацца ў фантазіях нашых дзядоў і выйсьці на прамую дарогу, сучаснаму гісторыку-рэалісту патрэбна, перш за ўсё, пазнаёміцца як з кабалістыкай, так і з іншымі містычнымі навукамі старажытнасьці, каб зрабіць прабоіну ў змрочным заслоне сярэднявечча, аддзяляючага нас ад старажытнага сьвету і яго пачатковай культуры.

# IV.
# Эвалюцыя пісьмовасьці і чытання ў мінулым і ў будучыні.

У папярэднім выкладанні мы бачылі, як, пад уплывам захаплення перад магічнымі ўласцівасьцямі альфабэта, старажытныя чараўнікі-грамацеі пачалі даследаваць усе рэчы грунтуючыся на вымаўленні іхных найменняў у адным і адваротным накірункам і на лічбавым значэнні літар.

Старажытныя кабалісты яшчэ не ведалі нашага гукавога альфабэту. Яны і не падазравалі, што навучыцца чытаць прасьцей за ўсё, вымаўляючы значок *а* як «а», значок *б* як «б», значок *в* як «в» і г. д.

Нават нашы славянскія продкі чыталі літару “а” як *аз*, літару “б” як *букі*, літару “в” як *ведзі*. Верагодна, спачатку гэта было толькі механічным сродак для вучняў, каб яны паўтаралі назвы літар па парадку, не забываючыся і не звяртаючыся кожную хвіліну да настаўніка. Сапраўды, па-славянску тут складаліся цэлыя выразы. Із назваў першых літар “а”, “б”, “в” атрымлівалася аз-букі-ведзі (г. азн. азбуку ведай). Із назваў наступных за імі літар “г”, “д”, “е” атрымлівалася: глагол, дабро, ёсць (г. азн. глаголенне добра ёсць)! Із наступных за імі: “ж”, “ѕ”, “з”, “і”, “ї”, “к”, “л”, “м”, “н”, “о”, “п” атрымлівалася: “*жівеце зело земле іжэ, і како людзі мысліце: наш он пакой,* (г. азн. бо жывеце вельмі на зямлі, і як вы людзі мысліце наш ён пакой?)”. Із назвы далейшых літар “р”, “с”, “т” атрымлівалася: *рцы слова твёрда* (г. азн. вымаўляй слова выразна!). А далей даючы назвы ўжо насілу пачаў спраўляцца, і із далейшых літар “у”, “ф”, “х”, “ц”, “ч” склаў, відавочна палічыўшы літару “ф” за выяву франта (ферта) фразу: *у, ферт, хер! цыц чарвяк*! Тут яго вынаходлівасць скончылася і наступныя літары атрымалі толькі асобныя назвы, не ўтвараючы разам ніякага асэнсаванага выказвання: *ша, ща, ер, еры, ерь, ять, э, ю, я, θіта* і *іжыца.* Іх вучню даводзілася вучыць ужо асобна, а не згуртаваннямі ў выглядзе выказванняў.

Але вось вучань нарэшце вывучыўшы ўсё гэта, не разумеў для чаго яно патрэбна. Пачыналася навучанне па складах, так што, калі б вы прыслухаліся да навучання тагачаснага вучня, то пачулі б, як ён без канца паўтарае:

– Букі-ёсць-бэ – бэ! Ведзі-ёсць-ве – ве! і г. д.

– Букі-он-бо – бо! Ведзі-он-во – во! і г. д.

– Букі-у-бу – бу! Ведзі-у-ву – ву! Глагол-у-гу – гу! і г. д.

Калі ўсе камбінацыі ў гэтым шэрагу заканчваліся, пачыналіся адваротныя паўтарэнні ў голас:

– Аз-букі – аб! Аз-ведзі – ав! і г. д.

Навучэнец, звычайна, юнак, так як жанчын раней цалкам не пасвячалі ў таямніцы альфабэту, лічачы іх нявартымі і няздольнымі да яго, – хутка звыкаўся з заканамернасьцю гэтых з першага позірку не маючых сэнсу гукавых камбінацый, г. азн. інстынктыўна засвойваў, што для ўтварэння складу патрэбна браць толькі першыя гукі абодвух слоў, чаму спрыяла і падваенне апошняга склада: букі-аз-ба – ба! а не букі-аз – ба!

І ўсё гэта не пародыя ці нешта вартае смеху, а агульнапрынятая методыка навучання альфабэту на працягу шматлікіх стагоддзяў! Так дзед вучыў у вёсцы чытаць маю маці, а яна мяне, перш чым да мяне прыставілі гувернантку. Усю гэтую махінацыю я ведаю на ўласным досьведзе, бо ўсё ранняе дзяцінства я правёў у родным маёнтку сярод палёў і лясоў, удалечыні ад якой бы то ні было цывілізацыі і ад якіх бы то ні было шляхоў стасункаў. Не раз я чуў гэтае бясконцае паўтарэнне, назаўсёды адгравіраваўшаяся ў маім розуме, так сама і пры ўроках даваемых дыяканам ўжо згаданаму мной хлопчыку із чэлядзі майго бацькі, які, – згодна са словамі маёй нянькі, – «мог пакуль чытаць толькі тую кнігу, з дапамогай якой яго навучалі». Я добра памятаю і спосаб чытання гэтага, хлопчыка. Няхай у кнізе было напісана слова: “конюшня”.

Тады ён чытаў яго так, па складах:

– Како-он-ко – ко! наш-ю-ню – коню! ціха-наш-я – шня! – “Конюшня”!

Апошняе слова ён вымаўляў з нейкім здзіўленнем, таму што толькі тут, раптам пачынаў разумець, што значае чытаемае ім месца і ён пачынаў цалкам гэтак жа разбіраць наступнае. Зразумела, што пры такім перабіранні ўсіх складоў навучэнец доўга не разумеў у прачытаным нічога, арамя асобных слоў. Аднак, рана ці позна, гледзячы на здольнасьці пры вялікай практыцы, ён, грунтуючыся на ўласнай інтуіцыі, несьвядома пераходзіў, нарэшце, да фанетычнага чытання, акрамя нейкіх тлумачэнняў свайго настаўніка, які сам вучыўся такім жа спосабам і таксама не разумеў таго, якім чынам ён раптам вызваліўся ад складоў.

І ці можна здзіўляцца пасьля гэтага, што ніхто не браўся ў той час навучыць чытаць нават самага здольнага вучня, раней, чым за год штодзённых заняткаў? Усё гэта я паказваю для таго, каб мой чытач, які вучыўся грунтуючыся на сучасным лёгкім метадзе, выпрацаваным вольнай навукай, не здзіўляўся, што навучанне чытанню лічылася ў старажытнасьці вялікай справай, за якую належала брацца з баязьню і хваляваннем...

Я патлумачыў тут спосаб ранейшага навучання не на грэцкім, ці жыдоўскім, а на славянскім альфабэце, блізкім да нашага рускага, толькі дзеля таго, каб проста і лёгка патлумачыць майму рускамоўнаму чытачу спосаб навучання альфабэту, які быў такім жа як у грэкаў так і жыдоў.

Жыдоўскі і копцкі (а не грэцкі) альфабэты былі родапачынальнікамі нашага славянскага. У іх літары таксама мелі імянныя, а не фанетычныя назвы. Толькі вывучэнне іхных альфабэтаў было справай яшчэ больш цяжкай, таму што найменні пасьлядоўных літар у іх не складаліся ў выказванні, як у славянскім. Першая жыдоўская літара, аднагучная з *А*, чыталася – алэф, другая, амаль аднагучная з *Б* –

бэт, трэццяя, аднагучная з нямецкім h, мела назву гімел (пры гэтым *Г* тут патрэбна чытаць з гартанным вымаўленнем) і г. д.

Як узніклі гэтыя назвы? Ужо даўно даследчыкі паказалі, што ад скарачэння першапачатковых малюнкаў, калі замест літар малявалася цалкам уся рэч, найменне якай пачыналася гэтым гукам, г. азн. калі б замест “а” мы малявалі арку, замест “б” – быка, замест “д” – дождж і г. д., захаваўшы за літарамі і назвы гэтых прадметаў.

Усё гэта навочна паказвае, што чароўныя значкі жыдоўскага альфабэту, ад якога утварыўся, відаць, грэцкі, а потым лацінскі, копцкі і славянскі, не былі прыдуманы некім у гатовым выглядзе і не былі дадзены нейкім богам легендарнаму Аўрааму. Яны развіваліся із пачатковага пісання з дапамогай малюнкаў рэчаў, шляхам удасканалення, і, прытым, ідучы ад складанага да простага, пакуль увесь альфабэт не прыйшоў да фанетызму.

Ці з'яўляецца гэты сучасны стан альфабэту заканчэннем яго развіцця?

Безумоўна, не!

Я далей пакажу, што і нашы сучасныя альфабэты – яшчэ далёка не апошняя стадыя развіцця альфабэту, што яму наканавана яшчэ далейшая эвалюцыя ў будучыні. Я нават пакажу і найбольш імаверны шлях і мяжу канчатковай дасканаласьці, пры дасягненні якой усе альфабэты павінны будуць прыйсьці да аднаго і таго ж найбольш простага і рацыянальнага выгляду. І тады, сапраўды, шмат у чым ажыццявяцца летуценні сярэднявечных кабалістаў, уяўляючыя сабой як бы прадчуванне будучай магутнасьці альфабэту, падобна таму як летуценні іхных сярэднявечных таварышаў – алхімікаў – пра рэчыва ператвараючае металы адзін у аднаго, з'яўляліся як бы прадчуваннем нядаўна вынайдзенага радыю... А зараз, для заканчэння майго кароткага выкладання асноўных пачаткаў кабалістыкі і эвалюцыйнай неабходнасьці яе ўзнікнення пад час сярэдніх стагоддзяў, я навочна пакажу паходжанне ўсіх зямных альфабэтаў із першапачатковых іерогліфаў.

У чым палягае сутнасць першапачатковага пісання? – Яна вельмі простая: хто із нас пад час юнацтва не разбіраў рэбусы у розных часопісах? Вось гэта і ёсць першапачатковае пісанне, толькі не на біблейскай, а на нашай роднай мове, і таму вельмі проста паказваючае нам, у чым сутнасць пршапачатковых іерогліфаў. Усе бачныя рэчы ці дзеянні (на падобе малення, збягання) маляваліся спачатку цалкам, у той паслядоўнасьці, у якой іхныя назвы ішлі ў дадзеным запісе, а найменні не назіраемых рэчаў маляваліся сімвалічна часам вельмі дасьціпным мнеманічным спосабам. Напрыклад, выказванне – тры дні – перадавалася з дапамогай выявы трох сонцаў, у выглядзе кружкоў з прамянямі, і такім чынам, адзін дзень нехаця маляваўся адным сонцам, пры чым гэты ж значок служыў знакам і самага сонца, набываючы падвойны сэнс.

Потым, на практыцы, памаленьку, было заўважана, што шмат якія словы, якія немагчыма перадаць з дапамогай малюнкаў, складаюцца па сугучнасьці з іншых словаў, якія можна намаляваць, узяўшы цалкам ці ў першым складзе, як, напрыклад, “банкрот” са слоў: “банка” і “рот”. Так узнікла магчымасць маляваць у выглядзе рэбусаў шмат якія словы, сэнс якіх было немагчыма перадаць простым малюнкам, і гэта выявілася асабліва зручным для народаў, маючых у сваёй мове шмат аднаскладовых найменняў, абрысы якіх лёгка і відавочна прадаюцца на малюнку.

Але шмат якія словы і выказванні гаворкі ўсё ж і ў іх не раскладаліся цалкам на такія назоўнікі і ўяўлялі непераадольваемую цяжкасць для ребусападобнага

Толькі з падобнага боку гледжання становяцца зразумелымі і далейшыя радкі біблейскага міфа пра «тыдзень тварэння» у якіх рэчаісныя крыніцы сьвятла – нябесныя сьвяцілы – выяўляюцца створанымі ўжо пасьля таго, як празрыстае для вока дзённай паветра змяніла непразрыстую для іх начную цемру ў чацьвёрты раз.

Так паступова на берагах Міжземнага мора ўтварылася (і пры тым не раней IV стагоддзя нашай эры) кабалістычнае ўяўленне пра непарыўную сувязь паміж рэччу і яе найменнем, і з'явілася наіўная для нас ідэя пра тое, што можна атрымаць дакладнае ўяўленне пра сутнасць і склад ўсіх прадметаў і абстрактных уяўленняў, вывучаючы не іх самі, як зараз робім мы, а адзін толькі гукавы або літарны склад іхных назваў на старажытна – жыдоўскай мове, грунтуючыся на якой, быццам бы, выклікаў іх да існавання сам Стваральнік. Не рэч з гэтага боку гледжання папярэднічала сваёй назве, а назва, узнікшы ў душы бога – стваральніка, была нагодай утварэння самой рэчы: на пачатку было слова і слова было – бог (г. азн. стваральнік адпаведнай рэчы) – сцвярджае, як мы ўжо бачылі, евангелле Яна, гэтая важная старажытная крыніца для разумення псіхалогіі інтылектуальных вяршынь чалавецтва сярэдніх стагоддзяў. Бо толькі афінскі філосаф Прокл, які жыў, – пераконваюць нас, – паміж 410 і 485 гадамі нашай эры, вынайшаў, што паміж славамі і прадметамі думкі існуе натуральная сувязь, хаця, – як наіўна перадаюць нам сярэднявечныя аўтары, – Арыстоцель быццам бы аспрэчыў гэтыя ідэі Прокла яшчэ за 800 гадоў да яго нараджэння, і Прокл, пасталеўшы, вядома, не мог не прачытаць пярэчанні такой знакамітасьці[10], асабліва, калі яны былі выказаны (хоць і за 800 гадоў перад тым) непасрэдна супраць яго.

Зараз, – як я ўжо паведамляў, – разнастайныя прамяні сьвятла для нас толькі адна серыя із вялізнага шэрагу нябачных намі шэрагаў розных хвалепадобных ваганняў міжзорнага асяроддзя, прасякаючых ўсе прадметы, акрамя іхных атамаў. Яны ўзнікаюць ад атамных вібрацый ўсіх фізічных целаў і ствараюць як магутнасць прыцягнення[11], так і электра – магнітныя прыцягненні і адштурхоўванні зведваючых іх рэчаў. Шматлікія гукі, чуемыя і не чуемыя намі, зараз для нас толькі некалькі серый із вялікай колькасці разнастайных сістэм хвалепадобных рухаў зямной атмасферы. Яны паходзяць ад гучачых целаў і перадаюцца атачаючай нас сумессю азоту, кіслароду і некалькіх іншых рэчываў, размеркаваўшыхся ў прылеглым да зямнога шары межзорным асяроддзя (падобна таму, як соль або цукар раствараюцца ў вадзе), і не ляцячых у далечыню, толькі дзякуючы прыцягненню іх зямным шарам.

Чаму ж мы чуем толькі некалькі серый із вялікай колькасьці ваганняў, якія здольны перадавацца нашаму слыху ад рытмічна вагаючыхся целаў нашай атмасферай? Чаму адначасовасць адных з іх нам прыемна і здаецца музычным акордам, а адначасовасць іншых – дысанансам?

Першая акалічнасць тлумачыцца ўладкаваннем нашага гукаўспрымаючага органа. За барабаннай перапонкай, абараняючай яго ўнутраную частку, знаходзяцца адразу два органы: напаловукруглыя каналы колькасьцю тры, размешчаныя перпендыкулярна адзін да аднаго, у якіх ціск маючай вагу вадкасьці

[10] Так як ідэі Арыстоцеля пачалі распаўсюджвацца і зрабіліся незвычайна моднымі ў асяроддзі перадавых дзеячаў сусветнай навукі – еўрапейцаў – толькі ў XIII – XIV стагоддзях нашай эры, то я і лічу іх узнікшымі толькі напярэдадні гэтага часу, а не за паўтары тысячы гадоў да яго. Пасьля такога працяглага ляжання ў падполлі не прарасьце ніякае зерне, нават і жытняе.

[11] Пра магутнасць прыцягнення гл. маю кнігу: «Асновы якаснага фізіка – матэматычнага аналізу» 1908 г., а таксама мой артыкул «Sulla necessita di nuovi studii forza di gravitaione» (La Sciena per tutti, 1909, № 10) і самую апошнюю маю кнігу «Прынцып адноснасьці і абсалютнае» (Дзярж. Выдавецтва, 1920 г., Петраград).

служыць нам для вызначэння верху і нізу і дае гэтай падсьвядомай вобласьці вялікага мозгу безперапынныя імпульсы для захавання намі раўнавагі ў стаячым становішчы (мал. 2, bg), і смоўж ў выглядзе канала, скручанага спіраллю ў $2^{1}/_{2}$ разы (мал. 2, lhl і vhl) і напоўненага лімфатычнай вадкасьцю, уяўляючы наш сапраўдны гукаўспрымаючы орган.




Мал. 2.
Орган нашага гукаўспрымання і адчування раўнавагі: tʃ – барабанная перапонка; s – стрэмя; h– малаток; a – кувалда; vh – смоўж – сапраўдны орган нашага гукаўспрымання; bg – напалову круглыя каналы, орган нашага адчування пра верх і ніз і інстыктыўнага падтрымання нашага раўнавагі; n – Еўстахіева труба, адкрываючаяся ў горла.

Гукавыя хвалі, пранікаючы праз барабанную перапонку ва ўнутраную частку каналаў нашага вуха, ідуць праз другую перапонку ў смаўжа, дзе ваганні падзяляючай яе перапонкі (мал. 3) і інтэрферэнцыйныя вузлы ў самой вадкасьці (мал. 4), прыведзенай у гукавы рух, даюць нам магчымасць вызначаць вышыню не толькі аднаго асноўнага тону ў даходзячым гуку, але і значнай колькасьці налягаючых на яго больш дробных або буйных ваганняў, мета – тонаў, прысутнасць якіх і вызначае для нас каларыт гуку, рознага ў музыцы розных інструментаў і ў галасах розных людзей, нават асоб адной і той жа сям'і. Дзейнасць перапонкі ў смаўжу вельмі падобна на дзейнасць струнаў раялю. Адчыніце трошачкі яго крышку і прамоўце: «О» ... Яму адгукнуцца толькі тыя струны раялю, якія настроены ва ўнісон з метатонамі гэтай галоснай, і раяль, як рэха, адкажа вам: "О" ... Дакладна так жа і пры вымаўленні вамі кожнай іншай літары. Гэтак жа дзейнічае і наш вушны смоўж, а пачынаючыяся ад яго слыхавыя нервы перадаюць гэта ў шэрае рэчыва нашага галаўнога мозгу, якое (а не вуха!) успрымае і захоўвае іх у сабе і, калі трэба, даводзіць да той вобласьці нашага мозгу, дзе лакалізавана наша сьвядомае жыццё, як мне здаецца, – у мозжачку.




Мал. 3.
*Папярочны разрэз смаўжа з пазначэннем падзяляючых яго слыхавых перапонак.*




Мал. 4.
*Стаячыя хвалі гуку і палосы інтэрферэнцыі.*

Той жа раяль дае нам тлумачэнне, чаму ўсе актаўныя тоны, нягледзячы на рознасць вышынь, здаюцца нам падобнымі, і атрымалі тыя ж самыя найменні: *да, рэ, мі, фа, соль, ля* і *сі,* нягледзячы на рознасць вышынь. Гэта таму, што калі вы нададзіце струне ўласьцівае ёй асноўнае ваганне, то яна дасць сама па сабе, хоць і ў больш слабой ступені, і бліжэйшыя да яе актаўныя ваганні. Гэта азначае, калі адначасова з гэтым загучыць іншая струна на актаву вышэй або ніжэй, то хвалі абодвух гукаў гарманічна налягуць адзін на адзін, узмацняючы свае абертоны, (мал. 5) і ўражанне атрымліваецца такое ж, як і ў паэзіі ад поўнай радавой рыфмы.




Мал. 5.
*Два вынікі накладання адна на другую папярочных хваль (і разам з тым графікаў згушчаныя і разражэння прадольных). Чорная лінія з'яўляецца вынікам накладання двух адпавядаючых ёй пунктырных сінусоід. У выпадку а – калі пачаткі абодвух накіраваны згодна, а ў выпадку b – калі пачаткі супрацьлеглыя.*

Калі на два ці тры ваганні адной струны прыпадаюць тры ці чатыры другой (з дастатковай дакладнасьцю для таго, каб яны маглі самаадвольна выправіць малыя дробавыя дадаткі або недахопы ўздзеяннем адна на адну), то адбываецца нешта нападобе праздадковага чаргавання двух або трох рыфмаў, і ўражанне атрымліваецца прыемнае. А пры значна большай складанасьці ніякай самаадвольнай асіміляцыі тонаў не адбуваецца і атрымліваецца тое, што мы называем дысанансам або дысгармоніяй гукаў, як гэта відаць на пыкладзе хвалістых ліній малюнка 7, вычарчаных з дапамогай прылады паказанай на малюнку 6.

Калі мы будзем лічыць, як гэта прынята, што сярэдняе чалавечае вуха ўспрымае як гук, а не як трэск, толькі хвалі вышэй 16 ваганняў за секунду, то наступнымі яго актавамі будуць 32, 64, 128, 256, 512, 1024, 2048, 4096 ваганняў у секунду і апошнія із іх пачуе толькі рэдкае вуха, а для звычайнага – гэта ўжо цішыня. І мы бачым, што прамежкі паміж імі ўзрастаюць у геаметрычнай прагрэсіі, тады як колькасць розных тонаў (маючыя назву музычныя паловутоны) для вуха еўрапейца застаецца і ў ніжняй, і верхняй актавах толькі 10 (з бемолямі і дыезамі) і рэдка чыё вуха распазнае гукі прамежкавыя паміж імі, мючыя назву чвэрці тонаў, што зноў збліжае наш орган слыху з раялем, у якім тоны пераходзяць адзін у другі не безперапынна, а прыступкамі, шляхам асіміляцыі прамежкавых з бліжэйшым да іх паловутонам або, у крайнім выпадку, з чвэрцю тонам.

Гэта азначае, тонаразпазнавальная здольнасць нашага вуха ўзрастае, як лагарыфм частаты ваганняў па аснове два, і для таго, каб прывесьці верхнія і ніжнія тоны да псіхалагічнай аднастайнасьці, трэба браць не прамыя колькасьці ваганняў даваемыя даследаваннем, а іх лагарыфмы па аснове два, г. азн. перамножыць звычайныя дзесяткавыя лагарыфмы, узятыя ад атрыманых даследаваннем лічбаў ваганняў за секунду, на модуль другаснай сістэмы лагарыфмаў 3,3219 згодна з формулй: $D = 3{,}3219 \lg N0 - 3{,}3219 \lg N1$, дзе D ёсць прыступка паловутонавай чутнасьці, г. азн. нота еўрапейскай музычнай шкалы, N0 лік падвойных (г. азн. назад і наперад) ваганняў даследуемага ў гэтых дачыненні музычнага тона, а N1– колькасць такіх жа ваганняў блізкага да яго тона, ад якога вуха ўжо не можа яго адрозніць. У звычайных еўрапейцаў D = 0,04, у індусаў, верагодна, D менш за гэтую велічыню (чвэрць тона).



Мал. 6.

*Прылада для малявання крывых ліній, паказаных на мал.7. Калі левы (большы) камертон **A**, на якім замацавана абкураная сьлюдзяная пласьцінка **a**, нерухомы, то лязо на заканчэнні меншага камертона **B**, прыведзенага ў гукавыя ваганні і рухаючагася па падстаўцы ў накірунку **A**, намалюе на закопчанй пласьцінцы правільную хвалістую лінію. Калі ж пры гэтым прывесьці ў гучанне і камертон **A**, то ваганні аднаго камертона налягуць на ваганні другога, а таму і намаляваная лінія ўскладніцца ў залежнасьці ад таго, у якіх суадносінах знаходзяцца частоты вагання абодвух камертонаў, як гэта і дадзена на мал. 7.*




Мал. 7.

*Графікі музычных тонаў атрымліваючыхся на закапцелай пласьцінцы камертона **A** папярэдняга млюнка. Першая крывая, калі частата ваганняў камертона **B** удвая большая за частату камертона **A**. Другая таксама, але не зусім дакладна. Трэцяя, калі на адно ваганне **A** прыпадае тры ваганні камертона **B**, і г. д., як пазначана збоку. Пры больш складаных суадносінах (як 24:25 або 80:81 знізу) атрымліваецца то ўзмацненне, то заміранне гукаў, маючыя назву дысанансы.*

Пры гэтым назва ноты будзе вызначацца дробным астаткам (мантысай) лагарыфма згодна з прыведзенай ніжэй табліцай.

ТАБЛІЦА I.

*Лагарыфмічныя мантысы дзесяці паловутонаў еўрапейскай музычнай шкалы, як дзесяць прыступак чутнасьці звычайнага еўрапейскага вуха XX стагоддзя (тут K кожны цэлы лік ад 5 да 11)*

| Логарифмы. | Их мантиссы. | Их разности. |
|---|---|---|
| $\lg_2 Do$ | $= K,\ 044$ | |
| | | 0,085 |
| $\lg_2 Do\sharp = \lg_2 Re\flat$ | $= K,\ 129$ | |
| | | 0,085 |
| $\lg_2 Re$ | $= K,\ 214$ | |
| | | 0,076 |
| $\lg_2 Re\sharp = \lg_2 Mi\flat$ | $= K,\ 290$ | |
| | | 0,076 |
| $\lg_2 Mi$ | $= K,\ 366$ | |
| | | 0,023 |
| $\lg_2 Fa$ | $= K,\ 459$ | |
| | | 0,085 |
| $\lg_2 Fa\sharp = \lg_2 Sol\flat$ | $= K,\ 544$ | |
| | | 0,085 |
| $\lg_2 Sol$ | $= K,\ 629$ | |
| | | 0,076 |
| $\lg_2 Sol\sharp = \lg_2 La\flat$ | $= K,\ 705$ | |
| | | 0,076 |
| $\lg_2 La$ | $= K,\ 781$ | |
| | | 0,085 |
| $\lg_2 La\sharp = \lg_2 Si\flat$ | $= K,\ 866$ | |
| | | 0,085 |
| $\lg_2 Si$ | $= K,\ 951$ | |
| | | 0,093 |
| $\lg_2 Do'$ | $= K,\ 044$ | |

Мы бачым, што сярэднія прамежкі паміж прыступкамі музычных паловутонаў тут 0,085, а таму і кожны гук, які адрозніваецца ад пазначанага ў другім слупку гэтай табліцы не больш чым на палавіну названага інтэрвалу (г. азн. не больш чым на 0,042), наш слыхавы смоўж адчувае як бліжэйшы із гэтых лікаў, і гэта дае магчымасць лёгка вызначаць ноту эксперыментальных дадзеных, не баючыся таго, што ў высокіх актавах інтэрвалы паміж лічбамі іхных ваганняў за секунду вельмі вялікія. Бо ўсе тыя, у каго розніца лагарыфмаў менш 0,042, ляжаць у межах памылак нашага галасавога і слыхавога апаратаў. Вось чаму і пры складанні дыяграм тут неабходна ўжываць нотную сістэму, як я і прыстасаваў яе на наступных табліцах: яна як раз і аналагічная лагарыфмам ліку ваганняў, хаця і выпрацавана кампазітарамі без удзелу матэматыкі грунтуючыся на інтуіцыі.

| | |
|---|---|
| Sub | $H_2$ $A_2$ — $la_{-1}$; $B_2$ — $si_{-1}$ |
| Контр-октава. | $C_1$ — do, $D_1$ — re, $E_1$ — mi, $F_1$ — fa, $G_1$ — sol, $A_1$ — la, $H_1$ — si |
| Большая октава. | C — $do_1$, D — $re_1$, E — $mi_1$, F — $fa_1$, G — $sol_1$, A — $la_1$, H — $si_1$ |
| Малая октава. | c — $do_2$, d — $re_2$, e — $mi_2$, f — $fa_2$, g — $sol_2$, a — $la_2$, h — $si_2$ |
| 1-я октава. | c′ — $do_3$, d′ — $re_3$, e′ — $mi_3$, f′ — $fa_3$, g′ — $sol_3$, a′ — $la_3$, h′ — $si_3$ |
| 2-я октава. | c″ — $do_4$, d″ — $re_4$, e″ — $mi_4$, f″ — $fa_4$, g″ — $sol_4$, a″ — $la_4$, h″ — $si_4$ |
| 3-я октава. | c‴ — $do_5$, d‴ — $re_5$, e‴ — $mi_5$, f‴ — $fa_5$, g‴ — $sol_5$, a‴ — $la_5$, h‴ — $si_5$ |
| 4-я октава. | $c^{IV}$ — $do_6$, $d^{IV}$ — $re_6$, $e^{IV}$ — $mi_6$, $f^{IV}$ — $fa_6$, $g^{IV}$ — $sol_6$, $a^{IV}$ — $la_6$, $h^{IV}$ — $si_6$ |
| 5 | $c^{V}$ — $do_7$ |

Мал. 8.
Фанетычныя пазначэнні музычных тонаў у адпаведнасьці з клавіятурай раялю. Знізу (злева) нямецкая сістэма (згодна з Гельм – Гольцам), над ёй французская (згодна з Пуаро). Паловутоны пазначаны чорнымі клавішамі. Згодна з нямецкай наменклатурай павышэнне асноўнага гуку на паловутона (♯) пазначаецца дадаваннем склада is (cis, dis, eis, fis, gis, ais, his), паніжэнне на палову тона (♭) – дадаванем *s* або *es* (ces, des, es, fes, ges , as); выключэнне ўяўляе si♭, пазначаемае літарай B).

*К = 5 – контр – актава*
*К = 6 – вялікая актава*
*К = 7 – малая актава (яе заканчэнне ў басавым ключы)*
*К = 8 – 1 актава (яе заканчэнне у дыскантвым ключы)*
*К = 9– 2 актава (яе пачатак у дыскантвым ключы)*
*К = 10 – 3 актава*
*К = 11 – 4 актава.*

Для навочнасьці я іх паказваю на мал. 8.

Мне застаецца толькі, у якасьці папярэджвання блытаніны пры чытанні, дадаць, што не ўсе фанетычныя школы ўжываюць гэтую нумарацыю актаў. Так, французская школа фанетыкі называе большую актаву першай, малую – другой, першую – трэццяй і г. д., і, акрамя таго, у ёй усё ноты на чвэрць тона вышэй, так што для атрымання іх із вышэйпрыведзеных лагарыфмічных мантыс патрэбна адымаць 0,044, пры чым для lg2Do атрымліваецца ў гэтым выпадку заўсёды нулявая мантыса (K, 000), што адпавядае цэлай ступені лічбы два (двум поўным ваганням за секунду), тады як згодна са звычайнай музычнай шкалой за пачатковую кропку ўзята 2,062 ваганняў за секунду.

Грунтуючыся на французскай шкале ў мяне і прадстаўлены на мал. 16 дадзеныя Пуаро, на чвэрць тона вышэй за звычайныя ў нас нотавыя.

І калі чалавек ўжо звыкся з гэтымі новымі прыродазнаўча – навуковымі ўяўленнямі пра сьвятло і гук, а не прыняў іх у сваю свядомасць у якасьці нейкіх ненадоўга прыйшоўшых незнаёмцаў, то ў іх ён знаходзіць яшчэ больш паэзіі і прыгажосьці, чым у іхных ілюзорных міфічных адлюстраваннях, толькі што акрэсленых намі. А для выведванн рэчаіснай сутнасьці прадметаў прыдатныя толькі адны сучасныя ўяўленні: толькі пры натуральна – навуковым разуменні гэтыя вялікія з'явы прыроды і аддаюць сябе на службу зразумеўшаму іх чалавеку, аж да тэлефона і бяздротавага тэлеграфа.

Кожнае рэчыва, выпраменьваючае сьвятло, пры раскладанні яго прамянёў з дапамогай прызмы у спектраскапе дае заўсёды некалькі тыповых ліній, якія ляжаць у цалкам вызначаных месцах вясёлкавай спектральнай палоскі (гл. мал. 11). Грунтуючыся на іхным становішчы і выглядзе хімік адразу распазнае, із чаго складаецца незнаёмы яму мінерал, а астраном вывучае, грунтуючыся на ім, рэчавы склад недасягальных для нас нябесных сьвяцілаў: вызначае іх узрост і, параўноўваючы іх паміж сабой, фармулюе агульныя законы і паслядоўныя прыступкі іхнай эвалюцыі. І ён выразна бачыць, што і нябесныя сьвяцілы маюць таксама сваё нараджэнне, дзіцячы ўзрост, юнацтва, старасць і смерць, як і атачаючыя нас на зямной паверхні жывыя істоты.

А пры ранейшых памылковых уяўленнях па сьветавыя прамяні яны былі глухімі і нямымі да ўсіх прапанаваным ім пытаннях чалавека.

Дакладна так жа і ў галіне гукаў чалавечага вымаўлення. Кожны яе зычны гук, адюстроўваемы асобнай літарай нападобе “б”, “в”, “г” і гэтак далей, мае сваю асабітую фанему, г. азн. даходзячую да нашай свядомасьці сістэму тыповых і нязменных у кожных вуснах ваганняў паветра, аднолькавых як у вуснах мужчыны, так і ў вуснах жанчыны, і ў вуснах дзіцяці, і ў вуснах старога чалавка, пакуль яны выразна вымаўляюць гукі гаворкі. Толькі грунтуючыся на гэтых фанемах або тыповых і нязменных метатонах, суправаджаючых звычайныя гукі чалавечых галасоў, калі яны дасягнулі да нашай свядомасьці, мы і адрозніваем “в” ад “х”, “з” ад “д” і гэтак далей, незалежна ад таго, высокі ці нізкі тэмбр голасу дадзенага чалавека і яго індывідуальных асаблівасьцей. У музыцы ім аналагічныя тыя сістэмы гукавых метатонаў, г. азн. спадарожнічаючых тонаў, грунтуючыся на якіх мы адрозніваем працяглыя тоны флейты ад такіх жа працяглых тонаў скрыпкі і ўдарныя гукі раяля ад ўдарных жа гукаў званочка нават і пры той жа музычнай вышыні іх асноўных тонаў, у пералівах і камбінацыях якіх і заключаецца ўся гармонія музыкі і вымаўлення незалежна ад вышэйзгаданых сістэм дадатковых тонаў, адпавядаючых фанемам.

Вымавіце, напрыклад, хоць зараз працяглы губны гук “в – в – в” або “вь – вь – вь”, “ф – ф – ф” або “фь – фь – фь”. Тут, акрамя агульнага гулу, выраблямага вшымі вуснамі, існуе для кожнага із зычных гукаў свая адмысловая серыя адрозных метатонаў, аднолькавых ў вас з усімі астатнімі людзьмі, незалежна ад іхнай стаці і ўзросту. Толькі яны адны і аддзяляюць губныя “в – в – в” або “ф – ф – ф” гукі ад зубных “з – з – з” або “с – с – с”, ці ад глотачных нападобе “h – h – h” або “х – х – х” і г.д., хаця і яны такія ж працяглыя. Калі гэтыя метатоны дрэнна кім – небудзь аднаўляюцца, як бывае ў дрэнных спевакоў, тады вы перастаеце адрозніваць іхныя словы адзін ад аднаго.

Паспрабуйце гэтак жа вымавіць звычайныя для рускай мовы выбуховыя губныя гукі “б” або “бь”, “п” або “пь”, і вы знійдзеце ў іх з дапамогай адпавядаючх фізічных прылад тыя ж спецыяльныя абертоны адпавядаючых ім працяглых “в – в – в” або “ф – ф – ф”, і ўся розніца з папярэднімі будзе толькі ў тым, што на гэты раз асноўныя варыяцыі губнога гука ўтвораны вамі шляхам хуткага разкрывання папярэдне зробленага для іх працідзеяння вашых вуснаў: яны былі спачатку сьціснутыя, а потым хутка і прагрэсіўна згасаюць, як гук званка.

Якім шляхам вы ні будзеце аналізаваць адрозныя мета – тоны гартанных, зубных, насавых і іншых зычных гукаў вашага голасу і галасоў усіх іншых людзей, вы заўсёды пераканаецеся, што ва ўсіх асоб, словы якіх вы разумееце, паміж імі няма прыкметнай розніцы. Яны застаюцца нязменнымі і пры спевах, нягледзячы на ўсе павышэнні і паніжэння тонаў галасавой шчыліны, калі дадзеныя спевы для вас зразумелыя.

* * *

Некалькі іншае ўявіцца вам з першага погляду, калі вы будзеце параўноўваць не гэтыя толькі – што акрэсленыя зычныя шумы, а галосныя гукі вашай гаворкі з іх вымаўленнем іншымі, але і тут выходзіць тое ж самае, толькі з адным дадаткам. Вымаўце, напрыклад, доўга склады “жэ – э – э” або “чэ – э – э”, “жы – ы – ы” ці “чы – ы – ы” і параўнайце сваё вымаўленне галосных у гэтых складах з вымаўленнем іншых. Вы зараз жа заўважыце, што іх заўсёды суправаджае (чаго не было ў папярэднічаўшых выпадках з зычнымі гукамі) яшчэ асобнае чыста музычнае гучанне вашай галасавой шчыліны, больш высокотанальнае ў жанчын і дзяцей, чым у мужчын і старых, асабліва, калі нехта із першых мае голас сапрана, а нехта із другіх вымаўляе басам. Але якой бы музычнай актавай хто б ні вымаўляў, вы і тут вызначыце з дапамогай адпаведных фізічных прылад тое ж самае, што мы бачылі і пры вымаўленні зычных: да чыста музычнага і нічога ідэйнага не паведамляючага нам тона галасавых звязак – прамаўляе чалавек ці сьпявае – заўсёды пры гучанні “жы – ы – ы” дамешваецца да галоснай “ы” больш нізкая сістэма метатонаў, чым пры аналагічным ёй гуку “і” ў “чі – і – і” .., а гук “э” ў “жэ – э – э” ... згодна са сваімі адметнымі метатонамі настолькі ж ніжэй, чым аналагічны яму гук “э” ў складзе “че – е – е” ... А калі вы вымавіце так званае і – кароткае (й, нямецкую ёту – j), то пабачыце, што, страціўшы пявучасць галасавой шчыліны, яно захавала ўсе метатоны галоснай і “і” ператварылася у такіж ж зычны гук, як і ўсе астатнія зычныя. Тое ж самае вы заўважыце прамаўляючы і U – кароткае ў нямецкім (напрыклад, Маўзер) і ы – кароткае пры вымаўленні гэтай літары картавячым, калі замест *раз* яны вымаўляюць *ыаз*.

Дакладна тое ж вы заўважыце і ў астатніх галосных гукаў сваёй мовы, г. азн. у “а”, “о”, “u”[12]. Кожны з іх вы можаце сьпяваць, то павышаючы, то паніжаючы тоны сваёй галасавой шчыліны, з дапамогай большага ці меншага нацяжэння галасавых звязак у вашай гартані, але даследаванне з дапамогай адпаведных фізічных прылад заўсёды пакажа вам адно і тое ж. Пры ўсіх павышэннях ці паніжэннях у кожным із галосных гукаў чалавечага вымаўлення яшчэ прысутнічае ад суправаджаючага яго гулу ў роце (а ўжо не ў галасавой шчылінах!) свая нязменная сістэма метатонаў, г. азн. фанэма, не залежачая ні ад якіх адвольных павышэнняў або паніжэнняў вашага голасу пры вымаўленні або пры спяванні, і што як толькі гэтыя метатоны знікнуць, вы адразу ж перастаеце разумець, які тут

[12] Я заўсёды пішу фанему рускага гуку “у” праз “u”, каб адрозніваць яе ў параўнальным выкладанні ад лацінскай літары ігрык (y)

галосны гук: ён зараз жа ператворыцца ў нейкае нічога не азначаючае для вас ускліканне.

Грунтуючыся на пасьлядоўных або рэзкіх павышэннях і паніжннях тона галасавой шчыліны мы робім высновы толькі пра душэўны настрой выказваючагася: яны тое ж, што гукі гармоніі або аргана, і самі па сабе не даюць ніякага разумення пра кампаненты вымаўлення людей “А”,”О”, “Ы” і г.д. Ўяўленне пра галосныя гукі вымаўлення атрымліваецца, як я ўжо згадваў, выключна ад дамешваемых намі, згодна з нашым асабісым жаданнем, да музычных тонаў галасавой шчыліны асобных, староннiх метатонаў з дапамогай надання поласьці нашага рота і губ пэўных формаў і ўтварэнню ў самым роце шумячай перацяжкі паміж абедзвюма губамі або паміж языком і нёбам. Толькі на гэтыя фанемы (як іх завуць), а не на асноўны тон галасавых звязак і звяртаем мы ўвагу, калі маем жаданне даведацца не пра ўнутраны настрой рзмаўляючага з намі, а толькі сэнс яго прамовы. У іх жа заключаецца нагода і таго, што грамафоны таксама могуць адаўляць чалавечы голас. Паглядзіце на выгібы кругавых ліній на іхных пласьцінках, па якіх ідзе іголка, уздзейнічая на гучачую мембрану, і вы пабачыце на іх пад мікраскопам і асноўныя тонавыя ваганні, якія надаюць пявучасць і імпрэсіўнасць голасу, і гэтыя метатонавыя ваганні, адзіна надаюць пэўнае сэнсавае значэнне пявучым хвалям.

* * *

Яшчэ маладая навука пра гукі чалавечага вымаўлення, і само яе найменне пакуль не цалкам усталяваліся: адны называюць яе фанетыкай, а другія больш дакладна – антрапафоніка[13].

Толькі ў 1829 годзе ангельскі вучоны Віліс упершыню выказаў здагадку, што мы адрозніваем галосныя толькі грунтуючыся на вышэйапісаным, суправаджаючым іх, тыповым тэмбры, г. азн. прыгучаннем, выдаваемым паласьцямі глоткі, рота, а часам і носа, і захоўваючым ва ўсякім голасе адну і тую ж вышыню некаторых сваіх характарыстычных тонаў. Але, як і часта бывала ў навуцы, выснова Вілліса не звярнула на сябе сур'ёзнай увагі працаваўшых у той жа вобласьці, да якой належала гэта вынаходніцтва, пакуль да яе не прыйшла на дапамогу іншая навука – фізіка.

Ідэя Віліса заставалася без наступстваў каля 34 гадоў – да 1863 г., калі ў Германіі знакаміты фізік Гельмгольц[14] паўтарыў даследніцкім шляхам з дапамогай гучання камертонаў усе тыповыя галосныя нямецкай мовы і выпусьціў у свет сваю геніяльную кнігу: "Вучэнне пра гукавыя адчуванні», якая была пачаткам новай навукі. З тых часоў антрапафоніка далёка пайшла наперад. Следам за кнігай Гельмгольца з'явілася «Натуральная сістэма гукаў чалавечага вымаўлення» Таузінга[15], як першая, яшчэ не поўная і шмат у чым памылковая, спроба ўпарадкаваць гэтую мала даследаваную тады вобласць.

У той жа час стала вядомай і спроба Дюбуа-Рэймона стварыць ўсенародны альфабэт[16] выпрацаваны на навуковых падмурках, не меўшая, аднак, ніякіх наступстваў з нагоды вялікай закасьцянеласьці еўрапейскіх урадаў, не здолеўшых

---

[13] Ад φωνητιχός – гукавы.

[14] F.Helmhholiz. Die Lehre von den Tonempfindungen. 1862. Існуе рускі пераклад.

[15] Tausing. Das natürliche Lautsystem der menschlichen Sprache. 1963.

[16] Du Bois-Reymond. Kadmus, oder allgemeine Alphabetik fom physikalischen, physiologischen und graphischen Standpunkt. 1862

справіцца з самымі відавочнымі недахопамі сваіх сучасных альфабэтаў і з абуральнымі недарэчнасьцямі гістарычна склаўшыхся еўрапейскіх арфаграфій.

Антрапафоніка, пазбаўленая магчымасьці самога выкладання свайго зместу ў навуковай літаратуры, з дапамогай звычайных альфабэтаў, пайшла па-за імі выключна эксперыментальным шляхам, пры чым у Францыі, каб пазбегнуць непаразуменняў, ужываецца чыста графічны метад, ініцыятарам якога быў д-р Розапелі, а прадаўжальнікам Русела[17].

* * *




Мал. 9.

*Папярочны разрэз дыхальнага горла чалавека. О – храстковая шчыліна, пры праходжанні праз якую паветра вырабляе шум; частка яе метатонаў, узмоцненая рэзанатарамі ротавай і насавой паражнін, надае адметны каларыт нашым галосным гукам. С, С – лопасьці галасавой шчыліны, вібрацыі якіх надаюць музычнасць нашаму голасу і служаць для выказвання пачуццяў, асабліва пры спевах.*

У нас першыя фанетычныя лабараторіі былі ўтвораны С. К. Булічам і В. А. Багародзіцкім, а ў апошні час у накірунку эксперыментальнай фанетыкі шмат працуе Л. В. Шчэрба.

У чым жа сутнасць новай навукі? Мне цяжка патлумачыць гэта, не адхіліўшыся на хвілінку ў тую галіну ведаў, дзе судакранаюцца адна з адной фізіологія і фізіка.

Перш за ўсё разгледзім уладкаванне і дзейнасць нашага галасавога органа. Вось ён паказаны на мал. 9 і 10.

---

[17] D-r Rosapelli. Inscriptions des mouvements phonetiques. 1876. Rousselot. Principes de phonetique exerimentale. 1901.




Мал. 10.
*Падоўжны разрэз чалавечага горла. Лопасьці галасавой шчыліны dd паказаны перарэзанымі зверху.*

Мы бачым, што наша гартань, пачынаючыся непасрэдна за зевам, складаецца з некалькіх храшчоў, злучаных связкамі з пад'языковай косткай, а таксама і паміж сабой, і пакрытая мязамі. Слізістая абалонка, высьцілаючая гартанную поласць, утварае дзьве парныя складкі, ідучыя спераду назад, паміж якімі застаюцца, з'яўляючыся працягам адна адной, галасавая і храшчавая шчыліны.

Праходзячы праз першую частку агульнай галасавой шчыліны паветра вырабляе хваляванні яе нацягнутых краёў і гэтым вырабляе музычны гук як у кожным духавым інструменце і тон гэтага гуку павялічваецца пры большым напружанні краёў і памяншаецца пры разслабленні, адпаведна агульным фізічным законам нацягнутых гукавых струн. У звычайнай рускай жывой і выразнай мове гэтыя павышэнні і паніжэнні дасягаюць актавы, а ў італьянскай мове яны яшчэ больш значныя. Пры спяванні ж майстэрскія артысты бяруць на гэтай шчыліне і две актавы.

Праходзячы праз другую **храшчавую** частку той же шчыліны, паветра вырабляе просты шум, і гэты шум адрозніваецца от музычнага гуку тым, што ў ім перамяшаны усе магчымыя тоны.

Гэта тое ж самае, што суцэльны спектр сонечнага сьвятла ў якім прісутнічаюць сьветавыя хвалі ўсіх магчымых частот ваганняў, між іншым, як толькі-што апісаны музычны тон галасавой шчыліны пры кожным яе вызначаным напружанні падобны на сьвятло газу, у якім выяўляецца толькі некалькі цалкам вызначаных частот ваганняў, налягаючых на суцэльны спектр, как фраунгоферавы лініі (мал. 11) на агульны сонечны спектр.

Аднак і гарманічныя ваганні краеў галасавой шчыліны, і шумы, вырабляемыя яе храшчавой часткай для галосных, і шумы, вырабляемыя ў цяснінах губ для губных зычных ці ў розных больш унутраных шчылінах паміж языком і нёбом, былі б вельмі слабымі, калі б да іх не далучаўся рэзананс паражнін рота, носа ці глоткі і нават вялікіх бронхаў. А рэзанатары – тое ж, што арэлі: так як апошнія можна моцна разгайдаць слабымі, але пастаянна паўтараючыміся штуршкамі, так і ў рэзанатарах вельмі ўзмацняюцца толькі тыя ваганні галасавых шумаў, якія адпавядаюць самім резанатарам, г. азн. тыя, падштурхоўваючымі іх як арэлі, пагэтаму на суцэльным фоне гукавых спектраў звонка выдзяляюцца, нароўні з пявучымі тонамі галасавых звязак таксама і шэрагі вызначаных гукавых хваляў, выходзячых із ратавой ці насавой паражніны (мал. 12) і набываючых новыя тэмбры

пры кажным новым фарміраванні гэтых дадатковых труб, аналогічных трубе грамафона.

Асобнымі складамі нашага вымаўлення мы лічым толькі тыя мазгавыя імпульсы, якія дасылаем ў **галасавую шчыліну** для спынення ці перамены тону яе музыкальных гучанняў, а на тыя імпульсы, якія адначасова пасылаюцца намі ў ратавую ці насавую паражніны для ўтварэння вызначаючых абертонаў кажнага новага гуку вымаўлення, мы не звяртаем ніякай увагі ў сэнсе музычнасьці і рытму, хаця менавіта іхныя змяненні і надаюць *асэнсаванасць* простай музыцы нашай галасавой шчыліны. Без іх, – як я ўжо згадваў, – гэтая музыка была б падобнай на гук трубы, у якой немагчыма адрозніць ні ***а***, ні ***о***, ні ***ы***, не кажучы ўжо пра зычныя гукі на падобе ***с, х, ф*** і г.д.




Мал. 11.

*Фіялетавая і ўльтрафіялетавая часткі суцэльнага спектру Сонца і Вегі (α – Ліры) з налягаючымі на іх лініямі вадароду (g) і іншых газаў падобна таму, як адметныя метатоны гукаў чалавечага вымаўлення налягаюць на суцэльныя шумы ротавай паражніны чалавека, у якіх прысутнічаюць гукавыя хвалі разнастайнай даўжыні (у вядомых межах).*




Мал. 12.

*Разрэз чалавечай галавы. 19 і 20 – рэзанатар насавой паражніны, ўзмацняючы пажаданыя насавыя метатоны. 27 – рэзанатар ратавай паражніны і глоткі вышэй галасавой (23) шчыліны. Зверху вялікі (14) мозг і мозачак (15) як кіруючыя органы.*

Усё, што ў ёй можна было б пачуць, гэта; запытваючую, усклікаючую, сцвярджаючую, ухвальную, ганьбуючую, здзіўляльную інтанацыю, як паказана на мал. 13 і 14.














Мал. 13 і 14.

*Павышэнні і паніжэнні пявучых тонаў галасавой шчыліны пры розных адценнях той жа фразы.*

I. Калі мы выказваем патрабаванне, мы павышаем гучанне нашай галасавой шчыліны на ўдарным складзе на паўтары тона, як, напрыклад, пры ўскліканні: «не крычы!» (Мал. 13 А).

II. Калі мы адказваем спакойна: «не ўзвышаем глас», мы, наадварот, паніжаем тон ўдарнага складу (мал. 13 В).

III. Аналагічнае мы робім і пры настойлівым прашэнні (мал. 13 С), напрыклад, кажучы: «чытай!».

Так і ў кожнай фразе мы рускія маем магчымасць вымаўляць з рознымі інтанацыямі галасавой шчыліны, надаючы гэтым самым асобнае сэнсавае адценне, напрыклад, хоця б перамяшчаючы націск у выказванні: «ты куды пайшоў"?

Перш за ўсё мы можам зрабіць націск на куды, кажучы:

– Ты *ку-ды* па-йшоў?!

І тады атрымаецца як на нотах мал. 14 В.

Мы можам, затым, зрабіць націск на “пайшоў”, кажучы:

– Ты ку-ды *па-йшоў* ?!

І тады атрымаецца як на нотах мал. 14 А.

Мыш можам, нарэце, павысіць голас на ты, кажучы:

– *Ты* ку-ды па-йшоў !?

І тады атрымаецца як на нотах мал. 14 С.

Ужо із аднаго гэтага прыкладу чытання тагож самага выказвання на розныя лады чытач можа бачыць, якой ганебна недастатковай з’яўляецца наша пісьмовасць у дачынннні да адзнак выразнасьці, якія ў ёй цалкам адсутнічаюць, хаця іх і лёгка было б пазначыць ўсяго толькі з дапамогай некалькіх надрадковых значкоў павышэння і паніжэння тону лагічнага націску, якія навучэнец ў пачатковай школе лёгка б навучыўся правільна размяшчаць пасьля некаторай практыкі выразнага дыктавання. Уся ж сутнасць зводзіцца да павышэння (Λ) і паніжэння (V) тона лагічнага націску галоснай, пры чым другарадныя нязначныя

павышэнні і паніжэнні тона папярэдніх і наступных складоў вымаўляюцца інстынктыўна. А ў нас ставяць знак пытання або ўсклікання не над лагічна націскным складам выказвання, а нярэдка праз цэлы радок пасьля таго, як вы ўжо прачытаеце гэтае выказванне звычайным голасам! Што можа быць больш недарэчным чым такі сярэднявечны спосаб! І якая закасьцянеласць патрэбна для таго, каб і да гэтага часу прытрымліваца падобнай арфаграфіі, калі такой магчымай і лёгкай з'яўляецца рацыянальная, якая робіць пісане такім жа выразным, як і жывое вымаўленне!

«Пэўная інтанацыя слова, – кажа Л. В. Шчэрба, – замацоўваючыся ў якасьці аднаго із элементаў ва ўяўленні ... неабходна ўступае ў цесную сувязь з гэтым апошнім і разам з ім ізалюецца нашым усведамленнем»[18]. А наша пісьмовасць, наадварот, ізалюе інтанацыю ад слова ў нашай сьвядомасьці і гэтым шкодзіць яму.

Вядома, мне могуць запярэчыць, што абавязковая пастаноўка націскаў над кожным шматскладовым словам падобна таму як гэта робіцца ў грэцкім пісанні, моцна запаволіць наша звычайнае хуткапісанне, але ніхто не кажа пра запазычанне ад грэкаў. Гаворка ідзе, наадварот, пра ўсталяванне таго, чаго менавіта і не хапае ў іх: пра лагічны націск, якім павінен пазначацца толькі адзін склад у цэлым выказванні, а гэта зусім не цяжка. Што ж да звычайных словавых націскаў, то іх можна ўжываць толькі ў друку, пазначаючы націскную галосную некалькі больш пашыранымі літарамі, так як, разам з павышэннем напружання галасу, мы таксама некалькі і падаўжаем іхнае вымаўленне. Надрадковыя ж літары даўно пара выкінуць за борт, зрабіўшы больш прыкметнымі кропкі. Ператварыўшы кропкі ў тоўстыя зорачкі, мы лёгка дасягнулі б гэтага і ўдвая скарацілі б, разам з тым, нашы наборныя косы і пішучыя машынкі, усё больш і больш набываючыя пашырэнне ў побыце сучаснага жыцця. А ўласныя імёны было б лёгка пазначаць простымі апострафамі націскных галосных замест надрадковых літар.

У агульным, можна сказаць, што лагічнае заканчэнне кожнага апавядальнага сказу вызначаецца паніжэннем тону, а заканчэнне запытваючага сказу, наадварот, павышэннем, што не цяжка пазначыць у транскрыпцыі і без нот:

– З̑аўтра, – запытала яна.

– З̬аўтра, – адказаў ён.

Акрамя таго, выдатны літаратурны склад адрозніваецца ад дрэннага сваёй значнай рытмічнасьцю, да якой мы імкнемся інстынктыўна, выказваючыся, напрыклад, ямбам:

**«Бы̂л-ли̯ о̱н вче̯ра̱ в те̯а̱тре̯̂?»**

замест бязладнага:

**«Бы́л ли̯ вче̯ра̱ о̱н в те̯а̱тре̯?»**

І гэтае імкненне да рытмічнасьці не без фізіялагічнай нагоды. Рытмічны склад палягчае не толькі вымаўленне выказванняў, але і іхнае запамінанне, у чым і заключаецца перавага паэзіі над прозай у тых выпадках, калі мы жадаем, каб напісанае намі надоўга засталося нязменным ў памяця чытаючага.

Нам кажуць, што ў французскай, нова-жыдоўскай (у Польшчы) ды яшчэ ў зараз неіснуючых лацінскай, старажытна-грэцкай, старажытна-жыдоўскай і санскрыцкай мовах замест нашых лагічных націскаў толькі падаўжваліся склады. Але ці прынцыповае гэтае адрозненне? Прыслухайцеся да нашага правільнага

[18] Л. В. Шчэрба. Рускія галосныя ў якасным і колькасным дачыненні. 1921 г.

спявання (або нават да выразнай (пявучай) гаворкі), – і вы заўважыце самі, як у ёй выцягваюцца менавіта націскныя склады, і ёта прыпадае на такты вымаўлення.

Паэтычныя творы нападобе лацінскага Arma virumque canó, дзе напісана canó замест cáno, і таму падобныя прыклады паказваюць толькі на тое, што ранейшыя паэты ахвотна ахвяравалі, дзеля рытмічнасьці, звычайным націскам, як часта здараецца і ў рускай народнай паэзіі, дзе пастаянна сустракаюцца куплеты на падобе:

Захварэў я на дарозе,
Да Піцéра не дайшоў ...
хаця ніхто ніколі ў прозе не выказваўся: Піцéр.

Гэтак жа сама не маюць прынцыповага значэння і ўказанні некаторых філолагаў на тое, што замест галосных часам таніруюцца і працяглыя зычныя нападобе таго, як кажуць: «Мар'я Я-на», замест: Мар'я Янаўна, або «што нав-ва?», Замест : што новага?

Ва ўсіх гэтых выпадках зычныя “нн” і “вв” не замяняюць галосных, і слова із трохскладовага пераходзіць пры іхным увядзенні ў двухскладовае, што вы лёгка пабачыце, паспрабаваўшы іх праспяваць або дадаць да верша: яны далучацца толькі да папярэдняй галоснай.

Таніруюцца і ўтвараюць рытмічныя склады вымаўлення толькі галосныя, г. азн. гукі галасавой шчыліны, і няйнакш як з дапамогай перамены нацяжэння яе ж уласных пругкіх краёў. Вось чаму мы, акрамя звычайных галосных, маем магчымасць вымавіць яшчэ і адмысловы галосны гук, кажучы, напрыклад, у-у-у, не адчыняючы вуснаў, непасрэдна праз насавую паражніну, і можам нават праспяваць з ім выказванне: «у нас», адкрыўшы вусны толькі для слова нас.

Аднак, у мовах міжземнаморскага этнічнага басейну такіх чыста насавых галосных не сустракаецца, і існуе толькі пяць асноўных пар галосных гукаў, якія вымаўляюцца з абавязковым адкрытваннем вуснаў, пры чым кожная пара складаецца із нізкатонавай і высокатонавай варыяцый (як паказана на схеме, табліца II).

Аднак, гэтая абавязковая парнасць ўсіх пяці асноўных галосных дрэнна прызнаецца нават сярэдне-адукаванай публікай, дзякуючы таму, што ні ў адной із еўрапейскіх моваў няма поўнага набору гэтых пяці пар, і нават мы рускія, маючыя асабліва шмат гукаў вымаўлення, маем на сваёй мове толькі адну пару: “ы” і “і”, а астатнія чатыры галосныя ў адзіночку: “о” і “u” у нас заўсёды цьвёрдыя, а “е” мяккае. Немцы і французы маюць толькі пары “о” і “ö” ды “u” і “ü”, і толькі намёкі на “ä”, а ангельцы добра прамаўляюць толькі пары “а” і “ä”, “о” і “ö”, і ніхто із еўрапейскіх народаў не ўжывае цьвёрдае ўсходняе “Є”, якое мы выразна чуем у гаворках ўсходніх народаў, напрыклад, каўказцаў, калі яны вымаўляюць «рака Тэрэк», і якое я умоўна пазначыў у табліцы, перавярнуўшы літару э ў выглядзе є. Яно чуецца і ў нас у словах шэрсць, жэст, шэст і г.д.

*Табліца II.*

| Жесткие (низкотонные). | Мягкие (высокотонные). |
| --- | --- |
| Дух . . . U | Ü . . . Нюня |
| Сон . . . O | Ö . . . Лёля |
| Даль . . . A | Ä . . . Дядя |
| Шест . . . Є | Ӛ . . . Дело |
| Бык . . . Ы | Ï . . . Кій |

*Табліца III Схема асноўных галосных Міжземнаморскага этнічнага басейна.*

| Низкотонная (жесткая) вариация. | Высокотонная (мягкая) вариация. |
| --- | --- |
| Русское . . . . . . Ы | Ï — западно-европейск. |
| Русское . . . . . . A | Ä — английское. |
| Русское . . . . . . . O | Ö — немецкое. |
| Низкотонное . . Э = Є (кавказское Тєрєк). | Е — европейское. |
| Немецкое . . . . . U | Ü — немецкое. |

Тут “А” ставіцца да “Ä”, як “О” да “Ö”, “Є” да “Ӛ”, “U” да “Ü”, “Ы” да “Ï”. Для U я выкарыстаў лацінскае пазначэнне, так як рускае У падобна на заходнееўрапейскі ігрэк.

Толькі нам рускім і лёгка засвоіць ўсе гэтыя пяць варыяцый, так як даволі добры, хаця і не поўны намёк на іх мы маем: для “Ä” ў слове *няня*, або ў авечым бляянні бя-я .., для “Ö” ў слове *Лёля* і для “Ü” у слове “*іюня*”, ці *смяюся, спадзяюся*. А для іхнага дакладнага пявучага вымаўлення неабходна не раз пачуць і ангельцаў, і немцаў, так як нашы галосныя “я” і “ю” зводзяцца на цэлых складоў “йа” і “йу”.

Дакладнае вызначэнне іхных тыповых нязменных метатонаў на жаль моцна ўскладняецца дамешкай шмат якіх розных староннiх індывідуальных і лакальных тонаў, якім мы не надаём асэнсаванага значэння, але дзякуючы якім зараз жа пазнаём па голасу, нават і ў цемры, кожнага добра знаёмага нам чалавека, так што варта яму толькі на пытанне: «хто там?» адказаць: «я!», як нам ужо больш нічога ад яго не трэба.

Ужо адзін факт атрымання із кожнай цьвёрдай галоснай адпаведнай мяккай паказвае, што паміж характэрыстычнымі метатонамі той і іншай існуе пэўная залежнасць. Імкнучыся яе знайсьці, я ўзяў асноўныя дадзеныя із досьледаў Гельмгольца, Дондэрса і Шчэрбы і, дапоўніўшы іх некаторымі метатонамі Пуаро, пераклаў на ноты тыя із іх, якія давалі мне пры праверцы на раялі гук, прыдатны да дадзенай галоснай. Атрымаўся шэраг вынікаў, паказаных на дадаваемай дыяграме (мал. 15).




| | | | |
|---|---|---|---|
| 4224 | 4752 | $c^{v}$ (do) | $d^{v}$ (re) |
| 3520 | 3960 | $a^{iv}$ (la) | $h^{iv}$ ($si^{b}$) |
| 2816 | 3168 | $f^{iv}$ (fa) | $g^{iv}$ (sol) |
| 2376 | 2640 | $d^{iv}$ (re) | $e^{iv}$ (mi) |
| 1980 | 2112 | $h'''$ ($si^{b}$) | $c^{iv}$ (do) |
| 1584 | 1760 | $g'''$ (sol) | $a'''$ (la) |
| 1320 | 1408 | $e'''$ (mi) | $f'''$ (fa) |
| 1056 | 1188 | $c'''$ (do) | $d'''$ (re) |
| 880 | 990 | $a''$ (la) | $h''$ ($si^{b}$) |
| 704 | 792 | $f''$ (fa) | $g''$ (sol) |
| 594 | 660 | $d''$ (re) | $e''$ (mi) |
| 495 | 528 | $h'$ ($si^{b}$) | $c''$ (do) |
| 396 | 440 | $g'$ (sol) | $a'$ (la) |
| 330 | 352 | $e'$ (mi) | $f'$ (fa) |
| 264 | 297 | $c'$ (do) | $d'$ (re) |
| 220 | $247\frac{1}{2}$ | a (la) | h ($si^{b}$) |
| 176 | 198 | f (fa) | g (sol) |
| $148\frac{1}{2}$ | 165 | d (re) | e (mi) |
| $123\frac{3}{4}$ | 132 | H ($si^{b}$) | c (do) |
| 99 | 110 | G (sol) | A (la) |
| $82\frac{1}{2}$ | 88 | E (mi) | F (fa) |
| 66 | $74\frac{1}{4}$ | C (do) | D (re) |
| 55 | $61\frac{7}{8}$ | $A'$ (la) | $H'$ ($si^{b}$) |
| 44 | 49,5 | $F'$ (fa) | $C'$ (sol) |
| $37\frac{1}{8}$ | $41\frac{1}{4}$ | $D'$ (re) | $E'$ (mi) |
| $30\frac{9}{16}$ | 33 | $H''$ ($si^{b}$) | $G'$ (do) |
| $24\frac{3}{4}$ | $27\frac{1}{2}$ | $G''$ (sol) | $A''$ (la) |
| $20\frac{3}{4}$ | 22 | $E''$ (mi) | $F''$ (fa) |
| $16\frac{1}{2}$ | $18\frac{1}{2}$ | $C''$ (do) | $D''$ (re) |

Мал. 15.

*Некаторыя із адметных метатонаў, абавязкова злучаючыяся пры вымаўленні названых галосных гукаў. Складзена аўтарам грунтуючыся на дадзеных Гельмгольца, Дондэрса, Шчэрбы і Пуаро са сваімі слыхавымі праверкамі. Чорныя ноты – згодна з Гельмгольцам, заштрыхаваныя – згодна з Дондэрсам, контурныя – згодна са Шчэрбай, з падвойным абадком – згодна з Пуаро. Тыя із нот, у якіх я не знайшоў прыкмет сістэмы, належаць, магчыма, да лакальных або індывідуальным коларатур галаса пазначаных даследчыкаў або іхных аб'ектаў.*

Вявілася, што характэрыстычныя метатоны ў мяккім шэрагу (левая музычная фраза Ü-Ö-Ä-Ӭ-Ï) заўсёды каля дэцымы (г. азн. актавай і тэрцыяй) вышэй, чым у цьвёрдым шэрагу (музычная фраза U-O-A-Є-Ы), пры гэтым яны паслядоўна

ўзрастаюць, калі ўсе пяць галосных мы размесьцім у тым парадку, як я іх паказаў. Самым нізкім метатонам ў цьвёрдым шэрагу характэрызуецца U (рускае У), а самым высокім – Ы; а ў мяккім шэрагу самы нізкі метатон належыць адпаведна галоснай Ü, вельмі ужываемай у нямецкай і французскай мовах, а самы высокі метатон – галоснай Ї, якая і з’яўляецца мяккім Ы. Зірнуўшы на мал. 15 і 16, чытач бачыць сам, што злучаныя пункцірам галосныя мяккага шэрагу ляжаць на дэцыму вышэй адпавядаючых ім і злучаных пункцірам галосных цьвёрдага шэрагу. Астатнія ж ноты, далёка адлеглыя ад гэтага шэрагу, як – быццам з'яўляюцца чыста каларатурнымі, грунтуючыся на якіх мы адрозніваем, напрыклад, ўкраінскае І ад сярэдне-рускага або валагодзкае вымаўленне ад маскоўскага, а частка із іх могуць быць нават індывідуальнымі ў даследуемых асоб.

Наколькі гэтыя лакальныя або індывідуальныя метатоны абцяжарваюць вылучэнне характэрыстычных, можна бачыць на другой, прыкладзенай тут, дыяграме (мал. 16) французскіх галосных згодна з даследаваннямі Жана Пуаро[19]. Зірнуўшы на яе, мы зараз жа бачым, што толькі ў верхняй левай частцы (г. азн. у мяккім шэрагу) атрыманыя ім ноты размясьціліся каля той жа пункцірнай лініі, як на малюнку 15 згодна з Гельмгольцам, Шчэрбай і Дондэрсам, а ўнізе пад імі паміж пяццю лініямі дыскантовага ключа сабралася цэлая куча тонаў, якія ўзікаюць дякуючы задняй частцы ротавай паражніны, не могучыя быць адметнымі ўжо таму, што большасць з іх аднолькавыя ў трох сярэдніх галосных. Гэта відавочная характарыстыка лакальнага французскага вымаўлення, грунтуючыся на якой мы адрознілі б і рускае вымаўленне Пуаро ў суседнім пакоі ад вымаўлення яго суразмоўцы.

[19] Jean Poirot, Recherches expérimentales sur le timbre des voyelles francaises. Paris. 1912.




Мал. 16.

*Французскія галосныя Э. Пуаро. (Перакладзеныя на графіку эксперыментальных вынікаў кнігі: Jean Poirot, Recherches expérimentales sur le timbre des voyelles francaises. Paris. 1912. Із гэтага параўнання цалкам відавочна, што адметнымі метатонамі тут могуць быць толькі знаходзячыяся ў верхнім аддзеле першага (мяккага) згуртавання каля пункцірнай лініі. Тыя ж, якія ляжаць паміж пяццю лініямі дыскантовага ключа і якія Пуаро называе рэзанансам задняй часткі ротавай паражніны, з'яўляюцца толькі каларатурамі яго гаворкі, таму што занадта блізкія адзін да аднаго, каб служыць фанэмнымі адрозненнямі. Тое ж самае можна сказаць і пра ўсе ноты другога згуртавання.*

Яшчэ больш гэта кідаецца ў вочы пры пераглядanні другой музычнай фразы, якая адпавядае цьвёрдаму шэрагу. Даследаванне ўсходніх гукаў Ы і Є (рэчка Тэрэк) у яго зразумела адсутнічае, так як іх няма ў французскай мове, але і ў трох маючыхся там галосных U-O-A ён не выявіў характэрных метатонаў Гельмгольца і Дондэрса, а толькі хаатычную кучу ў 2-ой і 3-яй актавах (якія ён называе 4-ай і 5-ай актавамі). Але і яны таксама не могуць лічыцца адметнымі, таму што ў палове выпадкаў яны аднолькавыя ва ўсіх трох галосных.

Вельмі магчыма, што некаторыя з іх на самой справе размешчаны актавай ніжэй, чым паказана. Памылка на такую велічыню цалкам дапушчальная. Актаўны гук мае ўдвая большую колькасць ваганняў, чым асноўны, і большасць рэзанатараў, акрамя камертонаў, даюць для кожнага гука, нават не адзін, а два ці тры адпаведна паслабленыя актаўныя тоны: яны – як бы фанетычныя рыфмы адзін да аднаго, і такія памылкі не раз рабіліся даследчыкамі ў гэтай галіне. Але, нават і панізіўшы тоны на актаву, мы не атрымаем тут нічога стройнага на пункцірнай лініі, праведзенай мной ў другой музычнай фразе на дэцыму ніжэй, чым у першай фразе, адпаведна мал. 15.

Чытач сам бачыць, як шмат яшчэ давядзецца працаваць у гэтым накірунку, каб адшукаць тут, без сумневаў існуючую, заканамернасць пры пераходзе ад тыповых адметных метатонаў мяккіх галосных да адпаведных цьвёрдых: яна ж непасрэдна адчуваецца вухам.

# Глава III.

## Фанемы.

### Непрыдатнасць нашых звычайных альфабэтаў для натуральнай класіфікацыі гукаў вымаўлення і патрэба сістэматычнага альфабэта.

Зразумела, што індывідуальныя ці нават лакальныя асаблівасьці грунтуючыся на якіх мы адрозніваем вымаўленне ў розных мясцовасьцях пашырэння той жа мовы, не маюць значэння для фанематыкі. Для яе маюць значэнне толькі тыя, якія надаюць новы сэнс слову і могуць быць вымаўлены, падвучыўшыся, кожным чалавекам. Гэа азначае: у навуцы пра гукі чалавечага вымаўлення патрэбна строга аддзяляць адметныя метатоны ад чыста каларатурных, належачых да той жа фанэмы, г.зн. да таго ж самага складанага гуку вымаўлення, які вагае тое ж самае згуртаванне валокнаў нашага слухавога апарата (вушны смоўж). Але гэты падзел, на жаль, вельмі цяжка зрабіць, і гэтым тлумачыцца некаторае адрозненне вынікаў атрыманых (у розных лінгвістычных адгалінаваннях і рознымі даследнікамі) для той жа фанемы.

**I. Метатоны галосных фанемаў.**

Разгледзім жа коратка спачатку знойдзеныя да гэтага часу метатоны вышэйпаказаных пяці пар галосных еўрапейскіх гаворак.

1. *Нізкатонавая фанема Ы* амаль цалкам адсутнічае ў заходне-еўрапейскіх мовах, хаця мне здаецца, што яна чуецца ў нямецкім hitten, leben, reiten, дзе кароткае канчатковае “е” гучыць як кароткае “ы”, дакладна так жа як і ў рускіх словах: “холадно”, “здравствуйте”, дзе пры хуткім вымаўленні чуецца: “холыдно”, “здрасыте”. Але гэтая фанема (ы) вельмі ўжываемая ў славянскіх мовах. Найбольш нізкі із яе адметных метатонаў у рускім, польскім, лужыцкім і румынскім вымаўленні (згодна са Шчэрбай) блізкі да 996 ваганняў у секунду, а ў румынскім вымаўленні вызначаецца і як блізкі да 1156 ваганняў.

Яе фаноўтаграмы падобныя на фаноўтаграмы U у слове: Ух! Цікава, што ў рускай мове няма ніякіх старажытных слоў пачынаючыхся з Ы, дакладна таксама як у старажытна-жыдоўскай мове адсутнічаюць словы пачынаючыяся з зычнай Uau, ці Воў (ו).

Адпаведная ёй высокатонавая фанема I (г.зн. мяккае ы) характэрызуецца тым, што найбольш нізкі із яе адметных тонаў утрая вышэй толькі-што паказанага. У рускай і іншых славянскіх мовах ён, у ізаляваным I, каля 3044 ваганняў за секунду, у чэхаў – крыху вышэй, у сербаў – ніжэй, а ў заходне-еўрапейцаў – яшчэ вышэй. Апроч таго, варта пазначыць, што літарай I мы рускія ўвесь час пазначаем і Ы. Не кажучы ўжо пра словы на падобе "шірь", "жір", "цірк" дзе гук Ы замест I чуецца сам сабой; мы можам пазнаць яго і пасьля мяккай зычнай, як, напрыклад, у слове Ціт, якое вымаўляецца як Тьыт, вядома, без паўзы паміж ь і ы.

Адметныя тоны фанемнай пары Ы-I пададзены на малюнку 15, але апроч іх для рускага націскавага I, калі яно з'яўляецца прамежкавым паміж I і Ы, Шчэрба знайшоў з дапамогай фанаўтаграм у сваім вымаўленні прамежкавыя абертоны каля 1800, 2000, 2270, 2570 і 2925 ваганняў у секунду.

Але ці не з'яўляюцца яны толькі каларатурай яго ўласнага ці яго абласнога вымаўленя пры вымаўленні гэтай галоснай, а не агульнай прыкметай, грунтуючыся на якой мы можам адрозніць гэты гук ад "е" ці ад іншых галосных у яго ж уласным вымаўленні?

2. *Нізка-тонавая галосная фанема А* згодна са сваімі адметнымі абертонамі ніжэй папярэдняй, але, на жаль, лікавыя дадзеныя для яе вельмі супярэчлівыя, дзякуючы вялікай колькасьці прымешваючыхся да яе чыста каларатурных (лакальных і індывідуальных) прыгукаў паражніны рота, а таксама і таму, што ў нашай транскрыпцыі мы часта пазначаем літарай А нічога агульнага не маючы з ёй кароткі ненаціскны гук Ы ці адсутнічаючы ў рускім альфабэце нізкатонавы ненаціскны ўсходні гук Є, пра які я буду выказвацца далей.

У розных, вымаўляемых ім, словах Шчэрба знайшоў для націскнога выразнага А (г.зн. адзінага, дзе літара А не замяшчае ненаціскное Ы ці ўсходняе нізка-тонавае Є), 840, 890, 900 і 910 ваганняў у секунду і апроч іх яшчэ не характэрны высокі тон 1150 і нізкія каля 400 і 430 ваганняў, якія можна прыпісаць грудному рэзанансу. Яе графіка паказана на мал. 17. А ў тым невыразным гуку, які мы завём ненаціскным А і які на справе больш падобен на глухое Ы ці на ўсходняе Є, ён знайшоў у сваім вымаўленні і абертоны прыдатныя для Ы: 925, 940, 967, 988, 1000 і 1020 ваганняў у секунду, пры чым тут 1000 тоесна ў межах памылкі вымярэння з 996, характэрным для Ы, як-быццам замест слова: "зачем?" ён вымаўляе: "зычéм?" а слова "мастеровой" прамаўляў: "мыстеровóй".




**Рис. 17. Немецкая гласная фонема *А*, пропетая на *es* (= mi ♭).**

Цікава, што ў рускай мове не існуе ніякіх старажытных слоў, пачынаючыхся з А, за выняткам «Ах!». Усе астатнія познейшага замежнага паходжання.

Сярод іншых славянскіх моваў фанема А згодна са сваёй каларатурай амаль аднолькавая (згодна са Шчэрбай) у польскім, чэшскім, славінскім, лужыцкім і ганацкім вымаўленні і трохі адрозная ад маларускага і ад сербскага. У французаў у слове páte (цеста) Русло вызначыў 912 ваганняў за секунду, у слове patte (лапа) знайшоў 1026 і ў слове part (частка) нават 1140. У немцаў і ангельцаў яе другарадная каларатура таксама трохі адрозніваецца ў мясцовых вымаўленнях.

Адпавядаючыя ёй высока-тонавая (мяккая) фанема А моцна пашырана толькі ў ангельскім вымаўленні (bad, cat і г.д.). Там вялікую частку ўсіх А патрэбна вымаўляць як А, але не атаясамляць з нямецкім ä, якое звычайна вымаўляецца як Э. Рускім цяжка без дапамогі ангельца засвоіць гэта мяккае ä, вымаўляемае задняй часткай рота, і якое так жа адрозніваецца ад нашага звычайнага А, як І ад Ы, але некаторае яго падабенства мы знаходзім у бляянні авечкі. Калі маё супастаўленне праўдзівае, што адметныя абертоны мяккіх галосных варыяцый характарызуюцца ўтрая большай часьцінёй ваганняў, то мы знойдзем тут водгук каля 2600 ваганняў за секунду, як гэта бачна із дыяграмы (мал. 15).

У парыжанаў гэты гук сустракаецца, напрыклад, у мяккім вымаўленні “а” ў слове madame, і магчыма гэтак жа вымаўлялася спалучэнне “ai” ў той мясцовасьці, дзе ўтварылася французская пісьмовасць.

3. *Нізка-тонавая фанема О* таксама, як і папярэдняя фанема (А), правільна перадаецца нашай пісьмовасьцю толькі пад націскам, ды яшчэ ў слове “он”, хаця б яно і было не пад націскам, напрыклад, у спалучэнні: «*где он был*?!!». Ва ўсіх астатніх выпадках, за выключэннем замежных слоў пры вытанчанай размове (напрыклад, Морыс, Маро, Памяранцавая рэчка і г.д.), той гук, які мы пазначаем літарай О, з’яўляецца ненаціскным ўсходнім Э (я яго далей пазначаю гэтай жа літарай у перавернутым выглядзе Є і ўжо тлумачыў яе вымаўленне перайманнем каўказскага вымаўлення ў словах «*рэка Тэрэк*», якое больш падобна на «*рыка Тырык*»).

Такім чынам, гук О сустракаецца ў нашым вымаўленні прыблізна ўтрая радзей, чым пішацца гэтая літара, ўвесь час замяняючая і ненаціскны Є.

Замест «*почему*?» мы павінны былі б пісаць «*пєчему*?» і замест «*молот*» – «молєт» і г.д. Вымаўце тут нізка-тонавае "э" без вашага інстынктыўнага памякчэння стаячых перад ім зычных "п" і "л" і вы атрымаеце тое, што і вымаўляеце на смай справе.

Для таго, каб выразна адчуць, што літарай А мы часта замяняе ненаціскное Ы, а літарай О замяшчаем ненаціскное Є, вымавім хаця бы такія тры выказванні:

I. "У вала два волá пріютліся".

II. "У вола два валá пріютіліся".

III. "У вола два вола пріютіліся".

Мы тут усё ж адрозніваем гук А ад О, хаця ў абодвух выпадках і вымаўляем іх не як гэтую літару. Гэта таму, што ненаціскное А ў "*вале*" мы вымаўляем як скарочанае Ы, а ненаціскное О ў "*воле*" як скарочанае Є.

Пры асобным жа ці пры выразным вымаўленні пад націскам, нізка-тонавая фанема О мае дастаткова нізкі метатон у сваёй адметнай серыі. Для рускай мовы гэта каля 756 ваганняў за секунду.

Каларатурна-лакальныя і індывідуальныя абертоны фанемы О, відаць, значна пашыраны паміж 600 і 830 ваганнямі, як гэта знайшоў Шчэрба ў сваім вымаўленні. Рускае націсное О, згодна з яго досьледамі, вельмі блізкае да шырокага французскага (у or, corps), да кароткага нямецкага (у Sonne) і да кароткага ангельскага (у слове not). У большасьці славянскіх моваў яно падобна на рускае.

Адпавядаючая гэтай фанеме высока-тонавая (мяккая) варыяцыя О вельмі нашырана ў нямецкім, ангельскім і французскім вымаўленнях, але адсутнічае ў славянскіх і ў італьянскім. Зразумець яе для не ведаючых замежных моваў усяго лягчэй, паўтараючы цягуча, напрыклад, слова Лёля і вымаўляючы ё з паменшаным ротам. Лічачы, што і тут адметныя абертоны павінны мець утрая большую часціню ваганняў, мы павінны іх шукаць паблізу да 2200 поўных ваганняў за секунду.

4. *Нізка-тонавая фанема Є* (якую я тут пазначаю перавернутым Э) вельмі пашырана ва ўсходніх мовах і паміж імі ў каўказскіх. Рускаму няцяжка яе засвоіць, калі ён некалі чуў як яе вымаўляюць па-руску армяне ці грузіны, ўжо не адзін раз згаданыя мной словы, «рэка Тэрэк»[20], таму што гэтая фанема ўвесь час сустракаецца ў нас у складах без націску, але няправільна пазначаецца ў іх з дапамогай О. Так мы несьвядома вымаўляем гэты гук у словах: "*вóлос*", якое трэбна было б пісаць "вóлєс" (сьвядома цьвёрда вымаўляючы стаячую перад ёй Л), "*домашній*" ("дємáшній", дзе Д вымаўляецца сьвядома цьвёрда, інакш у вас будзе аберацыя слыхавога ўсведамлення). Не знаходзячы гэтай фанемы ў выразным націскным стане ў славянскіх мовах, стваральнікі славянскага альфабэту пазначылі яе ў адных выпадках літарай О, а ў іншых нават і А і прымусілі і нас уяўляць такія гукі там, дзе насамрэч іх няма.

І зноў-такі, ў рускай мове адсутнічаюць старажытныя словы пачынаючыяся з Э, арамя: "*ЭТО*".

Адпавядаючая гэтай фанеме высока-тонавая (мяккая) варыяцыя пысутнічае ў рускай мове як у літары Э ("*это*"), так і ў складовым Е ("*нерв*" і г.д.). Яна тоесна з

[20] Ды і наогул, вельмі лёгка навучыць каго заўгодна добра прамаўляць замежныя галосныя, пявуча парадыруючы перад ім звычайную рускую гаворку на замежным вымаўленні, напяваючы, напрыклад, замест: «*По небу полуночі ангел летел*», ператварыўшы ўсе галосныя ў мяккія: «Pö hiebü pölünötschi änguel letel» і г.д. Пры дастатковых практыкаваннях кожны хутка з дапамогай такога спосаба навучыцца правільнаму вымаўленню.

французскім зачыненым é (charter і г.д.), блізкая да нямецкага, ангельскага, польскага, сербскага, славінскага, лужыцкага О, асабліва пасьля мяккіх зычных.

Самы нізкі із яе адметных метатонаў згодна з рускімі вызначэннямі блізкі да 1816 ваганняў за секунду, а згодна з французскімі é каля 1824 ваганняў.

Пры васямнаццаці досьледах Л. В. Шчэрба знайшоў для яго ў сваім вымаўленні такія характэрныя (і каларатурныя) абертоны:

1700, 1700, 1705, 1730, 1730, 1730, 1800, 1800, 1825, 1836, 1840, 1840, 1870, 1870, 1940, 1950, 1975, 1980 ваганняў за секунду. Ды яшчэ адзначыў і дадатковыя каларатурныя высокія каля 2270 і 2295 ваганняў.

Бяручы ўсё гэта да ўвагі і лічачы слушнай нашу ранейшую здагадку, што высока-тонавыя варыяцыі характэрызуюцца ўтрая большай часцінёй ваганняў характэрных метатонаў, мы атрымліваем, што нізка-тонаваму ўсходняму Є павінны адпавядаць метатоны каля 600-650 ваганняў (гл. дыяграму мал. 15).

5. *Нізка-тонавая фанема U* у рускай мове падобна на астатнія славянскія і блізкая да заходне-еўрапейскіх. Самы нізкі із яе характэрных метатонаў вызначаецца камертонам каля 432 ваганняў за секунду.

Із гэтага мы знаходзім, згодна з папярэднім, што для яе высока-тонавай варыяцыі павінны існаваць абертоны каля 1400 поўных ваганняў за секунду.

* * *

Такімі з’яўляюцца пяць асноўных пар галосных гукаў вымаўлення, вымаўляемыя выключна з дапамогай ратавой паражніны. Кожны з іх мы маем магчымасць вымавіць і шэптам, г.зн. без дапамогі вібрацыі галасавых звязак, і гэта адно дастаткова сведчыць, наколькі неістотнымі такія вібрацыі з’яўляюцца для адметнага каларыту нашых галосных. Патрэбны толькі нейкі шум у храстковай частцы галасавой шчыліны, каб рэзананс нашай адпаведна ўладкаванай ратавой паражніны ўзмацніў тыя ці іншыя із вялізнай колькасці тонаў, якія існуюць у кожным шуме, і, такім чынам, надаў належны каларыт вымаўляемаму галоснаму гуку. А тое, што гэтыя шумы вырабляюцца ў нас дыханнем, відавочна із таго, што, затрымаўшы яго, мы не зможам прамовіць ніводнага слова. Паўтараю: у большасьці еўрапейскіх народаў існуюць толькі вышэйпрыведзеныя пяць пар галосных, ды і то, як мы бачылі, у далёка няпоўным выглядзе.

Іхнымі другараднымі фанемнымі варыяцыямі з'яўляюцца, апроч націскнога і ненаціскнога становішчы, яшчэ і глыбіннае ці павярхоўнае вымаўленне. Так у французскай мове патрэбна адрозніваць грудное (шырокае) О (у l'eau (вада)) ад вузкага О (без груднога рэзананса ў слове lot (жэрабя)); патрэбна адрозніваць шырокае é у слове mere – маці ад вузкага (без груднога рэзанансу) у слове mer – мора. У немцаў жа для груднога é дадаецца h (Ehre – гонар, Ähre – колас і г.д.).

ТАБЛІЦА IV.

*Чатыры фанэмічныя варыяцыі галоснай О*



Такім чынам, для кожнай із пяці асноўных галосных атрымліваецца гукавы квадрат, у якім адзін бок грудны, а процілеглы глоткавы, адзін нізка-тонавы, другі высока-тонавы (табл. IV). (У славянскіх мовах гэтага адрознення няма, і мы вымаўляем грудныя галосныя толькі пры ўскліканнях, напрыклад, палёгка Ў-ух! ці О-ох! – падвойваючы гэтым звычайнае напісанне.)

Падобныя квадраты мы атрымаем і для А, Е, U і Ы.

Усё гэта дасць нам 20 галосных фанем, якія пры параўнальным мовазнаўстве патрэбна ўмець прамаўляць і асобна пазначаць пры напісанні.

Акрамя таго, кожная із гэтых фанэм можа мець яшчэ насавое, таксама фанематычнае вымаўленне. У нашай рускай мове яго няма, і таму калі нехта ў нас прамаўляе у нос, то мы лічым яго рэзананс насавой паражніны за чыста каларатурны прыгук не змяняючы сэнс слова. Але не тое ў французскай і партугальскай мовах.

У апошняй кожную галосную можна прамаўляць з прыгукам насавой паражніны, а ў французскай вялікую частку.

Я ўжо згадваў (стар. 62), як магчыма вымаўляць гук U, напрыклад, у выказванні: «у нас», не адчыняючы рот, да той пары, пакуль вы не пяройдзеце да выцмаўлення гука Н, але пасьля таго, як вы зробіце гэта, вы зможаце вымавіць той жа гук носам і трошкі адчыніўшы рот. У выніку атрымліваецца насавое U, а потым аналагічным спосабам знаходзім спосаб вымаўляць і астатнія насавыя галосныя, якія, як я ўжо сказаў, у партугальскай і французскай мовах маюць самастойную ролю пры словаўтварэнні, нароўні са звычайнымі галоснымі, хаця недарэчнасць іх пазначэння ў французскай мове шляхам дадавання літары N да той галоснай, якой хочуць надаць насавы прыгук, і зацямняе сутнасць справы. Калі вы прыслухаецеся да французскіх сьпеваў, дзе насавыя галосныя расцягваюцца і тануюцца, то адразу пабачыце, што тут няма ніякага N, а чыстае насавое А, О, Є (так слова enfant – дзіцёнак, аналагічна слову: афá).

Гэтая фанэма прысутнічае, акрамя французскага і партугальскага, таксама і ў лясоўска-польскім вымаўленні і ў некаторых іншых.

І вось із 20 папярэдніх галосных фанэм мы атрымалі ўжо 40. Але і гэтага недастаткова.

У ангельскай мове некаторыя із тых жа самых асноўных галосных гукаў вымаўлення могуць набываць, замест насавога, глоткавы прыгук, падобныя на картавае R. Ён і пазначаецца ў транскрыпцыі дадаваннем да дадзенай галоснай гэтага R, напрыклад, у словах: you are, ці: you were, ці ў: yearbook, але калі вы прыслухаецеся (асабліва пры спевах) да добрага вымаўлення, то заўважыце, што тут няма ніякага R, а ўся галосная ад пачатку і да канца картавая, г.зн. з глоткавымі абертонамі.

Гэта зноў прыводзіць да магчымасьці падваення ўсіх 20 простых галосных гукаў, і тады разам з насавымі яны складуць 80 радавых фанэмных галосныхварыяцый. А ў кітайцаў для ўсіх 20 першапачатковых галосных існуе і піскліваe глоткавае вымаўленне, і гэта дадае яшчэ 40 знакаў, ды столькі ж можа дадаць хрыплае гартаннае вымаўленне некаторых народаў.

Зразумела, што стварыць для іх 160 асобных значкоў, патрэбных для навуковай фанэматыкі ці нават для правільнага пазначэння на сваёй роднай мове замежных прозвішчаў і назваў гарадоў і мястэчак, цалкам немагчыма, калі мы

будзем рабіць гэта шляхам простага папаўнення гістарычна распрацаваных альфабэтаў. Але цалкам іншае, калі мы распрацуем сістэматычны альфабэт.

Калі я яшчэ быў у Шлісельбургскім умацаванні і яшчэ нічога не ведаў ні пра антрапафоніку, ні пра спробу Дзю-Буа-Рэймона распрацаваць навуковы альфабэт, я задаўся такой жа ідэяй і прыйшоў да высновы, што ўсё гэта пры друкаванні можна зрабіць так проста, што немагчыма нават сабе і ўявіць. Патрэбна ўзяць толькі пяць фігурак, выразна адрозніваючыхся паміж сабой і прыдатных для ўтварэння з іх сістэматычных варыяцый нападобе паказаных у першым шэрагу малюнка 18.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I | | | | | | |
| Короткие | „твердые" | U | O | A | Є | Ы |
| | „мягкие" | Ü | Ö | Ä | Ӭ | Ï |
| Длинные | „твердые" | Ū | Ō | Ā | Є̄ | Ы̄ |
| | „мягкие" | Ǖ | Ȫ | Ǟ | Ӭ̄ | Ï̄ |
| II | | | | | | |
| Короткие носовые | | Ũ | Õ | Ã | Є̃ | Ы̃ |
| Короткие картавые | | UR | OR | AR | ЄR | ЫR |
| и так далее | | | | | | |

Мал.18

*Узор сістэматычнага пазначэння ўсіх галосных гукаў.*

Гэта нізка-тонавы (цьвёрды) еўрапейскі шэраг.

Павярнуўшы гэтыя значкі ўгару нагамі (радок другі), атрымаем высока-тонавы шэраг, дзе перанос патаўшчэння ўгару азначае падвышэнне тыповых абертонаў.

Размясьціўшы іх патаўшчэннем налева (радок трэцці), маем для кожнага із нізка-тонавых глыбіннае (шырокае) вымаўленне.

Размясьціўшы патаўшчэннем направа (радок чацьвёрты), атрымаем глыбіннае (шырокае) вымаўленне мяккіх.

Размясьціўшы насавы значок усярэдзіне кожнага із 20 папярэдніх, атрымаем іх насавое вымаўленне як у французскіх словах: bon, an, un і г.д. (радок пяты).

Дадаўшы гарызантальную рысачку (радок шосты), атрымаем ангельскае картавае вымаўленне.

Паставіўшы гэту ж рысачку ў накірунку зверху ўніз, атрымаем вісклівае кітайскае, паставіўшы гэтую ж рысачку наўскос злева направа, маем магчымасць пазначыць гартаннае вымаўленне.

Зрабіўшы гэта ж наадварот, а потым, у выпадку патрэбы, ператварыўшы рысачкі ў крыжыкі, ці зрабіўшы іх замест простых змеепадобным, можна атрымаць матэрыял для якой заўгодна колькасьці варыянтаў.

Я знарок узяў гэтыя сістэматычныя фігуркі ў адным із тых узораў, якія я распрацаваў яшчэ ў першыя гады зняволення ў Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскага ўмацавання, пішучы іх, праз адсутнасць паперы, на атынкоўцы сваёй камеры (за што пазней атрымаў грубую заўвагу ад кіраўніка гэтай установы, які загадаў іх сцерці). Яны мне вельмі дапамаглі разабрацца ў гэтай мала

распрацаванай вобласьці нашых ведаў яшчэ ў той час, калі не існавала аптрапафонікі.

Мне здаецца, што мы рускія павінны першымі ўзяцца за складанне такога рацыянальнага альфабэту, бо астатнія культурныя народы цалкам не ўмеюць вымаўляць замежныя гукі.

У рукапісным пазначэнні, дзе галоўнае патрабаванне зводзіцца да хуткапісання і дзе, дзякуючы гэтаму, нават і сучасныя пазначэнні літар сталі непадобнымі на друкаваныя, давядзецца, вядома, ісьці асобным эвалюцыйным шляхам, пакінуўшы пакуль усе літары, такімі якімі яны былі, і толькі дадаўшы новыя пазначэнні для патрэбных галосных нападобе нізка-тонавага Є, ці для патрэбных у рускім альфабэце высока-тонавых А, О і U, каб можна было правільна пісаць замежныя найменні.

Прызвычаіцца ж да чытання друкаваных тэкстаў пры гэтых нешматлікіх заменах і пры пакіданні часова нязменнымі ўсіх галосных літар будзе вельмі лёгка. Згодна з толькі-што прыведзенай сістэмай самая частая літара О застаецца нязменнай, а із астатніх некаторыя дастаткова блізкія да рускіх.

Вось, напрыклад, хаця два радкі:

**В⌑ Ж◇РТВОЙ□ П◇Л⌑**

**В БОРЬБ✧ РОКОВОЙ**

Хіба вы не адразу прачытаеце ўсё гэта не навучаючыся спецыяльна, і хіба вы не прызвычаіцеся пасьля (хаця б і непрыемнай) практыкі некалькіх першых дзён чытаць такое друкаванне яшчэ лягчэй, чым звычайнае[21], дзякуючы рэзкаму адрозненню зычных значкоў ад галосных? А для пазнак выразнага чытання ва ўсіх гэтых літар вольныя і вярхі, і нізы.

Для параўнання я прывяду тут некалькі спроб выпрацавання навуковай транскрыпцыі грунтуючыся на прынцыпе захавання нашых старых альфабэтаў, зробленых самымі адукаванымі із сучасных філолагаў, каб паказаць, як гэта нязручна.

Вось узор із Чарнышова:

**Гаршо́к с катло́м бальщу́ю дру́жбу сьве́л,**
**Хатя́ и пызнатьне́й паро́дою кате́л.**

Вось із Багародзіцкага:

**Д’в’æ̂ бо́чк’i jæ̂хъл’ъ: åдна́ с’в’iно́м,**
**Друга́ja же пуста́ja.**

А вось і заходне-еўрапейская транскрыпцыя для рускіх з Фінка, лепшага прафесара рускай мовы ў нядаўні час:.

**adna d’ēvətškəu šłă iz domŭu: vlēs,**

---

[21] Асабліва абуральным з’яўляецца рускі альфабэт, годны толькі для псавання зроку, таму што яго тоўстыя слупкі нічога не пазначаюць дзякуючы сваёй вельмі частай ужываемасьці і чытаем мы толькі дзякуючы ледзь заўважаемым рысачкам якія іх злучаюць. Возьмем, напрыклад, узоры: “шіпі”, “піші”, “ішчі”, “пні”.... Ці не насміханне гэта над здаровым сэнсам.

г.зн.: адна дзяўчынка ішла ад сядзібы ў лес. Нават і не падумаеш адразу, што гэтая фраза напісана «на сучаснай рускай літаратурнай мове»!

Мне здаецца, што для незаахвочанага чытача ўжо і гэтых трох прыкладаў (іншых падобных не паказваю!) цалкам дастаткова, каб бачыць, што ў параўнальнай лінгвістыцы, больш чым у нейкай іншай навуцы, нямагчыма заліць новае віно ў старыя мяхі: занадта яны ўжо дзіравыя, і накладанне лапікаў іх не выправіць.

Патрэбна выпрацаваць, канчаткова вызваліўшыся ад усіх старых традыцый, нешта цалкам новае, каб навука пра чалавечыя мовы не засталася назаўсёды чэзлым дрэўцам, якое расьце не ў вольным грунце, як іншыя навукі, а ў цеснай бочцы не дазваляючай вольна пашырацца яго караням.

Бо ў той жа час, калі нават астраномію і хімію можна выкладаць агульназразумелай мовай, у гэтай вобласьці, якая бліжэй усяго да чалавека і складае падмурак ўсіх яго іншых навук, не ведаеш нават, як і прыступіцца да агульназразумелага выкладання! Як толькі выходзіш за межы гукаў сваёй роднай мовы, так і пачынаеш адчуваць, быццам пішаш для глухіх. А тым часам засвоіць правільнае вымаўленне замежных галосных, для рускіх, зусім няцяжкае.

Калі вы прамаўляеце, напрыклад, хутка два радкі:

*шуш — шэш — шош — шаш — шыш*

и

*цюць — цець — цёць — цяць — цiць*

хіба вы не чуеце вухам, што пасьлядоўныя галосныя гукі другога радка адрозніваюцца ад аднамясцовых з імі галосных першага толькі большай вышынёй свайго тэмбру, асабліва калі “ю” і “і” вы прамаўляеце з больш сціснутымі вуснамі, чым “у” і “о”?

У маім вымаўленні розніца ў вышыні абертонаў тут адчуваецца вухам на цэлую дэцыму. Але кожны раз, калі я спрабаваў навучаць гэтым спосабам знаёмых мне юнакоў і дзяўчат правільнаму вымаўленню французскага і нямецкага Ü ці Ö, яны ўвесь час былі схільны расцягваць Ü у Йу, а Ö у Йо.

Тут, мне здаецца, можа дапамагчы толькі шырокае ўжыванне грамафона, пры чым замежных спевакоў і спявачак лепш за ўсё было б прасіць вымаўляць іхным голасам для запісання на пласьцінку не свае нацыянальныя песні, а, наадварот, песні таго народа, які маюць жаданне навучыць чужому вымаўленню. Неяк аднойчы, будучы за мяжой, я зазірнуў у рускую царкву і пачуў, як французскія хлопчыкі там спявалі: Góspadi pamilüi.

Французскі гук ü на заканчэнні гэтага выказвання атрымліваўся такім выразным, што кожны рускі, які толькі раз пачуў бы яго, ужо не змог бы забыцца. Тое ж самае адбывалася б і пры грамафоне, які прытым жа можна ўжываць і для наступнага арыгінальнага досьведу.

Калі на ім запісана нейкая нота скрыпкі, раяля, флейты ці званочка пры вызначанай хуткасьці вярчэння яго пласьцінкі, і калі вы прымусіце круціцца яе ўдвая хутчэй, то пабачыце, што тон гэтай ноты павялічыцца на актаву, а калі вы прымусіце пласьцінку круціцца ўдвая павольней, то атрымаецца наадварот, але пры ўсіх гэтых акалічнасьцях агульны калектыў абертонаў гуку застанецца тым жа адноснага ўпарадкавання і не пяройдзе ў тэмбр іншай музычнай прылады.

Цалкам не тое атрымліваецца з галасавымі нотамі, у якіх прысутнічаюць і гукі галасавой шчыліны чалавека з яе ўласнымі тэмбравымі абертонамі, і каларатурныя прыгукі паражніны рота, глоткі і носа, грунтуючыся на якіх мы адрозніваем адну

галосную ад іншай. Пры падваенні хуткасьці вярчэння пласьцінкі ўсе тоны галасавой шчыліны паднімуцца, вядома, таксама на актаву, захоўваючы ўсе індывідуальныя асаблівасьці голасу дадзенага сьпевака ці сьпявачкі, а каларатурныя абертоны рота, глоткі і носа, дзякуючы якім мы адрозніваем галосныя адну ад другой, падняўшыся на гэтулькі ж, перамесьцяцца ў шэраг абертонаў іншай галоснай літары, і адбудзецца іх метамарфоза. Так, калі мы вымавім нямецкае **ä** (г.зн. э), надаўшы пласьцінцы хуткасць вярчэння два абарачэнні за секунду, то пры адным абарачэнні за секунду атрымаем нячыстае “о”, а пры трох абрачэннях нячыстае “і”. Дакладна таксама, калі пры адным абарчэні за секунду пласьцінка дае гук “о”, то пры дзвюх ён ператворыцца ў нячыстае еўрапейскае “е”. Недакладнасць адбудзецца праз тое, што колкасць характэрных абертонаў і іхнае ўзаемнае размяшчнне адрозныя ў кожнай галоснай у яе каларатурнай серыі.

Да гэтага дадам яшчэ, што ў нас у ратавой паражніне падвышэнне ці зніжэнне абертонаў дасягаецца, як і ў кожнага іншага рэзанатара, скарачэннем ці падаўжэннем паражніны рота і зменай яго ўнутранай формы. Пры апусканні ўніз мяккага нёба, да рэзанансу рота далучаецца і насавая паражніна, дзякуючы чаму ўсе абертоны зніжаюцца да паўтара разоў, што і надае гуку насавы характар, які, натуральна, губляецца ў грамафоне, калі мы павялічваем хуткасць врчэння пласьцінкі на паўтара разы.

## II. Метатоны галосных фанэм.

Усё, што я паведаміў пра фанэмную, пра лакальную і пра індывідуальную каларатуру галосных гукаў чалавечага вымаўлення, вырабляемых галасавой шчылінай, дапасуе і да зычных гукаў, вырабляемых шумамі ўзнікаючымі ад трэння бруй паветра ў адмыслова ствараемых для гэтага цясьнінах паражніны рота, глоткі і носа, пры чым галасавыя струны заўсёды не ўдзельнічаюць. Дякуючы гэтаму, паўтараю, мы і не атрымліваем складнага вымаўлення із адных галосных і яны дадаюцца як нешта чужое ў рытмы вершаў ці сьпеваў, ствараемыя правільным чаргаваннем толькі націсковa-працяглых галосных з не націсковa-кароткімі галоснымі, выраблянымі галасавой шчылінай.

Рускі дзіцёнак атрымлівае па спадчыне здольнасць вымаўляць толькі гук **Ä**, які чуецца ў яго першым плачы пры з'яўленні на сьвет, потым ён пачынае пераймаць гукі I і U, вымаўляемыя дарослымі, засвойвае цьвёрдыя “А” і “О” і мяккае “Э”, і толькі потым, нашмат пазней, пачынае, дзе патрэбна, замяняць “I” на “Ы”.

Із галосных у яго першымі з'яўляюцца губныя выбуховыя: П, В, Пь, Вь, М і Мь, потым мяккія Ть, Дь, Нь і Й; потым гук К і працяглыя В, С, а пасьля іх Ль і Рь, пры гэтым яны спачатку атаясамляюцца з Й, і толькі адначасоа з Ы дзіцёнак пачынае вымаўляць цьвёрдыя Л і Р.

У залежнасьці ад таго, у якім месцы ратавой паражніны ствараецца шумлівая шчыліна, тыповыя ратавыя зычныя падзяляюцца, як вядома із падручнікаў, на губныя, языкова-зубныя, языкова-дзёснавыя, языков-нёбныя, языкова-глоткавыя і гартанныя. Розныя навукоўцы даюць гэтым аддзелам розныя найменні, але ўсе існуючыя да гэтага часу класіфікацыі не могуць быць названымі навуковымі таму, што ніводная з іх не дае нам магчымасьці прадказваць існаванне галосных, якія не былі ўключаны ў нашу родную мову, але існаванне якіх магчыма ў іншых незнаёмых нам мовах, і не можа вызначыць для нас, як іх патрэбна слушна вымаўляць.

Я тут размяшчаю сваю сістэму, якая дала мне магчымасць пад час першых гадоў адзіночнага заняволення і без настаўнкаў засвоіць вымаўленне некалькіх галосных, не існаваўшых у знаёмых мне да гэтага мовах, настолькі добра, што калі я пазей сустрэўся з ведаючымі іх людзьмі, то ім не давялося рабіць у маім вымаўленні амаль ніякіх паправак. Гэты метад я тады ж назваў метадам гукавых квадратаў.

## Згуртаванне I
## Зычныя гукавыя квадраты з адзінкавым рэзанансам ратавой паражніны.

Я спачатку патлумачу сутнасць свайго метаду на прыкладзе губнога квадрата, бо ў большасьці еўрапейскіх моваў ісуюць усе яго чатыры прадстаўнікі.

### I. Губны фанэматычны квадрат.

Вось гэты квадрат:

Што мы бачым у ім? Гэта ж адзін і той жа губны шум **ф-ф-ф**, вымаўляемы на чатыры розныя лады!

Табліца V.




Першае вымаўленне ф у гэтага губнога гуку з’яўляецца шэптавым, таму што яно не змяняецца і пры шэптавым вымаўленні, хаця б гэты шэпт быў «на цэлы тэатр», як робяць акторы. Гэта – працяглае вымаўленне, таму што яго вы можаце працягваць колькі пажадаеце. Другое вымаўленне “В” таксама з’яўляецца працяглым, але яно ўжо гулкае, таму што тут да “ф” яшчэ далучаецца рэзананс горла, як вы самі лёгка пераканаецеся, прыклаўшы да яго палец: пры вымаўленні “ффф” горла спакойнае, а пры “ввв” яно відавочна вібруе. А як толькі вы пачынаеце вымаўляць “ввв” шэптам, г.зн. без прыгуку горла, так яно і ператвараецца ў “ффф”.

Такімі з’яўляюцца ўласцівасьці верхняга працяглага боку губнога квадрата, а на ніжнім баку вы бачыце іх выбуховыя аналагі: П – з’яўляецца выбуховым Ф, а Б з’яўляецца выбуховым В, таму што яны адрозніваюцца ад першых толькі тым, што гучанне П і Б разрывае для свайго вымаўлення сьціснутыя вусны, а пры вымаўленні Ф і В вусны самі спачатку злёгку адчыняюцца. Гэта азначае П з’яўляецца шэптавым выбуховым Ф, а Б з’яўляецца гулкім выбуховым В; гук першых, працяглых, варыяцый падобен на гучанне струны ў скрыпцы, калі па ёй вядуць смыком, а гук другіх падобен на гук той жа струны, калі яе тузануць.

У рускай мове ўвесь гэты квадрат мае і мяккую (паднёбную) варыяцыю:

Табліца VI.




Працяглы (верхні) бок губнога гукавога квадрата можа вымаўляцца і ўзмоцнена-падоўжана, што пазначаецца падваеннем літары (напр.: аффект, Аввакум), а ніжні выбуховы бок адпаведна гэтаму атрымліваецца як бы з заіканнем (аппетыт, аббат).

У некаторых замежных мовах кожная із гэтых чатырох варыяцый можа мець яшчэ і прыдуўное вымаўленне, пазначаемае ў выбуховых галосных даваннем да яе працяглай варыяцыі (нямецкае Pferd, Pfalz)[22], але гэтае альфабэтнае пазначэнне няправільнае, таму што абодва гукі тут зліліся ў адзін, ды і самі працяглыя Ф і В можна вымаўляць такім жа прыдуўным спосабам пры больш моцна сьціснутых вуснах.

Калі ўзяць для ўсіх варыяцый губнога гуку аднастайнае пазначэнне, напрыклад, у выглядзе Z з дадаваемай рысачкай, то, змяняючы выгляд і размяшчэнне гэтай рысачкі, мы сістэматычна паказалі б (у друку) усе гэтыя варыянты, напрыклад, як на мал. 19 (злева).

Дадаўшы да канцоў рысачак сьцяжкі, мы пазначылі б іх мяккае вымаўленне (мал. 19, справа)[23].

| „твердые" | „мягкие" |
| --- | --- |
| длительные | длительные |
| шопотные [Ф] – [В] гулкие | шопотные [ФЬ] – [ВЬ] гулкие |
| [П] – [Б] | [ПЬ] – [БЬ] |
| взрывные | взрывные. |

Мал. 19
*Губныя фанэматычныя квадраты.*

[22] Гэта зусім не два гукі. Pferd па-нямецку не p-ferd, Pfalz – не p-falz і г.д. Для іх вымаўлення варта больш выцягнуць вусны, чым пры p-f.

[23] Гулкае вымаўленне мы робім толькі пры выдыханні, а шэптавае можа быць зроблена і пры ўдыханні.

Зрабіўшы рысачкі больш чорнымі, мы паказалі б іх узмоцнена-падоўжанае вымаўленне, а завярнуўшы заканчэнне, як у пытальніка, пазначылі б прыдуўное і г.д., і г.д.

## II. Задне-нёбны (глоткавы) фанэматычны квадрат.

Аналагічна губному квадрату, мы маем у рускай мове цалкам і задне-нёбны квадрат:

Табліца VII.

Длительные
Шопотные
Гулкие
х — h
к — г
Взрывные

і адразу заўважаем недастатковасць рускага альфабэту, дзе для гулкага Х я павінен быў бы ўзяць лацінска-нямецкае h, хаця гэты гук існуе і ў рускай мове ў словах “багатый”, “убогій” і г.д., і ў шмат якіх замежных уласных найменнях і прозвішчах, ўвайшоўшых у наш літаратурны ўжытак, якія, дзякуючы гэтаму недахопу нашага альфабэту, мы нават і не ведаем, як па-руску правільна напісаць: Гурон ці Хурон, Гаіці ці Хаіці, Гамбург ці Хамбург, Гановер ці Хановер, Гавана ці Хавана, Гейдэльберг ці Хейдельберг, Гелеспонт ці Хелеспонт, Геракл ці Херакл, Геркуланум ці Херкуланум, Гесен ці Хесен, Гімалаі ці Хімалаі, Галандыя ці Халандыя, Гатэнтот ці Хатэнтот, Гун ці Хун, Гідра ці Хідра, Гіпербарэй ці Хіпербарэй, і гэтак далей без канца, не кажучы ўжо пра шматлікія ўсім вядомыя імёны і прозвішчы: Генрыета ці Хенрыета, Гарун аль Рашыд ці Харун аль Рашыд, Герадот ці Херадот, а таксама Hindenburg, Herzenstein, Halley і г.д. Як іх ні напішы, усё выходзіць не тое, хаця у нашай мове інуе патрэбны гук[24].

„твердые“ | „мягкие“
длительные
шопотные
гулкие
[Х] — [h]
[К] — [Г]
[ХЬ] — [hЬ]
[КЬ] — [ГЬ]
взрывные

Мал. 20

*Глоткавыя фанематычныя квадраты.*

[24] А ва ўкраінцаў наадварот: літара Г раўназначная h, а для выбуховага Г няма пазначэння.

Немагчыма не запоўніць, нарэшце, гэтую відавочную дзіркі ў нашым альфабэце!

Для ўсіх вышэй паказаных задне-нёбных гукаў у рускай мове існуе і мяккая варыяцыя перад галоснымі Е і І, а па асобку яны заўсёды цьвёрдыя. Ёсць для іх і ўзмоцнена-падоўжанае вымаўленне (Аггей, Акка), а ва ўсходніх мовах і прыдуўное, маючае назву гартаннае.

Зразумела, што, узяўшы для ўсіх гэтых варыяцый задне-нёбнага шуму агульнае пазначэнне, напрыклад, у выглядзе С з дадаваемай рысачкай, мы атрымаем магчымасць іх сістэматычнага пазначэння (пры друкаванні), аналагічна губному квадрату (мал. 20, злева).

А з дапамогй сьцяжкоў (мал. 20, справа), патаўшчэнняў і скрыўленняў прыстаўной рысачкі, як у папярэднім выпадку, пазначым іхнае мяккае, узмоцнена-падоўжанае, прыдуўное і ўсе іншыя магчымыя варыянты.

## III. Задне-дзеснавы фанетычны квадрат.

Аналагічна папярэднім, мы маем у гутаркавай рускай мове цалкам і ўвесь задне-дзеснавы квадрат, паходзячы ад варыяцый гуку, які атрымліваецца пры праходзе ці прарыве паветра паміж кончыкам языка і задняй паверхняй верхняй дзясны, але не маем пісьмовага пазначэння для яго гулка-выбуховай варыяцыі, аналагічнай Б ці Г папярэдніх квадратаў.

Возьмем яго спачатку ў «мяккім» вымаўленні:

Табліца VIII.




Тут наша сістэма квадратаў перадусім паказвае, што рускі гук Ч атрымліваецца толькі із мяккага ШЬ, а, такім чынам, цьвёрдаму Ш павінен адпавядаць і цьвёрды ЧЪ, які, сапраўды, і існуе ў італьянскай мове. А потым гэты квадрат вымушае нас шукаць і выбуховага вымаўлення Ж, і мы, сапраўды, знаходзім яго ў шэрагу слоў, якія цалкам пераіначвае наша падрэзаная арфаграфія, так што нават не ведаеш, як іх і напісаць на паперы.

Паспрабуем, як гэта робіцца, пазначыць іх праз псеўда-ДЖ і напішам слова: “вожь(дж)і” замест “вожжы”, “дрожъ(дж)і” і замест “дрожжі”, дожъ(дж)ик замест “дождік”, “можь(дж)ечок” замет “мозжечо”, “уезъ(дж)аю” змест “уезжаю”, “сожъ(дж)ен”, “разможъ(дж)ен”, “можь(дж)евельник”, замет “сожжён”, “разможжен”, “можжевельнік” і г. д.

Паспрабуйце тут гук (ДЖ) вымавіць асобна, як Д і Ж, і вы пабачыце, што атраецца дрэнна. А паспрабуйце выразна вымавіць усе гэтыя словы згодна з напісаннем адпаведна рускай арфаграфіі, і арымаецца яшчэ горш: “вож-жі”, “дрож-жі”, “дож-дік”, “моз-жечок”, “сож-жён”, “размож-жён”... Атрымліваецца цалкам не тое, што вы вымаўляеце, калі робіце гэта не згодна з такім напісаннем, а вольна. Усяго ж горш атрымліваецца, калі мы пазнаем гэтае патрэбнае ў нашай пісьмовасьці выбуховае Ж праз ДЖ у італьянскіх, ангельскіх і ўсходніх назвах і імёнах, дзе яно ўжываецца часта. Выходзіць: “Джірдженті” замест італьянскага

горада Girgenti на Сіцыліі, “Джірджех” замест Girgeh у Ягіпце, “Джаксонвіль” замест Jacksonville. Дакладна гэтак жа мы пішам: “Джаншіев”, перакладаючы із армянскай мовы, “Манчжурія”, перакладаючы із манчжурскай, “Джебель-Нор” – із арабскай, “Джон” і “Джемс” – із ангельскай, “Джіованні і Джулія” – із італьянскай, і вымушаем прастадушнага чытача, не дасведчанага ў замежных мовах, думаць, што ён правільна вымаўляе гэтыя нймені, у якіх гук Д перад Ж цалкам адсутнічае, а проста вымаўляецца выбуховае Ж, такое ж, як і ў вышэйпазначаных рускіх словах: “вожъджі”, “дрожьджі” і г.д.

„твердые“
длительные
шопотные
[ш] [ж]
[чъ] [чжъ]
гулкие
взрывные

„мягкие“
длительные
шопотные
[шь] [жь]
[чь] [чжь]
гулкие
взрывные

Мал. 21

*Задне-дзеснавыя фанематычныя квадраты.*

У наш звычайны друкаваны альфабэт гэтае выбуховае Ж можна б лёгка дадаць у выглядзе перавернутага лацінскага g (ƍ), а ў рукапісны – у выглядзе грэцкай літары δ. У сістэматычнай жа друкаванай транскрыпцыі яго можна было б пазначыць (маючы на ўвазе, каб кожны значок выразна адрозніваўся ад усіх астатніх) на падобе літары ƕ (мал. 21), дзе сьцяжкі на заканчэннях рысачак і іншыя пазначэнні паказвалі б мяккую, узмоцнена-падоўжаную, прыдуўную і іншыя варыяцыі, як у папярэдніх квадратах.

## IV. Пярэдне-дзеснавы ці зубны фанэматычны квадрат.

Ён дасягаецца шумам паветра пры яго праходжанні ці прарыванні ў шчыліну паміж кончыкам языка і пярэднімі зубамі (а ў каго іх няма – заканчэннямі дзёснаў). І ў ім руская мова мае ўсе чатыры варыяцыі, а пісьмовасць толькі тры.

Табліца IX.




Мы бачым, што і тут, як і ў папярэднім квадраце, не хапае правага ніжняга кута, дзе ў дадзеным выпадку павінна знаходзіцца выбуховае З. А ў нас яго пішуць праз Дз вымаўляюць як Д+З, што смяшыць людзей, звыкшыхся ў сябе на радзіме да гулкага Ц, як смяшыць і нас, калі хто замест «*процежу чай*» вымаўляе: «*протсетшу тшай*». А, між іншым, мы час ад часу бываем вымушаны вымаўляць і гэты гук, калі хутка прамаўляем, напрыклад, «*он цыкает і дзыкает і подзяківаеt*», і ў словах, імёнах і прозвішчах беларускага і польскага паходжання: Радзянка, Дзюбінскі, Дзяржынскі, Дзедушынскі, Дзялынскі і г.д., бо ў гэтых абедзвюх мовах гулкае Ц вельмі пашырана.

Дый і не ў іх адных. Гэта псеўда-Дз існуе ў латышскай, у мангольскай, у закаўказскіх і шматлікіх іншых азіяцкіх гаворках. Яно нярэдка сустракаецца і ў італьянскай, напрыклад, zero – нуль, zaffiro – сапфір, zozza – сівуха, mezzo – палова і г.д. Але італьянскі альфабэт такі недастатковы, што ў ім немагчыма нават адразу сказаць, дзе вымаўляць літару Z як З ці як псеўда-ДЗ. Гэта ж можна сказаць і пра літару S, якая служыць у лацінскім альфабэце і для рускага С, і для рускага З. Кажуць, што на старажытна-грэцкай мове так вымаўлялася літара дзэта (ζ), а таму яе і можна б выкарыстаць для пазначэня псеўда-ДЗ у звычайным рускім альфабэце, тым больш, што яна і сваім выглядам нагадвае З. А на яе вымаўленне, як выбуховы гулкі гук, паказвае і тая акалічнасць, што ў італьянскай мове так прамаўляецца z у словах прыйшоўшых туды ад грэкаў і арабаў: zenit – зеніт, zebra – зебра, zaffran – шафран, zona – поле, zinko – цынк, zodiaco – задыяк і г.д.

У сістэматычным жа алфабэце гэты пярэдне-дзеснавы квадрат можна б пазначаць праз S (мал. 22) з надрадковай рысачкай, для пазначэння на ёй мяккага, узмоцнена-працяглага і прыдуўнога вымаўленняў згодна з папярэднімі пазначэннямі.

| „твердые" | „мягкие" |
| --- | --- |
| длительные | длительные |
| шопотные [с] S – S [з] гулкие | шопотные [сь] S – S [зь] гулкие |
| [ц] S – S [цз] | [ць] S – S [цьзь] |
| взрывные | взрывные |

Мал. 22

*Пярэдне-дзеснавыя фанэматычныя квадраты.*

## V. Сярэдне-языковы пярэдне-нёбны фанэматычны квадрат.

Для высвятлення сабе яго складу нам рускім лепш усяго пачынаць ад яго мяккай варыяцыі.

Возьмем працяглы гук Й (лацінскую ёту, j). Прамаўляючы яго шэптам, мы атрымаем яго шэптавую варыяцыю без рэзанансу горла. Пазначым яе праз й-малое. Вымаўляючы яго гучным, гулкім голасам, так, каб палец, прыкладзены да горла, адчуваў яго вібрацыю, мы атрымаем яго гулкую варыяцыю, якую пазначым тут як Й-вялікае. Такім чынам, знаходзім склад верхняга працяглага боку гэтага квадрата. Прамаўляючы шэптам некалькі разоў Й у перэмежку з Ть, мы пабачым, што Ть з'ўляецца яго выбуховай варыяцый. Шэптавае й добра адчуваецца ў слове: шлейф, а гулкае ў словах: [Лейдэн, ладья (ладьја)]. Вымаўляючы гулкае Й, напрыклад, у слове "*пойдi*", у перамежку з "*подьдi*", пераканаемся, што Дь з'яўляецца выбуховай варыяцыя гулкага Й. А вымаўляючы шэптам слова "*пойтi*", у перэмежку з "*потьтi*", пераканаемся, што **ТЬ** з'яўляецца выбуховым шэптавым "й". Вось вам і ўвесь сярэдне-языковы пярэдне-нёбны гукавы квадрат у яго мяккай форме.

Табліца X.




Але Й нездарма мае назву кароткае І, у ім тыя ж абертоны, як і ў галоснай І, толькі шум для рэзанансу ротавай паражніны ствараецца ў яго дзякуючы праходжанню бруі паветра не ў галасавую храстковую шчыліну, а ў цясьніну ўтвораную паміж языком і пярэдняй часткай нёба. Але мы ўжо ведаем, што цьвёрды галосны гук Ы адпавядае мяккаму гуку І, а таму, узяўшы Ы-кароткае, якое пазначым праз Ы̆, мы і атрымаем цьвёрдую варыяцыю кароткага Й. Гэты гук лёгка чуецца ў вымаўленні картавых людзей, калі яны прамаўляюць: я каЫ̆тавы! Яго можна вымавіць шэптам, і тады атрымаецца шэптаваеЫ̆, выбуховай варыяцыяй якога будзе шэптавае **тъ**. А калі вымавім яго гучна з рэзанансам горла, то атрымаецца гулкаеЫ̆, выбуховай варыяцыяй якога будзе цьвёрдае Дъ.

Табліца XI.




Тут наша тэорыя гукавых квадратаў паказвае на недахоп ў рускім альфабэце падзелу Й-кароткага на шэптавае “й”, якім звычайна з'яўляецца рускае “і” на прыканцы слова і ў складах перад шэптавымі зычнымі, і на гулкае Й, якое ўжываецца на пачатку складоў і ўваходзіць у склад нашых літар я (=ja) і ю (=ju). Яго (у выглядзе j) і патрэбна было б кааптаваць у рускі альфабэт, што мае вялікае знаэнне і для транскрыпцыі замежных словаў на падобе Ёрк і г.д. Што ж да кароткагаЫ̆, тое яно ў ангельскай мове вельмі часта пазначацца праз W, у якім выглядзе яго і можна было б кааптаваць.

У адрозненні ад ранейшых чатырох квадратаў гэты сярэдне-язычны квадрат не цалкам устойлівы ў розных асоб і народаў. Справа ў тым, што пярэдняе нёба значнае згодна са сваёй плошчай і, утвараючы на ім шумлівую шчыліну прыцісканнем языка то бліжэй, то далей, можна злёгку перамяняць абертоны

кароткага Ы̆, перакладаючы іх у абертоны кароткага Ŭ, якія і адчуваюцца ў шмат якіх лацінскіх словах, на падобе gaudeamus igitur, і якія пры дрэнным рускім вымаўленні чытаюцца як «*гавдеáмус ігітур*». А ва ўкраінскім вмаўленні Ы̆, пераходнае ў Ŭ, чуецца на пачатку шматлікіх слоў: *Ў'óн* замест ён; *Ў'óна* замест яна і г.д. Зразумела што пры пераходзе тэмбру Ы̆ ў Ŭ, і тэмбр адпавядаючых ім выбуховых Т і Д будзе змяняцца адпаведна, але гэтыя адценні не набылі значнага фанэматычнага характару ні ў адной із еўрапейскіх моваў. Вось нагода, згодна з якой гукі Д і Т я і не называю, як звычайна, зубнымі, тым больш, што людзі не маючыя зубоў іх вельмі лёгка і добра вымаўляюць.

| „твердые" | | „мягкие" | |
|---|---|---|---|
| длительные | | длительные | |
| шопотные: (шопотом: кайтавлю) [Ы̆$_1$] | гулкие: (гулко: кайтавлю) [Ы̆$_2$] | шопотные: шопотом: Я! [Й$_1$] | гулкие: гулко: Я! [Й$_2$] |
| [Т] (аттака) | [Д] (addagio) | [ТЬ] (тятя) | [ДЬ] (дядя) |
| взрывные | | взрывные | |

Мал. 23

*Сярэдне-языковы фанэматычны квадрат. 1-ая варыяцыя: з метатонамі ад Ы.*

Надаючы ўсім варыяцыям гэтага сярэдне-языковага гуку агульнае напісанне ў выглядзе, напрыклад, чатырохкутніка з дададзенай рысай, можна ўсе гэтыя дэталі пазначыць надзвычай проста згодна з папярэднім метадам. Так чатыры варыяцыі мяккага І будуць як на правай палове мал. 23.

Забраўшы адсюль сьцяжкі на рысачках, мы атрымаем пазначэнне іх цьвёрдага вымаўлення (мал. 23, злева), першапачатковым гукам якога будзе кароткае Ы̆, а перайначаным вымаўленнем кароткае Ŭ, як у нямецкім Haupt – кіраўнік, дакладна так жа, як варыянтам вымаўлення кароткага Й будзе кароткае Ü.

Падобна на тое, як першапачатковай фігуркай для толькі-што апісанага гукавога квадрата мы ўзялі наша пазначэнне для галоснага гуку Ы, так і для кароткага Ŭ мы можам узяць яго галоснае пазначэнне (□), дадаўшы да яго (замест аднаго із замыкаючых бакоў) наш агульны знак усіх галосных гукаў "–" рысачку, і тады атрымаецца адпаведныя варыяцыі і для вымаўлення Д і Т, магчымыя ў нейкіх мовах на роўні з нашымі звычайнымі Д і Т (мал. 24).

„твердые" | „мягкие"
длительные | длительные
(Haupt) (Gaudeamus) | (Leüte) (Reüber)
шопотные | гулкие | шопотные | гулкие
взрывные | взрывные

Мал. 24

*Сярэдне-языковы фанэматычны квадрат. 2-ая варыяцыя: з метатонамі ад U.*

У еўрапейскіх мовах, нават і ў нямецкай, кароткае **Ü** зліваецца для вуха з кароткім **Ï**, як магчыма бачыць згодна з рыфмаваннем вершаў лепшымі нямецкімі паэтамі[25]. Але вельмі магчыма існаванне моваў, дзе кожнае із гэтых вымаўленняў мае нешта пазначаючы характар.

Магчыма таксама, што і ў задне-нёбным квадраце гартанныя гукі ($x^h$ , $h^h$ , $k^h$ і $r^h$) каўказскіх народаў[26] могуць адрозніваcца ад прыдуўных вымаўленняў нашага еўрапейскага глоткавага квадрата **χ**-h-k-r, і тады ім давядзецца даць такія ж самыя чатыры сістэматычныя варыяцыі адной асноўнай фігуркі, якія былі тут паказаны для ўсіх папярэдніх гукавых квадратаў. Цалкам жа зразумела, што кожны гук нашых вуснаў можа мець як працяглую, так і выбуховую, як гулкую (з прыгукам горла), так і шэптавую, ці як яе звычайна, але менш характарыстычна завуць: глухую варыяцыю без прыгуку горла.

## Згуртаванне II
## Зычныя фанэмы са складанымі рэзанансамі.

Усё папярэдняе я выказваў пра зычныя, якія вымаўляюцца верхняй ротавай паражнінай без прыгуку насавой паражніны, а таксама і без прыгуку пад'языковай ці бока-языковай часткі ратавой паражніны, якія, застаючыся зачыненымі, не даюць свайго прыгуку пры іх вымаўленні. Але падобна на тое, як мы бачылі ў французскай і партугальскай мовах галосныя гукі з насавым прыгукам, пры адпаведным навучанні артыкуляваць нашай вымаўляльнай прыладай, могуць атрымліваца адпаведныя ім варыяцыі і для галосных, і мы сапраўды маем іх, як напалову насавыя гукі, пры вымаўленні N і M, і як ніжне-языковыя пры вымаўленні L і R.

### I. Два напалову-насавыя гукавыя фанэматычныя квадраты галосных.

У чым іхная сутнасць?

---

[25] Я (магчыма і няправільна) чую кароткае **V̈** ў словах на падобе: Neuheit, Neuigkeit і г.д. А ў спалучэннях дзвюх “е” ў словах: “*полнейший*”, “*древнейший*” мне замест “і” чуецца кароткае (згоднае) *ĕ*.

[26] Я маю на ўвазе ўсходняе вымаўленне словаў нападобе Khiva (Хіва), Kherson (Херсон) ці пры нашым адлюстраванні кашляння: Кхе! Кхе!

Зачынім губы і, напоўніўшы рот паветрам і сьціснуўшы злёгку вусны, пачнём мыкаць. Атрымаем працяглы гук м-м-м, а прыціснуўшы язык да дзясны і раздуўшы ноздры, атрымаем працяглы н-н-н. Гэта азначае, першы гук можа быць названы носа-губным, другі носа-нёбным. Пры першым адначасова даюць рэзананс і насавая паражніна, і ўся верхняя ратавая, а пры другім – да рэзанансу насавой паражніны далучаецца толькі акампанемент задняй ратавай часткі. Як Н, так і М мы можам вымавіць і шэптавым голасам, без акампанементу горла, і гулкім з рэзанансам. Мы рускія вымаўляем іх шэптава не толькі пры натуральным шаптанні ці штучным, але і пры гучнай размове на канцы слоў, напрыклад, у словах “вам”, “нам” ці “фон”, “тон”, і такімі ж яны з'яўляюцца і ў спалучэннях з іншымі шэптавымі галоснымі, напрыклад, у словах: “мстіть”, “Мцэнск”, “десять драхм”. Мы вымаўляем іх ва ўсіх гэтых прыкладах з рэзкім заканчэннем, г.зн. адразу тушым насавы гук адкрыццём зачыненага напачатку яго вымаўлення рота, і гэта не цалкам аналагічна выбуховаму вымаўленню чыстых ротавых галосных. Перад галосным гукам мы прамаўляем Н і М гулка, асабліва калі перад імі размешчана яшчэ гулкая зычная, напрыклад: “знаю”, “змей”, і таксама тушым раптоўным адкрыццём вуснаў для вымаўлення наступнай за імі галоснай. Гэта азначае, што гэты ніжні, хутка спынены бок двух насавых гукавых квадратаў, замяніўшы выбуховую варыяцыю папярэдніх, хаця яна і адмысловая: мы тушым насавы гук не зачыненнем, а адчненнем вуснаў, г.азн. ратавой паражніны, у якую замест носа адразу і накіроўваецца паветра, спыняючы сваё насавое гудзенне.

Табліца XII.




Але ці не бывае гэтых жа гукаў і пры працягулым вымаўленні без гашэння з дапамогай адкрыцця ратавой паражніны? Выяўляецца, што яно бывае больш часта, чым мы самі лічым, але мы яго не заўважаем дзякуючы таму, што ў нас няма для іх адметнай транскрыпцыі. Перад Б мы можам гулка цягнуць гук М колькі заўгодна, напрыклад, у словах: “бомба” (бомммба), ці “амбар” (аммбар), “амбулаторыя” і г.д.; перад П мы можам цягнуць гэты гук шэптава, напрыклад, у словах: “помпа”, “пампасы”, “пампушкі” і г.д.

Дакладна так жа і гук N мы можам гулка цягнуць перад Д, напрыклад, у словах “н-н-да”, “Аннндрей”, “ханнндра”, “пропаганннда” і г.д. Мы можам цягнуць яго і шэптава перад т, напрыклад, у словах “Аннтон”, “аннтрацiт” і г.д. Прыгледзьцеся толькі да якой заўгодна дамы, якая слухае з жывой цікавасьцю нечае апавяданне. Амаль пасьля кожнага выказвання вы пачуеце, у якасьці знакаў, выказваючых яе ўвагу, разнастайныя згодна з тонамі працяглыя губна-насавыя ўсклiканні “мм...” ці дзёсна-насавыя “ннн...”, няправільна пазначаемыя ў нашай пісьмовасьці праз “гм”! А ў спалучэнні дзвюх нн (напрыклад, у “Анна”,

“пламенный”) ці дзвюх мм (напрыклад, у слове “аммоніт”), мы першае “н” ці “м” вымаўляем як працяглае, а другое як кароткае. У ангельскай мове мы бачым працяглае N пад знакам ng (напрыклад, thing – рэч), а ў польскай яно пазначаецца значком пад галоснай.

У тых народаў, дзе кожная із чатырох варыяцый M ці N, ці хоць бы некаторыя з іх, служаць фанэмамі змяняючымі сэнс слова, ўсведамляючая вобласць мозгу вельмі адчувальная да кожнай із гэтых чатырох варыяцый, дый і мы зробім сябе не менш адчувальнымі да іх, як толькі ўвядзём асобныя пазначэнні ў пісьмовасьці для кожнай, таму што ўсе яны прысутнічаюць ў рускай мове. Мяркуючы па большау ці меншаму прыгуку насавой паражніны, маючаму падставу ў тым, прыціскаем мы кончык языка да дзёснаў ці да нёба, атрымліваецца дзьве варыяцыі N, із якіх задняя выразна вызначаецца ў нямецкай мове (напрыклад, у слове Bank), а пярэдняя ў рускай (пры вымаўленні таго ж слова банк). Вы іх лёгка адновіце самі, прамаўляючы абодва названыя гукі, не расчыняючы рот. Вы можаце нават зрабіць з іх нечым нападобным на галосныя, напяваючы якую заўгодна вядомую вам арыю адным носам, не разчыняючы вуснаў; але гэтыя галосныя будуць складаўтвараючымі толькі адна для другой, і не прыстасуюцца да шэрагу звычайных галосных пры вершаскладанні, а пры адчыненых вуснах працяглыя насавыя фанэмы “нн” і “мм” ператвараюцца ў абертоны напалову-насавых французскіх галосных, у словах Bonplan, gamin і г.д.

Гэта азначае, і для M і для H мы маем чатыры варыяцыі: шэптавую і гулкую, працяглую і абрыўную (мал. 25).

„Твердая" вариация носовых согласных звуков

| Губно-носовая фонема | Десно-носовая фонема |
|---|---|
| длительные<br>(помпа) – (бомба)<br>шопотные M гулкие<br>(10драхм) – (мода)<br>обрывные | длительные<br>(фант) – (фонд)<br>шопотные N гулкие<br>(онпошел) – (новости)<br>обрывные |

Мал. 25

*Дзве асноўныя варыяцыі насавых фанэматычных квадратаў: фанэмы M і N.*

Хаця ў еўрапейскіх мовах і адсутнічаюць словы, сэнс якіх змяняўся б у залежнасьці ад таго ці іншага спосабу вымаўлення гэтых гукаў, але сярод вялікай колькасьці не-еўрапейскіх гаворак, без сумневу, ёсць і такія, дзе падобныя варыяцыі надаюць словам новае значэнне, а таму і іх патрэбна далучыць да навукова рацыянальнага альфабэту і нават да нашага звычайнага, хаця б для пазначэння існуючых і ў нас разнастайных насавых адзнак увагі.

## II. Два бока-язычныя фанэматычныя квадраты.

Адмысловым бока-язычным зычным гукам з'яўляецца Л, усе чатыры магчымыя варыяцыі якога мы таксама пазначаем адным напісаннем. Перадусім, паспрабуйце вымавіць гэты гук, прыціснуўшы да верхняй дзясны кончык языка і трошкі адчыніўшы вусны. Выраблячае гук паветра пойдзе із рота звілістым шляхам, і гук Л атрымаецца гулкім і вельмі чыстым. Але паспрабуйце ў гэты ж час прыціснуць пальцамі шчокі да дзясны, і ён заразу ж зробіцца шэптавым. Гэта азначае, што гэта сапраўдны, цалкам адмысловы бока-языковы гук, які можна вымаўляць і гулка, і шэптава.

Гук Л адрозніваецца ад кароткага Ы̆ (які ён і замясьціў у шмат якіх мовах цалкам) тым, што пры вымаўленні апошняга мы не звужваем заднюю частку языка, як пры вымаўленні Л. А завузіўшы гэтую частку так, каб паміж ёю і карэннымі зубамі апынулася хаця з аднаго баку шчыліна для дадатковага рэзанансу размешчанага ў ёй паветра, мы і атрымаем там гуд, які характэрызуе фанэму Л. Пры гэтым могуць утварыцца яшчэ і мясцовыя або індывідуальныя адценні вымаўлення Л у залежнасьці ад таго, куды ўпіраецца кончык языка: у дзёсны ці ў цьвёрдае нёба (у такім выпадку бакавы гуд робіцца мацней).

З нагоды падабенства размяшчэння ратавой паражніны пры гэтым гуку і пры вымаўленні галоснай Ы, мы можам доўга атаясамляць яго з ёю і, напяваючы пры гэтым на розныя тоны Ы, атрымліваць адмысловую галосную з фанэмай гуку Л, гэтак жа, як французы атрымліваюць розныя галосныя з прыгукам працяглага N. Да гэтага роду, відаць, адносіцца чэшская галосная L у слове vlk – воўк. Прыцісьніце кончык языка да верхняй дзясны і паспрабуйце праспяваць кожную галосную, асабліва Ы, і вы самі заўважыце, што яна атрымліваецца ў вас з прыгукам Л; гэта і ёсць толькі-што згаданая чэшская галосная ллл. А пры вымаўленні такім жа чынам “І” атрымаецца галосная лллъ. Пры нашым способе пазначэння галосных сістэматычнымі фігуркамі, гэты прыгук у іх можна пазначыць, напрыклад, кропкай пасярэдзіне дадзенай фігуркі.

У сэнсе зычнага гука фанэма Л падобна да насавых у тым сэнсе, што не можа быць выбуховай, з нагоды цяжкасьці моцна прыціскаць заднюю частку языка да дзясны, дзеля іхнага гвалтоўнага размежавання напорам паветра. Таму гук Л і спыняецца цалкам падобным жа чынам як і насавыя гукі, тушыцельна, г.зн. з дапамогай скасавання гудзячай шчыліны (напрыклад, у словах “кол”, “пол”). Але можна гэтага і не рабіць, г.зн. заканчваць Л з прыціснутым да сярэдзіны нёба языком, і тады атрымаецца тыповая працяглая варыяцыя, як у слове “балда”, дзе Л гулкае, ці ў слове “волхв”, дзе яно шэптавае.

Гэта азначае і тут мы маем квадрат із чатырох варыянтаў (мал. 26, злева).

*Радаводнае дрэва народаў і моваў. (із «Навукі пра жыццё» Луневіча).*

Паглядзім, наколькі гэта зроблена ў наш час і чаго тут не хапае.

Усе існуючыя мовы падзяляюцца зараз на два тыпы: аднаскладова-каранёвыя – інтанацыйныя і шматскладова-каранёвыя, распадаючыяся ў сваю чаргу на суфіксавыя і прэфікса-суфіксавыя.

Да **аднаскладова-каранёвага** тыпу належаць: кітайская, тыбецкая, карэйская, анамская, сіямская, бірманская. У іх, як і ва ўсіх астатніх, сказ складаецца із дзейніка, выказніка і дадаткаў і вызначэнняў да апошняга, але ўсе словы аднаскладовыя, і ўзаемныя іх дачыненні пазначаюцца згодна з іхным месца ў граматычным сказе і дзякуючы зменам інтанацыі пры вымаўленні іхнай адзінкавай галоснай (як зрэдку і ў мовах германскага кораня, напрыклад, у ангельскай, man – чалавек і men – людзі).

Так, пазначаючы гукі звычайным еўрапейскім спосабам, маем у кітайскім: *жэнь ха́й лі* – чалавек шануе карысць і *хай лі жэнь,*– шануючы карысць чалавек. Гэты тып аналагічны суставістым жывёлам у заалогіі, дзе цьвёрдае хіцінавае покрыва, якое замяняе ўнутраны шкілет хрыбетных, не дае магчымасьці для далейшага росту і таму іхныя членікі застаюцца параўнальна дробнымі. Тое ж самае і ў аднаскладова-каранёвых мовах. У іх павелічэнне моўных каранёў абмежавана, а таму і разнастайнасць невялікая, і даводзіцца надаваць асобным словам членістае ўладкаванне, як у казурак. Так, напрыклад, *льу*, як назоўнік, азначае і раса і шлях, а *дай* і сьцяг, і шлях. І вось, каб адрозніць расу і сьцяг ад дарогі, кітаец замест простага *дай* вымаўляе *дай-льу* (шлях-павозка). Можна думаць, што такім жа спачатку быў шлях утварэння і нашых шматскладовых словаў.

Шматзвенныя ланцугі каранёў асабліва пашыраныя ў аднаскладова-каранёвых мовах для пазначэння ўласных імёнаў, якімі, напрыклад, з’яўляюцца асабістыя і геаграфічныя. Мы ўсе, напрыклад, ведаем на геаграфічнай мапе сталіцу Кітая, найменне якой Бый Дзін – Паўночная сталіца – пераіначаная сярэднявечнымі еўрапейскімі вандроўнікамі ў Пекін; ведаем і галоўную раку гэтай вобласьці Хы̆ан-Хэ – Жоўтая рака, – найменне якой пераіначана ў нас у Гоанга і г.д. Тут мы відавочна бачым, як і ўсюды ў чужых мовах, грубыя памылкі ў нашым вымаўленні, якія было б лёгка прадухіліць з дапамогай сістэматычнага альфабэта, а на звычайных для нас, асабліва на заходне-еўрапейскіх мовах, у якіх нават адсутнічае мяккі знак, так жа цяжка выказаць шматлікія кітайскія асэнсаваныя інтанацыі, як навучыць курыцу размаўляць на чалавечай мове.

Самую старажытную і значную па памерах літаратуру развіла ў аднаскладова-лінгвістычным тыпе кітайская мова, але для чытання на ёй патрэбна папярэдне завучыць да 3000 значкоў яе не альфабэтнага напісання, із якіх самыя стражытныя непасрэдна малююць пазначаемы прадмет, ўжываемага і для аднагучнага з ім непозіркавага ўяўлення. Ставячыся вельмі скептычна да перакананняў кітайцаў, што іхны першы гісторык Сіма-Цянь жыў у I стагоддзі да пачатку нашай эры, калі і намаляваў з дапамогай сімвалаў гісторыю кітайскіх падзей, меўшых месца паміж -263 і -122 гадамі, я магу толькі падцвердзіць дастаткова дакладную перадачу астранамічных здарэнняў кітайскімі летапісамі Шы-Цы (што азначае «Гістарычныя запісы», у еўрапейцаў яны перанаічаны ў Шэ-Ке) і Ма-Т(в)ань-Лінь пасьля IV стагоддзя нашай эры, з магчымасьцю выпадковых

дакладных паведамленняў і да яго. Пазначаныя ў іх нябесныя з'явы адпавядаюць ў гэтых межах атрымоўваным з дапамогай астранамічных вылічэнняў.

Асабістыя імёны ў кітайцаў зводзяцца да мянушак, як і ў еўрапейскіх народаў пад час да-хрысьціянскага перыяду. Так, імя толькі-што названага першага кітайскага гісторыка Сіма-Цянь азначае: «Загадчык стайнямі», тое ж, што шталмэйстар па-нямецку. Канфуцый азначае «Беззмястоўны філосаф», што па-кітайску ўяўляе вельмі вялікую ўхвалу (“Кун” – пусты, “Фу” – спадар і “Цзы” – стары). Больш дапасуюць да еўрапейскага густу жаночыя імёны: Йюй фын (дзе н – працяглае) – «Валадарыня вятроў»; Бый Сўэ – «Белы снег»; Сянь-Юй – «Духмяны яспіс» і г.д. Урокі кітайскага вымаўлення я браў у А. Жалязновай, выкладчыцы рускай мовы ў кітайскіх навучальных установах. Але я прашу прабачэння перад жыхарамі вялікай «Сярэдняй квітнеючай дзяржавы» (Чжун-Хўа-Хо) за тое, як мае чытачы будуць вымаўляць іхныя словы, напісаныя з дапамогай нашага аднабокага еўрапейскага альфабэту, і за самую назву іх «кітайцамі», невядомую ў «Кітаі».

Ва ўсякім разе, кітайская мова адна із самых старажытных сярод існучых у наш час, і яе складаная малюнкавая пісьмовасць сведчыць пра вельмі вялікую зрокавую памяць яе старажытных распрацоўшчыкаў, разам з іхнай здольнасьцю злучаць зрокава ўспрымаемыя значкі са слыхавымі адчуваннямі. А гэта магло быць дасягнута толькі дзякуючы моцнаму развіццю ў іх праводзячых шляхоў паміж зрокавым і слыхавымі абласцямі шэрага рэчыва вялікага мозгу.

Пераходзячы зараз да другога тыпу карэннага складу моўных элементаў чалавечай гаворкі, г.азн. да **шматскладова-каранёвых** моваў, я не магу не пазначыць іхнае падабенства з хрыбетнымі жывёламі, у якіх шкілет размяшчаецца ў сярэдзіне цела і дае магчымасць нарастання на значна развітым корані слова яшчэ шматлікіх прыросткаў і атажылкаў, надаючым словам адметныя адценні, пры выпрацаванні, акрамя таго, цэлага шэрагу адмысловых распарадчых часьцінак выказвання ў граматычнай канструкцыі складоў.

Пераходзячы да гэтага тыпу, я не буду разважаць пра тыя чалавечыя мовы, якія не змаглі развіцца да сур'ёзнай пісьмовасьці. Такімі, перадусім, з’яўляецца палінэзійска-малайская згуртаванне на выспах Вялікага Акіяна, да якога належаць: 1) мовы нова-гвінейскіх і аўстралійскіх дзікуноў, 2) меланэзійскія мовы на Фіджы і на іншых выспах да паўночнага-ўсходу ад Аўстраліі, 3) малайскае згуртаванне на Малайскіх і Філіпінскіх выспах і 4) палінезійская ў Палінезіі, Новай Зеландыі і на Мадагаскары. Калі праўда, што і мадагаскарцы размаўляюць на мове із гэтага ж згуртавання, то гэтая акалічнасць будзе выдатным падцверджаннем выказанай мной у папярэдняй кнізе «Хрыстос» тэорыі, згодна з якой цэнтр цяжару зямнога шара перыядычна перасоўваецца праз 12700 гадоў то да поўначы, то да поўдня, з нагоды чаго паўднёвыя архіпелагі перыядычна зліваюцца ў кантыненты, а паўночныя ператвараюцца ў архіпелагі, так што ад іх застаюцца над вадой толькі вяршыні гор. У пагадненні з гэтым будзе і выказаная яшчэ Дарвінам тэорыя каралавых атолаў, заснаваная на тым, што каралы могуць жыць толькі на глыбіні не больш 45 метраў, тады як асноўныя іхныя разгалінаванні зараз пачынаюцца нярэдка на глыбіні каля кіламетра (амаль вярсты) пад сучаснай паверхняй акіяна. Із гэтага відвочна, што стагоддзевае паніжэнне дна паўднёвых кантынентаў перайшло ў адваротнае падвышэнне толькі нядаўна, бо вяршыні гэтых выспаў ужо выступілі над вадой і зведваюць выветрыванне і размыванне.

Да падобнай жа высновы прыводзяць і парэшткі паўночных трацічных мораў, якія некалі злучаліся з Ледавітым акіянам на непараўнальна вялікім

працягу, на што паказваюць іхныя захаваўшыяся да гэтага часу адкладанні. Бо не выклікае ж сумневаў што з тых частак марскога дна, якія першымі выступілі із вады, апошнія адкладанні змываліся дажджамі ў вобласьці, якія яшчэ знаходзіліся пад вадой, і пры павольным апаўзанні берагавой паласы не толькі да поўначы, але і ў бакавыя нізіны і залівы рэштвавыя сляды апошніх дагістарычных мораў маглі захавацца толькі ў такіх залівах. Сухапутныя ж парэштткі жывёл і расьлін звычайна вынішчаюцца і парахнеюць цалкам на паверхні землі, за выключэннех тых выпадкаў, калі яны адразу глыбока заносяцца зямлёй, з нагоды вялікага прарыву вады ў нейкую нізіну, ці калі яны трапляюць у глыбокі вір вялікай ракі.

За папераменнае пераразмяркаванне зямной вады то на поўнач, то на поўдзень сведчаць і мерыдыянальныя трансгрэсіі асобных мораў паўночнага паўшар'я зямлі, выяўляючыяся ў відавочных слядах передгістаычнага стагоддзевага адступлення вады ад паўночных берагоў з затапленнем паўднёвых. Мы бачым, што слядоў такіх пераразмеркаванняў на зямлі шмат, і ў гэтым першасна-важным для чалавецтва пытанні параўнальная філалогія можа зрабіць каштоўныя паслугі нават і геалогіі.

Не меншае значэнне ў гэтым дачыненні можа мець і ўсебаковае даследаванне – як грунтуючысяна гукавым складзе, так і па граматычных формах – амерыканскіх моваў, якія характарызуюцца даследнікамі як полісінтэтычныя, дзе некалькі слоў складаюць як бы адно цэлае, нападобе «ва ўчора-напісанным артыкуле», што, дарэчы, характэрызуе таксама як ангельскую, так і нямецкую мовы.

Тое ж можна сказаць і пра паўднёва-афрыканскія гаворкі, падзяляемыя: 1) на згуртаванне гатэнтоцкіх і бушменскіх моваў Паўднёвай Афрыкі, у якіх існуюць і гукі шчоўкання языком (у кофраў і бушменаў), 2) на згуртаванне кофрскіх моваў на яе Паўднёвым усходзе, 3) на негрскія цэнтральнай Афрыкі ад Сахары да Конга. Іх вывучэнне, даючы мала матэрыялу для даследавання гістарычнага перыяду чалавечай культуры, можа асьвяціць яе перадгістарычныя часы, якія там, дарэчы, даходзяць аж да нашага часу.

Цалкам іншае можна сказаць пра афрыканска-азіяцкія мовы, распадаючыяся на два сямейства: 1) хаміцкія мовы, да якіх прылічваюцца: лівійскія гаворкі берберааў у Марока, Алжыры, Тунісе, Трыпалі і аазісах Сахары, эфіёпскія на поўдні Ягіпта і знікшая зараз копцкая мова і 2) згуртаванне сяміцкіх гаворак, да якіх належаць арабская і сірыйскя, пры чым Аравія і Сірыя геафізічна бліжэй да Афрыкі, чым да Азіі, ды і арабская мова ўжываецца як пануючая на ўсёй прасторы Паўночнай Афрыкі, ад Марока да Ягіпта і Аравіі ўключна, і толькі набыла нацыянальныя адценні ў Сірыі і Месапатаміі. А пад час сярэдніх тагоддзяў яна была пануючай у Гішпаніі, на Сіцыліі, Сардзініі, Корсіцы і ў Паўднёвай Італіі. Гэта, акрамя кітайскай, была адзіная із нееўрапейскіх моваў, развішая пад час сярэдніх стагоддзяў вялікую літаратуру, асабліва калі далучыць да яе і жыдоўскую (г.азн. перасяленчаскую[55]) мову, як яе чыста літаратурнае эміграцкае адгалінаванне.

Галоўная прыкмета сяміцкіх моваў, гэта – частае ўжыванне у іх трох галосных у корані словаў. Хаця у іх існуе значны адсотак і аднаскладовых і двухскладовых моўных каранёў, але трохскладовыя значна пераважаюць.

Другая іхная прыкмета – гэта ўнутраная флексія. Падобна на тое, як у нямецкай мове пазначэнне множнага ліку дасягаецца часта не суфіксам, а

[55] Зноў нагадаю, што слова жыд азначае перасяленец

памякчэннем галоснай у сярэдзіне кораня[56], так і тут: *дабара* – ён гаварыў, а *дубіра* – яму гаварылі; ці *катаба* – ён пісаў, *куціба* – яму пісалі.

У арабскай мове існуюць тры склоны: назоўны, родны і вінавальны, але некаторыя гаворкі гэтага згуртавання не маюць нават і іх. У жыдоўскай сустракаюцца толькі іх рэдкія выпадкі, і склон вызначаецца месцам слова ў выказванні ці адпаведным прыназоўнікам без змены гукавога складу.

Тут упершыню назоўнікавыя найменні набываюць мужчынскі і жаночы род, а час дзеясловаў яшчэ не цалкам сфармаваны. Тут мы звычайна знаходзім толькі здзейснены час і не здзейснены, дзе сучаснасць зліваецца з будучыняй. Так, для дзеяслова пісаць мы маем толькі: *катаб-та* – ты пісаў; *та-ктубу* – ты пішаш і ты напішаш.

Адзначу, што і ў рускай мове цяперашні час часта зліваецца з будучым: «ты яму пішаш гэта заўтра» – даеце вы некаму загад. Але дзякуючы такому зліццю жывое паэтычнае апісанне падзей тут лёгка набывае форму прадказання. Уявіце, напрыклад, што вы напісалі лірычна грунтуючыся на ўспаміне:

«Вось валяцца сьцены нашага горада. Полымя вырываецца із жарала вулкана і пажырае ўсё навокал. Бягуць людзі без аглядкі і кідаюць сваіх блізкіх» і г.д.

Гэтае ж можна прачытаць: «Вось упадуць сьцены нашага горада. Полымя вырвецца із вулкана і папаліць усё. Пабягуць людзі без аглядкі і кінуць сваіх блізкіх».

Пры перакладзе на іншую больш распрацаваную мову вы лічыце апісанне за прадказанне і перадаеце яго ў такім выглядзе. Ці не таму жыдоўская мова мае вельмі шмат прароцтваў?

У гэтым сяміцкім згуртаванні мы маем мовы з унутранай флексіяй, ўяўляючыя далейшую распрацоўку кітайскіх інтанацый пры вымаўленні іхных адзінкавых галосных, але тут разам з ёй з'явіліся ўжо і некаторыя прэфіксы і суфіксы асабліва для надання найменням рэчаў фантастычнага мужчынскага і жаночага роду, што наклала стацевую афарбоўку на ўсю атачаючую сямітаў прыроду і спрыяла развіццю іхных міфаў.

Пра гэта я буду выказвацца больш падрабязна далей, калі буду адзначаць існаванне падобнай жа рысы і ў еўрапейскіх мовах, а зараз перайду да чыста азіяцкіх шматскладовых моваў.

Я прапушчу тут згуртаванні паўночна-заходняга кута Азіі з юкагірскай, каракскай, камчадальскай і чукоцкай мовамі, прапушчу і паўночна-каўказскія мовы (чаркескую, чачэнскую, лязгінскую) і паўднёва-каўказскія (сванецкую, мегрэльскую і грузінскую – рыгарыянскую, на якім пісьмовасць, як кажуць, пачалася яшчэ з IV стагоддзя нашай эры, літаратура з VI і друкарства з 1709 года). Я адзначу толькі даказаную акадэмікам Н. Я. Марам прыналежнасць да гэтага згуртавання таксама і мовы пірынейскіх баскаў, што сведчыць пра тое, што гэтае лінгвістычнае згуртаванне было адным із самых пашыраных пад час дагістарычнага перыяду існавання людзей у Яўропе, і проста перайду да вялізнага згодна з ахопліваемай тэрыторыяй згуртавання суфіксавых моваў, якія запоўнілі ўсю паўночную палову Азіі і значную частку ўсходняй Яўропы і звычайна называемых урала-алтайскімі. У іх цалкам не рапрацаваны прэфіксы, г.азн. прыназоўнікі і іншыя дапаможныя часьцінкі перад словам, а толькі заднія прыстаўкі, як, напрыклад, у турэцкай: *ода* – пакой, *ода-га* – у пакоі, *ода-лар* –

[56] Напрыклад, у ангельскім man (чалавек) і men (людзі), у нямецкім Bruder (брат) і Brüder (браты).

пакоі, *ода-лар-га* – у пакоях. Ці: *Эл* – рука, *эл-ім* – мая рука, *эл-ім-дэ* – у маёй руцэ, *эл-ім-дэ-кі* – змешчаны ў маёй руцэ.

Тут адсутнічаюць адрозненні роду ў назоўніках, а не маючыя склонаў прыметнікі ставяцца (як у ангельскай мове) перад назоўнікамі.

Сюды прылічаюцца:

1. Цюркскае згуртаванне з мовамі: турэцкай, татарскай, кіргізскай, якуцкай, чувашскай, башкірскай і іх дробнымі адгалінаваннямі, спрадвеку называючымі сябе «цюркі». Тут толькі на турэцкай мове, называючай сябе *асманлы*, узнікла з IX стагоддзя значная літаратура, калі ў Малую Азію разм з ісламам прыйшоў арабскі альфабэт, атрымаўшы тут толькі некалькі дадаткаў.

2. Мангольскае згуртаванне з усходне-мангольскай, бурацкай (на поўдні Сібіры) і калмыцкай (у Чжунгарыі) мовамі, маючыя толькі пачатковую літаратуру і некалькі летапісаў.

3. Тунгузскае згуртаванне, з манчжурскай мовай, набыўшай толькі з пачатку XVII стагоддзя сваю першабытную літаратуру грунтуючыся на мангольскім альфабэце, і з некалькімі іншымі адгалінаваннямі, нападобе ламуцкай у Якуцкай вобласьці, існуючай да апошняга часу без нацыянальнай пісьмовасьці.

4. Самаедзкая згуртаванне на паўночным захадзе Старога сьвету маючае чатыры гаворкі на прасторы ад нізоўяў Енісея – да заходняй часткі Архангельскай губерніі, без самастойнай пісьмовасьці.

5. Фінскае згуртаванне, у якім волжска-балгарскае адгалінаванне – мардва, чарамісы, чувашы, і пермскае – пермякі, зыране, вацякі – не набылі да апошняга часу сваёй літаратуры; фіны, эсты, лівы, карэлы, мешчаракі позна далучыліся да пісьмовасьці, а ў вугорскім згуртаванні вацякі і вагулы прайшлі наш гістарычны перыяд таксама непрыкметна.

Ва ўсім гэтым вялікім згуртаванні толькі мадзяры набылі вялікую ролю пад час сярэдніх стагоддзяў у Дунайскай вобласьці і выпрацавалі сваю старажытную літаратуру.

На далёкім усходзе Азіі прадстаўніком суфіксавых моваў з'яўляецца японскае згуртаванне складаючаяся толькі із гаворак японскай мовы. Пад час сярэдніх сталолддзяў яна зведала моцны ўплыў з боку кітайскай культуры і запазычала яе сімвалічную малявальную пісьмовасць, але пачынаючы з XIX стагоддзя далучылася да еўрапейскай культуры.

На поўдні Азіі прадстаўнікамі гэтага згуртавання суфіксавых моваў з'яўляюцца дравідыйскія, на якіх размаўляе галоўная частка насельніцтва Ост-Індскай паўвыспы, і яе ж адгалінаваннямі з'яўляюцца гаворкі: тэлугу, тамміль, малайялім і канара.

Із гэтага мы бачым, што ўсю сярэднюю, паўночную і паўднёвую Азію, з некаторымі адгалінаваннямі ў Еўропу, займаюць суфіксава-аглютыніруючыя мовы, а таму і санскрыцкая мова, выяўляючая поўнае непадабенства з гэтымі мовамі і поўнае падабенства з еўрапейскімі, павінна была быць занесенай у Індыю із Яўропы, на што ёсць, як я пакажу ў асобнай частцы, шмат указанняў і ў ёй самой.

* * *

У процівагу чыста суфіксавым мовам, якія мы разгледзелі вышэй, мы павінны былі б шукаць згуртаванне чыста прэфіксавых моваў, у якіх усе склоны, спражэнні і іншыя граматычныя суадносіны слоў вызначаліся б папярэднічаючымі слову дапаможнымі часьцінкамі – прэфіксамі. Такімі і з'яўляюцца нешматлікія із афрыканскіх моваў, у якіх і скланенні, і спражэнні ўтвараюцца з дапамогай

прыставак да пачатку слоў[57]. Але ўсё гэтае згуртаванне не мела сваёй літаратуры, і таму нам няма патрэбы спыняцца на ім.

Што ж да еўрапейскіх моваў, якія выпрацавалі сваю шырокую пісьмовасць, то ўсе яны з'яўляюцца прэфіксава-суфіксавымі, таму што аб'ядналі ў сабе і афрыканскую сістэму тлумачэння сэнсу з дапамогай прыставак у выглядзе шматлікіх прыназоўнікаў і азіяцкую сістэму задніх суфіксаў, і нават часам запазычылі і аравійскі метад унутранага скланення, як, напрыклад, пры ўтварэнні множнага ліку некаторых нямецкіх і ангельскіх слоў (Vater – Väter, Mutter – Mütter, man – men) і пры пазначэнні склону шляхам змены націску ў рускай: "із сяла́ я бачу сёлы", "із вакна́ я бачу во́кны", "ад ракі́ я бачу рэ́кі", "ад сасны́ я бачу со́сны".

Усе прэфіксы і суфіксы – выпрацаваліся, відаць, са скарачэння слоў, якія першапачаткова мелі рэчаіснае значэнне.

Такімі, між іншым, з'яўляюцца і склонавыя канчаткі нашых прыметнікаў. Возьмем хаця бы словы: "*свеж-ій*", "*свеж-его*", "*свеж-ему*" і г.д. Зразумела, што яны з'яўляюцца першапачатковым словам, да якогаададзена: ій (італьянска-французскае il – ён) і яго першапачатковыя склоны *ie-go, ie-mi*. Так і наш прыназоўнік "*кроме*" паходзіць ад старажытнага назоўніка "*крама*" (край), так і вызначаючая часьцінка сярэдняга роду ў грэцкай мове *та* (τα) з'яўляецца не чым іншым, як славянскім займеннікам *той*, *тая*, *тое*, дададзеным, як і ў славянскіх мовах, у якасьці вызначаючай часьцінкі. А там, дзе ўладкаванне выказвання яшчэ ізаляванае, г.азн. няма ці не было ні распарадчых часьцінак, ні ўнутранай флексіі, іх даводзіцца (ці даводзілася) замяняць жэстыкуляцыяй, якая і з'яўляецца характэрнай рысай бедна-моўных народаў, а як атавістычнае вяртанне да тыпу выказвання продкаў яна характэрызуе і зараз у Еўропе ўсіх заахвочаных прамоўцаў. Але відавочна, што жэсты не могуць быць перададзены з дапамогай пісьмовасьці, а таму такія мовы і непрыдатны для літаратуры. На крайнім захадзе Яўропы мы бачым перавагу прэфіксаў, а на ўсходзе Еўропы – суфіксаў.

Што да назоўнікаў, то мы маем, напрыклад, ангельскую, французскую і італьянску мовы, дзе склоны вызначаюцца зменамі толькі адной часьцінкі ці дадаваннем розных прыназоўнікаў, а ў спражненні ў якасьці прэфікса дадаецца дапаможны дзеяслоў і абавязковыя асабістыя займеннікі: *я, ты, ён*...

Тая акалічнасць, што амаль усе прэфіксы пры напісанні стаяць асобна ад вызначаемых імі слоў, не павінна нас бянтэжыць: з такім жа правам мы маглі б аддзяляць і суфіксы, напісаўшы: "добр-ага", "добр-аму", "добр-ым", "добр-ымі" і г.д. У вымаўленні ж прэфіксы і прыназоўнікі гэтак жа злучаны з коранем, як і суфіксы, і пачалі аддзяляцца толькі пасьля ўзнікнення слоўнікаў дзеля зручнасьці адшукання слоў. Аднак, і ў найбольш прэфіксавых мовах множны лік заўсёды вызначаецца канчаткам, што сведчыць пра тое, што калі на захадзе Яўропы і існавала некалі чыста прэфіксавая мова афрыканскага тыпу, то яна даўно ўжо трансфармавалася пад уплывам спалучаўшыхся з ёй суфіксавых моваў Азіі.

У еўрапейскім суфіксава-прэфіксавым згуртаванні мы маем:

1. Кельцкую мову, парэшткі якой яшчэ захаваліся ў глухіх вёсачках Ірландыі і ў Брэтоні.

2. Італійскія мовы: румынская, знікшыя умбрійская і окская, і асабліва моцна распацаваныя ў літаратурным дачыненні пад час сярэдніх стагоддзяў: італьянская, французскя, гішпанская і партугальская.

---

[57] Бадуэн-дэ-Куртэнэ. Агульны характар гукаў у асобных мовах славянскіх (Руск. філалаг. Веснік, т. V, 1881, стар. 283-300).

3. Германскія гаворкі: гоцкая, нямецкая, галандзкая, ангельская, дацкая, шведзкая, нарвежская і ісландзкая з пачаткамі пісьмовасьці пад час сярэдніх стагоддзяў. У гэтым заходнім згуртаванні асабліва моцна распрацаваны формы дзеясловаў. Не згадваючы ўжо пра шматлікія варянты мінулага часу і нават будучага, у гэтых мовах часам і цяперашні час можна выказаць з дапамогай некалькіх варыянтаў. Так у ангельцаў *I write* – я пішу, *I am writing* – і зараз заняты пісаннем. А ў назоўнікаў, акрамя уласных, яшчэ абавязковы падзел згодна з сэнсам на вызначаныя ці нявызначаныя ва ўсім гэтым згуртаванні.

4. Са славянскіх гаворак: рускай, польскай, чэшскай, славенскай, сербска-харвацкай, баўгарскай і лужыцкай у сярэдняй Германіі, баўгарская мова, відаць, першай далучылася да літаратуры. З іх у рускай асабліва характэрны варыянты дзеясловаў: недасканалы, шматразовы, дасканалы і аднаразавы.

5. Грэцкая мова з вельмі старажытнай літаратурай.

6. Албанская ці ілірыйская.

7. Латышскія гаворкі: літоўская, старажытна-пруская і ўласна латышская, дастаткова позна далучыліся да пісьмовасьці.

8. Іранскія мовы: пярсідзкая, армянская (у ёй згодна з Сіверсам існуюць выбуховыя варыяцыі ангельскіх th і Th, да якіх прыводзяцца і грэцкія $\theta$ і $\delta$) і старажытная зендзкая, г.азн. каментатарская[58] мова, адгалінаваннем якой з'яўляецца і санскрыт (г.азн. штучная мова індускіх брамінаў), і па́лі (сьвятая мова буддыйсцкіх жрацоў), і каві на Яве, і індустані ці ўрду (мова індыйскіх мусульман), і бенгалі, і мураторы, і сіндзі, і хіндзі, і блізкая да яго індустані, на якой размаўляе бліжэйшае да гарадоў насельніцтва Індастана. Пра зендскую ж мову ў Яўропе ўпершыню даведаліся ад Анкеціль-дзю-Перона, які прывёз у Яўропу ў 1762 годзе тэкст Зендавесты 1.

Усё гэта паказвае, што суфікса-прэфіксавыя мовы былі некалі вельмі няправільна названы інда-еўрапейскімі. Гэта сапраўдныя еўрапейскія мовы, якія, развіўшы, дзякуючы сваёй складанасьці і гнуткасьці, велізную літаратуру, пераліліся, паступова пераіначваючыся пад уплывам мясцовых гаворак, пад час сярэдніх стагоддзяў праз іранскае пласкагор'е да самай Індыі, дакладна так жа, як пасьля пашырэння акіянічнага мараплаўства яны пераліліся ў Амерыку, Аўстралію, Паўднёвую Афрыку і на выспы Ціхага акіяна, усюды хутка робячыся мовай культурнай часткі насельніцтва і асіміліруючы мову тубыльцаў. І калі ў наш час ангельская, гішпанская і партугальская мовы ў аддаленых краінах не разышліся моцна ў сваіх граматычных формах і ў вымаўленні з мовамі сваіх радзім, то гэта толькі дзякуючы школьнаму уплыву і агульнасьці літаратуры, чаго не было пад час сярэдніх стагоддзяў паміж Яўропай і Сярэдняй ці Паўднёвай Азіяй.

З такога боку геджання і санскрыт, і індускі палі ніколі не былі ў Індыі народнымі мовамі, ды і пракрыт не можа лічыцца іхный прабацькай, а, наадварот, вульгарызацый.

Тая сэксуалізацыя ўсіх ці амаль усіх прадметаў навакольнага сьвету, падзяляемых на мужчынскія і жаночыя, якую я ўжо пазначаў пры характыразаванні сяміцкіх моваў, дасягнула ў некаторых із еўрапейскіх гаворак поўнага завяршэння. У той час, як у армянскай яе яшчэ няма, у ангельскай ужо існуюць яе зародкі, бо перад назвай кожнага прадмета там можна паставіць he – для пазначэння мужчынскай стаці ці she – для пазначэння жаночай, што робіцца толькі пры

[58] Ад Zend – каментар і Abastâ – закон.

адмысловай патрэбе ў казках. У іншых жа еўрапейскіх мовах гэтае пазначэнне стаці абавязкова ўваходзіць у найменне прадмета, нярэдка ў процівагу здароваму сэнсу. Так, кожнай мышы мы мімаволі прыпісваем жаночую стаць, і кожнаму граку – мужчынскую, хаця пад кожнай із гэтых назваў павінны мецца на ўвазе абодзве стаці. Для неарганічных прадметаў існуе, праўда, сярэдні род у грэцкай, нямецкай і славянскіх мовах, але і ён ужываецца толькі да меншасьці, а ў раманскіх мовах сярэдні род цалкам адсутнічае: там усё мужчынскае ці жаночае.

У сваім цікавым артыкуле пра сувязь граматычнага роду са светапоглядам і настроем людзей, размаўляючых на розных мовах, Бадуэн-дэ-Куртэнэ[59] цалкам дарэчна адзначае, што «сэксуалізацыя ўсяго субстанцыйнага – вось істотная прыкмета гэтага адрознівання» (стар. 58). «Мозг арыя-еўрапейца перапоўнены, – выказваецца ён, – сэксуальнасьцю. Сам бог набыў у яго стацевую афарбоўку». Гэтай жа акалічнасьці Бадуэн-дэ-Куртэнэ прыпісвае і асаблівую магутнасць эратычных элементаў у арыя-еўрапейскай вытанчанай літаратуры, параўнальна з літаратурамі іншых, не сэксуальных моваў, і, ва ўсякім разе, падзел усіх прадметаў прыроды на стаці ляжаў у падставе як астральнай, так і астатняй міфалогіі еўрапейска-аравійскіх народаў.

Гэты маленькі ўсеагульны нарыс чалавечых гаворак, якія і зараз гучаць на зямлі, з'яўляецца вельмі патрэбным для разумення шматлікіх прыватных высноваў і меркаванняў, раскіданых амаль ва ўсіх главах маёй кнігі.

Я не лічу сябе спецыялістам у вобласьці параўналнай лінгвістыкі. Яна знаходзіцца толькі на беразе тых галін чалавечых ведаў, якія я вывучаў больш дасканала. З дзяцінства я ведаў толькі рускую і французскую мовы, пазней  пад час гімназічнага перыяду вывучыў лацінскую, грэцкую, славянскую і нямецкую. Цалкам выпадкова пазнаёміўся ў Маскве з украінскай, блізка сышоўшыся з кіеўскім студэнцкім таварыствам, дзе спявалі ўкраінскія песьні, чыталі вершы Шаўчэнкі, «Наталку Палтаўку» і «Маскаля Чарівніка» Катлярэўскага. Із царкоўных службаў і чытання духоўных кніг я пазнаёміўся з царкоўна-славянскай. А пазней, ужо самастойна, падчас першага зняволення, у 1875-1878 гадах я вывучыў ангельскую, на якой прачытаў тады і пазней асабліва шмат кніг (не менш за некалькі сот тамоў), а, захапіўшыся мовазнаўствам, тады ж пазнаёміўся з італьянскай і гішпанскай (хаця з апошняй і недастаткова добра). На італьянскай я прачытаў усяго дзесяткі два-тры кніг, а на гішпанскай, акрамя падручніка, чытаў некалькі разоў толькі аднаго Дон-Кіхота, з нагоды немагчымасьці дастаць у месцы папярэдняга заняволення нешта іншае. Потым ужо ў Шлісельбургскім умацаванні я пазнаёміўся з дапамогай таварыша па шпацырах, Яновіча, з польскай мовай і вымаўленнем і прачытаў дзясяткі два прывезеных туды польскімі заняволенымі кніг. Са старажытна-жыдоўскай я пазнаёміўся толькі ў 1912 годзе падчас гадавога зняволення за вершы ў Дынабургскім умацавані і чытаў на ёй толькі адну Біблію, а на санскрыцкай, арабскай, навагрэцкай не чытаў нічога, акрамя граматык ды слоўнікаў.

З дэталямі французскага, ангельскага і нямецкага жывога вымаўлення я пазнаёміўся даволі добра падчас майго знаходжання ў гэтых краінах у якасьці эмігранта, а із усходніх гаворак я чуў толькі каўказскія і кітайска-манчжурскія вымаўленні, не вывучаючы іх адмыслова, падчас кароткачасовых знаходжанняў у гэтых краінах.

[59] Лінгвістычныя нататкі. Часопіс Міністэрствы Народнай Асветы. 1900 г., № 10, ч. II.

Я ніколі не чуў большасьці тых гаворак, пра якія згадваў у сваіх папярэдніх пераліках, і ведаю пра іх няшмат больш таго, што напісаў тут, але падобнасць анатамічнага ўладкавання як галасавых, так і слыхавых органаў ва ўсіх людзей прымушае мяне думаць, што ўсе зямныя мовы і гаворкі могуць быць засвоены еўрапейскім дасьледчыкам пасьля адпаведнай трэніроўкі яго слыху і голасу, і лёгка адлюстраваны з дапамогай невялікай колькасьці самастойных значкоў сістэматычнага навуковага альфабэту, без якога немагчыма агульная навуковая філалогія.

Адсутнасць усебаковых ведаў у галіне параўнальнай лінгвістыкі і простая немагчымасць уявіць грунтуючыся на рускім альфабэце (які ўсё ж такі самы лепшы!) нават і тае, што ведаю, пазбаўляе мяне магчымасьці абгрунтаваць шмат якія із маіх другарадных ідэй па гэтаму пытанню, і таму я толькі спынюся на гукавой характарыстыцы нешматлікіх, даступных майму даследаванню, чалавечых моваў.

Я ўжо згадваў раней, што некаторыя гукі вельмі пашыраны ў адных із еўрапейскіх моваў, а ў іншых нават цалкам адсутнічаюць, і ў кожнай мове мы можам размясьціць яе гукі ў выглядзе паступова памяншаючагася шэрага. Так, у рускай пісьмовасьці (выкінуўшы цьвёрды знак і аб'яднаўшы ў адным значку "е", "ѣ" і "э", а ў другім "и" і "і") мы атрымваем шэраг, паказаны ў табліцы XXI, якая размешчана на стар. 171.

Уся гэтая пасьлядоўнасць так мала змяняецца у розных творах, што калі нейкі із іх будзе напісаны невядомымі вам літарамі, то вы лёгка вызначыце гэтыя літары грунтуючыся на толькі-што прыведзенай таблічцы, лічачы, што значок, паўтараючыся каля 72 разоў, будзе адпавядаць літары О, паўтараючыся каля 56 разоў – літары А ці С ці Н і г.д. Пазначыўшы над кожным значком адпавядаючыя яму згодна з часьцінёй ужывання нешматлікія значэнні із гэтай таблічкі, вы лёгка знойдзеце гукі, пры якіх дадзены вам урывак перастае быць іхным не маючым сэнсу спалучэннем, і калі нават некаторыя значкі і будуць вызначаны вамі няправільна, то вы вызначыце адпавядаючыя ім гукі дзякуючы сэнсу. Так аднойчы я прачытаў за адзін вечар шыфраваны ліст, ад якога мой таварыш па «Народнай Волі» страціў ключ, і я аднавіў сам яго ключ. Калі б пісаўшы гэты ліст быў больш вопытны, ён бы ніколі не стаў бы ўжываць для кожнага гуку вымалення толькі адзін значок, а ўзяў бы некалькі, і тады расшыфраваць стала б амаль немагчыма.

У старажытнай пісьмовасьці яшчэ не ведалі пра гэтае пастаянства ў часьціні ўжывання кожнага гуку выказвання ў розных творах на той жа мове і таму не ўмелі, ведаючы агульную часьціню ўжывання ў ім розных гукаў, лёгка разбіраць кожны старажытны незнаёмы альфабэт і вызначаць у ім значэнне кожнага значка, ды і зараз яшчэ гэты метад не дапасаваны ні да іерогліфаў, ні да клінапісу.

На дададенай дыяграматычнай табліцы XX (стар. 168-169) я пазначаю часьціню паўтарэння некаторых гукаў у некалькіх знаёмых мне мовах[60].

---

[60] Для рускай мовы я пералічыў на праміле звычайныя нормы друкарскіх шрыфтоў, пры чым на дыяграме атрымаліся некалькі іншыя лічбы, чым у таблічцы XXI (якая дае спосаб расшыфроўкі лістоў), таму што ў ёй я лічыў гукі, а не літары, падзяліўшы, напрыклад, "Я" на "ІА"; "Ю" на "ЙУ" і г.д. (хаця і аб'яднаў у адной лічбе ненаціскнныя галосныя з націскнымі і не браў да ўвагі іхныя другарадныя адценні і «падгалоснікі»). Тое ж зроблена і для нямецкай мовы. Для ангельскай жа, дзе пісьмовасць вельмі разышлася з вымаўленнем, я проста ўзяў урывак із першай часткі рамана Wilkie Collins: The Moonstone; для французкай зрабіў тое ж грунтуючыся на кніжцы P. H. Jacob: Curiosites des sciences occultes, прычым браў у разлік і нямыя "е", як вымаўляемыя ў паэзіі, і канчатковыя s і t, як вымаўляемыя перад галоснымі. Для італьянскай я ўзяў I главу рамана A. Manzoni: I promessi sposi. Для старажытна-жыдоўскай – XIX главу кнігі Быцця (грунтуючыся

ТАБЛІЦА XX

Часьціня ўжывання розных гукаў вымаўлення ў розных мовах




Ужо пры першым паглядзе на яе бачна характарыстыка ўсіх пазначаных тут моваў і іх адметныя асаблівасьці пры праўнанні адна з другой.

Ужо не спыняючыся на выразна заўважаемай і без дапамогі малюнкаў амаль поўнай адсутнасьці мяккіх зычных гукаў у заходнееўрапейскіх мовах, дзе толькі Л

непасрэдна на напісанні, а не на сучасным вымаўленні). Для старажытна-грэцкай – паданне περί Κροίσου χαί Ἀδράστου. Для лацінскай – урывак із Ціта Лівія пра Фабія і Муніціі і г.д.

заўсёды мяккае, ды N у французскай і Ch у нямецкай часам набываюць высокія абертоны, мы спынімся перадусім на мяккіх і цьвёрдых галосных.

Сярод цьвёрдых галосных мы бачым вялікі правал на месцы Є і Ы, да якіх заходне-еўрапейцы могуць пракладаць у сваім мазгу праводзячыя шляхі толькі з вялікімі намаганнямі, асабліва ў спалучэнні з папярэднічаючай цьвёрдай зычнай. Сярод мяккіх галосных мы бачым поўную адсутнасьць мяккіх Ä, Ö, Ü у рускай, італьянскай, лацінскай, старажытна-грэцкай і старажытна-жыдоўскай мовах, пры чым да ўсведамляючай вобласьці мозгу іхных народаў (калі нехта спецыяльна не трэніраваны) Ä даходзіць у выглядзе "*йа*" Ö – у выглядзе "*йо*", Ü у выглядзе "*йу*". Толькі ў ангельцаў мы бачым поўны набор, ды ў немцаў і французаў, якімі мяккае Ä як-быццам усьведамляецца.

Калі мы будзем працягваць лічыць лацінскую мову за натуральнае адгалінаванне старажытна-італьянскай мовы, то робіцца незразумелым існаванне ў ёй злучэння галосных нападобе "*ae*", паказваючае на мяккае "*ä*" і г.д. Дакладна так жа мы бачым у жыдоўскай пісьмовасьці колькасць фактычна ўжываемых галосных не меншай, чым у італьянскай, і таму наўрад ці ў ёй сапраўды існавала тая вялізарная колькасць дадатковых галосных, якую дае сучасная пунктуацыя, але ў ёй, як мове ўсходняга паходжання, абавязкова павінен быў існаваць на радзіме і гук Ы, знікшы ў сучасным вымаўленні заходне-еўрапейскіх жыдоў, але захаваўшыся ў вымаўленні польска-літоўскіх, якія жывуць у такіх мясцовасьцях, у нацыянальным вымаўленні жывучых там народаў існуе і такі гук. Гэта лепш, чым што-небудзь іншае, паказвае нам, як мясцовае вымаўленне пранікае ў гаворку прынесенай туды замежнай мовы, і як мала пагэтаму мы павінны давяраць правільнасьці нашага чытання лацінскіх, старажытна-грэцкіх і санскрыцкіх слоў.

У аддзеле складана-рэзанантных зычных фанэм мы бачым наогул перавагу N і R над M і L, за выключэннем старажытна-жыдоўскай мовы, дзе атрымліваюцца адваротныя суадносіны. Для ўсіх гэтых фанэм, пры іх вымаўленні еўрапейцамі, мы не бачым у альфабэце асобных значкоў для гулкай і шэптавай, адрыўнай і працяглай варыяцый, хаця яны і існуюць.

У губным гукавым квадраце застаецца не вырашаным пытанне, як патрэбна вымаўляць грэцкую бэту (β). Ці прыраўнаць яе да δ, як у Заходняй Яўропе, ці да b, як на ўсходзе, ці, нарэшце, чытаць яе, як сучасныя грэкі? Апошняе, вядома, заўсёды лепш. Аналагічнае можна сказаць і пра жыдоўскую віту (ב).

У пярэдне-дзеснавым квадраце мы бачым у французкай мове поўную адсутнасьць выбуховых варыяцый (шэптавага *ц* і гулкага *Ц*) і цікавую замену іх у ангельскай мове прыдуўнымі th і Th, ды і ў старажытна-грэцкай сюды ж, напэўна, даводзіцца аднесьці **θ**іту (*Θ*), а ў сярэдне-нёбным квадраце мы ўсюды адзначаем памякчэнне працяглай варыяцыі із **Ы̆** у Й.

Асаблівую ж цікавасць выклікае верхне-дзеснавы (ш, ж, ч, чж) квадрат, які існуе ў поўным выглядзе толькі ў рускай і ангельскай мовах. У нямецкай і старажытна-жыдоўскай із яго існуе толькі Ш, а ў лацінскай і старажытна-грэцкай ён адсутнічае цалкам увесь. У чым падстава такога знікнення, калі на радзіме лацінскай мовы – Італіі – гэты квадрат існуе амаль у поўным складзе? Відавочна, таму, што старажытна-грэцкае вымаўленне прайшло праз фільтр нямецкага сярэдневечнага вымаўлення, а старажытна-італійскае вымаўленне лацінскага – яшчэ раней прайшло праз грэцкі фільтр.

ТАБЛІЦА XXI.

Колькасць рускіх літар на 1000 (без Ъ і са злучэннем разам

И і I; Е і Ѣ; Ф і Θ для разбору рускіх шыфраваных лістоў).

| | | |
|---|---|---|
| 92 (и + і) | 37 (д) | 16 (й) |
| 85 (е + ѣ) | 32 (м) | 13 (х) |
| 72 (о) | 31 (у) | 13 (ч) |
| 57 (а) | 30 (я) | 11 (ж) |
| 56 (с) | 29 (к) | 11 (ю) |
| 55 (н) | 26 (г) | 10 (ц) |
| 50 (т) | 24 (п) | 10 (ш) |
| 49 (в) | 24 (з) | 8 (щ) |
| 48 (р) | 23 (ь) | 7 (ф + ѳ) |
| 38 (л) | 20 (ы) | 5 (э) |
| | 18 (б) | |

Пашыраючыся і на іншыя мовы, такія недахопы літар могуць прывесьці да вельмі важных гістарычных меркаванняў, і таму выяўляецца вельмі патрэбным такое ж фанэма-метрычнае дасьледаванне ўсіх астатніх моваў чалавечага роду і, разам з фанэмаметрыяй патрэбуе таксама і абгрунтаванне антрапафанічнай геаграфіі, дзе часьціня ўжывання кожнага гуку на паверхні зямнога шара была б пазначана рознымі колерамі на геаграфічных мапах.

Да не менш важных высноваў можа прывесьці і дасьледаванне паходжання тых літар, якія злучаюць у сабе два гукі, напрыклад, грэцкія "ксі" і "псі". Вельмі цяжка дапусьціць, каб, маючы і К і З, некаму б прыйшло ў галаву ўжываць для іх спалучэння асобныя літары: ксі ($\xi$=кс) і псі ($\varphi$=пс). Такое скарачэнне яшчэ можна было б дапусьціць дзеля хуткасьці, калі б гэтыя спалучэнні ўжываліся вельмі часта. Але справа ў тым, што яны, наадварот, належаць да асабліва рэдкіх. Спалучэнне *кс* вы сустрэнеце толькі разы два-тры на цэлую старонку, а спалучэнне *пс* нярэдка не знойдзеце і на дзвюх ці трох старонках. Дык навошта ж патрэбна было менавіта для іх ствараць аб'яднаючае напісанне, калі пакінуты без яго самыя частыя са звычайных спалучэнняў? Гэта ж не рускае *щ*, якое ўзнікла таму, што гук *ш* у рускай мове памякчаецца толькі перад *ч*, дзякуючы чаму першы арфаграфіст і не здагадаўся, што тут патрэбна вымаўляць не *ш* і *ч*, а нязвыклы для яго гук *шь* перад *чь*. Зразумела, што ў грэцкай мове адбылося нешта іншае і што *ксі* і *псі* пазначалі нейкія адметныя гукі, не прайшоўшыя праз вушны фільтр нашых сярэднявечных настаўнікаў. Ці не адбылося тут таго ж самага, што здарылася з ператварэннем грэцкага гуку *х* у лацінскае *кс*, дзякуючы няўменню італьянцаў і франкаў вымаўляць першы гук? Але ў такім разе як жа гучалі *ксі* і *псі* ў сябе на радзіме ў тым альфабэце, які грэкі запазычылі для свайго альфабэту? Хутчэй за ўсё *ксі* быў тым персідзка-арабска-італьянска-ангельска-манчжурскім гукам, які мы пераіначылі ў *дж* у словах нападобе арабскага Girgeh (псеўда-Джырджэх),

пярсідзкага Ginnistan (псеўда-Джыністан), італьянскага Giulio (псеўда-Джуліо) ці ангельскага Jems (псеўда-Джэмс) і г.д. З гэтага боку гледжання ва ўсіх усходніх, замежных для грэкаў, імёнах патрэбна *ксі* і чытаць як гулкае Ч, і патрэбна пісаць грунтуючыся на нашай сучаснай арфаграфіі замест, напрыклад, цяжкавымаўляемага Ксеркса – Джордж (Рыгор), нягледзячы на тое, што ён адвароным рыкашэтам пераскочыў у Персію ў выглядзе Хшайаршы.

Што ж да псі (φ), то гэта, напэўна, на радзіме грэцкага альфабэту было гулкае Ц (псеўда-дз) і таму ў замежных для грэка і асабліва ва ўсходніх словах мы заўсёды можам западозрыць пад псі гэты гук і, напрыклад, чытаць Псаметыха як Дзаметых, а грэцкая дзэта (ζ) магла прамаўляцца, як зараз у новагрэкаў, проста "з"; так і чытаецца яна ў жыдоўскім альфабэце (ז).

Усё гэта я, зразумела, кажу не для таго, каб абавязкова настойваць на сваім вымаўленні *ксі* і *псі*, а толькі дзеля таго, каб падкрэсліць, што ў нашым сучасным вымаўленні ўсходніх уласных імёнаў грунуючыся на старажытна-грэцкай транскрыпцыі мы можам апынуцца ў становішчы таго манчжурскага хлопчыка, які замест *сонца* вымаўляў *тонтэ*.

# Глава III.

## Сьвятая лацінка.

Грубая царкоўная лацінка сярэдневечча на захадзе Яўропы
была маці больш дасканалай класічнай лацінкі, а не яе
выродлівай дачкой.

З майго нататкавага сшытка.

Пасьля гэтых папярэдніх заўваг я адважваюся, нарэшце, прыступіцца да пытання, якое, без сумневаў, абудзіць абурэнне ўсіх гарачых патрыётаў лацінскай, санскрыцкай і старажытна-жыдоўскай моваў. Але я спадзяюся, што мае папярэднія нататкі і эцюды пакажуць больш шырока і незаахвочана глядзячым філолагам, што я не такі ўжо і легкадумны ў сваіх высновах пра штучнасць старажытных моваў, як гэта можа здацца з першага позірку.

Я, вядома, цалкам разумею, што пасьля ўсяго таго, што нам выкладалі ў гімназіях, цяжка нават чуць, не ведаючы ўсіх падставаў такой высновы, маё цверджанне, што памёршыя мовы створаны нашчадкамі эмігрантаў із Італіі, Ягіпта і Балканскай паўвыспы, якія забыліся на чужыне гукі свайго роднага вымаўлення, з нагоды чаго старажытна-італійская мова ператварылася пад гоцкім уплывам у лацінку; арабская ператварылася ў Гішпаніі, Ягіпце і Італіі ў старажытна-жыдоўскую, сама назва якой у перакладзе азначае – перасяленчая, а грэка-славянскія мовы Візантыі, перамяшаўшыся ў Індастане ў асяроддзі балканскіх прапаведнікаў Хрыста (якія ўтварылі касту брамінаў) стварылі санскрыцкую мову, падобна таму, як нямецкая мова ператварылася ў асяроддзі польскіх жыдоў у «нова-жыдоўскую».

І вось, само сабой зразумела, што перш, чым працягваць маю працу пра «Хрыста», у якой мне яшчэ не раз давядзецца вяртацца да падобных цверджанняў, мне патрэбна паказаць, што і для іх у мяне ёсць не адны павярхоўныя аналогіі, а сур'ёзныя падставы, здабытыя, галоўным чынам, із цалкам нечаканай для маіх апанентаў вобласьці, із навукі пра гукі чалавечага вымаўлення, падобна таму, як і мае папярэднія пярэчанні супраць праўдзівасьці старажытнай гісторыі і непарыўна

злучанай з ёю містычнай тэалогіі былі заснаваны на астранамічных вылічэннях і геафізічных меркаваннях.

Што такое ўяўляе сабой лацінская мова? Яе найменне паходзіць ад Лацыума, мясцовасьці ў сярэдняй Італіі. Але там са спрадвечных часоў размаўлялі на такой жа італійскай мове, як і ў іншых мясцовасьцях Апенінскай паўвыспы.

Пад уражаннем большай складанасьці граматычных формаў лаціны параўнальна з італьянскай, французскай і гішпанскай мовамі ў некаторых лінгвістаў, якія лічаць яе больш старажытнай, склалася нават уяўленне пра «адваротны рух развіцця моваў у першабытныя часы» і імкненне дапасаваць найвялікшую дасканаласць моваў ледзь ці не да палеалітычнай эпохі.

«У гістарычныя часы, – сцвярджае Патэбня, – мы заўважаем рэгрэс моваў. Лацінка, напрыклад, мае значна больш формаў, чым узнікшыя ад яе раманскія мовы. Пагэтаму ўзыходзячае развіццё моваў павінна быць аднесена да часоў дагістарычных».

І сапраўды, такі ненатуральны рэгрэс раманскіх моваў пад час самай прагрэсіўнай і ў самай грамадзкай эпохі існавання гэтых народаў на зямлі давялося б няўхільна прызнаць і мне, калі б мы пагадзіліся, што лацінская мова сапраўды была некалі народнай і мела ўплыў на развіццё раманскіх моваў, а не сама ўтварылася із італійскай і грэцкай з дамешкам нават і славянскай, як штучны кангламерат, не раней IV стагоддзя нашай эры.

Разгледзім жа яе гукавы склад грунтуючыся на нашых гукавых квадратах.

Лацінскі гук Ц італьянцы вымаўляюць як Ч: *Чэзарэ* замест *Цэзар*; *(дж)энтэ* – замест *гене* (народ); літара *h*, якая ў лацінцы чытаецца як гулкае *x*, цалкам не вымаўляецца італьянцамі, – яны вымаўляюць: *abitare* (жыць) замест *habitare*. А ў лацінцы h хутчэй замяняе цьвёрдае прыдыханне ('), з якім грэкі вымаўлялі б італійскія словы, пачынаючыяся з галосных гукаў. Вось першы след грэцкага ўплыву пры перапрацоўцы старажытна-італійскай мовы ў лацінку.

Літара Z у Італіі чытаецца як рускае Ц; для гука Ш у італійцаў няма адмысловага пазначэння, як у грэкаў, і ён замяняецца спалучэннем SC; лацінская літара U не вымаўляецца італійцамі, як “v” нават і пасьля “q”, а як галосны гук “i” ці як Ŭ-кароткае (зычнае), напрыклад, замест лацінскага кватвор маем quattro (куатро). Літара “x” сустракаецца ў італійскай літаратуры толькі ў замежных словах, у якіх падзяляецца на два гукі “k” і “s”.

У італьянскай мове існуюць чальцы вызначаны, (мужчынскі і жаночы *il* і *la*), і нявызначаны (*uno* і *una*), а ў лацінцы чальцы адсутнчаюць. Лацінскі сярэдні род ў італійскай мове таксама адсутнічае. Характэрыстычнага заканчэння назоўнікаў на -us, адпавядаючага грэцкаму -os, таксама не існуе ў італійскай мове.

Як і калі магла падобная італійская мова ўтварыцца із лацінкі, калі лацінка яму папярэднічала? Мы вымушаны адказаць проста: ніяк не магла ўтварыцца. Гукі вымаўлення ў кожнай краіне трымаюцца асабліва трывала. І гэта не толькі мая думка, а ўсіх сур'ёзных даследчыкаў. «Асаблівасьці вымаўлення, – сведчыць бацька нашай параўнальнай лінгвістыкі, Бадуэн-дэ-Куртэнэ, – захоўваюцца даўжэй, чым сама мова, калі яна: пераходзіць у іншую».

Дакладна такім жа вельмі трывалым з’яўляецца і граматычнае ўладкаванне кожнага нацыянальнага вымаўлення: італійскае чыста прэфіксавае скланенне не магло выпрацавацца із лацінскага чыста суфіксавага. Колькі грэцкіх слоў запазычана сучаснымі нам еўрапейскімі мовамі, і аднак жа кожны народ скланяе іх грунтуючыся на правілах сваёй граматыкі, а не грэцкай!

Гэта азначае, калі імя Цыцэрон вымаўляецца сучаснымі італійцамі як Чычэроне, то так жа яно вымаўлялася народам і ў старажытным Лацыуме; калі слова Genoa (Генуя) вымаўляецца італійцамі як (Дж)еноа, то так яно вымаўлялася і лацінамі. Калі грэцкая ζ (псеўда-дзэта), патрапіла ў італійскую мову ў выглядзе z, вымаўляецца ў ёй як Ц і як псеўда-Дз (асабліва пры падваенні zz, напрыклад, у mezzo – сярэдзіна), то такім жа чынам вымаўлялася яна і ў лацінцы, калі яна некалі была народнай у Паўднёвай Італіі. І калі нейкі Антоній скланяецца зараз у Італіі, як і ўсе мужчынскія імёны, з дапамогай прэфіксаў – Antonio, d'Antonio, ad Antonio, – то яно ніколі і не скланялася там народам грунтуючыся на лацінскім суфіксавым спосабе: Antoni-us, Antoni-i, Antoni-o.

Тлумачэнне ўсіх гэтых псеўда-пераўтварэнняў палягае ў тым, што лацінскае вымаўленне прыйшло да нас не ад італійцаў, а спачатку прафільтравалася праз вымаўленне грэцкіх асаднікаў у самой Паўднёвай Італіі, утвараўшых там некалі пануючы стан і меўшых суфіксавыя скланенні, а потым яно яшчэ прасеялася і праз сярэднявечнае нямецкае вымаўленне, пры чым перадавальнікі, не ўмеўшыя вымаўляць італійскіх гукаў: псеўда-Дз, псеўда-Дж і Ч, замянілі іх сваімі звыклымі, як гэта робіцца ўвесь час і зараз.

Паглядзім, перадусім, якія гукі павінны былі не прайсьці праз падобныя сіты? Якраз тыя, якія мы і падбачылі a priori.

Разглядаючы нашу параўнальную табліцу, мы бачым, што ў еўрапейскай пісьмовасьці добра расрацаваны губны квадрат (ф, в, р, б). Там інуюць асобныя пазначэнні для ўсіх чатырох варыяцый. Толькі ў грэцкая β пазначае адначасова і Б і В, што перапрацавалася ў лацінскім альфабэце, як губная варыяцыя кароткага Ŭ, пісаўшагася пад час старажытнасьці таксама як V. Вось чаму ўсе гэтыя гукі дайшлі да нас нязменнымі і ў лацінцы, і гэта ж паказвае нам, што грэцкая бэта (β) у саміх грэкаў вымаўлялася ў адных словах як Б, а ў іншых – як В, хаця і з прыдуўным адценнем.

Пярэдне-дзеснавы квадрат (с, з, ц, Ц') распрацаваны ў еўрапейскай пісьмовасьці дрэнна; у грэцкай мове для абедзвюх выбуховых варыяцый (ц і Ц') існуе толькі адін знак, а для абедзвюх працяглых выпрацаваліся толькі σ у сярэдзіне слова і ζ на заканчэнні слова. Апошняе, працяглае пазначэнне (S) перайшло без падзелу і ў старажытна-італійскую пісьмовасць, верагодна таму, што ў Італіі гук s амаль заўсёды робіцца гулкім паміж дзьвюма галоснымі, а ў рэдкіх выпадках, калі гэтага няма, аддавалі перавагу ставіць ss замест таго, каб прыдумляць два асобныя напісанні. У такім жа нявызначаным выглядзе гэты гукавы квадрат дайшоў да нас і ў лацінцы, і мы не можам канчаткова быць упэўненымі, дзе літару S у ёй патрэбна чытаць як “з” і дзе як “s”.

Яшчэ цяжэй арыентавацца ў выбуховым пазначэнні Ц у гэтым квадраце. У якіх выпадках яно чыталася гулка, як італійскае падвоенае zz, і ў якіх шэптава, як (большай часткай) італійскае адзіночнае z, калі лацінка сапраўды была народнай у Лацыуме?

Для філолага-тэарэтыка, які не давяраецца цалкам сярэднявечным аўтарытэтам (не ўмеўшым нават і вымавіць гук псеўда-Дз ці вымавіць S як *“з”* не паміж дзвюма галоснымі), гэты недахоп альфабэтных пазначэнняў дадае вялікія цяжкасьці пры аднаўленні правільнага вымаўлення слоў, змяшчаючых літары S і Z у старажытных мовах.

Яшчэ больш гэта мае дачыненне да падобных адна з адной літар C і G. Першая перад галоснымі “е” і “і” чытаецца італійцамі як рускае Ч, немцамі – як Ц, і

французамі – як “s”. А другая літара G італійцамі прамаўляецца як псеўда-Дж таксама толькі перад гэтымі ж дзвюма галоснымі (“е” і “і”), французамі як Ж, немцамі як Г. Але гэтая літара згодна з яе першапачатковым напісаннем (G) з’яўляецца толькі варыяцый С, а згодна з месцам у альфабэтах адпавядае грэцкаму ζ, ці жыдоўскаму ז, якое ў славянскіх альфабэтах падзялілася на Ж і З. Ці не вынікае адсюль, што і ў старажытна-італійскай пісьмовасьці літара С чыталася першапчаткова заўсёды як К ці Г, а літара G прамаўлялася заўсёды як псеўда-Дж, пры чым і само напісанне С з’яўляецца скарочаным італійскім G (г.азн. С чыталася як Ч)?

Калі гэта так, то і словы нападобе Цыцэрон, Цэзар і іншыя падобныя пісаліся першапачаткова як GIGERONE, GESARE (Чжічже-роне, Чжэсарэ), а пазней значок G пачаў скарачацца, і яны ператварыліся грунтуючыся на адным жаргонным вымаўленні ў К (Кесар замест Чэзарэ, Кікерон замест Чычэроне), а гунтуючыся на іншым, нямецка-лацінскім жаргоне, які імкнуўся быць бліжэй да італійскай мовы, але не ўмеўшаму вымаўляць Ч і замяніўшаму яго на “ц”, гэтыя ж імёны набылі наша сучаснае вымаўленне Цэзар, Цыцэрон і г.д.

Як знайсьці выйсьце із гэтага становшча таму, хто жадаў бы правільна вымаўляць гукі С і G перад “е” і “і” такімі, якімі яны сапраўды існавалі ў Лацыуме, а не толькі ў адной нямецкай і французкай інтэлігенцыі эпохі Адраджэння?

Тут цяжка даць агульнае правіла. Але калі мы дапусьцім, што лаціна некалі была там нацыянальнай мовай, то найбольш верагодным вымаўленнем будзе сучаснае народна-італійскае вымаўленне, бо гукавы склад мовы, як я ўжо сказаў, змяняецца на сваёй радзіме больш павольна чым усё астатняе, таму што ён інстынктыўна засвойваецца ўсімі яшчэ пад час ранняга маленства. Без папярэдняга штучнага і працяглага наступнага трэніравання языка, даступнага толькі культурным пластам насельніцтва, незвычайнае вымаўленне замежных слоў у асяроддзі народа цалкам  не прыжываецца. Калі чужое слова прыходзіць да яго звонку, то тубыльныя народныя масы замяняюць усе яго нязвыклыя гукі на свой, звыклы лад, таму што знаходзяцца ў кожнай краіне ў вялізнай большасьці.

Але я вырашаю тут гэтае пытанне нашмат прасьцей: лацінка нідзе і ніколі не была народнай, а толькі мовай прышлай ці цалкам чужой інтэлігенцыі. Падцверджанне гэтага мы зноў хутка пабачым.

Пяройдзем да далейшага даследавання задне-деснавога квадрата італійскага альфабэту. У ім мы ўжо бачылі асобнае пазначэнне для абодвух выбуховых вымаўленняў галосных G (псеўда-Джэ) і С (рускае ЧЪ). А для шэптава-працяглага Ш і для гулка-працяглага Ж у лацінскай пісьмовасьці не хапае асобных пазначэнняў. У італьянскім альфабэце наўзамен іх пішацца камбінацыя SC, чытаючаяся як рускае Ш. Тут мы зноў натыкаемся на непаразуменне адносна лацінкі. Калі верыць традыцыі, то ў ёй цалкам  не існавала задне-дзеснавых гукаў, не было ні Ж, ні Ш, ні псеўда-Дж, ні Ч, із якіх апошнія вельмі пашыраны ва ўсіх гаворках сучаснай і сярэднявечнай Італіі!

Але калі ў першапачатковай Італіі іх не было, то якім жа чынам і адкуль яны з'явіліся ў ёй па час сярэдніх стагоддзяў? Яны не маглі прыйсьці звонку. Ні ў адной із атачаючых краін – ні ў Францыі, ні ў Германіі, ні ў Грэцыі, няма ні гуку псеўда-Дж, ні рускага Чэ (у немцаў замест яго – тшэ). Зразумела, што гэта нацыянальныя італійскія гукі, панаваўшыя тут із дагістарычных часоў. Але калі так, то чаму ж усё гэтае згуртаванне знікла ў лацінцы? І тут зноў можа існаваць толькі адно натуральнае і навуковае тлумачэнне: лацінка гэта жаргон замежнікаў, якія не мелі ў

сваёй роднай мове такіх гукаў і, засвойваючы італійскае вымаўленне па-за межамі Італіі і толькі ў сталым узросьце, ужо не маглі вымавіць нязвыклыя для іх яго гукі.

Не назіраючы верхніх прадстаўнікоў гэтага квадрата ў французкай і нямецкай мовах, мы можам сьмела рабіць выснову, што гэта (у сваёй канчатковай трансфармацыі) была гаворка сярэдневечнай французкай і нямецкай інтэлігенцыі, ўжываўшай лацінску, як міжнародную мову.

Але тут відавочна бралі ўдзел і грэкі.

Падумаем толькі: якой нагодай можна патлумачыць недахоп асобнага напісання для гука Ш, вельмі частага ў італійскай мове? Чаму ён замяняецца ў Італіі камбінацыяй літар **SC**, напрыклад, у словах: scesa (шэза) – схіл, scintillare (шінцілярэ) – зіхацець ці **SCI** перад літарамі A, O і U, напрыклад, sciocco (шокко) – неразумны, sciugare (шугарэ) – асушваць, і гэтак далей? Мы няўхільна павінны із гэтага зрабіць выснову, што калі б лацінскі альфабэт быў выпрацаваны італьянскімі навукоўцамі, якія пазнаёміліся з грэцкай пісьмовасьцю і прыстасавалі яе альфабэт да свайго вымаўлення, то яны зрабілі б так як славяне ці копты, якія, відавочна бачучы яго недастатковасць для сваёй мовы, папоўнілі яго патрэбнымі літарамі. А раз гэтага няма, то лацінскі альфабэт з'яўляецца справай грэкаў, якія, прыехаўшы ў Італію, – набылі жаданне ўціснуць у межы сваёй пісьмовасьці і засвоеную імі італійскую мову. Не ўмеючы вымаўляць італьянскі гук Ш, яны палічылі яго за СК і ўвялі ў сваю літаратуру ў гэтым спалучэнні (sc), якое засталося згодна з традыцыяй і зараз у італійскай літаратуры. А нямецкі фільтр гэтае СК замяніў яшчэ на СЦ і атрымаліся лацінскія словы нападобе nescio (нэсціо) – не ведаю, замест італьянскага нэшо – неразумеючы.

Разгледзім зараз і працяглыя глоткавыя гукі – нямецкае h і рускае Х. У італьянскай мове гэтых гукаў цалкам няма, у французскай – таксама. Таму не павінна іх быць і ў лацінцы, калі яна была народнай у Італіі. А тым часам, першы гук у ёй існуе. І згодна з самым яго напісаннем "h" відаць, што ён уяўляе сабой дададзеную да італійскага альфабэту грэцкую эту (η), якая пачала ўжывацца таму, што грэкі вымаўлялі і італійскія словы пачынаючыяся з галоснай са сваім цьвёрдым, гулкім прыдыханнем, вымаўляючы замест *Uomo* (чалавек) – *homo*, замест *ora* (гадзіна) – *hora* і г.д. Але яшчэ горш атрымалася з гукам Х. Грэкі дадалі і яго як шэптавае прыдыханне ў італійскае слова Re (цар), а пазнейшыя фільтроўшчыкі із франкаў, не ўмеючы вымаўляць гэты гук, падзялілі яго на "кс", і напісанне Rex (якое чыталася як рускае рэх) і пачалі чытаць як рэкс. Усё гэта пацвярджаецца і тым, што гук Х, напісанне якога ўзята ад грэцкага χ, застаўся без змены пад канец словаў і далёка ад Грэцыі – у гішпанскай мове, і яго ператварэнне ў КС магло адбыцца толькі ў такой краіне, дзе цалкам не існавала такога гуку. Яго і няма ў Італіі, не было, такім чынам, і ў старажытным Лацыуме, а таму і з'яўленне грэцкай літары χ у лацінскіх словах (нападобе lux – сьвятло, ці nox – ноч) уяўляецца наступным пераіначваннем ранейшага вымаўлення *лючэ* (luce) і *ночэ* (зараз notte), хаця і цяжка сказаць, дзе і калі яно адбылося.

Загадкавым таксама застаецца і разнастайнасць напісанняў для гуку К. Яго і дагэтуль у Заходняй Яўропе пішуць трыма спосабамі: C, K і Q (ды яшчэ ў дадатак у выглядзе Ch перад "e" і "i") і на дадатак да гэтага яшчэ хаваюць гэты ж гук у напісанні ікс. Усяго ж больш здзіўляе тое, што яго пішуць праз Q толькі перад кароткім u, як і ў сучасным італійскім (напрыклад, у слове *quattro* – чатыры), а ў выглядзе К толькі ў замежных словах. Чаму існавала такая вынаходлівасць для

пазначэння гуку К, тады як для гука Ш не здолелі запазычаць ніводнага асобнага напісання хаця б ад коптаў ці жыдоў?

Усё гэта яшчэ патрабуе асобнай распрацоўкі, пры якой мы ніколі не павінны забывацца, што наша сучаснае лацінскае вымаўленне з'яўляецца вымаўленне германцаў эпохі Адраджэння, і яны нас цалкам тады разумелі б, а калі б мы загаварылі на такой мове з рымлянамі першых стагоддзяў нашай эры, лічачы яе за іхную, то яны не змаглі б нас слухаць ад прыступаў непераадольнага рогату.

Не паглыбляючыся зараз у дэталі, мы разгледзім яшчэ толькі адзін бок закранутага намі пытання.

Я ўжо згадваў, што склоны італьянскай мовы ўтвараюцца з дапамогай папярэдніх распарадчым часьцінак, г.азн. прыназоўнікаў з чальцом вызначаным і нявызначаным, а ў лацінскай чальца няма і склоы ўтвараюцца з дапамогай прыставак пры заканчэні, і я ўжо пазначаў, што натуральнае ператварэнне ў вялікай краіне суфіксавага скланення ў прэфіксавае немагчыма. Я згадваў яшчэ, што, акрамя таго, у італьянцаў назоўнікі і прыметнікі мужчынскага роду звычайна заканчваюцца на -o і жаночага роду – на -a (figlio – сын, figlia – дачка), а на лаціне звычайна на -us і на -a (filius, filia) адпаведна грэцкім -ος і -α. Акрамя таго, у лацінскім жаргоне яшчэ існуе сярэдні род на -um (адпаведна грэцкаму -ον), якога няма ў сучаснай італійска мове і ніколі не было ў мінулым, інакш сярэдні род не знік бы із яго без следу[61].

Адкуль жа паўсталі ўсе гэтыя змены?

Тут, паўтараю зноў, можа быць толькі адзін адказ. Лацінка з'яўляецца італійскай мовай, прайшоўшай пад час сярэдніх стагодзяў праз фільтр грэцкай культуры. Прыехаўшыя грэкі, прызвычаіўшыяся заканчваць імёны мужчынскага роду абавязкова на зычную S, а сярэдняга на N, каланізаваўшы Сіцылію і поўдзень Італіі і ўтварыўшы там верхні стан насельніцтва, пачалі ўжываць для стасункаў з простым народам старажытна-італійскую мову, але надавалі ёй сваю граматыку. Так, замест італійскага dio (бог) атрымася deus, замест fato (лёс) атрымаўся fatum, а ў склонах грэкі-асаднікі пачалі адкідаць італьянскія чальцы і прэфіксы і задаволіліся заменай заканчэння слова згодна з узорам ўсходніх народаў.

Такі метамарфізуюючы ўплыў грэцкай мовы на італійскую пры ўтварэнні із яе лацінкі заўважаецца ў мностве іншых разнастайных дэталяў, калі да іх прыгледзецца крытычна.

Возьмем хаця б займеннік першай асобы «Я». У італійскай мове ён з самых старажытных часоў вымаўляся ***io***. Гэта слова таго ж спрадвечна старажытнага кораня як і рускае – Я (йа) і французскае жё (je), бо ў французаў склад ***йе*** увесь час пераходзіць у ***же***: замест Юпітар яны вымаўляюць Жюпітар, замест Езуса (Ісуса) вымаўляюць Жэзю і г.д. Гэтае наша *Я* – рэштка першапчатковага агульнага асабістага займенніка, таму што ён захаваўся, як на заканчэнні рускіх прыметнікаў у выглядзе ій (“свеж-ій” і г.д.), так і ў італьянскім і французскім вызначаным чальцу il. А ў грэцкай мове, як цалкам выключны мясцовы выпадак, мы маем для *Я* цалкам староннi гукавы комплекс эгó (ἐγώ). І вось у лацінскай мове мы маем гэтае ж самае *эга* (толькі з перамяшчэннем націску на першы склад) якое і замяняе старажытнае ***io***! Зразумела, што такую рэч маглі зрабіць толькі грэкі ў вялікай колькасьці прыехаўшыя ў Італію, ды і то толькі для свайго говару, а не для

[61] У старажытных лацінскіх надпісах мы назіраем для мужчынскага роду непасрэдна грэцкае заканчэнне -ος: Manios замест Manius (Маній), filios замест filius (сын), а ў сярэднім родзе заканчэнне -om замест -um, напрыклад, donom замест donum (дарунак) адпаведна грэцкаму заканчэнню на –ον.

народнага, таму што разам з лацінкай із Італіі знікла і слова эга, саступіўшы месца першапачатковаму ***io***.

Возьмем таксама і самыя ўжываемыя лічбавыя найменні:

| | італійскія | грэцкія | лацінскія |
|---|---|---|---|
| адзін | уно | эйс, энос | унус |
| | (uno) | (εἷς, ἑνός) | (unus) |
| два | дуэ | дзюо | дуо |
| | (due) | (δύο) | (duo) |
| тры | трэ | трэйс | трэс |
| | (tre) | (τρεῖς) | (tres) |

Усюды лацінскія лічбы тут бліжэй да грэцкіх, чым да італійскіх!

Дакладна так жа два самыя першыя словы, якія вымаўляе чалавек:

| | італійскія | грэцкія | лацінскія |
|---|---|---|---|
| маці | мадрэ | мэтэр | матэр |
| | (madre) | (μήτηρ) | (mater) |
| бацька | падрэ | патэр | патэр |
| | (padre) | (πατήρ) | (pater) |

А таксама:

| | італійскія | грэцкія | лацінскія |
|---|---|---|---|
| ноч | ноттэ | нюкс | нокс |
| | (notte) | (νύξ) | (nox) |
| сьвято | лючэ | лейкос | люкс |
| | (luce) | (λειχός) | (lux) |

Адкуль узяліся лацінскія *пáтэр* і *мáтэр*? Ці ад грэцкіх *патэр* і *мэтэр* ці ад італійскіх падрэ і мадрэ? Аднаго іхнага вымаўлення дастаткова, каб зрабіць выснову, што італійская мова і тут часова ўпадобілася грэцкай, а пасьля таго, як апошняя пакінула Італію, у ёй засталіся першапачатковыя словы для бацькі і маці.

Такое ж набліжэнне да грэцкай мовы мы бачым і ў шмат якіх іншых асаблівасьцях лацінкі. Вось хаця б італьянскі певень – il gallo. Адгадаваўшы сабе грэцкі хвост, ён ператварыўся ў лацінскага галлюса (gallus) і паляцеў у Грэцыю пад найменнем галласа (γάλλο), як там і да гэтага часу клічуць французаў, таму што іхныя сярэднявечныя продкі насілі капелюшы з пер'ем пеўня.

* * *

Я не буду далей дадаваць прыкладаў, якімі мог бы запоўніць некалькі старонак, таму што і гэтых цалкам дастаткова.

Усе гэтыя элінізмы замацаваліся з дапамогай узнікшай «лацінскай пісьмовасьці», для якой нават італійскія вучні, пад уплывам сваіх настаўнікаў, імкнуліся, як і яны, ламаць сваю прыродную мову і пісаць на ўзнікшым італа-грэцкім літаратурным жаргоне, грэбуючы свае прыродныя вымаўленні «неадукаванага італійскага насельніцтва». Наколькі гэтая падробка чужога слоўніка пад сваю нацыянальную граматыку з'яўляецца агульным правілам эвалюцыі моваў, мы можам бачыць із таго, што і самі мы скланяем грунтуючыся на сваёй граматыцы ўсе прыходзячыя да нас замежныя словы і прозвішчы і нават пераіначваем іх, завучы Боклем Бёкэля, Дарвіным Дарўіна і г.д.

А нашы першыя пісьменнікі дадавалі да замежных слоў і звыклыя для іх рускія канчаткі. Із Дзідро ў іх атрымаўся Дзідзерот, із Мара – Марат, а на лаціне аўтары эпохі Адраджэння пісалі б гэтага самага Марата – Maratus, дадаючы звычайны канчатак -us і да ўсіх замежных імёнаў.

Такім чынам, із італійскай мовы і атрымаўся ненаўмысна той міжнародны лацінскі жаргон, нападобе самаадвольна зарадзіўшагася эсперанто ці валяпюка, на

якім узнікла свая паэзія, літаратура і навука, спыніўшыя сваё развіццё толькі ў XIX стагоддзі, калі развіццё асьветы ў еўрапейскіх краінах, падняўшайся на гэтай самай штучнай міжнароднай гаворцы, дасягнула такога пашырэння, пры якім стала магчымым з'яўленне нацыянальных літаратур на прыродных мовах.

Грунтуючыся на падобных жа падставах, як пабачым далей, у паўднёва-ўсходняй вобласьці басейна Міжземнага мора ўзнік і той міжнародны жаргон арабскай мовы, які мы завём біблейскай ці старажытна-жыдоўскай мовай (г.азн. старажытна-перасяленчай, эміграцкай), таксама ніколі не існаваўшай у выглядзе нейкай нацыянальнай мовы, і санскрыцкая мова, як лаціна-грэка-славянскі жаргон, дайшоўшы да самой Індыі.

* * *

Мне застаецца толькі высветліць, калі ж на лацінскай мове створана тая шматлікая літаратура, якой мы далі назву класічная?

Вядома, не раней, чым утварылася і сама лацінская мова із італійскай пад уплывам культурных грэцкіх асаднікаў. А гэтыя асаднікі не маглі з'явіцца ў Паўднёвай Італіі раней чым былі вынайдзены караблі далёкага плавання, і ўжо адна гэтая акалічнасць, пры даказанай мной (у другой кнізе «Хрыстос») неабгрунтаванасьці легендаў пра Цір і Сідон, паказвае, што ўтварэнне лацінкі не магло пачацца ў Італіі да пачатку нашай эры і нават да таго часу, пакуль стасункі паміж элінскім усходам і раманскім захадам зрабіліся сталымі.

У наш час панавання эвалюцыйнай тэорыі ва ўсім арганічным сьвеце, калі самаадвольнае нараджэнне не толькі людзей і буйных жывёл, але нават і блохаў із вільгаці і бруду падвергнута навуковаму астракізму, калі тэорыя геалагічных катастроф Кюўе даўно ўжо аспрэчана Ляйэлем, цяжка нават уявіць сабе, якім чынам у гістарычных навуках яшчэ застаецца ранейшая метафізічная ідэя пра раптоўныя з'яўленні і раптоўныя ж, не пакідаючыя сьледу, знікненні высокаразвітых чалавечых культур. Возьмем хаця б нашы сучасныя ўяўленні пра лацінскую класічную літаратуру.

Адносна яе раптоўнага з'яўлення яшчэ можна сказаць, што да той пары, пакуль не аспрэчана старажытнасьць такой жа грэцкай літаратуры (а я гэта зраблю далей), такі незвычайны выпадак можна патлумачыць староннім уплывам: «начытаўшыся, маўляў, грэцкіх пісьменнікаў, італьянцы пачалі і самі пісаць такія ж рэчы, прыстасаваўшы, як мы бачылі і сваю ўласную мову да грэцкіх граматычных формаў і гукавога складу».

Што можа быць прасьцей гэтага? Такое паходжанне лацінскай літаратуры пацвердзіць нават і маю тэорыю паходжання лацінскай мовы і будзе ў поўнай згодзе з сучаснымі з'явамі жыцця, напрыклад, з хуткім пераймannem заходне-еўрапейскай белетрыстыкі і паэзіі ў Расіі.

Але як жа патлумачыць раптоўнае знікненне ўсяго гэтага, калі верыць нашай храналогіі, у II стагоддзі нашай эры, зараз жа пасьля таго, як Апулей напісаў свайго «Залатога Асла» і спачыў моцным сном без снобачанняў разам з усімі сваімі папярэднікамі на тысячу з гакам гадоў, аж да 1469 года нашай эры, калі недзе заваляўшыяся (але быццам бы клапатліва захоўваўшыяся на працягу шматлікіх пакаленняў невядомымі добрымі душамі!) творы старажытных класікаў былі знойдзены выдаўцамі (гл. табл. XXII)? Як патлумачыць з'яўленне іхных непасрэдных пераймальнікаў менавіта ў XV стагоддзі?

ТАБЛІЦА XXII

*Схематызм уяўляемага раптоўнага выбуху лацінскай літаратуры каля пачатку нашай эры і яе як быццам бы тысячагадовага сну ад II да XII стагоддзя, калі, таксама раптам прачнуўшыся, яна дала пачатак нашым сучасным літаратурам.*

| Гады і стагоддзі | Трагедыя | Камедыя | Эпічная проза | Сатыра | Дыдактычная паэзія | Элегія і лірыка | Гісторыя | Аратарства | Філасофія і навука | Раман |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| +1300 і XIII ст. | Ўсе ніжэй пералічаныя аўтары «адкрываюцца» адзін за адным пасьля тысячагадовай невядомасьці і папаўняюцца шматлікімі цалкам такімі ж творамі то сапраўднымі то апакрыфічнымі, аж да XVIII стагоддзя нашай эры. | | | | | | | | | |
| +1200 і XII ст. | Пачатак так званай «Эпохі Адраджэння». | | | | | | | | | |
| +1100 і XI ст. | Усе гэтыя роды літаратуры, мільгануўшы, як асляпляльная маланка на мяжы нашай эры, раптам засынаюць у 170 годзе на тысячу гадоў, як казачныя заварожаныя красуні, летаргічным сном для таго, каб зноў прачнуцца на пачатку «Эпохі Адраджэнні» на той жа самай, ужо зрабіўшайся мёртвай мове, нічога не згубіўшы і нічога не набыўшы за гэты працяглы час. | | | | | | | | | |
| +1000 і X ст. | | | | | | | | | | |
| +900 і IX ст. | | | | | | | | | | |
| +800 і VIII ст. | | | | | | | | | | |
| +700 і VII ст. | | | | | | | | | | |
| +600 і VI ст. | | | | | | | | | | |
| +500 V ст. | | | | | | | | | | |
| +400 IV ст. | | | | | | | | | | |
| +300 і III ст. | | | | | | | | | | |
| +200 і II стагоддзе | | | | Апулей, +170.<br>Ювенал +120.<br>Марцыял+102. | | | Тацыт, +117 | | Пліній Мл., +114. | Апулей, +170. |
| +100 і I стагоддзе | | | Валер. Флак, +90<br>Лукіян, +65<br>Авідый, +17 | Пярсей, +62 | Макілій, +1 у.<br>Авідый, +17 | Авідый, +17 | Валер. Максім, +30.<br>Ціт Лівій, +17 | Л. Крас, +91 | Квінтылін, +100.<br>Пліній Ст., +79<br>Сенека, +34 | Пятроній, +65 |
| -I ст. -100 | Аэцый, -90 | Пампоній, Навін Ліберій,-95 | Вяргілій, -19 | Гарацый, -8.<br>Тэрэнцый, -27 | Вяргілій,-19.<br>Лукрэцый, -55 | Гарацый, -8.<br>Прапэрцый, -16.<br>Тыбул, -19.<br>Катул, -54. | Корн. Непат, -24.<br>Салюстый, -35.<br>Юлій Цэзар, -44 | Цыцэрон, -43.<br>Гартэнзій, -50.<br>Марк Антоній, -57. | | |
| -II ст. -200 | Пакувій, -130.<br>Энній, | Тэрэнцый, -159.<br>Плаўт, | Энній (вынайшаў гекзам | Луцылій, -103 | | | | Катон, -152 | | |

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | -186 | -184 | етр) - 186 | | | | | | | | |
| -III ст. -300 | Лівій Андронік, - 240 | | | | | | | | | | |
| -IV ст. -400 | Ніякай літаратуры не існуе | | | | | | | | | | |
| -V ст. -500 | | | | | | | | | | | |
| -VI ст. -600 | | | | | | | | | | | |
| -VII ст. -700 | | | | | | | | | | | |
| -VIII ст. -800 | Уяўляемае заснаванне горада Рыма | | | | | | | | | | |

Зірніце на дадзеную табліцу, дзе збоку пазначаны гады па пяцідзесяцігоддзях, а пасярэдзіне адпавядаючыя ім трагікі, комікі, сатырыкі і г.д. Цэлая іхная куча раптам з’явілася аднекуль у латынізаванай Італіі паміж -150 і +150 гадамі нашай эры, а потым, і прытым пры адсутнасьці якіх бы то ні было геалагічных ці сацыяльных катастроф, усё спынілася на 1000 гадоў, пасьля чаго раптам зноў адрадзілая тут жа і дало пышныя парасткі ва ўсёй Яўропе. Ці магчыма ў рэчаісным жыцці нешта падобнае?

Апавяданні пра волатаў, заснуўшых на тысячу гадоў, мы, праўда, сустракаем у чароўных казках, але і там ажыўшы віцязь бачыць праз тысячу гадоў усё новае, усё чужое і вельмі цяжка прыстасоўваецца да пайшоўшага далёка жыцця, а не прыстасоўвае, наадварот, яго да сябе. А, тым часам, нам кажуць, што менавіта гэта самае здарылася адразу ж пасьля таго, як выдаўцы XV стагоддзя вывелі із заварожаных магільняў спакойна там спачываўшых больш 1000 гадоў лацінскіх і грэцкіх пісьменнікаў! Пачалася – запэўнаюць нас – нова-класічная эпоха ў заходне-еўрапейскай літаратуры, ўяўляўшая сабой ажыванне із памёршых грэцкіх і лацінскіх аўтараў, і іхнае далейшае эвалюцыйнае развіццё.

Перш за ўсё, у Францыі з'явіліся – кажуць нам – пад іхным уплывам драматургі Жодэль (1532-1573), Гарнье (1534-1590) і Мерэ (1604-1687). Потым ў Ангельшчыне з'явіўся Шэкспір (1564-1616), першыя драмы якога «Перыкл», «Ціт Андронік», «Два веронцы», «Сон пад час летняй ночы» – адрозніваюцца ад лацінскіх і французскіх толькі яго вялізнай таленавітасьцю. З'явіліся сатыры і драмы Драйдана (1631-1700), сатырычныя, дыдактычныя і гумарыстычныя паэмы Аляксандра Попа (1688-1714). Усе яны маюць характар непасрэднага працягу лацінскіх пісьменнікаў, якія скончылі, быццам бы, сваё пісьменніцтва яшчэ ў II стагоддзі нашай эры і былі забытымі больш за 1000 гадоў. Адрадзіўся і іхны светапогляд, і іхныя формы выкладання, і іхны змест, і прыёмы творчасьці, і нават іхныя непрыстойнасьці, але толькі паступова ўдасканальваемыя. Адначасна з гэтым неа-класіцызм ахоплівае і Германію і пануе там аж да Лесінга (1729-1781) і, нарэшце, перакідаецца ў Расію, адбіўшыся ў лірыцы Ламаносава (1711-1765), у трагедыях і камедыях Сумарокава (1718-1777), адны назвы якіх «Саміра», «Нарцыс» ці «Цэфал і Пракрыса» паказваюць на ўплыў палеа-класіцызму, закапанага ранейшымі гісторыкамі ў бяздонную глыбіню тысячы гадоў!

Потым у Францыі эвалюцыйна з'явіліся больш высокія адгалінаванні гэтай школы: Карнэль (1606-1684), Расін (1639-1699), Мальер (1622-1763), якія

перанесьлі месца дзеяння сваіх п'ес ужо на нацыянальную глебу, а із паэтаў – Буало (1636-1711). Адначасна з драмай удасканальваецца і паэзія, у якую ўводзяцца рыфма і новыя памеры, замяніўшыя ранейшы лацінска-грэцкі гекзаметр, і арыстоцелева мудрасць ператвараецца ў сучасную. Адным словам, усё развіваецца так, як калі б неа-класіцызм XVI-XVIII стагоддзяў быў простым працягам палеа-класіцызму, які няправільна быў аднесены да пачатку нашай эры, ды і пераход неа-класіцызму ў сучасную рэалістычную драму, раман і паэму як-быццам не з'яўляецца яго нечаканым заканчэннем, а толькі далейшай эвалюцыяй чалавечай вытанчанай літаратуры, паднімаючайся амаль ці не з кожным дзесяцігоддзем на больш высокую прыступку!

Мы павінны раз і назаўсёды пакінуць наіўную думку, што літаратура і яе паступовы прагрэс з’яўляецца справай чалавечай самаволі, а не няўхільным вынікам эвалюцыі чалавечай псіхікі і чалавечага вымаўлення. Мы ўсміхаемся, калі чытаем у Бібліі: «І сказалі людзі: наробім цэглы і будзем будаваць із яе сядзібы! І пачалі яны будаваць сядзібы із цэглы». «І сказалі людзі: пойдзем і пабудуем вежу да нябёс! І пачалі будаваць вежу да нябёс».

Дакладна таксама павінны мы ўсміхацца і тады, калі чытаем пра тое, быццам неа-класікі XV-XVIII стагоддзяў раптам надумалі працягваць тую справу, якая знікла з паверхні зямнога шара за тысячу гадоў да іх. Ніводнае ж дрэва не можа вырасьці на адлегласьці ў тысячу кіламетраў ад свайго кораня! А калі гэты корань у дадатак павінен быў яшчэ і штогадова гнісьці за час тысячагадовага перыяду свайго знаходжання на зямлі без парасткаў, то такая справа робіцца ўдвая немагчымай.

Адзіным разумным адказам на гэтае пытанне можа быць толькі адно: падобна таму, як заканадаўства Майсея і Арона было перанесена із Везувія на Сінай, ды ў дадатак яшчэ і адсунута на тысячу з лішкам гадоў назад, так і лаціна-грэцкая класічная літаратура саспела напярэдадні неа-класіцызму, галоўным чынам, у Сярэдняй і Паўднёвай Яўропе, на тагачасных міжнародных мовах, але была апакрыфікавана фіктыўнымі старажытнымі аўтарамі, самыя імёны якіх былі прыдуманы тады ж ці проста служылі псеўданімамі, а ў некаторых рэдкіх выпадках маглі, вядома, належаць і сапраўдным пісьменнікам пачатку сярэдніх стагоддзяў, творы якіх былі забыты.

З гэтага боку гледжання і тая «кухонная лацінка», на якой напісаны сярэднявечныя клерыкальныя і навуковыя творы, з'яўляецца не пераражджэннем класічнай лаціны, а яе папярэдніцай, і сама лацінская мова на сваім пачатку была мовай святароў і манахаў, а не навукоўцаў. Гэта была такая ж сьвятая мова, як і царкоўнаславянская ў рускім набажэнстве і рускай царкоўнай літаратуры, і калі мы хочам пазнаёміцца з ёй у тым выглядзе, якой яна сапраўды была ў старажытнасьці, то нам патрэбна ісьці паслухаць яе не ў нашы аўдыторыі, а ў каталіцкую царкву, і чытаць не Вяргілія і Гарацыя, а тамтэйшыя лацінскія малітоўнікі і «Жыцці Сьвятых».

Хутчэй за усё яе эвалюцыя, аж да класічнай, ішла такім шляхам. Гэта спачатку была мова італійскіх набажэнстваў каля падножжа Этны ці Везувія. Этна па-грэцку азначае – Паганская ці Народная, а Везувій па-жыдоўску азначае – Цвік Жаху. Супярэчнасьці адзінабожніцкіх жрацоў Грамабоя з паганскімі жрацамі зводзілася, напэўна, да таго: дзе патрэбна маліцца? каля падножжа Этны ці каля падножжа Везувія? І куды патрэбна ладзіць пілігрымствы: на Везувій ці на Этну? А так як Везувій быў бліжэй чым Этна ідучы сухапутным шляхам із сярэдняй

Яўропы, то культ Грамабоя і ўзяў у ёй верх, тады як у грэкаў, якія плылі ў Італію праз Месіну, паганская Этна яшчэ доўга магла служыць галоўным ахвярнікам.

Дзякуючы пастаяннаму прытоку пілігрымаў із Сярэдняй Яўропы да падэшвы Везувія, пасьля грознага пачатку яго вулканічнай дзейнасьці, ці нават да падэшвы Этны да яго, каля той і другой гары ўтварыўся вялікі штат сьвятароў, відаць, лівійскага ці грэцкага паходжання. Вымушаныя здзяйсняць свае набажэнствы на новай для іх мясцовай італійскай мове, яны надалі ёй чужыя граматычныя формы і чужы займеннік першай асобы (грэцкае *эга* замест італьянскага *іо*). Адбылося тое ж, што адбываецца і зараз ва ўсіх цэрквах, тое самае, чаму і сучасныя сьвятары нідзе не жадаюць пераходзіць да ўжывання чыстых нацыянальных моваў: напалову зразумелае служэнне на чужой гаворцы дае адчуванне асаблівай урачыстасьці, чагосьці незвычайнага.

Калі аднаго рускага сьвятара запыталі:

– «Чаму вы не хочаце перавесьці набажэнства на сучасную рускую мову?»

Ён вельмі ўдала адказаў:

– «А паспрабуйце-ка пры прычашчэнні замест: “*Прыідзіце, піва піем новае, не ад кемені няплодна цудадземае*”, заспяваць гэта ж па-руску: “*Прыходзьце! Вып'ем новага піва, не цудам створанага із бясплоднага каменя*”! Ці застанецца ў вас пачуццё глыбокага шанавання?

Вось нешта падобнае ж выпадкова здарылася і з першым каталіцкім набажэнствам. Разумеючы толькі напалову сваю мову ў вымаўленні чужацкіх сьвятароў, італьянцы палічылі яе за нешта таямнічае, містычнае, выклікаючае глыбокае шанаванне! Потым, разам з пашырэннем хрысьціянства па Заходняй Яўропе, гэтая мова, як мова набажэнстваў, пачала пашырацца паўсюдна. У раманскіх краінах, дзе яна была напалову зразумелай дзякуючы аднолькавасьці каранёвага складу большасьці слоў, яе лёгка засвойвалі ўсе слухаючыя набажэнствы. У германскіх краінах спачатку было тое ж самае, хаця і з непараўнальна большымі высілкамі. Паўсюдна ўжываемы ў цэрквах, гэты жаргон натуральна ператварыўся ў міжнародную мову усіх каталіцкіх сьвятароў і манахаў, а дзякуючы таму што амаль уся сярэднявечная пісьмовасць засяроджвалася ў асяроддзі святарства ці каля яго, то на ім жа пачалі пісацца і духоўныя гімны, як першыя зародкі лірычнай паэзіі, і ўзніклі напалову ці цалкам фантастычныя апавяданні із жыцця «Вялікага Цара» і іншых сьвятых, як першыя зародкі рамана.

Але, вось, абуджаная на гэтай глебе фантазія, а часам і гумарыстыка, пачала натуральна звяртацца і да іншых, фрывольных рэчаў: акрамя апявання боскай мадонны, пачалі апявацца на лаціне і проста донны, замест аднаго пачуцця глыбокай павагі пачалі выяўляцца і іншыя чалавечыя пачуцці; замест боскай проскамедыі, як шэрагу рытуальных учынкаў і выказванняў пры набажэнстве, пачалі пісаць і проста камедыі. «Царкоўная лацінка» першых яе заснавальнікаў, сьвятароў, была моцна распрацавана ў напрамку сваёй фразеалогіі, абагацілася дадатковымі сказамі і ператварылася напярэдадні эпохі Адраджэнні ў звычайную класічную лацінку, якую і выкладалі потым у класічных гімназіях. Згода з самімі умовах тагачаснага існавання пісаць нешта фрывольнае ці чыста побытавае на сьвятой мове набажэнстваў было небяспечна, і таму аўтары пачалі прыпісваць свае ўласныя творы прыдуманым імі паганскім пісьменнікам таго аддаленага часу, калі хрысьціянства яшчэ не існавала, ці яно яшчэ не было пануючай рэлігіяй. Узнікшы дух вальнадумства і скептыцызму пачаў выклікаць з’яўленне на гэтай жа, некалі сьвятой, але зараз ужо апрафаненай мове, і скептычныя творы маючыя дачыненне

да самога хрысьціянства. Падпісваць свае творы лацінскімі і грэцкімі псеўданімамі пeратарылася ва ўсеагульну моду, а пазней, калі паміралі аўтары і іхныя блізкія сябры, а копіі твораў пашырыліся сярод чужых людзей, апошнія пачаі адносіць іх да пачатку нашай эры.

Але іхнае больш позняе паходжанне даводзіцца не толькі агульным і дэталёвым падабенствам гэтых твораў згодна з іхнай мовай і прыёмамі выкладання з сапраўднымі лацінскімі і грэцкімі творамі знакамітых пісьменнікаў эпохі Адраджэння, але і шматлікімі дэталямі светапогляду іхных аўтараў. Вось хаця б урывак із легенды пра «Фаэтона», г.азн. у перакладзе: пра «Метэор».

МЕТЭОР.

(Авідый: Метамарфозы, кн. II.)

Палымяна-чырвонай меддзю і золатам яскрава падпаленым
Сонцавы[62] палац зацверджваўся на цудоўных высокіх калонах..
Бачыліся горы знізу і дубравы, і дзікія звяры,
Німфы і ўсе божышчы, насяляючыя гушчары і палеткі.
Зверху мастак паставіў ззяўшае зоркамі неба,
Дзе знаходзілася шэсць уваходаў направа і столькі ж налева.
Уваходы заўсёды вартавалі дванаццаць вялізных Жывёл,
Светлы цар – дня паважна сядзеў на пурпуровым і дзіўным пасадзе
Із смарагду зялёнага.
Справа і злева навокал пасада
Ў стройным парадку стаялі дні, месяцы, гады і стагоддзі,
А паміж імі былі відаць гадзіны на адлегласьцях роўных.
З імі – Вясна маладая ў вянку із кветак духмяных,
Лета неапранутае са сжатым снапом, пажаўцеўшым ад спякоты,
Восень, у зямлі ад працы ў садах вінаградных,
Таксама Зіма з валасамі сівымі, тапаршчашчыміся дыбам.
Зняўшы прамяністы вянок і да сябе паклікаўшы Метэора[63],
Моцна і далікатна яго абдымае бацька яго сонца.
«Маці твая правільна сказала, што мне ты нашчадак па крыві,
«А каб сумневы скончыць, прасі ў мяне чаго хочаш,
«Усё ад мяне ты адразу ж атрымаеш, клянуся табе, сын мой»
«Той ракой, якую ставяць у сведкі багі
«І да якой прамяні маіх яскравых вачэй не даходзяць.[64]»
Але не паспеў ён яшчэ давесьці да канца сваю прамову,
Як Метэор пажадаў атрымаць у яго калясніцу
З правам на ёй праехацца, прыняўшы кіраванне коньмі.
У клятве пакаяўся Феб і, сваёй галавой выдатнай
Некалькі разоў паківаўшы, адказаў:
«Гэтае прашэнне, я бачу
«Ўсю неабдуманасць клятвы з майго боку выкрывае.
«У поўнай недасведчанасьці, сын мой, ты жадаеш, чаго немагчыма
«Нават багам атрымаць. Калі хто і адважыцца на гэта,
«Не выстаіць ён ніяк на восі распаленай як полымя.
«Мне толькі ўсё гэта магчыма, і сам Грамабой Алімпа,
«Ён, чыя правіца кідае на зямлю магутныя громы,
«Той калясьніцы не дасць рады... Ну, а, ты ж разумееш,

[62] Φοῖβος (Файбос) – прамяністы, эпітэт сонца.
[63] Φαεθων (фаэтон) – зіхацячы метэор, а ніяк не Сірыус у гэтай паэме (згодна з няправільнымі тлумачэннямі філолагаў).
[64] Стыкс, падземная рака.

«Хто ў вас большы за яго? Звыш таго паказаць табе патрэбна,
«Што на пачатку дарога крутая... Хутканогія коні,
«За ноч добра адпачыўшы, ледзь толькі ўзбягаюць на стрымніну»
«Невымяральная вышыня ў сярэдзіне. Я сам жахаюся,
«Калі на мора і зямлю адтуль зірну незнарок.
«Шлях, нарэшце, завяршаецца жахлівым схілам
«Дзе не ўтрымаеш каня і жонка Акіяна з жахам,
«У мора мяне прынімаючы, глядзіць каб я не зваліўся.
«Да гэтага патрэбна дадаць, што вечна кружыцца неба
«І, завабліваючы сьвяцілы, кружаць іх з жудаснай магутнасьцю.
«Гэты жудасны напор, завабліваючы ўсё астатняе[65]
«Кругавярчэнню палярнаму супрацьстаяць ты не здольны,
«І захопіць цябе жахлівая магутнасць кружачайся восі...
«Калі і правільна ты пройдзеш па шляху, не збочых з дарогі,
«Усё ж не зможаш ты мінаваць сустрэчы з Цялём крутарогім,
«З лукам Стральца і жудаснай пасткай Ільва
«Там Скарпіён з падоўжанай і Рак з серпападобнай клюшняй,
«Проста да цябе пацягнуўшыся, імкнуцца схапіць цябе будуць.
«Не прымушай жа, мой сын, падараваць цябе згубай дакладнай
«І пакуль час яшчэ не прайшоў, замяні сваё прашэнне».
Скончыў бацька ўгаворы. Яго Метэор не слухае
Моцна трымаецца на сваім: калясніцу бацькаву жадае.
Гаротнасьці поўны бацька, прамарудзіўшы колькі магчыма,
Сына вядзе, нарэшце, да калясніцы, падарунка Вулкана.
Вось на бліскучым усходзе расчыніла ўжо насьцеж Аўрора
Дзверы пурпуровыя, порцікі ружовым сьвятлом абліла.
Зоркі збеглі. І сьветлы Люцыфер[66], іхны шэраг заканчваючы,
Схаваўся апошнім із варты нябеснай. Заўважыўшы, што пачалі
Хутка рогі ў месяца прытупляцца, як пар знікаючы,
А падхмарныя землі ўсе пунсовай фарбай запунсавелі,
Феб загадаў сваім служкам-гадзінам – запрагаць калясніцу.
Блізкае гора душой падчуваючы і цяжка ўздыхаючы,
Так выказваўся ён:
«Выканай жа, сын мой, хаця б гэтыя парады
«Не налягай ты на бізун, толькі нацягвай вожкі тужэй.
«Пяць ты пабачыш колаў паралельных, але іх не трымайся.
«Праўдзівым шляхам маім экліптыка, выйдучы дугой,
«Датыкаецца толькі да трох паясоў.
«Ён далёка ад Мядзведзіцы, дзе Аквілон жыве,
«І на адлегласці такой жа ад паўднёвага полюса з Аўстрам[67].
«Ты едзь, дзе пабачыш прарэз ад колаў калясніцы,
«Не падымайся высока да Цмока і Ахвярнік хай будзе ніжэй».
Тут Метэор у імгненне вока ўскочыў на калясніцу,
Знакі прывітання сыноўняга шле незадаволенаму Сонцу.
Палымяны, Сьветлы, Прамяністы, Палаючы – коні магутнага Феба –
Нецярплівай нагой па засоўках варот б'юць.
Мора багіня, не ведаючы, што ўнука яе чакае,
Насьцеж вароты яму расчыніла, і сусвет бязмежны адкрыўся.
Коні, волю пачуўшы, памчаліся. Працуюць ногі,

[65] Сонца ідзе па экліптыцы адваротна суткаваму вярчэнню ябеснага скляпення.
[66] Зараз Венера.
[67] Auster – паўднёвы вецер, Аквілон – паўночны.

Сустрэчны туман рассякаючы. Узнімаюцца лёгкія крылы.
Апераджаючы народжаныя ад іх жа рухі вятроў.
Не пазнавалі аднак жа коні сваёй калясніцы,
Груз быў такі лёгкі, што скакаў хамут на плячах іх.
Збіўшыся са звыклай дарогі, бягуць не туды, куды патрэбна.
Сам Метэор спалохаўся! Куды яму вожкі накіраваць?
Жар выпрабаваць давялося тут упершыню халодным Трыёнам[68]
І цяжкай здалася для іх немагчымасць, хаця б зараз
У мора забароненае для іх пагрузіцца ад жахлівай спёкі[69].
Скруціўшыся ад холаду ў кола, заўсёды нерухома ляжаўшы
Паміж Мядзведзіц, лянівы Цмок, бяспечны да гэага часу,
Сноў нагрэўся, і зноў закіпела ў ім ранейшая злосць.
Памятаюць, што сам Валапас, нягледзячы на прыродную лянівасць,
Пра млявасць сваю забыўшыся, бег ад пякучай спякоты.
На ніз зірнуўшы і раптам пабачыўшы пад нагамі
Быццам як у бездані глыбока ляжачыя землі,
Увесь самлеў Метэор, задрыжэлі ад перапалоху калены,
Сьвет не пабачыў, хаця аточаны быў ззяннем.
Хутка мільгаюць перад ім па дарозе розныя дзівы,
І замірае ў ім сэрца пры выглядзе велізных жывёл.
Па небу шмат размяркавана іх. Існуе небяспечнае месца,
Дзе Скарпіён, як дзве роўныя дугі, расставіў шырока
Дзьве атручаныя клюшні, займаючы хвастом і клюшнямі
Роўна два месцы адзін[70]. А зараз ад пякучай спёкі
Чорным ён ядам пацеў і меў жаданне зрабіць Метэору
Вострым хвастом сваім з джалам смяротную рану.

[68] Septemtio – поўнач, ад septem – сем і trio вол. Такую назву мела сузор'е В. Мядзведзіцы.
[69] Із гэтага бачна, што легенда ўзнікла не паўднёвей Калабрыі ці Канстантынопаля, бо В. Мядзведзіца там ужо часткова заходзіць.
[70] Яго клюшні ў старажытнасьці ахаплівалі сузор'е Шаляў.



Мал. 39

*Ранішні Світанак падае калясніцу Сонцу. Малюнак Шрэйберга. Класічны міф у апэрцэпцыі еўрапейскага мастака XIX стагоддзя.*

Бедны вазнічы пры гэтым страціў апошні розум,
Увесь пахаладзеў, апусьціліся рукі. Але як толькі вожкі
Да спінаў коней дакрануліся, пабеглі ўбок коні,
Па незнаёмаму шляху неабдумана-хутка памчаліся,
Волю пачуўшы, кідаліся бязладна туды і сюды,
Па бездарожжы ў пустынях нябесных вязучы калясніцу
І на шляху закранаючы ў эфіры за сустрэчныя зоркі.
То раптам паднімуцца ўгару, то памчацца, да зямлі апускаючыся,
Непасрэдна па стамнінах жудасных. Месяц не мог надзівіцца,

Бачачы, што коні ў брата яго панесьліся нязвыклай дарогай.
Куродым валіць із аблокаў, падымаецца дым карамыслам,
Горы запунсавелі, лясы; загараецца Таўр Кілікійскі,
Эта, і Тмол, і Афон, і багатая раней крыніцамі,
Цяпер высахшая Іда, і Гем (не Балканы як зараз),
І Гелікон яшчэ некрануты. З падвоенай магутнасьцю палаюць
Этна высокая, Отрыс, Парнас двухгаловы і Эрык[71],
Няма і для Скіфіі карысьці ад маразаў. Запунсавелі вяршынямі Оса
Пінд і Каўказ, і Алімп, падымаўшы над імі вяршыню,
Альпы паветраныя і Апеніны з вяршынямі ў хмарах.
Адчувае ўжо Метэор, што не вытрымае даўжэй сьпякоты,
Не хапае моцы стаяць у бацькавай калясьніцы распаленай
І пераносіць адусюль ўрываючыся ў горла і ў вочы
З іскрамі пякучымі, з дымам густым перамяшаны попел.
У чорным тумане не бачыць ён, дзе і куды яму ехаць,
І несьвядома імчыцца згодна з воляй коней хутканогіх.
З гэтай пары, – паведамляе нам паданне, – уся кроў у эфіёпаў,
Да скуры прыхлынуўшы, чорным афарбавалася колерам.
Краіны Лівійскія вільгаць страціўшы, бясплоднымі сталі.
Аж да сярэдзіны курыліся Данскія[72] магутныя воды,
Ганг і Еўфрат Вавілонскі[73], Дунай[74] і Рыён, і Аронта.
Золата ў Тазе расплавілася. Нават і Ніл застрашаны,
У далёкія краіны збегшы, на межах Зямлі пасяліўся,
Так сваю галаву схаваў, што яе не відаць і дагэтуль.
Высахлі Рона і Рэйн, як і По, гесперыдзкія слаўныя рэкі.

---

[71] Ardet in immensum geminatis ignibus Aetne Parnasusque biceps et Erix, Cynthus et Othrys. Гэта параўнанне з Этнай вымушае лічыць, што двухгаловым Парнасам называўся Везувій, Отрысам – Стромбалі і Эрыкам – Гекла ў Ісландыі. У якасьці падцверджання сваёй здагадкі пра Парнас, атаясамляемы класікамі з сучаснымі сьціплымі Ліакурскімі гарамі ў Грэцыі, выкажу цверджанне, што яго найменне паходзіць, відавочна, ад італійскага faro – маяк (лацінскае fornus – печка, французскае fourneau – горан). Адсюль жа і жыдоўскае פאר (ПАР) – гарэць і рускае слова пар. Самае вызначэнне: двухгаловы дае выяву Везувія, і на гэта ж паказвае пасьвячэнне Парнаса богу сьвятла Апалону-Фебу, з яго лірай у руцэ і калчанам і стрэламі за плячамі. Тут жа, на Парнасе, жыў і ажыў із памёршых Дыёніс, Вакх з яго прычашчальнай чаркай (на лаціне – кратарам, crater) у руках, пра збавенне ад якой маліўся згодна з паданнем і евангельскі Хрыстос.

[72] Tanais – Дон.

[73] Euphrates Babylonius, пры чым Babylonius, мабыць, вельмі позны эпітэт.

[74] Ister – Дунай.




Мал. 40

*Выгляд паўночнай часткі неба пад час вераснёўскай поўначы.*




Мал. 41

*Выгляд паўднёвай часткі неба пад час вераснёўскай поўначы.*

Нават і Тыбр, абнадзееены будучай уладай над цэлым сусьветам,
Быў высушаны ўсёгубячай, палаючай спякотай.
Мора памяншалася і высыхала. Дзе раней яно хвалявалася,
Там шырока распасьціралася пяшчанае дно.
Рахманая нават Зямля, акіянам навокал аточаная,
Паміж мораў і крыніц водных, сабраўшыхся разам,
Выпрацоўваючае аблічча сваё із іх прыўзняўшы да шыі
Я засланіўшы ад бляску вочы, здрыганулася, а з ёю
Ўсё ўскалыхнулася. Асеўшы ніжэй ад спякоты,
Так закрычала яна да Грамабоя:
– «О, божа, із усіх найвялікшых!
«Што твае маланкі марудзяць? Ужо калі лёсам жорсткім,
«Мне наканавана гінуць ад полымя, то няхай я загіну



Мал. 42
*Гея- Зямля. Рэльефная выява на фрызе ахвярніка Грамабоя ў Пергаме. (Берлінскі музей.)*

«Непасрэдна ад маланак тваіх. Для мяне і пагібель больш прыемная.
«Калі вінаватым будзеш ты сам, наш бацька ўсёмагутны!
«Бачыш, як у рот і ў вочы да мяне залятаюць палаючыя іскры,
«Злітуйся над небам сваім! Паглядзі: абодва полюсы палаюць!
«Калі полымя пашкодзіць іх, – разбурацца неба палацы.
«Бачыш, як пакутуе Атлант, напружваючы апошнія магчымасьці,
«Каб на плячах утрымаць распаленую вось сусьвету.
«Калі і зямлі, і мора, і неба палацы загінуць,
«Усе мы, мабыць, зноў у першапачатковы хаос вернемся.
«Што не згарэла – выратуй, і прыйдзі на абарону Сусьвету!»
І прагрымеў Грамабой... Пусціўшы стралу фатальную.
Разам ссадзіўшы Метэора з паветранай яго калясніцы,
Здрыгануліся коні, у адваротны бок хутка кінуліся,
І панесьліся, хамуты перакруціўшы і вожкі парваўшы,
І раскідаўшы па дарозе парэшткі ад цудоўнай збруі (мал. 43).

А Метэор нежывы скаціўся адразу із калясніцы
І, распусціўшы па ветру палаючыя русыя валасы,
Паветра імгненна прарэзаў, як зоркі, якія з неба
Валяцца (ці як быццам бы валяцца!) у ясныя ночы.
Боскага сына ў краіне, аддаленай ад радзімы любай,
Прыняў чужы для яго Эрыдан у свае халодныя хвалі,
І, уражанае маланкай, цалкам абгарэлае цела
Паклалі ў труну пазней гесперыды[75] і зрабілі надпіс:
«Тут пахаваны Метэор, калясніцы бацькавай вазнічы,
«Гераічны учынак здзейсніўшы, хаця і не здолеў ёю кіраваць».



Мал. 43.
*Выбух вялікага метэарыта (у Аўстрыі).*

Астранамічны сэнс гэтай паэмы пазначаўся і да мяне, але толькі грэцкае слова «фаэтон» – г.азн. "светач", якое служыць тут загалоўкам, няправільна тлумачылася як Сірыус, тады як усе дэталі апісання паказваюць, што гэтая паэма мае сваёй падставай паданне вялікага начнога метэарыта, які спачатку яскрава асьвятліў усё пунсовым святлом, як бы запаліўшым усю прыроду, а потым выбухнуўшага з грукатам, дымам і полымем, пры чым яго асмаленыя парэшткі зваліліся ў раку По (старажытны Эрыдан) у Ламбардыі перад вачамі аўтара гэтай паэмы.

[75] Жыхары заходніх краін.

Для нас тут уяўляе цікавасць не сам метэарыт, а падрабязнасьці апісання яго падання. Аўтару паэмы вядомы ўжо і нябесны экватар і экліптыка і, акрамя таго, не толькі два тропікі, але і два палярныя колы, за якімі сонца, узыходзіць не кожны дзень, і не кожная ноч застаецца без сонца. Тут ужо прысутнічаюць ўяўленні і пра зямную вось, вакол якой здзяйсняецца вярчэнне зорнага неба. Сузор'е калясніцы ператварылася ў Мядзведзіцу, а наўзамен старажытных выродлівых уяўленняў пра метэарыты, якія маляваліся ў выглядзе палаючых ляцячых змеяў і злых пачвар, мы бачым ужо велічную літаратурна-мастацкую фантазію, якая выяўляе існаванне ў аўтара моцна развіўшагася творчага ўяўлення, недасягальнага для жыхароў зямнога шара на пачатку нашай эры, таму што ім тады не было на чым яго выпрацаваць.



Мал. 44.

*Парэшткі выбухнуўшых метэарытаў (Авідыевы «абгарэўшыя косткі Метэора»).*

Вось, напрыклад, яшчэ адно паэтычнае тлумачэнне сонечных зацьменняў у Авідыя, якое паказвае, што аўтар ведаў пра іхную нагоду не горш чым Капернік:

«Не ад таго ты блякнеш, о сонца, што непасрэдна месяц размясьціўся
«Паміж табой і зямлёй, як сьвяціла суседняе з ёю, –
«Але ад павагі да Леўкатэі... Адну яе ты кахаеш![76]

Дакладна гэтак жа і цынічныя п'есы Авідыя поўняцца такім жа духам, як і апавяданні Рабле, ці Дэкамерона.

У іншых яго паэмах перадаюцца таксама больш чым сярэднявечныя ўяўленні пра светаўладкаванне і разуменне пра бога-бацьку, як старальніка сусвьету.

Вось хаця б паэма на пачатку першай кнігі.

## Вечныя пераўтварэнні рэчываў.

Дух мой у захапленні імкнецца паведаміць, як рэчывы пераўтвараліся
Із першапачатковых узораў у новыя гатункі. Малю вас, – о багі! –
Вы, як нагода тых пераўтварэнняў, мяне натхніце
Песьню бесперапынна паведаміць ад пачатку сусьвету да гэтага часу.
Спачатку зямля і вада, і нябесныя цудоўныя скляпенні,
Уся, адным словам, прырода была аднолькавай з выгляду
І мела назву хаос невыразны, неапрацаваная маса,
Сумесь непадзельная. У ёй, у пастаяннай варажнечы паміж сабой
Спрэчкі адзін з адным вялі сучасных істот элементы.
Не было Сонца-тытана, які асьвятляў бы сусьвет,

[76] Nec, tibi (soli) quod lunae Terris propioris imago. Obsliterit, palles; facit hune amor iste colorum. (Metam. IV, 203.)

Не абнаўляў рогі і Месяц блеклатвары начамі,
Не існавала Зямля ў атачаючай яе атмасферы
Воссю сваёй, як з абодвух канцоў раўнаважкі цяжар,
І не сьціскалі зямлю акіяны ў абдымках вільготных,
Рукі свае працягнуўшы па далёкіх ускраінах сушы.
Дзе знаходзілася вада, там і паветра ў перамешку з зямлёй:
Так што вада не здавалася вадкай, паветра – празрыстым,
Суша – дастаткова цьвёрдай. Усё было ў выглядзе скажоным,
Усё было ў вечным змаганні. Таму што ў цылым адным сумяшчаліся:
З мяккасьцю цьвёрдасць, з халодным гарачае, з вільгаццю сухое,
З цяжкаважачым і шчыльным – не маючае ніякай вагі.
Бог і магутнасць прыроды змаганне спынілі,
Паасобку аддзяліўшы неба ад зямлі, ад акіянаў сушу,
А ад не маючага вагі эфіру шчыльнае паветра.
Але, размяркаваўшы ўсё на кучы і паасобку па частках расклаўшы.
Усё, раз'яднанае месцам, аб’ядналі хаўрусам пагаднення.
У светла-блакітным, вельмі тонкім эфіры полымя засьвяцілася,
Месцам жыхарства абраўшы высокае скляпенне цьвярдыні нябеснай;
Адразу далучылася да яго блізкае дзякуючы лёгкасьці паветра празрыстае.
Шчыльнай масай суша пад уласным ціскам асела,
Усе элементы цяжкія разам з сабой захапляючы.
Зямлю, навакол абступіўшы, вада па краях разлілася,
Пасьля таго, калі бог (невядомы да гэтага часу, усемагутны)
Кожнай із гэтых частак прызначыў асобнае месца.
Ён жа і зямлю скругліў накшталт шара вялікага,
Каб ні з аднаго баку не здавалася роўнай раўнінай,
Разліў моры, каб яны абыйшлі па ўскраінах сушу
І падымалі хвалю пры напоры бурлівых вятроў.
Да іх ён дадаў крыніцы, рэкі, азёры, балоты;
Бераг круты прыўзняў па рэчышчах рэк, із якіх
Частка паглынае адна адну; іншыя ж, раскінуўшыся вольна,
Воднай, шырокай раўнінай, уліваюцца ў бурлівае мора.
Ён прызначыў працягнуцца палеткам, прыўзняцца пагоркам,
Зелянінай лесу пакрыцца, паўстаць камяністым кручам.
На небе наладзіў – два паясы справа, два паясы злева,
Пяты ў сярэдзіне – самы гарачы. Такой жа колькасьцю размежаваў
Промысел боскі зямлю, навакол заключаную ў неба.
Столькі ж паясоў у ёй выявілася. Сярэдні –
Незаселены праз спякоту, два крайніх снягамі пакрытыя;
Але сярод халодных і гарачым па поясу лепшаму стварыў
З кліматам мяккім, як-быццам бы там было перамяшана полымя з марозам,
Зверху іх паветра размясьціў, цяжэй за полымя настолькі,
На колькі зямля цяжэй за ваду. А па сферах празрыстых
Ён прызначыў размясьціцца і вільготным туманам, і бурам,
Маланкам, вятрам, з сабой прыносячым маразы і хмары.
Вятрам, аднак, наймудрэйшы Стваральнік Сусьвету дазволіў
Краем паветраным і лёгкім валодаць не каму як патрапіць:
З імі пры строгім упарадкаванні, ледзь толькі ўправіцца можна,
Каб не разбурылі сусьвет: такім ўжо з’яўляецца разлад паміж братамі.
Вышэй над усімі – пастаўлена было эфірнае неба,
Дзе нават прыкметы грубай зямлі адшукаць немагчыма.
Толькі-што кожнай вобласць былі прызначаны дакладныя межы,

На небе зазіхацелі ляжаўшыя доўга пад скляпеннямі зоркі.
І закіпела сваім асобным жыццём усё ў сусьвеце велізарным.
Багі і розныя віды свяціл на нябёсах пасяліліся,
Рыба, бліскаючы луской, нырнула ў празрыстыя воды,
Паветра лёгкарухомае дасталася для жылля птушкам,
Дзікія звяры ў долю атрымалі сухія прасторы.
Не было толькі жывёлы з розумам моцным і з воляй,
Каб законы ўсім іншым прызначаць, панаваць усюды.
Паўстаў чалавек. Стварэнне лепшага свету,
Ці быў ён створаны Стваральнікам проста із насення вышэйшых,
Ці ж у нованароджанай зямлі, разлучанай нядаўна
Са светлым эфірам, родных ёй нябёсаў насенне захавалася,
І Яфетаў нашчадак, перамяшаўшы тую зямлю з вадой,
Зрабіў із гэтай сумесі падабенства богаў, – невядомае да гэтага часу.
Так із зямлі пачварнай і грубай Стваральнікам Сусьвету
Была створана чалавечая выява, невядомая раней.
Першы век быў залатым, – шанаваўшым і сумленнасць, і праўду»
Не дзякуючы баязні перад законам ці пакараннем сьмерцю, а добрай воляй.
Нягод, жаху і пакут у той час не ведалі людзі.
Грознае слова закона на медзяных дошках не чыталася,
Усе без суддзі і суда жылі ў заспакаенні і міры.
Вечна панавала вясна, і Зефіры, забаўляючыся, лёталі.
Цёплым дыханнем кветкі, без насення вырастаючыя, лашчалі.
Зямлю не дзёрлі плугамі, а хлеб саспяваў з лішкам,
Палеткі ў пару не ляжаўшы, жаўцелі ад цяжкіх каласоў.
Пасьля ж таго, як Сатурн быў зрынуты тытанамі ў Тартар.
Кіраванне Сусьветам узяў на сябе Юпітар, і век змяніўся.
Стаў ужо срэбным: золата горш, а медзі каштоўней.
Старажытную вечную вясну Юпітар тады знішчыў,
Год падзяліўшы на чатыры няроўныя часткі: на зіму,
На зменлівую восень і лета з кароткай вясной.
Паветра ад моцнага жару ўпершыню тады напалілася,
Лёд ад халоднага ветру павіс на дрэвах бязлістых.
Усе схаваліся ў жытло, а жытлом абралі пячоры,
Ці густыя кусты, ці лыкам скручаныя лозы.
Першы раз насенне Цырэрына пад баразну завалілася,
І закрахталі быкі, пад цяжкім ярмом надрываючыся
Трэцці век медзяны надышоў, папярэдніх значна грубейшы,
Больш да войнаў схільны, аднак жа век не злачынны,
Толькі ў апошні – у жалезны, усе разам заганы з’явіліся.
Праўда і гонар, і сарамлівасць з зямлі назаўжды выдаліліся.
Месца ж іх замянілі падманы, падступствы і падкопы,
І ненаедная, гнюсная прагнасць да захопу чужога.
Хвоі, стаяўшыя доўга на горных родных вяршынях,
У лёгкія лодкі ператварыўшыся, спусьціліся ў марскія бездані,
І панесьліся па хвалях пераборлівых у адкрытае мора
На ветразях, не знаёмых яшчэ са сваволлем вятроў.
Агульную раней, як сонечнае сьвятло ці паветра вольнае.
Зямлю тады каморнік абыйшоў, падзяліўшы на дзялянкі.
Але не пладоў ці жатвы ад зямлі чакалі народы,
А, паглыбіўшыся ў нетры, на гора сабе здабывалі
Сьмерці прыладу, жалеза і – ах! – яшчэ горш чым жалеза –

Золата. Бо і тое, і іншае ў іх ператваралася
Ў сродак да вядзення войн безперапынных і вечных усобіц.

Але ж усё гэта – у астралагічнай частцы – передкапенікаўскія ўяўленні, а ў касмаганічнай частцы яны поўняцца пярэдаднем Лавуазье і Лапласа! Як можна падумаць, што ўсё гэта пісалася за тысячу гадоў да іх? Гэта азначае проста здзекавацца над усімі законамі эвалюцыі.

А вось і літаратурныя прыёмы таго ж «Авідыя», падпісацца пад якімі не адмовіўся б і Лесінг. Возьмем хаця б яго паэтычнае тлумачэнне паходжання рэха:

РЭХА.

Аднойчы, калі нясмелых аленяў Нарцыс лавіў у свае сеткі,
Німфа красуня, гучнае Рэха, яго пабачыла.
Зараз яна ператварылася ў гук, а ў той час мела
Звычайнае цела, але словам так жа валодала,
Як і зараз, таму што яна із усяго, што пачуе,
Была здольнай перадаць толькі апошнія гукі.
Так пажадала Юнона, якой нярэдка здараўся выпадак
З німфамі чалавека заспець на гары сярод абдымкаў злачынных,
Але, як знарок, багіню, бывала, завабіць гутаркай
Спрытная Рэха, а німфы тым часам як раз і знікалі.
Заўважыўшы хітрасць, Сатурнія так вымавіла ў злосьці:
«Будзеш ты дрэнна валодаць языком, пасмяяўшыся нада мной,
«І перастанеш балбатаць не змаўкаючы!»
Спраўдзіліся пагрозы:
У яе раптам захавалася толькі здольнасць пад канец гутаркі
Зноў словы паўтараць, перадаваць толькі тое, што пачуе.
Заўважыўшы Нарцыса, блукаючым у цёмным лесе на паляванні,
Рэха яго пакахала, за ім усё сачыла таемна.
Чым яна больш да яго набліжалася, тым больш палала.
Нібы смала на кудзелі, якая ўспыхвае імгненна,
Калі яе хаця трохі бліжэй да полымя паднясуць.
Колькі разоў думалася ёй падысьці да яго з любым прывітаннем,
З пяшчотным словам. Але ці ёсць магчымасць прыроду адужаць?
Магчымасьці пачаць размову не хапае, і чакае не дачакаецца
Словаў яго, каб на іх адказваць, згодна са сваёй прыродай.
Аднойчы, адышоўшы ад іншых таварышаў, юнак крыкнуў:
«Гоп-Гоп! Тут нехта ёсць?»
«Ёсць», – адказала Рэха спрытна.
Юнак быў уражаны, са здзіўленнем агледзеўся навокал
І яшчэ гучней: «Сюды!» – усклікнуў.
Яму адказваюць клічам на кліч яго. «О! Чаму ад мяне ўцякаеш?»
Ён прамаўляе, нікога прыдатнага блізка не заўважаючы,
І атрымоўвае ў адказ сваё выказванне ад слова да слова.
Спыніўся Нарцыс і, захапіўшыся такім паўтарэнем
Уласных слоў, усклікае: «Вось тут мы з табой пабачымся!»
Не было словаў на сьвеце, якія б Рэха жадала
З большым каханнем зараз паўтарыць, і прамовіла: «Пабачымся!»
Гаворкай сваёй захапіўшыся, вось, із лесу німфа выходзіць
У поўнай надзеі абвіцца кругом шыі, так доўга жаданай.
Але ўцякае Нарцыс, на бягу адказваючы паспешна:
– «Прэч забяры свае рукі! Хутчэй пазбаўлю сябе жыцця,
«Чым нагоду падам, што адкажу на запал твай запалам».

Рэха, у адказ паўтарыўшы: «Адкажу на запал твай запалам!»
Кінулася ў лес, і румянцам сораму запалаўшыя шчокі
Схавала ў зеляніне. З гэтай пары для пакінутай німфы
Сталі заўсёдным прытулкам толькі пустыя пячоры,
Але ў ёй каханне не астыла, а больш узрасло ад адмовы.
Цела няшчаснай турботы няспанныя ўсё стачылі.
Толькі голас застаўся, а костка ператварылася ў камень.
Схавалася Рэха ў лесе. На горах ужо яе не бачылі.
Чуць жа, чулі яе ўсе: яе існаванне выяўляецца праз гук.

Як можна нават на хвіліну падумаць, што такая «вытанчаная паэзія» існавала ў той час, калі яшчэ не было вядома нават і паперы, за 600 гадоў да таго, як прыхільнікі Магамета пісалі яго Каран на барановых лапатках, калі папірус быў вялікай каштоўнасьцю ў Яўропе? У выпадку існавання такой літаратуры для вырабніцтва пергаменту, пры шырокім ужыванні, не хапіла б барановых скур, ды і яго вырабніства было такім цяжкім, што даводзілася пісаць на ім без папярэдніх запісаў. А вытанчаная літаратура, як і артыстычнае выканнне на раялі, патрабуе сталага практыкавання і пераемнасьці. Яна, – дзіцё хуткапісаннання і беглага чытання.

Не! Гэта відавочны апокрыф эпохі Адраджэння, такі час, калі папера для пісаня выробленая із парэштак вопраткі была ўжо ў шырокім ужыванні, і яе не шкадавалі марнаваць на папярэднія досьледы і чарнавікі.

З той пары, як ў навуцы замацавалася эвалюцыйная тэорыя і ў свядомасьці набыла пашырэнне ідэя пра тое, што падмуркам псіхічнага ўдасканалення чалавека з'яўляецца матэрыяльная культура, прыпісваць «класічным пісьменнікам» вялікую старажытнасьць стала цалкам немагчыма. Сама манера лацінскіх класікаў даваць сваім героям грэцкія імёны характэрна для эпохі Адраджэння.

У адным са сваіх твораў сам Авідый сведчыць, што згодна з паходжаннем ён не нейкі-там навасаспелы, а старажытны шляхетны рыцар – equis illustris (Reiter, chevalier, cavaliere), хаця і не быўшы ніколі на вайсковай службе. Яго радзімай лічыцца маёнтак на рацэ Перкара ў Неапалітанскіх Абруцах, потым ён, – кажуць, – жыў у Рыме, падарожнічаў па Грэцыі і, нарэшце, быў сасланы «Найсвятлеўшым (Аўгуст)» невядома за што на Ніжні Дунай у нейкае Тамі, дзе і памёр.

Яго вядомасць, не існаваўшая пад час сярэдневечча, пашырылася так далёка (і не без падстаўна!) што на пачатку XVI стагоддзя нашай эры, пад час валадарання вялікага аматара класікаў Фрыдрыха III Мудрага (1486-1525), заснаваўшага Вітэнбергскі ўніверсітэт, было знойдзена, следам за хуткім пашыраннем твораў Авідыя, і некалькі яго магільняў. Асабліва шчасьлівым ў гэтым дачыненні быў 1508 год, калі былі знойдзены адразу дзьве мгільні, не выклікаючыя сумневаў грунтуючыся на іншых надпісах: адна ў Ніжняй Вугоршчыне, на якой непасрэдна напісана: P. OVIDII NASONIS, і другая ў Савары з такім жа дакладна надпісам. Із астатніх яго магільняў больш верагодныя: адна ў Пановіі, іншая на шляху із Понта ў Рым і трэцяя ў Тамі на Дунаі, дзе Авідый, – кажуць нам, – пісаў вершы і на нямецкай (гоцкай) мове.

Усё гэта паказвае, што ён жыў наўрад ці нашмат раней XV стагоддзя нашай эры, але, на жаль, я не знайшоў у яго вершах (хаця у іх і часьцяком згадваюцца планеты і сузор'і) ніводнага астранамічнага месца, прыдатнага для дакладнага вылічэння часу яго жыцця.

Дадам яшчэ, што і із саміх псеўда-імёнах класічных пісьменнікаў, калі іх вымаўляеш, ведаючы сэнс, часам атрымліваецца суцэльны камізм. Вось хаця б

знакаміты Вяргілій, рукапісы якога Медытэйская і Ватыканская былі знойдзены толькі ў 1740 годзе, амаль праз трыста гадоў пасьля таго, як у 1469 годзе былі выдадзены яго творы. Яго поўнае імя Publius Virgilius Maro (ці Marro) у перакладзе з лаціна-італьянскай мовы азначае «Публічны дзявочы каштанавы арэх», пры чым яшчэ ў дадатак «каштанавы арэх» па-італьянску фігуральна азначае сакрэтную кнігу для чытання[77]. Не нашмат лепш атрымліваецца пры перакладзе і Карнелій Непат, на лаціне «Рагаты ўнук», і сам знакаміты прамоўца Марк Цыдэрон – у перакладзе «Завялы гарох»[78], і толькі што згаданы Авідый, поўнае імя якога Публій Авідый Назо – азначае «Публічны яйкападобны нос» (Ovidius – Ovoideus).

А калі звярнуць увагу на выказванні старажытных гістарычных дзеячаў, то і ў трагічна-патэтычным перадсьмяротным ускліканні Юлія Цэзара, забіваемага сваімі ж сябрамі: «І ты, Брут!», мы са здзіўленнем пачуем: «І ты, быдла!», таму што імя «Брут» і азначае на лаціне «быдла»[79]. Мімаволі запытваеш сябе: ці не гумар гэта сярэднявечных апакрыфістаў, якія знарок прыдумлялі сабе такія псеўданімы?

У агульным жа мне здаецца, што частыя дадаткі літар М, С, L і R. перад імёнамі «рымскіх» дзеячаў у Італіі выкарыстоўваліся ў якасьці тытулаў: М – marchece (маркіз), С – conto (лацінскае comitus – граф), L – lucidezza (яго светнасць), publico (яго славутасць). У царкоўнай жа мове М магло азначаць памёршы (mortus), С (Caius) – сьвяты  (грэцкае ἅγιος). А ўжо пазней усё гэта было пераўтворана ў лацінскія ўласныя імёны.

Пры адмысловым аглядзе класічнай літаратуры, у сувязі з развіццём рэлігійных уяўленняў у сярэднявечнай Італіі і Заходняй Яўропе, я яшчэ буду асобна распрацоўваць гэтыя свае погляды на палеа-класічную літаратуру, як на апокрыфы заканчэння сярэдніх стагоддзяў, а зараз я зрабіў толькі кароткія заўвагі, без якіх маё скептычнае стаўленне да старажытнасьці класіцызму здалося б занадта неабгрунтаваным непапярэджанаму чытачу, асабліва ж спецыялістам у гэтай галне, якім з юнацкага ўзросту надавалася ідэя пра старажытнасць класічнай літаратуры.

Але я перакананы, што яе дэталёвае даследаванне з дапамогай паказаных тут мной стылеметрычных, астранамічных і іншых рацыянальных метадаў будзе мець вынікам новае асьвятленне і ў гэтым заблытаным пытанні.

«Сярэднявечная лацінка (г.азн. яшчэ не меўшая шматлікіх сьлядоў сучасных ёй жывых сярэднявечных гаворак) існавала аж да эпохі Адраджэння, – выказваецца Ў. А. Багародзіцкі[80] – і толькі пазней была адноўлена старажытна-лацінская мова».

І вось, усё маё адрозненне ў поглядах на гэтае пытанне ад поглядаў нашага найбольш дасьведчанага параўнальнага мовазнаўцы заключаецца толькі ў адным выказвнні: замест адноўлена, я кажу ўсталявана.

# Глава IV.

## Грэцкая літаратурная творчасць.

[77] Publius – варыяцыя слова publicus, Virgilius ці Vergilios – прыметнік ад слова Virgo (старажытна- італійскае vergo) – панна. А калі лічыць, што maro не з'яўляеца транскрыпцыйным скарачэнне marro, то ў італійскай мове існуе і проста maro – каціная трава, італійская назва расьліны з роду marum.

[78] Marcus – завялы, памёршы, клеймаваны; cicero – гарох.

[79] Лацінскае brutus, італійскае bruto, французскае brute – грубы звер, быдла.

[80] Лекцыі па агульнаму мовазнаўству. Казань. 1913.

*Грубая царкоўная грэцкая літаратура сярэдніх стагоддзяў была маці класічнай грэцкай літаратуры, а не яе дэградаваўшай дачкой.*
*Із майго нататкавага сшытка.*

Падзел працы, – кажуць нам, – з’яўляецца адной із асноўнейшых умоваў яе прадукцыйнасьці. Вось хаця б вырабніцства шпілек, якім яно было ў XIX стагоддзі. Адзін рэжа дрот, другі яго завастрае, трэцці прымацоўвае галоўку, чацьвёрты складае ў пачкі. Вырабляемая шпілька пераходзіць із адных рук у другія, кожны робіць толькі сваю дэталь, і ўсё хутка закончваецца, таму што адбываецца ў адным месцы і ў адзін час. Але што сказалі б вы, калі б нехта уладкаваў сваю майстэрню так, каб у адным горадзе толькі seклі дрот, у іншым, і прытым вельмі аддаленым, толькі яго завастралі, і ў трэццім, размешчаным яшчэ далей, толькі б прымацоўвалі да яе галоўку і везлі ў чацьвёрты горад на складаваня?

А калі гэта недарэчна, то як жа можна сабе ўявіць, што менавіта так і здарылася пры развіцці літаратуры нейкага перадавога народу, дзе паэзія і проза, навука і белетрыстыка, ва ўсіх іх формах, уяўляючых толькі розныя бакі дзейнасьці абудзіўшагася чалавечага генію, заўсёды і ўсюды працуючага ва ўсіх магчымых накірунках? Як магчыма сабе ўявіць, каб яны былі размеркаваны па розных стагоддзях і гарадах? Як магчыма ўявіць, што, напрыклад, грэкі некалькі соцень гадоў распрацоўвалі ў адной сваёй мясцовасьці толькі адзін напрамак літаратуры, потым, закінуўшы яго, некалькі соцень гадоў распрацовалі ў іншым месцы іншы, потым, закінуўшы і гэта, некалькі стагоддзяў распрацоўвалі трэцці, і зноў у новым месцы? Ці магчымы такі падзел літаратурнай творчасьці па гарадах і стагоддзях?

Вядома, такога немагчыма сабе нават і ўявіць. А тым часам нас запэўніваюць, што гэта так і было і падзяляюць грэцкую разумовую творчасць на пяць перыядаў.

**1-шы перыяд**. Н яго працягу, – кажуць нам, – грэцкая і цалкам уся чалавечая лірычная паэзія была пачата адразу найвялікшым із усіх паэтаў Арфеем – сынам музы Каліёпы, ўтаймоўваўшага звяроў сваімі песьнямі, вывеўшым разам з імі сваю жонку Эўрыдыку нават із падземнага царства, але разарваным, нарэшце, на кавалкі захопленымі яго музыкай вакханкамі больш за 1000 гадоў да пачатку нашай эры, і ад яго песень і вершаў нічога не засталося.

Потым быў паэт Музей (якога, магчыма, спісалі із Музея-Граматыка, аўтара паэмы «Геро і Ляандр»). Потым Эўтолп і Памір і, нарэшце, Гамер, быццам, бы жыўшы каля 900 году да пачатку нашай эры і напісаўшы «Іліяду» і «Адысею». Аднак, згодна з дасьледаваннямі сучасных аўтараў, ён быў толькі таленавітым кампілятарам, скампанаваўшым у адно цэлае песьні грэцкіх баянаў, героем якіх у Іліядзе з'яўляецца хутканогі Ахілес, а ў Адысеі – хітры Адысей-Мараплавец.

Калі ж гэта было? Ці сапраўды за 900 гадоў да пачатку нашай эры? Але з'яўленне ў поўным выглядзе такіх вялізных паэм (для якіх не хапіла б ніякіх гліняных плітак і на якія нават пергаменту давялося б спажыць цэлы воз) відавочна немагчыма ў старажытнасьці. Гэта – кампілятыўная літаратура хуткапісага і папяровага часу. Падобныя рэчы не маглі быць напісанымі раней сярэдніх стагоддзяў. Ды і горад Іліён у Траадзе вельмі нагадвае Элію Пасадную (Aelia Capitolina, такую назву меў сучасны палестынскі Псеўда-Ерусалім пры Траяну. А само імя Элій тое ж самае, што і Ілія.

Што ж да «Вайны мышэй і жаб», грунтуючыся на стылі таксама прыпісваемую раней Гамеру, то гэтая паэма зараз лічыцца толькі таленавітай

пародыяй на «Іліяду», у якой у напышлівай, велічнай форме апісваюцца пад выглядам змаганняў жаб і мышэй цалкам такія ж здзяйсненні, як і ў «Іліядзе». Думаць, што гэты твор таксама вельмі старажытны, цалкам немагчыма.

Ды і наогул пра ўсе эпічныя вялікія паэмы немагчыма сказаць, каб нейкая із іх папярэднічала іншым адгалінаванням літаратурнай творчасьці. Вось і ў нас, у Расіі XVIII стагоддзі, Ламаносаў піша «Петрыяду», Трэдзьякоўскі – «Тэлемахіду» і Хераскаў – «Расіяду». Перад гэтым, у Заходняй Яўропе Камоэнс стварае «Луізіяду», Тасо «Вызвалены Ерусалім», Арыёста «Апантанага Роланда», Фірдусі піша «Шах-Намэ», Руставелі «Барсаву скуру», а яшчэ раней Вяргілій піша «Энэіду», таксама ў такі час, калі на лацінскай мове існавалі ўжо ўсе віды паэзіі і прозы. Дык чаму ж мы павінны абавязкова думаць, што «Адысея» і «Іліяда» (узятыя цалкам) папярэднічалі астатнім напрамкам грэцкай літаратуры, а не ўяўляюць сабой нават вельмі познія кампілятыўна-паэтычныя творы, непасрэна папярэднічаўшыя Вяргілію, ці нават з'яўляючыся далейшым развіццём яго «Энэіды?»

З гэтага боку гледжання ўсе вялікія эпічныя творы, не выключаючы і «Нібелунгаў» у Германіі, і «Калевалы» ў фінаў, і «Эды» ў Скандынаваў, з'яўляюцца вынікам нечыяй індывідуальнай творчасьці, якая толькі карысталася асобнымі дробнымі паэмамі сваіх папярэднікаў, як муляр цэглай пры пабудове вялікага будынка, нават вельмі, моцна абчэсваючы іх, дзе гэта патрэбна згодна з яго задумай.

Бо зараз у нас таленавіты паэт мог бы і із былін пра Іллю-волата стварыць цэлую «Іліяду», размясьціўшы іх у вызначаным парадку, абцясаўшы, дзе патрэбна, і сцэментаваўшы прамежкі ўласнымі дадаткамі ў тым жа стылі і памеры. Аднясенне падобнай літаратуры ў грэкаў у глыбокую старажытнасьць не ўяўляецца натуральным з эвалюцыйнага боку гледжання. Нашмат лягчэй, наадварот, дапусьціць вельмі позняе яе паходжанне, калі назапасілася дастаткова літаратурнага матэрыялу і начытанасьці для магчымасьці цементавання вялікіх паэм.

І вось мы зараз дайшлі да Гезіёда, які лічыцца завяршальнікам гэтага самага старажытнага перыяду грэцкай літаратуры, стварыўшага быццам бы ў Беотыі рапсодыі, г.азн. творы на народныя тэмы ў фантастычнай форме, і дыдактычныя, г.азн. павучальныя, вершы, да якіх належаць яго «Працы і Дні» і, акрамя іх, «Тэагонію» і лічымы падробленым «Шчыт Геракла». Падобная форма паэзіі, выкладаючая ў вершах навуковыя пытанні, знікшая некуды ў грэкаў пасьля Гезіёда, раптам аднавілася на лацінскай мове ў Вяргілія ў «Георгіках», у Гарацыя ў яго «Паэтычным мастацтве», а потым зноў заснуўшы на тысячу з гакам гадоў, зноў абудзілася да пышнага жыцця пад час эпохі Адраджэння ў неа-класікаў і нават патрапіла ў рускую літаратуру, як, напрыклад, ухваленне бога Дзяржавіным:

О, ты, у прасторы бясконцы,
Жывы у рухах рэчыва,
Цягам часу прадвечны,
Без твараў у трох тварах боскасьці!

Ці ў вершы Ламаносава «Пра карысць шкла».

І вось, я другі раз стаўлю пытанне: ці магчымы ў эвалюцыі чалавецтва такія доўгія спанні і раптоўныя кароткія абуджэнні аднаго і таго ж роду літаратуры ў іншых краінах і іншых стагоддзях, заснуўшыя навекі на сваёй радзіме? Калі ж так, то і наша сучасная навука і літаратура могуць раптам нечакана і беспадстаўна

заснуць тысячы на дзьве гадоў і потым раптам абудзіцца да новага жыцця... напрыклад, на месяцы.

**2-гі перыяд** старажытна-грэцкай літаратуры, пачынаецца з VIII стагоддзя да пачатку нашай эры. Тут таксама адмысловы каларыт.

Вось, – пераконваюць нас, – з'яўляецца ў VII стагоддзі да пачатку нашай эры Колін у Эфесе і стварае верш із двух радкоў, на вайсковыя і патрыятычныя тэмы, але яго творы існуюць толькі ў цытатах больш позніх аўтараў. А на Фаросе, адначасна з ім, з'яўяецца ствральнік ямба, Архілох, пісаўшы такія эпіграмы, што людзі, супраць якіх яны былі скіраваны, заканчвалі жыццё самагубствам, як гэта было, напрыклад, з нейкім Лікамбам і яго дачкой Неабулай. А потым яго вершаваны памер падхапіў Гарацый у Рыме праз 600 гадоў пасьля сьмерці вынаходніка.

У тым жа мінус сёмым стагоддзі з'яўляецца Ксілін і Кульгавы Тыртэй (Тыртэўс) у Афінах, да такой ступені натхніўшы сваімі песнямі спартанцаў, што толькі дзякуючы яму яны здабылі перамогу над месінцамі.

А Мімнерм у Калафоне піша ў тым жа стагоддзі выдатныя кахальныя элегіі. Тэрпандр на выспе Лесбас ў -676 годзе сварае музычную прылада кіфару, і першым напявае пад гоман сваіх струн, не дайшоўшыя да нас, лірычныя творы. Алкей у Мітыленах піша ў -600 годзе оды, гімны і кахальныя песьні, ганьбіць тыранаў і апявае адвагу.

Яго сучасніца – паэтка Сапфо, названая Платонам «Дзясятай Музай», канкуруе з ім у тых жа Мітыленах у кахальных вершах і гімнах, стварае сапфічны верш і кідаецца ў мора з кручы ад непадзельнае каханне.

Потым Анакрэон (памёр -495) стварае кароткія куплеты із чатырох радкоў, і ўсе пасяляне і гараджане водзяць карагоды ў гаях пад гукі струн і лірычных напеваў сваіх паэтаў і паэтак.

У гэты перыяд меладычная песня, – кажуць нам, – падзялілася на эалійскую, пры якой, верагодна пад гукі эолавай арфы, грэцкія пастушкі і пастухі апявалі весялосць і пачуццёвыя радасьці жыцця, і харычную, калі ўсе хорам спявалі узнёслыя гімны пры ўрачыстых працэсіях у гонар богаў.

Адначасова з гэтым, Теагніс у Мегары і Фукідыд у Мілеце абнародуюць свае павучанні – гномы. Сіманід, першы сучаснік «дзесятай музы» Сапфо, у 600 годзе да пачатку нашай эры, у Аморгу балюча абсмейвае жанчын, а Сіманід Другі следам за ім (-556, -468) апявае бітву пры Фермапілах, і адначасна з ім Гіпанакс у Эфесе робіцца знакамітым дзякуючы сваім не дайшоўшым да нас сатырам.

Стэсіхор, памёршы ў -556 г. у Сіцыліі, стварае там лірычныя творы ў гамераўскім стылі, а ў Фівах зяўляецца найвялікшы лірычны паэт Піндар (-522, -448), стварыўшы незвычайныя па сваёй магутнасьці гімны багам, дыфірамбы героям і эпінікі, г.азн. харавыя оды з музыкай і скокамі ў гонар пераможцаў на алімпійскіх, піфійскіх, нямейскіх і істмійскіх гульнях. Сорак пяць із прыпісваемых яму эпінікій існуюць і ў рускім перакладзе, але старажытнасьць іхных рукапісаў, як і ўсіх грэцкіх, не даходзіць нават да межаў сярэдніх стагоддзяў.

У гэты ж час, – запэўніваюць нам, – Сусарыён у Трыпалі і Фестыд ствараюць камедыі і трагедыі ў выглядзе рэлігійнага дыфірамбу боскаму Дыёнісу, міф пра якога мае ўсе асноўныя рысы евангельскіх міфаў пра Хрыста. Ён быў сынам бога Грамабоя, стваральніка нябёс і зямлі, ад зямной дзяўчыны Семелы, якая ў пазнейшых міфах ператвараецца ў багіню Дэметру. Разарваны тыграмі, ён ажыў пасьля таго, як яго сэрца праглынуў Грамабой, і сьвяты ў яго гонар суправаджаліся

папойкамі, аддаленыя сьляды якіх засталіся ў сучасным запіваніі прычашчэння чырвоным віном, разбаўленым, згодна са старажытным грэцкім звычаем, вадой.

Адсюль паходзіць і слова «камедыі» (грэцкае камай-дыі), г.азн. працэсіі ў гонар бога Грамабоя, рэшткі якіх мы маем у праваслаўнай прас-камедыі, што азначае, – папярэднічанне богу Грамабою. Менш зразумела паходжанне слова трагедыя (τραγῳδία), скарачэнне слова трагос (τράγος) – казёл і одэ (ῳδή) – ода, песьня, г.азн. працэсіі ў гонар Казярога з чалавечым ахвяраваннем. Ды і само імя Дзыянісій на ўсходзе ператварылася ў Богуса, г.азн. бога (у лацінскай транскрыпцыі Бахус).

Усё гэта паказвае, што камедыі наогул узніклі із хрысьціянскай прас-камедыі, і іх дарэмна пераносяць у дахрысьціянскую старажытнасьць.

Із філосафаў гэтага часу, – кажуць нам, – Анаксімандр із Мілета ( -611, -545) вылучае із бязмежнасьці чатыры элементы сярэднявечных алхімікаў: сухое і вільготнае, халоднае і цёплае. Анаксімэн у Мілеце (-VI стагоддзе) сцвярджае, што пачаткам ўсяго з'яўляецца бязмежнае паветра, із якога праз разражэнне ўтвараецца полымя, а праз згушчэнне – вада, зямля і вецер. А Ксенафан (-570, -480) абвяшчае, што «бог і сусьвет адно і тое ж», і паўстае супраць сярэднявечнага тэалагічнага антрапамарфізму.

Пачынаецца, – кажуць нам, – **класічны перыяд** грэцкай белетрыстыкі, калі аўтары, пераляцеўшы думкай праз 1000 гадоў у будучыню, пачынаюць пісаць цалкам такой жа мовай, як і пад час эпохі Адраджэння.

Выходзіць на падмосткі Эсхіл (-525, -466), сапраўдны бацька грэцкай трагедыі, паклаўшы пачатак дыялогу. Ён стварае «Прыкутага Праметэя» і, – кажуць нам, – стварае (без паперы) 70 іншых трагедый, із якіх сем існуюць у нашых бібліятэках у поўным выглядзе. Услед за ім выступае Сафокл (-485, -400). Замест сьляпога падпарадкавання року, характэрнага для твораў Эсхіла, ён прыносіць псіхалагічнае матываванне дзеянняў, стварае акрамя дыялогаў і трылогі, і патэтычныя размовы. У цэльным выглядзе із прыпісваемых яму трагедый мы маем таксама сем, але ва ўрыўках яму прыпісваюць да 130.

З'яўляецца Еўрыпід (-480, -405), асаблівы майстар у стварэнні дрэнных жаночых характараў, стварыўшы пралогі і злоўжываўшы умяшаннем богаў для вырашэння заблытаных чалавечых дзеянняў.

З'яўляюцца Іён на Хіасе (-V стагоддзе), са сваімі, не дайшоўшымі да нас, элегіямі і трагедыямі; Агафон (-448, -401) з рытарычнымі месцамі ў сваіх п'есах; сатырык-драматург Ахей (-480, -406) і Крыція. Комікі – Хіянід, Магнат і Кратын (-520, -423) выступаюць з камедыямі выкрываючага напрамку і, нарэшце, з'яўляецца сам Арыстафан (-452, -380), абсмяяўшы дэмагогаў, філосафаў, пісьменнікаў, суддзяў і жанчын з прэтэнзіямі на грамадзкую дзейнасць.

Услед за імі з'яўляюцца Антыфон (-405, -330) із Родаса, напісаўшы (без паперы) 200 п'ес; Еўбул (-376) піша пародыі на Еўрыпіда і 104 камедыі, адносна якіх невядомы нават назвы. Менар (-342, -290) стварае рэалістычныя камедыі, вядомыя толькі ў лацінскіх тэкстах Тэрэнцыя і Плаўта. Нечакана з'яўляюцца, як deus ex machina, шматтомныя гісторыкі.

Герадот, бацька гісторыі (-485, -425), пакідае нам «Гісторыю пярсідзкіх войнаў», ва ўводзінах да якой шмат паведамляе пра ўзвышэнне пярсідзкага царства, Вавілоніі, Асірыі, Ягіпта, Скіфіі і Лівіі, пры чым самым старажытным рукапісам лічыцца медычыйскі, належачы да X стагоддзя нашай эры.

Фукідыд (-424, -404) піша шматтамовую «Гісторыю пелапанэскай вайны». Ксенафонт (-434, -359) дае яе працяг і апісвае адступленне 10 000 грэкаў пад яго кіраўніцтвам із Малой Азіі; Ктэсіяс (-400) піша пярсідзкую гісторыю; Феапомп (-IV стагоддзе) працягвае гісторыю Фукідыда і дае нам нарыс свайго часу; Эфар (-400) піша ўсеагульную гісторыю з часоў «перасялення дарыйцаў» да -340 года... Але вось найвялікшы прамоўца сьвету Дэмасфен (-383, -322) прамаўляе свае «філіпікі», і велізарны ўраджай на гісторыкаў спыняецца ў мінус чацьвёртым стагоддзі. Ён аднаўляецца з новай магутнасьцю толькі ў мінус другім стагоддзі, калі Палібій (-205, -123) піша (без паперы) саракатамную гісторыю пашырэння рымскага валадарання. Із гэтых сарака тамоў вядома, праўда, толькі пяць кніг, але шматлікія цытаты з яго знаходзяцца ў розных больш позніх аўтараў у якасьці доказу правільнасьці іхных высноваў. Дыядор Сіцылійскі, які жыў на самым пачатку нашай эры, даводзіць у сарака тамах сваёй «Гістарычнай бібліятэкі» гісторыю ўсіх, вядомых у той час, народаў да мінус 60 года. Мастак Апаладор (-520) у гэты час ужо вынайшаў штрыхоўку і цені ў малярстве, а іншы Апаладор (-140) напісаў геаграфію ў вершах, гістарычную хроніку і зборнік міфалагічных паданняў. Дзіянісій Галікарнакскі пакідае нам у мінус першым стагоддзі на грэцкай мове 20 тамоў «Рымскай археалогіі», із якіх вядома дзевяць. Страбон (-54, -24) піша (без паперы) сямнаццаць кніг усеагульнай геаграфіі, якая лічыцца лепшай першакрыніцай для вывучэння зямлі і яе народаў[81] у часы евангельскага Хрыста, хаця і не згадвае пра яго. І, нарэшце, з'яўляецца сам гэты «Хрыстос», вялікі лекар, які лякуе хворых адным сваім дакрананнем і ажыўляе нават памёршых, вялікі алхімік, які ператварае ваду ў віно і прызнаны кампетэнтнымі людзьмі за сына самога бога Грамабоя.

Пачынаецца хрысьціянская эра і яе заснавальнік, хаця і быў «жыдом із Сірыі», але яго вучні выяўляюцца амаль усе выключна грэкамі і пішуць выключна па-грэцку.

Пакідаючы пакуль характарыстыку першых стагоддзяў хрысьціянства, вернемся зноў да яго пярэдадня і паглядзім на іншыя бакі тагачаснага разумовага жыцця.

Не менш квітнеюць у гэты час і навука, і філасофія. Распрацоўка іх у Грэцыі, – кажуць нам, – пачалася яшчэ ў той час, калі Сіманід Старэйшы абсмяяў жанчын.

Першым із усіх з’явіўся гігант навукі і філасофіі Піфагор (-580, -500) і заснаваў у Кратоне сваё піфагарэйскае таварыства, адкрыў знакамітую пад час эпохі Адраджэння тэарэму «Піфагоравы штаны», выпрацаваў тэорыю лічбаў (выпрацоўка якой у рэчаіснасьці зрабілася магчымай толькі праз тысячу гадоў пасьля яго, пасьля вынаходніцтва арабамі дзесяцічнй сістэмы злічэння) і, нарэшце, заснаваў астраномію, якая грунтуючыся на тых жа нашых першакрыніцах створана толькі ў мінус другім стагоддзі Гіпархам, які жыў праз 400 гадоў пасьля яго.

Глухі ў дачыненні да яшчэ гучаўшых прамоваў апошняга паэта таго перыяду – Піндара, грэцкі геній схіляецца да навукі. З’яўляецца Геракліт (-500 г.) у Эфесе, які абвясьціў полымя (ён жа: сьвяты  дух) падмуркам усіх рэчываў, узнікаючых із яго і знікаючых у ім. – Але ж гэта – флагістон эпохі Адраджэння, выгнаны із навукі толькі геніем Лавуазье! Ён абвяшчае, што Слова (Λόγος – па-грэцку) з’яўляецца сусветным розумам, але гэтае ж самае вынаходзіць праз 500 ці нават праз 1000 гадоў і аўтар евангелля Яна, і абвяшчае, як сваё, у знакамітым выслоўі «напачатку

---

[81] Выдатны рускі пераклад Мішчанкі.

было Слова, і Слова было ў бога, і Слова было – бог». Акрамя гэтага, Геракліт жа выказаў і вельмі пашыранае пад час эпохі Адраджэнні выслоўе: «усё цячэ»[82].

Адначасна з ім, у Іёніі нараджаецца Анаксагор (-400, -428), але перасяляецца ў Афіны (якія ўпершыню адраджаюцца пры ім да разумовага жыцця) і абвяшчае там, што ўсё складаецца са шматлікіх бясконца дзялімых і вечна нязменных першарэчываў, якія размяркоўваюцца сусветнай думкай; за гэта яго, быццам бы, праганяюць із вальнадумных Афінаў, як гэта ні дзіўна. І ў той жа час, у каланізаванай грэкамі Сіцыліі, у сучасным Джырджэнце, Эмпедокл (-490) папраўляе і Геракліта, і Анаксагора і аб'вяшчае тое самае вучэнне, якое адрадзілася праз дзьве тысячы гадоў і непадзельна панавала ў навуковым сьвеце аж да ўзнікнення навейшай хіміі, – навука пра чатыры стыхіі: полымя, вада, зямля і паветра, із якіх быццам бы складаецца ўсё існае, калі іх злучае прадвечнае Шанаванне, і разбураецца, калі іх падзяляе Варожасць. А Зянон стварае дыялектыку, як мастацтва спрэчкі, шляхам прывядзення аспрэчваемага выказвання да недарэчнасьці...

Але, вось, не паспелі яшчэ яны памерці, як з’яўляецца новы гігант думкі, Дэмакрыт (-460, -370), і, скасоўваючы (будучыя!) сярэднявечныя тэорыі пра дзяленне рэчыва да бясконцасьці і пра чатыры стыхіі, абвяшчае цалкам атамістычную тэорыю сучаснай хіміі за 2200 гадоў да яе ўзнікнення! Ён робіць гэта адкрыццё ў Фракіі, і якраз у горадзе Абдэры, які лічыцца ў класічнай літаратуры «самым неразумным із усіх зямных гарадоў», так што слова «абдэрыт»[83] было сінонімам дурня.

«Усё – выказваўся ён гэтак жа, як і пазней Лавуазье у Парыжы, – складаецца із непадзельных атамаў, і ўсе з'явы прыроды аб’ядноўваюцца іхнымі рухамі». Чытач бачыць сам, што нават і наша сучасная электронная тэорыя была абвешчана за 2300 гадоў да нас у самым неразумным са старажытна-грэцкіх гарадоў!

І адначасна з ім на выспе Ка́се Гіпакрыт (-460, -356) засноўвае медыцыну цалкам у тым жа выглядзе, у якім яна быццам бы ў другі раз «адрадзілася із нябыту пад час эпохі Адраджэння».

Ён піша «сем кніг пра эпідэміі», стварае дыягностыку, піша (без паперы) кнігу пра пераломы костак, пра часткі чалавечага цела[84], і ўсё ў ёй так, як пісалі (ужо на паперы!) у Яўропе, у XIII стагоддзі!

Адначасна з ім эфектна з'яўляецца на падмостках і сыходзіць з іх ўслаўлены Сакрат (г.азн. па-грэцку: Ратавальнік Улады, а імя яго жонкі – Ксантыпа – азначае Рудая Кабыла). Ён, – кажуць нам, – не пакінуў нічога ад сваёй вялікай мудрасьці ў пісьмовым выглядзе, таму што вучыў звычайна на вуліцах і пляцах, дзе было вельмі цяжка яго запісаць, але яго справа была працягунута пладавітым пісьменнікам Платонам (-427, -347), дыялогі якога я ўжо разбіраў вышэй стылеметрычім спосабам, пры чым паказаў, што паміж імі няма ніводнага, які не лічыўся б за падроблены тым ці іншым із навейшых навукоўцаў платаністаў. І найбольш характэрнай асаблівасцю яго філасофіі з'яўляецца тое, што кожнаму існаванню, быццам бы, папярэднічала яго ідэя, што замяніла тут «Слова» евангеліста Яна, і яна ж згодна з ім з'яўляецца і ўсюдыісным богам, стваральнікам усяго. Але, ж, гэта ўжо рспрацоўка наіўнага ўяўлення Яна!

---

[82] πάντα ρεί (панта рэй) – усё цячэ.

[83] Абдэрыт – сінонім крайняй неразумнасьці ў грэцкіх класічных пісьменнікаў.

[84] «Epidemiorum libri septem»; «De articules»; «De fracturis»; «Praenotionec et Prognosticon»/

Філан у -250 г. піша свой «Механічны сінтаксіс», із якога нам даюць урыўкі толькі вельмі позніяаўтары. Геран вынаходзіць свой знакаміты фантан, Гіпарх у мінус другім стагоддзі засноўвае ў Нікеі (!) астраномію, дае шыроты і даўготы для зямлі і неба і, склаўшы каталог зорак, вылічвае, што кліматычны год даўжэй чым зорны...

– Але як жа ён мог гэта зрабіць, – запытаеце вы мяне, – калі ў той час яшчэ не была вядомай нават і прыблізная даўжыня кліматычнага года, упершыню усталяваная юліянскім календаром, лічыўшымся нават на Нікейскім саборы тоесным з даўжынёй зорнага і з даўжынёй кліматычнага года?

– Ніяк не мог, – упеўнена адкажу на гэта я. – Таму што для таго каб вылічыць прэцэсію было недастаткова скласьці грубым кутамерам каталог зорак. Для непасрэднага вымярэння перамяшчэня кропкі раўнадзенства ў астраномаў няма і зараз ніякіх прылад, таму што і самай гэтай кропкі нідзе не бачна. Перамяшчэнне раўнадзенства магло быць вызначана толькі ўскосным шляхам. Калі на Нікейскім саборы (325 г.) дэкрэтавалі, што дзень бывае роўным ночы 21 сакавіка, то лічылі, што так будзе і заўсёды. І толькі праз 128 гадоў астраномы 453 года ўпершыню змаглі б заўважыць, што вясновае раўнадзенства прыпадае ўжо на 20 сакавіка. Але ці заўважылі яны? Вядома, не. Таму што тады не было яшчэ і дакладных гадзіннікаў для вымярэння роўнасьці дня і ночы, і на працягу ўсіх сярэдніх стагоддзяў мы не бачым ніводнага ўказання на тое, каб навукоўцы ў Яўропе ўсумніліся ў праўдзівасьці нікейскага рашэння. Патрэбна было прайсьці больш чым 1000 гадам, каб, зрабіўшы новыя дакладныя вымярэнні з дапамогай гномаў даўжыні ценяў пад час сонцастаянняў і сканструяваўшы дакладны гадзіннік для вызначэння даўжыні дня і ночы, а таксама назіраючы вельмі доўгі час геліятычныя узыходы зорак знаходзячыхся паблізу экліптыкі, асабліва Рэгула (ад якога і ўтварыўся тэрмін: рэгуляванне), – астраномы змаглі пераканацца, што роўнасць дня і ночы прыпадае як вясной так і восенню ў іхны час раней, чым прызначылі нікейскія навукоўцы, і што Рэгул пачынае ўзыходзіць на 9 дзён пазней.

Пералічыўшы гэта із дзён сонечнага гадавога шляху на градусы экліптыкі, тагачасныя навукоўцы лёгка змаглі перавесьці ўсё гэта і ў тыя градусныя адзінкі, у якіх і зараз вызначаецца прэцэсія ў астраноміі. Інакш ніяк немагчыма было памераць велічыню прэцэсіі. Адно ўзняцце сузор'я Фенікса над гарызонтам яшчэ не паказвала «лаўцам гэтай птушкі» на вярчэнне полюса неба вакол полюса экліптыкі...

Якім жа шляхам вызначыў яе Гіпарх, толькі-што вынайшаўшы нябесныя каардынаты і не меўшы яшчэ дастатковай колькасьці назіранняў ні над адступленнем раўнадзенства ад даты прызначанай Юліянскім календаром, якога пры ім яшчэ не існавала, ні над адступленнем геліятычнага ўзыходу і заходу зорак ад даты таго ж самага, яшчэ невядомага яму, Юліянскага календара?

Зразумела, што гэта – міф пра нейкага больш пазняга астранома. Ці не пра Пталямея Александрыйскага? І гэтага не можа быць. Адступленне раўнадзенства ад Юліянскага календара і адступленне ад яго ж геліятычных узыходаў зорак былі яшчэ ў межах памылак тагачасных назіранняў, а таму і мае сумневы на конт атаясамлення твораў самага Пталямея з другім стагоддзем нашай эры цалкам дарэчныя.

Але, вывучаючы гісторыю старажытнай астраноміі, мы знаходзім і яшчэ больш дзіўныя рэчы. Вось Фалес, які жыў паміж -639 і -546 гадамі, яшчэ не ведаючы даўжыні сонечнага года, ужо прадказвае сонечнае зацьменне не інакш як

«на 28 траўня -584 года» згодна з юліянскім злічэннем, і яно сапраўды адбываецца! Вось Арыстарх Самоскі (-III стагоддзе) за дзве тысячы гадоў да Каперніка ўжо вучыць пра рухі зямлі!

Усё гэта так неверагодна, што ўзнікае жаданне хутчэй пакінуць астраномаў Александрыйскага перыяду ў спакоі і перайсьці да іншых геніяў таго часу. Асабліва пашчасьціла ў гэты час Апалоніям, г.азн. асобам, аднайменным з прадказальнікам будучых часоў, Апалонам-Фебам, вынаходнікам цытры і кіраўнікам муз.

Апалоній Радоскі, паэт, піша ў мінус III стагоддзі паэму «Арганаўты»; Апалоній Тралеўскі, скульптар, стварае кампазіцыю Фарнезійскага быка, якая захоўваецца ў Неапалі; Апалоній Пергскі ў Памфіліі стварае тэорыю канічных сячэнняў яшчэ ў 200 годзе нашай эры! Апалоній Тыянскі жыве ў Малой Азіі адначасна з евангельскім Хрыстом і гэтак жа, як і ён, навучае чыстаму богапазнанню і лічыцца ўвасабленнем самай боскасьці. Із астатніх дзеячаў Арат (-230) у Кілікіі стварае астранамічную паэму Phaenomena et Prognostica, вядомую толькі ў лацінскім перакладзе, які прыпісваецца самаму Цыцэрону. Калімах (-310, -235), цар элегіі, пазней праз трыста гадоў служыць узорам для лацінскіх твораў Авідыя, Вяргілія, Прапорцыя і Катула. Ён стварае, – пераконваюць нам, – больш чым 800 твораў у вершах і прозе, шмат гімнаў, паэм, эпіграм і эратычных вершаў, і яго зборнік «Нагоды» (Αἴτίαι) у чатырох кнігах паслужыў (праз 2000 гадоў!) крыніцай для шматлікіх раманічных сюжэтаў у еўрапейскай літаратуры новага часу. Тэакрыт (-250) у Сіракузах стварае свае ідыліі із жыцця старажытна-грэцкіх нявінных пастушкоў і пастушак. Біён (-200 г.) у Сіцыліі працягвае пісаць у стылі Тэакрыта, але дадае і эпіграмы, і чыста эратычныя куплеты.

Мосх (г.азн. Масквіч па-грэцку) у мінус другім стагоддзі стварае ў падобным жа стылі паэму «Яўропа».

Маленькія апавядальні аўтараў гэтага накірунку, супрацьпастаўляўшыя прастату і нявіннасць вясковых насельнікаў сапсаванасьці насельнікаў гарадоў, хутка закончыўшыся ў Грэцыі, раптам адраджаюцца спачатку на лацінскай мове ў Вяргілія і Кальпурнія, заканчваюцца навекі і ў латынян, а потым раптам ажываюць у Францыі ў XVI стагоддзі ў Рансара, Мадам Дэзульер і Дэліля, на вялікі жах акадэміка Буало.

Нягледзячы на яго крытыку, пастушкоўскія ідыліі пераносяцца Томсанам (1700-1748) у Англію, Гёснерам, Фосам і збольшага нават Гётэ ў Германію, а ў Расію Сумарокавым, Княжніным, Уладзімірам Панаевым, Гнедзічам і Карамзіным.

Ці магчыма, з эвалюцыйнага боку гледжання, такое абуджэнне аднаго і таго ж экзатычнага роду літаратуры на чужыне праз тысячагоддзі пасьля таго, як яно знікла ў сябе на радзіме? Мы проста павінны адказаць: НЕ!

Так мы дайшлі да **пятага перыяду** грэцкай літаратуры, маючага назву рымскі, а ў тэолагаў – хрысьціянскі, хаця згодна з нашымі ранейшымі вылічэннямі хрысьціянскі перыяд пачаўся толькі з «Вялікага цара» (Васіля Вялікага па-грэцку). Працягам Теакрытавых пастушкоў і пастушак з'яўляюцца ў гэты час евангельскія рыбакі і грэшніцы.

Але ці сапраўды евангеллі былі працягам, а не пачаткам пастаральнай літаратуры? Згодна са сваёй сутнасьцю, – гэта пачатак, таму што грэцкая мова евангелляў, гэтых зародкаў сентыментальнага рамана, непараўнальна менш дасканалая, чым у класічных аўтараў, у якіх яна падобна на мову пісьменнікаў эпохі Адраджэння. Але і з евангеллямі не ўсё зразумела. Здавалася б, што, узнікшы

адзін раз, падобная літаратура павінна была б пышна заквітнець і развівацца на працягу другога і трэццяга стагоддзях нашай эры. Аднак жа на справе не назіраецца нічога падобнага. Пасьля таго, як з'явіліся евангеллі Марка і Яна, падобная творчасць прыпынілася. Евангелле Яна цалкам не мела працягвальнікаў, а евангелле Марка неўзабаве значна папоўнілася новымі легендамі. З аднаго баку, Мацьвей дадаў да яго радавод і дзяцінства Езуса разам з некалькімі іншымі паданнямі, а з другога – Лука зрабіў некалькі дадаткаў у сярэдзіне – і такім чынам утварыліся яшчэ два вытворныя евангеллі, грунтам якіх служыла евангелле Марка. Потым яшчэ з’явіліся евангеллі Якава, Нікадзіма і некаторых іншых, і творчасць еўрапейскіх аўтараў у гэтым накірунку надоўга спынілася, і, калі верыць царкоўным гісторыкам, амаль ніхто не меў жаання ўшанаваць новага бога. Нават у час Апакаліпсіса, як бачна із яго самога (гл. II і III), існавалі толькі сем суполак у Малой Азіі.

Наўзамен гэтага з'яўляюцца грунтоўныя грэцкія і рымскія гісторыкі, нічога не ведаючыя нават і пра такія вельмі важныя падзеі, як прыход на зямлю самаго бога – Грамабоя, яго ўчалавечанне ў Палестыне і зваротнае вяртанне на неба ў глыбокім расчараванні, з нагоды таго, што амаль ніхто із людзей не паверыў яго апавяданням, быццам бы ён і з’яўляецца стваральнікам нябёс і зямлі, адначасова і бацька і сын самага сябе, і адзін у трох асобах (uno in trinita).

Мы можам, вядома, не здзіўляцца таму, што тагачасныя грэцкія філосафы, навукоўцы, гісторыкі і белетрысты не паверылі двум апошнім дзіўным цверджанням, магчымым толькі ў асяроддзі вар'ятаў (дзівіцца даводзіцца толькі таму, што ім верацъ шмат якія сучасныя людзі, лічачыя сябе адукаванымі і знаходзячыміся ў цьвярозым розуме). Але чаму ж яны прамаўчалі пра гэтую павальную хваробу сваіх сучаснікаў, калі так падрабязна апісалі іншыя, непараўнальна меншыя, грамадзкія бедствы, нападобе параўнальна хуткапраходзячай чумы?

Я ўжо не буду нічога казаць пра Рудога Ёсіфа (Ёсіф Флавій), які нарадзіўся, як кажуць, хутка пасьля сьмерці Езуса ў 37 годзе нашай эры, гэтым «фарысеі», з бацькам якога, напэўна, і размаўляў Езус у Эль-Кудсе пра тое, ці патрэбна плаціць падаткі царам. Вазьму іншую славутасць таго часу.

Вось амаль адначасна з Рудым Ёсіфам з’яўляецца знакаміты Валадар Багацця (Плутарх, ад 50 да 120 г.) у грэцкай Беотыі і піша ў якасьці навучання нашчадаў свае «Жыццяапісанні знакамітых людзей». Як ён мог нічога не паведаміць пра такую славутасць, як сам стваральнік неба і зямлі, які нарадзіўся пры яго бацьку ад палестынскай дзяўчыны, і ні словам не згадаў пра такіх філосафаў, як Ян Багаслоў з яго вучэннем пра Логас – Слова?

На працягу ўсяго гэтага перыяду грэкі цалкам забываюцца пра белетрыстыку, больш не ствараюць ні драм, ні камедый, ні паэм. Падобна земляробам, вядучым сваю гаспадарку грунтуючыся на трохпалеткавай сістэме рускіх сялян, якія сеялі спачатку жыта, на наступны год авёс, а потым пакідалі зямлю на год пад парам, яны таксама пакінулі «пад парам» свае галовы для вытанчанай літаратуры.

З’яўляецца цэлае згуртаванне гісторыкаў. Апіян у Ягіпецкай Александрыі піша (без паперы!) Рымскую гісторыю пачынаючы ад найстаражытнейшых часоў да Актавіяна Аўгуста складаючуюся із 24 кнігах. «Сучаснік Хрыста Страбон» (-54, +24) піша ў Понце сваю вялізную «Геаграфію» із 17 кніг (існуе рускі пераклад Мішчанкі, 1879 года). Дыён Касій (155-230) піша (без паперы) «Гісторыю Рымскай

імперыі ад утварэння Рыма» да 229 год нашай эры із васьмідзесяці кніг. Герадыён (170-241) піша палітычную гісторыю той жа імперыі ад Набожнага Антаніна да Гардыяна III.

Вялікі астраном «Кульгавы Пталямей» у Александрыі стварае «Оптыку» із пяці кніг, у якой выкладае сучаснае нам вучэнне пра адбіванне і пераламанне сьвятла; піша тры кнігі пра музыку, навуку пра гармонію, стварае нашу найноўшую мапаграфію з 360-градуснай сеткай паралеляў і мерыдыянаў (якія дзякуючы звілістасьці зямной паверхні і мораў можна вызначыць толькі з дапамогай нашых перамяшчаемых дакладных гадзіннікаў!); даводзіць межы дасьледаванага сьвету ў Афрыцы да Занзібара, у Азіі – да Кітая і Сіяма, у Яўропе – да Скандынавіі і Паўночнай Расіі; дае замкнёныя абрысы Каспійскага мора і пазначае зліваючыяся з ім рэкі: Волгу пад найменнем Ра (рака, старажытнае рка ці rha) і Урал пад найменнем Даік (рускае: Яік) і нават размяшчае поўнач зверху мапы, як і мы, а не на ўсходзе, як пазначалі нават у XII стагоддзі. І вось выяўляецца, што на працягу сярэднявечча пра гэта ніхто нічога не ведае... «Сярэднія стагоддзі, – пераконваюць нас гісторыкі геаграфіі, – былі эпохай вяртання да першабытных уяўленняў пра зямлю, як пра плоскі чатырохкутнік ці як пра кола, і толькі ў XV стагоддзі Марк Бехаім зрабіў першую спробу намаляваць зямлю сапраўды ў выглядзе шара, г.азн. глобуса».




Мал. 45

*Узор сярэднявечнай мапаграфіі арабаў X стагоддзя нашай эры. Мапа ўсяго сусьвету Аль-Істахрі, каля 950 года ў «Кнізе шляхоў і дзяржаваў».*

Але ці сапраўды тут было простае вяртанне, г.азн. вяртанне чалавецтва знаходзіўшагася ў юнацкім веку да дзіцячага ўзросу, праз які яно прайшло ўжо тысячагоддзе назад? Ці сапраўды «Геаграфія» Пталямея, «застатуўшаяся раней забытай», была знойдзена, як нас пераконваюць, – толькі разам з адкрыццём Амерыкі Калумбам у 1492 годзе? Ці не прасьцей дапусціць, што гэтая кніга была і

напісана ад імя старажытнага грэцкага навукоўцы незадоўга да падарожжа Калумба? Таму што толькі ж да гэтага часу і назапасіліся дастатковы для яе папярэднія веды (гл. мал. 45, 46, 47, 48). Толькі ў XIII стагоддзі Марка Пола (1254-1323) ездзіў із Венецыі да мангольскага хана Кублая[85] і напісаў мала вядомы тады рукапіс, у якім змясьціў першыя дакладныя паведамленні пра Манголію і ўпершыню паведаміў пра існаванне Японіі і Малайскага архіпелага?



Мал. 46.
*Мапа ўсёй зямлі Макробія із рукапісу X стагоддзя.*

Толькі ў XIV-XV стагоддзях з'явіліся першыя мапы, нападобе Каталанскай ці Фра Маўра (XV стагоддзе), і толькі пасьля вынаходніцтва компаса (1300 год) і вялікіх кілявых караблёў з сістэмай размяшчэння ветразяў, дазваляўшай плаваць у адкрытым моры, па ветру і нават супраць ветру, пачаліся далёкія акіянічныя вандроўкі, меўшыя наступствам выключна вялікую цікавасць да геаграфіі. І ўсё ж толькі дзякуючы вынаходніцтву друкавання ў 1450 годзе з’явілася магчымасць зрабіць рукапісы асобных навукоўцаў даступнымі не толькі для асабістых знаёмых аўтара, але і для чужых адукаваных людзей. Кнігі, прыпісваемыя Пталямею, нібы жыўшаму яшчэ ў другім стагоддзі нашай эры, раптам ператварыліся ў незвычайна папулярныя і разыходзіліся ў шматлікіх выданнях, канкуруючы з іншымі не апакрыфічнымі «касмаграфіямі», пакуль вынаходніцтва спосабаў трыганаметрычнай здымкі, вынаходніцтва дакладных астранамічных прылад для вызначэння шыраты і дакладных пераносных хранометраў для вызначэння даўгаты не паставілі геаграфію на яе сучасную вышыню.

[85] Гл. пераклад яго кнігі ў «Чытаннях Маскоўскага Таварыства Гісторыі» 1861, кн. 3 і 4, і 1862, кн. 1-4.



Мал. 47.
*Узор мапаграфіі еўрапейцаў напярэдадні эпохі Адраджэння. Із рукапіса Cottoniana, каля XI стагоддзя, захоўваючагася ў Брытанскім музеі.*

Так цяжка і паступова даставаліся чалавецтву сапраўдныя поспехі ў галіне геаграфіі, цалкам залежаўшыя ад поспехаў тэхнікі і астраноміі! І раптам нам кажуць: Супакойцеся! Амаль усё гэта было вядома і Клаўдыю Пталямею ў ІІ стагоддзі, але толькі было потым забыта на тысячу з гакам гадоў. А Страбон у Понце[86] яшчэ да пачатку нашай эры апярэдзіў ідэі Рыхтара і Бокля пра цесную сувязь паміж геаграфіяй і гісторыяй, але толькі і гэта было «забыта» амаль на дзве тысячы гадоў!

Але супакоіцца ў навуцы немагчыма.

[86] Яго «Геаграфія» ў 17 кнігах перакладзена Мішчанка ў 1879 г.

Як магчыма нават падумаць, што ў IX, X і XI стагоддзях самыя адукаваныя па тым часе арабы, якія ўжо даўно валодалі Ягіптам і Паўднёвай Гішпаніяй, і самыя адукаваныя згодна з тым часам візантыйцы і італьянцы пачалі, забыўшыся пра ўсе папярэднічаўшыя геаграфічныя веды, маляваць такія мапы сьвету, як паказаны ў мяне на малюнках 45, 46, 47 і 48, у той час як у кляштарах асьцярожна захоўваліся Пталямеевы мапы зямнога кола, амаль цалкам такія ж, якія маляваліся ў XV стагоддзі нашай эры? Гэта ж немагчымае цверджанне, хаця б яно і засноўвалася на сведчаннях цэлых тысяч ілжэсьведак! І менавіта, чым больш тут сведак, тэм менш верагоднасьці, каб вядомае такой колькасьці людзей было невядома хаця б аднаму са старальнікаў сярэднявечных мапаў!

Не лепш палягае справа і ў галіне астраноміі. Згодна з усімі эвалюцыйнымі меркаваннямі «Альмагест» Пталямея павінен быў быць непасрэдным пралогам да кнігі Каперніка «De Revolutionibus Orbium Coelestium», выдадзенай каля 1543 г., а нам кажуць: «абедзьве кнігі разлучаны прамежкам у 1300 гадоў»[87]. Але і гэта яшчэ не ўсё.

* * *

Амаль услед за Пталямеем, – сцвярджаюць сучасныя гісторыкі, – грэкі на Ўсходзе, а з імі і ўвесь адукаваны сьвет Яўропы, на шмат стагоддзяў «забываецца пра выдатную, класічную грэцкую мову» і пачынае размаўляць на больш першабытнай мове царкоўных пісьменнікаў.

Гэты сярэднявечны перыяд, маючы назву візантыйскі, сапраўды пачынаецца з Юстыніяна, куды адносяць, між іншым, Пракопа (VI стагоддзе), напісаўшага кнігі: «Таемная Гісторыя», «Гісторыя вайны з персамі, вандаламі і готамі», «Пра пабудовы Юстыніяна», а таксама, – кажуць нам, – і навочную «Гісторыю» ў 8 кнігах. У VII стагоддзі пішуць «на дрэннай мове» Тэафілакт Сімаката, Ян Малама, з'яўляецца першая сапраўды гістарычная кніга «Велікодная хроніка». У IX стагоддзі пішуць Амартол, у X стагоддзі Кастусь Барвянародны, Леў Граматык, Сымон Магістр; у XII стагоддзі з'яўляюцца гісторыкі: Ганна Камнена, Нічыпар Урыеній, Ян Кіннам, Мікіта Акамінат, Рыгор Кедрын, Ян Занара, Міхал Гліка, Рыгор Акрапаліт. І нікому із іх нічога не было вядома пра шматлікую класічную навуку і літаратуру!

---

[87] Як доказ даўнасьці некаторых месцаў Альмагесты, мне даводзілі, што каардынаты зорак паказаны там ад пачатку Авена, але такімі ж мы бачым іх і на зорных мапах Любінецкого ў XVII стагоддзі. А прэцэсію, амаль у тым жа выглядзе, як і мы, добра ведалі складальнікі Грыгарыянскага календара ў 1582 годзе, прыстасаваўшы яго да яе, грунтуючыся на лікавых дадзеных папярэднічаўшых стагоддзяў.



Мал. 48.

*Пентынгерава мапа (Tabula Pentingeriana), знойдзеная ў Аўгсбургу ў 1457 годзе на 12 лістах пергаменту даўжынёй у 6,82 метры і шырынёй у $^{1}/_{2}$ метры. На ёй пазначаны назвы дарог і адлегласьці паміж гарадамі, намаляванымі ў выглядзе хатак, а лясы пазначаны купкамі дрэў. Лічыцца вынікам маршрутнай здымкі Лаціна –Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі, зробленай быццам бы яшчэ згона з загадам Актавіяна Аўгуста, за паўтары сотні гадоў да Пталямея, але адрэгаванай і канчаткова намаляванай ужо праз паўтары сотні гадоў пасьля Пталямея не раней IV стагоддзя нашай эры. Ад геаграфіі Пталямея тут няма і следу!*

Але вось пачынаецца эпоха Адраджэння, і класічная мова абуджаецца ад свайго заварожанага тысячагадовага сну. На ёй пачынаюць і размаўляць, і пісаць цалкам такія ж кнігі, як і пад час старажытнасьці. Сапраўды плодапераменная гаспадарка з пакіданнем галоў усяго культурнага чалавецтва на некалькі стагоддзяў «пад парам!»

Ці магчыма нешта падобнае пры натуральнай псіхічнай эвалюцыі чалавецтва? Хай везувійскія катастрофы і надалі рэлігійнай фантазіі мясцовай інтэлігенцыі містычны, спалоханы накірунак, але гэтыя катастрофы былі толькі мясцовымі і прыводзілі ў бязладзіцу толькі адзін бок разумовай дзейнасьці людзей. Сярэднявечная тэалогія была тым, што ў псіхіятрыі мае назву idee fixe, г.азн. разладам уяўлення толькі пра адзін, вызначаны прадмет, дзякуючы злучанаму з ім мясцоваму пашкоджанню мазгавога апарата ад уздзеяння нейкай жахлівай асабістай катастрофы, пры гэтым усе астатнія часткі мозгу функцыянуюць цалкам нармальна і ніколькі не пашкоджаны. Падобна людзям, якія цалкам разумна разважаюць пра ўсё, але як толькі вы закранеце вызначанае пытанне, з якім злучыўся ў іх, напрыклад, незвычайны жах, лакалізаваўшыся ў той жа частцы мозгу, дзе засталіся пра яго ўспаміны, яны раптам пачынаюць несьці адну і тую ж лухту, – так і сярэднявечныя манахі і навукоўцы былі цалкам нармальнымі і нават таленавітымі, як і сучасныя, ва ўсім, што не мела дачынення да пытання боскасьці,

з якім у іхных продкаў злучаўся панічны жах везувійскіх катастроф, перадаўшыся і ім. Яны былі здольны пісаць вельмі добрыя свецкія трагедыі і драмы і рабіць навуковыя даследаванні і адкрыцці цалкам мэтанакіравана і разумна. Але як толькі перад імі прамаўлялі слова «бог» (г.азн. устрасальнік неба і зямлі), – у іх пачыналіся згодна з традыцыяй іхных продкаў мясцовыя сударагі ў дадзенай вобласьці шэрага рэчыва галаўнога мозгу, і наўзамен разумных уяўленняў гэтая частка мазгавых звілін пачынала выкідваць у незакранутыя вобласьці іхнай свядомасьці (якую я лічу размешчанай у мазжачку) заўсёды адны і тыя ж выродлівыя ўяўленні і нават тыя ж самыя моўныя выказванні, нападобе спалоханых:

«Адзін у трох асобах!...» ...«бог цнатліва зачаты Марыяй пры Актавіяну Аўгусту»... «ён, бог, быў спакушаемы дз’яблам, аднак, выстаяў!»... «У адзін і той жа час і свой бацька, і свой сын!»... «Памёр ва ўзросце 33 годоў пасьля свайго нараджэння, але потым ажыў, трохдзённы ад труны!»... «Паляцеў на нябёсы і сядзіць зараз на іх направа ад бацькі!»...

Якое б то ні было пярэчанне супраць хаця б аднаго із гэтых пунктаў мела наступствам яшчэ большыя сударагі той звіліны шэрага рэчыва вялікага мозгу, дзе лакалізаваліся гэтыя недарэчныя ўяўленні, як і ў кожнага іншага аднабакова памяшанага, калі закранаўся прадмет яго вар'яцтва. Замест спакойнага і лагічнага разважання пачыналася раздражненне супраць пярэчыўшага якое душыла ўсё астатняе. Але яно, як і ва ўсіх іншых выпадках аднабаковага вар'яцтва, неўзабаве праходзіла, калі размова пераходзіла на іншых тэмы: чалавек зноў пачынаў разважаць цалкам разумна.

Вось чаму з псіхалагічнага боку гледжання мы і не бачым ніякіх падставаў для таго, каб пры ўзнікненні хрысьціянскай містычнай тэалогіі, – як выніку чыста мясцовага функцыянальнага пашкоджання невялікай часткі галаўнога мозгу ў перапалоханых Везувіем прыхільнікаў бога – Грамабоя, – павінны былі саслабець у асяроддзі яго сярэднявечных прыхільнікаў і ўсе іншыя вобласьці шэрага рэчыва мазгавых паўшар'яў і каб у іх магла спыніцца ці саслабець і не злучаная з тэалогіяй літаратурная і чыста навуковая творчасць.

Мы ж ведаем, што рэлігійныя містыкі новага часу, як, напрыклад, Гогаль ці Шатабрыян, часта былі выдатнымі белетрыстамі, ды і самі заснавальнікі сучаснай астраноміі Капернік і Ньютан былі рэлігійнымі містыкамі, перакананымі, што Езус паляцеў у чалавечым выглядзе на нябёсы і сядзіць зараз там направа ад бацькі, хаця самі ж яны аспрэчылі існаванне крышталічнага скляпення на небе, на якім была б магчымасць рамясьціцца чалавеку больш-менш камфартабельна.

* * *

Рэзюмуем жа ўсё павядомленае.

Табліца XXIII навочна паказвае ўсю гэтую плодапераменную гаспадарку ў старажытна-грэцкай літаратуры. Зірніце на яе, і вы самі пабачыце, якім непраўдападобным з’яўляецца падобнае ўяўленне.

Да пятага стагоддзя з’яўляюцца толькі лірычныя, гераічныя і сатырычныя паэты. І першы ж із гераічных паэтаў стварае (хаця б і карыстаючыся ранейшымі асобнымі паэмкамі, прыстасоўваючы іх адну да другой, як членікі доўгіх колавых марскіх чарвякоў) цэлыя эпапеі нападобе «Іліяды» і «Адысеі». Для таго ж, каб напісаць іх тагачасным буйным почыркам, патрэбен быў скрутак пергаменту каля вярсты даўжынёй, а сшываемая кніга была прыдумана толькі пад канец сярэдніх стагоддзяў. А калі гэта ўсё ж было магчымым, то чаму не зрабіў нечага падобнага і

нейкі празаік, стварыўшы, такім чынам, нешта нападобе арабскй «Тысяча і адна ноч», расьцягнутай вярсты на дзьве?

Падобны празаічны кангламерат складаць было нашмат лягчэй, чым гекзаметрычна вытрыманы верш. Чаму не існуе нічога падобнага «Тысячы і адной ночы» на старажытна-грэцкай класічнай мове, калі «Адысея» і «Іліяда» не апокрыфы эпохі Адраджэння (хаця асобныя іхныя паданні існавалі раней)? Чаму ў часы стварэння «Адысеі» няма гісторыкаў, хаця гістарычныя запісы і з'яўляюцца заўсёды першым прадметам, да якога прыкладаецца пісьмовасць? Чаму, пазней, гэты пасеў лірычных і гераічных паэтаў спыняецца да пачатку эпохі Адраджэння, і замест іх з’яўляюцца шматлікія драматычныя аўтары трэццяга перыяду ці, лепш сказаць, пасеву?

Чаму і драматычныя аўтары, – як комікі, так і трагікі, – знікаюць пачынаючы ад IV стагоддзя да нашай эры да эпохі Адраджэння, а наўзамен іх нараджаюцца шматлікія букалічныя і дыдактычныя паэты разам з матэматыкамі чацьвёртага, александрыйскага, перыяду?

Чаму ад пачатку нашай эры іх замяняюць празаікі-евангелісты са сваімі тэасафічнымі сентыментальнымі раманамі із жыцця добрага сына бога-Грамабоя? Чаму іхным працягам з’яўляюцца толькі непараўнальна больш першабытныя як згодна з мовай, так і згодна з канструкцыяй Жыціі Сьвятых? Чаму працягам такіх align рознабаковых і адукаваны гісторыкаў, як Герадот, Фукідыд – служаць толькі летапісы Яна Малалы, Вялікодная Хроніка і цэлы шэраг іншых прастадушных гістарычных паведамленняў, занімаючых усё сярэдневечча?

Калі вы мне запярэчыце: гэтая плодапераменная гаспадарка з’явілася толькі таму, што ад першага і другога перыядаў усё згубілася, акрамя паэтаў, ад трэццяга – усё, акрамя комікаў і трагікаў, ды сафістаў і г.д., то я адкажу, што гэта цалкам немагчыма з боку гледжання матэматычнай тэорыі верагоднасьцей, згодна з якой із усіх напрамкаў павінна была згубіцца прыблізна аднолькавая колькасць адсоткаў.

Калі ж вы мне запярэчыце: пад час розных перыядаў была розная мода ў літаратурнай творчасьці: пад час першага – мода на паэзію, пад час другога – мода на драму, трэццяга – мода на сентыментальны тэасафічны раман, а пазней – мода пісаць прастадушныя летапісы, то я адкажу: моды бываюць толькі ва ўборах. Само сабой зразумела, што маці ў старажытнасьці маглі апранаць сваіх нованароджаных дзяцей пад час розных стагоддзяў у пялёнкі рознага пакрою ці колеру, як і пісьменнікі маглі арыгінальнічаць той ці іншай манерай выкладаня, але цалкам немагчыма дапусьціць, каб у адным стагоддзі ў жанчын была мода нараджаць выключна брунэтаў, у другім бландынаў, у трэццім кучаравых, а ў чацьвёртым безвалосых дзяцей. Але ці не тое ж самае мы назірам у толькі-што паказаным мной шэрагу нараджэнняў грэцкімі жанчынамі ў адным стагоддзі лірыкаў, у другім драматургаў, у трэццім багасловаў, у чацьвёртым летапісцаў?

Ці не больш натуральна дапусьціць, што ўсе яны нараджаліся ў перамежку, як і патрэбна, але толькі гэта было пад час эпохі Адраджэння і на яе пярэдадні, пры чым сапраўды існавала мода (ці проста звычай) апакрыфікаваць лірычныя і гераічныя паэмы ў самыя старажытныя стагоддзі; драмы, камедыі, філасофскія і прамоўніцкія творы следам за гэтымі, а букалічную і дыдактычную паэзію яшчэ пазней. Гісторыкаў жа нехаця давялося размяркаваць па розных стагоддзях: бо тады як на працягу аднаго года маглі быць напісаны дзясяткі розных па зместу камедый ці вершаў, немагчыма ж дапусьціць, каб у адзін і той жа час Грэцыя мела некалькі розных гісторый?

Гістарычныя творы нехаця даводзілася размяшчаць у пасьлядоўным парадку, як мы і бачым на нашай табліцы-дыяграме, а з імі і саміх гісторыкаў і палітычных, і навуковых дзеячоў, з нагоды бачнай эвалюцыйнай пераемнасьці іхных паведамленняў, паглядаў і высноваў.

Такім чынам, мы бачым, што існуючая да гэтага часу ў галовах гісторыкаў старажытнага сьвету ідэя пра магчымасць плодапераменнай гаспадаркі ў разумовай творчасьці чалавецтва, з пакіданнем на час той ці іншай часткі яго мозгу «пад парам», з'яўляецца цалкам непрымальнай з эвалюцыйнага боку гледжання. Гэта азначае, што і ўсё, што паведамляюць нам нашы першакрыніцы эпохі Адраджэння пра багатую разумовую творчасць грэкаў пад час да-хрысьціянскай эпохі, цалкам неправдападобна з этна-псіхалагічнага і эвалюцыйнага боку гледжання і павінна было б быць адкінута сур'ёзнай навукай ужо з таго моманту, як яна пачала адкідаць усё цудоўнае ў гістарычным жыцці народаў і перайшла на эвалюцыйны бок гледжання. Разам з тым, даводзіцца прызнаць, што не царкоўная мова візантыйскага перыяду грэцкай літаратуры рэгрэсіўна развілася із папярэднічаўшай ёй багацейшай класічнай, а наадварот: грэцкая літаратура пасьля свайго дзіцячага стану да IV стагоддзя нашай эры пачала развівацца спачатку на візантыйскай царкоўнай мове, адразу і як рэлігійная, і як навуковая. Апакаліпсіс служыць яе найвышэйшым узорам пад канец чацьвёртага стагоддзя. Нічога падобнага яму не ведалі раней, а таму ён і меў такі велізны ўплыў на тагачасныя розумы. Надаўшы рэлігіі месіянскі і дэмагагічны характар, ён, разам з тым, зрабіў грэцкую мову абавязковай для царкоўных служэнняў на Ўсходзе, і гэтая мова пачала там пашырацца, як мова набажэнстваў (падобна лацінцы на Захадзе), сярод іншых народаў, якімі былі, перадусім, балканскія славяне. Такім чынам на клерыкальным грунце ўтварылася і на ўсходзе Яўропы міжнародная інтэлігенцыя, пісаўшая па-грэцку не толькі рэлігійныя павучанні, але і драмы, і камедыі, і гістарычныя і філасофскія творы, а потым усё гэта прыйшло і на Захад, канкуруючы з тамтэйшай лацінкай і ствараючы ілжэ-грэцкія арыгіналы шматлікіх тамтэйшых лацінскіх твораў эпохі Адраджэння, падпісаных грэцкімі псеўданімамі.

Разам з тым вельмі адрознівалася і сама грэцкая мова і, да пярэдадня эпохі Адраджэння, набыла тыя граматычныя і стылістычныя формы, якія мы і бачым у яго апакрыфічных палеа-класічных пісьменнікаў і ў сапраўдных неа-класічных.

Гэта адзіна рацыянальны погляд на эвалюцыю лацінскай і грэцкай літаратур да заканчэння эпохі Адраджэння, якім і нечаканым ён з’яўляецца для тых, хто не выдаткаваў, падобна мне, шматлікіх гадоў асаблівай увагі гэтаму прадмету, у сувязі з эвалюцыяй натуральных і перад-натуральных навук.

Такі мой пагляд падцверджвае і астраномія, якая дазваляе нам вылічыць час розных нябесных падзей апісаных старажытнымі аўтарамі. Гэтаму пытанню ў мяне прысьвечаны цэлы аддзел у адным із наступных тамоў, дзе вылічана звыш сотні зацьменняў і планетных злучэнняў, а ў якасьці узору такіх вылічэнняў я прывяду тут пакуль што толькі наступныя два выпадкі.

Першы выпадак бяру із Ціта Лівія, цытуючы яго, дзеля праўдзівасьці, не згодна са сваім перакладам, а згодна з перакладам Адрыянава, толькі з такімі чатырма выпраўленнямі:

1) Згодна з Адрыянавым у апісваемай гісторыі фігуруе Сульпіцый Гал, прэтар, трыбун 11 легіёна, консул. Але галамі на грэцкай мове і да гэтага часу завуцца французы, а Францыя – Галіяй. Гэтае ж слова запазычана і ў лацінку, як элінізаваную (згодна з маімі папярэднімі доказамі) італійскую мову III-IV

стагоддзяў нашай эры. Дык навошта ж і па-руску нам ужываць грэцкую, а не сваю, назву француза, толькі блытаючы гэтым выразнасць уяўлення ў чытача? Жадаючы быць зразумелым, я замяніў слова гал у перакладзе Адрыянава сапраўдным яго грэцкім значэннем: француз.

2) Але і Сульпіцый з'яўляецца толькі лацінскім вымаўленнем французскага ўласнага імя Сюльпіс і зараз існуючага ў Францыі. Навошта ж латынізаваць яго і па-руску?

3) Дакладна гэтак жа слова прэтар з'яўляецца толькі латынізацыяй французскага слова praitre – сьвятар, ўжываўшагася спачатку ў сэнсе духоўнага суддзі, спаведніка, а трыбун і зараз азначае суддзя, адкуль і слова трыбунал – судзільня.

4) Легіён на лаціне азначае проста – полк, а консул – палітычны кіраўнік і дарадца. Я і замяніў гэтыя чатыры чыста лацінскія словы ў перакладзе Адрыянава адпаведнымі рускімі і тады атрымалася наступнае:

*«Калі ўмацаванне лагера было закончана, француз Сюльпіс (*Sulpice le Francis*), вайсковы суддзя 11-га палка, быўшы спаведнікам* (praitre*) летась, з дазволу палітычнага кіраўніка, склікаўшы ваяроў (*напярэдадні бітвы з македонцамі*); на сход, абвясьціў ім:*

*– Пад час наступаючай ночы – хай ніхто із вас, жаўнеры, не лічыць гэта за дзіва! – ад другой да чацвёртай гадзіны (*ад пачатку*) ночы будзе месяцовае зацьменне. Так як гэтая з'ява адбываецца натуральным парадкам і ў вызначаныя часы, то пра яе можна ведаць наперад і прадказваць яе. А таму, як не здзіўляюцца таму, што месяц то бачны ў выглядзе поўнага кола, то, падчас убывання, мае форму невялікага рога, таму што сонца і месяц узыходзяць і заходзяць у вызначаных гадзінных узаемадачыненнях, то не патрэбна лічыць прадвесьцем і тую акалічнасць, што сьвятло месяца зацямняецца, калі яго засланяе цень зямлі».*

*«У ноч напярэдадні вераснёўскіх нон (*г.азн. з 4 на 5 верасня), – працягвае «Шаноўны Лівіец»[88], *– калі ў пазначаную гадзіну адбылося месяцовае зацьменне, мудрасць француза здалася ваярам амаль боскай. На македанянаў жа гэта падзейнічала як злавеснае прадвесьце, прадказваючае пагібель іхнага царства і народа. Так патлумачыў гэтую з'яву і іхны прадказальнік. Крык і лямант пачуўся ў лагеры македанянаў, пакуль месяц не заблішчэў зноў сваім сьвятлом»*[89].

Вось надзвычай дакладнае апісанне месяцовага зацьмення перад бітвай лацінянаў з македонскім царом Пярсеем, якая адбылася, як паведамляе нам гістарычная традыцыя, у 586 годзе ад «заснавання горада Рыма», г.азн. за 178 гадоў да пачатку нашай эры. Калі б такую прамову выказаў Напалеон І перад бітвай пад Аўстэрліцам, то вы, вядома, не здзівіліся б. Але калі вам паведамляюць, што гэта было ў тыя часы, калі ў гарах паўднёвай Яўропы яшчэ жылі пячорныя людзі, то вы маеце права ўсумніцца і паспрабаваць паглядзець, ці не было нечага падобнага пазьней, асабліва, калі вы бачыце, што ў пазначны гістарычнай традыцыяй момант нічога падобнага не было.

Я ўжо згадваў, што творы ўсіх класічных аўтараў, у тым лічбы і «Шаноўнага Лівійца», дайшлі да нас ці выключна ў друкаваных выданнях першых стагоддзяў кнігадрукавання, ці ў рукапісах на пергаменце, старажытнасьць якіх амаль ніколі не апускаецца ў глыбіню часоў далей XI стагоддзя. Дадзены рукапіс, які захоўваецца зараз у Венскай дзяржаўнай бібліятэцы, быў знойдзены ў Гесене, у

[88] Ціт Лівій на лаціне азначае «Шаноўны Лівіец».
[89] Ціт Лівій. Рымская гісторыя ад заснавння сталіцы, кн. 44, § 37.

горадзе Лорш, у Бенедыктынскім кляштары, у першай палове XVI стагоддзя і быў адразу ж надрукаваны ў базельскім выданні 1531 года.

Пры такіх умовах заўсёды можна дапусьціць калі не апакрыфічнасць усяго твора, то магчымасць дадаванняў у яго на працягу наступных эпох, а таму і важна мець хуткі спосаб праверыць дакумент астранамічна.

Але грунтуючыся на існуючых у наш час нямецкіх выданнях Апольцэра[90] ці Генцэля[91] вельмі цяжка хутка арыентавацца ў выпадках, падобных толькі-што прыведзенаму із Ціта Лівія, ці праверыць, наколькі задавальняюць высновы, зробленыя папярэднічаўшымі вам дасьледчыкамі. Гэта і заахвоціла мяне зрабіць асобную класіфікацыю зацьменняў на кожны месяц, тым больш патрэбную, што для эпохі да пачатку нашай эры Апольцэр ужывае рацыянальнае астранамічнае злічэнне, пры якім год эры лічыцца нулявым годам, а Генцэль ужывае вульгарнае злічэнне, дзе год эры – нулявы – лічыцца першым да яе пачатку, а пачатак лічыцца імгненным прамежкам паміж абодвума аддзеламі, так што і ўсе папярэднія гады зрушаюцца на адзінку, і тое, што ў Апольцэра лічыцца, напрыклад, 10-м годам да пачатку нашай эры, у Генцэля лічыцца 11-м. Гэта прыводзіць Генцэля да пагаднення з апакрыфічным злічэнем старажытных гісторыкаў, але пры вылічэнні рухаў нябесных сьвяціл мае настпствам памылку на адзін год.

Класіфікацыя згодна з Апольцэрам была выканана пад маёй рэдакцыяй маім супрацоўнікам па Астранамічным Аддзяленні Навуковага Інстытута імя Лесгафта ў Ленінградзе В. А. Казіцыным, а класіфікацыя згодна з Генцалям – маёй навуковай супрацоўніцай па тым жа Інстытуце Н. М. Штаўдэ і надрукавана ў «Вестках Інстытута» (т. V і VI).

Як лёгка і проста робяцца праверкі храналогіі грунтуючыся на гэтых табліцах, бачна із наступнага.

Калі магло адбыцца апісанае вышэй месяцовае зацьменне француза Сюльпіса, датаванае ноччу з 5 на 6 верасня?

Мы лёгка прабяжым поглядам па нашых табліцах ў V томе «Вестак Навуковага Інстытута ім. Лесгафта» і за пяць хвілін вызначым усе вераснёўскія месяцовыя зацьменні ў ноч з 4 на 5 верасня. Вось яны, назад ад 600 года нашай эры.

1. Месяцовае 5 верасня 499 года з сярэдзінай у 15 гадзін 6 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Самая вялікая фаза 21"3 (вельмі глыбокае, звыш поўнае, бо поўнае пазначаецца фазай 12"0, а няпоўныя меншымі фазамі, чым 12"0). Нябачна ў Рыме, а заканчэнне было бачным ў Афінах, Мемфісе і Кандыгіры. Але яно адбылося ўжо вечарам 5 верасня, а не перад ім. Не падыходзіць.

2. Месяцовае 5 верасня 480 года з сярэдзінай у 4 гадзіны 57 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Самая вялікая фаза 7"6 (няпоўнае). Пачатак быў бачным у Рыме і ў Афінах ужо на досвітку, а ў Мемфісе і Кандыгіры было цалкам нябачнае. Не падыходзіць.

3. Месяцовае. 4 верасня 453 года з сярэдзінай у 2 гадзіны 43 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы. Самая вялікая фаза 2"0 (вельмі малая). Бачна па ўсёй Яўропе. Але пасьля яго быў яшчэ прамежкавы дзень 4 верасня. Гэта азначае, гэта не пярэдадне 5 верасня. Не падыходзіць.

---

[90] Oppolzer. Canon der Sonnen– und Mondfinsternisse.

[91] Ginzel. Specieller Canon der Sonnen– und Mondfinsternisse fur das Landergebiet der klassischen Altertumswissenschaften. 1899.

4. Месяцовае 4 верасня 434 года з сярэдзінай у 18 гадзін 18 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Самая вялікая фаза 17"6, г.азн. вельмі глыбокае, цень зямлі не толькі закрывала увесь месяцовы дыск, што лічыцца пры 12" 0 балах, а заходзіла за яго ў абодва бакі на 5" 6 балаў, г.азн. зацямненне было працяглым. У Рыме, Афінах і па ўсёй Заходняй Яўропе месяц вечарам узышоў ужо ў сярэдзіне зацьмення, а ва Ўсходняй Яўропе, у Мемфісе і Кандыгіры яно было бачна ўсё. Яно было гадзіны на дзьве раней, чым прадказаў француз Сюльпіс пры злічэнні пачатку ночы ад заходу сонца. Амаль падыходзіць.

5. Месяцовае 5 верасня 415 года з сярэдзінай у 2 гадзіны 50 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Самая вялікая фаза 11"7 балаў: амаль поўнае зацьменне. У Рыме і ў Заходняй Яўропе – было бачна ўсё, у Афінах, Мемфісе і ва Ўсходняй Яўропе – пачатак і сярэдзіна, г.азн. раніцай 5 верасня месяц зайшоў у стане частковага зацьмення ад яшчэ не паспеўшага сысьці з яго зямнога ценю. Гэта зацьменне, пачаўшаяся паміж 2 і 3 гадзінамі Македонскага часу, што лічыцца ад поўначы, цалкам падыходзіць да прадказанага французам Сюльпісам.

6. Месяцовае 5 верасня -41 года (г.азн. ужо да пачатку нашай эры, а згодна з гістарычным рахункам у 42 годзе «да Н. Х.»), няпоўнае, у 5"0 балаў з сярэдзінай у 18 гадзін 55 хвілін пасьля Грынвіцкай поўначы, г.азн. ужо вечарам нон, а не напярэдадні іх, і таму не падыходзіць.

7. Месяцовае 4 верасня -106 года, а згодна з гістарычным злічэнем 107 «да Н. Х.», з сярэдзінай у 23 гадзіны 8 хвілін перад Грынвіцкай поўначчу. У Македоніі яго сярэдзіна была каля 3 гадзін апоўначы; яго самая вялікая фаза была 8"9 балаў, г.азн. зацямнілася $^{2}/_{3}$ месяцовага дыяметра. Яно было бачна цалкам ва ўсёй Яўропе. Другое прыдатнае зацьменне, але ў гэты час немагчыма было прадказваць зацьменняў, бо яшчэ не была вядома дакладная даўжыня года і нават не было выпрацавана дакладнага календара, без якога прадказанне зацьменняў абсалютна немагчыма.

Ад гэтага моманту да -424 года не было ніводнага зацьмення паміж 4 і 5 верасня юліянскага злічэння, ды і самага гэтага календара не было.

І вось мы задаём пытанне: якім жа чынам Нетавіус, які ўжо вызначаў у XVI стагоддзі нашай эры астранамічным шляхам час гэтага самага зацьмення, аднёс яго разам з вышэйапісанай перамогай над царом Пярсеем да 21 чэрвеня мінус 167 года, г.азн. амаль за паўтара стагоддзя да пачатку нашай эры? Адказ вельмі просты: не бачачы ніякай магчымасьці пагадніць сведчанні гісторыкаў і не адважыўшыся аспрэчыць іх, ён аддаў перавагу таму каб ахвяраваць як тэорыяй верагоднасьці, так і самай астраноміяй і дапусьціў, што рымляне таго часу, хаця быццам бы ўжо і ўжывалі юліянскія месяцы, але яшчэ не ведалі дакладнай даўжыні юліянскага года, і таму 4 верасня іхнага -467 года прыпадала на 21 чэрвеня (!), г.азн. восеньскае раўнадзенства быццам бы спраўлялася ў іх у гэтым годзе падчас летняга сонцастаяння!

Але хіба такое дапушчэнне лагічна мажлівае? Хіба яўляецца мажлівай нават магчымасць вылічэння і прадказання зацьменняў пры падобных нацягваннях і пры такім календары? І вось даводзіцца дапусьціць, што ў кнігу Ціта Лівія нейкім чынам патрапіла адзінае адпавядаючае прадказанню француза Сюльпіса зацьменне ў ноч з 4 на 5 верасня 415 года нашай эры, калі ўжо сапраўды існавала магчымасць прадказваць месяцовыя зацьменні і тлумачыць іх так, як патлумачыў гэта зацьменне вайскові суддзя 11-га палка. Каля гэтага часу і была сапраўдная перамога рымлянаў, але не над македанянамі, а над готамі.

Хай чытач сам прагледзіць мае табліцы ў «Вестках Лесгафтскага Інстытута» і ён пераканаецца на працягу некалькіх хвілін, што іншага зацьмення, прыдатнага да апісанага Цітам Лівіем, не было.

Возьмем і яшчэ прыклад, хаця б ўжо і лацінскі для разнароднасьці.

У Плінія ў яго знакамітай «Histria Naturalis» напісана (11, § 180), што «пры консулах Віпсане і Фантэйё адбылося зацьменне сонца напярэдадні травеньскіх календаў (г.азн. 30 красавіка) у «Кампаны» паміж 7 і 8 гадзінамі дня.

Перадусім, што тут азначае Кампанья?

На лаціне такую назву мелі дзьве мясцовасьці: сучасная Campagna di Roma, багністая мясцовасць па плыні Тыбра, ніжэй Рыма, дзе пасьвіцца толькі быдла (хаця Кампанья і завецца «класікамі» заможнай і густа населенай), і французская Шампань (Champagne), сапраўды заможная і густа населеная, з галоўным горадам Trois на рацэ Сене. Возьмем спачатку рымскую, балацяную.

У сонечнай табліцы, змешчанай мной ў VI томе «Вестак Навуковага Інстытута імя Лесгафта» (аналагічнай вышэйзагаданай месяцовай), мы знаходзім за ўвесь прамежак ад 600 года нашай эры і да мінус 823 толькі два зацьменні на 30 красавіка, праходзіўшыя праз яе.

1. Сонечнае – 30 красавіка 59 года нашай эры, максімальная фаза якога была ў Рыме 9"8; у Афінах 11"3, у Мемфісе 10"2 і ў Кандыгіры 11'"5 балаў (гэта амаль поўнае зацьменне, бо поўнае пазначаецца праз 12"0).

2. Сонечнае – 30 красавіка мінус 462 года (г.азн. да пачатку нашай эры). Яго максімальная фаза была ў Рыме 11"2; у Афіаах 11"8, у Мемфісе 8" 5 і ў Кандыгіры 9" 4. Але яно, вядома, занадта старажытнае для Плінія.

У гэтым ыпадку толькі зацьменне 59 года амаль цалкам задавальняе апісанню, калі будзем лічыць за Кампанью – рымскія балоты. Але чаму тады не пазначана проста, што зацьменне было ў Рыме? Усё ж, што было бачным з рымскіх балот, было бачна і з горада. Яго максімум у Італіі быў каля 2 гадзін 50 хвілін папаўдні. Ці можна гэта лічыць «паміж 7 і 8 гадзінамі дня», як кажа Пліній? Сонца пад канец красавіка ў Італіі ўзыходзіла тады каля 5 гадзін раніцы. Такім чынам, да максімальнай фазы зацьмення прайшло каля 9 гадзін, час блізкі да паказанага Плініем. Але цікава (хаця гэта і не паказвае наша табліца), што калі мы не абмяжуемся межамі класічнага сьвету, а захопім і сярэднюю Яўропу (г.азн. Францыю і Германію), то знойдзем аж да 1500 года нашай эры, акрамя паказаных намі двух зацьменняў, толькі яшчэ адно: зацьменне 30 красавіка 564 года нашай эры, цэнтральная лінія якога ішла ад Ньюфаўндленда праз Ісландыю ў Ледавіты акіян да Камчаткі. У частковым выглядзе яно магло быць бачным і ў Паўночнай Італіі каля 8 гадзін 50 хвілін раніцы згода з Грынвічскім часам. Тут падлік гадзін больш дапасуе да пазначаных Плініем, калі лічыць ад поўначы, але яго наўрад ці маглі заўважыць у італьянскай Кампаны, а ў французкай Кампаны яно было бачным вельмі добра ў 8 гадзін раніцы. Тут можна прыняць за праўдзівае, што аўтар «Натуральнай гісторыі Плінія» карыстаўся ў гэтым месцы сваёй кнігі нейкай дакладнай першакрыніцай, хутчэй за ўсё маючай дачыненне да зацьмення 30 красавіка 561 года нашай эры, назіраемаму ў французскім герцагстве Шампань, на радзіме шампанскага віна. Але гэта амаль адзіны выпадак, маючы прыдатнае рашэнне і грунтуючыся на «класічным злічэнні». Амаль усе астатнія зацьменні, пры вылічэнні без нацягванняў, нападобе толькі-што згаданага ў Петавіуса, даюць рашэнні толькі пад час сярэдніх сагоддзяў, калі яны лічацца сучаснымі гісторыкамі адбыўшыміся да 400 года нашай эры. А амаль усе пазначаныя больш пазьнімі

датамі цалкам пацвярджаюцца астраноміяй. У выпадку ж праўдзівасьці двух астранамічных рашэнняў перавага належыць логіцы.

У выпадку калі б вылічэнне нават і падцведзіла існаванне месяцовага зацьмення за паўтары стагоддзя да пачатку нашай эры, больш-менш прыдатнага да прадказанага французам Сюльпісам, то няўжо вы прызналі б магчымым паверыць, што яго прамова прыведзеная «Шаноўным Лівійцам», з тлумачэннем фаз месяца і яе цені, нічым не горшая чым тлумачэнне сучаснага настаўніка касмаграфіі і патрабуючая папярэдніх ведаў, што сонца ніяк не меншая за зямлю, ды і месяц не нашмат меншы, была вымаўлена яшчэ за 2000 гадоў да Каперніка? І, акрамя таго, што зразумелі б із яе тагачасныя непісьменныя жаўнеры?

Вось чаму ў мяне ўзнікае жаданне, пакінуўшы пакуль у спакоі француза Сюльпіса і яму падобных знаўцаў астраноміі да пачатку нашай эры, выказаць свае папярэднія заўвагі пра старажытныя мовы толькі агульным паглядам на ўзровень іхнай літаратуры ў агульным працэсе яе гістарычнай эвалюцыі.

Як гэта ні дзіўнае, але яна мае вялікую аналогію з палеанталагічным развіццём хрыбетных жывёл.

Асобныя клетачкі жывога рэчыва аб'ядноўваліся генетычна спачатку ў элементарныя згуртаванні, як словы ў элементарныя фразы. Потым згуртаванні клетачак аб'ядноўваліся генетычна, амаль не губляючы сваёй індывідуальнасці, у больш складаныя, але ўсё яшчэ элементарныя арганізмы, як фразы ў асобныя элементарныя апавядальні. Элементарныя арганізмы, аб'ядноўваючыся адзін з адным генетычна, далі пачатак састаўным істотам, нападобе чарвей, з агульным харчовым каналам, але яшчэ без галавы і без дыферэнцыяцыі зросшыхся звенняў (так, што пры разарванні на некалькі частак, кожная працягвае жыць як самастойная істота), так і асобныя элементарныя апавядальні, аб'ядноўваючыся паміж сабой, давалі пачатак больш складаным апавяданням, але ўсё ж састаўным па сутнасьці, хаця б, падобна марскім нерэідам, яны і дасягалі вельмі значнай даўжыні, як арабская кніга «Тысяча і адна ноч», злучаная толькі асобай іхнай уяўляемай апавядальніцы Шахеразады і адносімая толькі да XV стагоддзя нашай эры. У такім жа доўгім састаўным выглядзе ўтварыліся маральныя і філасофскія павучанні Заратустры, Магамета, Езуса сына Намесьніка (Сіраха), «Мудрасць» Саламона (а ў апошні час «Мудрасць» Ніцшэ) і доўгія састаўны паэмы нападобе «Адысеі», Іліяды», «Энэіды»...

Але, падобна таму, як із састаўных жывёл, шляхам дыферэнцыяцыі фізіялагічных функцый паміж рознымі звеннямі, эвалюцыйна ўтварыліся хрыбетныя жывёлы з хвастом, жыватом, грудзьмі і галавой, уяўляючыя адно непадзельнае цэлае, так і із састаўных твораў шляхам мастацкай і, нарэшце, псіхалагічнай апрацоўкі чалавечым розумам назапашанага ім літаратурнага матэрыялу, дапоўненага прытым і больш пранікнёным назіраннем атачаючага жыцця пазнейшымі пакаленнямі аўтараў, пачалі ўзнікаць вялікія, суцэльныя самі па сабе, творы з завязкай, шэрагам ўзнікаючых із яе падзей і развязкай на заканчэнні, якія ўжо немагчыма падзяліць на некалькі самастойных частак, так жа прыдатных для чытання, як і ўсё цэлае.

Старажытная літаратура да IV стагоддзя нашай эры мела, відаць, толькі дробныя творы, здольныя размясьціцца на асобным скрутку папіруса ці пяргамента, бо сшываемая кніга, якую мы маем зараз, была вынайдзена толькі пад час сярэдніх стагоддзяў. Яе мы не знаходзім ні ў Геркулануме, ні ў ягіпецкіх магільнях, і нідзе ў старажытнасьці, а таму тады не магло існаваць ні «Гісторыі»

Герадота, ні «Гісторыі» Фукідыда, ні «Адысеі», ні «Іліяды», а толькі хіба асобныя апавяданні, уключаныя пазней у гэтыя больш познія творы, немагчымыя для размяшчэння нават і на самых доўгіх із магчымых скруткаў папірусу. Карашок пераплеценай кнігі – гэта яе хрыбетны слуп, і толькі пры ім і магла ўзнікнуць высокая літаратура, адпавядаючая хрыбетным жывёлам у заалогіі.

Такім чынам, вызначэнне часу вынаходніцтва сшываемай кнігі (акрамя фантазій Тішэндорфа і яго маніі адносіць кожны даследуемы ім дакумент у як мага найбольш глыбокую старажытнасьць, і існаванне кніг прыпісваць нават IV стагоддзю нашай эры) будзе разам з тым вызначэннем часу і магчымасьці састаўной літаратуры, а хрыбетная літаратура з суцэльным мастацкім шкілетам, зародкі якога заўважаюцца ўжо і ў евангеллях, магла ўзнікнуць толькі яшчэ пазьней, калі кнігі пачалі пераплятацца для магчымасьці чытання іх вялікай колькасьцю людзей. Вось чаму вы не павінны здзіўляцца таму, што і евангеллі я аднёс (у першай кнізе «Хрыста») толькі да пярэдадня Крыжовых паходаў, хаця і грунтуючыся на цалкам іншых меркаваннях.

Само сабой зразумела, што, адмаўляючы старажытнасьць класічнай літаратуры, я ні ў якім разе не сумняваюся ў яе самастойным вялізным значэнн ці аспрэчваю патрэбу яе выкладання нават у агульнаадукацыйных установах.

Акрамя ж так званых палітычных ці дынастычных гісторый, існуюць і гісторыі чалавечай культуры і чалавечай літаратуры. Калі ж, з майго боку гледжання, лацінскія і грэцкія класічныя пісьменнікі губляюць значэнне ў якасьці першакрыніц для сварэння дынастычных і палітычных гісторый старажытнага сьвету, то яны з лішкам робяцца важнымі, як непасрэдныя бабулі нашай сучаснай еўрапейскай літаратуры і культуры. Тое ж самае можна сказаць і пра майстэрствы, і пра архітэктуру, якія нават у VI стагоддзі нашай эры не былі вышэй пампейскіх.

Са звычайнага боку гледжання класічная культура ўяўляецца чымсьці, нападобе нашага прабацькі Адама, непасрэна створанм богам грунтуючыся на сваім жаданні і падабным на сябе, пазней памёршым і пахаваным, і ажыўшым (праз тысячу гадоў) згодна з пісаннем узышоўшага на нябёсы (эпохі Адраджэння) і седзячага там направа ад свайго бацькі (клерыкальнай літаратуры). А з новага боку гледжання клерыкальная літаратура, як больш першабытная па мове, і па фабуле, і па ідэалогіі, была сапраўднай маці класічнай літаратуры, як часткі той жа самай літаратуры эпохі Адраджэння, толькі апакрыфіраванай у мінулае дзякучы рэлігійна-дыпламатычным нагодам.

Выказваючыся чалавечым тэрмінам, я скажу, што клерыкальная навука і літаратура былі – тэзай, класічныя (і рэнесансныя) – яе антытэзай, а наступныя за ёю сучасныя літаратура і навука – сінтэзам іх абодвух, а таму і вывучэнне як класічнай, так і клерыкальнай набываюць для сучаснага гісторыка-рэаліста нечакана глыбокую цікавасць. Тут патрэбна толькі раз і назаўжды адмовіцца ад меркавання пра «глыбокую старажытнасць» класічных пісьменнікаў і глядзець на іхныя «гістарычныя паведамленні», як мы глядзім на гісторыі Карамзіна, Макалея ці Тэна. Гэта былі гістарычныя раманы эпохі Адраджэння, нападобе тых, якія ў наш час пісаў Эберс, малюючы ягіпецкае жыццё.

# Глава V.

## «Штучная мова» індускіх служак Бога-Слова (Брамы па па-індуску) і яе ўзнікненне ў Індыі.

Прыступаючы да гэтага пытання, я павінен перадусім паведаміць. Я не чытаю па старажытна-санскрыцку, хаця падручнікі, слоўнікі і перакладзеная літаратура ў мяне заўсёды пад рукой. Я ведаю пра гэтую мову толькі тое, што пра яе паведамляюць на нова-еўрапейскіх мовах яе дасьледчыкі, і таму кіруюся толькі іхным высновамі і еўрапейскай транскрыпцыяй слоў.

Але калі географ, ніколі не наведваўшы аддаленыя краіны, можа выказваць і пра іх сваё меркаванне грунтуючыся на паведамленнях іншых, калі гісторык, не маючы ніякай магчымасьці пабываць у мінулым, можа пісаць гісторыю мінулых падзей грунтуючыся на паведамленнях летапісцаў, то і я магу з такім жа правам выказаць сваю агульную думку пра санскрыт і пра яго ўзнікненне.

Толькі з 1559 года нашай эры місіянеры з дапамогай аднаго браміна, які перайшоў у хрысьціянства ў Гоа, даведаліся ад яго пра існаванне філасофскай і тэалагічнай літаратуры ў брамінаў на гэтай мове. І толькі ў 1855 годзе друкуюцца невядомыя да гэтага часу лісты італьянца Піліпа Сасецці із Індыі на радзіму, напісанныя ў прамежку 1583-1588 гг. і паведамляючыя «пра мову sanscrita», пра яе альфабэт і падабенства з еўрапейскімі мовамі. Больш грунтоўна вывучаў санскрыт і дравідычныя мовы Roberto de Nobili каля 1620 г., але толькі Гейнрых Ром паведаміў у 1664 г. вядомаму езуіту-містыку Апанасу Кірхеру першы ўзор санскрыцкага альфабэта падобнага на жыдоўскі. Ганкследэн (1699-1732) першым склаў санскрыцкую граматыку і малабарска-санскрыцка-партугальскі слоўнік, так і застаўшыся ў рукапісе, і толькі ў 1790 годзе была надрукавана вельмі дрэнная санскрыцкая граматыка Paulino Bartholomeo.

Мы бачым адсюль, што санскрыталогія з’яўляецца дзіцём XIX стагоддзя і што яна, імкнучыся, як і ўсе навукі пра далёкае мінулае, пайсьці як магчыма далей у глыб тысячагоддзяў, лёгка магла заблудзіцца ў імгле стагоддзяў і палічыць ранейшыя стагоддзі за тысячагоддзі.

І вось, на сучасным дасьледчыку ляжыць цяжкая задача дэталёва высветліць праўдзівасць першакрынік падобнага меравання.

Санскрыт (San-Scrita) у перакладзе азначае «штучная мова» і, падобна на сярэдневечную кухонную лацінку ў Яўропе, яна да самых апошніх гадоў была вядомай толькі індускім сьвятарам, тым часам як насельніцтва вялізнай Ост-Індыі размаўляе са спрадвечных часоў на іншых, нацыянальных мовах. Адны з іх, як я ўжо пазначаў, – дравідычнага кораня на поўдні Дэкана, – не маюць ніякага падабенства ні з санскрытам, ні з еўрапейскімі мовамі, а іншыя – хіндзі, бенгалі, мусульманская, індустані і ўсе астатнія – паўночныя, якія я пералічваў вышэй, хаця і маюць шмат сугучных слоў з санскрытам згодна са сваім каранёвым гукавым складам, але непараўнальна менш падобныя з гэтым «навуковым жаргонам», чым нашы еўрапейскія мовы грэка-італьянскага кораня[92].

У класічным санскрыце, – кажуць нам, – сустракаюцца словы, запазычаныя не толькі са старажытна-пярсідзкай, але і із новых іранскіх моваў. У ім сустракаецца не мала запазычанняў нават з грэцкай, асабліва ў матэматычнай і астралагічнай тэрміналогіі.

---

[92] Гл. ручны санскрыцкі слоўнік Капелера (1887 гады) і падрабязны санскрыта-нямецкі Бетлінга і Нота, выд. Пецярбургскай Акадэміі Навук (1853-1875). Таксама гл. Мілер і Кнаўэр. Нататкі для вывучэння санскрыту.

Мы тут перадусім разгледзім, наколькі адпавядаюць агульным эвалюцыйным законам нашы сучасныя ўяўленні пра развіццё санскрыцкай літаратуры? Выходзіць, што вельмі мала. Перадусім мы і тут заўважаем тое ж самае схематызацыйнае непагадненне, якое бачылі пры разгляднні лацінскай літаратуры.

Спачатку ўсё ідзе дастаткова добра з храналагічнага боку гледжання. Узнікненне індыйскай драмы санскрытолагі дапасуюць да VI стагоддзя нашай эры, калі, – пераконваюць нас, – з'явілася «Сакунтала» Калідаса, найвялікшага із індускіх драматургаў. А потым узнікае цэлы шэраг іншых такіх жа пісьменнікаў і паэтаў, аж да IX стагоддзя нашай эры. Я не маю падставаў выказваць пярэчанні супраць гэтага датавання, якое знаходзіцца блізка да пашырэння на поўначы Індастана грэцкага ўплыву згодна з маёй храналогіяй, замяніўшымся ў IX стагоддзі мусульманскім, але ў мяне існуе шмат падставаў сумнявацца, каб паэмы эпічнага ўтрымання, якімі з’яўляюцца «Магабгарата» і «Рамаяна», ці паэмы лірычнага, эратычнага і дыдактычнага характару, пышна квітнеўшыя ў Яўропе толькі пад час эпохі Адраджэння, тут дапасаваліся да папярэдняга перыяду і не спадарожнічалі драме, падобна таму, як у нас разам з ёю былі пашыраны і лірычная, і гумарыстычная паэзія, і раман, і казка для дзяцей, і публіцыстыка, і сатыра.

Некаторыя другарадныя асаблівасьці санскрыцкай мовы пры вялізнай прасторы Ост-Індыі, якая амаль роўная Заходняй Яўропе, могуць нашмат прасьцей быць патлумачаны лакальнымі, чым храналагічнымі падставамі. На ўсім жа выразна праглядаемым гарызонце гісторыі кожнае, аднойчы пачатае нараджэнне літаратурнай творчасьці мела тэндэнцыю развівацца супольна, ці, ва ўсякім разе, суіснаваць з ўзнікаючымі пасьля іх маладзейшымі напрамкамі, а не знішчацца імі. Асабліва ж неверагоднай з’яўляецца думка, што аднойчы знікшыя напрамкі могуць зноў ажыць у літаратуры праз некалькі стагоддзяў нябыту, нават да больш пышнага жыцця, чым было раней. Гэта было б тое ж самае, як дапусьціць, што праз некаторы час побач з людзьмі пачнуць нараджацца ў сучасным чалавечым родзе таксама і выцесненыя ім некалі з твару зямлі першабытныя плямёны, не выстаяўшыя ў змаганні за сваё існаванне, і не толькі нарадзіцца, як выпадкі атавізму, але і зноў квітнець.

Цяжка дапусьціць, што перыяд навуковай філасофіі і крытычнага стаўлення да чужых апавяданнаў, ці нават да ўражанняў, атрыманых намі самімі праз органы нашых вонкавых пачуццяў, узнік раней чым чыста літаратурная апісальная творчасць, якой з’яўляюцца: лірычная паэзія, казка і першапачатковая авантурыстычная белетрыстыка. Гэта тое ж самае, што сказаць, быццам нехта нарадзіўся ад сваёй маці цалкам сфармаваным сталым чалавекам, а потым паступова пачаў ператварацца ў юнака і, нарэшце, дайшоў да груднога дзіцяці.

А тым часам мы нешта падобнае бачым на прыкладзе сучаснай індускай храналогіі, якая адносіць рэлігійна-філасофскія кнігі высока-тэарэтычнага ўтрымання да перыяду, які папярэднічаў развіццю індускай лірычнай і эпічнай паэзіі і літаратуры дзіўных прыгод. Ці можна гэтаму паверыць нават на хвіліну? Вазьміце для прыкладу ўсе сучасныя дзікія народы, запазніўшыяся ў сваім разумовым развіцці, дзякуючы ізаляванаму становішчу ці адметным умовам жыцця. Дзе б ні знаходзілі іх еўрапейскія дасьледчыкі, яны ўсюды бачылі існаванне ў іх перадусім апавяданняў пра дзіўныя прыгоды з антрапамарфізмам разнастайных з'яваў прыроды ўжо на вельмі значнай стадыі развіцця, у той час, як

навуковая і абстрактная філасофія, хаця б і ў першапачатковым містычным выглядзе, не дасягала нават і першай прыступкі свайго развіцця.

Але калі мы не бачым гэтага ў сучасным жыцці, то як жа мы можам дапусьціць існаванне нечага падобнага ў мінулым? Вось, напрыклад, ост-індскія «Веды», напісаныя на санскрыцкай мове, гэтай лаціне жрацоў бога-Слова (Брамы), лексічна нават больш багатыя, чым мова паэзіі і драм. Слова “веда” азначае веданне, ад славянскага кораня ведаць. Гэта тэалагічная навука індускіх жрацоў і, мяркуючы па тым, што паміж славянскімі народамі Балканскай паўвыспы і вобласцю навуковага санскрыту такога найменне для навукі няма, даводзіцца дапусьціць, што яно ці патрапіла ў Ост-Індыю із Балканскай паўвыспы з македонскімі прапаведнікамі хрысьціянства, ці, наадварот, прыйшло ў «дапатопныя часы» на Балканскую паўвыспу із Індыі і пашырылася таксама па Расіі, Польшчы і іншых славянскіх дзяржавах, не замацаваўшыся, аднак, у Грэцыі і ў Заходняй Яўропе.

Першыя дасьледчыкі выказалі апошнюю здагадку і лічылі штучную мову (San-Scrita) ост-індскіх навукоўцаў тэолагаў – за прамаці ўсіх славянскіх і заходне-еўрапейскіх моваў, а не занесенай на Індастан у выглядзе асобнага адгалінавання набажэнскай мовы сярэднявечных славяна-грэка-македонскіх навукоўцаў, ўзбагаціўшайся на ост-індскай глебе мясцовымі ці спадарожнымі словамі і адмысловымі граматычнымі формамі. Але ці існуюць сур'ёзныя падставы для такога пагляду, акрамя не могучага быць даказаным цверджання брамінаў, быццам бы іхныя продкі размаўлялі паміж сабой на гэтай мове з самых старадаўніх часоў, спрадвечных нават для іхных дзядоў і прадзедаў?

Вядома не.

Іхныя ж прапрадзеды жылі не раней, як у XVII стагоддзі нашай эры: Атрымаўшы гэтую мову ад сваіх прапрадзедаў XIV стагоддзя, без паведамлення пра тое, адкуль і як атрымалі яе гэтыя прапрадзеды. Яны маглі спыніцца на думцы, што гэта і была першапачатковая мова Індастана.

Мы бачым, што такі довад на карысць старажытнасьці санскрыту цалкам адпадае, тым больш, што выдача чужога за сваё знаходзіцца ў поўным пагадненні з усеагульнай тэндэнцыяй сярэднявечных народаў прыпісваць сабе ўсё, што прыйшло да іх звонку не толькі за два ці тры дзесяткі пакаленняў што складае прамежак часу большы чым тысяча гадоў таму назад назад, але нават і за адзін дзясятак пакаленняў, за нейкія 500 гадоў, калі дадзены перыяд не меў за гэты час шэрагу пасьлядоўных летапісцаў.

Усе лагічныя высновы кажуць за тое, што санскрыт сам прыйшоў у Індастан із Яўропы праз Месапатамію разам з рэлігійнымі місіянерамі славянскага, грэцкага і італьянскага паходжання. Усе гэтыя народы перамяшаліся ў Візантыі з канца IV стагоддзя і, пад уплывам магутных вулканічных і сейсмічных з'яваў таго часу, выпрацавалі фанатычных прапаведнікаў грознага бога Грамабоя, устрасальніка зямлі, і будучага Месіі, яго сына, павіннага прыйсьці на зямлю і наладзіць на ёй усеагульнае шчасьце. Яны накіроўваліся і на захад, і на ўсход. На захадзе яны выпрацавалі із сумесі балканскіх дыялектаў з мясцовымі – лацінку, таксама штучную мову, прыстасаваную да хрысьціянскага набажэнства і утварыўшую на заходне-еўрапейскай глебе, сярод народаў з такімі ж шматлікімі мовамі, як і ў Індастане, пышную навуковую і вытанчаную літаратуру эпохі Адраджэння. А распаўсюдзіўшыся на ўсход, прапаведнікі Хрыста выпрацавалі месіянства Езуса Крышны, таго ж самага грэка-жыдоўскага Езуса Хрыста, нават і згодна з імем.

Абедзве мовы, і лацінка, і санскрыт, з такога боку гледжання, мелі аднолькавую культурную ролю, і гэта найбольш рэчаіснае ўяўленне пра іхную гісторыю і пра іхнае ўзнікненне. «Штучная мова (санскрыт), – кажуць нам, – зараз, як размоўная, не існуе ні ў Індыі, ні ў Яўропе, але большасць яе каранёў еўрапейскія і прытым узяты збольшага з заходне-еўрапейскіх, збольшага са славянскіх гаворак».

Што ж лягчэй сабе ўявіць із трох здагадак: 1) ці прынеслі яе ў Індыю сярэднявечныя міссіянеры тагачаснай «добрай весткі» да ўсіх народаў? 2) ці цэлыя народы, у тым ліку і славяне, і грэкі, і лаціны, перасяліліся пад час дагістарычнага перыяду ў Індыю і перамянілі там свае мовы на мясцовыя? і 3) ці індускія перасяленцы занесьлі сваю «штучную мову» пад час дагістарычнага перыяду ў Яўропу, а потым, пакінуўшы яе ў спадчыну мясцовым жыхарам, зніклі для гісторыі не пакінуўшы следу?

Абодва апошнія перасяленні непараўнальна больш магутныя, чым першае, і таму натуральна перадусім даводзіцца дапусьціць, што не гара пайшла насустрач Магамету, а Магамет насустрач гары, і толькі ў тым выпадку, калі б гэтае самае простае дапушчэнне выявілася б непрымальным, узнікла б патрэбна разглядаць і абодва іншыя. Перш за ўсё разгледзім гэтае самае простае дапушчэнне, але, каб зрабіць нашы доказы больш перакаўчымі, пачнём выкладанне з разважанняў агульнага характару.

Характэрнай асаблівасьцю санскрыцкага пісання, якім яго заспелі еўрапейцы, з'яўляецца, як і ў выпадку жыдоўскага квадратнага пісання, яго лінаванасць: кожная літара пазначалася пад тоўстай кароткай рысачкай і, можна думаць, не без намеру: першабытныя пісакі былі не спрактыкаванымі і таму выводзілі радкі крыва. Для таго, каб пазбегнуць гэтага, і праводзіліся, напэўна, спачатку па лінейцы шэрагі кароткіх і роўных адна адной рысачак, пад якімі пазней пісаліся сапраўдныя літары – сімвалізуючыя дадзены гук.

Падобны ж спосаб пісання мы бачым, хаця і ў меншай ступені, у арабскім і ў жыдоўскім напісанні, і я не магу не звярнуць увагу чытача на тое, што ўсе тоўстыя (тлустыя) лініі ідуць у іх не папярок радка, як у нас, а ўздоўж яго. Але ж гэта лёгка робіцца толькі ў тым выпадку, калі мы пішам радок, як кітайцы, у накірунку да сябе, г.азн., як кажуць, зверху ўніз, а не справа налева, ці злева направа, як еўрапейцы. Акрамя таго, і сама магчымасць пісаць адзін шэраг рысачак тоўстымі, а іншы, папярочны да іх, тонкімі патрабуе ўжо выкарыстання расчэпленага пяра, а не «трасьцінкі», ці «пэндзля» старажытных пісараў. Гэта азначае, што у той час, калі пачало ўжывацца такое санскрыцкае, жыдоўскае і арабскае пісанне, існавалі не толькі гусіныя пёры, але і складаныя нажы, якімі іхныя канцы расшчапляліся накшталт сучасных сталёвых. Такое пісанне ўжо відавочная прыкмета сярэдніх стагоддзяў, а ніяк не старажытнасьці.

Згодна са сваім характарам санскрыцкія літары мала падобныя на нашы еўрапейскія. Толькі значок “е” цалкам такі ж як наша рукапіснае “е”, ды кароткае “у” нагадвае лацінскі ігрэк. Астатнія ж значкі цалкам адмысловыя; напэўна, таму, што прыстасоўваліся для зручнага размяшчэння, пад сваімі рысачкамі.

Звычка жыдоўскіх пісьменнікаў выкідваць із транскрыпцыі галосныя існуе ў поўнай меры і тут, і скасаваныя галосныя таксама пазначаюцца асобнымі значкамі пад адпаведнымі ім зычнымі літарамі ці над іхнай рысачкай, за выключэннем самай частай у санскрыцкай пісьмовасьці літары “а”, якая абавязкова маецца на ўвазе пасьля кожнай зычнай літары, пры якой не пазначана іншая галосная ці не

*ім Арол. Чатыры планеты мяркуюцца паміж Шалямі і Скарпіёнам, ідучымі ў Цясьніну Млечнага Шляху паміж Шалямі і Стральцом (не пазначана на мапе).*

Адпаведна біблейскім прароцтвам пра нараджэнне Езуса, мы знаходзім і індускія: «*Ва ўлонні жанчыны набудзе форму чалавека прамень боскай пышнасьці, і Панна зачне дзіця*» (із «Ведангі»). «*Пад час першых гадоў валадарання Калі-Йуга (Cali-youga) народзіцца Сын Панны*» («із Веданты»).

Хто такі гэты Калі-Йуга? Мы ўжо пазначалі дзіўнае супадзенне шматлікіх санскрыцкіх імёнаў з лацінскімі і грэцкімі. Так і тут мімаволі хочацца бачыць у Калі-Йугу Калігулу, хаця ён і не папярэднічаў народзінам Езуса згодна са звычайнай фіктыўнай еўрапейскай храналогіяй, а ішоў за ім. Дадам, што звычайнае, не памяншальнае імя Калігулы было Каліг, што блізка да Калі, а Йуга азначае стагоддзе. Папярэдняе стагоддзе індускіх тэолагаў, век «Дапара» (Dwapara), тады робіцца стагоддзем Тыберыя, а два папярэднічаўшыя ім стагоддзі «Трэта» і «Крыта» выўляюцца часам валадарання Актавіяна і Юлія Цэзара, з якога і пачаўся згодна са звычайнай традыцыяй сучасны Юліянскі каляндар. Зразумела, што з нашага боку гледжання, атаясамляючага Калігулу з Юльянам, час дзейнасьці Крышны грунтуючыся і на індускіх крыніцах будзе часам Юльяна і яго пераемніка Валента ад 361 па 378 гады нашай эры.

Гэты індускі Хрыстос-Крышна, згодна з брамінскай традыцыяй, быў зачаты цудоўным чынам паннай Дзеванагі (што перакладаюць: створаная для бога), пры чым перад яе вачамі раптам з'явіўся падчас малітвы сам бог Вішну-Усемагутны ў асьляпляючым ззянні пры гуках чароўнай музыкі, і яна зацяжарыла.

Нарадзіўшаяся немаўля атрымала імя Крышна, што санскрыты і перакладаюць згодна з яго грэцкім коранем Хрыстос, г.азн. пасьвечаны, і распавядаюць дзівы пра яго дзяцінства.

Шаснаццаці гадоў ён, быццам бы, выправіўся па Індастану навучаць свайму вучэнню, і слухаўшыя яго казалі: "І праўду гэта збаўца, абяцаны нашым бацькам". Да яго прыйшло шмат вучняў, паміж якімі ён асабліва вызначаў юнака Ард-Юна (Ard-jouna), адпавядаючага Яну Багаслову, які належаў быццам бы да адной із самых арыстакратычных сямей Мадуры. Аднак, новае вучэнне Крышны ўзняло супраць яго шадурскага цара, які знаходзіўся пад уплывам прыхільнікаў ранейшага вучэння. Яго намерыліся схапіць і забіць, але выпраўлены для гэтага з атрадам вайсковы правадыр так быў уражаны боскасьцю яго выгляду, што адразу ператварыўся (як Павел) у аднаго із самых руплівых прыхільнікаў Крышны.

Павучанні Крышны былі цалкам тоеснымі з павучаннямі евангельскага Хрыста. Ён выказваўся пра неўміручасць душы, пра свабоду волі, пра адплату за дабро і зло ў будучым жыцці і пра веру ў бязмежную дабрыню ўсёдаруючага бога. Выкладаліся такія павучанні Крышнай таксама з дапамогай прыпавесьцей і простых кароткіх павучаннях нападобе:

«Падобна таму, як зямля трымае тых, хто яе топча і хто раздзірае плугам яе грудзі, так і мы павінны аддаваць дабром за зло», – выказваўся ён між іншым.

Адзінства абодвух вучэнняў відавочна для кожнага староннята дасьледчыка. Яно выяўляецца і ў цудоўных дэталях жыцця Крышны, аж да яго праўтварэння перад сваімі вучнямі, пасьля чаго яны і назвалі яго Езусам, г.азн. Іезус-Іісус, што азначае па-жыдоўску Ратавальнік, а індусы няправільна тлумачаць гэтае слова, як «Выйшаўшы із чыстай боскай сутнасьці». А вось і сьмерць індускага Ратавальніка згодна з брамінскімі паданнямі.

Калі надыйшоў для яго час пакінуць зямны сьвет, ён выправіўся да сьвятой ракі Ганг, акунуўся ў яе тры разы, і стаўшы на калені пачаў маліцца, чакаючы сваёй сьмерці.

На бераг прыйшоў выкрыты некалі ім Андага са шматлікімі ваярамі, але ён не здрадзіў Крышне, як евангельскі вучань, а пранізаў здалёк стралой, як жаўнер евангельскага Хрыста каля яго слупа. Ваяры павесілі цела Крышны на галінах дрэва, каб яго задзяўбалі крумкачы, і пайшлі. Яго вучні прыйшлі зняць яго, але Крышна знік з дрэва, якое выявілася пакрытым вялізнымі чырвонымі кветкамі і распаўсюджвалі навакол сябе чароўны водар.

А Андага, пранізаўшы яго стралой, быў асуджаны богам-Бацькам на вечнае бадзянне па зямлі і зараз блукае па берагах Ганга, не прымаючы іншай ежы, акрамя памёршых трупаў, косткі якіх ён грызе разам з шакаламі і іншымі нячыстымі жывёламі.

Мы бачым, што і ў індускіх паданнях выпушчана месца пра спробу слупавання Васіля Вялікага, як прапушчана яно і ў лягендзе пра ўзнясенне на неба прарока Іллі і ў жыццяапісанні самага Васіля Вялікага, першакрыніцы ўсіх гэтых легенд.

Легенда пра Крышну ўпершыню з'яўляецца ў той частцы індускай Магабараты, якую адносяць да другога стагоддзя «да н. х.», а з нашага боку гледжання мы павінны аднесьці гэтыя паданні сама меней на два стагоддзі пазьней сьмерці Васіля Вялікага, г.азн. да VI стагоддзя нашай эры, як і варта згодна з эвалюцыйнай сукупнасьцю фактаў маючых да гэтага дачыненне.

Гэта відавочна тое ж стагоддзе, тая ж самая ідэалогія і тыя ж прыёмы літаратурнай творчасьці, і мне застаецца толькі паўтарыць словы, якія, я, магчыма, занадта паспешнае, разьмясьціў яшчэ ў першай кнізе маёй працы[94].

«Не індуская Трымурці (г.азн. Тройца) разам з немаўлём Крышнай на руках прыехала на белым слане на берагі Міжземнага мора із некранутых лясоў Індыі, а якраз наадварот: яна перайшла ў Індыю із культурных гарадоў Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай тэакратычнай імперыі Хвядоса II на вярблюдах разам з гандлёвымі караванамі не раней VIII стагоддзя нашай эры.

Гэта і была ў Індыі першая рэчаісная «добрая вестка» пра прыходзіўшага на зямлю Крышну ў выглядзе заснавальніка хрысьціянскага набажэнства, імя якога ў перакладзе азначае Вялікі Цар (Васіль Вялікі), і ўсе папярэднія ўвасабленні Крышны «сталі вядомымі» ў Індыі ўжо пазьней (па меры развіцця легенды)».

І гэтая ж Трымурці на вярблюдах, – дадам я зараз, – прывезла туды із Яўропы і сьвятую «штучную мову» навучальнікаў бога-Слова (брамінаў, па-індуску):

– «Спачатку было Слова, і Слова было ў бога, і Слова было бог!» – павучалі яны паганскіх індусаў славамі евангелля Яна.

І гэтая навука пра Логас захавалася ў Індыі да гэтага часу пад назвай брамаізм.

# Глава VI.

## «Перасяленчая мова біблейскіх багазмагальнікаў»[95].

[94] «Хрыстос». Першая кніга, ч. III, гл. V, канец.

Усё прыведзенае ў папярэдніх главах паказвае нам, перад якімі непераадольнымі (без дапамогі антрапафонікі) цяжкасьцямі мы стаім, калі хочам аднавіць вымаўленне слоў на мовах, якія ўжо даўно перасталі гучаць на зямным шары. А гэта вельмі важна пры гістарычных даследаваннях, калі сам сэнс шматлікіх імёнаў і назваў ужо згубіўся, і яго даводзіцца адшукваць шляхам словавытворчасьці. Уласна кажучы, усё гэта мне патрэбна было б зрабіць яшчэ ў пралогу да першай ці другой кнігі «Хрыста», і тады я не зведаў бы папрокаў некаторых крытыкаў у тым, быццам без дастатковых падставаў аспрэчваю сучаснае вымаўленне амаль ці не паловы ўсіх біблейскіх уласных імёнаў, і некаторым з іх надаю значэнне, нязвыклае для сучасных габраістаў. Але ў такім выпадку мне давялося б ахвяраваць астранамічным ці геафізічным пралогамі, існаванне якіх было асабліва важным для папярэдніх тамоў, і, у выніку, мне не заставалася іншага выйсьця, як адкласьці тлумачэнне сваіх лінгвістычных меркаванняў да гэтай кнігі.

Галоўнае із гэтых меркаванняў у дачыненні да «старажытна-перасяленчага», (г.азн. жыдоўскага) альфабэту складаецца, як я ўжо згадваў, у тым, што першым вынаходнікам фанетычнага пісання было не да таго, каб адну і тую ж літару чытаць у адным слове так, а ў іншым інакш. Запамінанне новых значкоў заўсёды вельмі цяжкая справа, нават пры іх адзінкавым значэнні. Прыклад тут у наяўнасьці: якім ні простым з’яўляецца прапанаваны мной вышэй узор рацыянальнага альфабэту, у якім замест кожных чатырох літар даецца толькі адно розна-павёрнутае напісанне, але і яго вы не запомніце пасьля першага вашага чытання. І, пэўна, вы палічылі б проста недарэчным, калі б замест гэтай прастаты я намаляваў вам некалькі дзясяткаў, ды ў дадатак прапанаваў бы трахі не палову сваіх значкоў чытаць па рознаму ў розных словах.

А вось у сучаснай ангельскай мове і ў старажытна-перасяленчай (жыдоўскай) літара “a” чытаецца часам як “o”; літара “i” у абедзвюх мовах вымаўляецца часам як “ай” і як “і”; літара “э” (хета) – і як “э”, і як “а”, і як **χ** і г.д. Відавочна ж, што гэтыя змены гукаў вымаўлення ўзніклі ўжо пасьля ўзнікнення і ангельскай, і жыдоўскай пісьмовасьці, якая, такім чынам, толькі замацавала першапачатковае, старажытнае вымаўленне. Гэта азначае, калі мы жадаем яго аднавіць, то павінны чытаць усе адзінкавыя значкі аднастайна, прыняўшы толькі да ўвагі, што пры іхным дапасаванні да замежных моваў «асьветнікі народаў» часьцей за ўсё не адважваліся ствараць у альфабэце новыя напісанні і таму для пазначэння новых гукаў свайго вымаўлення задавальняліся камбінацыямі літар існуючага альфабэту, наступствам чаго і з’яўляюцца такія недарэчнасьці, як камбінацыя *ch* па-французску і *sch* па-нямецку для пазначэнні гука “ш”, адсутнічаючага ў грэцкай і лацінскай мовах, ці прыстаўка “i” да некаторых галосных, каб надаць ім патрэбнае мяккае вымаўленне, як мы бачым у французскім *ai* ці *ei* і г.д.

Для аднаўлення першапачатковага значэння старажытных літар могуць перадусім служыць два спосабы: 1) параўнанне старажытных альфабэтаў і 2) адсоткавае ўтрыманне кожнага са значкоў у старажытнай літаратуры, параўнальна з сучаснай літаратурай блізкай да іхнай мовы ў той жа мясцовасьці (гэта тое ж самае, што спосаб дэшыфравання зашыфраваных лістоў, пра якія я згадваў раней).

Разгледзім жа жыдоўскі альфабэт з першага боку гледжання.

---

[95] Слова «жыд» (עברי – ЭВРІ) азначае – «перасяленец, эмігрант», а таму і «жыдоўская мова» азначае «перасяленчая мова, мова эмігрантаў».

Ён змяшчае толькі дваццаць дзве літары, якія маюць амаль аднолькавыя назвы з грэцкімі і копцкімі (табліца XXV). Аднаўляючы іхнае фанэматычнае вымаўленне па аналогіі з адпаведнымі альфабэтамі існуючых і зараз моваў, мы можам прыйсьці да шэрагу такіх высноваў.

ТАБЛІЦА XXV

Параўнанне чатырох альфабэтаў.

| Гук | Жыдоўская назва і значэнне | Грэцкая (і копская)[96] назвы | Руская назва | Лацінская назва |
|---|---|---|---|---|
| А | Алэф-бык – א | Альфа (алфа) – А | Аз – А | а – А |
| Б-В | Бэт-хата – ב | Бэта (віда) – В | Буку ведай – БВ | бэ – В |
| Г | Гімэль-вярблюд – ג | Гама (hamma) – Г | Глагол – Г | Кэ (і цэ) – С |
| Д | Далэт-дзьверы – ד | Дэльта (дальта) – Д | Дабро – Д | дэ – D |
| Е | Эй!-вось – ה | Э-голае (э-псілон) – Е | Есць – Е | э – Е |
| (f) (у) | Уау-цвік – ו | Засталося толькі ў пералічэнні, як сімвал лічбы 6 | | эф – F |
| Ж-З | Зайн-кінжал – ז | Зэта (зіда) – Z | Жыве зямля – ЖЗ | жэ (і гэ) – G |
| (h) | Хэт-агароджа – ח | Хета (hida) – Н | Іжэ – І | ha – H |
| (θ) | Тэт-мех – ט | Тэта (Thuda) – Θ | | |
| І-И-Й | Йод-рука – י | Йота (йёўда) – І | И – І, И, Й | І, йота – І, J |
| К | Кап-далонь – כ | Каппа (Кабба) – К | Како – К | ка – К |
| Л | Ламэд-ражон – ל | Ламбда (лаўда) – Λ | Людзі – Л | эль – L |
| М | Мем-вада – מ | Мі (мі) – М | Мысліце? – М | эм – М |
| Н | Нун-рыба – נ | Ню (ню) – N | Наш – Н | эн – N |
| ? | Самэх-падпорка – ס | Ксі (эксі) – Θ | | |
| О | Ойн-вока – ע | О-малое (о-мікрон) – О | Он – О | о – О |
| П | Пэ-рот – פ | Пі (пі) – П | Пакой – П | пэ – Р |
| (Ц) | Цадэ-багор – צ | Згубілася, так як ў грэцкай няма такога гуку | | |
| (Кх?) | Кхаф-вуха – ק | q – сімвал лічбы 90 | ..................... | ку – Q |
| Р | Рош-галава – ר | Ро – Р | Рцы (гавары) – Р | эр – R |
| Ш | Шын (шыкэм) – ש (горны хрыбет) | Сігма (із шыкем) – Σ (так як грэкі не ўмелі вымаўляць Ш) | Слова – С | эс – S |
| Т | Тау-крыж – ת | Тау (два) – Т | Тверда – Т | тэ – Т |
| У грэцкім, славянскім і лацінскім альфабэце дадзена: | | Ю- голае (франц. U) – Υ | У! – Ў | у – U |
| | | Фі (варыянт Пі) – Ф | Ферт – Ф | вэ, уэ – V, W |
| | | Хі – Х | Хер! – Х | ікс – Х |
| | | | Цы – Ц | (цэт – Z) |
| | | Псі (Эбсі, варыянт Ц) – Ψ | Чарвяк! – Ч | |
| | | | Ша, Шча;Ш, Щ | |
| | | О-вялікае – Ω | Еры – Ы | І-грэцк. – Y |

Галосная літара алеф (א) чыталася спачатку як "а" і, магчыма, яшчэ часам як "о" (падобна таму, як мы чытаем зараз рускае "о", па рознаму пад націскам і па-за націскам).

Галосная ו, вымаўляемая сучаснымі польскімі жыдамі як *воф*, чыталася ў старажытна-жыдоўскай мове, відаць, амаль як нямецкая галосная U ці Ü,

[96] Копцкія літары роўназначныя з грэцкімі і размешчаны ў той жа пасьлядоўнасьці варыянтаў іхных назваў: яны пазначаны ў косках у трэццім слупку.

пакідаючы ад сябе ў спалучэнні з іншымі зычнымі толькі свой характэрны абертонавы шум, падобна таму як рускае ненаціскное "і" пасьля галоснай пакідае толькі свае абертоны, адпавядаючыя літары "й" (з "воіна" атрымліваецца "война"). Вось чаму ў жыдоўскай мове і назіраюцца пастаянныя пераходы гэтай літары ў ёту (І, Й). Да падобнай жа высновы прыводзіць блізкасць яе напісання да грэцкай ι (ёта).

Цікавей усяго тое, што гэтая фанэма, вельмі частая ў якасьці граматычнага злучніка адпавядаючага рускаму "і" (які вельмі часта вымаўляецца і як "ы", напрыклад, у выказванні: *вол і бык* = вол-ы-бык) і г.д. Гук ו (ўаў), дакладна таксама як у рускіх "ы", ніколі не пачынае сабой ніякіх слоў, за выключэннем імёнаў замежнага паходжання. Нават і адзінае слова "*цвік*" (וו), пачынаючаяся з яго, вымаўляецца як псеўда-ВУ (ці псеўда-ЎАЎ). Яе ўжыванне як злучніка "і" адпавядае італьянскаму "э", французскаму "э" (хаця яно і пішацца et), а таму гэтая фанэма магла прамаўляцца як нізкатонавае ўсходняе *Є*. Я тут буду яе пазначаць ўмоўна праз рускае *У*. Яна засталася ў грэцкім альфабэце толькі як пазначэнне лічбы 6, на тым жа шостым месцы, як і ў жыдоўскім. Чаму гэта атрымалася? Відавочна таму, што першапачатковая арыфметыка прыйшла да грэкаў, якія не мелі гэтага ўсходняга гуку, праз пасярэдніцтва арабскай мовы. Такой з'яўляецца першая гістарычная выснова із параўнальнай фанетыкі.

Галосная ה (гэй) вымаўляецца сучаснымі жыдамі часта як руская зычная "х", але спачатку, у перапачатковым жыдоўска-арабскім вымаўлені, яна, без сумневу, вымаўлялася як грэцкая η (*эта* ці *іта*), ці як рускае Е (*йе*), на месцы якога яна знаходзіцца ў альфабэце.

Галосная י (ёд, г.азн. рука) першапачаткова вымаўлялася як "і", таму што адпавядае грэцкай *ёце* (ι). Яна, хутчэй усяго, правільна перадаецца нашым галосным гукам "і", і гэтак жа як і ён, часта пакідала ў спалучэнні з іншымі галоснымі толькі свой зычны прыгук "й".

Галосная ע (Ойн, г.азн. вока) адпавядае згодна са сваім месцам грэцкаму О, а згодна з напісаннем – славянскім Э і У. Яна чыталася, напэўна, то як усходняе Є, якое і па-руску, як мы бачылі, пераходзіць у "о" па-за націкснымі складамі, а ў спалучэннях з іншымі галоснымі пакідала толькі свой характэрны шум Ŭ, (як у нямецкай мове ў слове Haus), і г.д.

Такім чынам, у жыдоўскім альфабэце мы маем усе пяць галосных італійскай мовы, а для адсутнічаючага ў італійскай і ў іншых заходне-еўрапейскіх мовах (не выключаючы і лаціны) галоснага гуку "ы" мы не знаходзім пазначэння і ў жыдоўскім альфабэце, хаця гэты гук і часты ва ўсіх усходніх мовах.

Як патлумачыць такі недахоп? Мне здаецца толькі тым, што гук "ы" неадменна меўся на ўвазе ў кожным спалучэнні двух галосных, паміж якімі не было паказана іншага зычнага значка, г.азн., напрыклад, БН – сын, чыталася як БЫН ці БЄН, лічачы тут Є за нізка абертонавае Э, набліжаючаяся да "ы".

Не ўмеючы нават вымавіць цьвёрдыя выбуховыя зычныя, нападобе Б, К, П, чыста гукавым спосабам, першыя грамацеі бралі іх заўсёды з бліжэйшым да іх цьвёрдым галосным гукам, якім, без сумневу, быў гук "ы" на Ўсходзе. Падобна гэтаму лаціны вымаўлялі гукі сваёйго альфабэту БЭ, ХЭ, ПЭ і г.д., замяняючы Ы нізка-тонавым Э.

Але ў такім выпадку навошта ж было першым грамацеям і пісаць гук "ы", напрыклад, у слове БЫН – сын, і таму падобных? Вядома, з нашага сучаснага боку

гледжання выходзіць, што ў такім выпадку патрэбна было б вымаўляць не БЫН, а БЫНЫ, але першабытнае вуха было яшчэ глухім да такіх дробязяў.

Пры агульным выкладанні антрапафонікі я ўжо згадваў пра падгалоснік у некаторых мовах балканскіх славян, званым заходне-еўрапейскімі лінгвістамі, не ўмеючымі яго вымаўляць, «ірацыянальным гукам», і пра тое, што некаторыя словы, нападобе балгарскага слова *крх* – хлеб ці сербскага *срб* – серб і шматлікіх падобных, пішучыхся толькі маючы на ўвазе ў іх гэты гук, падобнага ўсходняму Є ці рускаму кароткаму “ы”. Вось чаму і ў старажытна-рабінскай пісьмовасьці для нас, славянаў, няма нічога новага. Навошта ж замест аднаго падгалосніка нам дадааць паміж двух зычных усе без выключэння заходне-еўрапейскія літары, як быццам бы і мы не здольны яго вымавіць?

Пацверджаннем маёй высновы, што жыдоўскія галосныя спачатку чыталіся так, як я іх чытаю, а не так разнастайна, як іх чытаюць сучасныя польскія ці гішпанскія рабіны ці караімы (ды і самі яны ўсе вымаўляюць іх уразброд), з'яўляецца грунтоўнае і псіхалагічна неаспрэчнае цьверджанне, што ў кожным альфабэце ў момант яго першапачатковага ўзнікнення кожны значок адпавядаў свайму асобнаму гуку. Таму немагчыма называць жыдоўскія галосныя, як іх называюць у сучасных падручніках, проста галоснымі значкамі, якія можна вымаўляць яшчэ больш разнастайна, чым сучасныя ангельцы вымаўляюць “а” ў розных словах. І ангельскі ж альфабэт у момант свайго з'яўлення толькі замацаваў тагачаснае вымаўленне слоў, якое з тых часоў змянілася, асабліва ў дачынені да гуку “а”. А яшчэ ў большай ступені гэта здарылася са старажытна-ягіпецкай гаворкай арабскай мовы, якая правандравала ў свой час з асаднікамі і заваёўнікамі і ў Гішпанію, і ў Сіцылію, і ў Паўднёвую Італію і служыла пад час сярэдніх стагоддзяў на чужыне, пад найменнем перасяленчай (жыдоўскай), у якасьці агульнапрызнанай літаратурнай мовы, нападобе лацінкі па час эпохі Адраджэння.

Другім падцверджаннем гэтай маёй думкі з'яўляюцца ўсе нашы альфабэты, відавочна маючыя пачатак ад жыдоўскага. Мы бачым, напрыклад, параўнанне чатырох з іх у табліцы XXV. Зірніце на IV слупок, дзе паказаны старадаўні рускі альфабэт. Пад час яго ўзнікнення яшчэ не існавала фанетычнага метаду выкладання, а ўжываўся цалкам арыгінальны прыём, пра які я ўжо згадваў у пралогу.

Паказваючы на пасьлядоўны шэраг напісаных, як тут, літар, вымаўлялі фразы (напісаныя ў мяне курсівам пад імі):

А Б В

*Аз-буку-ведай!*

Г Д Е

*глагол* (г.азн. вымаўленне*) дабро ёсць*, і г.д.

Вучань паўтараў гэтыя фразы, водзячы пальцам па літарах, пакуль не запамінаў гэтыя іхныя паролі. А потым яго вучылі чытаць па складах, каб ён прызвычаіўся ўжываць толькі першыя гукі гэтых слоў.

**Гэта азначае, кожная літара мела сваё імя.**

Але зірніце на маю табліцу. Там у II слупку дадзены жыдоўскі альфабэт, із якога бачна, што замест славянскіх фраз там вымаўлялі, водзячы пальцам па літарах: вол, хата, вярблюд, дзверы, вось, цвік, кінжал, агароджа, мех і г.д., але ўжывалі, вядома, іхныя жыдоўскія назвы: Алеф, Біт, Гімель, Далет, Эй і г.д.

Першапачаткова ўсе альфабэтныя знакі, напэўна, і адлюстроўвалі дадзеныя прадметы, і таму вучні хутка пераходзілі да аб'ядняня іхных першых гукаў. Пазней

гэтыя складаныя малюнкі спрасьціліся да непазнавальнасьці, і толькі іхныя найменні засталіся помнікамі іхнага першапачатковага паходжання.

Зараз прыгледзьцеся да грэцкага альфабэту ў III слупку маёй табліцы.

У ім усе жыдоўскія назвы захаваліся, хаця яны і ўяўляюць для грэка, як і для рускага, просты набор дзіўных гукаў. Наконт магчымасьці выпадковага супадзення тут не можа быць і гаворкі. Жыдоўскаму Алефу (быку) адпавядае грэцкая Альфа, Біту (хаце) – Бэта, Гімелю (вярблюду) – Гама, Далету (дзвярам) – Дэльта і г.д. і тое ж самае ў ягіпецкіх коптаў, як бачна із назваў у дужках, тады як старажытныя напісанні копцкіх літар цалкам аднолькавыя з царкоўна-славянскімі.

Усё гэта азначае, што грэцкі альфабэт з'яўляцца проста запазычаным грэкамі копцка-жыдоўскім і прытым амаль без змянення назваў літар.

А гэта, у сваю чаргу, азначае, што грэкаў спачатку вучылі жыдоўскія настаўнікі, а вучні проста паўтаралі іхныя назвы, не разумеючы сэнсу. У рускім жа альфабэце назвы літарам давалі ўжо славянскія настаўнікі, якія папярэдне навучыліся замежнай літаратурнай мове і таму спрасьцілі спосаб запамінання літар пераіначыўшы іхныя назвы згодна са сваёй мовай і, як бачна, дастаткова дасьціпна.

Такім чынам, просты кампаратыўны пагляд на сучасныя альфабэты паказвае нам іхную гісторыю лепш, чым гістарычныя паданні, і ў той жа час паказвае і на вымаўленне. Як Альфа па-грэцку заўсёды вымаўлялася "а", так і Алеф па-жыдоўску заўсёды вымаўляўся "а". Як Е-голае (é-псілон) у грэкаў было згодна з самой сваёй характарыстыкай гукам Е, чыстым ад нейкіх прыгукаў, так і жыдоўскае Ей павінна было вымаўляцца чыста, у адрозненні ад прыдыхальнага, гартаннага Э, г.азн. Хета, адпавядаючага грэцкай Хэце (η), і ужываўшагася таксама і для пазначэння зычнага гука h.

Пра адзінства *ёды* жыдоў з *йотай* грэкаў няма патрэбы і разважаць: абедзьве гэтыя літары былі адным і тым жа і чыталіся як "і". А апошняя із жыдоўскіх галосных *Ойн* (вока), хаця гэтая назва вока і вымаўляецца сучаснімі габраістамі як *айн*, без сумневаў вымаўлялася як "о" нават і ў самай жыдоўскай назве вока.

Застаецца толькі пытанне пра тое, як чыталася жыдоўскае *Уау* (цвік). У грэцкай і ў славянскіх мовах гэта напісанне цалкам выпала із альфабэту, а ў лацінскай замянілася на f. Але калі мы згадаем, што ў лацінскай мове праз V пісалі і У, і В (рускае) і толькі пазней, пасьля эпохі Адраджэння, у выпадку вымаўлення як "у", пачалі закругляць кут у V, ператварыўшы яго ў U, то пераканаемся, што і жыдоўскае *Уау* можа чытацца перад галоснай як "у", а перад зычнай – як В.

На адсутнасць значка для пазначэння гука "ы" ў жыдоўскім альфабэце, хаця гэты гук несумнеўна існаваў у старажытна-жыдоўскай мове, як адной із усходніх, я ўжо паказваў, ды і зараз паўтару, што яго патрэбна заўсёды мець на ўвазе ў тых выпадках, дзе корань слова даецца нам толькі ў выглядзе двух ці трох галосных літар, падобна, напрыклад, слову БН, азначаючаму сын і хутчэй за ўсё вымаўляўшамуся *Бын*, але я, вядома, не адкідаю магчымасьці скарачэння ўжо існуючых у альфабэце галосных пры жыдоўскім напісанні, нападобе таго, як славяне пісалі *БГ* (замест бог), ці *ЧЛК* (замест чалавек). Рабілася гэта, напэўна, ужо пад час больш позняга перыяд,у калі людзі былі ўжо дастаткова спактыкаванымі ў чытанні і пачалі эканоміць месца, нападобе таго, як і мы зараз пішам: "*г.азн.*" замест "*гэта азначае*", ці "*і г.д*". замест "*і гэтак далей*". Гэта, вядома, мела наступствам і дваякае значэнне шмат якіх выказванняў: напісанне нападобе БГ можна было вымавіць як *бог* так і *бег*, а ЧЛК магло азначаць не толькі *чалавек*, але і "*чулок*" і "*чубок*", а таму, калі мода скарачаць галосныя ў жыдоў дайшла да

крайняй ступені, то шмат якім напісаным фразам выявілася магчымым надаваць часам нават тры розныя сэнсавыя значэнні.

І вось у біблейскіх тэкстах, замест таго, каб вярнуцца да першапачатковага ўжывання галосных, пачалі замяняць іх living розными кропкамі і рысачкамі пад папярэднічаючымі ім зычнымі, але з нагоды таго, што к гэтаму часу першапачатковае значэнне выказваўнняў ужо забывалася, то такім спосабам было замацавана шмат індывідуальных тлумачэнняў, і для сучаснага безстаронняга дасьледчыка пунктуацыя прыносіць толькі шкоду, вымушаючы яго грунтавацца на чужым мркавані. Пагэтаму я яе цалкам адкідаю пры сваім вывучэнні тэкстаў.

Паглядзім зараз, што выявіць нам жыдоўскі альфабэт, калі, адкінуўшы традыцыю, мы будзем высьвятляць першапачатковае вымаўленне яго зычных літар грунтуючыся на метадзе гукавых квадратаў. Выключым із разгляду насавыя гукі як מ (мем) так і נ (нун), як відавочна адпавядаючыя нова-еўрапейскім і таксама не зведаўшыя дыферэнцыяцыі ў сваім напісанні на чатыры варыянты; адкінем і гукі ל і ר, як адпавядаючыя рускім Л і Р (хаця ўсе яны і маглі яшчэ мець мяккае нёбнае вымаўленне), а таксама нёбныя ת і ד, як адпавядаючыя рускім Т і Д, і звернем увагу толькі на 11 астатніх зычных, якія размяркоўваюцца на чатыры асобныя згуртаванні: губныя, пярэдне-дзеснавыя, задне-дзеснавыя і глоткавыя.

**Схема 1.**




Калі першае із гэтых згуртаваняў – губное (схема 1) – мы будзем лічыць трыма кутамі адпаведнага квадрата і будзем іх вымаўляць моцна прыдуўным заходне-азіяцкім спосабам, як *ФФ, ПФ, бв,* то мы наўрад ці нашмат памылімся аднаўляючы іхнае першапачатковае вымаўленне.

Аднак, пры пазначэнні ў далейшым жыдоўскіх слоў з дапамогай рускіх літар я буду, для спрашчэння, замест іх ўжываць проста Ф, П і Б. Пры гэтым адразу выяўляецца недахоп жыдоўскага альфабэтвага пазначэння для верхняга правага кута квадрата, дзе павінна было б быць прыдуўное В. Гэта такі ж самы недахоп, які назіраецца ў грэцкім альфабэце, дзе адпаведная літара бэта (β) чыталася то як Б, то як В. У сучаснай жыдоўскай транскрыпцыі першапачатковае вымаўленне пазначаюць кропкай у сярэдзіне літары, але за правільнасць падобнага рэгрэсіўнага аднаўлення першапачатковага гуку ў нас няма ніякіх доказаў. Дапамагчы тут можа толькі сучасная арабская мова.

Разгледзім зараз глоткавае згуртаване (схема 2).




Вымаўляючы гэтыя гукі, як паказана пры іх у дужках, з такой жа, як і раней, моцна прыдуўной інтанацыяй, мы атрымліваем хрыплыя для нашага вуха гарлавыя ўсходнія xh, kh, rh, hh, якія я для прастаты буду пазначаць Х, К, Г. І тут для верхняга правага кута квадрата, дзе павінна знаходзіцца прыдуўное hh, мы не маем пазначэння ў жыдоўскім альфабэце.

Робячы гэтае ж для трэццяга пярэдне-дзеснавога (схема 3) згуртавання, мы маем тыя ж самыя тры куты гукавога квадрата, якія вымаўляюцца прыблізна як СС, ЦС, ЦЗ (для спрашчэння я буду і іх пазначаць праз С, Ц і 3).




Мы бачым зараз фанетычныя ўласцівасьці старажытна-жыдоўскай мовы (ці толькі яе альфабэту). У гукавых квадратах яго зычных не выпрацаваўся верхні правы кут. Гэта дае нам схему для пабудовы і яго яшчэ застаўшагася намі недаследаванага задне-деснавога квадрата.

Для яго ў жыдоўскім альфабэце застаюцца толькі два значкі, адзін із якіх уяўляе дакладна такую ж як у славян літару Ш (ש), а другі літару Ч, павёрнутую правым бокам налева (ק), адпаведна адваротнаму накірунку чытання радкоў у жыдоўскай пісьмовасьці. Гэта дае нам левы бок квадрата, а для ніжняга правага кута застаецца іхнае гулкае вымаўленне. Зараз жыды вымаўляюць літару ק як К, хаця для гэтага ў іх ужо інуе свая літара כ. Але яе ранейшае вымаўленне як Ч даводзіцца не толькі падабенствам напісання у рускім і копцкім альфабэтах, а таксама яе частымі пераходаі ў блізкі згодна з артыкуляцыяй гук Ц[97].




Але чаму ж, – запытаюць мяне, – гэту самую літару чытаюць зараз як К, а на лаціне нават як КВ, хаця ў італьянцаў і існуе гук Ц? Гэта цалкам зразумела. Першапачаткові ягіпецкі (копцкі) альфабэт перайшоў туды не непасрэдна, а

[97] Напрыклад, у словах צלה (ЦЛЕ) і קלה (КЛЕ=ЧЛЕ), аднолькава азначаючых – смажыць. Такіх выпадкаў вельмі шмат.

прасеяўшыся, як праз сіта, праз пісьмовасць нейкай прамежкавай мовы, у якой не існавала гуку Ц, і таму гэты значок пачаў вымаўляцца няправільна.

Гэта павінна было адбыцца грунтуючыся на тых жа падставах, дзякуючы якім жыдоўскае слова ІШУЕ (ратавальнік) ператварылася па-грэцку ў Іэсус, па-руску ў Іісус, па-французску ў Жезю, па-ангельску ў Чжызес, так што ад першапачатковага наймення не засталося ніводнага гуку.

Аналагічнае пераіначванне зведалі і некаторыя іншыя словы. Так, значок грэцкага альфабэту ξ (ксі), стаяы на месцы жыдоўскага ס (самех), чытаецца намі не як прыдыхальнае СС, а як КС, а значок ψ (псі), замяняючы ЦС (хаця ён і вынесены на канец грэцкага альфабэту), чытаецца намі зараз як ПС. Дакладна так жа і пры пераходзе грэцкага Кх (χ) у заходне-еўрапейскія мовы яно пачало вымаўляцца як КС. У гэтых пасьлядоўных праходжаннях першапачатковага альфабэту праз сіта розных моў пры запазычанні імі пісьмовасьці караніцца і падстава паходжання ўсіх двухгалосных літар, акрамя рускай Щ, узнікшай дзякуючы таму, што мяккае -шь сустракаецца ў рускай мове толькі выключна пры яго злучэнні з заўсёды ў нас мяккай зычнай Ч і ніколі больш. Таму ў нас і пачалі пісаць “*щі*” замест “*шьчі*”, “*щука*” замест “*шьчюка*” і г.д.

Я прашу прабачэння перад чытачамі маёй кнігі, якія не цікавяцца гісторыяй жыдоўскай пісьмовасьці, за гэтую частку. Але яна патрэбна мне для аднаўлення першапачатковага гучання шматлікіх біблейскіх імёнаў і для таго, каб чытача не здзіўляў мой спосаб пазначэння іх з дапамогай рускага альфабэту, што часта не супадае з традыцыйным еўрапейскім спосабам вымаўлення.

Мой жа ўвесь лінгвістычны пралог да гэтай трэццяй кнігі «Хрыста» з’яўляецца толькі адказам на непаразуменні, якія выклікалі ў габраістаў некаторыя мае адступленні ад вымаўлення жыдоўскіх слоў нямецка-польскімі рабінамі, прыстасаваўшымі яго да сваёй нова-жыдоўскай мовы, уяўляючай адгалінаванне сучаснай нямецкай. Але я ўжо паказваў, што іхнае вымаўленне не адзіна існуючае на зямным шары. У Крыму і на Каўказе жыды вымаўляюць словы ўжо значна бліжэй да маёй транскрыпцыі, а гішпанскія жыды прыстасавалі сваё вымаўленне да гішпанскага вымаўлення сваёй краіны.

Але дзе ж і калі ўзнікла першапачатковая жыдоўская мова? Некалі яна лічылася першай і самай дасканалай із усіх чалавечых моў. На ёй, – згодна з запэўніваннямі рабінаў, – за 5507 гадоў да пачатку нашай эры размаўлялі Адамам з Евай ў зямным раю, ды і пасьля іх выгнання адтуль яна была адзінай на зямлі аж да Вавілонскага гармідару. На ёй адной, – згодна са сведчаннямі кабалістаў, – магло існаваць сапраўднае спазнанне сутнасьці рэчаў, а таму і самі найменні акультных старажытных навук выяўляюцца маючымі жыдоўскі корань: алхімія азначае – боская, магія азначае – магутнасць бога, кабалістыка азначае – злучаючая[98].

Сярэднявечная транскрыпцыя жыдоўскіх слоў сьвядома прыстасоўвалася да трох зычных гукаў, быццам бы змяшчаючыхся ў іхным карані ў адпаведнасьці з «траістым прынцыпам прыроды». Але варта толькі зазірнуць у жыдоўскі слоўнік, каб пераканацца, што самыя ўжываемыя жыдоўскія словы, як бацька (АБ), сын (БН), брат (АХ), мора (ІМ) і г.д., не падпадаюць пад гэта правіла.

Толькі Лейбніц (1646-1711) адважыўся аспрэчыць непадзельна пануючую да яго гістарычную традыцыю пра тое, быццам бы жыдоўская мова была прамаці ўсіх астатніх, але і яго ідэі не былі прыняты аж да ўзнікнення назіральнай лінгвістыкі.

---

98 אלהים־יה (АЛЕІМ-ІЕ) – боская; מג־יה (МГ-ІЕ) – магутная, כבל (КБЛ) – кайданы.

Нават і ў самы апошні час пануе пагляд на «перасяленчую» (жыдоўскую) літаратуру, як на ўзнікшую за паўтары тысячы гадоў да пачатку нашай эры, калі, – кажуць нам, – былі напісаны дзесяць запаветаў Майсея на «палаючым Сінаі».

Але я ўжо даводзіў у другой кнізе «Хрыста», што Сінай складаецца із суцэльных мелавых напластаванняў, якія ніколі не былі палаючымі, і што заканадаўства Майсея было складзена на Везувіі. Увесь міф пра Майсея везувіянскага паходжання і належыць IV стагоддзю нашай эры. Я даводзіў у першым томе з дапамогай астранамічных вылічэнняў, што біблейскія псеўда-прароцкія кнігі напісаны ў прамежку ад V да VIII стагоддзя нашай уласнай эры і ўяўляюць сабой запазычанні із Апакаліпсіса і што дадаванні да ўсіх біблейскіх кнігаж рабіліся і пазьней. Усё гэта паказвае, што росквіт перасяленчай (жыдоўскай) літаратуры быў ужо пад час сярэдневечча ці пад час яго гістарычнага пярэдадня, а месцам гэтага росквіту была не Палестына, ніколі не ішоўшая згодна са сваімі геафізічнымі ўмовамі у пярэдніх шэрагах чалавечай культуры, а паўднёвая Яўропа, самай прыродай прызначананая на ролю перадавога застрэльшчыка чалавечай думкі і грамадзянскасьці пад час сярэдніх стагоддзяў, калі поспехі тэхнікі не былі яшчэ такімі вялікімі, каб даць сярэдняй Яўропе перавагу ў гэтым дачыненні.

Перасяленчая (г.азн. жыдоўская) мова, згодна з самай канструкцыяй сваёй граматыкі і згодна з ўсім каранёвым складам сваіх слоў з’яўляецца не выклікаючым сумневаў варыянтам арабскай мовы з дамешкам еўрапеізмаў. Яна менш адрозніваецца ад арабскай, чым сучасны польскі жаргон жыдоў ад нямецкай ці чым лацінка ад італійскай. Нідзе ў Азіі мы не знаходзім яе мясцовых рэшткаў. Гэта мова без уласнай тэрыторыі, і таму натуральна ўзнікае пытанне: ці была яна наогул калі-небудзь тэрытарыяльнай? Яе ж уласная назва Эбры (עברי) – азначае мова перасяленцаў, і само слова жыд па-жыдоўску азначае – перасяленец.

Такім чынам – гэта мова перасяліўшыхся некуды арабаў, якія на чужыне перамянілі сваё вымаўленне пад уплывам мясцовых гаворак. Але як, куды і навошта перасяліліся выпрацаваўшыя яе арабы? Ці перасяліўся пры гэтым цэлы народ з жонкамі і дзецьмі, з вазамі і быдлам? І што тады сталася з пакінутай імі краінай?

Адказ тут просты: такіх, не могучых быць ні з псіхалагічнага, ні з эканамічнага боку гледжання падзей, не магло існаваць у рэчаіснасьці. Пагалоўнае збяганне з нейкай мясцовасьціі магло адбыцца толькі пры нейкіх вялізных стыхійных катастрофах, нападобе той, якая была ў наваколлі Везувія пры яго першых выяржэннях, суправаджаючыхся жахлівымі землятрусамі, ды і то збег не цэлы народ, а толькі некаторая акруга.

У Палестыне ж і ў Ягіпце нічога падобнага не было. Апавяданне пра «Навуходаносара», які быццам бы перасяліў да сябе ў сваю краіну цэлы чужы народ, а на яго месца перасяліў свой, можа выклікаць толькі ўсмешку ў сур'ёзнага чытача.

Каб больш паспяхова вырашыць гэтае пытанне, разгледзім больш добра вядомыя часы.

Нам кажуць, што з VI па VIII стагоддзі нашай эры быў усталяваны «сучасны тэкст Бібліі». Але якраз гэта выходзіць грунтуючыся і маіх меркаваннях; толькі габраісты сцвярджаюць, што ў гэты час была адноўлена нейкая сапсаваная старадаўняя біблія, а я кажу, што яна была не адноўлена, а ўсталявана, і што ўсё папярэдняе – міф.

Але дзе ж яе ўсталявалі? Амаль жа ўсе яе падзеі лакалізуюцца ў Заходняй Яўропе: гісторыя багазмагальніцкіх (г.азн. па-жыдоўску ізраэльскіх) цароў з'яўляецца, як я ўжо даводзіў у першай кнізе «Хрыста», толькі перасяленчым (жыдоўскім) варыянт заходне-рымскай дынастычнай гісторыі; апісанне збягання багазмагалькаў із Міц-Рыма, сярод землятрусу і жахлівга вулканічнага вывяржэння, як я толькі-што паведаміў, адбыўшагася ў Італіі на прыканцы IV стагоддзя нашай эры, а канчаткова на пачатку пятага. Сама рака Хабур (па-перасяленчаму כבר), на берагах якой Іезекііл рабіў свае астралагічныя назіранні, больш падобна на раку Эбра ў Гішпаніі, чым на сугучны з ёй годна з найменем прыток Еўфрата. І вось само наша даследаванне прыводзіць нас да высновы, што падзеі адбываліся спачатку (да 420 г.) у Італіі, а потым у Гішпаніі, якая з гэтай нагоды і да гэтага часу ў фізічнай геаграфіі мае назву Іберыйская (г.азн. жыдоўская, перасяленчая) паўвыспа. Мы прыходзім проста да перыяду панавання там араба-гішпанскай паэзіі, мовазнаўства, філасофіі, матэматыкі, медыцыны і тлумачэння Бібліі. Тут, а не ў Месапатаміі існавала і біблейская Вавілонія.

Робяцца зразумелымі з гэтага боку гледжання і пераіначванні ў вымаўленні арабскіх нацыянальных гукаў у жыдоўскай (г.азн. іберыйскай) мове маўраў: пераіначаны ўсе тыя арабскія гукі, якіх няма ў гішпанскай мове.

Вось у табліцы XXVI паказана існаванне ўсіх гішпанскіх гукаў сярод 1000 літар, падлічаных мной у Дон-Кіхоце. Мы бачым, што гэтая мова асабліва бедная деснавымі гукамі (сярэдні слупок), і гэтыя ж гукі згубіліся пры ператварэнні арабскай мовы ў жыдоўскую ў маўраў, і толькі частка іх захавалася ў нямецкім адгалінаванні жыдоўскай мовы.

ТАБЛІЦА XXVI

Гукі гішпанскай мовы.

| I. Галосныя | II. Зычныя | | | |
|---|---|---|---|---|
| цьвёдыя | губныя | Ніжне-дзеснавыя | нёбныя | мяккія |
| V – 23 | Ф (f)– 11 | S (s) – 116 | Ŷ – 7 | Ль (l) – 53 |
| O – 86 | В (v) – 6 | З – | Т – 51 | Й – 16 |
| A – 140 | П (p) –12 | Ц – | D – 45 | Нь – 2 |
| Мяккія | Б (b) – 7 | Z – | насавыя | Дзь – 1 |
| E – 130 | глоткавыя | Верхне-дзеснавыя | М – 24 | Сь – 1 |
| I – 61 | Х (j) – 6 | Ш – | N – 70 | Кь – 1 |
| | Н (h) – 3 | Ж – | ракочучыя | |
| | К (c,q) – 39 | Ч () – 5 | R – 62 | |
| | Г (g, gu) – 10 | Ч' – | | |

Такім чынам і сама перасяленчая (жыдоўская) мова ўяўляецца звычайнай арабскай у гішпанскім літаратурным вымаўленні. Амаль уся Біблія, гэта – літаратура ягіпецкіх арабаў і маўраў, каланізаваўшых Гішпанію пачынаючы з 711 года. Тут, перамяшаўшыся з мясцовым гішпанскім насельніцтвам, яны ўтварылі самастойную псеўда-мусульманскую, а ў рэчаіснасьці жыдоўскую дзяржаву, бо ў той час культ бога Ала (грэцкага Эліяса – сонца) толькі паступова развіваўся ў культ Алаха на Ўсходзе і ў культ Аллахіма (Элаіма) – на Захадзе. Калі гішпанскія жыды, гнаныя ў Яўропе, з часоў з'яўлення евангелляў (з VIII стагоддзя), абвінавачваўшых іх у слупаванi на крыжы самаго сына боскага, прыйшоўшага выратаваць людзей, паспрабавалі знайсьці прытулак у сваіх аднаверцаў на Ўсходзе, галоўным чынам у Палестыне, дзе яны пачалі памылкова размяшчаць сваю

радзіму, яны (стаўшы грунтуючыся на кроўным сваяцстве цалкам гішпана-партугальцамі) да таго разышліся як у расавых прыкметах, так і ў вымаўленні, і ў светапоглядах з азіяцка-арабскім насельніцтвам, што яно ўжо не пажадала прызнаць у іх ні сваіх аднаверцаў, ні супляменнікаў. У другім томе я ўжо згадваў пра амаль поўную адсутнасьць жыдоў у Палестыне і ў Месапатаміі пад час сярэдніх стагоддзяў. Я намякаў і на тое, што і саму назву Вавілон, па-жыдоўску азначаючую Брама Госпада, дарэмна дапасуюць да Месапатаміі. Гэта была хутчэй за ўсё назва ўсёй каталіцкай царквы, а таму і радзіму «вавілонскага Талмуда» я шукаю не на берагах Тыгра і Еўфрата, а, галоўным чынам, у Гішпаніі, лічачы сучасную тэалагічную лакалізацыю згадваемых у ім мясцовасьцей такой жа памылковай, як і іхную лакалізацыю ў Бібліі, дзе нават існуюць і Парыж, і італьянскі Па-рыджы (Parigi), біблейскі Парыдзі, што паслужыла падставай і для назвы ўсёй Францыі Парыжыяй, аналагічна старажытнай Масковіі, а славянскія перакладнікі ў дадатак яшчэ пераблыталі гэта імя і зрабілі із яго краіну Феразею і народ феразеі[99].

– Але як жа, – скажуць мне, – патрапілі біблейскія легенды пра першых людзей, пра патоп і некаторыя іншыя на гліняныя пласьцінкі, знойдзеныя пры раскопах у Месапатаміі?

– Ды гэтак жа, – адкажу я, – як патрапілі ў рускія музеі і скамянелыя адломкі іглаcкурых жывёл із гуронскіх напластаванняў Паўночнай Амерыкі, як патрапілі ў Індыю біблейскія ж паданні пра Адама разам з Крышнай-Хрыстом: яны былі занесены туды прапаведнікамі адзінабожжа. Я ж ужо паказваў раней, што і сама легенда пра сусветны патоп вырасла грунтуючыся на штогадовых паводках Нілу, затапляючых увесь сярэдні Егіпет, і што сапраўднае імя Ноя – Нэх (НХ па-біблейску) – тоесна з імем ягіпецкага султана Нехао, і што ўсё «Пяцікніжжа Майсея» з'яўляецца апісаннем італьянскіх падзей III-V стагоддзяў. Гэта азначае, і Месапатамія перайшла да самастойнага культурнага жыцця толькі пры халіфах, а да таго часу была краінай вандруючых плямён знаходзячыхся пад замежным уплывам толькі з рэдкімі аселымі мястэчкамі на берагах Тыгра і Еўфрата.

Да асабліва цікавых вынікаў прыводзіць даследаванне мовы месапатамскіх клінапісных таблічак з дапамогай усіх згаданых тут мной спосабаў. У ёй, пры сучасным чытанні, атрымліваюцца цалкам неверагодныя суадносіны паміж прамільнымі велічынямі розных гукаў вымаўлення, калі іх размяркаць па гукавых квадратах, і поўная неадпаведнасьць гэтых гукаў і моўных каранёў з тымі, якія існуюць у сучасных мовах месапатамскага лінгвістычнага басейна і яго наваколля. Яна цалкам не мясцовая мова і ніколі не была мясцовай ці, наогул, народнай, дзе б там ні было.

Пра ўсё гэта тут мне яшчэ рана разважаць, але некаторыя намёкі ўсё ж неабходны, бо не вядома, ці хутка ў мяне атрымаецца надрукаваць наступныя тамы майго даследавання.

* * *

Гэтым я і закончу свае «лінгвістычныя меркаванні». Яны зрабіліся зараз патрэбнымі сярод іншых аддзелаў маёй працы, із якіх нават астраномія лягчэй выкладаецца ў агульназразумелай форме, чым лінгвістыка на нашых сучасных альфабэтах.

---

[99] У Бібліі слова פרזי (ПР-ДЗ-І) з'яўляецца назвай усёй краіны парыдзаў, г.азн. парыжанаў, заваяваных пазьней згодна з Бібліяй аф-рымлянамі, г.азн. каталікамі-рымлянамі, як гэта і было ў рэчаіснасьці.

Само сабой зразумела, што я паказаў тут свае гукавыя квадраты і патлумачыў з іхнай дапамогай, грунтуючыся на сістэматычных значках, усе недахопы сучасных еўрапейскіх і азіяцкіх альфабэтаў не таму, што марыў, быццам бы іх зараз жа і прымуць для агульнага карыстання. Яны былі патрэбнымі мне самаму для спрашчэння свайго выкладання, таму што грунтуючыся на звычайных альфабэтх без іх мне давялося б толькі таптацца на адным месцы, і канчаткова знясіліць чытача.

Палеаграфію я тут сьвядома пазбягаў.

Дастаткова добра дапасоўваемая для вызначэння часу рукапісаў, напісаных пасьля IX стагоддзя нашай эры, гэтая прылада не б'е на такія далёкія адлегласьці, якімі з’яўляюцца прадметы майго даследавання. Тут праверка аднаго ненадзейнага дакумента з дапамогай іншага, яшчэ меней надзейнага, тое ж самае, што хаджэнне на двух нагах, абапіраючыся на кожную нагу па чарзе; заўсёды прыйдзеш, куды пажадаеш.

Нават жа і для перыяду заканчэння сярэдніх стагоддзяў немагчыма вызначыць паўсюдна вызначаны почырк, як зараз, калі ён усталёўваецца дзяржавай з дапамогай яго сістэмы адукацыі. Калі ў Рыме ўжо пісалі лацінскім хуткапісаннем, стары почырк яшчэ не адно стагоддзе выкарыстоўваўся ў глухіх правінцыях і ў чужых краінах. Калі ў Канстантынопалі ўжо даўно забыліся на старажытна-грэцкую транскрыпцыю, яна магла быць яшчэ ва ўсеагульным ужыванні на Сінаі. Пра лёгкую магчымасць падробкі почырку кожнай эпохі я ўжо не гавару.

Цяжка паддаецца падробцы толькі індывідуальнае пісанне, а «ліст эпохі» вельмі лёгка падрабіць, прыгледзеўшыся да некалькіх яго ўзораў.

Пры далейшым выкладанні мне яшчэ не раз давядзецца грунтавацца на выказаных у гэтым аддзеле меркаваннях пры ўказанні лінгвістычных слядоў, вядучых да тай ці іншай із маіх гістарычных высноваў, хаця б я і прыйшоў да іх цалкам грунтуючыся толькі на іх.

Ізаляваца ад філалагічных навук пры даследаванні старажытнага чалавечага жыцця і культуры, цалкам немагчыма. Вось чаму я і ўключыў у маё апавяданне больш падрабязную, чым нарысы іншых дапамагаючых навук, гэтую лінгвістычную інтэрмедыю.

# Частка другая

## Сьцяг бога.

Гістарычныя аперцэпцыі асоб і жыцця заснавальнікаў адзінабожжа і першыя спробы гістарычнага рамана



Мал. 50

*Цар Міратворац (Саламон) як навуковец. Біблейская легенда ў аперцэпцыі сучаснага еўрапейскага мастака. Із кнігі La Sainte Bible, з малюнкамі Густава Дарэ.*

# Глава I.

## Што такое псіхалагічная аперцэпцыя?

Чаму узнікла мова?

«Фізіялагічная патрэбнасць вымушае жывую душу выяўляць з дапамогай гуку агульны характар яе ўнутранага стану» – сцвярджае нам сучасная фізіялогія. І сапраўды, наўрад ці нехта аспрэчвае сувязь пачуццяў з гукамі ў крыках напалоханых жывёл, у плачы дзіцяці, у смеху і стогне дарослых. Але і выразнае вымаўленне было на пачатку міжвольным і мела характар выклічнікаў, хаця пазней і ператварылася ў паслухмяны сродак думкі, нягледзячы на тое, што думка можа і адлучацца ад голасу, выбраўшы сабе іншыя выразныя сівалы, як гэта і бывае пры навучанні чытанню глуханямых.

«Мова, – кажа В. Гумбальдт, – развіваецца толькі ў грамадстве, і чалавек пачынае разумець сябе, толькі выпрабаваўшы на іншых зразумеласць сваіх слоў». «У мове жывей, чым дзе б там ні было, кожны чалавек адчувае сябе толькі эманацыяй ўсяго чалавечага роду», – дадае да гэтага А. А. Патэбня[100] у выдатнай кнізе якой я не раз буду карыстацца тут і далей.

Так, ніхто не можа дастаткова высока ацаніць вялізнае значэнне дару слова для нашага грамадзкага і індывідуальнага жыцця. Думкі, выяўляемыя намі ў вымаўленні, пераходзяць цалкам ці збольшага да слухаючага, нікольki не памяншаючы нашага разумовага багажу, але гэта адбываецца таму ж, чаму не памяншаецца і полымя свечкі, ад якой запальваецца шмат іншых. Але, падобна таму, як у кожнай новай свечцы гарацъ свае ўласныя газы, так і ад нашага вымаўлення абуджаецца толькі асабістая разумовая дзейнасць разумеючага яго, які ўсё ж думае пры гэтым сваёй ўласнай думкай.

Вось чаму людзі разумеюць нас не шляхам паўтарэння ў сабе абсалютна аднолькавых з намі ўражанняў, а тым, што мы закранаем у іх сваімі словамі тыя ж пасьлядоўныя звёны ў ланцугу іхных пачуццёвых уяўленняў і разуменяў, закранаем тую ж клавішу іхнага душэўнага ўладкавання. І гэта прымушае ў слухаючага гучаць адпаведна наладжаную, але не тоесную з нашай, псіхічную струну.

Пасьлядоўнасць выразных гукаў нашага вымаўлення з'яўляецца прыладай разумення, на першы пагляд неверагодна простай ў параўнанні з важнасьцю таго, што гэтым дасягаецца. Гукавыя імпульсы адкрываюць чалавеку цэлы новы сьвет, ужо перапрацаваны і асіміляваны іншай душой і гэтым паказваюць яму іншую істоту з такімі ж здольнасьцямі ўспрымання і настрояў, а таму і здольную падзяліць з ім усе яго душэўныя памкненні. Кялейная адзінкавая праца думкі з'яўляецца з'явай ўжо больш позняй і маючай перадумовай існаванне ў душы папярэдняга, значнага запасу ведаў і спрактыкаванасьці ў выказванні сваіх думак, немагчымых без папярэдняга развіцця пісьмовасьці, з вялікім лішкам замяняючай гутарку. Без папярэдняй вялікай начытанасьці ніхто не можа быць здольным да нейкіх працяглых і плённых высілкаў розуму. У адзінкавым заняволенні перш за іншых гінуць мала чытаўшыя людзі.

Такім чынам вымаўленне і пісьмовасць не толькі служаць пасярэднікамі паміж глыбакадумаючымі людзьмі і ўсталёўваюць паміж імі разумную сувязь, а таксама з'яўляюцца і рычагамі для іхнага далейшага разумовага развіцця, дадаючы новыя ўспрыманні нашай сьвядомасьці да маючагася ў ёй ранейшага запасу думак і ўражанняў. Але, менавіта дзякуючы гэтай апошняй акалічнасьці, успрыманні слухаючага і не бываюць ніколі тоеснымі з тым, што ў рэчаіснасьці мае ў сваёй сьвядомасьці паведамляючы чалавек.

«Падчас вымаўлення атрыманае ўражанне зведвае новыя змены, як бы паўторна ўспрымаецца», ці, як выказваюцца ў псіхалогіі, аперцыпіруецца.

Але што ж такое гэты чыста псіхалагічны тэрмін – аперцэпцыя? Ён упершыню ўведзены ў навуку Лейбніцам, і ў яго азначаў проста сьвядомае ўражанне. Гербарт вызначыў яго як узаемадзеянне новага сьвядомага ўяўлення з цэлым шэрагам ранейшых, а Вундт – як узмацненне дадзеных уяўленняў сярод іншых, з нагоды засяроджвання на іх увагі. Але можна злучыць разам абодва апошнія вызначэнні.

---

[100] А. А. Патэбня. Думка і мова. Адэса. 1922

«Калі адна із дам, – кажа Патэбня, – фігуруючых у 9 і 10 главах «Мёртвых Душ» Гогаля, знаходзіць, што губернатарская дачка манерная невыносна, а румянец на ёй у палец таўшчынёй і адвальваецца, як тынкоўка, кавалкамі, а другая дама сцвярджае, што гэтая дзеўка – статуя, і белая, як сьмерць, то абедзьве толькі розна аперцыптуюць, г.азн. асьвятляюць сваім папярэднім душэўным настроем амаль цалкам аднолькавыя рэчаісныя ўражанні, атрыманыя імі із навакольнага асяроддзя ад той жа самай асобы.

«Абедзьве дамы былі, вядома, цалкам шчырымі і глыбока перакананымі, што паведамляюць абсалютную праўду.

«Дакладна гэтак жа быў шчырым і перакананым ў сваёй праўдзівасьці і гогалеўскі паштмайстар у тых жа «Мёртвых Душах», які ўсклікнуў пры паведамленні пра незвычайныя набыткі Чычыкава:

«– Гэта, судар мой, ніхто іншы, як капітан Капейкін!

«Новае ўяўленне пра Чычыкава і старае пра капітана Капейкіна непарыўна зліліся ў яго, і абодва ўжо не разлічаліся душой, нягледзячы на шэраг наступных уражанняў, аспрэчваўшых такое ўяўленне.

«Але не ў адным толькі аб'яднанні новых успрыманняў са старымі выяўляецца аперцэпцыя (таму што аб'яднанне магчыма і без яе), яна выяўляецца таксама і ў імкненні адкінуць са сьвядомасці ці пераінaчыць у ёй усё, што не адпавядае ўсталяваўшамуся аб'яднанню. Усё аспрэчваючае аднойчы складзенае ўяўленне, проста выклікае незадавальненне. Так, тая ж гогалеўская дама, якая няправільна аперцыпіравала губернатарскую дачку, спяшаючыся да сваёй знаёмай перадаць ёй як магчыма хутчэй навіны пра дзіўны прыезд Чычыкава, аперцыпіравала сваю ўласную язду, як раздражняльна павольную, і сказала вазніцы, што ён «невыносна доўга едзе». Сустрэўшуюся багадзельню яна назвала праклятым будынкам, не маючым заканчэння»[101]...

Так, вядома, і гэтая мая кніга пра «Хрыста» будзе аперцыпіравацца шмат кім, як ні на што непрыдатная, «якую не патрэбна было б нават і друкаваць, а зараз проста патрэбна забараніць», таму што яе ўтрыманне дрэнна пагадняецца з іхнымі ранейшымі аперцэпцыямі...

Із гэтага бачна, што сутнасць аперцэпцыі зводзіцца да перайначвання нашай сьвядомасцю атрыманых ёй із навакольнага асяроддзя ўражанняў, і гэта перайначванне ўражанняў адбываецца, відаць, толькі пры іхным пераходзе із шэрай кары вялікага мозгу, гэтага вялізнага сховішча падсьвядомых уражанняў усяго нашага мінулага жыцця, у мазжачок, як адзіную цалкам сьветлую вобласць нашага ўсьведамлення, пры гэтым кожнае новае ўражанне прыходзіць туды із вечнай цемры мазгавых паўшар'яў ужо на фоне ранейшых роднасных яму ўражанняў ці нават змяшаўшыся з імі. Інакш цяжка анатамічна патлумачыць аперцэпцыю, гэтак жа, як і шмат якія іншыя неадпаведнасьці паміж ўсьведамляемым намі і рэчаісным, што мы пабачым далей пры разгляданні гіпнатычных з'яваў, патрэбных для разумення некаторых евангельскіх паведамленняў. І вынікам аперцэпцыі не заўсёды з'яўляецца памылка, як у толькі-што прыведзеных выпадках, але таксама і праўда.

[101] А. А. Патэбня. Там жа.

Кожная ж аперцэпцыя з’яўляецца, уласна кажучы, патлумачаным адчуваннем рэчаіснай падзеі, а тлумачэнне бывае тым больш поўным і праўдзівым, чым багацейшае і правільна арганізаванае тое сховішча мінулых уражанняў у шэрым рэчыве вялікага мозгу, праз якое яно павінна прафільтравацца і із якога павінна захапіць з сабой у мазжачок, як сьвядома-валявы каардынуючы орган, усе аднастайныя ці асацыяваўшыяся з ім сляды ранейшых уражанняў.

У вышэйпаказаных прыкладах пазначаны толькі выродлівыя аперцэпцыі, таму што Гогаль у «Мёртвых Душах» з'яўляецца ніяк не рэалістам, а толькі карыкатурыстам рускага грамадства пачатку XIX стагоддзя, і сам аперцыпуе гэтае грамадства ў вышэйшай ступені аднабакова, як няцяжка бачыць, параўнаўшы з яго аперцэпцыямі таго ж грамадства аперцэпцыі Тургенева, ці Ганчарова, ці Ільва Таўстога.

У некаторых выпадках, а асабліва ў вобласьці дакладных ведаў, зведаўшых матэматычны аналіз, аперцэпцыя паведамляемага і назіраемага бывае амаль тоеснай ва ўсіх адукаваных людзей. Так выказванне «два памножыць на два – чатыры» разумеюць аднолькава ўсе ўмеючыя лічыць. Выказванне «квадрат, пабудаваны на гіпатэнузе прамакутнага трохкутніка, роўны суме квадратаў на двух яго катэтах» – разумеюць аднолькава ўсе вывучаўшыя элементарную геаметрыю, а для невывучаўшых, гэта – выказванне не маючае сэнсу, размова на незнаёмай яму замежнай мове.

Але папрасіце, напрыклад, вучня маскоўскай навучальнай акругі намаляваць кветку, і вы амаль заўсёды пабачыце, што ён намалюе тонкае каліўца з чаргуючыміся вузкімі лістамі, а зверху вянок пялёсткаў, нападобе палявога рамонка. А тым часам расьліны, маючыя назву кветкі, бываюць і са званочкамі, і з парасонам на вяршынях, і з каласкамі, і з язычкамі (як у фіялак), і з закругленымі, і з пёрыстымі лістамі. Тут абагульненае разуменне аперцыпавалася з самым звычайным із прыватных выпадкаў, а дзякуючы таму што звычайныя для адной мясцовасьці кветкі з'яўляюцца рэдкімі для іншай, то аперцэпцыя разумення «кветка» непазбежна бывае рознай у народаў, якія жывуць у аддаленых адна ад адной мясцовасьцях, моцна адрозніваючыхся згодна са складам сваёй флоры. Ягіпецкі дзіцёнак намалюе «дрэва» падобным на пальму, еўрапейскі – падобным на ліставое дрэва, паўночны сібірак – падобным на хваёвае, і гэтыя аперцэпцыі агульнага разумення «дрэва» несьвядома захоўваюцца і ў дарослых.

Такім чынам, аперцэпцыя ўзнікае ўсюды дзе атрымліваемае складанае ўспрыманне папаўняецца і тлумачыцца, існуючым, хаця б і самым нязначным, запасам іншых разуменняў, асацыіруючыхся з ім.

Калі гэты запас (лакалізаваны ў розных абласьцях кары вялікага мозгу) малы, тады і сьвядомае мысленне, г.азн. пасьлядоўнае злучэнне псіхічна апрацаваных імпульсаў, пасыланых карой (як мне здаецца) у мазжачок, бывае непазбежна нікчэмным. Калі запас папярэдніх уражанняў хаця і вялікі, але аднабаковы, як гэта бывае ў спецыялістаў з недастатковай агульнай прыродазнаўча-навуковай адукацыяй, тады і мысленне бывае аднабаковым і большай часткай памылковым ва ўсім, што выходзіць за межы іхнай спецыялізацыі.

Але нават і пры рознабаковых ведах не можа існаваць моцнага творчага мыслення ў тых людзей, якія набылі свае веды не дзякуючы агульналюдзкой патрэбе «ведаць праўду чаго б гэта ні каштавала», а выключна дзякуючы нейкаму асабістаму ўтылітарнаму захапленню (напрыклад, дзякуючы славалюбству і, у прыватнасьці, дзеля кар'еры). Гэта асабістая мэта, прысутнічаючая як агульны фон разумовага апарата, непазбежна будзе накладаць свой адбітак і на ўвесь ход яго мыслення; такі розум зможа ўдасканаліць ужо пракладзены да яго накірунак, але ніколі не створыць новых накірункаў у навуцы.

Да гэтай жа катэгорыі далучаюцца і людзі, у якіх захапленні бяруць верх над аб'ектыўнымі стаўленнямі як да асоб, так і да пытанняў думкі. Аперцэпцыі ў іх часта дасягаюць ступені галюцынацыі, што прасьцей за усё можна бачыць на прыкладах сучасных палемік паміж варагуючымі адзін з адным палітычных і сацыяльных дзеячаў, ці на прыкладзе падобных жа палемік ранейшых рэлігійных сектантаў. Уся наша царкоўная гісторыя ператварылася, дзякуючы гэтаму, у шэраг галюцынацый, а злучаныя з ёю гістарычныя дакументы дакладней можна назваць істэрычнымі, тым больш, што мысленне бывае асабліва крывым ў таго, хто замест рэчаісных ведаў набыў толькі прывідныя, якімі з'яўляюцца забытыя зараз псеўда-навукі мінулых дзён – магія і кабалістыка, і не забытая да гэтага часу містычная тэалогія.

Аперцыпуючыся на гэтым фоне, шмат якія ўражанні навакольнага сьвету набываюць у мазках містыкаў чароўны характар і з’яўляюцца падставай стварэння фантастычных апавяданнаў, легенд і міфаў, якімі яны і атачаюць жыццё кожнага, так ці інакш вядомага грамадзкага дзеяча проста адпаведна квадрату яго вядомасьці, таму што ўражанні пра яго павялічваюцца не толькі адпаведна магутнасьці яго здзяйсненняў, але і адпаведна колькасьці перадаванняў сведчанняў пра іх, пры гэтым пры кожным перадаванні ў тым жа асяроддзі ўзнікае аднабаковая аперцэпцыя. І чым далей такі дзеяч адыходзіць у мінулае, г.азн. чым большай была колькасць перадаючых сведчанні пра яго не толькі ў прасторы, але і ў часе, ад пакалення да пакалення, із якіх кожнае аперцыпавала аднолькава аднабакова, – тым больш ускладняецца прыдуманымі падзеямі міф, асабліва ў тыя часы, калі панавала містыка і калі друкавальны станок яшчэ не замацоўваў гістарычныя дакументы, памнажаючы іх адразу ў тысячах асобнікаў і робячы гэтым мала верагодным іхнае поўнае знікненне, асабліва пасьля стварэння афіцыйных кнігасховішчаў, дзе іх тым больш беражліва захоўваюць, чым больш старажытны дакумент.

Вось чаму ўсе нашы веды пра старажытных знакамітых дзеячаў з'яўляюцца не праўдзівымі сведчаннямі пра іх, а толькі гістарычнымі аперцепцыямі іхнага мінуўшага выгляду і дзейнасьці, даходзячымі ў шмат якіх выпадках да ступені галюцынацый, з якімі цалкам немагчыма змагацца: чалавек робіцца падобным на вар'ята, ўжо не адрозніваючага рэчаісныя ўражанні ад прывідаў свайго ўяўлення, і рэчаісных узаемадачыненняў ідэй – ад іхнай бязладнай пасьлядоўнасьці. Ён нават не здольны паслухаць не пагадняючыяся з яго чужыя думкі.

І ўсё гэта лёгка тлумачыцца фізіялагічна, у тым выпадку калі чытач стане на мой бок гледжання, што сьветлая вобласць нашай сьвядомасці засяроджана ў рэгулюючым нашы сьвядомыя ўражанні мазжачку, і ўсе прыходзячыя із атачаючай рэчаіснасьці вонкавыя ўражанні перадаюцца ў мазжачок не непасрэдна ад органаў адчування, а абавязкова праз шэрае рэчыва паўшар'яў вялікага мозгу, якое, падобна заахвочанаму перадавальніку, паведамляе ў мазжачок толькі тое, што знаходзіць патрэбным, хаваючы недапасуючыя дэталі, а калі моцна пашкоджана дзякуючы няправільнай дзейнасьці кровазвароту, паведамляе яму са свайго запасу мінулых уражанняў бязладна што патрапіцца, а сьветлая вобласць усведамлення ў мазжачку прынімае ўсё гэта за рэчаіснасць.

Калі пад час да-друкаванага перыяду такія аперцэпцыі з цягам часу бязмежна дадаваліся, ці хутчэй памнажаліся, адна на другую ў спрыяльным і ўзвялічваючым сэнсе, тады із першапачатковага рэчаіснага насення выраслі грандыёзныя гістарычныя міфы, якімі з'яўляюцца біблейскія апавяданні пра цароў Давыда і Саламона, ці пра біблейскага Майсея і евангельскага Хрыста, дзе фантастычнае ўжо цалкам праглынае рэчаіснае. Калі аперцэпцыі назапашваліся ў адмоўным сэнсе, міф не набываў самастойнага характару, дзякуючы таму, што чалавек наогул не схільны згадваць непрыемнасьці, а таму і разнастайныя мінулыя нечыя ганебнасьці і паскудствы згадваюцца і дапаўняюцца ўяўленнем толькі ў тым выпадку, калі дзякуючы ім узвялічваецца нейкая гераічная постаць. Так узніклі ўсе міфы пра герояў і пра вялікіх мысляроў і настаўнікаў, якім прыпісваюцца немагчымыя ў рэчаіснасьці справы ці немагчымыя згодна з дадзеным часам веды, а іхныя супернікі малююцца ў карыкатурным выглядзе ці нікчэмнымі. Патрапіўшы ў розныя мясцовасьці, такі міф у кожнай набывае самастойнае развіццё, і, дзякуючы фанетычнай прыстасоўваемасьці наймення героя да мясцовай мовы ці перакладу яго наймення на новую мову, кожная варыяцыя набывае розныя нацыянальныя адценні, месца і час падзей перамяшчаюцца ў розныя бакі, і адна і тая ж рэчаісная асоба ператвараецца ў некалькі асоб – грандыёзна-неpraўдападобных.

Пры гэтым патрэбна пазначыць, што гістарычная асоба з'яўляючаяся надзвычай гераічнай і карыснай з боку гледжання свайго народа, можа выявіцца шкоднай і зласлівай з боку гледжання іншага варожага яму народу, а таму ў розных этнічных басейнах і міфы пра таго ж самага дзеяча могуць часам набываць проста працілеглы змест.

Акрамя усяго гэтага, пры вывучэнні старажытных гістарычных аперцэпцый мы не павінны выпускаць із пад увагі і недахопы нашай уласнай памяці. У нашых успамінах заўсёды забываюцца менш заўважаемыя часткі бачанага намі прадмета і іхная сувязь з іншымі часткамі, а пры спробе аднавіць у памяці ўсю гэту выяву мы, не заўважаючы гэтага, цэментуем істотныя дэталі чыжымі падрабязнасьцямі, узятымі намі із таго ж агульнага сховішча ў шэрым рэчыве мозгу, і лічым іх ужо за рэчаісныя. Падобным чынам адбываюцца і тыя дзіўныя з'явы, якія пры выразных псіхіятрычных працэсах мы называем вынікам надання. Яно з нашага боку гледжання таксама лёгка тлумачыцца лакалізацыяй сьветлай вобласьці нашага ўсьведамлення выключна ў мазжачку і тым, што шэрае рэчыва мазгавых паўшар'яў здольна, несьвядома для нас, успрымаць (праз тую ж барабанную перапонку нашых вушэй) і такі ціхі шэпт, які звычайна не выклікае ў іх імпульсаў для перадачы ў мазжачок пры нармальным стане, але выклікае іх у стане таго прывіднага сну, які характэрызуе загіпнатызаваных (калі мы не зробім дапушчэнне, што нейроны шэрага рэчыва нашага вялікага мозгу здольны і непасрэдна ўздзейнічаць на чужыя такія ж нейроны падобна спосабу дзеяння бяздротавага тэлеграфа).

Вялізную ролю пры стварэнні міфаў мае тая акалічнасць, што кожнае апавяданне дае нам толькі вельмі няпоўныя выявы рэчаісных уражанняў атрыманых апавядаючым, падобна малюнкам тых мастакоў-сімвалістаў, дзе нехапаючыя дэталі мы папаўняем дзякуючы ўласнаму ўяўленню, г.азн. ствараем іх ужо самі, а не мастак, які некалькімі рыскамі толькі пазначыў нам абшар, хаця і злучыў яго збольшага тым, што адзначыў на паперы.

* * *

Такім чынам, псіхалагічны метад даследавання ўсіх без выключэння гістарычных дакументаў павінен быць заснаваны не на адным імкненні хутчэй зааперцыпіраваць у сабе аперцэпцыі аўтараў, а на сьвядомым разуменні, што ў кожным дакуменце мы маем не фатаграфічны здымак апісанай падзеі, а яе перапрацоўку чужым усведамленнем.

Калі б гэтае ўсьведамленне было такім жа дасканалым і рознабаковым, як і наша, то мы, відавочна, ні ў чым тут не змаглі б разабрацца. Але, на шчасьце для нашай гістарычнай навукі, сучасны ўсебакова адукаваны чалавек стаіць настолькі вышэй сярэднявечнага, праз якога мы атрымалі нашы першакрыніцы, што ён часта здольны, грунтуючыся на яго сведчанні, аперцыпаваць даўно мінулае асабістае жыццё нейкага грамадзкага дзеяча ці складаную, грамадзкую падзею нашмат бліжэй да рэчаіснасьці, чым аперцыпаваў сам аўтар дакумента, хаця б ён і быў адзінай нашай першакрыніцай. Кіруючыся збольшага лінгвістычнымі сьлядамі, якія захаваліся ў найменнях дзейнічаючых асоб, збольшага складанымі лічбавымі ўзаемадачыненнямі падзей, менш за ўсё падпадаючымі пад аперцэпцыі, а збольшага астраноміяй і геафізікай, якія дазваляюць часам дакладна вызначыць час і месца падзей, ён мае магчымасць навукова інтэрпрэтаваць дакумент і сапраўды стварыць гістарычную навуку, на падмурку агульных законаў сацыялагічнага развіцця чалавецтва, падобна таму, як дасьведчаны заолаг можа ідэнтыфікаваць жывёлу грунтуючыся на вывучэнні яго зуба ці пазнаць пралятаючую птушку грунтуючыся на яе цені, бачнай на невялікім кавалачку глебы.

Спробай стварыць такую дакладную навуку пра старажытнае жыццё грунтуючыся на дапасаваных да яго міфах і з'яўляецца ўсё маё гэтае дасьледаванне. У першым томе я даў нарыс магчымасьці вызначаць час падзей грунтуючыся на апісаннях астранамічных дэталяў існуючых у першакрыніцах; у другой кнізе – нарыс магчымасьці лакалізаваць іх на падставе геафізічных меркаванняў, а ў гэтай – я спрабую даць магчымасць унутранага дасьледавання міфаў збольшага грунтуючыся на псіхалагічным метадзе і збольшага на лінгвістычным, кіруючыся ў разуменні дакументаў і самай іхнай мовы выключна толькі ўласнымі непасрэднымі назіраннямі, а не проста аперцыпуючы аперцэпцыі сваіх папярэднікаў.

# Глава II.

## Анатомія літаратурнай творчасьці.

Сярод біблейскіх кніг існуе адна выдатная кніга, маючая назву: «Сьцяг Бога», па-жыдоўску Саму-Іл. У грэцкім варыянце яна няправільна далучана да кнігі «Цары», пад імем іх першай і другой кніг, а сапраўдныя першая і другая кнігі «Цары» у выглядзе трэццяй і чацьвёртай кнігі. У такім выглядзе абодва творы і перайшлі ў царкоўна-славянскі варыянт, а із яго і ў рускі пераклад з грэцкай. Аднак, абедзьве часткі кнігі «Сьцяг Бога» і абедзьве часткі кнігі «Цары», пачынаючы з 12 главы першай часткі, відавочна складзены кампілятарамі розных рэлігійных плыняў. Кніга «Сьцяг Бога» і першыя 11 глаў першай (III па-грэцку) кнігі «Цары» яшчэ ідэалагічна не аддзяляюць месіянцаў (г.азн. багаславячых, хрысціянаў-жыдоў) ад арыян (багазмагалькаў), а апошнія 11 глаў першай кнігі «Цары» ўжо называюць багазмагалькаў (г.азн. арыян) – ерассю Ераваама.

Вось чаму, маючы жаданне крытычна разгледзець кнігу «Сьцяг Бога» (найменне якой цалкам знікла ў славян), я далучыў тут да яе і арганічна злучаную з ёй першую палову першай кнігі «Цары», у выніку чаго атрымалася цалкам замкнёнае ў сабе і, відаць, першапачаткова цэлае. Можна думаць, што кніга «Цары», меўшая выгляд сухога летапісу, дапоўненага легендамі астральнага паходжання, была складзена нашмат раней чым «Сьцяг Бога» і ў іншай краіне, а таму «Сьцяг Бога» быў апакрыфікаваны да яе пачатку, і каб далучэнне была менш заўважаемым, із «першапачатковай трылогіі» гераічных прота-раманаў «Цар Пекла, Цар Запал і Цар Міратворац» (Саул, Давыд і Саламон па-жыдоўску), складаўшых змест кнігі «Сьцяг Бога», апошні цар быў перанесены на пачатак кнігі «Цары» і ўтварыў у ёй першыя адзінаццаць глаў. А ад Саламона да Ераваама быў зроблены штучны пераходны масток.

Я яшчэ раз маю жаданне нагадаць чытачу, што як евангеллі, так і біблейскія кнігі і нават усе свецкія складаныя легенды, накшталт «Адысеі», «Іліяды», «Наля і Дамаянці» і г.д., уяўляюць сабой толькі зборнікі розных дробных анекдатычных апавяданняў, выпрацаваных ў асяроддзі старажытнай узнікаючай інтэлігенцыі, кожны эпізод у асобнай галаве і згодна з асобнай нагодай. У той час яшчэ не існавала такога моцнага мозгу і такіх align=рознабаковых папярэдніх ведаў» каб адзін чалавек быў здольным самастойна напісаць цэлую аповесць ці вялікую складаную казку са зместам, падабраным згодна з адным планам. Праз некалькі старонак пісання ў пішучага ўжо пачыналася вялікае мазгавое стамленне і самы інтэлігентны чалавек першых пяці ці шасьці стагоддзяў нашай эры, акрамя Яна Антыяхійскага, розум якога ўзвышаўся над усімі астатнімі розумамі, як магутны

дуб над дробным хмызняком, не мог нават і марыць пра напісанне суцэльнай, самастойнай кнігі з сістэматычным зместам, хаця б у памеры «Апакаліпсіса».

Ён быў толькі здольным сабраць на працягу некалькіх гадоў некалькі дзясяткаў розных апавяданнаў і перапісаць іх амаль даслоўна на працягу некалькіх тыдняў, адзін за адным, замяніўшы імёны на нейкае адно, і, такім чынам, прыпісаць гераічныя ўчынакі ці цудоўныя справы шматлікіх адной і той жа асобе. Патрэбна было толькі паставіць напачатку тыя (чужыя) апавяданні, якія малявалі некага яшчэ юнаком, і размясьціць на заканчэнні тыя, якія дапасавалі толькі да сталага ўзросту, а астатнія злучыць паміж сабой нейкімі пераходнымі масткамі, каб надаць апавяданню выгляд складнасьці.

Але што ж гэта за пераходныя масткі? – запытае мяне чытач, мала дасьведчаны ў літаратуры. Я лепш за ўсё патлумачу гэта грунтуючыся на ўласнай лекцыйнай практыцы.

Кожны лектар па навуковай частцы ведае, што для таго, каб трымаць увагу слухачоў на працягу звычайнага тэрміну нашых навуковых лекцый – двух гадзін, з перапынкам на чвэрць гадзіны ў сярэдзіне, ні ў якім выпадку немагчыма чытаць лекцыю грунтуючыся на напісаным тэксце. Як бы вы добра ні чыталі, увага шматлікіх слухачоў знясіляе ўжо праз паўгадзіны, і паміж знаёмымі адзін з адным суседзямі вялікай аўдыторыі пачнецца ціхае шаптанне.

Пры жывым вымаўленні непараўнальна лягчэй трымаць увагу, асабліва, калі праз кожныя 10-15 хвілін славеснага выкладання прачытаеш, як прыклад выкладаемай тэмы, старонку (не больш) із першакрыніцы ці пакажаш адзін за адным, з кароткімі тлумачэннямі, ад 5 да 10 невыразных выяваў, маючых дачыненне да прадмета, але не паасобку, а адразу згуртавана, ці, нарэшце, калі наладзіш нейкі эфектны досьлед. Але, нягледзячы на гэтыя спосабы разнастайвання, пры двухгадзінным вымаўленні даводзіцца закрануць столькі дэталяў, што ўтрымаць усю іхную пасьлядоўнасць, увесь іх план разам у галаве, не рызыкуючы нешта прапусьціць у патрэбным месцы, без магчымасьці вярнуцца да яго пазьней, немагчыма.

Даводзіцца складаць для гэтага канспект, але тут часам часта ўзнікае цяжкасьць, якім чынам як мага непрыкметней перайсьці ад аднаго пытання да іншага, ад выкладання да досьледу ці цытаты, ці да серыі малюнкаў, каб гэта здавалася не калейдаскопам розных самастойных паведамленняў і ілюстрацый, а пасьлядоўным, хаця і рознабаковым развіццём адной агульнай ідэі, праходзячай праз усю лекцыю. Вось тут і карысна пры падрыхтоўцы да лекцыі запісаць паміж яе частачкамі таксама і пераходныя масткі, г.зн. ідэі агульнага характару, аб’ядноўваючыя факты. Вельмі добра нават запісаць на кавалку паперы першыя фразы (ці нагадваючыя іх пачаткі) для кожнага новага пытання выкладання, а таксама і першую фразу вашай па-магчымасьці эфектнай высновы, а не то і ўсю заканчваючую фразу цалкам, калі вы яе ўдала прыдумалі загадзя.

Калі падобны канспект, з загалоўкам зместу і ўсімі пераходнымі масткамі, ляжыць перад вамі на катэдры, вы кожны момант маеце магчымасць зазірнуць у яго, і хаця б вы і не змаглі выкарыстаць, як часта бывае, такі дапаможнік ніразу на працягу усей лекцыі, прадмет якой вам добра знаёмы, то гэта ўсё ж дае вам патрэбны душэўны спакой і ўпэўненасць, што з вамі раптоўна не здарыцца таго, што ў лекцыйнай практыцы мае назву слупняк, калі чалавек раптам пачынае шукаць патрэбныя выразы, блытаючыся ў словах, ці замаўкае цалкам, забыўшыся як перайсьці да наступнага пытання. А гэта вельмі важна: толькі пры ўпэўненым і

паступовым выкладанні ў слухачоў складаецца ўражанне, што лектар ведае свой прадмет, і яго варта паслухаць. А пры блытанасьці выкладання, хаця б чалавек і цудоўна ведаў свой прадмет, у слухача застаецца памылковае ўражанне недастатковай падрыхтаванасьці.

І вось, калі пасьля падобнай лекцыйнай практыкі вы прачытаеце евангеллі і біблію, тое адразу ж заўважыце, як на сваёй далоні, такія ж пераходныя масткі паміж іхнымі асобнымі апавяданнямі і прытым часам у самым наіўным, прымітыўным выглядзе простых злучнікаў вымаўлення. Хай, напрыклад, із адной першакрыніцы мы маем паведамленне: «Езус быў укрыжаваны, але ажыў», а із іншай першакрыніцы: «Езус урачыста ўвайшоў у Ерусалім». У такім выглядзе яны яшчэ не складаюць складнага апавядання, але пастаўце паміж імі пераходны масток «а потым», і ў вас атрымаецца: ці «Езус быў укрыжаваны і ажыў, а потым урачыста ўвайшоў у Ерусалім», ці: «Езус урачыста ўвайшоў у Ерусалім, а потым быў укрыжаваны і ажыў». Але чытач бачыць сам, што гэты масток, як дададзены самавольна, яшчэ не адлюстроўвае рэчаісную пасьлядоўнасць абодвух паведамленняў, і сучасны дасьледчык павінен іх храналагізаваць, не грунтуючыся на іх, а грунтуючыся на натуральнай лагічнай пасьлядоўнасьці падзей, із якіх больш праўдападобна першая.

Тое ж самае мы маем і ў евангеллях. Так, самым часта ўжываемым пераходным мастком асобных апавяданнаў у Евангеллі Лукі з'яўляецца наіўная фраза: «*Пасьля гэтага Езус (зрабіў тое*)» ці: «*Выказаўшы гэта, Езус (пайшоў туды)*», а ў Мацвея пераходным мостам служыць проста слова: «тады» (*тады Езус прамовіў...*). Дасьведчаны лектар адразу бачыць, што гэтыя трафарэтныя выказванні («пасьля гэтага», «тады» і г.д.) злучаюць паміж сабой цалкам самастойныя паведамленні, надаючы ім фіктыўную пасьлядоўнасць, бо дзякуючы ім складаецца ўражанне што гэта не зборнік самастойных анекдотаў па-за часам і месцам, як гэта з’яўляецца на справе, а фікцыя суцэльнай біяграфіі «Хрыста».

У старазапаветнай Бібліі пераходныя масткі пабудаваны больш майстэрскі чым у евангеллях.

Так, да кангламератнага ж, як і Евангеллі, зборніка апавяданнаў пра Езуса-Рыбу (Навіна), каб зрабіць яго нібы працягам кніг пра Майсея, размешчаных перад ім, праведзена нават некалькі масткоў, якія я выпішу грунтуючыся на царкоўным перакладзе:

«*Пасьля сьмерці Майсея, раба Грамабоя* (гэта – першы паветраны масток ад Майсея да Езуса*), паведаміў Грамабой Езусу*:

«*Майсей, мой служка, памёр (*другі паветраны пераходны масток*). Падніміся ж і перайдзі за Эрыдан, ты і ўвесь народ, у зямлю, якую я даю дзецям Богазмагальніка. Кожнае месца, на якое ступіць ваша нага, я вам аддаю, як я паведаміў Майсею»* (трэцці паветраны масток да Майсея)[102].

Пасьля перавядзеня ўсьведамлення чытача праз гэтыя тры масткі (цалкам дастатковыя для таго, каб пераканаць, быццам бы наступнае апавяданне з’яўляецца працягам гісторыі Майсея), пачынаецца калейдаскоп самастойных паведамленняў пра Езуса ўжо большай часткай без згадвання пра Майсея, але злучаных паміж сабой ў складны кангламерат іншымі прыдатнымі пераходнымі масткамі, і вось, дзякуючы ім, просты зборнік асобных анекдотаў пачынае выклікаць ураженне гістарычнага апавядання, хаця і перапоўненага далёкімі ад рэчаіснасьці непраўдападобнымі падзеямі.

---

[102] «Езус, 1,1-3».

Кожны ж сучасны вялікі раман з’яўляецца, па-сутнасьці, толькі калейдаскопам разнастайных асобных уражанняў аўтара із яго ўласнага рэчаіснага жыцця, із пачутага ім у дзяцінстве ці із прачытаных ім чужых раманаў, аб’яднаных падобнымі ж масткамі. Розніца паміж старажытным і сучасным пісьменнікам толькі ў тым, што першы, як нязвыклы да беглага чытання з ранняга дзяцінства і не меўшы пазней дастатковай колькасьці кніг, не меў патрэбнай колькасьці ведаў для апрацоўкі і не прызвычаіўшыся да беглага чытання, якое стала магчымым толькі пры друкаванні кнігах, думаў і пісаў непараўнальна больш павольна чым мы. Вось чаму яны і былі вымушаны пры спробах стварыць складанае цікавае апавяданне карыстацца, як цаглінамі пры пабудове будынка, чужымі дробнымі паведамленнямі, перапісваючы іх амаль даслоўна; а сучасныя белетрысты, як больш уніклівыя, чэрпаюць дэталі і са свайго ўнутранага сьвету. Але як тады, так і зараз аўтарскае мастацтва заключаецца ў камплектаванні шэрагу разнастайных элементарных апавяданнаў у некалькі сістэматызаваных згодна з агульным планам серый, падобна таму, як я згадваў пра планаванне лекцый засноўваючыся на змешванні апавядання з досьледамі і малюнкамі.

У сучасным рамане перадусім асобныя дэталі жыццёвых і душэўных з'яваў размяркоўваюцца па асобах, сярод якіх, у таленавітым складаным творы, павінны існаваць і мужчыны і жанчыны, і сталыя і юнакі розных узроўняў развіцця. Гэтыя дэталі павінны час ад часу замяняцца і апісаннямі прыроды, і філасофскімі разважаннямі самаго аўтара. Але ўсё гэта не дасць яшчэ нічога цэлага, пакуль аўтар не здолее пабудаваць паміж імі больш-менш майстэрскіх пераходных масткоў добрай архітэктуры. Без гэтага атрымаюцца толькі арабескі, а не мастацкі суцэльны, хаця, згодна са сваёй сутнасьцю, заўсёды мазаічны твор.

У мастацстве стварэння такіх масткоў паміж разнастайнымі і яскравымі папярэднімі ўражаннямі аўтара, а таксама і ў тым, каб у камбінацыю гэтых уражанняў уключаліся, хаця б збольшага, яшчэ не ўвайшоўшыя раней у літаратуру адчуванні і ідэі, існуючыя ў атачаючым жыцці, і складаецца аўтарскі талент. А асноўны матэрыял для раманаў і нават чароўных казак дае не ўяўленне, як у гэтым нас пераконваюць, а поўны калектыў папярэдніх уражанняў, якія ў таленавітых людзей бываюць выключна яскравымі, параўнальна з сярэднім узроўнем дадзенага пакалення, а таму і малююцца выразна. Цьмяныя і млявыя мазкі не падкажуць чыёй бы то ні было сьвядомасьці нічога, акрамя цьмянага і млявага. Такім чынам, чалавек, не маючы магчымасьці шмат чытаць у дзяцінстве, з нагоды адсутнасьці бібліятэкі ў сваіх бацькоў і немагчымасьці карыстацца ёю недзе ў іншым месцы, і не меўшы часу падумаць пра прачытаннае, ніколі не зробіцца буйным літаратарам, хаця б і валодаў (як Кальцоў ці Мікіцін) самымі лепшымі задаткамі.

Сярод біблейскіх кніг па сваёй самабытнасьці і яскравасьці выключна выдаецца, як я ужо не раз пазначаў, Апакаліпсіс Яна, дзякуючы чаму яго аўтар і зрабіўся пазней на некалькі стагоддзяў галоўнай крыніцай пераймальнай творчасьці, якую мы назіраем у больш пазьніх біблейскіх прарокаў і ў розных аўтараў сярэдніх і новых стагоддзяў, спрабаўшых пісаць у тым жа родзе аж да Ламенэ з яго «Словамі верніка да народа».

У сучасных пісьменнікаў галоўным цэментам складанага рамана служаць псіхалагічныя ці філасофскія разважанні, у якія і дадаюцца асобныя падзеі ў прыдатных месцах. Раней за усіх іншых пісьменнікаў, наколькі мне вядома, такія філасофскія масты пачаў будаваць Тэкерэй у Англіі ў 40-х гадах XIX стагоддзя, і ў

яго раманах яны нават закрываюць фабулу. А ў старажытных і сярэднявечных мы бачым амаль адну авантуру.

З гэтымі папярэднімі заўвагамі мы і прыступім да разбору біблейскай трыяды цароў.

# Глава III.

## Цар Пекла і яго юны віцязь.

(фантастычны прота-раман пра запытанага цара.)

Із нашых супастаўленняў у першай кнізе[103] мы ўжо бачылі, што заснавальнік богаслявячага царства, Савул, храналагічна налягае (гэтак жа, як і аднайменны з ім рымскі Сула) на Аўрэліяна «Аднаўляльніка Зямнога Кола» (Restitutor Orbis). Мы паказалі, што Давыд храналагічна налягае на Канстанцыя Хлора і яго суваладара Дыяклетыяна, празванага Громавержучым (Iovius), памёршага ў глыбокай старасьці ў 313 годзе, і на іхных апакрыфічных двайнікоў, Юлія Цэзара і Пампея Вялікага, і што Саламон храналагічна налягае (збольшага!) на Кастуся I і яго наступнікаў. Аднак жа, у біблейскім апісанні жыццё рэчаісных гістарычных дзеячаў гэтага часу так астралізавана, перамяшана адно з другім і ўпрыгожана міфічнымі падрабязнасьцямі, што без дапамогі астраноміі і матэматыкі мы наўрад ці змаглі б вызначыць гістарычны час і праўдзівыя зерняткі гэтых трох міфаў, шмат у чым набыўшыя форму алегарычнай казкі.

Насамрэч біблейскія паведамленні пра жыццё Савула, Давыда і Саламона – не гістарычныя біяграфіі, а першыя зародкі рамана ў яго прымітыўнай форме, калі выдумка межавала з казкай, таму што непраўдападобнае для нас было яшчэ праўдападобным для наіўных аўтараў гэтых апавяданнаў і для іхных яшчэ больш наіўных чытачоў.

Прагледзім жа з такога боку гледжання спачатку біблейскія апавядальні пра першых трох богаслявяча-богазмагальніцкіх цароў.

Што такое першы цар багазмагалькаў Савул? Яго імя па-біблейску мае два значэнні: «запазычаны на час» і «пекла»[104]. Ніводная маці не дазволіла б назваць сваё дзіця адным із падобных імёнаў, хаця старажытнае пекла і не было яшчэ хрысьціянскім, а толькі падземным царствам нябожчыкаў, і ніводзін рэчаісны цар не дазволіў бы так сябе называць. Такая думка выглядае недарэчнай нават і з этна-псіхалагічнага боку гледжання, і з боку гледжання кожнай індывідуальнай псіхалогіі. Падцверджаннем таго, што гэта было толькі пасьмяротнае найменне, з'яўляецца ўсё наша далейшае выкладанне.

У першай кнізе гэтага дасьледавання мы высветлілі сабе астранамічна, што багазмагальніцкае царства храналагічна налягае на Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкую імперыю, заснаваную Аўрэліянам, а ў другой кнізе пераканаліся, на падставе геафізічных меркаванняў, што цэнтральнай вобласьцю дзейнасьці багазмагальнікаў і богаслаўцаў (па-жыдоўску ізраільцянаў і юдэяў) былі паўднёвая Італія і Сіцылія з іхнымі вогнедыхаючымі гарамі, а ніяк не Сірыя. Пасьля гэтага зрабілася цалкам відавочна, што Савул, Сула і Аўрэліян – адна і тая ж гістарычная асоба ў трох розных аперцэпцыях.

---

[103] «Хрыстос». Кніга першая, частка III, гл. II і III.

[104] שאול (ШАУЛ) – пекла, апраметная; і таксама: дадзены ў пазыку, запазычаны на час.

З гэтага боку гледжання імя «Пекла» (ці пякельны) магло быць толькі пасьмяротным найменнем Аўрэліяна. Імя «Пыл» (Давыд)[105] магло быць толькі найменнем Дыяклетыяна ці Канстанцыя Хлора, а імя «Міратворац» (Саламон)[106] – найменнем аднаго із самых блізкіх наступнікаў Канстанцыя Хлора, і нам застаецца толькі высветліць нагоды ўзнікнення такіх найменняў і якія ж першакрыніцы гэтых апавяданнаў.

Але яны зразумелы із самаго міфа.

Рэчаісныя першакрыніцы гэтых легендаў – Аўрэліян, Дыяклетыян і «Вялікі Цар» (Васіль Вялікі) – былі прыведзены ў астралагічную сувязь з трыма вонкавымі планетамі: цар Пекла (Савул) з Сатурнам, богам падземнага царства, цар Пыл (Давыд) з вогненна-чырвоным Марсам, а цар Міратворац (Саламон) са справядлівым і магутным, вечна сьветлым Юпітарам.

А слова «багазмагальнікі» (па-жыдоўску ізраэліты), над якімі яны валадарылі, ужываецца тут цалкам не ў сэнсе супернікаў «стваральніка нябёс», маючых жаданне параўнацца з ім у магутнасьці, як старажытныя тытаны. Праўда, што згодна з біблейскімі паданнямі гэтае імя кульгавы родапачынальнік багазмагальнікаў Боганазіральнік (Якаў) атрымаў ад самаго бога, менавіта таму, што бог з ім дужаўся ноччу да світання, але не змог адолець, а толькі наступіў яму на нагу і зрабіў яго гэтым кульгавым (на лаціне Клаўдыем) на ўсё жыццё. Але такое тлумачэнне, вядома, з'яўляецца толькі пазнейшым тлумачэннем ўжо замацаваўшагася за боганазіральнікамі наймення. А гэтае найменне магло быць ім дадзена толькі за тое, што яны змагаліся, – як мы бачылі ў другой кнізе «Хрыста», – з усімі паганскімі багамі ў імя ідэі адзінабожжа, якая была нададзена ім жахлівымі вывяржэннямі Везувія і суправаджаўшымі іх яшчэ больш жахлівымі землятрусамі ў наваколлі Неапалітанскага заліва, зрынуўшыя ўсе статуі багаў. Астральнымі ж знакамі багазмагальнікаў былі нябесныя зоркі, душы памёршых пакаленняў.

Такім чынам, легенда пра ўзнікненне багазмагальнікаў ці ізраэлітаў прыводзіць нас тут зноў ад сейсмалогіі да астралогіі. Яна ж тлумачыць нам і паходжанне легенды пра тытанаў, якія зрынулі (згодна з «Метамарфозамі» Авідыя) царства Сатурна (Савула-Аўрэліяна) у Тартар (аднагучны з Татарыяй) і замест «залатога стагоддзя» бог Грамабой (Іёве-Патэр – Юпітар), запанаваўшы, усталяваў «срэбны век»[107].

Спачатку тытанаў-багазмагальнікаў, – паведамляе нам легенда, – узначальвалі свае прасвітары, г.азн. старэйшыны і кіраўнікамі (у сучасных біблейскіх перакладах суддзі)[108], а ў астральным сэнсе – нябесныя сьвяцілы.

Такім, напрыклад, быў знакаміты Самсон, імя якога ў перакладзе азначае Сонца-Волат, і ўсе паданні пра яго, як мы бачылі вышэй[109], носяць чыста астральны характар. Потым багазмагальнікі, – згодна са сведчаннем легенды, – пажадалі мець свайго каранаванага кіраўніка, у пабытавым сэнсе – цара, а ў духоўным – патрыярха. З гэтага моманту і пачынаецца біблейскі гістарычны раман з часоў

---

[105] Ад дзеяслова דוד (ДУД) – адчуваць запал кахання, хваляванне; у прыватнасьці: закахацца, кіпець. Звычайна перакладаюць: умілаваны. Таксама – дзядзька.

[106] שלמה (ШЛМЕ) – перакладаюць як адданне, але паходзіць ад слова שלמ (ШЛМ) – спакой, замірэнне.

[107] Гл. раней, ч. I, гл. III.

[108] Па-біблейску שפת (ШФТ) – шэф, заступнік, кіраўнік, суддзя; гэтую ж назву мы знаходзім у іерогліфах і для ягіпецкіх цароў.

[109] «Хрыстос», першая кніга, частка II, Глава IX.

валадарання Аўрэліяна, дзе зямное перамешана з нябесным, і таму для разумення яго зместу нам патрэбна ведаць і зямныя, і нябесныя дэталі таго часу.

Разгледзім спачатку зямныя. Згодна з грэцкімі сярэднявечнымі аўтарамі, якія захаваліся толькі ў рукапісах эпохі Адраджэння, Люцый Даміцый Аўрэліян (270-275 гг.) меў, як я ўжо згадваў, найменне: «Аднаўляльнік сусветнай імперыі (Restitutor Orbis)». А згодна з нашымі высновамі ён быў сапраўдным яе заснавальнікам, пры гэтым яго папярэдніка, Клаўдыя Марка Аўрэлія, з усімі астатнімі папярэднімі, даводзіцца лічыць толькі мясцовымі італійскімі князькамі ці проста апакрыфічнымі асобамі. Толькі Аўрэліян, выгнаўшы із Італіі германцаў і багемцаў, ператварыў Рым із існаваўшага тут вартаўнічага мястэчка ва ўмацаванне, а таму і мог атрымаць найменне Ромул ці Рэм. Ён, – кажуць нам, – перамог готаў на Дунаі і далучыў да свайго царства краіну Пальмаў (Пальміру), г.азн. Ягіпет з Сірыяй, дзе валадарыла тады Богажывучая (Зіновія), адпавядаючая Клеапатры, якую ён з трыумфам прывёз у Рым, а пазней падчас паходу на персаў (ці на парыжанаў, якіх тлумачальнікі Бібліі змешваюць з персамі)[110] быў забіты сваімі набліжанымі.

Такімі з'яўляюцца асноўныя рысы гэтага «Аднаўляльніка Сусветнай Рымскай імперыі» грунтуючыся на найбольш праўдападобных паданнях.

Але гэтага ж Люцыя Даміцыя Аўрэліяна мы знаходзім і ў іншай, ужо апакрыфічнай гістарычнай аперцэпцыі (і прытым больш рамантычнай) у выглядзе Люцыя Карнелія Сулы (г.азн. Савула) з тытулам: Шчасьлівы (-82, -78 гг.). Толькі замест германцаў і багемцаў ён праганяе там із Італіі прыхільнікаў Марыя і наладжвае збіццё і праскрыпцыі сваіх супернікаў. Замест перамогі над готамі на Дунаі, ён перамагае чарнаморскага (пантыйскага) цара Мітрыдата і забірае ў яго Малую Азію. Ён таксама ўмацоўвае Рым і атрымлівае за гэта найменне Restitutor Urbis («Аднаўляльнік сталіцы»), адпаведна мянушцы Люцыя Аўрэліяна Restitutor Orbis, але памірае не ад рукі набліжаных, а «ад распусты».

Якая аперцэпцыя больш дакладная? Сушэйшая ці больш рамантычная? Паспрабуем высветліць гэта грунтуючыся на біблейскім рамане із жыцця таго ж Аўрэліяна-Сулы, узяўшы із яго толькі канву, без відавочнай белетрыстыкі, якую выкладзем далей.

Там яго клічуць таксама Сулой – Савулам. Замест выгнання багемцаў (ці «прыхільнікаў Марыя») із Рыма, Савул выганяе «аманіцянаў (г.азн., відаць, ягіпцянаў) із Юпітарава горада (горада Ёвіса), а царом выгнаных пазначаны замест Марыя – Змей (НХШ)[111]. Замест перамогі над готамі (ці прыхільнікамі чарнаморскага цара Мітрыдата) ён перамагае качэўнікаў-перасяленцаў (па-жыдоўску філістымлянаў). Замест захопу Сірыі з Ягіптам ён заваёўвае аманіцянаў, г.азн. прыхільнікаў Амона – вярхоўнага бога Ягіпта, і замест прывозу на трыумф царыцы Богажывучай прывозіць туды цара аманіцянаў Агога[112]. Як і Сула, так і Савул неўзабаве зрабіўся вельмі падазроным і наладзіў праследванні сваіх былых супернікаў і іхныя «праскрыпцыі».

Люцый Аўрэліян, – кажуць нам, – быў забіты набліжанымі падчас паходу на персаў (ці парыжанаў); яго двайнік, Люцый Сула, – кажуць нам, – памёр ад распусты; а іхны трайнік, Савул, – кажуць нам, – памёр, як і Аўрэліян, у паходзе на «качэўнікаў» ад рукі аднаго із яго ваяроў.

---

[110] פרזי (ПРЗІ) – парыжанін, француз і – פרסי (ПРСІ) – персіянін

[111] נשח (НХШ) – Змей.

[112] אגג (АГГ) – згодна з Cruden'ам – дах, але я схільны лічыць гэтае слова за асобнае вымаўленне імя Гог (גוג).

Такімі з’яўляюцца тры «гістарычныя» аперцэпцыі жыцця і дзейнасьці заснавальніка Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай тэакратычнай імперыі III і IV стагоддзяў нашай эры. Паглядзім зараз, якімі былі нябесныя з'явы гэтага часу.

Люцый Аўрэліян, – паведамляюць нам найбольш праўдзівыя першакрыніцы сярэдніх стагоддзяў, хаця іхныя паведамленні і заснаваны на невядомых дакументах, – быў абвешчаны імператарам у 270 г. нашай эры і памёр у 275 г. За гэты час Сатурн, валадар Пекла, яго біблейскі патрон, прайшоў ад пярэдняй часткі Ільва (270 г.) у Шалі і памёр там у верасні, утапіўшыся ў полымі вечаровай зарніцы пры падыходзе да самай клюшні Скарпіёна (275 г.), як бы гатовай яго схапіць і пацягнуць у пекла. А перад гэтым – 29 сакавіка 275 г. – адбылося ў падоле сузор'я Панны звыш поўнае месяцовае зацьменне (15"4) у 0 гадзін 50 хвілін пасьля Грынвіцкай поўначы[113], тым часам як Марс (знак цара Пылу, Давыда-Дыяклетыяна) каранаваўся ў прамянях сонца пры ўваходзе ў Авена. Юпітар жа, знак цара Міратворцы (Саламона), пры абвяшчэнні Аўрэліяна імператарам у 270 годзе быў высока, у Двайнятах, і, абагнаўшы Сатурн у 273 годзе ў Панне, быў да часу яго сьмерці ў 275 годзе наперадзе яго ў Скарпіёне. Акрамя таго, мы павінны адзначыць, што ў год сьмерці Аўрэліяна, у студзені 275 г., кітайскія летапісы пазначаюць меч-камету ў Крумкачы, якраз на тым месцы, дзе знаходзіўся Сатурн.

Выяўляецца, што ўсе гэтыя нябесныя дэталі і зляпіліся ў легенду пра цара Пекла, як факты із яго жыцця, замест рэчаісных падрабязнасьцей, і надалі ўсяму апавяданню белетрыстычны, казачны выгляд.

Калі мы будзем чытаць яго са звычайнага боку гледжання, то ніяк не зразумеем нагоды ўзнікнення гэтай казкі і тым больш уключэнне яе ў сур'ёзную кнігу, а з астралагічнага боку гледжання патлумачым сабе ўсё.

– Але як жа астральныя дэталі патрапілі ў біяграфію рэчаіснай асобы? – запытаеце вы мяне.

Мне здаецца, вельмі проста.

Пры Аўрэліяне ўжо існаваў прыдворны летапісец, які заносіў у сваю хроніку ўсё, што здавалася яму выдатным на працягу яго жыцця ў такім выглядзе:

«*У першым годзе* (ад абвяшчэння Аўрэліяна) *Пекла* (г.азн. планета Сатурн, якая яшчэ не мела агульнапрызнанага наймення, як зараз) *прыйшоў у пастку Ільва, але выйшаў цэлым. Цар перамог германцаў. Прарок* (г.азн. жрэц-астролаг) *абвясьціў яму гора. Сьцяг Бога* (месяц) *абрэзаў падол...»* (адбылося няпоўнае (абрэзанае) зацьменне месяца ў падоле сузор'я Панны) і г.д.

Атрымаўшы пазней, ужо пасьля сьмерці Аўрэліяна, гэтую мешаніну, мала адукаваны і цяжкадумны апрацоўшчык, не быўшы ў стане разабрацца, прыняў усё ў самым вульгарным побытавым сэнсе, наладзіў ад аднаго паведамлення да другога пераходныя масткі, з дапамогай звычайных злучаючых выказванняў, а калі дзе і

[113] Наогул за час яго валадарання адбыліся месяцовыя зацьменні ў гады:

270-VI -20; 22 г. 3 хвіл. (7"2); усё бачна ў Стральцы.

271-XII -4; 2 г. 51 хв. (14"4); усё бачна ў Двайнятах.

272-V -30; 3 г. 5 хв. (20"4); пачатак раніцай у Скарпіёне.

273-X -13; 17 г. 17 хв. (0"2); бачна ўсё, але вельмі малое, у Авене.

274-IV -8; 18 г. 9 хв. (12"2); усё бачна ў падоле Панны.

275-III -29; 0 г. 50 хв. (15"5); усё бачна ў падоле Панны.

275-IX -22; 15 г. 19 хв. (13"9); заканчэнне вечарам у Рыбах.

А сонечныя былі:

270-VII -5; бачна толькі заканчэнне раніцай (9"0) у Італіі, і

272-XI -8; амаль поўнае (11"0) бачнае на абшарах усяго басейна Міжземнага мора.

зразумеў, што пад Пеклам патрэбна мець на ўвазе Сатурн, то палічыў, што ўсё тое, што рабіла гэтая планета, было «правобразам» таго, што рабіў яе зямны прадстаўнік, а таму і не аддзяліў іх.

Але, акрамя фактаў, мы тут назіраем ужо і іх філасофскую апрацоўку.

Тэндэнцыя легенды, гэта – імкненне патлумачыць узнікненне Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай манархіі на ўзбярэжжах Міжземнага мора не ўплывам несьвядомай дзейнасьці сацыяльных эвалюцыйных працэсаў таго часу, як думаем мы зараз, а сьвядомым рашэннем самага народа, цалкам як у «Contract Sociale» Русо, а дэталі ўзяты большай часткай із астралогіі, з мэтай паказаць людзям, што з іхнай манархічнай задумы атрымалася нешта не асабліва добрае.

Вось гэта казка-раман, з маімі нататкамі.

*«Сьвятар, на імя «Боскі»,* – паведамляе першая кніга біблейскага зборніка «Сьцяг Бога»[114]*, – прадказаў Красе*[115] *(*сузор'ю Панны*), бясплоднай жонцы Боскага Кія*[116] *з Аф-Рымскай гары (*сузор'е Валапаса*), сына (*І Сам., 1, 51*). Гэтае прадказанне і споўнілася пад канец года. Краса нарадзіла сына* (г.азн. сузор’е Панна спачатку ўзышло ў Рыме, вечарам 17 сакавіка 257 года, цалкам некранутым, без месяца, які ў той час павінен быў знаходзіцца ў ёй, а потым адбыліся і роды: месяц спачатку з'явіўся ў ёй у выглядзе серпіка, як нованароджаны, дасягнуў перад поўначчу поўнай велічыні, а на наступную ноч ужо выйшаў із яе жывата)[117]. *«Маці дала свайму сыну імя: Сьцяг Бога, выгадавала яго і, заколаўшы ў ахвяру Цяля* (сузор’е Цяляці ў гэты час згарае ў прамянях вечаровай зарніцы*), прысьвяціла сына Грамабою каля яго Ахвярніка* (да якога месяц прыйшоў праз 5 дзён) *у Сіломе*[118], (прамовіўшы пры гэтым прароцкую песьню-рэчытатыў, цалкам у тым жа родзе, як у евангеллі Лукі прасьпявалі (дуэтам) Сымон і Ганна-прарочыца (3,36) пры зачацці Езуса.)

Вось яна літаральна:

*Развесяліў маё сэрца Грамабой, ён адчыніў мае вусны супраць маіх варагаў,*
*Захоплена я яго Ратавальнікам, не існуе сьвятога, падобнага яму!*
*Ён з’яўляецца богам усёведаючым: забівае і ажыўляе,*
*Зводзіць у апраметную і выводзіць із яе. ён падымае беднага з пылу*
*І дае яму ў спадчыну пасад славы. Яму належаць падмуркі землі,*
*І на іх ён заснаваў сусьвет! Ён зрыне паўстаўшых на яго,*
*Загрыміць на іх з нябёсаў і будзе судзіць усе канцы зямлі.*
*Ён дасць магутнасць свайму цару і ўзвысіць род свайго Хрыста»*[119].

---

114 שמו־אל (ШМУ-**АЛ**) = שמ־אל (ШМ-**АЛ**) = שמה־אל (ШМЕ-**АЛ**) – знак бога, сьцяг бога.

115 חנה (ХНЕ) ад Х**Н** – краса, харaство, таксама – **н**ахіленая

116 אל־קנה (АЛ-КНЕ) – боскі кій, боская рэўнасць. Тут, верагодна, Валапас, над Паннай.

117 Месяцовае зацьменне 17 сакавіка 257 г. у самым жываце Панны было звыш поўным (13"9). Месяц узышоў у Італіі, Грэцыі і Ягіпце цалкам нябачным у 17 гадзін 16 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, г.азн. адразу пасьля заходу сонца, і гэта магло падаць першую ідэю пра народзіны Паннай сына. Потым такое ж зацьменне было 10 сакавіка 350 г. (14"5) у 17 гадзін 20 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, але ужо ў грудзях Панны. А потым не было такіх зацьменняў да VII стагоддзя нашай эры. Раней жа былі: 4 сакавіка 90 г. (21"1) у 17 гадзін 18 хвілін ад Грынвіцкай поўначы ў грудзях Панны і 24 сакавіка 61 года (19"2) у 17 ч, 40 хв. ад Грынвіцкай поўначы ужо ў нагах Панны.

118 שי־לה (ШІ-ЛЕ) – даніна яму.

119 Тут непасрэдна стаіць אשי־מו משי־חו (МШІХУ) – памазанік, Хрыстос, і перакладзена словам «Хрыстос» у самых старажытных перакладах. Sublimabit cornu Christi sui («Вульгата»); ῞υψώσει χέρας Χρισοῦ ἀυτοῦ («Септуагінта»}.

Уся яе песьня з’яўляецца, вядома, пазнейшай ўстаўкай ужо хрысьціянскага аўтара, і таму мы не будзем спыняцца на ёй, а будзем далей сачыць за першапачатковай легендай.

*Сын гэтай Красы і Боскага Кія* (Валапаса)*, названы «Сьцяг Бога»* (Месяц), *стаў потым служкам Грамабоя пры боскім сьвятары* (Змеятрымальніку) *у Сіломе,* – паведамляе нам біблейская кніга (I Сам., 2, 10). *– Ён вырас там і быў потым «суддзёй багазмагальнікаў на працягу ўсіх дзён свайго жыцця».*

*«– Прызнач над намі цара, – звярнуліся да яго* (Месяца) *багазмагальнікі, калі ён ужо састарэў* (г.азн. рыхтаваўся пайсьці за сонца)*, але ён вымавіў супраць іх за гэта рэчытатывам такую прароцкую прамову:*

*Навошта вам цар? Ён возьме вашых сыноў*
*І прызначыць іх да сваіх коней і калясьніц, каб бегалі наперадзе іх.*
*Адных ён прызначыць палкоўнікамі і ротнымі,*
*А іншых выправіць араць свае палеткі,*
*Жаць яму жніво і гатаваць ваярскія снарады і зброю для яго вершнікаў.*
*Ён возьме вашых дачок у свае міра-варніцы, хлебніцы і кухаркі.*
*Ён забярэ ў вас самыя лепшыя із вашых палёў, вінаграднікаў і маслічных гаёў*
*І раздасць сваім служкам і царадворцам.*
*Ён будзе браць дзясятую частку ад усяго вашага астатняга.*
*Вы будзеце яму рабамі і заплачаце дзякуючы вашаму цару,*
*Але не пачуе вас тады Грамабой.*

*«І ўсё ж народ не пажадаў паслухаць «Боскага сьцяга»,* – працягвае легенда.

*«– Хай будзе над намі цар! – упарта паўталі яму ўсе».*

*Богу-Бацьку (г.азн. Сонцу) надакучыў, нарэшце, гэты лямант.*

*«– Паслухай іхны галас, – сказаў ён «Сцягу Бога»* (Месяцу). *– Яны адхілілі мяне ад валадарання над імі»* (I Сам., 8).

І вось абранне «першага цара» адбылося такім арыгінальным спосабам.

*«У аднаго жыхара,* – працягвае апавядальнік, – *якога клікалі «Бязлітасны* (сузор'е Ільва), *із калена «Сына Сьмерці», згубіліся аслíхі* (у сузор'і Рака). *Яго сын Пекла* (Сатурн) *пайшоў іх шукаць з адным са сваіх служак, і калі яны прыйшлі ў краіну Мядовых Сот* (сузор'е Веранікі)[120], *служка яму сказаў:*

*«– Тут жыве боскі раб, на імя Сьцяг Бога* (г.азн. Месяц), *і ўсё, што ён выказвае, неадменна спраўджваецца. Пайшлі зараз туды, можа, ён пакажа, куды нам ісьці.*

*«Прыйшоўшы на вышыню, яны сустрэлі Паннаў* (зорачкі сузор'я Панны), *якія ішлі чэрпаць ваду* (заходзілі ў мора), *і запыталі іх:*

*«– Ці не тут празарлівец?*

*«– Вось ён перад вамі, – адказалі яны, – толькі паспяшайцеся, таму што сёння ў народа ахвяраванне на вышыні.*

*«А тым часам яшчэ за дзень да прыходу Пекла, бог Грамабой даў наданне пра яго «Сьцягу Бога»* (Саму-Элю, Месяцу, сімвалізуючаму тут Арыя).

*«І вось у браме ўмацавання* (пры пераходзе із Ільва ў Панну) *Пекла* (Сатурн) *сустрэў гэтага самага прарока і загадаў яму:*

*«– Пакажы мне, дзе тут празарлівец?*

*«– Я гэты празарлівец, – адказаў яму Сьцяг Бога, – ідзі са мной на вышыню* (I Сам., 9, 17).

---

120 צוּף (ЦУФ) – сотавае вочка.

*«Яны прабылі разам увесь гэты дзень і ўсю ноч, і калі наступіў сьвітанак і яны выходзілі із горада* (узыходзілі), *Сьцяг Бога ўзяў пасудзіну з маслам* (сузор'е Чарка над Ільвом), *выліў яго на галаву Пекла, пацалаваў* (Месяц дакрануся да Сатурна) *і вымавіў:*

*«– Вось гэтым памазаў цябе Грамабой у цары над сваёй спадчынай. Ідзі дахаты. Знайшліся твае аслíхі, і твой бацька непакоіцца за цябе... Ты прыйдзеш на Боскі Ўзгорак, дзе стаіць варта, і калі будзеш заходзіць у горад, пабачыш* (у сімвале зорак) *натоўп сыходзячых із вышыні, нясучы гуслі, тымпаны, жалейку і цытру і прадказваючых. Цябе таксама захопіць натхненне Бога Грамабоя, і ты будзеш прадказваць разам з імі»* (гл. вульгарную аперцэпцыю гэтага на мал. 51).

*Усё так і спраўдзілася, і ведаўшыя Пекла гаварылі са здзіўленнем:*

*«– Няўжо і Пекла ператварыўся ў прарока?*[121] *– і гэта зрабілася пагаворкай» (11, 11).*

*На патрабаванне народа даць яму цара Сьцяг Бога* (Самуіл) *кінуў жэрабя, і жэрабя выпала на Пекла, але яго не было бачна.*

*«– Ці прыйдзе ён сюды? – запыталі багазмагальнікі.*

*«– Вунь ён схаваўся ў абозе!*[122] *– адказаў ім бог Грамабой* (Сатурн схаваўся ў аблоках).

*«Усё пабеглі за ім, выцягнулі із абозу, і ён апынуўся вышэй усяго народа ад самых плячэй* (праходзіў праз мерыдыян).

*– «Бачыце, якога цара выбраў вам Грамабой? – сказаў «Сьцяг Бога». – Ва ўсім народзе няма яму падобнага.*

*«– Жыве наш цар! – закрычаў народ, але той моўчкі пайшоў у сваю сядзібу на Ўзгорку»*[123] (I Сам., 10,27).

---

[121] Такой з'яўляецца галоўная нагода, чаму я перакладаю слова Савул (як гэта, зрэшты, робіць і Cruden у сваёй «Concordance to the Bible») словам пекла, а не «запазычаны». Толькі пры такім перакладанні прыказка і набывае сэнс.

[122] כלים (КЛІМ), множны лік ад כל (КЛ), але значэнне не зразумела, я пакінуў царкоўны пераклад.

[123] גבעתה (ГБЭТЕ) – узгорак.



Мал. 51

*Прарок «Сьцяг Бога» (Самуіл) памазвае юнака Пекла (Савула) на царства. Біблейская легенда ў аперцэпцыі сучаснага еўрапейскага мастака, пры чым жбанок з маслам ужо знік. Із кнігі La Sainte Bible, з малюнкамі Густава Дарэ.*

Чытач сам разумее, што ўся гэтая недарэчнасць набывае сэнс толькі пры маім астральным тлумачэнні. Тое ж самае можна сказаць і пра наступнае дзіўнае паведамленне.

*«І вось прыйшоў Змей* (НХШ), *паганец* (камета 268 года ў сузор'і Гідры), *і размясьціўся насупраць Юпітара* (ІВУШ – Jovis, які быў над Гідрай у Панне).

*«– Будзь нам хаўруснікам, – прапанавалі яму багазмагальнікі, – і мы будзем табе служыць.*

*«– Вось мая ўмова, – адказаў ён. – Я выкалю ў вас правае вока* (Справа ў тым, што 5 ліпеня 270 года ў Ільве ўслед за абвяшчэннем Аўрэліяна імператарам, сонца ў Італіі ўзышло з зацемненым (9"0) правым вокам, калі лічыць яго за – павёрнутае да вас твар).

*«Увесь народ падняў лямант* (як і бывае ва ўсіх напалову дзікуноў падчас зацьмення).

*«– Што здарылася? – запытала Пекла, ішоўшае з поля ззаду валоў* (аблокаў каля Валапаса).

*«І вось, калі яму паведамілі пра прапанову Змея, у ім загарэўся моцны гнеў. Ён рассёк* (метэарытамі) *двойчы Цяля, разаслаў кавалкі па ўсіх народах Богазмагальніка і сказаў:*

*«– Так будзе зроблена з цяльцамі кожнага, хто не пойдзе за мной і за «Сьцягам Бога».*

*«Народ папалохаўся. Усе пайшлі за ім, 300 000 багазмагальнікаў і 30 000 богаславячых, і ўразілі паганцаў* (метэарытамі) *падчас ранішняй варты, так што і дваіх не засталося на месцы.*

*«Увесь народ накіраваўся тады ў Кола Сферы* (экліптыку), *уцараваў канчаткова Пекла, закалоў мірныя ахвяры, і вельмі весяліліся тады Пекла і ўсе багазмагальнікі (11,15). А Сьцяг Бога сказаў:*

*«– Вось цар, якога вы шукалі і прасілі! Паглядзіце на вялікую справу, якую здзейсніць зараз перад вамі Грамабой. Ці не жніво зараз пшаніцы? Але я паклічу Грамабоя, і ён нашле навальніцу і лівень, каб вы ведалі і бачылі, якое вялізнае зло вы зрабілі перад яго вачамі, просячы сабе цара.*

*«І вось грымнулі навальніца і лівень* (хутчэй за ўсё вывяржэнне Этны, бо простая навальніца не была б адзначана).

*«– Памаліся хутчэй за тваіх рабоў! – закрычаў спалоханы народ Сьцягу Бога. – Памаліся, каб нам не памерці! Мы бачым зараз, што да ўсіх нашых грахоў мы дадалі яшчэ новы!*

*– «Не бойцеся, – адказаў Сьцяг Бога. – Вы ўжо здзейснілі сваё зло. Толькі не адыходзьце ад Грамабоя і не ўхіляйцеся ад яго, ходзячы за абразамі, якія не дапамогуць вам. Ён не пакіне свой народ дзеля свайго вялікага імя» (12,22).*

Так пачалося валадаранне Пекла (Савула па-жыдоўску, ён жа Сула і Аўрэліян), якое ўсё зводзіцца да яго змагання з качэўнікамі[124], астральна сімвалізіруемымі аблокамі, засланяючымі зоркі, а тэрытарыяльна, як мы бачылі, з германцамі, македонцамі і ягіпцянамі і з Народам Захопа[125] (сімвалізуемым навальнічнымі хмарамі).

З качэўнікамі-перасяленцамі ён ваяваў паспяхова, але з Народам Захопу справа пайшла не вельмі паспяхова. Грамабой загадаў яму цалкам вынішчыць гэты народ, а цар Пекла замест таго кінуўся пасьля перамогі над імі на здабычу, каб прынесьці яе ў ахвяру.

*«– Паслухмянства лепш ахвяры, – сказаў яму пасьля гэтага прарок Сьцяг Бога* (у сімвале месяца), *– і пакорлівасць лепш за сала Авечак. Ты пагрэбаваў словам Грамабоя, і ён больш не ганаруе цябе быць царом» (15,23).*

*«Цар Пекла ўхапіўся за край яго апанчы і абарваў яго* (адбылося месяцовае зацьменне 29 сакавіка 275 года ў падоле Панны каля Сатурна).

*«– Так забірае ад цябе Грамабой царства багазмагальнікаў, – паведаміў яму прарок, – і аддае яго іншаму, лепшаму за цябе».*

Што азначае гэтая цалкам не пабытавая выява?

Калі цар Пекла атаясамлены з Сатурнам, а прарок Сьцяг Бога – з Месяцам, адным із суддзяў абранага народа бога, то паведамленне, што Сатурн адарваў край яго апанчы, прыносячы ў ахвяру ўсеспалення Авечак, можа быць патлумачана

---

124 פלשתים (ФЛШТІМ) – качэўнікі; у царкоўных перакладах філістымляне.

125 עמ־לק (ЭШ-ЛК) – народ, бяручы даніну.

толькі месяцовым зацьменнем у той час, калі Авен апускаўся ў полымя вечаровага зарыва, г.азн. калі сонца было ў Рыбах, а месяц праходзіў каля Сатурна, які знаходзіўся ў Панне. Такое зацьменне за ўвесь гістарычны перыяд часу было толькі адно: 29 сакавіка 275 года нашай эры, г.азн. якраз падчас забойства ці самагубства Аўрэліяна-Савула. З дагістарычных часоў яно было адзіным нябесным здарэннем, даючым нагоду напісаць такую легенду. Гэтае зацьменне было звыш поўным (15"4), з сярэдзінай у 0 гадзін 50 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, г.азн. было усё цудоўна бачным у другой палове ночы ў падоле (апанчы) Панны на абшарах ўсёй Яўропы, Афрыкі і Заходняй Азіі.

*«Потым,* – паведамляе нам аўтар, – *Сьцяг Бога ўзяў рог з маслам і згодна са словам Грамабоя памазаў ім рудага прыгожавокага юнака Пыла* (Давыда-Марса, побач з якім прайшоў рагавісты Месяц, у промнях сьвітання, пасьля таго як Пекла абарвала яму падол), – *і пачаў з той пары дух Грамабоя спрыяць юнаку Пылу, а ад цара Пекла адступіўся, і яго пачаў катаваць злы дух* (Сатурн пачаў набліжацца да клюшні Скарпіёна).

*«– Знайдзіце мне чалавека, які добра выконвае музыку на ліры! –* загадаў цар Пекла, нагадваючы гэтым легенду пра Арфея ў Пекле.

*«Да яго прывялі юнака Пыла, і, вось, калі нападаў на цара злы дух, Пыл браў ліру і граў на ёй. Цар Пекла пачынаў тады дыхаць вальней, і злы дух адыходзіў ад яго»* (16,23).

*«Качэўнікі* (у сімвале хмар) *зноў выйшлі на вайну супраць багазмагальнікаў,* – пачынаецца новая легенда (гл. 17). – *Яны стаялі на схіле адной гары, а багазмагальнікі – на схіле іншай. На сярэдзіну паміж абодвума выйшаў адзінаборац на імя Галіяф* (што азначае Высяленец)[126] *із Вінаградных Ціскоў* (г.азн. студзеньская ранішняя камета 275 года, якую пазначаюць кітайскія летапісы ў сузор'і Крумкача пад Паннай, пры сонцы ў Стральцу. Яна была якраз каля зоркі Вінаградарніцы ў Панне і прайшла таксама праз Скарпіёна і Шалі ў год сьмерці Аўрэліяна). *Рост яго быў шэсць локцяў з далонню, на галаве яго быў медзяны шлем, на целе лускаватая браня, а вага гэтай брані была пяць сікляў медзі. На яго нагах былі медзяныя шчыткі, на плячах медзяная кідальная дзіда, а перад ім ішоў шчытаносец.*

*«– Для чаго выйшлі вы на бітву? – сказаў ён багаборцам. – Ці не я качэўнік, і ці не вы рабы Пекла? Выберыце ў сябе чалавека, і хай ён выйдзе змагацца са мной. Калі ён пераможа мяне, то мы будзем вашымі рабамі, а калі я яго адолею, то вы будзеце нам служыць.*

*«А перад гэтым юнак Пыл падняўся рана раніцай* (Марс у студзені 275 года выходзіў із праменяў світанння на ўсходзе ў сузор'і Стральца, пад Лірай пры Сатурне ў Шалях і Юпітары ў Скарпіёне) *і прыйшоў да агароджы лагера, калі войска* (планеты) *станавіліся ў шыхту, і трубілі трывогу* (месяц быў паблізу Сатурна ў выглядзе рога).

*«– Хай ніхто не падае духам перад ім, – прамовіў юнак Пеклу* (Сатурну), *– я пайду змагацца з гэтым прыхаднем.*

*«– Ты яшчэ малады, – адказаў яму Пекла, – а ён ваяр з дзяцінства.*

*«– Я пасьвіў авечак свайго бацькі, – адказаў яму юнак, – і калі прыходзіў Леў ці Мядзведзь і скрадаў са статка авечку, я пускаўся ўслед за ім і выдзіраў яе з яго*

---

126 גלות (ГЛУТ) – высяленне.

*пасткі, а калі ён нападаў на мяне, я браў яго за сківіцу і забіваў* (Марс кожныя два гады праходзіць праз пашчу сузор'я Ільва).

*«– Тады, ідзі, – сказаў яму Пекла, – і хай Грамабой будзе з табой.*

*«Ён апрануў яго ў сваё ваярскае адзенне, усклаў на яго галаву свой шлем, надзеў на яго браню і аперазаў мячом, але юнак Пыл не змог хадзіць у гэтым убранні, бо не звыкся яшчэ з ім. Ён зняў з сябе ўсё ўзбраенне, узяў толькі пяць гладкіх камянёў са струменя* (Млечнага шляху, у якім тут бачны у выглядзе чорных валуноў, так званыя «вугальныя мяшкі»), *паклаў іх у сваю пастуховую торбу і пайшоў з прашчой на Прыхадня.*

*«Прыхадзень пачаў набліжацца да юнака, і Ўздымацель*[127] (Скарпіён?) *ішоў наперадзе яго. Зірнуўшы пагардліва на юнака, прыхадзень прамовіў:*

*«– Хіба я сабака, што ты ідзеш на мяне з палкай?*

*«Ён прakляў яго імем сваіх богаў. А Пыл апусьціў руку ў сваю торбу, узяў адтуль камень і ўразіў яго* (у сімвале яскравага метэарыта, праляцеўшага ад Марса са Стральца праз Скарпіёна і Шалі ў Гідру) *непасрэдна ў лоб, і ён зваліўся тварам на Зямлю* (камета зайшла пад гарызонт).

*«Падбегшы да Прыхадня, Пыл стаў над ім і, выцягнуўшы яго меч, адсек ім яго галаву, а астатнія, пабачыўшы, што забіты іхны волат, кінуліся ўцякаць. Ваяры багазмагальнікаў  і багаславячых пабеглі* (у сімвале палымяных стрэл – дождж метэарытаў) *з крыкамі ўслед за ім па дарозе ў Браму* (Млечнага Шляху)*[128] да Тачыла[129] і да Скарпіёна»*[130].

Перш чым ісьці далей, трошкі засяродзім увагу на папярэднім, каб не даць магчымасьці нашым старым уяўленням загіпнатызаваць сябе.

Чытач бачыць сам, што ўся гэтая гісторыя, – як бы мы ні глядзелі на яе! – не з’яўляецца жыццёвай рэчаіснасьцю. Сапраўды, што мы з яе даведаліся? Перадусім, патрабаванне сабе цара з баку нейкіх багазмагальнікаў  у свайго прарока і суддзі з імем «Сьцяг Бога», сяброўскія перамовы апошняга з гэтай нагоды з богам Грамабоем, які пакрыўдзіўся, што людзі маюць жаданне прызычыць пасярэдніка паміж сабой і ім. Але ж гэта ўжо расчараванне аўтара ў манархізме! Мы бачым тут і адпаведныя спробы з боку прарока пераканаць людзей у шкоднасьці манархіі, і, нарэшце, нягледзячы на гэта, прызначэнне ім на царства цара-волата на імя Пекла (Савул) шляхам вылівання яму нечакана на галаву жбана масла. Потым апісваецца гісторыя знаёмства гэтага цара з нейкім непраўдападобным юнаком Пылам (Давыдам па-жыдоўску), які, як старажытны Арфей, спускаўшыся ў Пекла, выганяе з цара Пекла злых духаў з дапамогай граня на ліры, і, нарэшце, мы даведваемся пра толькі-што апісанае змаганне гэтага юнага Арфея, раздзіраючага голымі рукамі пастку ільвам пры абароне сваіх авечак, з волатам Прыхаднем (Галіяфам па-жыдоўску), апранутым у шлём і лускаватыя латы, якія, аднак, не змаглі абараніць яго ад каменя, кінутага ў яго юнаком-музыкай.

Дзе ж тут хаця б зярнітка гістарычнай рэчаіснасьці, якое б дало гісторыкам права лічыць такіх асоб сапраўды некалі існаваўшымі, хаця б гэта і было не ў мёртвым сірыйскім гарадку Эль-Кудс, вядомаму нам пад найменнем Ерусалім, які

---

127 איש־נשא (АЙШ НША) – муж уздымацель ці бадацель, таму што «ўздымаць» (НША) азначае таксама і «ўздымаць на рогі».

128 שערים (ШЭРЫМ) – брама, расколіна Млечнага Шляху ў Скарпіёне.

129 שגת (ГТ) – вінаграднае тачыла, у якім тапталі нагамі вінаград, каб атрымаць віно. Топчучым яго зваўся Змеятрымальнік.

130 עקרון (ЭКРУН) – пераіначаная перапісчыкамі назва עקרב (ЭКРБ) – Скарпіён.

дзякуючы свайму глухом геаграфічнаму становішчу не мог ніколі быць чымсьці іншым, акрамя як вёсачкай, і трымаецца зараз на вышыні толькі дзякуючы субсідыям хрысьціянскіх і месіянскіх паломнікаў і іхных еўрапейскіх мецэнатаў, ды яшчэ дзякуючы продажу хрысьціянскіх амулетаў тым жа паломнікам, без чаго ён ператварыўся б у звычайнае правінцыйнае мястэчка.

Такім жа гісторыкам давялося б лічыць рэчаісным і існаванне самога Арфея ў пекле, і Энэя, і Адысея, і ўключыць іхныя вандраванні і здзяйсненні ў курсы старажытнай гісторыі нават з большым правам, чым гэтыя біблейскія паданні, бо «Энэіда» і «Адысея» непараўнальна больш праўдападобныя. Ніводную ж казку немагчыма напісаць так, каб у ёй усё, ад пачатку да канца, было няпраўдападобным, таму што ў такім выпадку гэта была б ужо не казка, а трызненне вар'ята, якім не захапілася б ніводнае дзіця. Не існуе такой казкі із якой метадам адкідання ўсяго няпраўдападобнага і пакідання толькі праўдападобнага немагчыма было б зрабіць ілжэ-гісторыю. Але такі прыём цалкам антынавуковы, і таму ў гэтым сваім даследаванні, паказваючы на казачны характар усёй гісторыі валадарання цара Пекла (Савула) і яго дачыненняў з юнаком Пыламу (Давыдам), я і спрабую высветліць толькі паходжанне саміх апавяданняў, а ніяк не чысьціць гэтыя апавядальні ад няпраўдападобнага, каб зрабіць із астатняга міраж гістарычнай рэчаіснасьці.

Вядома, асноўнае гістарычнае зярнятка я тут бачу у рэчаісным існаванні выдатных дзеячоў старажытнай гісторыі: Аўрэліяна і Канстанцыя Хлора, але амаль усе казачныя падрабязнасьці я лічу запазычанымі із асноўнай крыніцы рэлігійна-міфічнай творчасьці старажытнасьці – зорнага неба. І кожны раз, калі я знахожу тлумачэнне такога міфа ў спалучэннях планет і камет і ў іхных рухах па сузор'ях і, пры ўсім жаданні, не магу знайсьці нічога іншага, рэчаіснага, то я і лічу пытанне вырашаным з дапамогай астраноміі.

У дадзеным выпадку гэтак жа, як і ў легендзе пра Езуса Рыбу (Навіна)[131], я бачу першакрыніцу апісаных тут вялікіх боек багазмагальнікаў з «прыхаднямі» не ў рэчаісных чалавечых змаганнях, а ў полымямётах метэарытаў, прыведзеных астролагамі ў сувязь з тагачаснымі дынастычнымі падзеямі і з рэлігійнымі спрэчкамі. Таму і апісваныя тут пагалоўныя вынішчэнні цэлых народаў ад малога да вялікага я не разумею літаральна, а толькі ў алегарычным сэнсе, у тым, што іх культ ці незалежнае існаванне згодна з гараскапічнымі высновамі тагачасных ці наступных астролагаў быў канчаткова знішчаны богазмагальнікамі.

Мы не павінны забывацца на тое, што прароцкія сімвалы для ўсяго зямнога багазмагальнікі знаходзілі ў рухах планет і ў становішчах сузор'яў на небе. Гараскоп у іх дэтэрмінаваў усё: як мінулую, і будучую гісторыю народаў, так і гісторыю асобных людзей яны лічылі магчымым аднавіць не грунтуючыся на запісах, а з дапамогай тлумачэння спалучэнняў планет у іхны час. Той, хто мог вылічваць гараскопы і назад, і наперад, заўсёды меў, згодна з іхным меркаваннем, магчымасць паведаміць пра тое, што адбывалася ў вось такім-та годзе і што будзе адбывацца ў вось такім-та. Гэтаму дапамагала і кабалістыка, якая падводзіла ўсе ўчынкі асоб пад сэнс іхнага імя. І вось, побач з псеўда-прароцкімі кнігамі другой часткі Бібліі, такім шляхам узніклі і псеўда-гістарычныя кнігі яе першай часткі. Ці ўяўляюць яны нейкую навуковую цікавасць?

Ніякай, калі мы будзем глядзець на іх як на сродак даведацца грунтуючыся на іхных сведчаннях пра рэчаісныя падзеі старажытнага жыцця, і вялізную

[131] Гл. «Хрыстос». Другая кніга.

цікавасць, калі мы зробім іх саміх (як тут я) аб'ектам нашага вывучэння, імкнучыся аднавіць, грунтуючыся на іх, псіхічнае аблічча толькі саміх аўтараў, а не тых асоб, пра якіх яны паведамляюць, таму што ўсё, што яны выказваюць, – адны аперцэпцыі.

Зямной рысай у іх заўсёды служыць агульны фон, даючы рэчаісную выяву разумовых настрояў таго часу, а дробныя дэталі бяруцца, зразумела, не толькі із сузор'яў, але таксама і з жыцця нейкіх выдатных людзей мінулага, хаця б яны мелі цалкам іншыя імёны, жылі цалкам у іншыя часы і ў іншых мясцовасьцях, чым мы да гэтага часу думалі, і занімаўшых цалкам іншае грамадзкае становішча, чым сучасныя зямныя цары. Мае храналагічныя атаясамленні багазмагальніцкіх біблейскіх цароў, пачынаючы з Ераваама, з царамі Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі, пачынаючы з Кастуся I, у першай кнізе «Хрыста», ужо прывялі нас шляхам экстрапалявання да таго, што Савул тоесны з Аўрэліянам, «аднаўляльнікам імперыі», Палкі (Давыд) тоесны з Канстанцыям Хлорам (ці Дыяклетыянам), а Саламон – з канчатковым наладжвальнікам тэакратычнага ўладкавання гэтай імперыі.

Але гістарычныя рысы тут цалкам заслонены астралагічнымі дэталямі, зрабіўшымі із біблейскага выкладання чысты міф. І, акрамя таго, некаторыя дэталі браліся сюды таксама і з сейсмічных і метэаралагічных з'яваў, уражваўшых ўяўленне старажытных хранікёраў сваёй незвычайнасьцю.

Заўважаецца таксама, што старажытныя кампілятары не заўсёды маглі справіцца са сваім матэрыялам, дзякуючы свайму павольнаму мышленню, не дазваляўшаму іхнаму уяўленню паднімацца вельмі высока. Так, пасьля толькі-што выкладзенага міфа пра двубой юнака Пыла з Прыхаднем у легендзе пра Савула і Давыда заўважаецца, нечаканая для сучаснага інтэлігентнага чытача, несуразнасць, паказваючая, што аўтар, ці пазнейшы кампілятар, ужо забыўся, што цар Пекла сам выправіў свайго (даўно памазанага на царства замест яго) юнака-музыку на бой з Прыхаднем, што ён сам яго ўзбройваў і быў добра з ім знаёмы. Вось што мы нечакана чытаем далей.

*«Калі цар Пекла пабачыў юнака Пыла,* – заканчвае нехта толькі-што прыведзенае апавяданне, – *выходзячым на бой супраць Прыхадня, ён запытаў Бацьку Сьвета* (г.азн. ранішні сьвітанак)[132], *начальніка над сваім войскам:*

*«– Бацька Сьвет! Чый гэта сын?*

*«– Клянуся тваёй душой, не ведаю! – адказаў яму той.*

*«І Бацька Сьвет узяў юнака Пыла і прадставіў цару Пекла з галавой Прыхадня ў руцэ* (у выглядзе Пярсея з галовай Мядузы, з'явіўшагася із-за сонца, якое знаходзілася ў Цяльці, мал. 52).

*«– Чый ты сын, малады чалавек?* – запытаў яго цар Пекла, а юнак Пыл, які таксама як-быццам бы забыўся, што ён даўно ўжо знаёмы з царом Пекла, адказаў:

*«– Раба твайго Езуса із Віфлеема»*[133].

---

[132] אב־נר (АБ-НР) – бацька сьвятла, бацька сЬветача.

[133] (ШЛІ-БІТ-Е-ЛХМІ) – Езуса Віфлеемляніна, г.азн. Ратавальніка із Роду Змагання, Ратавальніка із Роду Ядзення. Лічу, што гэта мае дачыненне да Авена ці Цяльці, у гадзіннікавай паласе якіх знаходзіцца і Пярсей з галовай Мядузы.




Мал. 52.
Сузор'е Вознічага з конскімі цуглямі, Трохкутніка і Пярсея з мячом над экліптыкай у Млечным Шляху. Са старажытнай лацінскай астрагнозіі (Пулкаўская абсерваторыя).

У канчатковым выглядзе тут як-быццам бы атрымалася тое ж, што аднойчы здарылася з блізарукім і няўважлівым нямецкім гісторыкам старажытнага Рыма Мамзенам, які, седзячы ў вагоне насупраць сваёй дачкі і апрытомеўшы ад сваіх гістарычных разважанняў, зірнуў на яе і вымавіў:

– Ах, якая прыгожанькая дзяўчынка! Чыя ты дачка?

– Твая, тата, – адказала яна яму.

Але Савул пайшоў тут нашмат далей Мамзена і не пазнаў свайго музыку нават і пасьля яго адказу, а толькі ўзяў яго да сябе і «не дазваліў яму вярнуцца ў сядзібу свайго бацькі» (18,58).

Гэты нечаканы ляпсус у апавяданні тэолагі тлумачаць не тым, што наступны апрацоўшчык міфа заблытаўся ў дэталях небеснага скляпення, якія меў жаданне дадаць да апавядання, а тым, што з царом Пеклам здарыўся ад жаху пры выглядзе Галіяфа прыпадак вар'яцтва і ён «забыўся пра сваё блізкае знаёмства з Давыдам». Але такое тлумачэнне нагадвае стравуса, які хавае сваю галаву ў пясок, калі яго даганяюць паляўнічыя, і сучасным тэолагам ужо пара стаць на рацыянальны бок гледжання і зразумець, што гэта толькі доказ някемлівасьці старажытных складальнікаў кніг.

Задаўшыся пытаннем, што на небе магло б быць падставай такай неадпаведнасьці заканчэння апавядання пра Давыда і Галіяфа пачатку, я звярнуўся да тагачасных незвычайных падзей на небе і знайшоў разгадку ў кітайскіх летапісах Шэку і Ма-Туань-Лін.

Справа ў тым, што ў гэтай легендзе змяшаны дзьве каметы таго часу. Камета 275 года пры ўцараванні Аўрэліяна-Савула, з якой, як мы бачылі, спісаны пачатак, і камета 296 года пры Канстанцыі Хлору-Давыду, якая тоесна з каметай Галея, нарабіўшай шмат трывогі і пры яе наступных з'яўленнях. Гэтым разам яна прайшла вясной у эфектнай мечападобнай форме праз сузор'е Пярсея з яго мячом, прыўзнятым над галавой Мядузы, і была потым у Ільве і ў Вялікай Мядзьведзіцы, згадваемай таксама і ў легендзе. Перараскокванне ад каметы Аўрэліяна-Савула да каметы Канстанцыя Хлора-Давыда і было ў дадзеным выпадку тут падставай

непагадненне заканчэння падання з яго пачаткам, злучыўшы два незалежныя запісы заканчэння III стагоддзя. Вось што тады адбывалася на небе.

Із прамянёў Бацькі Сьвета, г.азн. сьвітання, пад канец траўня 296 года з'явіліся амаль разам: сузор'е Целяці, як правобраз першага цара – Савула, яго дачка Андрамеда, адпавядаючая дачцэ Савула Купелі, нарачонай Давыда, і сам Давыд-Пярсей, пастух Авена і Цяляці, пад ім. А перад ім у галаву Мядузы ўсадзіўся яшчэ вялізны меч-камета. Усё гэта было акуратна запісана, як адна із падзей валадарання Канстанцыя Хлора, а таму і зразумела, што цар Пекла – Сатурн мог не пазнаць у гэтым бачанні свайго чырвонавалосага зброяносца, арфіста Марса, і меў поўнае права запытаць: «хто гэты юнак?»

Так мы і засталіся тут без мастка паміж дзьвюма выявамі апавядання пра Савуля і Давыда, і нам нічога зараз не застаецца рабіць, як проста пераскочыць праз гэтую бяздонную прорву на іншы яе край, не спрабуючы самім будаваць тут масток, прыдумляючы раптоўнае вар'яцтва Савула... А на іншым краю прорвы мы чытаем наступнае:

*«Калі скончылася размова юнака Пыла з царом Пеклам* (ці бачыце зараз у словах «калі скончылася» новы пераходны масток?)*, душа Богададзенага* (хутчэй за ўсё сузор'я Арыёна), *сына цара Пекла* (метамарфізаваўшагася зараз, пасьля пераскоку праз «прорву без мастка» ў сузор'е Цяляці), *злучылася з душой Давыда. Ён склаў з ім хаўрус, зняў з сябе апанчу і аддаў яе юнаку, разам з усім сваім вайсковым уборам да мяча, да лука і да свайго пояса* (пояса Арыёна?). *Цар Пекла прызначыў юнака Пыла правадыром над усім войскам, але, вось, здарылася, што падчас іх вяртання дадому жанчыны* (у сімвале зорак) *выходзілі карагодамі із усіх багазмагальніцкіх гарадоў з тымпанамі, цымбаламі і радаснымі ўсклiканнямі:*

*«– Пекла* (Цялец) *перамог тысячы, а Пыл* (Пярсей) *– цемры!»*

*Цар Пекла коса паглядзеў на юнака, і на другі ж дзень напаў на цара ад бога злы дух (18,10). Ён прыйшоў дома ў шаленства, і калі юнак Пыл граў на гусьлях* (сетцы нябесных мерыдыянаў і паралеляў), *як звычайна, ён раптам кінуў у яго дзіду* (яскравы метэарыт праляцеў ад Цяляці да Пярсея), *сказаўшы:*

*«– Прышпілю яго да сьцяны!»*

*Але Пыл двойчы ўхіліўся ад яго, і цар Пекла пачаў яго баяцца.*

*«Яго дачка Купель*[134] (у сузор'і Андрамеды) *пакахала Пыла, і калі цару паведамілі пра гэта, ён сказаў:*

*«– Перадайце таемна юнаку: «Цар схільны да цябе, і ўсе яго служкі цябе паважаюць. Парадніся з ім». І паведаміце яму, што цар не жадае іншага адружальнага выкупу за сваю дачку, акрамя ста краеабразанняў ад дзетанараджальных органаў качэўнікаў».*

*Усё гэта ён сказаў у надзеі, што юнак трапіць за такія здзяйсненні у іхныя рукі (18,25). Але Давыд* (зараз Пярсей), відавочна, кіруючыся песняй закаханага рускага разбойніка:

Шмат за душу тваю самотную розных я душ загублю, –
Хто ж вінаваты, што цябе чарнавокую больш, чым душу, кахаю, –

*пайшоў са сваімі ратнікамі і, жадаючы парадніцца з царом, забіў не сто, а дзьвесьце качэўнікаў* (полымямётам персіядаў), *і паказаў цару іхныя краеабразанні. Цар аддаў яму тады сваю дачку Купель у жонкі, але з той пары пачаў яшчэ больш яго баяцца і зрабіўся яго ворагам назаўжды. Ён паведаміў пра гэта свайму сыну*

[134] מיכל (МІКЛ) – Купелья, вадаём.

*богададзенаму* (Арыёну). *Але той быў вельмі аддданы свайму сябру і таму паведаміў яму:*

*«– Мой бацька мае жаданне цябе забіць. Беражыся, калі ласка, і заўтра раніцай схавайся ў патаемным месцы.*

*«Юнак Пыл гэта зрабіў* (напэўна, схаваўшыся ў праменях праходзіўшага тут вясной сонца), *але калі зноў пачалася вайна з прыхаднямі* (новы жнівеньскі полымямёт персіядаў)*, ён нанёс ім такую моцную паразу, што яны ўсе збеглі ад яго. Злы дух ад бога Грамабоя зноў ахапіў цара Пекла, і калі ён сядзеў у сваёй сядзібе, а юнак граў на ліры, ён зноў узнамерыўся прышпіліць яго дзідай да сьцяны, але той зноў адхіліўся. Дзіда ўтыркнулася ў сьцяну, а юнак збег і, такім чынам, выратаваўся ад небяспекі ў тую ноч* (19,10). *Пекла выправіў пасланнікаў у яго сядзібу* (сядзібай Марса лічылася астролагамі знаходзячайся ў Авене), *каб падпільнаваць і раніцай забіць яго. Але жонка яго, Купель, сказала яму:*

*«– Калі ты не паспяшаешся сёння выратаваць сваю душу, то заўтра будзеш мёртвы.*

*«Яна спусьціла яго праз вакно, і ён пайшоў (Пярсей хаваецца ў прамянях сонца штогадова ў сакавіку). Узяўшы хатні кумір, яна паклала яго на ложак свайго чалавека, накрыла адзеннем, а пад галаву яго паклала дыван із казінага воласа і адказала пасланнікам:*

*«– Ён хворы.*

*«– Прынясіце яго на ложку да мяне, – загадаў тады Пекла, – каб я мог забіць яго.*

*«Але пасланнікі прынесьлі яму толькі кумір з дыванам із казінага воласа пад галавой.*

*«– Навошта ты так падманула мяне і дала яму мачымасць выратавацца? – запытаў ён дачку сваю Купель.*

*«– Ён сказаў мне, – адказала яна: – адпусьці мяне, а не то я цябе заб'ю».*

*Так няўдала скончылася і гэтая спроба Пекла забіць юнака Пыла.*

*«Потым цару паведамілі:*

*«– Юнак Пыл у качавішчы каля Вышыні.*

*«Цар адразу выправіў туды прароцкіх вучняў* (планет) *пад правадырствам «Сьцяга бога»* (Месяца), *і яны пачалі прарочыць. Сам цар Пекла* (зноў у сімвале Марса) *пайшоў на качавішча каля Вышыні, але і на яго сышоў там дух бога Грамабоя, і ён прарочыў на працягу усяго шляху, а потым зняў сваё адзенне і* (голы!) *прарочыў перад Сьцягам бога* (Месяцам) *увесь той дзень і ўсю ноч. Вось чаму і кажуць* (паўтарае аўтар): *«няўжо і Пекла зрабілася прарокам?»* (19,20).

*«Пасьля гэтага юнак Пыл, – працягвае легенда, – зноў спусьціўся з Вышыні і сказаў свайму сябру* (Арыёну):

*«– Вось заўтра* (веснавы) *маладзік, калі мне варта сядзець у цара за абедам. Адпусьці мяне, каб я мог схавацца ў полі да трэццяга вечара, і скажы свайму бацьку: «пераканаў мяне Пыл, паспяшацца ў Сядзібу Змагання»* (сузор'е Рыб, дзе адбываецца змаганне зімы з летам)*, на штогадовае ахвяраванне ў яго сядзібе* (ў сузор'і Авена, г.азн., апавяданне мае дачыненне да велікоднага маладзіка). *Калі ён скажа: «добра!», то мір мне, твайму служцы; калі ж ён угневаецца, то ведай, што ён вырашыў зрабіць мне зло.*

*«– Выйдзем у поле, – адказаў яму Богададзены, – тры дні ты старанна хавайся ў тым жа месцы, як і раней, каля Скалы Сыходу* (ці Смутку)[135]*. На трэцці дзень я прыйду, пушчу там тры стралы і выпраўлю служку шукаць іх. Калі я скажу служцы: «вунь стрэлы бліжэй за цябе!» – то мір табе: нічога не будзе. Калі ж я скажу юнаку: «вунь стрэлы далей за цябе!» – то высылае цябе адсюль Грамабой.*

*«Юнак Пыл схаваўся ў полі, і, калі наступіў* (вялікодны) *маладзік, Бацька Сьвету сеў каля цара (у сузор'і Цяляці). Месца Пыла засталося пустым, але цар нічога не сказаў. Ён думаў:*

*«– Пыл апаганіўся нечым і яшчэ не чысты».*

*Але і раніцай на другі дзень месца юнака не было занятым.*

*«– Праз што не прыйшоў сын Ратавальніка на абед ні ўчора, ні сёння? – запытаў ён Богададзенага.*

*«– Ён перканаўча прасіў мяне адпусьціць яго ў Сядзібу Змагання, бо ў іх там хатняе ахвяраванне. Ён мне сказаў: «дазволь мне паспяшацца туды, калі я заслужыў пашану ў тваіх вачах, каб я змог пабачыць сваіх братоў.*

*«– Сын упартай жанчыны! – адказаў яму цар. – Хіба я не ведаю, што ты паважаеш яго да свайго сораму і зганьбавання тваёй маці? Увесь час, пакуль ён будзе жывы, не зацвердзішся ты на царстве. Зараз жа прывядзі яго да мяне, таму што яму наканвана памерці.*

*«– Навошча яго пазбаўляць жыцця? Што ён зрабіў? – запярэчыў Богададзены свайму бацьку.*

*«Той кінуў у яго дзіду, каб уразіць яго, і із гэтага Богададзены зрабіў выснову, што яго бацька мае намер забіць яго сябра. Ён моцна засмуткаваў і не дакранаўся да ежы ўвесь другі дзень маладзіка, а на наступную раніцу ў прызначаны час выйшаў у поле з хлопчыкам.*

*«– Бяжы, – загадаў ён, – шукай стрэлы, якімі я буду страляць! – і кінуў стралу далей яго.*

*«Калі той прыбег да месца, ён закрычаў яму ўслед:*

*«– Ці няма стралы далей за цябе? Хутчэй, спяшайся, не спыняючыся !*

*«Хлопчык нічога не зразумеў, таму што толькі Богададзены і Давыд ведалі ў чым справа. Богададзены аддаў хлопчыку свае даспехі і сказаў яму:*

*«– Ідзі, занясі ў горад!»*

*І вось, калі ён сышоў, юнак Пыл выйшаў із Паўднёвага баку і тройчы пакланіўся застаўшамуся тут Богададзенаму тварам да зямлі. Яны пацалаваліся і плакалі абодва, але Богададзены плакаў больш.*

*«– Ідзі з мірам, – сказаў ён. – Бог Грамабой ды будзе паміж мной і табой, паміж маімі і тваімі нашчадкамі вавек» (20,42).*

Вы, чытач, вядома, ужо маеце жаданне запытаць: навошта была наладжана ўся гэтая камедыя са стрэламі, калі так проста было паклікаць Давыда і без іх! Як дрэнна складзена гэтая казка!

Але ці сапраўды яна складзена «дрэнна»?

Калі ж надаць гэтаму астральны характар, палічыўшы сузор'е Цяляці, якое тады лічылася першым правадыром Задыяка, за першага цара багазмагальнікаў, а сузор'е Арыёна за знак Богададзенага, то тры яскравыя метэарыты, праляцеўшыя ад

---

[135] אזל (АЗЛ) – сыходзіць, таксама смутак.

яго да Пярсея-Давыда (які яшчэ не стаў царом і таму не патрапіў у Задыяк), і будуць трыма гэтымі стрэламі.

Калі ж прытрымліваца погляду, што тры цары багазмагальнікаў – Пекла-Савул, Пыл-Давыд і Міратворац-Саламон – былі трыма знешнімі планетамі Сатурнам, Марсам і Юпітарам, а дачка Купель і сын Богададзены – Венерай і Меркурыям, – то і ў гэтым выпадку тры метэарыты ад Меркурыя да Марса тлумачаць справу. Праўда, што слова Давыд тэолагі перакладаюць Умілаваны, але гэта толькі таму, што яно, сапраўды, мае па-біблейску два значэнні, а таму і легенда атрымалася дваістай. Частка дэталяў – якімі з'яўляюцца шматлікія вайсковыя ўчынкі юнака Пылу – узята із характарыстыкі Марса, а некаторыя рысы яго маральнай выявы ўзяты са значэння яго імя, хаця дададзім, што Марс згодна з класічнай міфалогіяй быў не толькі богам вайны, але і сімвалам кахальнага запалу, так што і мой пераклад яго імя не супярэчыць гебраістыцы.

Разгледзім зараз і наступнае прыватнае апавяданне, уключанае ў раман пра цара Пекла і пра велічнага юнака Пыла (гл. 21) і злучанае з папярэднім вельмі слабым пераходным мастком у выглядзе простага злучніка «і»:

*«І юнак Пыл* (Марс) *прыйшоў у горад Прароцства*[136] *да сьвятара Велічны Бацька*[137]*. Той выйшаў яму насустрач і запытаў:*

*«– Чаму ты без суправаджальнікаў?*

*«– Цар даручыў мне справу, – адказаў Пыл, – пра якую ніхто не павінен ведаць. Дай мне пяць хлябоў ці што знойдзецца.*

*«– У мяне толькі асьвечаны хлеб, які могуць ужываць толькі ачысціўшыяся.*

*«– Нашы жонкі былі адлучаны ад нас як учора, так і трэцяга дня, і адзенне чыстае на ўсіх нашых людзей, – адказаў яму Давыд.*

*«Велічны Бацька даў яму тады хлябы прапановы, знятыя з трапезы Грамабоя, каб потым пакласьці замест іх новыя хлябы.*

*«– Ці няма ў цябе мяча ці дзіды? – запытаў юнак Пыл.*

*«– Ёсць меч прыхадня (Галіяфа), якога ты перамог на схіле дубравы. Вось ён ляжыць, загорнуты ў пасьцілку за сьвятым уборам.*

*«– Няма яму падобнага, – адказаў Давыд, – дай мне яго».*

*Ён збег з ім да Надзейнай Падпоркі*[138]*, цара готаў із Вінаграднага Тачыла*[139]*, але вельмі яго баяўся і таму прыкінуўся вар'ятам, маляваў фігуры на дзьвярах брамы, выпускаў сліну на свой падбародак.*

*«– Вы бачыце, што гэта вар'ят, – прамовіў Надзейная Падпорка. – Навошта вы прывялі яго да мяне? Каб ён дзівачыў перада мной?*

*«Тады юнак збег у пячору Сведчання* (расколіну Млечнага Шляху над Скарпіёнам), *куды да яго прыйшлі яго браты і ўвесь род яго бацькі, і сабраліся ўсе прыгнечаныя, не сплаціўшыя даўг і ўсе душэўна-засмучаныя, і ён зрабіўся правадыром над імі, да 400 чалавек»* (Сам., 22,2).

*«Ён заставаўся ў недаступных месцах, потым размясьціўся на гары ў пустэльні Глоткі, на поўдзень, і хаця Савул шукаў яго кожны дзень, але Грамабой не аддаў яго ў рукі цара»* (23,14).

---

[136] נב (НБ) ад НБА – прараКаць, прадказваць ці ад НБУ – Меркурый, якога арабы лічылі богам красамоўства і летапісцам падзей на небе і на зямлі. Яго сядзібамі былі: сузор'е Панны і Двайнят.

[137] אב־י־מלך (АБІ-МЛК) – велічны бацька.

[138] אכ־יש (АК-ІШ) – надзейная падпорка.

[139] גת (ГТ) – вінаграднае тачыла, дзе давяць нагамі вінаград для віна, таксама «гот».

*«Ён засеў у непрыступных месцах Казлінага Вока, а цар Пекла ўзяў тры тысячы лепшых ваяроў і пайшоў шукаць яго на вяршыні скалы Горных Коз. Ён прыйшоў да загона авечак, дзе пячора, і зайшоў у яе для выпраўлення натуральных патрэб, а Пыл і яго людзі сядзелі ў яе глыбіні. Юнак падняўся і неўпрыкметна адрэзаў край апанчы цара Пекла, пакуль ён рабіў сваю патрэбную справу, і не дазволіў сваім людзям нападаць на яго. Калі цар выйшаў, скончыўшы, із пячоры, Пыл таксама выйшаў і, калі той азірнуўся на яго вокліч, упаў перад ім тварам на зямлю.*

*«– Навошта слухаеш ты словы людзей, паведамляючых, што я жадаю тваёй сьмерці? Хай бачаць твае вочы, як Грамабой аддаў цябе ў пячоры ў мае рукі. Мне раілі, каб я цябе забіў, але я адказаў: не падыму рукі на майговаспана, таму што ён памазанец боскі. Паглядзі на край твайго адзення ў маёй руцэ! Із таго, што я адрэзаў яго, а не забіў цябе, ты можаш бачыць і ведаць, што няма ў мне ні злосьці, ні здрады, а, тым часам, ты жадаеш забраць маю душу. За кім ганяешся ты? За здохлай сабакай, за блыхой!* (мал. 53). *Хай Грамабой разгледзіць маю цяжбу з табой і абароніць мяне ад тваёй рукі!*

*«– Ці твой гэта голас, сын мой, Пыл? – запытаў яго цар, і застагнаў, і заплакаў. – Ты больш справядлівы за мяне, бо заплаціў мне добром за зло. Ці пусьціць чалавек ісьці свайго ворага добрым шляхам, калі зловіць яго? Зараз я пераканаўся, што ты абавязкова будзеш валадарыць пасьля мяне. Пакляніся ж мне Грамабоем, што не вынішчыш маіх нашчадкаў!*

*«Давыд яму пакляўся, і Савул пайшоў у сваю сядзібу, а Давыд і яго людзі ў сваё ўмацаванне»* (24,23).



Мал. 53.
*Юнак Пыл (Давыд) паказвае цару Пеклу (Савулу) край адрэзанай ім у яго апанчы. Біблейская легенда ў аперцэпцыі сучаснага еўрапейскага мастака. Із кнігі La Sainte Bible, з малюнкамі Густава Дарэ.*

Што гэта зноў, чытач? Рэчаісная гісторыя дачыненняў Аўрэліяна і Канстанцыя Хлора, калі першы быў царом, а другі яшчэ юнаком-васалам, ці гэта эпізод із рыцарскага рамана, ці тут апісана тлумачальна сонечнае ці месяцовае зацьменне?

Я думаю, што адпавядае рэчаіснасьці толькі апошняя здагадка, а падставай такой думкі служаць для мяне агульныя меркаванні пра законы эвалюцыі чалавечай творчасьці, якія я ўжо паведаміў у першай частцы гэтага аддзела, і паўтару, у іншай форме, збольшага, і тут, дапасаючы да дадзенага выпадку.

Кожнаму із нас даводзілася чуць выказванне: «прыроджаны геній». Але ці задумваліся вы над яго сэнсам? Ці азначае гэта, напрыклад, што нехта, не прачытаўшы ніводнага верша, здольным напісаць самастойна такія ж зборнікі вершаў, якія пішуць зараз нават і не вельмі геніяльныя, але шмат чытаўшыя паэты? Ці гэта азначае, што, не прачытаўшы ніводнага рамана, ён здольны напісаць сучасны нам, хаця б і сярэдні раман?

Думаць так гэтак жа недарэчна, як і тое, што «прыроджаны матэматык» быў бы здольны грутуючыся на адным парыве сваёй творчасьці аднавіць усю сучасную матэматыку, калі б яна раптам была забыта пры нейкім перавароце на зямным шары. Не! Прыроджаны геній адрозніваецца ад астатніх сярэдніх людзей толькі тым, што праз вобласць яго выразнага ўсведамлення, (якая лакалізуецца на маю думку ў мазжачку), усе ўражанні, атрымліваемыя звонку паўшар'ямі яго вялікага мозгу, праходзяць больш хутка і ў больш выразным выглядзе, чым у астатніх сярэдніх людзей, з нагоды больш дасканалага ўлакавання шэрага рэчыва яго мазгавых паўшар'яў і мазжачка і большай рухомасьці і пластычнасьці ядраў.

Але гэта толькі патэнцыйная якасць генія. Гэта толькі прыкмета магутнага млына, які зможа шмат намалоць мукі, але толькі тады, калі ў яго будзе вялікі запас збожжа, а без гэтага ён будзе круціцца не робячы ніякай карысьці. Для таго, каб таленавіты розум мог працаваць, ствараючыя шырокія і арыгінальныя камбінацыі ўражанняў, атрыманых ім із вонкавага і ўнутранага сьвету, патрэбна, каб ён іх папярэдне атрымаў. Але ўражанні, успрымаемыя асабіста із навакольнага свету, звычайна бываюць элементарнымі і аднастайнымі, яны не дасягаюць і сотай долі таго, што адукаваны чалавек набывае із чытання і прытым набывае ўжо ў дамэтна камбінаваным выглядзе, у выглядзе складаных шэрагаў асацыяваных уяўленняў. Вось чаму для таго, каб самы таленавіты, самы ярка выражаны, хутка працуючы мозг мог напісаць сучасную аповесць ці раман, ён папярэдне павінен прачытаць не адну сотню раманаў, якія неўпрыкметна для яго і для ўсіх атачаючых выгравіраваліся ў яго мазгавых паўшар'ях. Але гэтыя паўшар'і кожную секунду будуць пасылаць у шэрае рэчыва яго мазжачка іх адлюстраванні ў бязладных камбінацыях, і толькі яно будзе кіраваць іх аднаўленнем на паперы не ў бязладдзі, як у сне, а згодна з выпрацаваным ім планам, адкідаючы із калейдаскопа пасылаемых яму мазгавымі паўшар'ямі ўражанняў усе тыя, якія здаюцца цьмянымі, не характэрнымі ці не прыдатнымі для дадзенага літаратурнага твора. Зразумела, што ўсе выявы і настроі мазгавых паўшар'яў будуць не сама-выпрацоўвацца імі, а набывацца звонку, праз органы вонкавых і ўнутраных пачуццяў, але іхныя супастаўленні могуць выявіцца вельмі арыгінальнымі, і асабістыя назіранні могуць да іх дадаць, калі розум таленавіты, і яшчэ нікім не выкарыстаныя сюжэты. У агульным можна сказаць, што калі ў нейкім творы існуе хаця б адзін адсотак арыгінальнасьці, а ўсё астатняе перайманне із іншым падобных твораў, то і тады мы будзем лічыць яго арыгінальным, а не простым перайманнем.

Дакладна гэтак жа і ў паэзіі. «Прыроджаны паэт» не зможа напісаць хаця б адну кніжку цікавых для сучаснага адукаванага чалавека лірычных вершаў, не прачытаўшы папярэдне некалькіх тысяч чужых вершаў і не ведаючы напамяць шматлікіх соцень іхных урыўкаў, напісаных з выкарыстаннем разнастайных памераў. І нават не гледзячы на гэта ўсе яго першыя вершы будуць чыстым перайманнем асабліва шануемых ім паэтаў, г.азн. толькі новай камбінацыяй прачытаных у іх радкоў і імпрэсій.

Толькі пазней, калі розум ужо зморыцца пісаць перайманні, пачынаецца ў яго дадаванне да комплексу прачытаных ідэй новых уражанняў, набытых із асабістага жыцця, бо зразумела і без тлумачэнняў, што ўсё ніадкуль не набытае нашым розумам не можа быць і перададзена ім славамі іншым людзям.

Гэта азначае, што для таго, каб напісаць нешта асэнсаванае і прытым вялікае і шматстайнае, патрэбна папярэдняе, яшчэ пад час юнацства, шмат і разнастайна навучацца ці чытаць; патрэбна правесьці юнацтва і дзяцінства ў адукаваным

асяроддзі і быць больш менш вольным ад штодзённай пабочнай працы, ці будзе яна фізічная, ці канцылярскаяі, ці гандлёвая, ці нейкая іншая, забіраючая час, патрэбны для вялікага і разнастайнага чытання і вывучэння. Інакш, кожны «прыроджаны геній» не здолее сасьпець і памрэ, не стварыўшы нічога, акрамя перайманняў ці бязглузьдзіц.

Разглядаемая намі зараз біблейская літаратура не з'яўляецца пачаткавай. Яна не магла быць складзенай у такім выглядзе, у якім мы яе зараз маем, яшчэ пад час тых стагоддзяў, калі не існавала не то што соцень, але і дзясяткаў іншых кніг, якія мог бы папярэдне прачытаць аўтар. У перыяд некалькіх стагоддзяў да пачатку нашай эры, і нават пад час яе першых стагоддзяў, ніхто не быў у стане выказвацца разнастайна. Нават жа дзеля таго, каб атрымаць імпульс напісаць сур'ёзную гісторыю пра тое, як цар Пекла (Савул) зайшоў у пячору «па сваёй патрэбе», а юнак Пыл (Давыд) у цемры абрэзаў яму, – пакуль ён сядзеў на кукішках, – край паднятай ззаду для зручнасьці апанчы, не дастаткова было бачыць, як нейкі хлопчык гарэза здзейсніў такі дурны жарт са сваім прыяцелем. Нікому б не прыйшло ў галаву заносіць такую дробязь у знакамітую на абшарах усяго хрысьціянскага сьвету кнігу біблейскага прарока «Сьцяг Бога» (Самуіл), хаця б такі жарт і быў зроблены нават з самім царом. Ды і наогул першабытнае пісанне па літарах і складах было такой цяжкай, набожнай і дарагой справай, а пашырэнне рукапісаў адбывалася ў такім абмежаваным коле шляхам перапісвання на каштоўным пергаменце, ці рэдкім па-за Ягіптам папірусе, запісаў, існуючых у знаёмых, – што ўсё не маючае вялікага значэння не ўключалася ў вобласць пісьмовасьці, а сама пісьмовасць была да вынаходніцтва арабамі анучнай паперы выключна маларадковай.

Такія доўгія і складаныя кнігі, як біблейскія прароцтвы Іезекііл, Данііл, Ісая, Ерамія (не кажучы ўжо пра Герадота, Фукідыда, Эўкліда ці пра «Адысею» і «Іліяду»), не маглі існаваць нават і ў намерах у людзей да шырокага пашырэння пісчай паперы і да развіцця хуткапісання, пра што я не стамлюся паўтараць, каб хаця б гэта, нарэшце, цьвёрда запомнілі мае апаненты. Такія творы літаратуры патрабуюць складанай папярэдняй падрыхтоўкі аўтараў і вялікага папярэдняга чытання, для чаго тады не існавала ўмоваў. Думаць, што яны маглі ўнікнуць без папярэдняй, даступнай шмат каму, літаратуры, гэта тое ж самае, як сказаць, што ў невялікім жбане з глебай можна вырасьці гіганцкае дрэва.

Усё гэта зразумела для рэалістычна наладжанага розуму і без маіх вылічэнняў. Дакладна гэтак жа зразумела, што і кніга Быцця, ды і разбіраемая намі зараз складаная гісторыя Давыда і Савула не маглі ўзнікнуць без папярэдніх падрыхтоўчых приступак з дапамогай «святога духа із адной галавы» ці шляхам «самародкавай фантазіі» малаадукаванага старажытнага чалавека.

З эвалюцыйнага і рэалістычнага боку гледжання, нават і асобныя легкадумныя легенды, нападобе толькі-што павядомленай намі, павінны былі ўзнікнуць у мазках старажытнага чалавека толькі як алегарычная выява чагосьці сур'ёзнага. Абразанне краю апанчы Савула я, хутчэй за ўсё, патлумачыў бы частковым зацьменнем сонца 8 лістапада 272 года, бачным ва ўсіх краінах Міжземнаморскай імперыі (фаза 11"0), пры Аўрэліяне-Савуле і юным Канстанцыі Хлоры-Давыду, у сузор'і Змеятрымальніка (і Скарпіёна) у пячоры Млечнага Шляху паміж двума яго адгалінаваннямі ў гэтым месцы[140]. Сатурн быў тады, праўда, яшчэ

[140] З пачатку нашай эры частковыя сонечныя зацьменні, бачныя ў краінах паблізу Міжземнага мора пры Сатурне за сонцам былі толькі:

ў Панне і не мог сядзець на кукішках пад Змеятрымальнікам, але гэтай з’яве магло быць нададзена і самастойнае тлумачэнне, раз яна сапраўды была пры цару Аўрэліяну і яго будучым наступніку.

На заключэнне я хачу яшчэ сказаць, што падобныя астральныя запісы, скамбінаваныя разам, чытаючыся пазней як апавядальні пра зямныя здзяйсненні старажытных людзей, далі пазней чалавечым мазкам матэрыял і для развіцця рыцарскіх раманаў, уяўляючых калейдаскоп розных прыгод, а гэтыя раманы нарадзілі, нарэшце, трэцюю, яшчэ больш высокую, ступень літаратурнай творчасьці – сучасны псіхалагічны раман.

* * *

У далейшым развіцці калейдаскапічнай гісторыі пра цара Пекла і велічнага юнака Пыла паведамляецца, як памёр памазаўшы іх на царства прарок Сьцяг бога (Саму-Іл) у Раме[141], г.азн. месцы пускання стрэл, што намякае на поўнае вечаровае месяцовае зацьменне ў сузор'і Стральца. Такое звыш поўнае (16"0) зацьменне і адбылося ў рэчаіснасьці перад сьмерцю Арыя 5 снежня 336 года, але магло быць грунтуючыся на ўспамінах апакрыфікавана не на канец валадарання Кастуся, а на канец валадарання Аўрэліяна. Пры ім месяц цалкам «памёр» на небе пры назіранні із Італіі і Грэцыі, і ў такім выглядзе быў пахаваны ў зямлю перад узыходам сонца ў 5 гадзін 25 хвілін пасьля Грынвіцкай поўначы. А былы юнак Пыл, – зараз ужо атаман разбойнікаў, – пайшоў у Гарэўшую Пустэльню (напэўна, у палосу вячэрняй зарыва[142] і там другі раз адружыўся наступным белетрыстычным спосабам:

*«Быў чалавек у боскім Жыллі[143], валодаўшы Садам[144] і вельмі заможны. У яго было 3000 авечак і 1000 коз і звалі яго Меркурый боскі[145] із роду Вартаўнічага Сабакі. Ён быў вельмі нядобры і скупы, а жонка яго Маці Карагода[146], была разумнай і прыгожай жанчынай* (Венера). *Юнак Пыл пачуў, што Меркурый стрыжэ авечак* (знаходзіцца ў сузор'і Авена), *паслаў да яго дзесяць служак паведаміць:*

*«– Ды будзе мір табе і ўсяму, што ў цябе ў сядзібе. Калі былі з намі твае пастухі, мы іх не крыўдзілі, і нічога ў іх не знікала, запытай пра тое ў іх саміх. Вось блізка сьвята, дай жа твайму сыну, Пылу, і яго служкам што знойдзецца ў цябе пад рукой.*

---

у 212-VIII -14 у Ільве; Юпітар у Вадаліве;
» 240-VII -5 у Ільве; Юпітар у Раку;
» 349-IV -4 у Авене; Марс быў далёка; Юпітар у Вадаліве;
» 388-VIII -18 у Ільве; Марс быў далёка; Юпітар у Двайнятах;
» 418-VII -18 у Раку; Юпітар у Стральцу; Сатурн у Ільве;
» 497-IV -18 у Авене; Юпітар у Ільве;
» 538-IX -1 у Панне; Юпітар у Казярогу і г.д. А месяцовае ў Скарпіёне было 272-V -30 пры Сатурне ў Панне і Юпітары ў Ільве каля Сатурна.

[141] רמה (РМЕ) – пускаць стрэлы; таксама: вышыня.

[142] פארן (ФАРН) ад פאר (ФАР) – гарэць.

[143] מעון (МЭУН) – жыллё, прыстанак, асабліва пра нябёсы.

[144] כרמל (КРМЛ) – сад.

[145] Калі чытаць נבו־אל (НБУ-АЛ) – Меркурый бога, тое тут шляхам выкідвання галосных із сярэдзіны атрымалася נבל (НБЛ) – бязбожны, падобна таму як із בבאל (ББ-АЛ) – брама бога атрымалася בבל (ББЛ) – Бабілон.

[146] אב־גיל (АБ-ГІЛ) – бацька карагода, але я пераклаў маці, каб прытрымлівацца жаночага роду выкладання.

*«– Хто такі Пыл? Хто такі сын Ратавальніка? Шмат зараз рабоў, збегшых ад сваіх гаспадароў. Хіба я аддам хлеб і ваду і жывёл, заколатых для маіх служак, людзям, пра якіх не ведаю нават, адкуль яны прыйшлі?*

*«Служкі вярнуліся і перадалі гэтыя словы свайму правадыру.*

*«– Аперажыцеся мячамі! – сказаў ён, падпяразваючыся сам.*

*І пайшлі за ім адразу каля чатырохсот чалавек, а дзьвесце засталіся пры Вазніцы».*

*Адзін са служак Меркурыя паведаміў пра гэта яго жонцы, Маццы Карагода. Яна адразу ўзяла дзьве сотні хлябоў, два мяхі з віном, пяць заколатых авечак, пяць мер сушаных каласоў, сто пучкоў разынкаў і дзьвесце аладак са смокваў, паклала ўсё гэта на аслоў і загадала сваім служкам:*

*«– Ідзіце наперадзе мяне, а я пайду за вамі».*

*І вось, калі яна спускалася на асле па цясніне гор, Пыл са сваімі людзьмі сходзіў з вышынь, кажучы:*

*«– Із усёй маёмасьці гэтага чалавека я не пакіну заўтра нават і сабакі».*

*Маці Карагода пабачыўшы яго, саскочыла з асла і выцягнулася перад ім тварам на зямлю.*

*«– Дазволь, мой васпан, – прамовіла яна, – сказаць тваёй рабыні ў твае вушы. Не звяртай увагі на гэтага нягоднага чалавека, Меркурыя. Яго імя азначае вар'яцкі, і таму па-вар'яцкі паступіў ён. Вось прынашэнне. Прабач, малю цябе, дзёрзкасць тваёй рабыні. Бог Грамабой зацвердзіць твой род за тое, што ты вядзеш яго вайны, і не будзе ў табе зла ніколі. Згадай тваю рабыню, калі ён зробіць цябе шчаслівым.*

*«– Благаславёны Грамабой, бог багазмагальнікаў, – адказаў ёй Пыл, – за тое, што ён паслаў цябе сёння насустрач мне, і благаславёнай будзь ты за тое, што не дапусьціла мяне да кровапраліцця і самавольства. Але клянуся, што, калі б ты не паспяшалася выйсьці мне насустрач, то да заўтрашняга сьвітання ў яго не засталося б і сабакі».*

*Маці Карагода вярнулася да свайго чалавека, а ў яго быў баль, як у цара. Ён быў вельмі п'яны, і весялілася яго сэрца, а раніцай, калі ён працьверазіўся, яна яму паведаміла ўсё. У яго самлела душа, і ён аслупянеў* (Меркурый спыніўся ў сваім пасупальным шляху насустрач Марсу) *і праз дзесяць дзён памёр* (схаваўся ў полымі ранішняга сьвітання).

*«Тады выправіў Пыл* (Марс) *да маці Карагода* (Венеры), *каб узяць яе сабе ў жонкі. Яна села на асла, пайшла за выпраўленым ад Давыда і стала яго жонкай»* (Сам., І, 25,1-42).

Так адружыўся ў другі раз юнак Пыл, і гэтае апавяданне зноў з'яўляецца відавочным зародкам сярэднявечнага рамана, маючым падмуркам сустрэчу Марса з Венерай падчас прыпынку Меркурыя каля Вялікадня, а пад пасланнікамі тут патрэбна мець на ўвазе дні, прайшоўшыя ад адной падзеі да другой. Нават і паганскія крыніцы малююць нам Венеру жонкай Марса, але вызначыць час грунтуючыся на гэтых двух паведамленнях вельмі цяжка, бо сустрэчы Марса з Венерай каля Вялікадня здараюцца вельмі разнастайна, і таму мы пойдзем проста далей.

*«Цар Пекла з трыма тысячамі лепшых ваяроў,* – працягвае кампілятар легенды, забыўшыся, што Пекла ўжо памірыўся з юнакоў Пылам, – *спусьціўся на пашу Глоткі, каб знайсьці яго і спыніўся на начлег на ўзвышшы, якое мае назву*

*Барвовае,*[147] *насупраць Долі Ратавальніка*[148] (г.азн. на світанку ў сузор'і Панны насупраць сузор'я Авена) *побач са шляхам* (экліптыкай). *Атаман Пыл знаходзіўся на пашы і бачыў, як прыйшоў за ім цар.*

*«– Хто пойдзе са мной ў стан Пекла? – запытаў ён.*

*«– Я пайду, – адказаў яму Бацька Выратавання*[149].

*«Яны пайшлі ноччу, і вось цар Пекла ляжыць і спіць пасярод стана, і дзіда яго ўваткнута ў зямлю побач з яго галавой, а Бацька Ззяння, сын Світанку і ўвесь народ спяць каля яго.*

*«– Перадаў сёння Грамабой ворага ў твае рукі, – сказаў Бацька Выратавання. – дазволь мне прышпіліць яго да зямлі адным ударам маёй дзіды. Другога ўдару не будзе патрэбна.*

*«– Не губі яго, – адказаў Пыл. – Толькі вазьмі, калі ласка, дзіду каля яго галавы і пасудзіну з вадой, і пойдзем да сябе.*

*«Ніхто не бачыў, ніхто не заўважыў, ніхто не прачнуўся, таму што ўсе спалі. Пыл спыніўся на вяршыні гары на вялікай адлегласьці і закрычаў:*

*«– Адгукніся, Сын Ззяння!*

*«– Хто ты такі, што крычыш пры цару? – адказаў той.*

*«– Ці не шляхетны ты чалавек? – адказаў яму Пыл. – Хто роўны табе сярод багазмагальнікаў? Чаму ж не беражэш ты свайго васпана? Паглядзі, дзе дзіда і пасудзіна з вадой, якія былі каля яго галавы? Клянуся Грамабоем, вы заслугоўваеце сьмерці за тое, што не вартавалі памазанца божага!*

*«– Ці не твой гэта голас, Пыл, мой сын? – запытаў яго цар Пекла.*

*«– Мой, васпан, – адказаў той. – За што ты праследуеш свайго раба? Што я зрабіў? Ты ж, цар багазмагальнікаў, праследуеш у горах нейкую блыху, нейкую курапатку.*

*«– Зграшыў я, – адказаў яму цар. – Вярніся да мяне, мой сын. Я не буду больш крыўдзіць цябе, бо ты шануеш маё жыццё, а я дзейнічаў як вар'ят і вельмі шмат памыляўся.*

*«– Вось твая дзіда, – адказаў яму той. – Хай адзін із тваіх служак прыйдзе яе забраць. Якім было сёння каштоўным тваё жыццё ў маіх вачах, так ды будзе каштоўным маё жыццё ў вачах Грамабоя, і ды засьцеражэ ён мяне ад якога б то ні было засмучэння!*

*«– Праслаўлены ты, сын мой, – адказаў яму цар Пекла. – Сапраўды ты зробіш сваю справу і неадменна пераможаш.*

*«І пайшоў юнак Пыл сваёй дарогай, а цар Пекла вярнуўся ў сваё месца»* (Сам., I, 26.1-25).

Першабытныя душы, ўпершыню чытаўшыя гэтае паданне і яшчэ не распешчаныя нашымі сучаснымі складанымі апавяданнамі пра чуллівыя здарэнні, без сумневаў шмат разоў замілоўваліся да слёз, чытаючы гэта наіўнае апісанне «пакоры Давыда і яго гераізму», і, вядома, не заўважалі, што гэта толькі паўтарэнне ў іншым выглядзе папярэдняга выпадку, калі яны рагаталі над вельмі камічным для іх становішчам Савула, які зайшоў «дзеля сваёй патрэбе» ў пячору, дзе Давыд адрэзаў яму край прыўзнятай ім для зручнасьці апанчы. Яны не заўважалі, што і размова пасьля абодвух гэтых здарэнняў паміж царом Пеклам і юнаком Пылам

[147] חכילהי (ХКІЛЕ) – «у ёй мая надзея» згодна з тлумачэннем Крудэна ў яго Concordance to the Bible, але мне здаецца, што гэта хутчэй паходзіць ад חכל (ХКЛ) – барвовіць.

[148] ישי־מן (ІШІ-МН) – доля Езуса.

[149] Тут слова אב־ישי (АБ-ІШІ). Я перакладаю яго халдэйскім значэннем – Бацька Выратавання.

складзена амаль у тых жа самых выказваннях і што гэты сентыментальны дублікат ранейшага гумарыстычнага апавядання дададзены ўжо без якога б то ні было папярэджвання пра тое, быццам бы цар Пекла чамусьці зноў раззлаваўся на юнака Пыла, свайго былога Арфея.

Ды і далей ідзе зноў паўтор папярэдняга. Мы ўжо бачылі раней, як атаман «вольных людзей», Пыл, шукаў сабе сховішча ў Вернай Падпоркі, цара готаў (ГТ), каля Вінаграднага тачыла, прыкінуўшыся вар'ятам, але той не пажадаў яго прыняць у такім выглядзе. Зараз ён робіць тое ж, а Верная Падпорка ўжо не праганяе яго, а дае яму горад «Шалі». У падзяку за такую гасціннасць атаман Пыл (ён жа біблейскі Давыд) таемна знішчае, час ад часу, яго падданых, не пакідаючы ў жывых ні мужчын, ні жанчын, каб не было каму паведаміць пра яго Вернай Падпорцы. Забраўшы іхных авечак, аслоў, валоў, вярблюдаў і адзенне, ён штораз вяртаецца да цара гэтых абрабаваных ім і забітых.

*«– Ці не рабілі вы набегаў? – пытае яго той.*

*«– Так, рабілі, на паўднёвую частку зямлі богаслаявячых, – падманвае яго Пыл-Давыд.*

А Верная Падпорка верыць яму і кажа:

*«– Ён зрабіў сябе сваімі набегамі ненавісным свайму народу, багазмагальнікам, і зараз застанецца назаўсёды маім служкай»* (27,12).

І невядома, колькі б часу працягвалася гэтае ашуканства юнаком Пылам свайго апекуна, але ўсё на сьвеце мае заканчэнне... Скончылася і гэта. Збіраючыся на вайну з богазмагальнікамі, Верная Падпорка сказаў Пылу:

*«– Пайдзі са мной у апалчэнне з тваімі людзьмі.*

*«– Тады ты і даведаешся, што зробіць твой раб, – адказаў яму хітра Пыл-Давыд.*

*«– Пасьля гэтага паходу, – сказаў яму Верная Падпорка, – я прызначу цябе назаўсёды ахоўнікам маёй галавы.*

*«Пыл нічога не адказаў яму на гэта».*

*І вось, калі цар Пекла пабачыў апалчэне готаў-качэўнікаў, ён моцна ўстрывожыўся сваім сэрцам і запытаў прадказання ў Грамабоя. Але той не адказаў яму ні ў сне, ні праз першасьвятара, ні праз прарокаў.*

*«– Знайдзіце мне жанчыну, якая валодае духам прадракання, – загадаў цар сваім служкам, – я пайду і даведаюся ў яе.*

*«– Існуе такая ў Воку Кола*[150]*, – адказалі яму.*

*Цар Пекла пераапрануўся, каб яго немагчыма было пазнаць, і разам з двума суправаджаючымі прыйшоў да яе ноччу.*

*«– Пакліч мне з таго сьвету прарока «Сьцяг Бога» (Саму-Іл), – загадаў ён.*

*Яна паклікала яго і раптам ускрыкнула гучным голасам:*

*«– Навошта ты ашукаў мяне! Ты ж Пекла!*

*«– Не бойся, – сказаў ёй цар, – што ты пабачыла?*

*«– Нешта боскае, выходзячае із зямлі.*

*«– Які ён выглядам?*

*«– Старац, апрануты ў мантыю.*

*«– Для чаго ты патурбаваў мяне, прымусіў выйсьці з зямлі? – запытаў цара прарок.*

---

[150] עין־דור (ОІН-ДУР) – вока кола, вока стагоддзя.



Мал. 54

*Прадракальніца паказвае цару Пеклу (Савулу) здань «Сьцяга бога» (Самуіла). Біблейская легенда ў аперцэпцыі сучаснага мастака. Із кнігі La Sainte Bible, з малюнкамі Густава Дарэ.*

*«– Цяжка мне вельмі, – адказаў той. – Качэўнікі-готы ваююць са мной, а ты мяне пакінуў. Мне няма адказу ні праз прарокаў, ні ў снах.*

*«– Навошта ж ты мяне запытваеш, – адказаў Боскі Сьцяг, – калі цябе пакінуў сам бог? Забярэ ў цябе Грамабой царства і перасць яго твайму блізкаму, Пылу. Ён аддасць цябе ў рукі готаў і здрадзіць багазмагальнікам разам з табой. Заўтра ты з сынамі тваімі будзеш са мной»* (мал. 54).

*Цар так моцна напалохаўся гэтых слоў памёршага прарока, што зваліўся на зямлю ўсім целам. Ён саслабеў, таму што не еў увесь той дзень і ўсю ноч.*

*«Жанчына-вяшчуння падышла да яго і сказала:*

*«– Я паслухалася цябе, твая рабыня, падстаўляючы пад небяспеку сваё жыццё. Зараз паслухай і ты мой голас. Я пакладу перад табой кавалак хлеба. З'еш, каб мець моц, калі пойдзеш у дарогу.*

*«– Не буду есьці, – адказаў ён, лежачы на зямлі.*

*«Але калі яна настойліва пачала яго прасіць, ён падняўся з зямлі і сеў на ложак.*

*«Яна закалола адкормленае Цяля, спякла прэсныя хлябы і падала ўсё гэта цару і яго služкам. Яны з'елі і, падняўшыся, сышлі ў тую ж ноч»* (28,1-25).

*«Тым часам качэўнікі* (готы) *сабралі сваё войска пры: Рэчышчы*[151]*, а багазмагальнікі пры Воку, што ў Сям'і бога.*

*«Вайскавыя правадыры готаў* (ГТ), *пабачыўшы Давыда і яго людзей, ідучых з імі ў апошнім атрадзе, сказалі свайму цару:*

*«– Навошта тут перасяленцы? Выправі назад гэтага чалавека, ён не павінен ісьці з намі ў бітву, каб не зрабіўся падчас яе нашым ворагам. Ці не той гэта, пра якога сьпявалі: «Пекла перамог тысячы, а Пыл цемры?»*

*«Верная Падпорка сказаў тады Давыду:*

*«– Ты добры ў маіх вачах, як анёл боскі, але мае вайсковыя правадыры кажуць, што ты не павінен ісьці з намі ў бітву» Падніміцеся ж вы ўсе рана раніцай і сыдзіце, калі будзе светла.*

*«Пыл-Давыд і яго людзі паслухаліся цара і тры дні вярталіся да сябе ў горад Шалі*[152]*. Але пакуль яны ішлі, захопнікі зрабілі напад на Паўднёвы Бок, разбурылі і спалілі іхны горад.*

*Яны забралі ў палон, не забіўшы нікога, усіх жанчын ад мала да вяліка, і пайшлі сваёй дарогай. Былі захоплеы і абедзьве жонкі Пыла. Ён заплакаў горка, прыйшоўшы ў горад, і ўсе яны плакалі, пакуль хапала моцы для плачу. Потым Пыл, надзеўшы сьвятарскі ўбор, запытаў Грамабоя:*

*«– Ці праследаваць мне гэта полчышча і ці даганю я яго?*

*«– Праследуй, – адказаў Грамабой, – ты неадменна дагоніш яго і забярэш здабычу.*

*«Пыл узяў 600 чалавек і пайшоў з імі да струменя Абвяшчэння, дзе пакінуў на беразе 200 чалавек стаміўшыхся, а сам з 400 перайшоў на другі бок.*

*«У полі яны знайшлі міц-рымца, які тры ночы нічога не еў і не піў.*

*«– Ці не давядзеш ты мяне да гэтага полчышча? – запытаў яго Пыл.*

*«– Пакляніся, што не перадасі мяне ў рукі майго гаспадара, які кінуў мяне на дарозе, калі я захварэў.*

*«І калі яму пакляліся, ён прывёў усіх да лагера захопнікаў, якія, разышоўшыся па ўсёй той мясцовасьці, елі, пілі і скакалі з нагоды сваёй вялікай здабычы.*

*«Іх білі са світання да вечара наступнага дня і не выратаваўся з іх ніхто, акрамя 400 юнакоў, якія збеглі на вярблюдах. І не страцілі ваяры Пылу ні малога, ні вялікага, ні із сыноў, ні із дачок. Усё вярнуў ён. А калі ён вярнуўся да 200 пакінутых ззаду ад стамлення, некаторыя злыя і нягодныя людзі із хадзіўшых з ім казалі:*

*«– Не дадзім ім нічога, акрамя іхных жонак і дзяцей!*

*«– Не рабіце так, мае браты, – сказаў ім Пыл. – Якая доля хадзіўшых у бітву, такая і застаўшыхся пры абозе. – І ён прызначыў гэта ў закон і ў абавязак багаборцам да гэтага дня» (30,25).*

*Тым часам готы з Вернай Падпоркай напалі на багазмагальнікаў на гары, забілі сыноў цара Пекла(Савула), і іхныя стралкі, моцныя лукам, пагналіся за ім.*

*«– Агалі твой меч, – загадаў ён свайму збраяносцу, – і закалі мяне, каб не здзекаваліся нада мной гэтыя неабрэзаныя!*

---

[151] אפיק (АФІК) – рэчышча, праход, крыніца, лагчына, труба.

[152] צקלג (ЦКЛГ) ад שקל (ШКЛ) – узважванне.

*«Але збраяносец пабаяўся так зрабіць, і таму цар Пекла сам кінуўся на свой меч. Так памёр ён з трыма сынамі, са збраяносцам і з усімі сваімі ваярамі ў адзін дзень» (31,6).*

У гэтым заканчэнні легенды пра Савула няма нічога неверагоднага. Тут мы бачым нават новую прыступку ў развіцці літаратурнай творчасьці: перанясенне ўвагі на іншы прадмет на самым цікавым месцы, каб падтрымаць цікавасць чытача. Калі цар готаў павёў юнака Пыла ваяваць супраць яго ж суайчыннікаў-багазмагальнікаў, і ў яго, здавалася, не было прыстойнага выйсьця із такога ганебнага становішча, аўтар раптам пакідае яго і, пераскочыўшы да цара Пекла, – апісвае яго трывогу і закліканне ім з дапамогай чараўніцы із падземнага царства прарока Сьцяга Бога, які прадказвае яму смерць. Потым аўтар зноў вяртаецца да таго крытычнага становішча, у якім ён пакінуў Пыла. Што яму рабіць? Яго законны цар ідзе супраць готаў, а ён – яго васал, шануемы богам, выяўляецца ў іхных шэрагах супраць яго! Якое можна знайсьці выйсьце із гэтага крытычнага становішча?

І вось у той самы момант вайсковыя правадыры готаў самі пратэстуюць супраць яго ўдзелу ў бітве, баючыся што ён ім здрадзіць, і выпраўляюць дадому.

Пакінуўшы чытача зноў у невядомасьці, як пойдзе бітва, аўтар вяртаецца да ідучага дадому Давыда, які знаходзіць месца свайго жыхарства спустошаным, а жанчын і дзяцей забранымі ў палон «захопнікамі». Ён гоніцца за імі, адбівае здабычу, і аўтар, пакінуўшы яго на гэтым апошнім здзяйсненні, зноў пераходзіць да цара Пекла і апісвае яго трагічны канец.

Але, ж, гэта, чытач, ужо сапраўдны раман у зародку! Праўда, ён вельмі кароценькі, але тут выкарыстаны ўсе прыёмы навейшых белетрыстаў.

Я магу дапусьціць, што аўтар гэтага апавядання першым ўжыў такі ўдалы метад падтрымліваць цікавасць чытача, заахвоціць яго, як мы кажам, перапыненнем апавядання на самым цікавым месцы, каб потым вярнуцца да яго зноў праз шэраг іншых падзей, прыводзячых да таго ж становішча але ўжо дзякуючы дзейнасьці іншых асоб.

У такім выпадку гонар і слава аўтару біблейскай кнігі «Сьцяг Бога»! Але для таго, каб чалавек змог выканаць такую складаную задуму, ён павінен быў папярэдне ўжо шмат чытаць і прызвычаіцца да камбінавання ў сваім уяўленні разнастайных сюжэтаў. Дапусьціць, як звычайна робяць, быццам бы гэтае апавяданне напісана (можаце сабе ўявіць!) у тысяча пяцьдзясят шостым годзе да пачатку нашай эры, і за 3000 гадоў да нас, пры чым зноў жа, вынайдзены метад цікавага выкладання заставаўся без пераймальнікаў дзьве тысячы пяцьсот гадоў, аж да эпохі Адраджэння – гэта азначала б ігнараваць асноўныя законы Эвалюцыі чалавечай творчасьці, ігнараваць усё, што існуе навуковага ў гістарычных навуках.

Такое апавяданне не магло быць напісана раней сярэдніх стагоддзяў, хаця матэрыял для яго пачатку і быў, відаць, узяты із астралагічных запісаў і назіранняў, зробленых сапраўды яшчэ пры Аўрэліяне.

Такім чынам, гэта не гісторыя, а гераічны раман.

Тут падахвочвалі фантазію сонечныя і месяцовыя зацьменні, рухі Марса і Сатурна па небе, іхныя сустрэчы і разыходжанні; відаць тут бралі ўдзел і рухі метэарытаў, ды і хмары дапамагалі ўяўленню, але, як і кожны гістарычны, раман, – гэта не дакладнае апісанне рэчаіснага жыцця двух сапраўды існаваўшых людзей.

Я выклаў тут большай часткай сапраўднымі словамі ўсё істотнае што змешчана ў першай із двух кніг, якія маюць назву «Сьцяг Бога» (Саму-Іл па-

жыдоўску). Хаця аднайменная з назвай асоба і фігуруе ў ёй у якасьці аднаго із герояў апавядання, але пісала яе, вядома, не яна. Таму што ў кнізе ж увесь час згадваецца пра яе як пра трэццю асобу, ды, акрамя таго, яе там выклікаюць праз вядзьмарку, із царства памёршых. А із іншых дзеючых асоб цар Пекла ад яго памазання на царства аж да яго сьмерці на ўласным мячы (што прытым жа далей будзе аспрэчана!) цалкам знікае ў гэтым апавяданнзе як гістарычная асоба. Хаця ён згодна з нашымі экстрапаляцыямі і налягае храналагічна на рымскага імператара Аўрэліяна, але ад рэчаіснай біяграфіі апошняга тут засталося вельмі мала. Усе яе дэталі напалову падменены дэталямі жыцця зорнага сьвету ў той час, ды і сам цар Пекла (Савул па-жыдоўску) напалову фантастычная зямная істота і на палову планета Сатурн, зведзеная на зямлю перакладнікамі, якія не мелі ніякага разумення ні пра астраномію, ні пра астралогію. Тое ж самае і юнак Пыл, ці Ўмілаваны (Давыд па-жыдоўску).

Само найменне гэтай кнігі «Сьцяг Бога» з’яўляецца проста загалоўкам белетрыстычнага апавядання, нападобе «Месяцовага Каменя» Колінза ці «Вайны і Міру» Таўстога. Толькі з падобнага боку гледжання яе і можна разбіраць крытычна, імкнучыся вызначыць, што ў ёй гістарычна праўдападобнае і што не, што ўдалае і што няўдалае, і ці магчыма з яе дапамогай вывесьці агульную характарыстыку той эпохі, калі гэтая кніга была пісана.

Перадусім, звернем увагу на тое, што як Савул, так і Давыд былі не такімі як астатнія біблейскія цары ў «Кнізе Цары», якія ўзыходзілі на пасад звычайным усходнім шляхам, па спадчыне ці з нагоды заваёвы. Яны былі памазанцамі, г.азн. па-грэцку хрыстамі[153], якім пракокі, заўсёды нечакана для іх саміх, быўшых у той час простымі грамадзянамі, вылівалі на галаву жбаночак лампаднага масла і гэтым асьвячалі іх.

Адзначу, што слова памазанец ужываецца ў Біблії ў дачыненні да сьвятароў увесь час, а ў дачыненні да цароў усяго толькі пяць разоў: гэты звычай быў здзейснены толькі над Савулам, Давыдам, Саламонам, Азаілам (для Краіны правадыра, АШУР) і Іуем (для багазмагальнікаў), і ўсе яны з'яўляюцца не выключна свецкімі валадарамі, а тэакратамі, як чытач ужо мог пераканацца із папярэдняга выкладання. Але калі так, то гэтыя легенды маглі ўзнікнуць толькі пасьля таго часу, калі царква ўжо злучылася з дзяржавай, калі цары ўзбярэжжаў Міжземнага мора атрымалі тытул найсвятлейшых (augustus), г.азн. сьвятых, што, відаць, пачалося ў Рымскай імперыі толькі пад уплывам вулканічнай дзейнасьці Этны і Везувія і прытым ужо пасьля пачатку нашай эры, калі культурны ўзровень насельніцтва на ўзбярэжжах Міжземнага мора быў даволі высокі.

# Глава IV .

## Некалькі слоў пра ўзнікненне Сьвятой Рымскай імперыі.

Ды дазволіць мне чытач завяршыць гэты мой крытычны разгляд зародкавага рамана пра цара Пекла некалькімі заўвагамі агульнага характару, без якіх усё павядомленае засталося б, як карціна без фону.

У падмурку кожнай дзяржаўнай эвалюцыі ляжаць тры фактару: 1) псіхічная эвалюцыя чалавечага арганізма, выяўляючаяся ва ўдасканаленні яго мозгу і ў

[153] У ангельскім перакладзе іх завуць anointed, у французскім oint, у нямецкім Gesalbte

павелічэнні яго ведаў; 2) эканамічная эвалюцыя, грунтуючаяся на развіцці тэхнікі, і 3) грамадзянская эвалюцыя, выяўляючаяся ў аб'яднанні народаў із дапамогай агульнага нармавання ўрадамі іхнай грамадзянскасьці. Кіруючая роля паміж імі заўсёды належыць псіхічнай эвалюцыі, як фактара чыста біялагічнага, узнікшага на зямлі яшчэ да з'яўлення чалавека.

Галаўны мозг жывёлы, а не іхныя рукі і ногі, з'яўляецца ініцыятарам кожнага ўдасканалення ў індывідуальным і грамадзкім жыцці як жывёлы, так і чалавека, але мозг можа ажыццяўляць сваю творчасць, толькі абапіраючыся на ногі і рукі і на ўсе папярэднічаўшыя грамадзкія ўдасканаленні жыцця, таму і эвалюцыя культуры з'яўляецца вынікам узаемадзеяння паміж гэтымі трыма фактарамі. Як дзеля таго, каб выбрацца із грузкага балота, у якім вы загрузлі, вам патрэбна па чарзе абапірацца то на адну нагу, каб выцягнуць крыху іншую, то на другую, каб крыху выцягнуць першую, то дзейнічаць рукамі, каб выцягнуць абедзьве нагі, і нагамі, каб выцягнуць абедзьве рукі, так і ў грамадзкай эвалюцыі даводзіцца па чарзе абапірацца на кожны із трох пералічаных фактараў. Але так як без удзелу сваіх мазкоў вы не зможаце зрабіць мэтанакіраваных рухаў ні рукамі ні нагамі і не выберацеся із балота, а толькі будзеце боўтацца на месцы, так і ў дзяржаўнай эвалюцыі ніводзін народ не зробіць ні кроку наперад без пастаяннага ўдасканалення разумовага органа складаючы яго індывідаў, ці, прынамсі, кіруючай часткі грамадства, і таму зразумела, што ўсе катастрафічныя перавароты ў жыцці вялікіх дзяржаў, якія не маюць сейсмічных нагод, адбываліся толькі тады, калі думаючы орган кіраўнікоў адставаў ад жыцця, зачапіўшыся за састарэлы светапогляд.

Тады непазбежна рана ці позна адбывалася рэвалюцыя, канчатковым вынікам якой заўсёды быў толькі скок наперад, а не пагібель выпрабаваўшых яе народаў.

Цалкам не тое мы знаходзім у сучасных курсах старажытнай гісторыі.

Чытаючы іх, мы бачым, што ўсё яны падзяляюць той жа погляд, які падзяляла геалогія да Чарльза Ляйелля (1797-1875), г.азн. прытрымліваюцца тэорыі пагібельных катастроф, згодна із якой у той ці іншай высока-культурнай краіне раптам ад уласнай унутранай ператомленасьці гінула ўсякая культура, якая пазней узнікала на новым месцы і, замест здзічэўшай папярэдняй краіны, нейкая іншая амаль із самага пачатку паўтара ўсё зробленае ў папярэдняй.

Але ці сапраўды развіццё старажытных народаў падпарадкоўвалася іншым законам, чым сучасных? Мы маем усе падставы не давяраць такому цьверджанню і хутчэй западозрыць няправільнасць уяўленняў пра мінулае жыццё людзей у нашых першакрыніцах і, перш чым паверыць ім, вельмі крытычна праверыць іх.

Перадусім мы павінны вельмі добра ведаць, дзе захоўваліся самыя старажытныя рукапісы нашых першакрыніц па старажытнай гісторыі? Якой вялікай з’яўляецца іхная старажытнасьць параўнальна із падзеямі, пра якія яны паведамляюць? Якім чынам была вызначана старажытнасьць саміх падзей? Вось хаця б кнігі Ціта Лівія, Фукідыда, Тацыта, Плінія, Сакрата-Схаластыка і іншых, із якіх перапісваюць звесткі сучасныя гісторыкі. Іхных старажытных рукапісаў (ды і ўсіх, наогул, маючыхся ў нас гістарычных першакрыніц) нідзе на сьеце не існуе, а часьцей за ўсё існуюць толькі першыя друкаваныя выданні, пры чым рукапісы, із якіх яны друкаваліся, зніклі не пакінуўшы следу, г.азн. амаль бяспрэчна былі знішчаны іхнымі ўладальнікамі пасьля іх надрукавання.

Із гэтага зразумела, што ўладальнікі цалкам не берaглі іх як рэліквіі, пераходзіўшыя із роду ў род... Але гэта магло быць толькі ў тым выпадку, калі самі рукапісы былі вельмі нядаўняга паходжання, і іх не было шкада аддаць у рукі наборшчыкаў, хаця і было зразумела, што тыя іх выпэцкаюць друкарскім чарнілам і папсуюць пры набіранні.

Гэтае псіхалагічнае непагадненне адразу павінна насьцярожыць увагу іхнага дасьледчыка, асабліва пасьля таго, як стала вядома ўсім, хто цікавіўся гэтым пытаннем, пра велізарную колькасць апакрыфічнай літаратуры пад час эпохі Адраджэння і такой жа літаратуры першых стагоддзяў друкарства, паказваючую, што пісьменнікі таго часу выдатна валодалі класічнай грэцкай і лацінскай мовамі, на якіх усё гэта пісалася, і што іхныя уласныя творы немагчыма адрозніць грунтуючыся на складзе ад тых твораў, якія лічацца сапраўднымі.

Вось чаму пры ўзважванні праўдзівасьці першакрыніц я і пачаў тут кіравацца не палеаграфіяй, не даючай аднастайнага почырку для перадавых і адсталых мясцовасьцей таго ж стагоддзя, а галоўным чынам тым, наколькі ўсё выкладаемае ў гэтых дакументах пагадняецца із агульнымі законамі разумовай эвалюцыі чалавецтва, із геафізічнымі і кліматычнымі ўмовамі мясцовасьці, у якой адбываюцца падзеі, із узроўнем мясцовай тэхнікі і ведаў. У перыяд першага скептыцызму, які працягваўся да майго асуджэння па працэсе 193-х на пачатку 1878 года, я ўжо напісаў некалькі артыкулаў па гэтаму пытанню і вынес іх пад падкладкай майго паліто пры вызваленні ў 1878 годзе, але ўсе мае рукапісы былі спалены пазней падчасператрусаў і арыштаў маімі сябрамі, якім я іх аддаваў на захоўванне, ці зніклі невядома куды падчас прыгод майго тагачаснага «нелегальнага» жыцця.

Агульны ж характар выкладзеных у іх ідэй палягаў у тым, што ўсе тры толькі-што названыя эвалюцыі – разумовая, грамадзянская і эканамічная – павінны былі непазбежна прайсьці праз перыяд аўтарытарызму ў такім выглядзе: 1) кожная чалавечая грамадзянскасць, заснаваная на раўнапраўі, павінна была, узнікшы із хаосу індывідуальных імкненняў, папярэдне прайсьці праз сьвецкі дэспатызм; 2) кожная вольная разумовая дзейнасць, заснаваная на самадастатковай крытычнай ацэнцы ўсяго вывучанага кожным асобным розумам, павінна была, узнікшы із хаосу разрозненых і большай часткай хібных звестак, прыйсьці шляхам перамогі адной хібнай тэорыі над усімі іншымі да перыяду духоўнага самаўладдзя (аўтарытарызму) і, толькі пераадолеўшы яго, разумовая дзейнасць магла зрабіцца канчаткова вольнай, і 3) кожная вольная грамадзкая арганізацыя працы, узнікшы таксама із хаатычных індывідуальных вытворчасьцей, павінна была прайсьці праз аўтарытарны, спачатку рабаўласніцкі, потым капіталістычны, лад, запазніўшыся ў гэтым дачыненні, параўнальна із эвалюцыяй двух першых фактараў, менавіта таму, што яна ў адзін і той жа час і іхны дах, і іхны падмурак.

Згодна із гэтай тэорыяй эвалюцыяніруючая чалавечая культура Яўропы, узнікшы, дзякуючы зручным для яе геаграфічным і кліматычным умовам, у Грэцкім Архіпелагу, як калысцы гандлёвага мараплаўства, распаўсюдзілася пазней із аднаго баку на даліну ракі По ў Італіі і на берагі Мармуровага мора, дзе павінна была спачатку абаперціся, галоўным чынам, на жывёлагадоўлю, бо для земляробства ў гэтых краінах не было яшчэ знойдзена зручных спосабаў здабывання із руды жалеза, а без яго яно не апраўдвала выдаткаванай працы, а із другога боку на даліну Ніла, у якой можна было проста кідаць насенне ў прынесены ракой глей і пачаць першапачатковае земляробства. А па-за далінай

Ніла першапачатковае земляробства і садоўніцства павінна было існаваць толькі як дадатак да жывёлагадоўлі, і мучныя прадукты былі ласункам нават і ў той час, калі Кіпр і Гішпанія дасягнулі квітнеючага стану дзякуючы медзяным і алавяным руднікам, стварыўшым «бронзавы век».

Але вось у Сярэдняй Яўропе, каля VII стагоддзя нашай эры, чалавечым геніем была вынайдзена доменная печ для массавага выплаўлення чыгуна із руд і для вырабніцства із яго сталі і жалеза. Яна, відаць, нідзе не была вынайдзена раней гэтага часу, бо мы не маем да таго ніякіх праўдзівых помнікаў, якія б неаспрэчна сведчылі пра ўжыванне жалеза для старажытных пабудоваў ці земляробчых прылад, хаця метэарытнае жалеза і жалеза як каштоўны метал (каштоўней за золата) магло быць вядома і нашмат раней. Гэтая печ, зрабіўшы жалеза і сталь даступнымі для шырокага ўжывання, падняла чалавечую культуру да земляробчай стадыі, і цэнтр яе цяжару перанёсся на ўрадлівыя, пры ўмове добрага ўзворвання глебы, раўніны Сярэдняй Яўропы, на берагі Рэйна і Дуная, і, разам з тым, у Ахене «ў дзень Нараджэння Хрыстова» 25 снежня 800 года» ўзнікла Заходне-Рымская імперыя Карла Вялікага, пасьля таго, як ён прыняў ад папы Ільва III імператарскую карону, а із яе ў X стагоддзі ўзнікла і сьвятая (г.азн. найяснейшая) Рымская імперыя, існаваўшая да 1806 года з мірапамазаным царквой імператарам, як намеснікам бога на зямлі па свецкіх справах, амаль роўным з рымскім папай, хаця б яе сталіцай і не быў Рым. Рым быў цалкам непрыдатным для сусьветнай сталіцы ў стратэгічным дачыненні, тады як былі вельмі прыдатнымі для яе менавіта берагі Рэйна і Дуная з урадлівымі раўнінамі ва ўсім іхным басейне, з добрымі стратэгічнымі шляхамі па ўсяму еўрапейскаму кантыненту для пераплеўня, куды патрэбна, войска, і з блізкасьцю Багемскіх гор, багатых жалезам, срэбрам, свінцом, гранітамі, тапазамі, сапфірамі, рубінамі, як зручнымі прыладамі гандлю. Згадаем, што ў «Маскоўскай Русі» аўстрыйскі імператар меў назву ніяк інакш як цэсар, а Аўстрыя звалася Цэсарыяй. Адтуль жа і нямецкае слова Kaiser.

Такім чынам, ідучы перспектыўна ў глыбіню часоў, ад больш вядомых нам пазнейшых гадоў да менш вядомых даўніх, мы знаходзім, як і патрэбна было б чакаць згодна з геафізічнымі меркаваннямі, цэнтры грамадзянскага аб'яднання народаў шляхам цэнтралізацыі іх палітычнай улады, – адзін на Рэйне са Страсбургам і другі на берагах Дуная са сталіцай у Вене ці Буда-Пешце, з памазанцам боскім, імператарам, маючым тытул найясьнейшага (augustus), г.азн. найсьвяцейшага, і з правамі на сьвятарства. Вось чаму пад час сярэдніх стагоддзяў так званая «Рымская Імперыя» мела ў італійскім Рыме толькі свайго духоўнага памазанца – папу, а свецкі памазанец і цэнтр яго вайсковай улады знаходзіўся вельмі далёка ад яго, спачатку на Рэйне, а пазней на берагах Дуная, на якіх аж да канца вялікай еўрапейскай вайны яшчэ існавала вялікая і складаная самастойная дзяржава Аўстрыя, а ад ранейшай Рымскай імперыі засталася Раманія (Romania), ці па-нашаму Румынія, як пераджытак «першапачатковай Сьвятой Рымскай імперыі». Такім чынам, «жалезны свецкі Рым» Карла Вялікага сапраўды вырас на жалезных рудах Эльзаса і Багеміі і на вынайдзеных у апошняй вялізных даменавых печах для складанага выплаўлення чыгуну, сталі і жалеза, не столькі як матэрыялу для мячоў, колькі як сродак для прывядзення неабсяжных урадлівых раўнін гэтых краін з іхным мяккім кліматам у землябробчы стан.

А духоўны клерыкальны Рым, г.азн. рымска-каталіцкая царква, магутны некалі сваім маральным уплывам, пакуль яго падтрымваў сваім палаючым слупом

яго бацька, Вязувій, застаецца ў выглядзе перажытку і зараз у яго суседстве. Але гэта ўжо цень ранейшай магутнасьці.

Да гэтага часу у нас усё знаходзіцца ў пагадненні з геафізікай і не выклікае сумневаў. У свецкай Рымскай імперыі канца сярэдніх стагоддзяў сталіца была там, дзе ёй і належала быць згодна са стратэгічнымі меркаваннямі, – на берагах Дуная, а рэлігійны цэнтр духоўнай Рымскай імперыі быў там, дзе таксама было для яго цалкам прыдатнае месца, – у Рыме, да якога прывёў на прыканцы III стагоддзя Майсея-Дыяклетыяна, а з ім і Канстанцыя-Давыда слуп полымя і дыму, паднімаўшыся із Вязувія пры яго вывяржэнні.

Гэта азначае, «у дзень Нараджэння Хрыстова 25 снежня 800 года» мы бачым у Ахене не што іншае, як акт фактычнага аддзялення цэнтра свецкай улады ад цэнтра духоўнай, дзякуючы становішчу апошняга ў стратэгічна нязручным месцы, у Рыме. Як толькі Вязувій надоўга замоўк пачынаючы з 512 года, і забабонны жах перад богам Грамабоем, меўшага свайго намесьніка ў Рыме, саслабеў, а ўрадлівыя раўніны Сярэдняй Яўропы пачалі прыносіць вялікія ўраджаі дзякуючы доменным пячам, тады і рымскаму папе нічога не заставалася рабіць, як каранаваць сабе грамадзянскага суўладальніка.

Карл Вялікі менавіта і атрымаў сваё найменне «Вялікі» таму, што жыў не ў Рыме, а ў добрым стратэгічным месцы, дзе ён наладзіў рэйхстаг і адкуль пашыраў школы і цэрквы па краіне і збіраў да сябе навукоўцаў, не менш клапаціўшыся як пра гандаль так і пра прамысловасць.

У яго час Канстантынопаль усё яшчэ быў сталіцай Усходняй Рымскай імперыі, таксама называўшай сябе проста Рымскай, і там валадарыла Ірына, якая аднавіла незадоўга да яго, у 787 годзе, абразашанаванне пасьля перыяду абразаборства пры імператару Ільву, і гэтая Ўсходне-Рымская імперыя мела таксама італьянскі Рым сваім рэлігійным цэнтрам, бо аддзяленне ад яго Ўсходу адбылося толькі ў 1054 годзе, калі Ўсходняя Рымская імперыя (якую на Захадзе пачалі зваць проста Візантыяй) адмовілася прызнаваць сваім вярхоўным кіраўніком папу, жывучага ў аддаленай вобласьці, вулканічныя дзівы якой збольшага спыніліся, а збольшага перасталі выклікаць забабонны жах.

У такім выглядзе мы і назіраем абедзьве «Рымскія Імперыі» ў глыб стагоддзяў да 420 года нашай эры, калі жахлівае вывяржэнне Вязувія мела наступствам анархію ў Італіі і яе заваёву Тэадорыхам Гоцкім.

А што ж было раней гэтага? Раней было нешта незразумелае са звычайнага боку гледжання, разглядаючага «рымскую імперыю», аж да Аркадзя і Ганорыя, у якасьці моцнай вайсковай дзяржавы, таму што яна не магла быць такой да вынаходніцтва даменных печаў, ды яшчэ з цэнтрам у Рыме, нікуды не прыдатным у стратэгічным дачыненні, асабліва для тых часоў.

Цалкам іншая справа, калі мы будзем лічыць, як я гэта зрабіў у другім томе «Хрыста», што гэта была не вайсковая, а клерыкальная дзяржава, маючая падмуркам забабонны жах перад вывяржэннямі Этны і Флегрэйскіх палёў Італіі і перад жыўшым на Вязувіі жудасным богам Грамабоем, які лётаўшым паўсюль на навальнічных хмарах і кідаўшым ўсюды свае маланкі на непакорлівых. Гэты бог Грамабой, у існаванні якога ніхто тады не сумняваўся, мог сапраўды ахоўваць сваіх «памазанцаў» больш надзейна, чым усё жалеза багемскіх рудняў, і яны з невялікімі атрадамі маглі гуляць, дзе пажадаюць, і ўсе сустрэчныя валіліся перад імі ніц, пакуль працягваўся гэты гіпноз.

Аўрэліян, відаць, першы выкарыстаў гэтае забабоннае пачуццё для стварэння магутнай клерыкальнай імперыі, а яго наступнікі дасягнулі незвычайнай магутнасьці, дзякуючы распачаўшайся дзейнасьці Вязувія.

Гэта азначае імперыя Аўрэліяна і Канстанцыя Хлора была клерыкальнай імперыяй. Іхная ўлада была такой жа, як улада папаў, але толькі больш магутнай, таму што ў яе не было канкурэнтаў, і калі дзеля яе падтрымання яны і былі вымушаны ўвесь час падарожнічаць на Ўсход і нават мець рэзідэнцыю ў Канстантынопалі ці Александрыі, то для трыумфаў і каранаванняў прыязджалі ў Італію, і там быў іхны сенат і галоўная маральная падпорка. Але і ў іх час Рым быў толькі маральнай сталіцай падобна таму як гэта існуе і зараз.

Гэта азначае што і аж да Аўрэліяна (270-275) усё ў нас выходзіць натуральна і таму не абуджае, падазрэнняў, але пачынаючы ад гэтага моманту, ідучы ў глыб стагоддзяў і чытаючы аднесеныя туды першакрыніцы, пачынаеш адчуваць, што як-быццам бы з цьвёрдай глебы раптам ступіў на грузкае балота, дзе нехта блукаў ва ўсіх накірунках, шукаючы шлях, але так яго і не знайшоў.

Зразумела толькі адно: калі першы рымскі імператар, з дзіўным імем Гай Юлій Цэзар Актавіян Аўгуст, і яго наступнікі: Клаўдый, Нярон, Веспасіян, Ціт, Даміцыян, Траян, Адрыян і г.д., сапраўды існавалі і не былі чымсьці нападобе рымскіх папаў, якія валадарылі дзякуючы «шанаванню боскаму», а не дзякуючы «магутнасьці зброі», то для таго, каб падтрымліваць сваю ўладу над усімі ўзбярэжжамі Міжземнага мора, яны не маглі мець сталіцай італьянскі Рым, а павінны былі мець сталіцу недзе ў іншым месцы і бясспрэчна на ўсходняй палове Міжземнага мора. Інакш з імі атрымалася б тое ж, што атрымлівалася штораз пазней, як толькі Італія адлучалася ад буйных стратэгічных цэнтраў на Ўсходзе, г.зн. уся імперыя абмяжавалася б адной Апенінскай паўвыспай і знаходзілася б пад вечным жахам сваіх суседзяў. Свецкая імперыя тады, да вынаходніцтва кавання жалеза, эканамічна магла быць заснавана толькі на жывёлаводстве і марскім гандлі. Але для жывёлаводства Пантыйскія балоты Рымскай вобласьці мала прыдатны, а сведчанні сярэднявечных гісторыкаў, быццам у старажытнасьці гэтыя балоты «былі густа населены», супярэчыць стану іхнай глебы, якую не можа асушыць нават сучасная тэхніка і якую тады маглі густа насяляць толькі жабы. А для сусветнага марскога гандлю Рымская вобласць не мае зручных гаваней. Па сушы ж із гэтага кантынентальнага куточка давялося б для падарожжа на заможны Ўсход рабіць штораз крук ледзь ці не праз Швейцарыю. Ды і чым было б адсюль гандляваць? Гэта быў куток зямлі, цалкам непрыдатны для ўзнікнення тут цэнтра сусветнага валадарства ці сусветнага гандлю.

Усё гэтае доўгае адступленне ў гісторыю Сьвятой Рымскай імперыі назад ад 1806 года, калі гэтая назва канчаткова знікла із рэчаіснасьці, зроблена мной, галоўным чынам, для таго, каб высветліць, адкуль і калі ўсталявалася за зямнымі царамі званне памазанцаў боскіх, г.азн. аўгустаў – на лаціне, хрыстоў – па-грэцку і майсееў – па-жыдоўску.

Выключыўшы якія б то ні было фантастычныя экскурсіі ў «глыбокую старажытнасьць», возьмем толькі надзейныя крыніцы, і мы пераканаемся, што гэтая назва бярэ свой пачатак толькі пад час хрысьціянскага перыяду і ўсталявалася толькі з тых часоў, калі імператары Сьвятой Рымскай імперыі езьдзілі са сваіх сталіц у Рым толькі для таго, каб тамтэйшы намесьнік бога памазаў іх на царства пры трубным гуку тамтэйшых вулканаў. І сама імперыя набыла назву «рымская», напэўна, толькі таму, што яе імператары атрымоўвалі адтуль, так бы мовіць,

мандаты ад бога на сваё валадаранне на зямлі, каб быць царамі цароў (ці князёў таго часу).

З гэтага боку гледжання і легенда пра цара Пыла, ці Давыда, як памазанца боскага, магла ўзнікнуць толькі ў той час, калі сьвятары бога Грамабоя і Ўстрасальніка зямлі, жыўшыя каля яго пасада на Вязувіі і Этне, пачалі памазваць імператараў на вярхоўную ўладу.

Якое высокае значэнне надаваў званню цара аўтар кнігі «Боскі Сьцяг» (па-руску другая кніга Цароў), мы бачым із пачатку яе другой часткі, якая выпраўляе паведамленне першай часткі пра тое, быццам бы цар Пекла (Савул) скончыў жыццё самагубствам, кінуўшыся на свой меч, а не быў забіты набліжаным, як Аўрэліян.

*«Прыйшоў чалавек,* – паведамляе яна, – *са стану цара Пекла ў разарваным адзенні і з попелам на галаве і ўпаў на зямлю перад юнаком Пылам.*

*«– Адкуль ты прыйшоў? – запытаў той.*

*«– Выратаваўся ўцёкамі із багазмагальніцкага стану.*

*«– Што там здарылася? Паведамі мне, калі ласка.*

*«– Пабег народ із бітвы, і шмат упала і загінула, нават цар Пекла з яго сынам «Боскі Дарунак».*

*«– Як даведаўся ты, што яны памёрлі?*

*«– Цалкам выпадкова: я прыйшоў на гару, і вось цар налягае на сваю дзіду, а калясьніцы і вершнікі ворагаў наганяюць яго. Азірнуўшыся назад, ён пабачыў мяне і паклікаў: «Падштурхні, калі ласка, мяне і забі. Смяротныя пакуты я адчуваю, а душа яшчэ ў ва мне». Я замахнуўся і забіў яго, бо ведаў, што ён ужо не будзе жывы. Я ўзяў вянок з яго галавы і запясьце з яго рукі і прынёс сюды табе, мой васпан».*

*Атаман Пыл схапіў сваё адзенне і разарваў яго, тое ж зрабілі і быўшыя з ім людзі. Яны ўсе стагналі і плакалі.*

*«– Як ты адважыўся падняць сваю руку на памазанца боскага? – сказаў вестуну Пыл. – Кроў твая на галаве тваёй, твае ўласныя вусны сведчылі супраць цябе, калі ты паведамляў, што забіў памазанца боскага.*

*«Ён паклікаў аднаго са служак і загадаў яму:*

*«– Забі яго.*

*«І памёр вястун» (II, 1-14).*

*«Тады аплакаў Пыл цара; ён засьпяваў такую жалобную песьню:*

*Якая славутасць забіта на тваіх вышынях, багазмагальнік!*
*Як загінулі адважныя! О, горы Швейцарскія*[154]
*Ды не будзе на вас ні расы, ні дажджу, ні палеткаў пладючых!*
*Таму што на вас зганьбаваны гераічны шчыт цара,*
*Як калі б цар не быў памазанцам боскім!*
*Дочкі багазмагальнікаў, плачце пра цара, апранаўшага вас у барвяніцы,*
*І накладаў на вашы ўборы залатыя ўпрыгожванні!*
*Як загінулі адважныя і як загінулі баявыя даспехі» (II, 1, 27).*

Чытач сам бачыць, наколькі ўсё гэта адпавядае рэчаіснасьці. Які старажытны ці новы прэтэндэнт на пасад стаў бы забіваць вястуна, які нанёс апошні ўдар яго сьмяротнаму ворагу і прытым жа пасьля яго ж уласнага прашэння! І хто, атрымаўшы такую вестку, не знайшоў бы лепшага спосабу выказаць сваё гора, як імправізуючы экспромтам жалобную песьню? Я думаю, што нават сам Шаляпін не

[154] גלבע (ГЛВЭ) – Гельвецыя, Швайцарыя.

здагадаўся б выказаць так сваё гора пасьля атрымання ім паведамлення, прыкладам, пра нечаканую сьмерць тэнара Мазіні, стаўшы неадкладна ў трагічную паставу і засьпяваўшы:

*Якая славутасць загінула на тэатральных падмостках!*
*Ды не будзе на іх больш ні расы, ні дажджу і г.д.*

І ці хіба не засмяяліся б усе прысутныя, чуючы гэта?

Але для наіўнага складальніка легенды ўся гэтая псіхалагічная ненатуральнасць заставалася незаўважанай, а для наіўнага сярэднявечнага чытача, не вельмі ўяўляўшага сабе тое, пра што ён чытае, гэтая песьня здавалася нават надзвычай чуллівай:

– Якім ён быў добрым і рахманым, гэты цар Пыл! Пашкадаваў свайго ворага!

Усё гэта, паўтараю зноў, не гістарычная рэчаіснасць, а фантазія. Для нас у ёй мае значэнне толькі стаўленне аўтара да цароў, як да памазанцаў боскіх, як да аўгусьцейшых (вельмі сьвятых) асоб, да якіх ні пры якіх умовах не можа дакрануцца рука простага сьмяротнага, хаця б яны былі вар'ятамі, як само Пекла, і калі б нават самі малілі пра паскарэнне сваёй сьмерці ў перадсьмяротных пакутах! Такое стаўленне да імператараў можа быць патлумачана толькі крайнім жахам перад быццам бы прызначыўшым іх на царства богам Грамабоем і ўстрасальнікам зямлі.

Гэта псіхалогія не старажытных, да-клерыкальных народаў; гэта сярэднявечная псіхалогія.

# Глава V.
## Цар Пыл.
(фантастычны прота-раман пра ўмілаванага цара.)

Пачнём і тут з нашых гістарычных аперцэпцый із жыцця і дзейнасьці Канстанцыя Рудога (Хлора) «вярхоўнага імператара Рымскай імперы», адзначыўшы перадусім, што Канстанцый (па-гішпанску Constante, па-французску Constant) азначае ўстойлівы, тое ж што і Кесар (קשר) па-жыдоўску[155].

Ён быў, – паведамляюць нам сярэднявечныя гісторыкі, – пачынаючы ад 293 года заходнім суваладаром Дыяклетыяна, які жыў на Ўсходзе. У 298 годзе ён перамог алеманаў каля Лангрэ і Віндоніса. Потым стаў вярхоўным імператарам на адзін год (305-306) і памёр у 306 годзе, саступіўшы пасад аднайменнаму з ім сыну Кастусю (Канстанцыю) Вялікаму (абодва найменні па-грэцку азначаюць адно і тое ж: устойлівы, і не разлічаюцца па-жыдоўску, так што ў Бібліі жыццё Кастуся лёгка магло быць палічана працягам жыцця Канстанцыя Рудога, і тады замест года валадарання ў яго атрымліваецца 30 гадоў пасьля сьмерці Дыяклетыяна, ды і пры ім гадоў дзесяць). Згадаем таксама, што перш чым дасягнуць аднаўладдзя, ён павінен быў у 312 годзе (пры Юпітары ў Стральцу і Сатурне паміж Стральцом і Казярогам) завалодаць Італіяй, перамогшы Максенцыя, а потым яшчэ ў 323 годзе (пры Сатурне ў Цяльцы і Юпітары ў Раку) перамагчы непадпарадваўшагася яму Люцынія.

[155] קשר (КШР) – устойлівы (лацінскае Канстанцый), адкуль і слова Кесар, па-італійску Чэзарэ (Cesare), на лаціне Caesar.

Двайнік Канстанцыя Хлора Гай Юлій Цэзар (г.азн. сьвяты боскі цар)[156], апакрыфікаваны у І стагоддзе да пачатку нашай эры, быў спачатку свецка-духоўным пасадзкім суддзёй (aedilis curulis) і потым атрымаў званне прэтара (praetor curulis), што азначала спаведнік, як гэта бачна із захаваўшагася да гэтага часу у італійскай мове слова prete – сьвятар, французскае pretre.

Гэта азначае, Юлій Цэзар быў спачатку асобай духоўнай і прытым самага высокага сану, таму што прэтары, акрамя свайго пасада (seda curulis), насілі яшчэ белую мантыю з пурпуровай аблямоўкай, якая мела назву toga praetexta, і два ліктары несьлі перад імі, пры выхадзе ў горад, пучкі дубцоў з сякерамі, утыкнутымі ў сярэдзіну ў адзнаку улады караць грэшнікаў і злачынцаў, і шэсць такіх жа ліктараў суправаджалі іх пры падарожжах у правінцыю. Пры ўступленні на пасад кожны прэтар выдаваў свой эдыкт (г.азн. булу) цалкам так жа, як і рымскія папы да апошняга часу, і збор гэтых бул пазней утварыў кодэкс прэтарскага права (jus praetorium). Такім быў спачатку Юлій Цэзар, якога я атаясамляю, грунтуючыся на астранамічных вылічэннях нябесных падзей пры яго жыцці, з Канстанцыям Хлорам. Яго ж я (пасьля шматлікіх ваганняў) схільны лічыць і падмуркам для стварэння легенды пра цара Пыла (Давыда), тым больш, што на момант сьмерці Сулы-Савула Юлію Цэзару было толькі дваццаць два гады, а яго наступнікам быў Актавіян Аўгуст, адпавядаючы Кастусю І[157].

Такім чынам, Юлій Цэзар, перш чым стаць свецкім правадыром народа, быў спачатку (як і Майсей) сьвятаром (pretre). Потым ён атрымаў званне «Суцяшальнік», console па-італійску, адкуль і ўтварылася пазней лацінскае слова consulus, тады як у сябе на радзіме, у Італіі, гэта званне і да гэтага часу мае сэнс простага «суцяшальніка»[158].

Як сімвал улады суцяшаць перад боскім царом (г.азн. Юліям Цэзарам) цара суправаджалі пасьля прызначэння ў «Суцяшальнікі» ўжо не два, а дванаццаць ліктараў з пучкамі дубцоў, у якія былі ўстаўлены дванаццаць сякер, хутчэй за ўсё адпавядаючыя колькасьці дванаццаці народаў імперыі і колькасьці дванаццаці знакаў Задыяка. Адпаведна таму, як Канстанцый Хлор кіраваў імперыяй у суваладаранні з Дыяклетыянам і Галерыем Максіміянам[159], так і Юлій Цэзар у суваладаранні з Пампеем і Красам.

Адпаведна заваяванню Канстанцыям Хлорам «алеманаў», г.азн. французскіх немцаў, Юлій Цэзар таксама далучае Францыю, двойчы пераходзіць праз Рэйн і нават наведвае Брытанію. Пры ім жа Сазіген абвяшчае Юліянскі каляндар.

Пасварыўшыся з Пампеем, – паведамляе нам паданне, – ён перамог яго прыхільнікаў у Грэцыі на беразе Эгейскага мора, у Гішпаніі і ў Афрыцы; прызначыў Клеапатру ягіпецкай царыцай пад верхавенствам Рыма, усынавіў сына сваёй сястры Гая Актавіяна і, нарэшце, 15 сакавіка быў забіты «Быдлам і Дрэнню»[160]. Але ўжо самі імёны забойцаў вымушаюць сумнявацца ў тым, каб гэта былі людзі, а не звяры. А што да цара Пыла-Давыда: я зараз лічу, што ў першай кнізе «Сьцяг Бога» гэта адна із гістарычных аперцэпцыі Юлія Цэзара (Канстанцыя

---

[156] АЛЕ (אלה) – бог, грэцкае Эліяс-Феб.

[157] Гл. «Хрыстос». Першая кніга, ч. III, гл. III.

[158] Consolare – суцяшальнік, а consolato – азначае адразу і суцешаны і консульства.

[159] Пры гэтым Максіміян дзякуючы непаразуменню адлучаны ад Галерыя ў асобнага суваладара пад імем Marcus-Aurelius-Valerius-Maximian, а за Галерыем пакінуты найменні Gaius-Aurelius-Galerius-Maximian, і такім чынам із трыўмвірата зроблены тэтравірат.

[160] Брутам і Касіем, пры гэтым Bruto па-італійску і зараз азначае быдла, а Casso – дрэнь, нікчэмнасць, вульгарна – гаўно.

Хлора), як суваладара Дыяклетыяна, таму што ўсё, што я ўжо паведаміў пра яго ваяўнічасць, адпавядае гэтай здагадцы. А ў другой кнізе «Сьцяг Бога», складзенай незалежна ад першай і толькі злучанай з ёю літаратурным пераходным мастком, цар Пыл спісваецца ўжо, як-быццам бы замест Канстанцыя, з ішоўшага за ім Кастуся Вялікага. Як і апошні, ён усталёўвае сьвятарства і алтар запавету ў горадзе Сьвятога Замірэння каля падэшвы Вязувія, і яго горад спачатку меў назву Вюз, ці Івіс (IE-BIC), адкуль і назва бога Грамабоя Je-Vis (скарочана IEBE), а таксама і слова Візантыя, якое пашырылася пазней на ўсю Ўсходнюю імперыю. А легенда пра тое, што такое найменне меў горад – папярэднік Канстантынопаля і на тым жа месцы і быў заснаваны быццам бы «за 658 гадоў да пачатку нашай эры нейкім Візантам (Bysantus), сынам Пасейдона, бога мора, правадыром перасяленцаў із Мілета», – вядома, не мае для нас гістарычнага значэння.

Ён таксама перамагае германцаў, якія ў Бібліі маюць назву готы (ГТ – адкуль слова гатычны стыль), спачатку робіць сваёй мяжой «Міц-Рымскую раку», г.азн. сучасную раку По ў Ламбардыі (старажытны Эрыдан-Ярдан), потым даводзіць мяжу да ракі Дубец (ПРТ), якую назву, напэўна, меў увесь Дунай, а не адзін яго прыток, захапіўшы перад гэтым горад Дынастычнага Кіравання (Дамаск – Будапешт ці Вену). Сем гадоў ён валадарыў у Хеб-Роне і трыццаць тры – у горадзе сьвятога Замірэння (Вюзе-Вязувіі).

Разгледзім жа і другую частку паданняў пра яго, складаючыя другую кнігу «Сьцяга Бога». Перадусім мы знаходзім у ёй відавочна астральнае месца, дзе нябесная з'ява ўключана ў яго біяграфію.

*«– Ці ўступіць мне ў богаславячы горад* (у Авена)*?* – пытае Марс (сімвалізуючы Давыда), падобна Юлію Цэзару, маючаму намер перайсьці праз Рубікон.

*«– Уступі, – адказаў яму Грамабой.*

*«– Куды ісьці?*

*«– Да Сяброў* (Двайнят)[161] (II Сам., 2, 1).

*«А тым часам Бацька Сьвета, сын Ззяння, правадыр войска цара Пекла* (Сатурна), *узяў Сарамотніка[162], сына Пекла* (сузор'е Скарпіёна), *і ўцараваў яго* (як Максенцыя) *у месцы Прыпынку[163] над усімі богазмагальнікамі* (сонца каранавала сабой гэта сузор'е ў Лістападзе)» (Сам. 44, 2, 10, 11).

Адбылася бітва паміж абодвума царамі з рамантычнымі падрабязнасьцямі (у сімвале полымямёта гемінід адбыўшагася тады 18 лістапада юліянскага стылю, зараз 10 снежня новага стылю) і з размовамі. Спачатку дванаццаць юнакоў біліся адзін з адным парамі (у сімвале Двайнят) і разам усадзілі нажы (метэарыты) адзін аднаму ў бакі, а потым богаславячыя ваяры цара Пыла цалкам пабілі багазмагальнікаў, страціўшы толькі 20 чалавек, тады як багазмагальнікі страцілі 360, адпаведна колькасьці градусаў у акружнасьці неба (II Сам., 2, 31).

Потым «Вазнічы і Бараздзячы (Цяля), вайскавыя правадыры Сарамотніка, зайшлі ў яго сядзібу, як бы з мэтай купіць пшаніцы, падчас паўдзённай спёкі, калі той спаў, і адсеклі яму галаву ў ложку (вечаровае сонечнае зацьменне ў Тыльдзе, якраз пад адсечанай галовай Мядузы, адбылося 6 траўня 319 года, пры чым сонца ў Рыме зайшло адрэзаным месяцам на 5/6 свайго дыяметра), «Яны ішлі з галавой усю

---

161 חברנה (ХБРНЕ) – супольнасць, сябры, натоўп, сузор'е Двайняты.

162 Гэта арыгінальнае падвойнае імя איש־בשת (АЙШ-БШТ) – муж Сораму, пераіначана тэолагамі-перакладчыкамі ў Евасфея, невядома чаму.

163 מחנים (МХНІМ) – прыпынак.

ноч і прынесьлі яе (у выглядзе ўзышоўшай галавы Мядузы) да цара Пыла (у сузор'е Авена, сядзібу Марса, ўзышоўшае на світанні, дзе быў і сам Марс) са славамі:

*«– Вось галава ворага, шукаўшага тваёй душы.*

*«– Жывы Грамабой, выратаваўшы маю душу ад усіх бедстваў – адказаў ім цар Пыл. – Але калі вястуна пра сьмерць цара Пекла я забіў, то яшчэ ахвотней я зраблю так з людзьмі, якія забілі нявіннага чалавека ў яго ложку.*

*«Ён загадаў сваім служкам забіць іх, адсекчы ім рукі і ногі і павесіць каля сажалкі Сяброў, а галаву Сарамотніка пахаваць у магільні Бацькі Сьвета»* (II, 4, 12).

І вось, – працягвае легенда, пераскокваючы ад нябеснага да сімвалізуемага ім зямнога, – старэйшыны багазмагальнікаў «зноў памазалі юнака Пыла ў цары над усімі дванаццаццю багазмагальніцкімі народамі (II, 5, 1). Ён ішоў усё далей і вышэй, узяў яшчэ шмат наложніц і жонак, і бог нябесных ваярстваў (планета Марс)[164] ішоў разам із ім» (II Самуіла, 5, 10).

Мы бачым тут, як цар Пыл, пачаўшыся астральна ў выглядзе планеты Марс, пачаў у гэтай чароўнай казцы ператварацца ў легендарнага зямнога цара, якога гэтая планета толькі апякавала, да гісторыі якога пачалі дамешвацца дэталі із біяграфіі жыўшага у гэты час лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкага імператара Кастуся І, замяніўшага як у сне ў другой кнізе «Сьцяг Бога» аднайменнага із ім Канстанцыя І. Далей гэты працэс учалавечвання Марса працягваецца яшчэ глыбей.

Вось, прыкладам, апавяданне згодна з духам Мапасана:

*«Пры наступленні новага года* (г.азн. у сакавіку, месяцу Марса), – працягвае гэтая састаўленая легенда, – *калі цары выходзяць на вайну, цар Пыл падняўся пад вечар са сваёй ложка і, гуляючы па даху сваёй сядзібы, пабачыў адтуль купаючуюся жанчыну* (у сімвале Венеры пасярод сузор'я Рыб?) *вельмі прыгожую з выгляду, на імя Сьвятлана із Сямі*[165]*, дачку боскага народа*[166]*, жонку боскага Світання*[167]*. Ён выправіў пасланнікаў прывесьці яе да сябе, і спаў з ёю гэтую ноч, а потым яна вярнулася ў сваю сядзібу і праз некаторы час выправіла паведаміць яму:*

*«– Я цяжарная»* (Венера перайшла ў сузор'е Двайнят).

Што яму патрэбна было рабіць? Ён пажадаў усё ўладкаваць так, каб Сьвітанак, яго вайсковы правадыр, падумаў, што гэта яго ўласнае дзіця.

Ён выправіў за ім, быўшым у паходзе, і, распытаўшы яго, калі ён з'явіўся, пра ход войны, загадаў:

*«– Ідзі зараз да тваёй жонкі і памый дома ногі».*

*Але Сьвітанак не пайшоў да жонкі, а параначаваў каля ўваходу ў палац цара, разам з яго служкамі.*

*«– Хіба не з дарогі ты прыйшоў? – сказаў яму цар на наступную раніцу. – Чаму ж ты не пайшоў дахаты?*

*«– Клянуся тваім жыццём, – адказаў яму Сьвітанак Грамабоя, – я не зраблю такога ўчынку. Ці магу я ісьці ў сваю сядзібу, каб піць, есьці і спаць са сваёй жонкай, у той час як багазмагальнікі і богаслаўцы знаходзяцца ў паходных намётах?*

---

[164] Па-біблейску אלהי־צבאות (АЛЕІ-ЦБАУТ) – Бог Ваярстваў.

[165] בר־שבע (БР-ШБЭ) – Светлая Сядміца, ці стэп сямі.

[166] אלי־עם (АУР-ЭМ) – бог народа.

[167] אור־יה (АУР-ІЕ) – сьвітанак бога Грамабоя.

*«– У такім разе пабудзь у горадзе яшчэ і сёння, – загадаў яму цар Пыл. – А заўтра раніцай выпраўляйся.*

*«Ён запрасіў яго да свайго стала і напаіў да-ап’янення. Але Сьвітанак усё ж не пайшоў да жонкі, а пераначаваў са служкамі цара».*

Як бачыць чытач, хітры захад выдаць свайго дзіцёнка ад Сьвятланы за дзіцёнка Сьвітанка не меў поспеху. І вось цар Пыл (ён жа набожны Давыд) прыдумляе такі, цалкам ужо не астральны, спосаб выйсьця са свайго няёмкага ў дачыненні да служкі становішча. Ён перадаў з ім жа ліст свайму галоўнакамандуючаму ў паходзе, Багабацьку[168], у якім напісаў яму:

*«– Пастаў яго на месца самай жорсткай бойкі, і потым усе адыдзіце ад яго, каб ён загінуў».*

*Так і было зроблена, і пасланнік Багабацькі неўзабаве напісаў цару Пылу:*

*«– Мы гналіся за тваімі ворагамі да брамы іхнага горада, а іхныя стралкі стралялі ў нас са сьцяны.*

*«Так загінуў Сьвітанак із готаў»* (тлумачыць аўтар, каб яго замежнае паходжанне менш бянтэжыла чытача)[169].

*«– Перадай Багабацьку, – загадаў цар Пыл пасланніку, – каб ён не лічыў гэтую падзею за бяду. Меч ворага ўражвае то аднаго, то другога».*

*«А калі прайшоў час жалобы ва ўдавы Сьвітанка, цар Пыл загадаў забраць яе ў сваю сядзібу* (Марс лёг спаць, г.азн. зайшоў побач з Венерай), *і яна стала яго жонкай»* (II Сам., II, 27).

Чытач бачыць сам, што калі тут купанне красуні ды і само яе імя «Сьвятлана сярод Сямі» ўзяты із астралістыкі, то ўсё заканчэнне апавядання вельмі падобна на тое, што рабілі ў такіх выпадках даўнейшыя валадары са сваімі вернымі служкамі. Тут падмосткі падзей рамана як быццам бы пераходзяць з неба на зямлю, і толькі калі нікалі зноў падымаюцца на неба. Цар Пыл – першапачатковы Марс, а зараз толькі апякуемы ім Кастусь I, – пачынае малявацца не адважным ваяром, як у першай кнізе «Сьцяг Бога», дзе ён спісаны яшчэ із Канстанцыя I, а тыповым крывадушнікам, таемна пасылаючым, з аднаго баку, на забойства вернага яму служку а з іншага перад усімі загадваючым, пакараць сьмерцю тых, хто «адважыўся падняць руку на памазанніка боскага», хаця б і лютага свайго ворага, і спяваючым над ім, як дрэнны актор, жалобную песьню, хаця у глыбіні душы ён і не мог не радавацца яго зьнікненню са сьвету жывых.

Аднак, гэтым разам і Грамабой не ўхваліў яго.

*«Прарок на імя Паставаўленік, – працягвае далей другая кніга «Сьцяг Бога» (12, 1), – прыйшоў да яго і сказаў:*

*«– У адным горадзе былі два чалавекі – заможны і бедны. У заможнага было шмат авечак, а ў беднага нічога не было, акрамя адной авечкі, якую ён выгадаваў са сваімі дзецьмі. Адзін кавалак яна з ім ела, з аднаго кубка піла, спала на яго грудзях і была яму як дачка. Але да заможнага чалавека прыйшоў госць, і ён пашкадаваў пачаставаць яго сваімі авечкамі, а забраў авечку ў беднага чалавека.*

*«– Жывы Грамабой! – усклікнуў, разгневаўшыся, цар. – Гэты чалавек павінен быць пакараны сьмерцю, а за авечку ён павінен аддаць чатыры.*

---

[168] יו־אב (ЙУ-АБ) – Бог-бацька.

[169] חת (ХТ) – жах, тое ж што גת (ГТ) – гот. Я лічу гэтае найменне за назву готаў, таму што дапасую час апавядання да V ці VI стагоддзяў нашай эры, тым больш, што далей (II Самуіла, 15, 18-19) Давыда супраўваджае атрад замежнікаў готаў (גת), дзе ח ужо заменена на ג.

*«– Ты гэты чалавек, – адказаў яму Паставаўленік, – і таму не адступіцца меч ад тваёй сядзібы вавек. Так кажа Грамабой: як ты ўзяў жонку Сьвітанка, так я вазьму тваіх жонак і аддам твайму суперніку, і ён будзе спаць з імі відавочна, перад сонцам.*

*«– Зграшыў я перад Грамабоем, – прамовіў раскаяўшыся цар Пыл.*

*«– За тваё раскаянне, – адказаў той, – Грамабой даруе табе твой грэх. Але сын, які нарадзіўся ў цябе ад яе, неадменна памрэ».*

Пастаўленік пайшоў дахаты, а дзіцё адразу цяжка захварэла.

І вось цар Пыл робіць вельмі арыгінальны ўчынак:

*«Ён пачаў маліцца за дзіцёнка, пасьціўся, праводзіў ночы лежачы на голай зямлі, не жадаў паднімацца, не звяртаючы ўвагі на перакананні. Ён нічога не еў, так што, калі на сёмы дзень дзіцё памёрла, служкі думалі:*

*«– Як яму паведаміць? Будзе з ім бяда!».*

*Але, заўважыўшы, што служкі шэпчуцца, цар зразумеў у чым справа..*

*«– Напэўна памёр дзіцёнак? – запытаў ён.*

*«– Памёр. – адказалі яму».*

*І ён адразу падняўся з зямлі, памыўся, намазаўся маслам, перамяніў адзенне і пайшоў памаліцца ў сядзібу Грамабоя, а вярнуўшыся, загадаў падаць сабе ежу.*

*«– Што азначае, што ты робіш такія ўчынкі? – запыталі яму служкі. – Калі дзіцёнак быў жывы, ты пасьціўся і плакаў, а калі ён памёр, ты падняўся паесьці.*

*«– Я тады спадзяваўся, – адказаў цар Пыл, – што Грамабой злітуецца нада мной і пакіне дзіцёнка жывым. А зараз, калі дзіцёнак памёр, навошта мне пасьціць? Ці магу я вярнуць яго?*

*«Ён пайшоў, суцешыў Сьвятлану Сямі, праспаў із ёю гэтую ноч, і яна нарадзіла яму* (у сімвале Юпітара, праходзіўшага праз Панну ў 520 годзе) *другога сына, якога назвала Міратворац* (Саламон па-біблейску). *Яго ўмілаваў Грамабой і даў яму праз свайго прарока Паставаўленіка імя Давідзій, г.азн. Умілаваны Грамабоем*[170]*»* (II Сам., 12,25).

Так белетрыстычна нарадзіўся ад чужой жонкі трэцці і апошні із легендарных агульна-багазмагальніцкіх цароў, знакаміты Саламон, якому згодна з легендай было наканавана пабудаваць зямны храм богу Грамабою, а да яго, відавочна, маліліся пад адкрытым небам.

*У той жа самы час галоўнакамандуючы Давыда «Бога-бацька» захапіў горад паганцаў*[171]*, прыжытых згодна з легендай Лотам-Лаціняніням ад адной із яго дачок, і прысудзіў іх быць пільшчыкамі, малатабойцамі, дрывасекамі з жалезнымі сякерамі і пасылаў іх у печ для абпальвання цэглы»* (II Сам., 12, 31).

Тут змест апавядання характэрызуе ўжо такі час яго стварэння, калі із руды выплаўляўся не толькі чыгун, але і кавальная сталь.

А ў сямействе цара Пыла адбылася ў гэты час новая непрыемнасць, якую цяжка патлумачыць астралістікай.

*«Сын цара Пыла – Дамова*[172] *– завабіў да сябе падманам Пальму, сястру свайго брата Заспакаіцеля Людзей (Авесалома), згвалтаваў яе і адразу пасьля гэтага зненавідзеў яе вялікай нянавісьцю і сказаў:*

---

[170] ידידיה (ДЗІД-ІЕ) – Умілаваны Грамабоя.

[171] עמון (ЭМУН) – ад кораня עם (ЭМ) – народ. Мне здаецца, гэта тое ж самае, што евангельскае έθνοι (этнай) – паганскія народы.

[172] אמנון (АМНУН) ад אמנה (АМНЕ) – дамова.

*«– Падніміся! Ідзі прэч!*

*«– Няма нагоды праганяць мяне, – адказала яна яму, – і гэтым павялічваць зло, якое ты прычыніў мне.*

*«Але ён не пажадаў яе слухаць і, паклікаўшы прыстаўленага да яго служку, загадаў:*

*«– Прагані, калі ласка, гэтую ад мяне прэч і замкні за ёю дзьверы.*

*«Выведзеная Пальма пасыпала попелам сваю галаву і, разадраўшы быўшае на ёй доўгае адзенне, якое насілі царскія дочкі, з гучным плачам пайшла, паклаўшы рукі на сваю галаву. Цар Пыл моцна засмуціўся, а брат Пальмы Заспакаіцель Людзей не сказаў «Дамове» ні благога, ні добрага, хаця і зненавідзеў яго. Але вось праз два гады, калі ў яго стрыглі авечак, ён наладзіў баляванне і запрасіў на яго і «Дамову», сказаўшы служкам:*

*«– Гледзіце, калі ласка! Калі развесяліцца ад віна яго сэрца, забіце яго і не бойцеся: я загадваю гэта! Умацуйцеся і будзьце адважнымі.*

*«Служкі так і зрабілі, а ўсе астатнія царскія сыны падхапіліся і збеглі. Ды і сам Заспакаіцель Людзей, адпомсьціўшы за сваю сястру Пальму, збег у горад Мост і прабыў там тры гады, чакаючы таго часу, калі цар Пыл суцешыцца пасьля сьмерці сына і перастане думаць пра пакаранне»* (II Сам., 13, 39).

*«І вось жанчына на імя Парука прыйшла да цара і ўпала перад ім тварам на зямлю.*

*«– У тваёй рабыні, – сказала яна* (падобна фігураваўшаму перад гэтым прароку – Паставаўленіка), *– было два сына. Яны пасварыліся ў полі і не было каму іх разбараніць, і вось, адзін забіў другога. Усе мае родныя паўсталі на мяне, кажучы: «выдай братазабойцу, каб мы знішчылі яго за душу брата». Але яны загасяць гэтым у мяне апошні застаўшыся вугаль і не пакінуць майму чалавеку нашчадка на твары зямлі.*

*«– Ідзі дахаты, – адказаў ёй цар, – і хай прывядуць да мяне таго, хто абвінавачвае цябе. Жывы Грамабой! Не зваліцца і воласу з галавы твайго сына».*

*А жанчына сказала яму:*

*«– Калі ты так думаеш, то чаму ж не вяртаеш і свайго выгнанніка?*

*«– Ці не дзейнічае ў гэтай справе праз цябе сябар майго сына, Боскі-Бацька? – запытаў яе цар Пыл, ведаючы, што яго вайсковы правадыр блізкі з Заспакаіцелем Людзей.*

*«– Сапраўды так. Ён уклаў гэтыя словы ў мае вусны, – адказала яна. – Я бачу, што васпан мой мудры, як анёл боскі, і ведае ўсё, што адбываецца ў краіне.*

*«Тады цар Пыл вярнуў свайго сына* (у сімвале Юпітара, побач з якім прайшоў Марс у 304 годзе ў Цяляці) *і, пацалаваўшы, дазволіў яму жыць як раней».*

Але тут адбылося нешта неспадзяванае.

Вернуты Заспакаіцель Людзей «завёў сабе калясніцы з коньмі і пяццюдзесяццю скараходамі». Ён паднімаўся рана, станавіўся каля ўваходу ў гарадзкую браму, распытваючы пра справы кожнага прыходзіўшага са скаргай да цара, і «супакойваў» яго даволі арыгінальна.

*«– Ты праўду кажаш, – дадаваў ён на прыканцы, – але няма каму выслухаць цябе ў цара. Ах, хто прызначыць мяне судзіць у гэтай зямлі, каб кожны, меўшы цяжбу ці скаргу, прыходзіў да мяне, і я б выказаў яму справядлівасць!*

*«І калі хто выказваў жаданне пакланіцца яму, ён падхопліваў яго рукой і цалаваў. Такім спосабам ён схіляў да сябе сэрцы багазмагальнікаў»* (II Сам. 14,6).

*«Потым ён* (праз год) *сказаў цару:*

*«– Дазволь мне пайсьці да «Таварышаў» выканаць там маё абяцанне Грамабою.*

*«– Ідзі з мірам, – адказаў цар.*

*Заспакаіцель Людзей пайшоў* (г.азн. перайшоў у Двайняты, як было ў 303 годзе) *і выправіў выведнікаў да ўсіх дванаццаці народаў богазмагальніка паведаміць:*

*«– Калі пачуеце гук трубы* (у сімвале пазнакі ці месяца ў маладзіку), *абвясьціце: зацараваў Заспакаіцель Людзей.*

*«І вось адзін вястун прыйшоў да цара Пыла і паведаміў, што сэрцы багазмагальнікаў схіляюцца да яго сына.*

*«– Паднімемся і збяжым! – сказаў цар сваім служкам у Горадзе Сьвятога Замірэння. – Інакш нам не выратавацца».*

*Ён выйшаў пешшу з усімі сваімі прыхільнікамі, пакінуўшы толькі дзесяць сваіх жонак-наложніц у аддаленай сядзібе* (дробных зорачак у «Яслях» Рака?) *для дагляданне за сваім палацам. Пры ім былі ваяры із крыцян*[173] *і скараходы, а наперадзе шэсць соцень чалавек готаў*[174].

*«– Для чаго ты ідзеш з намі?» – запытаў ён іхнага правадыра, гота Плуга* (у сімвале Вознічага?). *– Вярніся і застанься з новым царом, таму што ты замежнік. Ты можаш нават ісьці да сябе на радзіму. Ты толькі ўчора прыйшоў, і ці магу я сёння загадаць табе ісьці з намі?*

*«– Жывы Грамабой і васпан, мой цар! – адказаў Плуг. – Куды б ты ні пайшоў, на жыццё ці на сьмерць, там буду і я, твой служка.*

*«Усе мясцовыя жыхары і ўсе праходзячыя плакалі* (у сімвале Пляяд?) *гучным голасам, калі цар пераходзіў Каламутны Струмень*[175] *на шляху да стэпу»* (15, 23).

*«Але калі яны дайшлі да месца Выпрабаванняў*[176]*, адтуль выйшаў чалавек із родных цара Пекла, на імя Паслушнік*[177] (сузор'е Малога Сабакі?), *які пачаў лаяць яго.*

*«– Прэч, прэч, крыважэрны, нягодны чалавек! – загаварыў ён. – Грамабой павярнуў зараз на тваю галаву ўсю кроў рода Пекла, замест якога ты запанаваў! Ён аддае цябе ў рукі твайго сына! Вось табе за злосць і крыважэрнасць!*

*«– Навошта лае гэты здохлы Сабака майго васпана? – сказаў цару «Ратавальнік», сын Цясьніны Грамабоя* (Арыён), *– дазволь мне пайсьці і зняць яму галаву.*

*«– Хай лаецца, – адказаў яму цар Пыл, – магчыма, гэта загадаў яму Грамабой. Вось і сын мой квапіцца на маё жыццё. Тым больш гэта можа рабіць чалавек із роду Сына Сьмерці».*

*І ён пайшоў па схілу горы далей, а Паслушнік ішоў побач, праклінаючы і кідаючы ў яго збоку камянямі і абсыпаючы пылам.*

*Тым часам, Заспакаіцель Людзей прыйшоў у Горад Сьвятога Замірэння разам са сваімі дарадцамі – адным Безсэнсоўным*[178] *і другім Чулым, таемным шпегам, падасланым да яго царом Пылам.*

---

[173] כרתי (КРТІ) – крыцяне.

[174] גת (ГТ) – гот.

[175] כדרון (КДРУН) – цёмны, каламутны, зацьменне.

[176] בחר (БХР) – выпрабавацель.

[177] שמעי (ШМЭЙ) – прыслухоўваючыся, падслухоўваючы і שמעין – Сымон.

[178] אחי־תפל (АГІ-ТФЛ) – брат Безсэнсоўнасьці.

*«– Зайдзі да наложніц твайго бацькі, якіх ён пакінуў для нагляду, – сказаў Безсэнсоўны. – Калі пачуюць багазмагальнікі, што, дзякуючы такому ўчынку, ты стаў сьмяротна ненавісным для твайго бацькі, тады яны супакояцца, і падужэюць рукі тых, хто ідзе за табой!*

*«І вось служкі Заспакаіцеля Людзей раскінулі для яго намёт на даху той сядзібы, і ён зайшоў у яе да наложніц свайго бацькі перад вачамі ўсіх багазмагальнікаў, таму што парады, якія даваў у той час Безсэнсоўны, лічыліся як бы загадамі самага Грамабоя»* (II Сам., 16, 23).

*«– Дазволь мне выбраць 12 000 ваяроў, – сказаў пасьля гэтага Безсэнсоўны. – Я паганюся за тваім бацькам ноччу і навяду на яго такі жах, што разбяжыцца ўвесь яго народ. Але я заб'ю толькі яго аднаго, і тады ўвесь народ супакоіцца».*

*Гэтая парада была слушнай ў вачах усіх багазмагальніцкіх старэйшын. Аднак, Заспакаіцель Людзей сказаў:*

*«– Паклічце яшчэ, калі ласка, Чулага, каб нам паслухаць, што скажа і ён.*

*«– Не добрай гэтым разам з'яўляецца парада Брата Безсэнсоўнасьці, – адказаў той* (таемна падасланы царом Пылам). *– Ты ведаеш свайго бацьку і яго ратнікаў. Яны адважныя і прытым раззлаваныя, як мядзведзіца, якая лютуе ў полі праз забраных у яе дзяцей. Да таго ж бацька твой майстэрскі ваяр і хаваецца ў нейкай цясьніне. Тады і самы адважны, у якога сэрца як у ільва, разгубіцца перад ім. Я раю табе неадменна сабраць усіх багазмагальнікаў у такой колькасьці, як пясок каля мора, і самому ісьці ў бітву. Тады мы наступім на яго, як падае раса на зямлю, і не пакінем у жывых ні яго, і нікога із яго людзей.*

*«– Прапанова Чулага лепшая за параду Безсэнсоўнага, – сказалі багазмагальнікі».*

*А Грамабой ужо прыняў рашэнне разбурыць добрую параду Безсэнсоўнага і навесьці бяду на сына цара Пыла.*

*Якраз у гэты час каля крыніцы Рэгула*[179] *стаялі Бога-дар*[180] *і Сьветач, шпегі цара Пыла. Іх заўважыў адзін юнак і паведаміў Заспакаіцелю Людзей. Але калі яго пасланнікі выправіліся за імі, шпегі спусьціліся ў студню ў двары аднаго жыхара ў месцы Выпрабаванняў, а яго жонка разаслала посьцілку над вусьцем студні і яшчэ насыпала на яе крупы, каб не было падазрона.*

*«– Дзе Богададзены і Брат Сьвету? – запыталі яе пасланнікі Заспакаіцеля.*

*«– Пайшлі далей за вадаём, – адказала яна».*

*Яны пашукалі іх там, але не знайшлі і вярнуліся ні з чым у Горад Сьвятога Замірэння. А тыя выйшлі са студні і паведамілі пра ўсё цару Пылу. Ён тады перайшоў за Раку Сходзячых яшчэ да сьвітання і не засталося із яго служак ніводнага не перайшоўшага. А Безсэнсоўны дарадца, пабачыўшы, што не выконваецца яго парада, засядлаў асла, паехаў дахаты і, прыгатаваўшы тэстамент, павесіўся»* (II Сам., 17, 23).

*«Цар Пыл агледзеў людзей, якія былі з ім, прызначыў над імі правадыроў і ротных і выступіў у поле супраць багазмагальнікаў. Бітва адбылася каля Аф-Рымскага лесу*[181]*, багазмагальнікі былі пераможаны богаслявячымі з вялікай перавагай. Іх загінула дваццаць тысяч, і больш народу загубіў лес, чым меч. Заспакаіцель Людзей седзячы на лашаку сустрэўся са служкамі цара Пыла, і калі*

---

[179] רגל (РГЛ) – нага цалкам і ў прыватнасьці зорка Рэгул (царок) у сузор'і Ільва.

[180] ריהו־נתן (ІЕУ-НТН) – богададзены.

[181] אפרים (АФРІМ) ці множны лік ад אפר (АФР) – попел, пакрывала шыі, ці אף־רים (АФ-РЫМ) – напышлівы Рым.

*лашак прабягаў пад галінамі вялікага дуба, яго валасы зачапіліся за галіны, і ён павіс паміж небам і зямлёй, а лашак пабег далей»* (II Сам., 18, 10).

*«– Я бачыў, што Заспакаіцель Людзей вісіць на дубе, – паведаміў Боскаму Бацьку адзін із яго людзей.*

*«– Чаму ж ты не забіў яго і не скінуў на зямлю? Я даў бы табе за гэта дзесяць срэбранікаў і адзін пояс.*

*«– Хаця б я атрымаў у маю руку тысячу срэбранікаў, я і тады не падняў бы маёй рукі на сына цара, бо мы чулі, як ён гаварыў: «пашкадуйце мне юнака Заспакаіцеля».*

*«– Не буду марнаваць час на размовы з табой, – адказаў яму Боскі Бацька і, узяўшы ў свае рукі тры стралы, усадзіў іх у сэрца Заспакаіцеля Людзей, калі той быў яшчэ жывы пад галінамі дуба.*

*«Ён затрубіў у трубу і яго народ перастаў пераследаваць багазмагальнікаў. А Заспакаіцеля кінулі ў лесе ў глыбокую яму і нагрувасьцілі над ім вельмі вялікую кучу камянёў. Боскі Бацька загадаў аднаму эфіёпу:*

*«– Ідзі і паведамі цару пра тое, што ты бачыў.*

*«Тот пакланіўся і пабег.*

*«– Добрую вестку прыношу табе сёння васпан, – сказаў ён. – Грамабой пакараў усіх паўстаўшых на цябе!*

*«– А ці жывы юнак Заспакаіцель? – запытаў той.*

*«– Хай здарыцца з усімі ворагамі майго васпана, што здарылася з ім, – адказаў пасланнік».*

*Цар Пыл пайшоў у сваю сьвятліцу і пачаў горка плакаць.*

*«– Сын мой, Заспакаіцель! Сын мой, сын мой, Заспакаіцель! Хто даў бы мне памерці замест цябе!*

*«Боскі бацька» прыйшоў да яго, нарэшце, сам у сядзібу.*

*«– Пасароміў ты сёння выратаваўшых тваю душу, і душы тваіх сыноў і дачок, і жонак, і наложніц! Ты ўшаноўваеш ненавідзячых цябе і ненавідзіш шануючых. Зараз я ведаю, што калі б усе мы загінулі сёння, а твой сын быў бы жывы, то гэта было б лепш для цябе! Выйдзі і скажы што-небудзь прыемнае для сэрца тваіх служак, інакш, клянуся Грамабоем, што ў гэтую ноч не застанецца пры табе ніводнага чалавека!»* (II Сам., 19, 8).

Гэтая пагроза падзейнічала на цара Пыла. Ён выйшаў да варот і «схіліў да сябе сваімі словамі сэрцы ўсіх багаслявячых ваяроў, да аднаго чалавека. Калі ён падышоў да Ракі Сыходячых, то і Паслушнік, які лаяў яго, паспяшаўся выйсьці яму насустрач. Ён упаў перад ім на зямлю і сказаў:

*«– Ды не залічыць мне васпан у злачынства тое, у чым я правініўся, ды не возьме гэтага да свайго сэрца! Я, раб твой, сам ведаю, як зграшыў! І вось сёння я першым прыйшоў сустрэць майго цара і васпана!*

*«– Няўжо ён не будзе пакараны сьмерцю за тое, што праклінаў памазанца боскага? – запытаў цара Боскі Бацька, яго вайскавы правадыр».*

*Але цар Пыл яму адказаў:*

*«– Што табе за справа да мяне? Ці можна сёння караць сьмерцю каго-небудзь сярод багазмагальнікаў? Хіба я не ведаю, што зараз я валадару над імі?*

*«– Ты не памрэш пры маім жыцці, – адказаў ён Паслушніку»* (II Сам., 19, 24).

А потым, як пабачым далей, ён хітра даў свайму спадкаемцу запавет забіць яго разам з Боскім Бацькай адразу ж пасьля сваёй сьмерці.

*«Прыйшоўшы ў сваю сядзібу, цар Пыл узяў дзесяць сваіх жонак-наложніц, да якіх заходзіў яго непакорлівы сын, і памясьціў іх пад варту. Там яны і знаходзіліся да дня сваёй сьмерці, жывучы як удовы» (20, 3).*

А далей аўтар – не толькі наіўна думаючы, што ўсё гэта было зроблена вельмі добра, але таксама які нікольки не сумняваецца ў тым, што паўстанне народа лёгка падрыхтаваць, калі толькі ў вас у руках ёсць труба, працягвае:

*«І вось здарылася, што адзін нягодны чалавек, на імя Сыты, сын Вярблюжніка, затрубіў у трубу і сказаў:*

*«– Няма нам справы да цара Пыла, няма справы да сына Ратавальніка! Ідзіце, багазмагальнікі, кожны ў свой шацёр!*

*«І разышліся ўсе багазмагальнікі, а пры цару засталіся толькі богаслаўцы» (20, 1).*

*«Тады ратнікі цара Пыла із крыцянаў і ўсе яго адважныя пайшлі пераследаваць Сытага, прайшоўшага ўжо праз усе калены багазмагальнікаў, і аблажылі яго ў цьвярдыні Сядзібы Ціскоў*[182]*. Яны насыпалі вал перад гарадзкой сьцяной і пачалі ўжо ламаць яе, каб яна паваліласяся. Але адна разумная жанчына закрычала ім із горада:*

*«– Паслухайце! Паслухайце! Скажыце, калі ласка*[183]*, Боскаму Бацьку, каб прыйшоў сюды пагаварыць са мной.*

*«– Ці ты Боскі Бацька? – запытала яна, калі той падышоў.*

*«– Я.*

*«– Выслухай словы тваёй нявольніцы.*

*«– Готавы слухаць! – адказаў ён.*

*«– Перадусім табе належала б пачаць перамовы. Тут шмат верных багазмагальнікаў, а ты маеш намер разбурыць адно із галоўных багазмагальніцкіх умацаваняў. Для чаго табе вынішчаць спадчыну Грамабоя?*

*«– Вельмі непрыемна, вельмі непрыемна мне рабіць гэта! – адказаў Боскі Бацька. – Але нехта Сыты падняў руку супраць цара. Выдайце яго, і я адступлюся.*

*«– Яго галава будзе выкінута табе цераз сьцяну, – адказала яна, і пайшла з гэтай разумнай прапановай да ўсіх жыхароў умацавання. «Яны адразу адсеклі галаву Сытаму і скінулі Боскаму Бацьку. Ён затрубіў у трубу, і ўсё разышліся па сваіх сядзібах»* (II, 20, 21).

Такое занчэнне мае легенда пра паўстанне багазмагальнікаў супраць іхнага цара Пыла. Я яе пераклаў амаль літаральна, выклаўшы змест толькі сучасным, а не архаічным складам царкоўных перакладаў, і зноў пытаю чытача:

Няўжо вы лічыце ўсё гэта пратаколам рэчаісных падзей, пры чым аўтар ведае нават і тое, што «разумная жанчына», звяртаючыся да вайскавода цара Пыла, ужыла жыдоўскую часьцінку ветлівасьці НА, якую я пераклаў словам калі ласка. Няўжо нехта, сапраўды, скакаў на кані з алоўкам у руках, як сучасны вайсковы карэспандэнт, да месца, дзе вісеў мяцежны сын цара Пыла, заблытаўшыся валасамі (ох!) у галінах дуба, і няўжо гэты карэспандэнт чуў спрэчку Боскага Бацькі з яго ваяром пра тое, ці забіваць сына цара ці не? Няўжо ён жа прыскакаў потым і ў сталіцу цара Пыла і запратакаляваў на месцы, як той галасіў: «Сын мой, Заспакаіцель! сын мой, Заспакаіцель!»

---

[182] אבנהבית־ה־מעקה (АБНЕ –БІТ-Е МЭКЕ) – цьвярдыня (ці камень) Сядзібы Ціскоў. Я чытаю тут АБНЕ згодна з Тартумам.

[183] Тут дададзена да дзеяслова часьцінка ветлівасьці (НА), пазначаючая прашэнне.

Спрабуючы знайсьці астральныя карані гэтага інакш цалкам недарэчнага апавяданна, я не знайшоў нічога прыдатнага пры жыцці Кастуся, але, дапусьціўшы, што асобныя паданні перамяшаны тут не ў храналагічным парадку, я сфармуляваў гіпотэзу, ці не ўяўляе ўся гэтая, дзікая згодна з выглядам, гісторыя апісання астральных з'яваў 305 года, калі Канстанцый Хлор – ён жа Юлій Цэзар – быў адзінаўладным імператарам, і вынік маіх пошукаў атрымаўся задавальняючым. Ад верасня 305 года да траўня 306 года Юпітар у Двайнятах увесь час ганяўся за Марсам (сімвалам цара Пыла) узад і наперад, і толькі ў траўні месяцы Марс збег ад яго цалкам, а Юпітар «згарэў» пасьля гэтага ў полымі вечаровага зарыва. Ужо памёршы ў гэты час цар Пекла (Сатурн) хадзіў у 305 годзе ўзад і наперад па Шалях над працягнутай пад імі клюшняй Скарпіёна. А ў дадатак да ўсяго, 26 верасня 305 юліянскага года адбыўся полымямёт Арыянід, накіраваны якраз на Марс і Юпітар ў Двайнятах (зараз 18 кастрычніка новага стылю), і Арыён жа абстрэльваў адначасна з імі і камету 305 года. Калі сонца ў верасні перайшло із Ільва ў Панну, камета прайшла, – згодна з кітайскімі летапісамі Шэку і Ма-Туань-Лін, – зваротным шляхам із Ільва, праз Рака і Двайнят, у Цяля і была раніцамі бачнай у Пляядах проста пад Пярсеем і Галовай Мядузы. Калі лічыць Арыён – багабацькам, вайскавым правадыром цара Пыла; Юпітара – Заспакаіцелем, сынам цара Пыла; Меркурый і Венеру – шпегамі: «Разумную жанчыну» – Андрамедай; калі лічыць, акрамя таго, Малога Сабаку (Пракіёна), увесь час брахаўшага на Марс, які бегаў узад і наперад ад Юпітара, за Паслушніка; галаву Мядузы – за галаву падбухторшчыка «Сытага»; рагавісты месяц пад ім за Трубны рог, а сетку нябесных каардынат за галіны лесу, у якіх заблыталіся валасы прынца-Заспакаіцеля, то атрымліваецца дастаткова праўдападобна. Аднак, я цалкам гатовы дапусьціць, што карані шмат якіх падзей гэтага фантастычнага прота-рамана знаходзяцца і не на небе, а ў нейкіх зямных падзеях, і што аўтар скамбінаваў іх падобна таму, як і кожны раманіст бярэ матэрыял для свайго апавядання са звычайных побытавых падзей. Я тут сцвярджаю толькі, што карані гэтыя зборныя, што ўсе жыццёвыя дэталі, дамяшаныя да астральных, узяты із жыцця шматлікіх асоб і толькі пададзены гіпербалічна згуртаванымі каля аднаго імя. Гэта не гісторыя, і не біяграфія, і не матэрыялы для іх.

Прагледзім жа з гэтага боку гледжання і далейшыя паведамленні разбіраемага намі зараз першапачатковага рамана.

*«Быў голад, – працягвае аўтар, – тры гады. Цар Пыл запытаў* (нарэшце!) *Грамабоя пра нагоду.*

*«– Гэта за цара Пекла і яго крыважэрную дынастыю, – адказаў яму Грамабой. – За тое, што той забіў* (II Сам., 21, 1) *жывучых на Вышыні* (пад канец жыцця Кастуся 5 снежня 356 года месяц, пры Сатурне ў Скарпіёне, зайшоў у Двайнятах пад зямлю ў стане глыбокага звыш поўнага зацьмення (46"0) у Італіі і Грэцыі ў 5 гадзін 25 хвілін ад Грынвіцкай поўначы).

*«– Што мне зрабіць для вас, – запытаў цар Пыл Вышыннікаў*[184]*, каб вы блаславілі мяне, спадчыну Грамабоя?*

*«– Мы не шукаем ні срэбра, ні золата з цара Пекла і яго роду, – адказалі яны, – але выдай нам сем чалавек із яго нашчадкаў і мы растыкаем*[185] *іх перад Грамабоем.*

---

[184] גבענים (ГБЭШШ) – із גבה (ГБЕ) – вышыня і עון (ЭУН) – схіленне.

[185] Па-грэцку ἐξελιασωμεν – ад ἐξελίσσω – расьцягваю, разгортваю. Па-жыдоўску тут הוקענום (ЕУКЭНУМ) хутчэй за ўсё ад קוע (КУЭ) – тыкаць. У еўрапейскіх перакладах няправільна ўжываецца слова: распнём.

*«– Выдам! – адказаў цар Пыл».*

*Ён узяў двух сыноў Палаючай Паласы*[186] (світанку), *дочкі Памор'я*[187] *і пяць Сыноў Ракі Акіяна*[188], *дачкі Пекла, і аддаў іх Вышыннікам* (Двайнятам), *а тыя растыкалі іх усіх разам на гары перад Грамабоем напачатку жніва ячменю*[189].

*Злітаваўся тады Грамабой над зямлёй, але пасьля гэтага пачалася вайна паміж прыхаднямі і богазмагальнікамі. Цар Пыл* (у выглядзе Марса) *змарыўся падчас бітвы, і на яго напаў волат* (напэўна, вялізны метэарыт), *сын гоцкай волацесы на імя Асаднік, падпяразаны новым мячом, і дзіда ў яго важыла трыста сікляў медзі. Але Ратавальнік падышоў да цара і забіў прыхадня* (II Сам., 21, 14). *Потым былі забіты ў розных месцах яшчэ трое дзяцей той жа валатэсы* (метэарыты) *у аднаго із якіх «празмернай вышыні было па шэсць пальцаў на руках і нагах, усяго дваццаць чатыры пальцы»* (II Сам.,21, 20).

А цар Пыл, пазбаўлены, такім чынам, ад усіх сваіх ворагаў узяў ды і заспяваў (замест таго, каб падзякаваць свайго «Ратавальніка») нешта цалкам недапасуемае да справы:

*Атачылі мяне смяротныя хвалі. Застрашыў мяне шэраг злыдняў.*
*Повязі пекла акруцілі мяне, сеткі сьмерці разаслаліся перада мной,*
*Але я ўсклікнуў да майго бога, і ён пачуў мой голас са свайго палаца.*
*Завагалася і затрэслася зямля, і завагаліся падмуркі нябёс.*
*Падняўся дым ад яго гневу і полымя із яго вуснаў.*
*Запылалі ад яго падпаленыя вуглі. Ён нахіліў нябёсы і сышоў на воблака,*
*Сеў на калясніцу і паляцеў; з'явіўся на крылах ветру.*
*Накрыў сябе змрокам, як дахам, атачыў сябе гмахамі вады ў аблоках нябесных.*
*Загрымеў з неба Грамабой, Усявышні падаў свой голас,*
*Ён паслаў свае стрэлы і разагнаў маіх ворагаў, і прывёў іх у замяшанне маланкамі.*
*Адкрыўся ложак мора і агаліліся падставы сусвету ад подыху яго гневу.*
*Ён працягнуў із вышыні руку і выцягнуў мяне із бездані вады.*
*Ён пазбавіў мяне ад майго магутнага ворага і ад ненавісьнікаў маіх,*
*Хаця яны і былі мацнейшымі за мяне. За гэта я ўхваляю цябе, Грамабой.*
*Апяваю тваё імя, о, ратуючы свайго цара і ствараючы ласку твайму памазанцу*
*І яго нашчадкам вавекі* (II Сам., 22, I -53).

Закончыўшы сьпяваць, цар Пыл, відаць, прыйшоў, нарэшце, у розум і загадаў кіраўніку свайго войска:

*«– Прайдзіся па ўсіх абласьцях багазмагальнікаў ад Суднага Месца*[190] *да Студні Сямі і палічы жыхароў.*

*«– Ды дадасць табе бог, – адказаў яму той, – у сто разоў больш народу, чым існуе. Але для чаго, мой васпан, рабіць такую справу?»*

*Але цар не пажадаў нават і слухаць яго. Правадыр пайшоў лічыць, і выявілася «ў багазмагальнікаў 800 тысяч чалавек, а ў багаслявячых 500 тысяч, здольных валодаць мячом».*

---

[186] רצפה (РЦфЕ) – палаючы памост, гарачая паласа.

[187] איה (АНІ) замест אי (АЙ) – памор'е, выспа.

[188] מי־כל (МІ-КЛ) – вада акружнасьці (כלל = כל) – акіян

[189] Злучэнне ўсіх сямі планет у Двайнятах было толькі ў чэрвені 590 года нашай эры, ды яшчэ ў траўні 353 года, а потым Юпітар і Сатурн не сходзіліся разам да 1207 года.

[190] דן (ДН) – грэкі вымаўляюць Дан, а ў другой кнізе мы бачылі, што астральна гэта сузор'е Шаляў, а геаграфічна Дунай (ці Дон).

Вось, нарэшце, месца, якое даводзіцца прызнаць ужо не раманам, а гістарычным фактам. Гаворка ідзе пра першы вядомы ў гісторыі попіс народа, зроблены адным із яго цароў, як я пра гэта ўжо меў выпадак павядоміць у другім томе «Хрыста». Ці няма нейкай магчымасьці вызначыць, які із зямных манархаў першым зрабіў гэта і калі?

Выяўляецца, што існуе. У другой кнізе «Боскі Сьцяг» (Сам., 11, 24), грунтуючыся на якой мы да гэтага часу сачылі за царом Пылам, і ў скапіяванай з яе, збольшага з дадаткамі, а збольшага са скарачэннямі, першай частцы першай кнігі «Закінутых Спраў» (па-грэцку Параліпаменан) паведамляецца з гэтай нагоды нешта вельмі характэрнае і для евангелляў.

Каб высветліць значэнне гэтай падзеі, я перш за ўсё звярну ўвагу чытача, што ўсенародны попіс патрабуе ўжо высока-арганізаванага адміністрацыйнага апарата дзяржавы. А ў Бібліі пра яго згадваецца некалькі разоў. Калі ж ён адбыўся ўпершыню?

Перадусім у евангеллі Лукі паведамляецца, што падчас нараджэння «Хрыста» выйшаў загад ад Цэзара Аўгуста (г.азн. «Актавіяна Аўгуста», якога мы ў першай кнізе ўжо прызналі за апакрыфічнага двайніка Кастуся Сьвятога) здзейсніў попіс на ўсёй зямлі. А потым дадаецца яшчэ, «што гэта быў першы попіс, калі Квірыній быў кіраўніком Сірыі».

Потым у прароцтве «Будучая воля» (Ісаія) мы чытаем у сувязі з вывяржэннем Вязувія:

*«Застрашыліся грэшнікі на Слупнай гары. Трапятанне авалодала бязбожнымі.*

*«– Хто із нас, – кажуць яны, – можа жыць пры паглынаючым полымі? Хто із нас можа жыць пры вечным полымі?*

*«– Толькі той, хто ходзіць у праўдзе і выказвае праўду!..*

*Сэрца яго будзе толькі згадваць пра жахі. Дзе рабіўшы попіс? Дзе важыўшы даніну? Дзе аглядаючы вежы?»* (Іс., 33, 18).

Гэта азначае, попіс і вывяржэнне вулкана тут дапасуюцца адзін да аднаго, а ў першай кнізе «Хрыста» я ўжо даказаў, што кніга «Іса-ія» напісана ў V стагоддзі нашай эры.

А вось у Здзяйсненнях Апосталаў згадваецца і пра бунт падчас попісу:

*«– Падчас гэтага попісу, – паведаміў «Боскі Вярблюд» – з'явіўся богаславец* (юдэй) *із Галілеі і заахвоціў за сабой шмат народу, але ён загінуў, і ўсе слухаўшыя яго, разбегліся» (Здзяйсн., 5, 37).*

А вось і лекі ад маравой язвы, насланай у якасьці пакарання за попіс, у кнізе Сыход:

*«Так сказаў Грамабой Майсею (якога мы ўжо атаясамілі з Дыяклетыянам, суваладаром Канстанцыя Хлора і Кастуся I):*

*«Пры попісе хай кожны дасць Грамабою палову сікля выкупу за сваю душу, і тады ён не загіне ад прызначанай за яе пагібельнай язвы» (Сых., 30, 12-13).*

Усё гэта цалкам зразумела з этна-псіхалагічнага боку гледжання. Мы ведаем, што попісы заўсёды былі непрыемнымі для малакультурных народаў. Натоўп ніколі не мог сабе ўявіць, каб каму б там ні было із яго валадароў было пажадана пералічваць іх інакш, як з нейкай своекарыслівай мэтай. А такая мэта для яго заўсёды здавалася відавочнай: «перапісваюць для таго, каб ведаць, колькі народу абкласьці падаткамі», а ў адпаведнасьці з гэтым лёгка ўзнікала і засвойвалася масамі ідэя, што гэтая справа грэшная, непрыемная богу Грамабою.

А розумы, наладжаныя так, былі гатовы ахвотна скарыстацца для падцверджання сваёй думкі першай жа стыхійнай нагодай ці нябеснай з’явай, як адзнакай гневу бога на цара за такі грэх.

Гэта мы і бачым у разглядаемай намі зараз легендзе пра цара Пыла (Давыда). У ёй існуе дэталь, якая дае нам шчасьлівую магчымасць вызначыць не толькі нябесныя, але і зямныя крыніцы паходжання даследуемага намі зараз прота-рамана пра яго, а таксама дазваляе больш дакладна вызначыць яго час і гістарычных асоб, із якіх спісаны дзеячы яго легендарызаванай біяграфіі.

Я скарыстаўся для гэтага 21 главой I кнігі «Забытых Спраў» (I Парал., 21).

*«Сатана паўстаў на багазмагальнікаў і падахвоціў цара Пыла (Давыда) зрабіць попіс. І пайшоў Боскі Бацька (Ёаў) і абыйшоў усіх багазмагальнікаў. Ён вярнуўся ў Горад Сьвятога Замірэння і падаў цару спіс народнага попісу. Усіх багазмагальнікаў было мільён і 100 тысяч, здольных валодаць мячом, а богаславячых, здольных агаліць меч, 470 тысяч»* (I Парал., 21, 5).

Мы бачым тут некаторае непадненне з лічбамі, прыведзенымі ў кнізе «Сьцяг Бога» (II Сам., 24, 9). Мы бачым: што тут багазмагальнікаў, здольных валодаць мячом, паказана 1 мільён 100 тысяч, а там толькі 800 тысяч, а такіх жа богаславячых тут 470 тысяч, тады як у «Сцягу Бога» 500 тысяч, без сьвятарства і манахаў[191]. Але ў сярэднім лічбы дастаткова падобныя, і таму мы можам сур'ёзна паставіцца і да іншых дэталяў, суправаджаўшых гэтую падзею і апісаных у наступных радках абадвух кніг, часта ў аднолькавых выразах.

*«Нядобрай была гэтая справа ў вачах Грамабоя,* – выказваецца аўтар, *– і ён пакараў багазмагальнікаў».*

*Явіўся цару Пылу прадвеснікам «Юпітар»[192],* (як пабачым далей, у Стральцу), *і абвясьціў яму* (гэтым спалучэннем):

*«Выбірай сабе адно із трох: ці тры гады голаду[193], ці тры месяцы ты будзеш уціскаемы сваімі ворагамі, і Спусташальнік (Везувій)[194] будзе наганяць цябе, ці Спусташальнік будзе дзейнічаць толькі тры дні, але затое маравая язва будзе лютаваць на зямлі, і вястун Грамабоя (МЛАХ – камета) будзе вынішчаць людзей ва ўсіх абласьцях багазмагальніка».*

Зразумела, што цару Пылу менш за ўсё спадабалася тры месяцы бегаць ад ворагаў у чалавечым выглядзе і наганяючага Вязувія, і ён адказаў:

*«– Хай лепш патраплю я ў рукі Грамабоя.*

*«І вось навёў Грамабой маравую язву на багазмагальнікаў, і памёрла іх 70 000 чалавек. Ён выправіў свайго пасланніка ў яго сталіцу горад Сьвятога Замірэння* (Ерусалім), *каб вынішчыць яго* (вывяржэннем), *але потым пашкадаваў горад і сказаў свайму пасланніку-Спусташальніку, калі той ужо засланяў сабой гумно Ёмішча Сьмерці[195] каля Топчучага Нагой* (г.азн. кратар):

*«– Апусьці тваю руку!»*

*Цар Пыл падняў у гэты час свае вочы і пабачыў Пасланніка Грамабоя стоячым (мал. 55) паміж небам і зямлёю, і меч* (Спусташальніка) *быў агалены ў*

[191] Лявітаў і сыноў сьмерці (веніямінаўцаў).

[192] Гад (גד) па-вавілонску азначае планету Юпітар.

[193] У Самуіла: голад сем гадоў (11, 24, 13), а не тры.

[194] חרב (ХРБ) – Спусташальнік. Тут тое ж самае напісанне, якое ўжываецца для Вязувія ў кнізе Другазаконне.

[195] Тут у першай кнізе Параліпаменан стаіць עם גרן ארון ה־י־בוסיר (ЭМ ГРН АРУІ Е-Й-БУСІ) – зачыняючы гумно труны каля Топчучага Нагой.

*яго руцэ і выцягнуты над горадам. Ён паваліўся на свой твар разам са старэйшынамі і закрычаў да Грамабоя:*

*«– Ці не я адзін загадаў палічыць народ? Ці не я адзін зрабіў зло? Чым жа вінаваты гэтыя авечкі? Ды будзе рука твая на мне і на сядзібе майго бацькі, а не на тваім народзе!*



Мал. 55

*Вястун Грамабоя, стаячы над горадам паміж небам і зямлёй.*

*«І вось Пасланнік Грамабоя сказаў Юпітару:*

*«– Перадай цару, каб ён паставіў Ахвярнік Грамабою на полі Ёмішча Сьмерці каля Топчучага Нагамі* (Юпітар быў над Ахвярнікам у 299, 344 і 323 гадах).

*«Ёмішча Сьмерці малаціў тады на сваім гумне і* (пасьля гэтага) *схаваўся з чатырма сваімі сынамі.*

*«– Аддай мне месца пад тваім гумном! – сказаў яму цар Пыл. – Я пабудую на ім Ахвярнік Грамабою, каб спынілася вынішчэнне народа!*

*«– Рабі ўсё, што табе патрэбна, – адказаў Ёмішча Сьмерці. – Вось я аддаю і валоў для ўсеспалення, і малацілы на дровы, і пшаніцу ў ахвяру. Аддаю ўсё.*

*«– Не буду прыносіць дармовую ахвяру, – адказаў яму цар і аддаў Ёмішчу Сьмерці* (напэўна, кінуў у кратар) *600 сікляў золата*[196].

*«Ён пабудаваў там Ахвярнік Грамабою, і Грамабой адказаў полымем з неба на ахвярнік усеспалення і загадаў свайму Пасланніку схаваць меч у ножны»* (I Парал., 21 і 11-27).

Пасьля гэтага цар Пыл пачаткаў нарыхтоўваць, згодна са сведчаннем летапісу, матэрыялы для пабудовы палаца багам, але, быццам бы, не паспеў і пакінуў запавет скончыць справу свайму сыну цару-Міратворцу.

* * *

Спынімся крыху і на толькі-што павядомленых дзіўных падзеях.

Са зместу апошняй легенды мы бачым, што Юпітар быў над Ахвярнікам і ў той жа час на небе з'явілася камета, амаль адначасова з вывяржэннем Вязувія, як-быццам бы яшчэ не вельмі моцным (таму што паведамленні пра тое, што ён цалкам маўчаў сотні гадоў да знішчэння ім Пампеі, наўрад ці могуць лічыцца праўдзівымі).

Час вывяржэння мы, вядома, не можам вызначыць астранамічна, але каметы таго часу нам добра вядомы дзякуючы астранамічным запісам, якія перадаваліся ад пакалення да пакалення нашмат больш дакладна чым гістарычныя.

І вось, пераглядаючы іх грунтуючыся на каметаграфіі Любінецкага, мы знаходзім толькі адну прыдатную:

«У 324 годзе (некаторыя чытаюць у 323-м), – піша Любінецкі у 1681 годзе, – была камета ў знаку Панны. За гэтым адбылася жудасная вайна паміж Кастусём Вялікім і Ліцыніем (вельмі падобная на вайну цара Пыла са сваім сынам Заспакаіцелем), у якой Кастусь перамог Ліцынія, пры чым бітве папярэднічалі ў паветры жудасныя адзнакі, відаць, палымяныя, і быў асуджаны (наадварот: толькі зацверджаны!) дагмат Арыя 118-цю біскупамі, сабраўшыміся ў Пераможным горадзе хутка знішчанай (Віфінскай) вобласьці[197]. Потым адбылася цяжкая вайна паміж свевамі і цюрынгамі, а на бага-перавёрнутую зямлю (Кілікію)[198] і Сірыю люта напалі чума і голад, а хрысціяне (зноў анахранізм!) жорстка і сурова пераследаваліся бязбожнікамі (згодна з Рокенбахіем)».

«І Экстормій, – працягвае Любінецкі, – пазначае грунтуючыся на Герліцыі гэтую камету ў знаку Панны. Альстэдт лічыць, што час яе з'яўлення быў у 323 г., і кажа, што згубнаму вучэнню Арыя папярэднічалі разнастайныя каметы. Такім чынам, мы бачым згубныя вучэнні, узнікшыя перад з'яўленнем гэтай каметы, бачым бітвы ў сядзібах і на пляцах.

«Паслухаем жа пра гэта і мудра-думаючага Эўтропія. Ён паведамляе: Кастусь, вялікі муж, здзейсніўшы ўсё, што задумаў, і разам з тым імкнуўшыся да сусьветнага валадарання, абвясьціў вайну Ліцынію, хаця паміж імі былі і сяброўства, і сваяцтва, бо яго сястра, Канстанцыя, была адружана з Ліцыніем. Паміж імі, аднак, адбываецца адна за адной некалькі войнаў і мір то аднаўляўся, то парушаўся. Ліцыній, пераможаны ў апошняй марской і сухапутнай бітве пры

---

[196] А ў Самуіла толькі 50 сікляў срэбра (Сам., 11, 24-24)

[197] Гэта вобласць Βιθννία лічыцца эліністамі за сучасны Ісмік каля Мармуровага мора, а па-жыдоўску – гэтае слова азначае згодна з Крудэна: імкліва знікшая.

[198] Згодна з Крудэнам.

Нікамедыі, здаўся і, насуперак святасьці прысягі (дадзенай яму Кастусём), не афіцыйна быў забіты ў Фесалоніках» (кн. 19).

«Тое ж паведамяе Сабелік у восьмай кнізе, і тое ж сведчыць Віктар, тое ж адзначае і Сігоній у трэцяй кнізе пра забіццё імператара. Увесь час паказвае на гэта і Зосім, асуджаючы звычайнае падступства Кастуся» (кн. 2).

«Але вернемся да Рокенбахія. Ён дапасуе Нікейскі сабор, асудзіўшы (г.азн. зацвердзіўшы згодна з нашымі вызначэннямі) у 325 г. (327) годны праклёны арыянскі дагмат, не ведаю чаму, да перыяду паміж сумнымі з'яўленнямі камет. Аднак, калі б сабор пажадаў вызначыць выразна і дакладна іх час, то меў бы магчымасць зрабіць гэта і больш выразна, і больш дакладна чым Рокенбахій. Я пайду і далей па шляху Функцыя, якога звычайна пераймае Рокенбахій. У 332 годзе Кастусь Вялікі загадаў будаваць па ўсіх гарадах імперыі сьвятарскія храмы, і іхным сьвятарам выдаваць дзяржаўнае ўтрыманне. Пасьля гэтага, як лічыць Функцый, а потым і Сігоній, і Кальвізій (меркаванні якіх падцверджваюць і разлікі Петавія і Гельвецыя), у 328 годзе імператар пачаў будаваць сцены і ствараць законы Візантыі, асьвяціў іх урачыстым набажэнствам, назваўшы горад згодна са сваім імем Канстантынопаль. Потым, у 334 г., як мяркуе Функцый, унутраныя насельнікі Індыі, а ў 335 г. іберыйцы і армяне прынялі сьвятарскую (арыянскую) рэлігію.

«Але чума і голад і пераслед прысьвечаных у Персіі дапасуюцца да 336 года і, аддзеленыя дванаццаццю гадамі ад часу з'яўлення гэтай каметы, мець дачыненне да яе не могуць.

«Аднак, калі звярнуцца да Сігонія, то ён дае нам указанні на існаванне больш блізкіх да тых падзей з'яўленняў камет. Напрыклад, на пяцігадовую камету Цэзараў (Кастуся Малодшага і Канстанцыя II) у 330 годзе, вельмі спрыяльную для іх і даставіўшую ім перамогу над нападаўшымі на іх готамі і мір, заключаны імі ў 332 годзе, і на іншыя каметы, пра якія я прамаўчу»[199].

У гэтым апісанні, як мы бачым, маюцца ў наяўнасьці ўсе тры альтэрнатывы, прапанаваныя Ўмілаванаму цару «Юпітарам», які павінен быў праходзіць яшчэ некалькі месяцаў як раз праз «пагражаўшае вайной» сузор'е Стральца, недалёка ад «нясучага сусветныя пошасьці» Скарпіёна, адкуль з'явілася камета, тады як злавесны Сатурн выходзіў прэч із нясучага ўрадлівасць і багацце Цяляці, каб на працягу трох гадоў паднімацца ўсё вышэй і вышэй і павярнуць назад на поўдзень у Раку.

Тут неба, згодна са старажытнымі уяўленнямі, сапраўды прапанавала на выбар ці паразу на працягу некалькіх месяцаў, ці трохгадовы голад, ці недоўгачасовую маравую язву.

Тут жа мы бачым і вынікі гэтай нябеснай з'явы, але толькі не ў фатаграфічным здымку, а ў хрысьціянскай аперцэпцыі сярэдніх вякоў, навязаўшай таму часу цэлы шэраг падзей, адбыўшыхся нашмат пазьней. Такім з’яўляецца асуджэнне арыян на саборы ў Пераможным горадзе (Нікеі) і ўзвелічэнне прыхільнікаў Езуса, які ў той час толькі-што нарадзіўся на сьвет ў выглядзе Васіля Вялікага.

Тут мы зноў бачым, як цар Пыл, ці па-жыдоўску Давыд, пачаўшыся астральна ў выглядзе планеты Марса, паступова сышоў на зямлю і ператварыўся ў легендзе ў сумесь двух лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкіх імператараў – Канстанцыя I і Кастуся I, заснавальніка да-езусавага хрысьціянства, бо хрысьціянства спачатку азначала проста: пасьвячэнне.

---

[199] St.Lubienietski. Historia omnium comentarum. 1681 год, стар. 63.

Такім чынам, цар Пыл (ці Ўмілаваны, ці Давыд) з’яўляецца легендарызаваным Канстанцыям Хлорам, да якога дададзены, відаць, з нагоды яго непрацяглага валадарання, і Кастусь I, што тым больш лёгка можна было зрабіць, дзякуючы таму што наймене як Канстанцый, так і Кастусь азначае адно і тое ж: устойлівы, а адрозненне іхных грэцкіх канчаткаў цалкам губляецца на жыдоўскай мове. Біблейскія івусы ці, дакладней, і-вюсы (па царкоўнаму іевусеі)[200], першапачатковыя прыхільнікі Jovis'a, і выяўляюцца італійцамі. Іхная да-Канстантынопальская сталіца па-біблейску мела назву І-вюс, а па-грэцку, верагодна, Вюза (Βύσα), легендарным заснавальнікам якога лічыўся Вюсант (Byzantus), сын бога мора Пасейдона, правадыр Перасяленцаў (па-жыдоўску філістымлянаў) із Мілета. Але гэта ніяк не горад, быццам бы стаяўшы на месцы Канстантынопаля яшчэ амаль ці не пад час ледавіковай эпохі, а горад у наваколлі Вюзы, якім, напэўна, было першапачатковае найменне Вязувія.

Легенда пра ўмілаванага цара Пыла (Давыда) канчаткова апусьцілася на зямлю, але не ў глухое турэцкае мястэчка Эль-Кудс, куды выправілі яго сярэднявечныя прапаведнікі Крыжовых паходаў, а туды, куды і патрэбна было грунтуючыся на геафізічных меркаваннях для стварэння тэакратычнай імперыі: у наваколле самага жахлівага із еўрапейскіх вулканаў.

Вось як апісваецца ў кнізе Параліпаменан (гл. 13) усеагульны сход сьвятарства, наладжаны царом Пылам у сваёй сталіцы, якую грэцкія аўтары завуць «Пераможным Горадам» (Нікеяй) і дапасуюць да 325 года нашай эры, пры чым «Нікея» грунтуючыся на геафізічных меркаваннях даводзіцца прызнаць за грэцкую назву Пампеі.

*«Параіўся цар са сваімі вайскавымі правадырамі, ротнымі і іншымі краўнікамі і сказаў:*

*«– Калі гэта вам прыемна і прыемна нашаму богу, выправім ва ўсе багазмагальніцкія землі, да пробашчаў* (сьвятароў)[201] *і дыяканам* (лявітаў)[202] *і да іншых нашых братоў у гарады іхных акруг, каб яны да нас з'ехаліся на сход, і перанясём да сябе ахвярнік*[203] *нашага бога, да якога мы не звярталіся на працягу дзён царавання Пекла.*

*«– Ды будзе так! – адказалі запрошаныя».*

*І сабраў цар Пыл усіх багазмагальнікаў ад Міц-Рымскага Чорнага*[204] *да Курдзюка*[205]*, і ўсё яны пайшлі ў Капітолій*[206] *– горад Сьвяцілішча*[207] *горад госпада, – што ў краіне багаслаўя, каб перанесьці адтуль Ахвярнік Грамабоя. Яны павезлі*

---

200 י־בוסי (І-ВУСІ) יה־בוסי (ІЕ-ВУОСІ) – боскія Візы, таму што дадаванні І- ці ІЕ- замест поўнага імя Jovis надзвычай частая з’ява ў біблейскіх імёнах. Само імя І-ісус утрымлівае яе ў сабе і надае гэтаму імені значэнне Бага-Ратавальнік

201 כהן (КЕН), – пробашч, сьвятар, жрэц.

202 לוי (ЛУІ) – увянчаны, лявіт.

203 ארון (АРУН) – лічыца труна, рака для парэшткаў, а я лічу гэта грэцкай назвай пасада ў храме: ara (ахвярнік).

204 שיחור (ШІХУР) – чорны, гебраісты лічаць за Ніл.

205 חמת (ХМТ) – курдзюк, але больш падобна на назву Германіі Heimat.

206 בעלתה (БЭЛТЕ) ад БЭЛТ – верхаводзячы, на лаціне Капітолій.

207 קרית־יערים (КРІТ-ІЭРІМ) – дзе КРІТ азначае – умацаванне, горад, а слова ІЕРІМ множны лік ад ІЕР – мядовы сот, лес. Але я схільны лічыць гэтае слова за грэцкае ἱερόν (иерон) – сьвяцілішча. Справа ў тым, што ў самай Бібліі два разу згадваецца, што ў яго было другое імя – Горад Бога קרית־בעל (КРІТ-БЭЛ) (гл. кнігу Езус 15, 9 і 18, 14), а месца яго пазначаецца «па той бок ракі По (старажытны Ярдан), дзе жылі АМРЫ (умбры)» (Езус, 9, 17).

*яго на новай калясніцы із сядзібы Садзеяцеля, а Моцны і Боскі – брат суправаджалі калясніцу. Усе багазмагальнікі радаваліся із усёй моцы перад тварам Грамабоя са сьпевам і граннем на цытрах, тымпанах, цымбалах і трубах. А калі падышлі да Поля Згубы, «Моцны» працягнуў сваю руку, каб падтрымаць ахвярнік, таму што валы нахілілі яго, але Грамабой угневаўся на яго за гэта і забіў яго на сьмерць* (відавочна, маланкай наляцеўшай навальніцы)[208]. *Цар Пыл моцна засмуціўся і назваў гэтае месца Паразай Моцнага. Такую назву яно і мае да гэтага часу.*

*– «Не прынясу я да сябе Ахвярнік Грамабоя, – сказаў ён, – і накіраваў яго не ў свой горад, а да сядзібы гота, служкі Рыма* (Эдома), *у якога ён і заставаўся на працягу трох месяцаў, прыносячы яму дабраславенне»* (І Параліпаменан, 13, 14).

*Даведаўшыся пра гэта, цар Пыл супакоіўся і перанёс Ахвярнік у свой горад. «Апрануты ў ільняную кашулю, ён скакаў пры гэтым пад радасныя ўскліканні і трубныя гукі спадарожнікаў. Яго жонка, дачка цара Пекла, пабачыўшы як ён скача перад Грамабоем, адчула да яго пагарду ў сваім сэрцы і, калі ён вярнуўся дахаты, сказала:*

*– «Як ухвальна паводзіў сябе сёння цар багазмагальнікаў! Выстаўляў сябе напаказ нявольніцам служак сваіх, як нейкі скакун!*

*– «Гэта я весяліўся перад Грамабоем, – адказаў ёй цар Пыл, – таму што ён аддаў перавагу мне перад тваім бацькам і прызначыў правадыром над сваім народам.*

*«І не было за гэта дзяцей у яе да дня яе сьмерці» (6, 23).*

На гэтым мы і скончым наш крытычны разбор біблейскага рамана пра цара Пыла. Паведамленне пра апошнія дні яго жыцця адносіцца ўжо да іншага літаратурнага твора сярэднявечча, да прота-рамана пра цара-Міратворцу, да якога мы пяройдзем далей.

Нічога прыдатнага для праўдзівай гісторыі народаў у ім няма, акрамя яго самога, як выніка разумовай творчасьці сярэдніх вякоў.

Аднавіць грунтуючыся па ім дэталі жыцця і дзейнасць якіх бы то ні было рэчаісных асоб гэтак жа немагчыма, як высветліць і «рэчаісную асобу» знаходзіўшагася з ім у пастаянных стасунках бога Грамабоя. Але гэты прота-раман вельмі важны для таго, хто пажадаў бы высветліць грунтуючыся па ім і на іншых, яму падобным, гісторыю развіцця агульначалавечай сярэднявечнай літаратуры.

# Глава VI.

## Фантастычны прота-раман пра наймудрэйшага цара-Міратворцу, будаўніка храма богу Грамабою.

[208] Адзін із замежных тлумачальнікаў Бібліі, які лічыцца сур'ёзным, імкнецца даказаць грунтуючыся на гэтым месцы знаёмства старажытных сьвятароў (нават у Палестыне!) з электрычнымі батарэямі, здольнымі забіць кожнага, хто дакранаецца да іх. Але гэта толькі нагадвае анекдот пра спрэчку польскага хутараніна з суседнім жыдом. «– Паглядзі-ка, пан Янкель, я капаў яму пад маёй сядзібай і знайшоў кавалак іржавага дроту. Гэта азначае, што мае прадзеды ўжо валодалі тэлеграфам задаўга да яго вынаходніцтва. – А я, пан Тадэвуш, – адказваў жыд, – колькі ні капаў пад маёй сядзібай, ніякага дроту не знайшоў. Гэта азначае, што мае прадзеды ў той час ужо карысталіся бяздротавым тэлеграфам». Ці не прасьцей дапусьціць, што і перад каўчэгам быў проста выпадковы ўдар маланкі, якія і зараз б'юць у цэркви амаль штогадова?

Жыдоўская назва Мелех Саламон азначае цар-міратворац. Ён завецца сынам цара Пыла (Давыда па-жыдоўску, інакш цара-дзядзькі) ад падступна забранай ім у свайго вайсковага правадыра красуні-жонкі, падобна таму, як згодна з грэцкімі легендамі Юлій Цэзар адбіў «Славу Бацькаўшчыны» (Клеапатру па-грэцку) у свайго васала Пталямея. У такім выпадку сын Клеапатры Цезарыён адпавядае біблейскаму цару Міратворцу, а храналагічна налягае на цэсараў, якія згодна з Сігоніем, цытаваным і ў Каметаграфіі Любінецкага, былі наступнікі Кастуся – Кастусь, Канстанс і Канстанцый, імёны якіх зліваліся для замежнага вуха ды і згодна з сэнсам аднолькава азначалі: устойлівы. Із іх толькі Канстанцый быў пазней, з 353 года, адзінаўладным, але ў яго грэцкіх біяграфіях мы не бачым нічога адпаведючага агульнаму выгляду біблейскага цара-Міратворца.

Дакладна так жа і ў імператары Тыберыі, апакрыфікаваным у прамежак ад 14 да 37 году ад пачатку нашай эры, які згодна з нашымі паралелізмамі[209] з’яўляецца толькі двайнікам Канстанцыя, мы па бачым нічога, што дало б яму права на званне цара Міратворцы, будаўніка храма адзінаму богу Грамабою.

Але Тыберый згодна са звычайнай гістарычнай традыцыяй быў сучаснікам евангельскага Хрыста. Ён, – кажуць нам, – запанаваў, калі Хрысту было 14 гадоў ад нараджэння, а памёр праз тры гады пасьля слупавання Хрыста. А Канстанцый II (335-361) быў сучаснікам Вялікага Цара (Васіля Вялікага), заснавальніка хрысьціянскай літургіі, з якога аперцэпцыйна і спісаны евангельскі Хрыстос.

Што ж у нас выходзіць?

Выходзіць, што біблейскі цар-Міратворац (Саламон), і евангельскі цар юдэйскі (г.азн. – багаслявячы па-руску), і Вялікі Цар Чэцці-Мінеяў (Васіль о-Мегас – па-грэцку) толькі тры гістарычныя аперцэпцыі той жа самай (і сапраўды нечым надзвычайна выбітной) асобы.

Выходзіць, што на слупе, да якога быў згодна з евангеллямі прыстаўлены Езус, не дарэмна было напісана на трох мовах імперыі, італійскай, грэцкай і арабскай: Езус Хрыстос, цар богаслаўных. Нездарма і на судзе ён прызнаваў сябе царом, нездарма і ў «Жыціях Сьвятых» ён заўсёды мае назву Вялікі Цар (Васіль Вялікі). У другім томе «Хрыста» я ўжо даводзіў, што назву Ерусалім у IV стагоддзі мела Пампея (ці Геркуланум, бо мы не ведаем, ці не блытаем мы зараз найменні тых гарадоў, якія так завём), а краінай багаслаўя – Юдэяй звалася ўся Паўднёвая Італія, тады як у Палестыне нічога не было ў той час, акрамя арабаў-качэўнікаў, чаму і само найменне Палестына азначае: качавая краіна. Адсюль жа выходзіць, што тая выдатная сапраўды існаваўшая асоба, якая дала нагоду да ўзнікнення небывалай у гісторыі чалавецтва колькасьці легендаў і, так бы мовіць, паднялася на слупе Вязувія да самага «купала неба», была спачатку паўднёва-італійскім суваладаром Канстанцыя-Тыберыя. Флегрэйскія палі Італіі дзякуючы жаху, які абуджалі іхныя вулканы, былі з даўніх часоў месцам рэлігійнага пілігрымства, а таму тут і сабралася вялізная, згодная з тым часам колькасць дадатковых каштоўнасьцей фізічнай працы чалавека, якія паднялі ў ёй малярства, скульптуру, дойлідства і навукі на немагчымую згодна з тым часам у іншых краінах вышыню і стварылі яе вярхоўным валадарам такую ўладу над розумамі, з якой не магла тады супернічаць ніякая чыста свецкая ўлада. Аддаленым рэхам яе і да гэтага часу з'яўляецца «Цар Цароў» у Ватыкане.

[209] «Хрыстос». Першая кніга, частка III.

Разгледзім жа з гэтага боку гледжання і біблейскае паданне пра цара-Міратворца, які яшчэ не перасяліўся, як яго наступнікі, дзеля бяспекі ў Рым ці ў Канстантынопаль.

*«Састарэў цар Давыд, увайшоў у гады,* – пачынае праводзіць канчатковы агульны рэдактар біблейскіх кніг свой масток ад аднаго цара да другога, – *і яму заўсёды было холадна, нягледзячы на коўдры.*

*«– Хай пашукаюць дзяўчыну, – сказалі яго служкі, – самую прыгожую ва ўсёй краіне багазмагальнікаў, каб яна спала каля яго і тады яму будзе цёпла.*

*«Яму знайшлі такую, і ён спаў із ёю, але быў нямоглы»* (I, 4).

*«Ён паклікаў свайго сына-Міратворцу і сказаў яму:*

*«– Я сыходжу ад вас шляхам усяго зямнога, але ты мацуйся і будзь мужным. Ты ведаеш, што зрабіў мой вайскавод, Боскі-Бацька, як ён праліў лаянкавую кроў майго сына. Не адпускай яго сівізну мірна ў апраметную, а «сынам кайданаў із Узгорка-Сведкі» зрабі ласку: хай яны сілкуюцца ад твайго стала, за тое, што былі блізкімі мне, калі я збягаў ад сына майго «Заспакаіцеля». Вось яшчэ і Паслушнік, які абгаворваў мяне жахлівым ліхаслоўем... Ты мудры чалавек і ведаеш, што з ім зрабіць, каб звесці яго сівізну ў крыві ў апраметную.*

*«І памёр цар Пыл* (прамовіўшы такі добры запавет) *і быў пахаваны ў сваім горадзе»* (I, 2-10).

*«Вайсковы правадыр Боскі-Бацька* (даведаўшыся, што так аддзячыў яго цар Пыл за верную службу) *збег у Намёт Грамабоя да Ахвярніка і ўхапіўся за яго рогі.*

*«– Ідзі і забі яго, – загадаў цар-Міратворац Сыну Грамабоя, калі яму паведамілі пра гэта.*

*«Той прыйшоў у Намёт і загадаў Боскаму-Бацьку:*

*«– Выходзь!*

*«– Не! Хай я тут памру».*

*Той пайшоў і перадаў гэта новаму цару.*

*«– Зрабі, як ён сказаў, – адказаў яму цар-Міратворац. – Ды паверне Грамабой кроў двух мужоў справядлівых і лепшых, чым ён, на яго галаву і на галовы яго нашчадкаў вавек і ды будзе заспакаенне цару Пылу і яго нашчадкам вавек...*

*Тады Сын Грамабоя напаў на Боскага-Бацьку, забіў яго і заступіў на яго месца, а замест першасьвятара Бацькі Цялят*[210] *цар-Міратворац прызначыў першасьвятаром Правядніка*[211].

*Потым, ён паклікаў Паслушніка* (абгаворваўшага цара Пыла) *і загадаў:*

*«– Не выходзь із тваёй сядзібы. Як толькі ты выйдзеш із яе куды б то ні было, ты неадменна памрэш.*

*«– Добра, – адказаў той. – Як загадаў мой гаспадар, мой цар, так і зраблю».*

*Але пасьля заканчэння трох гадоў збеглі двое яго рабоў да германцаў* (готаў). *Ён засядлаў асла і выправіўся іх шукаць. Калі ён вярнуўся, было паведамлена пра гэта цару-Міратворцу, і той паклікаў яго да сябе.*

*«– Ты чаму не выканаў май загад? – запытаў ён. – Ты ведаеш зло, якое ты зрабіў майму бацьку? Ды паверне Грамабой тваю злосць на тваю галаву, а я, цар-Міратворац» ды буду блаславёны, і пасад цара Пылу ды будзе непахісны вавек».*

*І ён загадаў сыну Грамабоя, свайму вайсковаму правадыру, забіць яго.*

---

[210] אבי־תור (АБІ-ТУР) – бацька Цяляці.

[211] צדק (ЦДК) – праведнік.

*«– І ўмацавалася царства ў руках Міратворца, – заканчвае аўтар»* (І Цары, 2, 46).

Такім з’яўляецца белетрыстычны масток для паступовага пераходу ад цара Пыла-Давыда да цара-Міратворца-Саламона. З першага погляду ён, як быццам бы не змяшчае ў сабе астральных слядоў, а непасрэдна скапіяваны із зямных падзей. Старажытныя ж манархі вельмі часта пачыналі сваё валадаранне із распраў, каб абудзіць да сябе большы жах. Магчыма, аднак, што гэтым апавяданнам была патлумачана смерць нейкіх двух шляхетных адважных людзей ад вывяржэння Вязувія, таму што назва «Сын Грамабоя» тут можа дапасавацца і не да рэчаіснай асобы, а менавіта да слупа дыму над Вязувіем.

Пяройдзем зараз і да галоўнай падзеі валадарання цара-Міратворцы – пабудове храма богу Грамабою, грознаму бацьку ўсіх іншых богаў, пастаянна маючы на ўвазе асноўны закон легендарнай творчасьці, які складаецца ў тым, што мудрагелістая, згодна са сваёй самай сутнасьцю легенда, якой з'яўляецца ўся старажытная гісторыя, вельмі часта пераемна злучае разам асоб із цалкам розных пакаленняў і вымушае дзейнічаць разам дзеячаў із самых аддаленых адна ад адной мясцовасьцей.

Канстанцый II быў адным із выбітных імператараў і валадароў, – кажуць нам, – ад 337 да 361 года нашай эры, дваццаць чатыры гады, але пасьля яго і супольна з ім валадарыў яшчэ больш выдатны імператар Юльян, пляменнік Кастуся, які яшчэ ў 355 годзе быў абвешчаны цэзарам і суваладаром Канстанцыя, і якога гістарычная традыцыя прыводзіць у сувязь з богаслаўцамі (юдаістамі, за якіх ён заступаўся) і з пабудовай «Саламонава храма», пад выглядам яго аднаўлення із парэшткаў. У гэты ж час жыў і Вялікі Цар (Васіль Вялікі), заснавальнік хрысьціянскай літургіі, ён жа евангельскі Хрыстос.

Калі лічыць слушным евангельскае паданне, што храм цара-Міратворца будаваўся сорак гадоў, то яго заканчэнне прыпадае ўжо да валадарання Валента, а калі ён будаваўся дваццаць гадоў, як гэта пазначана ў «Закінутых Справах» (II Параліпаменан, 8,1), і часам пачатку яго будаўніцтва быў апошні год валадарання Кастуся І ці першы яго наступніка, то храналагічна час яго заканчэння прыпадае на 357 год, калі Юльян ужо два гады быў цэзарам і суваладаром свайго стрыечнага брата Канстанцыя. Калі ж ён будаваўся толькі сем гадоў, як пазначана ў І Кнізе Цароў (І Ц., 6, 18), то ён быў закончаны абавязкова пры Валенту. І ва ўсякім разе гэта было пры Васілю Вялікім, выбітным першасьвятару ў Горадзе Цэзараў (Кесарыі), які ніяк немагчыма лічыць размешчаўшымся на месцы глухога азіяцкага мястэчка.

Мы будзем лічыць біблейскае дэталёвае апісанне ўладкавання і памераў гэтага храма за факт, бо сапраўды згодна са сваімі памерамі ён не ўяўляе нечага неверагоднага: нашы сярэднія цэрквы не меншыя за яго нават у павятовых гарадах. А цікавей за ўсё тое, што калі вы будзеце чытаць наступнае апісанне «Саламонавага храма» без папярэдняга надання, то пазнаеце ў ім хрысьціянскую царкву. Вось прачытайце самі, выразна адлюстроўваючы ў сваім уяўленні тое, што чытаеце.

*«Пачаў цар-Міратворац будаваць палац Грамабоя на другі дзень красавіка ў чацьвёрты год свайго валадарання* [із матэрыялаў, быццам бы назапашаных яшчэ яго бацькам царом Пылам (Давыдам)]*, і была ў палаца (мал. 56):* даўжыня 60 локцяў, што азначае каля 12 сажаней; шырыня 20 локцяў, што азначае толькі 4 сажані; вышыня 30 локцяў што азначае толькі 6 сажаней.




Мал. 56

*План палаца Саламона згодна з біблейскай аперцэпцыяй*




Мал. 57

*Храм Саламона і яго начыненне згодна з аперцэпцыяй эпохі Адраджэння (старажытны малюнак).*

*«Бабінец перад храмам (А) быў такой жа шырыні як і яго сьцяна, г.азн. 20 локцяў, а выступаў ён наперад на 10 локцяў, г.азн. толькі на 2 сажані. Вакол сьцен былі зроблены тры прыбудовы з маленькімі, параўнальна з сучаснымі маштабамі, бакавінамі, у 5, 6 і 7 локцяў шырыні. Храм будаваўся із суцэльных, ужо абцясаных, камянёў* (якія стала магчымым вырабляць толькі напярэдадні сярэдняечча пры пашырэнні сталёвага долата), *так што ні молата, ні сякеры, ні нейкай іншай прылады не было чуваць пры яго пабудове, а дах яго быў із кедравых бярвеняў і дошак»* (І Ц., 6, 7).

*Падлога была із кіпарысавых дошак, а «сьцены храма з нутранага боку былі абкладзены кедравымі дошкамі ад падлогі да столі* (гэта азначае ужо існавалі пілы і габлюючыя прылады)*, так што не было бачна каменя. На кедравых, дошках сьцен былі выразаны агуркі, распусьціўшыя кветкі, херувімы і пальмавыя дрэвы.*

*«Святое сьвятых* (мал. 56, С) *было ўладкавана пасярэдзіне, каб паставіць там пасад, трапезы*[212] *Грамабоя*[213]. *Яно было 20 локцяў даўжыні, шырыні і вышыні і абкладзена чыстым золатам* (як у праваслаўных храмах). *На задняй сьцяне святога сьвятых* (С) *зрабілі двух пазалочаных херувімаў із алейнага дрэва вышынёю ў 10 локцяў* (2 сажні), *з распасьцёртымі крыламі ў 5 локцяў, так што заканчэнне крыла аднаго херувіма дакранася да заканчэння другога, а вонкавыя канцы дакраналіся да сьцен. У святое сьвятых вялі пазалочаныя пяцібаковыя дзьверы із алейнага дрэва з выявамі на іх херувімаў, пальмаў і распусціўшыхся кветак.*

[212] ארון (АРУН) – тое ж, што грэка-лацінскае царкоўнае ara – ахвярнік, але па-біблейску яно азначае у той жа час і труну, як у хрысьціянскіх храмах, дзе пад ахвярнікам абавязкова павінны быць парэшткі хаця б ў выглядзе некалькіх валасінак.

[213] ברית (БРІТ) – множны лік ад בריה (БРІЕ) – ядзенне, страва.



Мал. 58.

*«А каля ўваходу ў храм былі зроблены вушакі із алейнага дрэва і дзьве кіпарысавыя двухстворкавыя дзьверы з херувімамі, пальмамі і залатой разьбой (6, 35).*

*«Мастак Храм*[214] *адліў у глiністай зямлі дзьве медзяныя калоны ў 18 локцяў* ($3^{1}/_{2}$ сажні) *вышынёй і два медзяных вянкі накшталт лілеі на іх вяршыні, у 5 локцяў вышынёй, і на іх сеткі плеценай выпрацоўкі і шнуркі ў выглядзе ланцужкоў. Ён прыставіў іх да бабінца храма, і зрабіў таксама адлітую паліраваную круглую хрысцільню, стаячую на дванаццаці цялятах, павёрнутых заднімі часткамі ўнутр, а край хрысьцільні быў адхілены вонкі, як у распусьціўшайся лілеі. Яна змяшчала 2000 чарак і была пастаўлена на правым баку нутра храма, у яго паўднёва-ўсходнім куце* (гэта азначае, храм быў арыентаваны з захаду на ўсход, як рускія цэрквы). *Храм змяшчаў яшчэ дзесяць налоеў, з выявамі ільвоў, цялят і херувімаў, кожны на чатырох медзяных жа колах, з круглым узвышэннем зверху. Ён зрабіў, акрамя таго, яшчэ дзесяць медзяных рукамыйніц.*

*«У сьвятым сьвятых быў наладжаны залаты ахвярнік і залаты пасад, на які клаліся просвіркі. Унутры храма* (як у праваслаўных) *было пастаўлена пяць кандэлябраў па правы і пяць – па левы бок перад сьвятым сьвятых, усе із чыстага золата. І посуд, і нажы, і крапільніцы, і лыжкі, і кадзілы таксама былі із чыстага золата»* (I, 7, 50).

*«Усё гэта было закончана ў верасні да сьвята навагоддзя* (ужо злічэнне ад сузор'я Панны), *і сьвятары прынесьлі ахвярнік* (ага) *трапезы Грамабоя із намёта, дзе ён раней знаходзіўся, у святая сьвятых пад херувімаў, і ў ім не было нічога акрамя двух каменных скрыжаляў, якія памясьціў туды Збаўца на гары Спусташальніка, калі багазмагальнікі выходзілі із Міц-Рымскай зямлі.*

*«Калі сьвятары выйшлі пасьля гэтага са сьвяцілішча, воблака дыму* (з Вязувія) *напоўніла Сядзібу Грамабоя» (I, 8, 10).*

*«Цар – Міратворац падняўся з кален і, стоячы каля ахвярніка, блаславіў увесь сход багазмагальнікаў, сказаўшы гучным голасам:*

*– «Блаславёны Грамабой, які даў заспакаенне свайму народу! Не засталося нясдзейсненым ніводнае із усіх добрых яго слоў, вымаўленых праз яго служку Збаўцу* (Майсея). *Ды будзе бог наш з намі, як ён быў з бацькамі нашымі. Ды не пакіне нас! І ды будуць гэтыя мае словы блізкімі Грамабою, нашаму богу, і дзень, і ноч. Хай ён робіць, што павінна для свайго раба і што павінна для свайго народа-багазмагальніка, каб ведалі ўсе народы, што Грамабой з'яўляецца богам і няма іншага, акрамя яго»* (I, 8, 60).

*«Ён адпусьціў народ на восьмы дзень урачыстасьцей. І ўсе пайшлі ў свае шатры, цешачыся і вяселячыся пра дабро, якое зрабіў Грамабой свайму народу»* (I кн., 8, 66).

Адначасова з храмам, цар-Міратворац пачаў будаваць палац і для сябе, яшчэ больш шыкоўны згодна з тым часам, чым храм, і пабудаваў яго праз дваццаць гадоў пасьля пачатку. Я не буду апісваць яго дэталі і раскошу. Жадаючы сам знойдзе ўсё гэта ў кнізе «Цары» і ў «Закінутай Кнізе» (Параліпаменане).

У пабудове вялікага храма Грамабою, як бацьку богаў, мы бачым, без сумневу, буйны культурна-гістарычны факт. Лічачы, што цар-Міратворац і Вялікі Цар (Васіль Вялікі Чэцці-Мінеяў) толькі дзьве розныя гістарычныя аперцэпцыі адной і той жа асобы, мы прыходзім да высновы, што ён быў не толькі ўсталёўшчыкам першапачатковай літургіі, якая і зараз носіць назву літургія Васіля Вялікага, але таксама і стваральнікам прататыпа звычайных сучасных

[214] חרם (ХРМ) – значэнне невядома, магчыма проста: палац.

хрысьціянскіх храмаў. Але толькі гэты факт у яго біяграфіі і застаецца гістарычным, а ўсё астатняе зноў жа легендарнае.

*«Цар- Міратворац вельмі шанаваў бога Грамабоя, – паведамляе I кніга «Цары», – хацяя прыносіў ахвяры і ладзіў каджэнні і на вышынях. Калі ён пайшоў на Ўзгорак, дзе быў галоўны ахвярнік, яму з'явіўся Грамабой у сне ноччу.*

*«– Прасі, што даць табе? – прамовіў ён.*

*«– Я, як падлетак малы, – адказаў яму Міратворац, – не ведаю ні ўваходу, ні выйсьця сярод твайго шматлікага народу, якога немагчыма ні злічыць, ні вылічыць з нагоды яго шматлікасьці* (адзначым, што гэта ўжо цалкам, не падобна на невялікі Эль-Кудзкі вілает у Турцыі, дзе вельмі лёгка было б усіх палічыць па галовах падобна таму як у нейкай рускай воласьці). *Даруй жа служцы твайму сэрца, ўмеючае кіраваць народам, каб аддзяляць дабро ад зла.*

*«– За тое, што ты не прасіў сабе ні даўгіх гадоў, ні багацця, ні душ сваіх ворагаў, – адказаў яму Грамабой, якому спадабалася гэтае прашэнне, – а прасіў сабе розуму і ўмення кіраваць, я даю табе мудрае і разумнае сэрца, так што падобнага табе не было і не будзе ніколі. А ў дадатак я даю табе і тое, чаго ты не прасіў: і багацце, каб і па ім не было падобнага табе ва ўсе вякі».*

*«Цар-Міратворац пайшоў у сваю сталіцу, Горад Сьвятога Замірэння, паставіў перад пасадам трапезы Грамабоя свечкі ўсеспалення і заспакаення і наладзіў баляванне для сваіх служак. І раптам прыйшлі дзьве жанчыны да цара.*

*«– О, мой гаспадар, – прамовіла адна із іх. – Мы абедзьве жывём у адным пакоі і яна нарадзіла дзіцёнка на трэцці дзень пасьля мяне. Потым памёр сын гэтай жанчыны, таму што яна неспадзявана прыціснула яго ў сне. Але яна паднялася сярод ночы, пакуль я спала, паклала свайго мёртвага каля маіх грудзей, а майго жывога ўзяла да сябе. І вось, калі я раніцай прачнулася, каб пакарміць свайго, бачу, ён мёртвы. Я прыглянулася да яго – і ён не мой.*

*«– Не, – адказала ёй другая жанчына, – мой сын жывы, а твой памёр.*

*«– Не, – паўтарала першая, – твой мёртвы, а мой жывы. – І так яны спрачаліся адна з адной увесь час.*

*«– Падайце сюды меч, – загадаў цар. – Рассячыце жывога дзіцёнка на дзьве палавіны і аддайце адну адной, а другую другой!*

*«– О, мой гаспадар! – усклікнула першая, не забівай яго! Хай лепш аддадуць, яго ёй.*

*«– Хай сякуць! – сказала ёй другая. – Хай ужо ні мне, ні табе.*

*«– Аддайце яго першай! – вырашыў Саламон. – Яна яго маці».*



Мал. 59

*Суд цара Саламона ў аперцэпцыі сучаснага мастака із кнігі La Sainte Bible, з малюнкамі Густава Дарэ.*

Скажыце, чытач, хто із усіх старажытных азіяцкіх цароў мог даць нагоду да ўзнікнення такой легенды? Пра каго можна было б сказаць як пра ўладара шматлікага народа, якога ніякім спосабам немагчыма пералічыць, і як пра будаўніка найвялікшых храма і свайго ўласнага палаца небывалай згодна з тым часам раскошы і як наймудрэйшага із усіх людзей?

Няўжо гэта падобна на нейкага эль-кудзкага князька бедных палестынскіх пастухоў? Ды і адкуль гэты князёк мог бы набраць столькі медзі, срэбра і золата? Не адным жа рабаваннем суседніх пастухоўскіх народаў, і праходзіўшых караванаў, у якіх таксама не магло быць нічога падобнага? Цалкам зразумела з боку гледжання законаў развіцця гісторыі матэрыяльнай культуры, на якіх грунтуецца развіццё астатніх культур, што густа населеныя краіны на берагах Ніла ці ў Месапатаміі, якія мелі магчымасць шляхам марскога гандлю атрымліваць золата, срэбра і медзь із Яўропы, былі такімі моцнымі, што не дазволілі б без пакарання рэквізаваць і перавозіць свае каштоўнасьці на вярблюдах кудысьці на берагі Мёртвага возера! Ды і якія б знакамітыя мастакі і будаўнікі пайшлі б будаваць у гэтай глухмені храм, якога не было нідзе ў сьвеце, рызыкуючы самім быць абрабаванымі і зарэзанымі мясцовымі драпежнікамі? А ўласнай працавітасьцю жыхары гэтага беднага лапіка зямлі мала што маглі здабыць, асабліва пад час пастухоўскага перыяду. У Ягіпце ж і Месапатаміі з іхнымі заліўнымі сенажацямі было значна больш сваіх уласных статкаў, каб яны мелі магчымасць непамерна паднімаць кошты на мёртва-морскую ялавічыну.

Усё, што паведамляецца ў гэтай легендзе, набывае магчымасць свайго існавання толькі пасьля перанясення месца падзей у адну із самых вельмі адораных прыродай мясцовасьцей і прытым маючую добрыя шляхі стасункаў. Ды і сама легенда магла ўзнікнуць толькі там жа, а не каля Мёртвага мора.

Ніякая ж галава, паўтараю, не можа ў сваім уяўленні стварыць нешта такое, што яшчэ не прыйшло ў яе із рэчаіснага сьвету. Легенда, як прадукт уяўлення, толькі мудрагеліста камбінуе дэталі выяваў, некалі бачаных нашымі вачамі, гукаў і гаворак, чутых нашымі вушамі, густаў і пахаў, набытых нашым языком і носам, і адчуванняў, выпрабаваных нашым целам. Для ўзнікнення паданняў пра пышны храм Саламона мог служыць нагодай толькі сапраўдны храм, выключны; апавяданні пра вельмі пышны царскі палац мог абудзіць толькі сапраўды добры палац, а для ўзнікнення легенды пра выдатнага цара-юрыста павінна была існаваць яго папярэдняя наяўнасць.

«Цар-Міратворац, – паведамляецца ў пятай частцы першай кнігі Цары, – валодаў усімі царствамі ад Ракі[215] да зямлі прыхадняў і да межаў Міц-Рыма, і яны прыносілі яму дарункі ва ўсе дні яго жыцця». Усё гэта так незвычайна, што мімаволі здаецца, быццам бы ў апавяданне пра цара-Міратворцу ўжо ўпляліся, як залатыя ніткі ў звычайную льняную тканіну, дэталі із сапраўды пышнага валадарання Юстыніяна, які праславіўся як будаўнік храмаў і заснавальнік юрыспрудэнцыі. А «гісторыя» сведчыць нам, што пасьля задушэння Юстыніянам у 532 годзе (калі ў студзені з'явілася камета) паўстання ў Канстантынопалі (адпаведна біблейскаму апавяданню пра тое, як Саламон пры сваім уступленні на пасад уціхаміры свайго канкурэнта Падножжа Грамабоя (Адонію, I Ц., 1, 51), ён «пашырыў свае ўладанні заваяваннем вандалаў у Афрыцы і ўсходніх готаў у Яўропе (біблейскае напісанне ГТ), але войска ўзначальваў пры гэтым не сам, а яго вайсковыя правадыры Велісарый і Нарсэс.

А вось і узор гаспадаркі цара-Міратворцы, сасланага на Мёртвае возера, дзе ён не мог бы мець нічога падобнага.

*«Для харчавання яго двара кожны дзень выдаткавалася: сорак дзьве чвэрці лепшай мукі і восемдзесят чатыры чвэрці мукі простай, дзесяць валоў адкормленых і дзесяць із пашы, сто авечак, акрамя аленяў, сарнаў, дзікіх коз і адкормленых птушак, таму што ён уладарыў над усімі царамі па гэты бок Ракі і быў у яго мір з усімі навакольнымі краінамі. У яго было 40000 стойлаў* (падумайце толькі!) *для каляснічных коней і 12 000 вершнікаў». «І даў бог яму мудрасць і вельмі шмат розуму, як пяску на беразе мора, большую чым мудрасць усіх цароў Усходу і ўся мудрасць Міц-Рыма. Ён быў мудрэйшы за ўсіх людзей і знакаміцейшы ва ўсіх народаў, ён разважаў пра ўсе расьліны, ад кедра ў Ліване да ісопу, растучага на валу; пра звяроў і птушак, пра паўзуноў і рыб* (гэта ж прыпісваюць і Вялікаму Цару ў яго павучаннях), *вымавіў тры тысячы прамоваў і тысячу пяць песень. Ад усіх народаў і цароў зямных прыходзілі паслухаць яго мудрасць. 10 000 чалавек неслі ў яго ўвесь час павіннасць пілавання кедравых і кіпарысавых дрэў на Манблане* (Лівіне) *у цара Герма, якому Саламон штогод даваў 28 чвэрцяў пшаніцы, 28 чвэрцяў аліўкавага масла, каб яго рабы сплаўлялі лес плытамі па Міжземнаму мору да месца прызначэння. У яго было 70 000 пераносчыкаў цяжараў і 80 000 каменячосаў у горах, акрамя 3000 наглядчыкаў над імі, і гэта было ўвесь час, пакуль ён будаваў свой палац і храм»* (5, 30).

---

[215] נהר (НЕР) – струмень, лічыцца за Еўфрат.

А камяні «былі абчасаны згодна з адным памерам, абрэзаны пілой і ў падставе мелі 8 і 10 локцяў даўжыні» (7, 10). Усё гэта ўжо паказвае на значнае развіццё сталёвых прылад пры гэтым цару.

*«Пасьля заканчэння пабудовы храма і царскага палаца, – працягвае далей Першая кніга Цароў, – Грамабой* (у выглядзе новага вывяржэння Вязувія?) *з'явіўся другі раз, каб сказаць яму:*

*«– Я пачуў тваю малітву, я асьвяціў гэты храм, каб у ім маё імя знаходзілася вавек. Але калі народ адступіцца ад мяне і будзе ўшаноўваць чужых багоў, то я вынішчу багазмагальнікаў з твару зямлі, і кожны праходзячы побач з гэтай сядзібай спалохаецца і вымавіць: за што Грамабой зрабіў так з гэтай зямлёй і з гэтым сядзібай?» (9, 1-8).*

*Само сабой зразумела, што такое папярэджанне магло быць прыпісана Грамабою толькі пасьля таго, калі землятрус і лава Вязувія ўжо здзейснілі абяцаную адплату.*

*«Савойская царыца[216], – працягвае легенда далей, – пачуўшы пра славу цара-Міратворцы, прыйшла да яго з вярблюдамі, наўючанымі духмянымі рэчывамі і вялікай колькасьцю золата і каштоўных камянёў, каб выпрабаваць яго загадкамі. І не было нічога патаемнага, чаго б ён не патлумачыў ёй. І пабачыла царыца ўсю мудрасць цара-Міратворцы і пабудаваны ім палац, і ежу, і жыллё яго служак, і іхную статнасць, і адзенне, і свечкі ўсеспалення ў сядзібе Грамабоя і дівячыся прамовіла:*

*«– Праўда тое, што я чула ў сваёй зямлі пра твае справы і мудрасць! Аднак, я не верыла чуткам, пакуль не прыйшла да цябе і не пабачыла ўласнымі вачамі. Мне і паловы не было паведомлена. Шчасьлівыя твае людзі і служкі, якія заўсёды стаяць перад табой і слухаюць тваю мудрасць! Дзякуючы заклапочанасьці за свой народ прызначыў цябе Грамабой яго царом, каб чыніць суд і праўду.*

*«І падаравала яна яму 120 талантаў золата і вялікую колькасць водараў і каштоўных камянёў. Ніколі не бывала такой шматлікасьці водараў, колькі падаравала яму яна. Карабель Герма[217], які вазіў золата із Афрыкі (Афіры)[218], прывёз яму ў гэты час вялікую колькасць чырвонага сандалавага дрэва[219] і каштоўных камянёў. Цар зрабіў із сандальнага дрэва ганкі для сядзібы Грамабоя і для сваёйго палаца і гуслі для сьпевакоў, і калі Савойская царыца выправілася назад у сваю зямлю, даў ёй усё, чаго яна ні пажадала»* (І Цароў, 10, 14).

Уся гэтая легенда амаль літаральна паўторана і ў «Закінутай Кнізе» (Параліпаменан, 1, 9), так што аўтары біблейскіх кніг, відавочна, надавалі ёй вялікае значэнне.

Але што ж гэта за царыца? Што гэта за карабель, вазіўшы золата і кіруемы Гермам? Міф гэта ці рэчаіснасць? Для таго ж, каб прывезьці сандалавае дрэва, якое расьце толькі ў трапічнай Азіі, не бліжэй Індыі, і разам з ім такую ж колькасць каштоўных камянёў патрэбна было і адвезьці туды нешта каштоўнае на абмен. Ды і

---

[216] שבא (ШБА) – сугучна з שבע (ШБЭ) – браць у палон і з Савояй Паўднёвай Францыі, але паходжанне мне не зразумела. Магчыма, што паходзіць ад שבה (ШБЕ) – сем

[217] חירם (ХІРМ) – חורם (ХУРМ) сугучна з חרם (ХРМ) – сетка, ці – прыводзячы пад заклён. Гэта ці Карабель Ахерона, ракі падземнага царства, у якой сын Сонца і Зямлі, скінуты з неба пасьля паразы тытанаў, перавозіць душы, ці корань гэтага слова: Германія.

[218] אפיר (АФІР) – загадкавая краіна. Сугучна із Афрыкай.

[219] Відавочна petrocampus santalinum. Але гэта дрэва расьце толькі ў трапічнай Азіі і служыць для здабывання чырвонай фарбы.

як гэта можна было тады зрабіць? Праз старажытны Суэцкі канал ці вакол Афрыкі, праз мыс Добрай Надзеі? Нам няма патрэбы разбірацца ў гэтым галаваломным пытанні, бо карабель Герма мы знаходзім непараўнальна бліжэй на старажытных зорных мапах, у выглядзе сузор'я Карабель Арганаўтаў (шукальнікаў золата) пад сузор'ем Гідры. Гэтае сузор'е без сумневаў еўрапейскага, грэцкага, а не ягіпецкага паходжання, таксама як і сузор'е Кіта і Вадзяной Змяі. Толькі із узбярэжжаў Паўднёвай Яўропы карабель Арганаўтаў здаецца як бы выплываючым над морам, а ў Ягіпце ці ў сярэдняй Месапатаміі, «краіне Халдэяў», яму давялося б плыць сярод пяскоў пустыні, разам з папярэднічаючым яму Кітом і суправаджаючай яго Марской Змяёй. Іншае справа сузор'е Фенікса, адраджаючаяся пасьля свайго спалення із уласнага попелу. Яно, наадварот, магло узнікнуць толькі ў Ягіпце, а не на еўрапейскіх берагах Міжземнага мора.

Паглядзім жа на неба з паўднёва-італійскага берага, дзе карабель Арганаўтаў пачынае выплываць над залацістымі і сандалава-чырвонымі адценнямі паўднёва-ўсходняй паловы ранішняга світання для таго, каб пры ўзыходзе сонца ўтапіцца ў блакіце неба. Якая іншая фізічная з'ява магла б паслужыць лепшай нагодай для ўзнікнення легенды пра карабель, прывозячы ў Яўропу (а не ў Заходнюю Азію) з Усходу золата і сандал у такой колькасці, якой яшчэ ніхто іх не бачыў на зямлі? Гэта і ёсць першакрыніца падання пра карабель Герма (ці згодна з грэцкай міфалогіяй Ахерона), таму што гэты карабель большую частку свайго штосутачнага шляху плыве пад зямлёй. Гэтая акалічнасць прыводзіць да высновы, што і царыцу Савойскую (якую царкоўныя перакладчыкі назвалі царыцай Саўскай) патрэбна шукаць хутчэй за ўсё на небе.

Такая царыца там і існуе. Гэта Венера, і наведванне ёю цара-Міратворца, напэўна, проста пазначае сыходжанне Венеры і Юпітара на залатым фоне світання над сузор'ем Карабля ў сузор'і Панны.

Але як жа яна прыйшла да цара-Міратворцы з мэтай «выпрабаваць яго загадкамі» і якімі маглі б быць гэтыя загадкі? Мне здаецца, яна прапанавала яму выграшаць гараскопы і нябесныя знакі, і ён даў ёй для гэтага правілы і прадказваў нават і месяцовыя зацьменні, іншымі словамі: ён быў выбітным астраномам свайго часу.

Такое сыходжанне планет сапраўды было пад час маладзіка 7 верасня 332 года, калі Меркурый і Юпітар былі ў галаве Панны, Венера каля яе пад канец Ільва, Сатурн у сярэдзіне Панны, а Сонца і Месяц каля грудзей той жа Панны. Згадаем, што гэта і быў сон міц-рымскага валадара, які быў патлумачаны яму «праобразам Хрыста» – Ёсіфам Пыгожым, а 332 год дае час юнацтва Вялікага Цара (Васіля Вялікага).

* * *

Я не магу тут утрымацца, каб не зрабіць маленькага адступлення. У разборы біблейскага рамана пра цара-Міратворцу мы падышлі да такога часу, калі пачаліся сусветныя саборы, г.зн. калектыўныя заканадаўчыя пастановы царквы. На першым із іх у Пераможным Горадзе (Нікеі, больш падобным на Пампею, чым на турэцкі Ёнік, які лічаць Нікеяй) у 325 годзе было ўсталявана першынство бога Грамабоя, як бога-бацькі. На другім, Канстантынопальскім, у 381 годзе Вялікі Цар быў абвешчаны (пасьля яго сьмерці) сынам боскім...

І мы бачым, што ніводзін із гэтых двух сабораў не быў выкліканы астралагічнымі меркаваннямі.

Пры Нікейскім саборы ў 325 годзе Сатурн быў у Двайнятах, а Юпітар – у Вадаліву, г.азн. далёка адзін ад аднаго, і прытым у двух нейтральных сузор'ях. Пры Канстантынопальскім першым у 381 годзе Сатурн быў у Цяляці, а Юпітар у Шалях, зноў у розных месцах неба.

А із трох першых пасьля-апакаліптычных сусветных сабораў, – усе былі прыстасаваны да часу сыходжання Юпітара і Сатурна ў адным сузор'і. Вось іхныя гараскопы.

А. – Эфескі сабор 431 г. быў прыстасаваны да сыходжання шасьці планет у сузор'і Казярога на нядзелю 1 лютага 431 года, і таму можа быць названы саборам Казярога і Рыбы (табліца XXVII). Перад гэтым, у чацвер 29 студзеня, пад час маладзіка, усе планеты, акрамя Венеры, цесна размясьціліся каля 310° сучаснай даўгаты ў сярэдзіне сімвала першароднага граху, – сузор'я Казярога, які прыносіцца ў гэтыя дні ў ахвяру ўсеспалення ў полымі вечаровага зарыва. А над полымем світання, проста пад Крылатым Канём-Пегасам – сузор'ем Вясны, ярка ззяла паміж Вадалівам і Рыбамі Вечаровая Зорка – Венера, якую пад найменнем Ранішнія Зорка аўтар Апакаліпсіса абяцаў аддаць перамагаючаму, сыходзячаму з неба на светлым кані. Як тут было не сабрацца тэолагам-месіянцам V стагоддзя, каб разам урачыста сустрэць Езуса праз 163 гадоў пасьля яго слупавання і шматразовых чаканняў грунтуючыся на спалучэннях планет?

ТАБЛІЦА XXVII.

*Гараскоп Эфескага сабору, сабора Казярога, на 1 лютага 431 года.*

| 29 студзеня 431 года. | | |
|---|---|---|
| Сонца | 307° | у Казярогу |
| Месяц | 307° | у Казярогу |
| Марс | 302° | у Казярогу |
| Меркурый | 310° | у Казярогу |
| Юпітар | 316° | у Казярогу |
| Сатурн | 314° | у Казярогу |
| Венера | 350° | у Рыбах |

В. – Халкедонскі сабор 451 года быў прыстасаваны да сыходжання Сонца, Месяца, Сатурна, Юпітара і Меркурыя ў сузор'і Панны 11 верасня 451 года (табліца XXVIII), тым часам як ваяўнічы Марс быў у нагах Змеятрымальніка – сімвала ажыўшага Езуса, спускаючагася на зямлю пад полымем вечаровага зарыва, а ранішняя зорка Венера паднімалася раніцай пад час світання пад Яслямі Хрыста ў сузор'і Рака.

ТАБЛІЦА XXVIII.

*Гараскоп Халкедонсксага сабора, сабора Панны і Змеятрымальніка, на 11 верасня 451 года.*

| | | |
|---|---|---|
| Марс | 247° | Пад Змеятрымальнікам |
| Сатурн | Каля 210° | у Панне. |
| Месяц | 192° | у Панне. |
| Сонца | 192° | у Панне. |
| ЮПІТАР | каля 201° | у Панне. |
| Меркурый | 175° | у Панне. |
| Венера | 143° | у Раку |

С. – Другі Канстантынопальскі сабор 553 г. быў сараны ўжо не пры чаканні, а з нагоды няўдачы апакаліптычных прадказанняў на злучэнне ўсіх планет пад Пасадам бога ў Аўне і Рыбах на працягу папярэдняга года. Справа ў тым, што 11

лютага 552 года ўсе планеты павінны былі сабрацца над Кітом, які праглынуў прарока Ёну, і таму чакаўся канец свету (табліца XXIX)

ТАБЛІЦА XXIX.

*Злучэнне планет пад сузор'ем Пасаду бога (Касіяпеі) 11 лютага 552 г.*

| | | |
|---|---|---|
| Сонца і Месяц | 342° | паміж Вадалівам і Рыбамі. |
| Сатурн | 345° | у Скарпіёне. |
| Венера | 354° | у Скарпіёне. |
| Меркурый | 0° | у Скарпіёне. |
| Юпітар | 35° | у Скарпіёне. |
| Марс | 44° | у Скарпіёне. |
| Усё над Кітом, які праглынуў прарока Ёну. | | |

Аднак, ніякай бяды ні з кім не здарылася, і ўсе вернікі, вядома, абурыліся на сваіх духоўных правадыроў. Як было выратаваць свой аўтарытэт? І вось быў склікані новы сабор, на якім астролагі, прадстаўляемыя біскупам Боскім Дарункам (Хведарам), былі адлучаны ад царквы. Арыген быў аддадзены анафеме, і кодэкс Юстыніяна, напісаны, як запэўніваюць гісторыкі, у 565 годзе, прыраўнаў астролагаў, столькі разоў дарэмна палохаўшых людзей сваімі неадбываўшыміся прадказаннямі, да атрутнікаў.

Такімі былі тры першыя пасьля-апакаліптычныя да-евангельскія саборы, але і наступны за імі – трэцці Канстантынопальскі сабор (680-691 гг.) быў скліканы, відаць, хаця і не грунтуючыся афіцыйна на падставе астралагічных чаканняў, але і не без забабоннай аглядкі на іх (табліца XXX).

Усе планеты, акрамя Марса, сышліся пад час апошняга году паседжанняў гэтага сабора ў Скарпіёне пад паднімаючымся над імі Змеятрымальнікам, і толькі адзін чырвоны Марс злавесна ззяў у грэшным сузор'і Казярога над палаючай паласой вячаровага зарыва.

Ён пачаўся ў 680 годзе, калі Сатурн быў у Раку, а Юпітар у Казярогу, але закончыўся толькі ў 691 годзе, праз некалькі месяцаў ці тыдняў пасьля таго, як усе планеты, акрамя Марса, пайшоўшага у Казярога, злучыліся ў сімвале сьмерці і ажывання із памёршых, у сузор'і Скарпіёна, пад пятой паднімаўшагася ў нябёсы Змеятрымальніка (табліца XXX). Я думаю, што гэта быў апошні выбліск асуджанага афіцыйна, але ўсё яшчэ не знікшага із розумаў першапачатковага рэлігійнага вучэння Вялікага Цара пра таямнічыя ўзаемадачыненні зямных падзей з рухам нябесных сьвяціл, хаця афіцыйныя прапаведнікі гэтага і былі ўжо анафематызаваны і якія б то ні было стасункі з імі забаронены.

ТАБЛІЦА XXX.

*Гараскоп апошняга года паседжанняў трэццяга Канстантынопальскага сабора, Сабора Скарпіёна, 6 лістапада 690 года.*

| | | |
|---|---|---|
| Марс | 315° | у Казярогу. |
| Сатурн | 250° | у Скарпіёне. |
| Юпітар | 250° | у Скарпіёне. |
| Сонца | 248° | у Скарпіёне. |
| Месяц | 248° | у Скарпіёне. |
| Меркурый | 239° | у Скарпіёне. |
| Венера | 230° | у Шалях каля Скарпіёна |

Ў гэты ж час з'явілася і евангелле Марка (626-725 гг.), якое паклала пачатак новаму – евангельскаму – перыяду хрысьціянства[220].

[220] Гл. «Хрыстос». Першая кніга, частка IV.

Наступны за гэтым сёмы і апошні сусветны сабор, сабраны ў 783 годзе пад найменнем Нікейскага II, у прадмесьці Канстантынопаля, пачаўся, калі Сатурн быў у Стральцу, а Юпітар у Панне, і скончыўся ён у 787 годзе, пры Сатурне, перайшоўшым праз Казярога ў Вадаліва, і пры Юпітары, перайшоўшым следам за ім, але не даганяючы, із Панны, праз Шалі, Скарпіёна і Стральца. На гэтым саборы, напэўна, і былі кананізаваны першыя евангеллі.

Самымі сімвалічнымі ў гэты перыяд былі спалучэнні:

– 30 вер. 783 г., калі Марс быў каля 156° у Ільве (пры Сонцы, Месяцы і Юпітары ў Панне і Сатурне – у Стральцу).

– 19 кастрычніка 784 г., калі Марс быў каля 290° у Стральцу (пры Сонцы, Месяцы і Юпітары ў Шалях, а Сатурне ў Казярогу).

– 7 лістапада 785 г., калі Марс быў каля 192° у Панне (пры Сонцы, Месяцы і Юпітары ў Змеятрымальніку і Сатурне ў Казярогу).

Няма сумневаў, што чакаемая за некалькі гадоў камбінацыя Марса ў Ільве, Сатурна ў Стральцы і дабрадзейных планет Сонца, Месяца і Юпітара ў Панне, выпаўшая на апакаліптычны дзень 30 верасня 783 года, магла выклікаць забабонныя чаканні і паслужыць нагодай да папярэдняга склікання і гэтага апошняга із сусветных сабораў. Але ўжо адна тая акалічнасць, што сабор разышоўся, не дачакаўшыся 789 года, калі Юпітар і Сатурн павінны былі сустрэцца адзін з адным, а таксама з Сонцам і Месяцам, вясной каля кропкі веснавога раўнадзенства ў Рыбах, дастаткова паказвае, што чаканні другога прышэсьця Езуса пасьля шматлікіх астралагічных прадказанняў і канфузячых няўдач перасталі к гэтаму часу грунтавацца на апакаліптычным метадзе прадказання.

* * *

Тут мы разгледзелі ўсе сем сусветных сабораў і бачылі, што за выключэннем двух першых, адбыўшыхся яшчэ пад час да-апакаліптычнага перыяду, ды апошняга, усе астатнія мелі сувязь з сімвалічнымі спалучэннямі планет грунтуючыся на метадзе Апакаліпсіса Яна Антыяхійскага.

Мы бачылі, што Эфескі сабор Казярога ў 431 годзе быў выкліканы жаданнем супольна сустрэць Езуса ў Ефесе, як першым із сямі гарадоў, якім Ян адрасаваў Апакаліпсіс.

Мы бачылі, што Халкідонскі сабор – Сабор Панны 451 года – быў выкліканы такім жа жаданнем супольна сустрэць Езуса ў Халкідонскім прадмесьці Канстантынопаля, дзе жыў Ян пасьля сыходу ад цара Аркадзя, пры збіранні планет каля Панны.

Мы бачылі, што Другі Канстантынопальскі Сабор Боскага Пасада 553 года адбыўся, як мы ўжо бачылі, не з мэтай трэцці раз супольна асканdaліцца марным саборным чаканнем прыходу Езуса, а дзеля тлумачэння, чаму ж ён не з'явіўся 1 лютага 552 года, пры такім спрыяльным зборы планет, якое, відаць, было нагодай прадказання нестарыянскага біскупа Хведара, які тут, у 553 годзе, і быў асуджаны за леташнюю няўдачу.

Але, нягледзячы на асуджэнне, астралагічная (апакаліптычная) ідэя ўсё яшчэ не памёрла ў масах, і сьвятарства з'ехалася яшчэ раз у Канстантынопаль да 6 лістапада 690 года на сабор Скарпіёна. Але ён так уджаліў апакаліптычную ідэю вызначэння другога прышэсьця Езуса грунтуючыся на спалучэннямі планет, што апошні, сёмы, сабор у 787 годзе канчаткова ліквідаваў яе, раз'ехаўшыся па сваіх месцах раней збірання планет каля сузор'я Рыб, што пагражала сусветным патопам, а не знікненнем свету ад полымя. Да гэтага часу, напэўна, адносіцца і канчатковае

аддзяленне богаслвячых месіянцаў, якія зараз маюць назву юдэі, ад нядаўна узнікшых евангельска-хрысьціянскіх, і іхнае пагардлівае стаўленне адзін да аднаго, працягваўшаяся аж да эпохі вальнадумства і рацыяналізму ў Яўропе да заканчэння XVIII стагоддзя.

* * *

Але вернемся да прадмета гэтай часткі – цара-Міратворца – будучага сына боскага. Яго біблейская аперцэпцыя цалкам процілеглая евангельскай апошняга сусветнага сабора, лічыўшая, што ён павучаў: «калі маеш дзьве кашулі, то аддай адну із іх немаючаму» (а калі яе патрэбна пасьціраць, то хадзі голым, пакуль не высахне).

*«Кожны год, – паведамляе легенда, – яму прывозілі 666 талантаў золата*[221] (г.азн. каля $2^{1}/_{2}$ мільёнаў залатых рублёў, цалкам неверагодная сума не толькі для сірыйскага князька таго часу, але нават і для імператара Юстыніяна, памнажальніка храмаў богу Грамабою), *звыш таго, што атрымлівалася ад збораў ад разносчыкаў-гандляроў і купцоў і ўсіх памежных цароў і абласных кіраўнікоў. Ён зрабіў дзьве сотні вялікіх шчытоў із каванага золата і трыста шчытоў меншых, і паклаў іх у палацы – храме Белага Іярэя* (мітрапаліта)[222]. *Ён зрабіў сабе пасад із слановай косткі* (зноў із індыйскага ці афрыканскага каштоўнага матэрыялу), *абкладзены чыстым золатам, з закругленай спінкай, з ручкамі з абодвух бакоў для размяшчэння сваіх рук, з двума ільвамі, стаячымі побач іх, і яшчэ з дванаццацю ільвамі, стаяўшымі ўзбоч шасьці прыступак, вядучых на ўзвышэнне залы да пасада. Ні ў адным із іншых царстваў не было нічога падобнага гэтаму.*

*«Усе кубкі для піцця ў цара былі залатымі, так жа, як і ў палацы белага іярэя, – із найлепшага золата. Са срэбра не было нічога: яно лічылася нікчэмным у часы цара-Міратворцы. Тры разы на год прыходзіў да яго Тартэскі*[223] *карабель, прывозіўшы (із Гішпаніі) золата, срэбра, слановую костку, малпаў і паўлінаў.*

*«Усе імкнуліся пабачыць цара-Міратворцу, каб паслухаць «яго мудрасьці, і кожны год падносілі яму ў дарунак, кожны ад сябе, срэбны і залаты посуд, адзенне, зброю, пахучыя рэчывы, коней і мулаў. У яго было 1400 калясніц і 12 000 вершнікаў, ён размеркаваў іх па адміністрацыйных гарадах і пры сабе ў Горадзе Сьвятога Замірэння. Коней яму прыводзілі із Міц-Рыма, і царскія скупшчыкі куплялі іх табунамі і дастаўлялі ўсё гэта гоцкім царам і горцам* (цірольцам)».

Падумаем жа зноў, чытач, над тым, што мы тут чытаем! Не будзем падобнымі на тых, пра каго сам Езус сказаў: «будзеце мець вочы і не пабачыце, будзеце мець вушы і не пачуеце, таму што закаснела сэрца ваша». Што такое тут

---

[221] ככר (ККР) – талант, лічыцца каля 342 фунтаў стэрлінгаў, каля 3500 залатых рублёў.

[222] יער־ה־לבנון (ІЕР-Е-ЛБНУН) – звычайна перакладаюць: дуброва Белая, дуброва Ліванская. Але, пераносячы месца падзей у Паўднёвую Італію, дзе ў IV стагоддзі існавалі грэцкія асады, я лічу слова יער (ІЕР) за грэцкае іярэй (ἱερεύς). Таму і ІЕР-Е-ЛБНУН я перакладаю: белы іярэй, г.азн. мітрапаліт, бо ён вызначаўся белым клабуком. Тады робяцца зразумелымі і шматлікія папрокі ў біблейскіх кнігах за тое, што багазмагальнікі не знішчылі гэтых іяраў, г.азн. праваслаўных сьвятароў. Гэтае слова, тлумачымае як дуброва ў множным ліку, згадваецца ў Ісаі (10,34) і ў Іезекііла (39,10). Але вельмі сумнеўна, каб тут меліся на ўвазе звычайныя дубравы.

[223] תרשיש (ТРШІШ) – Тартэс, гавань у паўднёвай Гішпаніі, паміж «абаімі рукавамі Гвадалквівіра, па-арабску Wadl-al-Khabir (рака Хабур – вялікая рака), дзе здабываліся срэбра, жалеза, волава, малпы для забавы цароў і вяльможаў. Вось чаму і צר (ЦР) вымаўляемае ЦАР, я лічу не за назву ніколі не існаваўшага сірыйскага горад ЦІР, як тэолагі, а, за скарочанае Цэзар, як і рускае цар. Гэта была назва царскай рэзідэнцыі, ўжываўшаяся як да італійскага Рыма, так і да візантыйскага Царгорада, і да егіпецкага Каіра. Слова ТРШІШ я заўсёды лічу за гішпанскі Тартэс, а слова ІЕР не за «дуброва», а за «іярэй».

апісана ў самай Бібліі? Няўжо сапраўдны царскі двор у бедным глухім сірыйскім мястэчку Эль-Кудс, да якога не існавала нават і шашы? Хто і як мог там стварыць усё гэта? Дзякуючы якой непасільнай працы ці нечуванаму рабаўніцтву (таму што іншых сродкаў не было) маглі бедныя, адпаведна з самой іх прыродай, сірыйскія пастухі каля пустэльнага Мёртвага мора атрымліваць на караблі із Афрыкі слановую костку (відавочна із Гвінейскага берага праз Сахару) і малпаў із Гішпаніі. Для чаго ім яны былі патрэбны? А калі Цар-Міратворац-Саламон – такі ж легендарны, як і цар Пекла (Савул), то з каго ж спісаў сірыйскі біёграф усе гэтыя падрабязнасьці яго становішча? Таму што калі б падчас жыцця аўтара гэтай легенды нічога падобнага нідзе не існавала, і не было да яго, то такія падрабязнасьці рэчаіснага характару не прыйшлі б яму і ў галаву. Ён аддаў бы перавагу, раз ужо пачаў фантазіраваць, намаляваць такі чароўны сьвет, дзе ездзілі б не на звычайных конях, а на крылатых, дзе елі б не хлеб, а нябесную манну. А тут усё апісанне вельмі падобна на рэчаіснае жыццё пышнай рымскай імперыі пярэдадня сярэднявечча.

*«Акрамя дачкі міц-рымскага валадара, – працягвае легенда, – пакахаў Цар-Міратворац шмат чужых жанчын, муавак*[224]*, француужанак (эмунак)*[225]*, рымлянак, венецыянак (цыдунак)*[226]*, і немак (готак), пра якіх паведамляў Грамабой багаборцам: «не заходзьце да іх і хай яны да вас не заходзяць, таму што яны схіляць вашы сэрцы да сваіх багоў». І вось да іх-та і схіліўся Цар-Міратворац сваім каханнем. У яго было 700 галоўных жонак і 300 наложніц. І пачаў ён у сваёй старасьці служыць і Венеры, і Меркурыю, і Сатурну, і Юпітару, і ўгневаўся на яго за гэта Грамабой, ужо два разы з'яўляўшыся яму* (у выглядзе выvяржэнняў Вязувія) *да таго часу, і, нарэшце, сказаў яму:*

*«– За тое, што ты так робіш, я забяру ў цябе царства, і застанецца ў твайго сына Пашыральніка Народа* (па-жыдоўску Раваама) *толькі адно калена»* (1,11-13).

Так было прадказана цару-Міратворцу тое, што здарылася толькі праз шмат гадоў пасьля яго сьмерці: распадзенне яго пасьлядоўнікаў на месіянцаў (жыдоў) і хрысьціянаў, якіх аўтар лічыць адпаўшымі ад праўдзівага вучэння.

*«А праз некаторы час пасьля гэтага, – заканчвае сваё апавяданне легенда, – разадраў прадвеснік Сьвяты*[227] *сваё новае адзенне на дванаццаць частак, і сустрэўшы наглядчыка над царскімі працаўнікамі – Заступніка Народа (Іе-Рава-Ама), сказаў яму:*

*«– Вазьмі сабе дзесяць лапікаў, таму што так кажа Будучы: «я забіраю царства із рукі цара-Міратворцы і даю табе із яго дзесяць кален, а адно калена пакідаю за ім дзякуючы майму служцы цару Пылу (Давыду) і дзякуючы Гораду Сьвятога Замірэння, які я абраў із усіх сядзіб багазмагальніка (11,36).*

*«Цар-Міратворац пажадаў забіць Заступніка Народа, але той збег да міц-рымскага цара Шышака* (кабалістычная выява слова ББЛ – Вавілон, у сэнсе рымскай царквы) *і жыў у яго да сьмерці цара. І вось спачыў Цар-Міратворац каля сваіх бацькоў, і пахаваны ў Горадзе Ўмілаванага свайго бацькі, і запанаваў замест яго сын яго Пашыральнік Народа» (11,43).*

Так сумна заканчваецца біблейская легенда пра мудрага цара Саламона.

---

[224] מו־אב (МУ -АБ) – першаўзор бацькі. Магчыма служыць проста для пазначэння арабаў – маўраў.

[225] עמון (ЭМУН) – Аман, але наўрад ці Юпітар.

[226] עמון (ЦІДУН) ад ЦІД – паляванне, лоўля. Стала сінонімам Візантыі (Фінікіі).

[227] עמון (АХІЕ) – я лічу гэтае слова за грэцкае «άγίος» – сьвяты.

Я пакідаю без увагі выказванне: «і запанаваў сын яго Пашыральнік Народа замест яго». Гэта проста «белетрыстычны масток» для злучэння цыкла легендаў пра цара-Міратворцу з кангламератам легендаў пра ўзаемныя дачыненні багазмагальнікаў і богаславячых, меўшыя сваёй крыніцай збольшага астральныя з'явы, збольшага зямныя падзеі, адбыўшыяся ў прамежку паміж валадараннем Кастуся I і Хвядоса і ўзнікшых яшчэ раней чым легенды пра цара-Міратворцу, якія я лічу, нароўні з кнігай прарока Данііла (хаця яна напісана на другой гаворцы), аднымі із самых позніх ва ўсёй Бібліі.

Для нас тут важна адазначыць тую акалічнасць, што біблейскі біёграф цара-Міратворцы (Саламона) малюе яго ў старасьці адступіўшым ад богаславячага (юдаістычнага) веравызнання, а гэта якраз адпавядае ўяўленням пра «Езуса», якія выпрацаваліся ў талмудыстаў таго часу, калі паміж месіянцамі-астролагамі (юдаістамі ці халдэямі) і еўрапейскімі хрысьціянамі ўпершыню ўтварылася тая расколіна, якая ў наступныя стагоддзі прывяла да бязлітасных пераследаў хрысьціянскім сьвятарствам месіянцаў.

* * *

Я закончу тут свой крытычны разбор біблейскай трылогіі цар-Пекла, цар-Пыл і Цар-Міратворац некалькімі заўвагамі агульнага характару адносна эвалюцыі месіянскай і хрысьціянскай духоўнай культуры на абшарах узбярэжных краін Міжземнага мора.

Першай яе стадыяй было – утварэнне пасьля пачатку нашай эры (асабліва ад трэцяга стагоддзя да сёмага) гісторыка-тэалагічных легендаў і міфаў, пад непасрэдным уплывам сейсмічных і нябесных з'яваў, а таксама з'яўленне пісьмовых зборнікаў розных маральных і побытавых выказванняў, баек і анекдотаў.

Міжнароднай мовай навукоўцаў у гэты час быў жыдоўскі жаргон арабскай мовы, узнікшы ў Ягіпце і канчаткова сфарміраўшыся ў сучасным выглядзе ў асяроддзі маўраў у Гішпаніі. На ім былі напісаны амаль усе біблейскія кнігі, а потым і Талмуд. Тут жа мы знаходзім першыя зародкі рэчытатыўнай паэзіі ў псалмах, у «Песьні Песняў» і ў напалову-казачнай белетрыстыцы ў кнігах «Зорка» (Эсфір), «Задаволеная» (Руф), «Абуральны» (Ёў) і г.д. Асабліва ж гэты перыяд характэрызуецца вылучным прароцкім напрамкам літаратуры, які так і знік без далейшай эвалюцыі, меўшым наступствам пасьля сябе толькі рэдкія перайманні, нападобе «Paroles d'un croyant au peuple» (Лісты верніка да народа) экс-абата Ламенэ ў 1834 годзе.

Зборы выслоўяў, нападобе «Прамудрасьці Міратворца» (Саламона) ці «Прамудрасьці Езуса сына Сатрапа» (Сіраха), – абодва, як мы бачым, напісаныя ад імя таго ж самага «Вялікага Цара», збольшага спецыялізаваліся ў сучасныя кодэксы законаў, а збольшага былі заменены больш дасканалымі накірункамі лірычнай паэзіі, хаця калі-нікалі і ад іх да гэтага часу з’яўляюцца водгукі, нападобе «Also sprach Zarathustra» (так гаварыў Заратустра) Ніцшэ на прыканцы XIX стагоддзя.

Узнікшы ў гэты час міф паступова эвалюцыянаваў у сучасную мастацкую казку, а белетрыстыка – у раман. Камедый, трагедый і драм пад час біблейскага перыяд яшчэ цалкам не існавала. Першым іх зародкам былі, як я і згадваў ужо ў першым аддзеле гэтай кнігі, царкоўныя (г.азн. цыркавыя) пастановы, нездарма і зараз маючыя найменне праскаміды (г.азн. першапачатковыя камедый), а ў перакладзе: шэсьці богу Грамабою (Камай-Дыі). Свецкія ж камеды і трагеды ўзніклі і пачалі развівацца толькі пад час другога перыяду грэцкай класічнай

літаратурнай эвалюцыі, які, насуперак усталяваўшамуся меркаванню пра яго старажытнасьць, наўрад ці мог пачацца нават і адначасна з біблейскім. Толькі ж Афіна-Палада выйшла із галавы Зеўса ў поўным узбраенні. Нават і класічная паэзія, накшталт «Адысеі» ці «Іліяды» з яе распрацаваным гекзаметрам, не магла ўзнікнуць без працяглых пачатковых прэцэдэнтаў, вядучых да яе, а падобныя прэцэдэнты мы бачым толькі ў біблейскай літаратуры. І калі, на падставе нашых вылічэнняў, перыяд старажытна-жыдоўскай пісьмовасьці працягваўся да восьмага стагоддзя, то перыяд грэцкай класічнай творчасьці пачаўся менавіта з гэтага часу.

Пад час першага, жыдоўскага перыяду – літаратура, навука і рэлігія былі непарыўна пераплецены паміж сабой, і жыдоўская мова так жа аб’ядноўвала ўсе яшчэ слабыя парасткі тагачаснай усенароднай інтэлігенцыі Яўропы, Афрыкі і Заходняй Азіі, як перад эпохай Адраджэння «кухонная лаціна» аб’ядноўвала тэолагаў усіх гэтых краін. Для самастойнага існавання некалькіх нацыянальных літаратур у міжземнамарскім культурным басейне тады яшчэ не існавала дастатковага матэрыялу ў кожнага асобнага народа, таму што нацыянальным аўтарам тады давялося б толькі самім чытаць свае творы.

Для таго, каб увесьці літаратуру ў культурны ўжытак, патрэбен быў нейкі валапюк, якім і зрабілася пераіначаная на чужыне арабская мова біблейскай эпохі.

Але, вось, на апошніх сусветных саборах непарыўная сувязь паміж духоўнай месіянска-хрысьціянскай літаратурай і свецкай мастацкай і навуковай пісьмовасьцю парвалася, дзякуючы асуджэнню навукоўцаў-астролагаў малаадукаваным сьвятарствам. Сьвятар адлучыўся ад навукоўцы і ад літаратара ў асобны грамадзкі стан, і навуковец, хаця і памыляўшыся калі-нікалі, пайшоў сваім асобным шляхам, асабліва з часоў шостага сусветнага сабора ў 690 годзе, як моманту канчатковага крушэння афіцыйнай рэлігійнай астралогіі і ўвядзення ў набажэнствы лацінскай мовы на захадзе Яўропы і грэцкай на ўсходзе.

На падставе нашых астранамічных вылічэнняў, прыведзеных у першай і другой кнігах «Хрыста», біблейскія кнігі маглі быць закончанымі і перакладзенымі на грэцкую мову не раней сёмага ці восьмага стагоддзя, бо толькі да гэтага часу Біблія і была напісана цалкам, нягледзячы на цверджанні пісьменнікаў эпохі Адраджэння, быццам нават і Талмуд быў ужо закончаны каля 500 года, г.азн. на 65 гадоў раней сьмерці імператара Юстыніяна.

Апакаліпсіс быў самай першай із геніяльных кніг, напісанай на грэцкай мове. Вельмі магчыма, што ён і паслужыў штуршком да развіцця самастойнай элінскай літаратуры, бо зрабіў вывучэнне грэцкай мовы патрэбнай справай для тагачаснай міжнароднай інтэлігенцыі, і на ёй у Паўднёвай Яўропе пачалі пераважна пісаць, з нагоды большай распрацаванасьці яе граматыкі, дазваляўшай ствараць складанае выказванне з дадатковымі сказамі, для чаго жыдоўская мова не давала магчымасьці.

І вось першапачатковая культура, перасаджаная на новую глебу, дала пышны, згодна з тым часам росквіт: з'явілася быліна ў гекзаметрычных вершах, але яшчэ без рыфмы і без іншых больш правільных і больш распрацаваных размераў. З'явіліся казачная камедыя і драма, з'явіліся сапраўдныя летапісы адбываючыхся падзей, сапраўдныя апісанні вандровак і сур'ёзныя навуковыя творы, калі-нікалі меўшыя наступствам перайманні і нават спробы канкурэнцыі з боку асяроддзя схаваўшайся ў асобны замкнёны куток арабскай літаратуры сярэднявечча.

Але галоўная, кіруючая плынь пайшла па грэцкім рэчышчы і выклікала да жыцця класічны перыяд літаратуры, які закончыўся толькі пад час эпохі

Адраджэння, калі ў Заходняй Яўропе пачала пашырацца больш блізкі згодна са словаўтварэннем лацінская мова і пышна заквітнелі лацінская навука і паэзія. З гэтага часу міжнародная інтэлігенцыя, дзякуючы ўдасканаленню тэхнікі і назапашанню ведаў пра прыроду, што мела наступствам павелічэнне заможнасьці насельніцтва і павелічэнне колькасць вольных ад фізічнай працы людзей, стала такой шматлікай, што з'явілася магчымасць узнікнення нацыянальных літаратур, першымі із якіх былі, блізкія да лацінскі, італійская і французкая і ўслед за гэтым нямецкая і ангельская. І вось, пачаўся трэцці перыяд духоўнай эвалюцыі чалавецтва, пры якім былі выпрацаваны дакладныя навукі, рыфмаваная паэзія, рэалістычная камедыя і драма, мастацкая казка для дарослых і, нарэшце, псіхалагічны раман.

Панаванне міжнародных моваў у навуцы і літаратуры ў гэты час спынілася і пачалася толькі гегемонія то адной, то іншай із найбольш культурных моваў.

Эвалюцыя чалавечага духу на берагах Міжземнага мора ішла, з гэтага боку гледжання, пасьлядоўна і ніколі не спынялася. А ўсе яе ўяўныя выбухі і патуханні з’яўляюцца простым вынікам массавых апакрыфікаванняў, якіх асабліва шмат зробена пад час эпохі Адраджэння і ў першыя дзесяцігоддзі друкарства.

Але пра гэта я ўжо згадваў у папярэдняй частцы маёй кнігі.

# Частка трэцяя

## Тры цені вялікага цара



Мал. 60

*Усшэсьце прарока Іліі на неба перад вачамі яго пасьлядоўніка Ялісея згодна з аперцэпцыяй сучаснага біблейскага ілюстратара (магчыма, што палаючая калясніца ў гэтай легендзе навеяна пралятаннем палаючага метэарыта, як у паданні пра Метэор у «Метамарфозах» Авідыя).*

# Глава I.
## Ілія і Ялісей
### як сярэднявечныя тэалагічныя аперцэпцыі заснавальніка хрысціянскага набажэнства вялікага цара (Васіля Вялікага) і яго шануемага вучня Яна Залатавуста (Багаслова).

Усе нашы ўяўленні пра гістарычнага дзеяча, калі мы не маем яго ўласных лістоў ці дзёнікаў, з'яўляюцца толькі аперцэпцыяй вашай свядомасьці, тым больш аддаляючыяся ад рэчаіснасьці, чым больш шматзвённым быў ланцуг перадатчыкаў, праз якіх дайшлі да нас паведамленні пра яго жыццё. Калі нехта нават і сам напісаў свае ўспаміны, то ўсё, што ён паведамляў пра сваё мінулае, ужо набывала некаторую афарбоўку будучага, хаця б аўтар і быў цалкам шчырым чалавекам. Няправільнасць жа агульнага ўражання складаецца не толькі ў тым, што ён паведаміў нам тэндэнцыйна, але і ў тым, што ён не ўсё паведаміў пра сябе, выключыўшы, прыкладам, такія падзеі, пра якія яму цяжка ці сорамна было згадваць, ці, наадварот, асабліва налягаў на іх, калі пісаў у прыпадку каяння і самабічавання.

Калі ж ён пісаў не сам, а іншыя, якія ніяк не маглі ведаць пра яго ўсё, і калі, у дадатак, іх паведамленні дайшлі да нас не ў арыгіналах, а праз шматзвённы ланцуг перапісчыкаў з рэдакцыйнымі схільнасьцямі (якімі яны былі ўсе пад час дадрукавальнага перыяду), то апавяданне моцна змяняла свой характар пры кожным перапісванні, у залежнасьці ад сімпатыі ці антыпатыі аўтара да дадзенага дзеяча, а калі яно перадавалася ад аднаго да другога вусна хаця б тры-чатыры разы, то рабілася цалкам непазнавальным.

Але на шчасьце амаль ва ўсіх біблейскіх паведамленнях пра вялікага цара-чараўніка мы, нягледзячы на разнастайнасць іх размяшчэння па стагоддзях і краінах, заўсёды бачым дастаткова агульных рыс, каб заўважыць, што ўсе яны выраслі із таго ж кораня. Так і ў біблейскай легендзе пра пракрокаў Ілію і Ялісея, дададзенай да кнігі «Цары» пад час валадарання самага грэшнага із усіх цароў Ахава, мы без цяжкасьцей пазнаём евангельскага Хрыста і яго шануемага вучня Яна, а ў Ахаве – імператара Валента.

Перадусім падумаем: дзе і калі яны жылі ў Палестыне?

Я ўжо даводзіў (у другой кнізе «Хрыста»), што згодна з геафізічнымі ўмовамі яе мясцовасьці ў ёй ніколі не магло існаваць такіх царстваў, якімі апісваюцца ў Бібліі багазмагальніцкае (ізраільскае па-жыдоўску) і богаславячае (юдэйскае па-жыдоўску), і што пад найменнем Слупнай горы (Сіёна) у Бібліі апісваецца Вязувій, а пад найменнем Ерусаліма – Геркуланум ці Пампея. Я даказаў у першай кнізе паралелізм дынастычных падзей багазмагальніцкага царства Бібліі з дынастычнымі падзеямі «сусветнай Рымскай імперыі» наступнікаў Аўрэліяна і тое, што біблейскі цар Ахаў (г.азн. «Дзядзька») спісаны з імператара Валента. Гэта азначае, падзеі і тут дапасуюцца да прамежку 363-368 гадоў нашай эры, так што Ілія храналагічна налягае проста на Вялікага цара (Васіля Вялікага).

Імя Ілія згодна з жыдоўскім напісаннем АЛ-ІЕУ[228] азначае бог Грамабой. Ён ахарактарызаваны, падобна Езусу, як назад прыдучы[229] і пасяліўшыся на

---

[228] אל־יהו (АЛ-ІЕУ) – бог-Егова.

[229] תשבי (ТШБІ) ад תשבה (ТШУБЕ) – адваротны прыход.

агнядыхаючай гары Сведчання, г.азн. няйнакш, як на Вязувіі. Я тут буду называць яго проста Грукочучы Прарок, ужываючы вульгарнае найменне прарока Іліі.

Імя яго наступніка Ялісей (АЛ-ІШЭ)[230] азначае богаратавальнік, і ён характэрызуецца як сын Караючага Жазла[231], што прыводзіць яго радавод, відаць, у сувязь з пініепадобным воблакам над Вязувіем ці з каметай.

Ён памёр, – паведамляе нам Біблія, – пад час валадарання Яаша, якога згодна з тым жа паралелізмам дынастычных падзей мы ўжо атаясамілі з Аркадзем (395-408), так што яго сьмерць супадае са сьмерцю Яна Залатавуста, аўтара Апакаліпсіса.

Грукочучы Прарок узнёсся, згодна з легендай, жывым на неба, што збліжае легенду пра яго з апавяданнамі пра ўзнёсшагася туды ж Езуса, так што і ў Ялісею можна западозрыць нават і без дынастычных паралелізмаў яго шануемага вучня Яна.

Разгледзім жа і гэтыя біблейскія апавяданні як з псіхалагічнага, так і з астралагічнага боку гледжання.

*«Грукочучы Прарок,* – паведамляе нам кніга «Цары», *– які жыў на «Гары Сведчання», сказаў цару-Дзядзьку* (Ахаву-Валенту, згодна з нашымі супастаўленнямі)[232]:

*«– Клянуся Грамабоем, богам богазмагальнікаў, перад якім я зараз стаю! Не будзе ў гэтыя гады ні дажджу, ні расы інакш, як згодна з маім загадам* (Цары, 17,1).

*«Ён пайшоў і спыніўся каля струменя Падзелу, што побач з Эрыданам* (тэрытарыяльна ракой По ў Ламбардыі), *і крумкач прыносіў яму туды хлеб і мяса вечарам і раніцай, а са струменя ён піў* (Цары, 17,5).

*«Але вось знік ад засухі і гэты струмень* (Эрыдан схаваўся за сонцам у траўні (Цары, 17, 5-7). *Грукочучы Прарок падняўся і пайшоў у Цвярдыню Сораму*[233] *да Вялікага Лаўца* (сонца пайшло із Ільва праз Панну да Скарпіёна)[234]. *Пры ўваходзе туды ён пабачыў удаву* (пакінутую сонцам Панну), *збіраўшую сабе паліва* (у полымі світання)*, і сказаў ёй:*

*«– Прынясі мне трошкі вады ў чарцы напіцца і дай аладку хлеба.*

*«– У мяне толькі жменя мукі ў кадушцы, – адказала яна, – і трохі масла. Вазьму тут два палены дроў і прыгатую для сябе і сына. З'ядзім і памром.*

*«– Не бойся, – адказаў ёй Грукочучы Прарок. – Прыгатуй хлеб спачатку для мяне, а для сябе і сына прыгатуеш пазней. Так кажа табе бог богазмагальнікаў: «не знікне мука ў тваёй кадушцы і масла ў тваёй чарцы да таго дня, пакуль не пальецца на зямлю дождж».*

*«Яна зрабіла, як ён сказаў, і кармілася разам з ім і сваім сямействам некаторы час, а хлеб і масла ў яе не заканчваліся. І вось захварэў яе сын і памёр* (заняпалы перад маладзіком месяц падышоў да сонца ў сузор'і Скарпіёна, Цары, 17, 16). *Грукочучы Прарок узяў яго з яе абдымкаў, паклаў на свой ложак і тройчы лажыўся на яго, усклікаючы:*

*«– О, Грамабой, мой бог! Вярні душу ў гэтага хлопчыка.*

*«І, вось, душа вярнулася ў юнака.*

---

230 אל־ישע (АЛ-ІШЭ) – скарочанае אל־ישעה (ІХІШУЭЕ) – бог-Ратавальнік, бог-Вызваліцель.

231 שבט = שפט (ШБТ = ШПТ) – жазло для пакарання.

232 «Хрыстос». Першая кніга, ч. III, гл. 3.

233 צר־פתה=צור־פות (ЦРБ-ФТЕ=ЦУР-ФУТ) – цьвярдыня сораму царства распусты.

234 צידון (ЦІДУН) – рыбалоў, часта з эпітэтам Вялікі і ўвесь час у неўхвальным сэнсе.

*«– Глядзі! – сказаў Прарок яго маці. – Твой сын жывы* (месяц з'явіўся зноў).

*«– Зараз я зразумела, – адказала яна, – што ты сапраўды ад бога і што ў тваіх вуснах словы Грамабоя»* (17, 24).

Ці не здаецца вам, што гэтае апавяданне для казкі занадта рэчаіснае, а для рэчаіснасьці недарэчнае? Але яно губляе сваю недарэчнасць, калі разумець яго ў сэнсе хавання месяца за сонцам, пасьля яго сыходу із сузор'я Панны, асабліва калі гэта суправаджалася зацьменнем, як было 9 кастрычніка 348 юліянскага года ў сузор'і Шаляў, і ў частковым выглядзе было бачна па ўсёй Паўднёвай Яўропе хутка пасьля ўзыходу сонца.

Акрамя таго, ці не нагадвае гэтае апавяданне і евангельскую легенду пра ажыванне Лазара, хаця той быў ажыўлены і не такім спосабам? А не заканчваючыся хлеб і масла ці не з'яўляюцца першакрыніцамі насычэння Езусам некалькімі хлябамі ужо не траіх чалавек, а некалькіх тысяч? Ці не з'яўляюцца нават і гэтыя хлябы планетамі пякучыміся ў полымі вечаровага зарыва? Інакш жа, усё гэта занадта недарэчна.

Але прасочым легенду і далей.

*На трэцці год, калі «быў моцны голад у Вартаўнічай краіне*[235]*, паклікаў цар-Дзядзька (Ах-аб) наглядчык за царскім палаца, «раба Грамабоя»*[236]*, чалавека вельмі багабаючагася, схаваўшага ў двух пячорах сто прадвеснікаў Грамабоя па пяцідзесяці чалавек у кожнай і карміўшага іх хлебам і віном, калі Шакалалка шатра нябёсаў*[237]*, жонка цара-Дзядзькі, вынішчала прарокаў Грамабоя.*

*«– Прайдзі па нашай зямлі да ўсіх крыніц і да ўсіх струменяў, – загадаў яму цар, – і паглядзі, ці не знойдзеш дзе травы пракарміць нашых коней у лашакоў, каб не страціць ўсёй працоўнай скаціны.*

*«Цар пайшоў шукаць адной дарогай, а наглядчык за царскім палацам – іншай, і вось насустрач царадворцу ідзе Грукочучы Прарок. Служка цара даў пярэднім свой твар:*

*«– Ці ты гэта, спадар мой? – запытаў ён.*

*«– Я, – адказаў той, – пайдзі і паведамі цару, што я тут»* (Цары, 18, 1-8).

*«Калі цар-Дзядзька пабачыў Грукочучага Прарока, ён сказаў яму:*

*«– Ці ты гэта, губіцель богазмагальнікаў?*

*«– Не я гублю богазмагальнікаў, – адказаў яму той, – а ты і продкі твайго бацькі, таму што вы грэбуеце наказамі бога Грамабоя і ўшаноўваеце дзецей валадара*[238]*. Збяры да мяне ў Нагорны Сад*[239] *чатырыста пяцьдзясят прадвеснікаў валадара і чатырыста дубраўных сьвятароў, якія сілкуюцца ад стала тваёй жонкі, Шакалкі шатра нябёс»* (18, 19).

Тут мімаволі згадваецца, што і аўтар Апакаліпсіса ў лісьце да тыатырскай царквы ў Малой Азіі выказваецца пра тую ж шакалку:

---

[235] שמרון (ШМРУН) ад שמר (ШМР), – вартаваць, назва Рымскай вобласьці (гл. «Хрыстос». Другая кніга, ч. II, гл. 4).

[236] עבד־יהו (ЭБД-ІЕУ) – раб Грамабоя.

[237] אי־זבל (АЙ-ЗБЛ) – паходзіць ад спалучэння АЙ – воўк, шакал і זבול (ЗБУЛ) – колазварот сьвяцілаў у сэнсе нябеснага жылля і проста кола вернікаў, circus, адкуль – царква. Так, у прароцтве Ісая (63,15) маем зварот да бога ראה־זבל־קדשך (РАЕ-М-ЗБЛ-КДШК) – паглядзі із шатра сьвятога твайго. А цалкам гэтае слова, напэўна, азначае Нябесны Шакал. Магчыма таксама, што ЗБУЛ пазначае Сівілу, як прадракальніцу..

[238] בעלים (БЕЛІМ) – валадары, уладальнікі.

[239] כרמל (КРМЛ) – сад.

*«– Я маю крыху супраць цябе за тое, што ты дазваляеш Шакалцы шатра нябёс, называючую сябе прарочыцай, настаўнічаць і лавіць сваіх служак, шарлатаніць і есьці прысвечанае выявам. Я даў ёй час пакаяцца, але яна не пакаялася, і вось я зрыну яе на насілкі, а шарлатаніўшых з ёю ў вялікае засмучэнне, калі не пакаюцца ў сваіх учынках. Я ўражу яе дзяцей сьмерцю, і даведаюцца ўсе, што я выпрабоўваючы сэрцы і вантробы» (Апакал., 2, 23).*

Ці прастае гэта супадзенне найменняў?

Аўтар жа Апакаліпсіса Ян Залатавуст у 395 г. нашай эры называе Шакалкай шатра нябёс (Ай-Забеллю) візантыйскую дзяржаўную царкву, эмблематычна ўяўляючы яе ў выглядзе жонкі цэзараў і астральна ў сімвале сузор'я Гідры. Імя Ай-Забел (АІ-ЗБЛ) – таго ж кораня, як і Сівіла, – відаць, узята тут із Апакаліпсіса, а не перанесена ў Апакаліпсіс адсюль. Гэта азначае і час стварэння біблейскай легенды пра Грукочучага Прарока (Ілію) і пра яго вучня бога-ратавальніка адносіцца не раней, як да пачатку V стагоддзя нашай эры, калі намінальны сэнс Шакалкі шатра нябёс быў яшчэ дастаткова вядомы. Але вернемся зноў да апавядання.

*«– Ці доўга вам кульгаць на абодва калены? – сказаў Грукочучы Прарок усяму народу, сышоўшамуся з шакалкавымі сьвятарамі. Калі Грамабой з'яўляецца богам, то ідзіце за ім, а калі Валадар* (відаць, Сатурн, і гаворка ідзе пра сатурналіі)[240] *– бог, тое ідзіце за ім.*

*«– Хай дадуць нам двух цялят, і хай прадвеснікі Валадара выбяруць сабе аднаго з іх. Хай зарэжуць яго і пакладуць без полымя на дровы, а я зраблю тое ж з другім цялём. Хай яны паклічуць свайго бога, а я паклічу Грамабоя».*

*Прадвесьнікі Валадара*[241] *ўзялі адно цяля, прыгатавалі яго і заклікалі імя свайго бога, ад раніцы да поўдня, але не было ім ні адказу, ні водгуку. Грукочучы Прарок пачаў смяяцца над імі, кажучы:*

*«– Крычыце гучней! Магчыма Валадар задумаўся, ці адлучыўся, ці ў дарозе, а магчыма і заснуў!*

*«Яны пачалі крычаць удвая, калолі сябе, згодна са сваім звычаем, нажамі і дзідамі, так што кроў лілася па іх, але ўсё ж не было ні голасу, ні гуку ім у адказ»* (Цары, 18, 28).

*І вось Грукочучы Прарок узяў дванаццаць камянёў, згодна з колькасьцю сыноў богазмагальніка* (астралізаваных у сузор'ях Задыяка), *рассёк Цяля* (сонца праразала сузор'е Цяляці?) *і паклаў яго нават не на сухія дровы, а загадаў паліваць іх па чатыры вядры тройчы, так што вада палілася вакол Ахвярніка і запоўніла ўвесь роў, зроблены вакол яго. Ён падышоў да Ахвярніка пры заходзе, пад час вечаровага зарыва, і прамовіў:*

*«– Пачуй мяне, Грамабой! Пачуй мяне, Грамабой! Хай ведае гэты народ, што ты – бог.*

*«І вось упала полымя ад Грамабоя і пажрала ахвяру ўсеспалення і дрэвы, і камяні, і зямлю, і ваду, якая была ў рове вакол Ахвярніка. Гэта бачыў увесь народ, і ўсё ўпалі на свае твары, кажучы:*

*«– Грамабой – бог! Грамабой – бог!*

---

[240] Згадаем у І кнізе «Пераўтварэнняў» Авідыя: «Пасьля таго, як Сатурн пераможаны зрынуты быў у Тартар, «светам кіраванне прыняў Юпітар, і век змяніўся» (1,114). Юпітар і ёсць бог Грамабой.

[241] בעל (БЭЛ) – тут усюды стаіць гэтае імя, азначаючае «валадар», але гэта не планета Юпітар, якая пішацца БЛ, а хутчэй Сатурн.

*«А Грукочучы Прарок,* – працягвае далей легенда, – *прывёў прадвеснікаў Валадара да струменя ў Нагорным Садзе і закалоў іх там у ахвяру Грамабою»* (18, 40).

Зноў цалкам недарэчнае паданне, калі гэта не штогадовае спаленне сузор'я Цяляці ў полымі вечаровага зарыва ў траўні месяцы. Як маглі б пяцьдзясят чалавек дазволіць аднаму завесьці сябе кудысьці і закалоць іх там? Ды і далей не лепш.

*«– Пайдзі да мора і паглядзі»,* – сказаў тады Грукочучы Прарок, які відаць ужо спусьціўся з нябёс на зямлю і ўчалавечыўся на ёй, – *свайму хлопчыку.*

*Той схадзіў і адказаў:*

*«– Нічога няма.*

*«– Рабі гэта да сямі разоў, – загадаў ён».*

*І вось, на сёмы раз юнак паведаміў:*

*«– Невялікая хмурынка, велічынёй з далонь, падымаецца із мора.*

*«– Пайдзі, скажы цару-Дзядзьку, – загадаў яму Прарок, – каб запрагаў сваіх коней і ехаў дахаты.*

*«І вось неба азмрочылася ад хмар і паліўся дождж»* (18,45).

*Цар-Дзядзька сеў на калясніцу і паехаў у Боскае Ўмацаванне*[242]*, а Грукочучы Прарок бег перад ім да самога горада...*

*Цар-Дзядзька перадаў Шакалцы шатра нябёс усё, што зрабіў у гэты дзень Грукочучы Прарок, і як ён забіў усіх яе сьвятароў. Яна раззлавалася і выправіла сваіх служак паведаміць яму:*

*«– Хай зробяць мне багі, што пажадаюць, калі я не зраблю заўтра з тваёй душой таго, што ты зрабіў з душой кожнага із іх!*

*«Пачуўшы гэта, Грукочучы Прарок, дрыжучы, пайшоў у пустыню і сеў пад кустом жаўтазелля, кажучы:*

*«– Досыць мне, Грамабой! Вазьмі маю душу. Я не лепшы за маіх бацькаў».*

*Ён заснуў ад гора пад кустом, але, вось, Вястун Грамабоя дакрануўся да яго і загадаў:*

*«– Падніміся! З'еж!»*

*Ён пабачыў аладку і жбан вады каля сваёй галавы, з'еў, напіўся і зноў заснуў. Вястун у другі раз дакрануўся да яго:*

*– «Яшчэ з'еш, – загадаў ён яму, – таму што далёкі твой шлях».*

*Падмацаваўшыся зноў, Прарок ішоў сарок дзён і сарок начэй да боскай Гары, маючай назву Спусташальнік* (г.азн. да Вязувія), *і заначаваў там у пячоры.*

*«– Навошта ты тут? – сказаў яму нечы голас. – Ідзі і стань на гары. Будзе бура, раздзіраючая скалы, але не ў ёй бог Грамабой; пасьля буры будзе землятрус, але не ў ім бог Грамабой; пасьля землятрусу будзе полымя, але не ў ім ён; пасьля полымя будзе павеў ціхага ветрыку* (19, 12): *там будзе бог Грамабой».*

Тут месца падзей, як у тэатры пасьля змены дэкарацый, ужо відавочна пераносіцца на Вязувій.

Як бы вы ні глядзелі на гэтае паданне, але вы не знойдзеце іншай вогнедыхаючай гары, вядомай у старажытнасьці, акрамя Вязувія (ды Этны). Легенда тут выразна паведамляе не толькі пра астральныя з'явы, на якія намякае само імя Грукочучага Прарока – Ілія (па-жыдоўску: бог Грамабой, а па-грэцку Сонца, Эліяс), але і пра вандраванне нейкага адзінага згодна са сваёй магутнасьцю прарока, апякуемага Сонцам, з усходу ў Італію, да Вязувія.

---

242 יזרע־אלה=ז־רוע־אל-י (ІЗРЭ-АЛ=І-ЗРУЭ-АЛ) – мяз боскі.

*«Ён прыйшоў адтуль у горад Спадчыннага Кіравання* (Дар-Мешк, хутчэй за ўсё ў Буда-Пешт ці ў Вену, старажытны Ведзень)[243], – паведамляе далей легенда, – *і сустрэў на шляху Бога-ратавальніка* (Ялісея), *сына Караючага Жазла, калі тай* (астранамічна) *араў на дванаццаці парах* (нябесных) *валоў і знаходзіўся ў той час каля дванаццатай пары* (г.азн. назіраў сузор'е Рыб). *Грукочучы Прарок падышоў да яго, кінуў на яго свай плашч* (у сімвале месяцовага зацьмення ў Рыбах?), *і той пайшоў яму служыць»* (19, 21).

Сэнс гэтага месца цалкам зразумелы. Грукочучы Прарок знайшоў астролага, які рупліва даследаваў шлях хуткаходзячага месяца па дванаццаці сузор'ям Задыяка, кожны  із якіх змяшчаў па дзьве гадзіны простага ўзыходжання сьвяціла. Гэтыя сузор'і і з'яўляюцца араючымі парамі валоў, а час вызначаны месяцовым зацьменнем у Рыбах, у дванаццатай іхнай пары. Але із такіх зацьменняў пры жыцці Васіля Вялікага было толькі адно: 368-IX-13, у 4 гадзіны 18 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, амаль поўнае (11" 9), пры чым месяц зайшоў у зацьменні пры ўзыходзе сонца па ўсёй Яўропе.

Тут легенда пра Ілію і Ялісея часова перапыняецца, змяняючыся ў «Кнізе Цароў», дзе яна змяшчаецца, іншымі апавяданнамі, із якіх толькі адно мае для нас значэнне, як відавочна астральнага паходжання.

*«Побач з палацам цара-Дзядзькі», – кажа аўтар, – быў вінаграднік Меркурыя*[244] *із Цьвярдыні боскай* (21, 1). *Цар-Дзядзька пажадаў вымяняць яго на свой, лепшы, і надаць яшчэ срэбра* (г.азн. прыдворныя астролагі «цара-Дзядзькі» пажадалі зрабіць сядзібай Сонца сузор'е Панны – сядзібу Меркурыя, а Меркурыю перадаць сядзібу Сонца – сузор'е Ільва, дадаўшы сюды і зорачкі срэбранікі ў сузор'і Воласоў Веранікі). *Але Меркурый не пагадзіўся аддаць сваё спадчыннае ўладанне. Пабачыўшы, што цар вельмі засмуціўся, Шакалка шатра нябёс, яго жонка* (г.азн. дзяржаўная царква), *падгаварыла старэйшын горада знайсьці супраць Меркурыя двух ілжэсведак* (Двайнят), *якія паказалі б перад старэйшынамі, што ён ганіў бога і цара. Яго прысудзілі да збіцця камянямі* (полымямётам геркулід у красавіку?), *пабілі, і цар-Дзядзька забраў яго вінаграднік. Але Прарок Грамабай сказаў яму:*

*«– Ты аддаўся таму, каб рабіць непажаданае перад вачамі Грамабоя. Таму так кажа ён: «Я навяду на цябе беды і нават вымету за табай падлогу! Я вынішчу ў цара-Дзядзькі кожнага мочашчагася да сьцяны... А Шакалку шатра нябёс з'ядуць сабакі за сьцяною яго цьвярдыні»* (22, 23).

Так няўдачай скончылася нечая астралагічная спроба зрабіць сядзібай Сонца сузор'е Панны, а Меркурыю аддаць сузор'е Ільва, задуманая, відаць, грунтуючыся ўжо на хрысьціянскіх меркаванняў пра народзіны сына боскага ад Панны.

*«Пачуўшы такое прароцтва, – заканчвае аўтар, – цар-Дзядзька разадраў сваё адзенне, наклаў на цела ўрэцішча, доўга пасьціў і хадзіў сумны.*

*«– Бачыш, як уціхаміраўся перада мнай цар? – сказаў бог Грамабай Грукацячаму Прароку. – За гэта я не навяду абяцаных бедаў пад час яго дзён, а навяду іх пад час дзён  яго сына»* (21, 2).

І, сапраўды, цар-Дзядзька, – згодна з далейшымі паведамленнямі «Кнігі Цароў» – памёр без прыгод і над богазмагальнікамі запанаваў яго сын Раб Грамабоя (Ахазія). Але хутка ён зваліўся із вакна свайго палаца, занямог і выправіў

---

[243] דר־משך (ДР-МШК), ад ДР – род, і МШК – рухаць, кіраваць. А старажытны Ведзень (зараз Вена) азначае; наааглядаючы, кіруючы.

[244] נבות (НБУТ) – Меркурый. Адзначым, што астралагічная сядзіба Меркурыя – сузор'е Панны, дзе знаходзіцца зорка Вінаградарніца, і сама гэтая зорка размешчана побач з сядзібай Сонца – сузор'ем Ільва.

амбасадараў да валадара Планетнага Кола[245], бога Знішчальніка (Сатурна), запытаць, – ці акрыяе ён? Але яны вярнуліся з паловы дарогі і паведамілі цару:

*«– Насустрач нам выйшаў хтосьці, які загадаў перадаць табе: «хіба няма бога ў богазмагальнікаў, што ты выпраўляеш да валадара Планетнага Кола – бога-Знішчальніка? За гэта ты памрэш на сваім ложку».*

*«– Які выгляд у таго чалавека? – запытаў цар.*

*«– Ён увесь у валасах* (праменях) *і падперазаны скураным поясам.*

*«– Гэта Грукочучы Прарок! – адказаў ім цар, і выправіў да яго на гару пяцідзясятніка з атрадам.*

*«– Богачалавек! – сказаў той, пабачыўшы яго на вяршыні, – цар загадвае табе: спусьціся!*

*«– Калі я богачалавек, – адказаў той, – то хай сыйдзе полымя з неба і пажарэ цябе.*

*«І вось полымя сышло і пажрала пасланніка з усім атрадам»* (11,1,10).

Тое ж здарылася і з другім пасланнікам і яго атрадам. А «трэцці пяцідзясятнік, даведаўшыся пра гэта, упаў спачатку на калені перад Прарокам:

*«– Богачалавек! – маліў ён яго, ды будзе не малакаштоўнай мая душа і душа гэтых рабоў тваіх перад тваімі вачамі!»*

*Тады Грукочучы Прарок сышоў з вяршыні горы і пайшоў з ім да цара.*

*«І цар памёр згодна з яго словам і запанаваў замест яго Бога-ўзнёслы (Ёрам).*

Лічачы «Бога-ўзнёслага» спісаным із Валентыніяна II (375-392), мы, сапраўды, бачым частковае сонечнае зацьменне па ўсяму басейну Міжземнага мора 8 верасня 378 года ў сузор'і Панны, хутка пасьля сьмерці Валента. У поўным выглядзе яно ішло праз усю Сахару із Атлантычнага ў Індыйскі акіян і магло быць палічана за прадказанне сьмерці цара.

І вось зноў падзеі відавочна пераносяцца на неба, бо на зямлі не магло адбыцца нічога падобнага:

*«Прарок Грамабай* (у сімвале сонца) *пайшоў па Арбіце[246] разам з Бога-Ратавальнікам* (месяцам) *і сказаў яму:*

«– Застанься тут (*г.азн. у паўднёвым паўшар'і неба), – таму што Грамабай пасылае мяне ў боскі палац»[247]* (астральна ў сузор'е Двайнят, дзе сонца падымаецца ўсяго вышэй).

*«Але тай адказаў яму:*

*«– Клянуся Грамабоем і маёй душой! Не пакіну цябе!*

*«Яны прыйшлі да Палаца бога, і вось, дзеці тамтэйшых прадвеснікаў* (у сімвалах зорак ці планет?) *выйшлі да Бога-Ратавальніка і сказалі:*

*«– Ці ведаеш ты, што сёння Грамабай падніме твайго гаспадара над тваёй галавай* (г.азн. сонца пад час маладзіка пяройдзе праз экватар у верхнюю гемісферу неба).

*«– Ведаю, – адказаў оп. – Маўчыце!*

*«– Застаньцеся тут, – сказаў яму зноў Грукочучы Прарок, – таму што Грамабай пасылае мяне ў горад Месяца»*[248] (У сузор'е Рака, сядзібу месяца, куды сонца накіроўваецца із Двайнят).

*«– Не! Не пакіну цябе!» – сказаў той.*

---

245 בעל־זבול (БЕЛ-ЗБУЛ) – валадар кола планет.

246 גל־גל (ГЛ-ГЛ) – верцячаяся кола, арбіта планеты.

247 בית־אל (БЕТ-АЛ) – палац бога, шацёр бога.

248 ירחו (ІРХУ) – ад ירח (ІРХ) месяц, сузор'е Рака.

*І вось, прыйшлі яны ў сядзібу Месяца.*

*«Дзеці тамтэйшых прадвеснікаў і тут падышлі да Бого-Ратавальніка і сказалі:*

*«– Ведаеш?*

*«– Ведаю, – адказаў ён. – Маўчыце!*

*«– Застанься тут, – сказаў яму ў трэцці раз Грукочучы Прарок, – таму што Грамабай пасылае мяне да Ракі Сыходзячых* (зноў уніз па экліптыцы)[249].

*«– Клянуся Грамабоем і маёй душой! Не пакіну цябе! – адказаў зноў Бога-Ратавальнік, і абодва пайшлі да Ракі Сыходзячых* (Эрыдан).

*«Пяцьдзясят із дзяцей тамтэйшых прадвеснікаў* (аблокаў) *пайшлі за імі і сталі насупраць. Грамабай узяў свай плашч, згарнуў і стукнуў па вадзе. Яна расступілася на абодва бакі, і яны перайшлі раку па сухому.*

*«– Прасі, – сказаў ён Бога-Ратавальніку* (у сімвале Месяца), *– што табе зрабіць, перш чым я буду забраны ад цябе?*

*«– Хай будзе на мне натхненне ўдвая большае твайго! – сказаў яму той.*

*«– Шмат чаго ты патрабуеш, – адказаў яму Грукочучы Прарок, – але калі пабачыш мяне ўзнімаючымся ад цябе, то будзе так.*

*«І вось з'явілася* (у ранішнім світанку) *вогненная калясніца, запрэжаная вогненнымі коньмі, і панёсся Грукочучы Прарок* (сімвалізіруемы сонцам) *у віхуры на неба* (мал. 60, стар. 4-22).

*«– Бацька мой! Бацька мой! – усклікаў Бога-Ратавальнік. – О, багазмагальніцкая калясніца і яе вершнікі!»*

*«Ён схапіўся за сваё адзенне, разадраў яго на дзьве часткі, і не бачыў больш свайго настаўніка* (месяц праз чатырнаццаць дзён перайшоў на процілеглы бок неба да Эрыдана)*. Ён падняў упаўшы з яго плашч на беразе Ракі Сыходзячых і стукнуў ім па вадзе, са славамі:*

*«– Дзе ты, Грамабой, бог Грукочучага Прарока, тай самы?*

*«Вада расступілася на абодва бакі, і ён перайшоў праз раку.*

*«– Дух Грукочучага Прарока спачыў на Бога-Ратавальніку!» – сказалі прадвеснікі Ракі Сыходзячых.*

*«Яны выйшлі да яго насустрач і пакланіліся да зямлі.*

*«– У нас ёсць пяцьдзясят бегуноў, хай яны пойдуць і пашукаюць твайго гаспадара. Магчыма, дух Грамабоя скінуў яго на вяршыню адней із гор, ці ў адней із далін.*

*«– Не пасылайце! Не знойдзеце! – адказаў ён ім.*

*«Але яны ўсё ж шукалі тры дня і не знайшлі».*

Само сабай зразумела, што і гэтае апавяданне не падобна ні на казку, ні на рэчаіснасць і можа мець толькі астралагічны сэнс: зацьменне месяца над Эрыданам перад узыходам сонца. Але яно магло быць апакрыфікавана сюды не раней як ад зацьмення 16 лістапада 430 года (19"4). Перад гэтым было толькі 22 лістапада 169 г.

Акрамя таго, ці не здаецца вам гэтая легенда аналагічнай евангельскаму апавяданню пра ўшэсьце Езуса на неба перад апосталамі?

---

[249] Тут ירדן (ІРДН) – спускацца ўніз, сыходзіць у магілу. У Талмудзе яго выводзяць ад спалучэння ירד־דן (ІРД-ДН – спуск суда – судны спуск. У астралогіі, звычайна, гэта – сузор'е ракі Эрыдан, але тут яно далёка, і таму даводзіцца яго лічыць за іншую раку, цякучую на старажытных астралагічных мапах ад ног Каляcніцы (В. Мядзведзіцы) уніз да Ільва і Панны.

*«Новаму прароку, – паведамляе далей кніга «Цары», – пачалі жаліцца на смертаноснасць Ракі Сыходзячых* (Эрыдана).

*«– Дайце мне новую чарку, – сказаў ён, – і пакладзіце туды солі. Ён выліў чарку ў ваду ракі* (г.азн. на наступны маладзік услед за заходам сонца месяц выглядаў у выглядзе кубачка над зайшоўшым Эрыданам, які схаваўся ў полымі вечаровага зарыва).

*«– Так кажа Грамабой, – сказаў ён, – не будзе ад яе надалей ні сьмерці, ні згубы!*

*«І стала вада гэтай ракі здаровай аж да нашых дзён, а ён пайшоў у Сядзібу бога* (Яслі ў сузор'і Рака). *На дарогу да яго выйшлі дзеці* (зоркі Двайнят) *і, насьміхаючыся, казалі яму:*

*«– Ідзі, лысаваты! Ідзі, лысаваты!*

*«Ён азірнуўся і пракляў іх імем Грамабоя. І два мядзьведзі адразу выйшлі із лесу і разадралі сорак і два дзіцяці».*

Вось зноў паведамленне, якое не прыдатна ні для казкі, ні для рэчаіснасьці... І тут гаворка, відаць, ідзе проста пра месяцовае зацьменне ў сузор'і Двайнят, калі месяц стаў як бы лысаваты, і пра хмары, наляцеўшыя туды пасьля гэтага із Вялікай і Малай Мядзведзіц. А такое зацьменне мы маем пры Яну Залатавусту толькі 26 снежня 372 года, у 23 гадзіны 11 хвілін перад Грынвіцкай поўначчу, са звыш поўнай фазай (16"2). Яно было цудоўна бачна ў сярэдзіне ночы ва ўсіх краінах Міжземнага мора.

*«Адтуль Бога-Ратавальнік пайшоў зноў у Нагорны Сад і вярнуўся ў Вартаўнічы Горад* (Рым)» (11,2, 1-25).

*«Каля гэтага часу, – паведамляе легенда, – панаваў Бога-Ўзвышаны*[250] *(ІЕУ-РАМ, згодна з нашымі дынастычнымі паралелізмамі – Валетыніян, 375-392 гг.), – сын цара-Дзядзькі. – Ён зьнішчыў статую Валадара, зробленую яго бацькам, але ўсё ж падзяляў памылкі, усталяваныя Заступнікам народа (Кастусём І, першым царом богазмагальнікаў)*[251]*, сынам Празорліўцы,*[252] *завёўшага народ у памылку* (Цары, 3, 1-3). *Ён прыйшоў разам з Божым суддзёй (ІЕУ-ШАФТ), царом богаславячых і з царом італійскім*[253] *да Бого-ратавальніка, каб ён прадказаў, ці будзе паспяховй яго вайна з тубыльцамі (МУАБ).*

*«– Калі б я не паважаў прыйшоўшага з табай цара богаславячых, – адказаў яму Бога-Ратавальнік, то нават і не зірнуў бы на цябе і не пабачыў бы цябе! А зараз падайце мне гусліста».*

*І пакуль гусліст граў, ён гаварыў:*

*«– Рабіце на гэтай даліне равы за равамі! Вы не пабачыце ні ветру, ні дажджу, а даліна будзе поўная вады для вас і вашага быдла*» (Цары, 3, 14-17).

*І ён замоўк, нічога не сказаўшы больш.*

*«І, вось, калі раніцай сонца заззяла над вадой ракі, яна здалася тубыльцам чырвонай, як кроў.*

*«– Гэта, – сказалі яны, – цары пабіліся адзін з адным. На здабычу, тузбылец!» (3, 12).*

*«Але богазмагальнікі, раптам падхапіўшыся, пачалі іх біць, уступілі ў іх зямлю, разбурылі гарады, закідалі камянямі ўсе добрыя палі, загацілі ўсе пратокі*

---

[250] יהו־רם (ІЕУ-РМ) – узвышаны Грамабоем у царкоўным тэксце – Ёрам.

[251] ירב־עם (ІРБ-ЭМ) – заступнік народа, у царкоўным тэксце – Ераваам.

[252] נבט (НБТ) – глядзець, выглядаць, у царкоўным перакладзе Новат.

[253] אדום (АДУМ = АДМ) – жыдоўская назва Італіі.

*вады і ссеклі лепшыя дрэвы. Цар пераможаных, у роспачы, узяў свайго сына першынца і прынёс яго ў ахвяру ўсеспалення на гарадскай сьцяне. Тады падняўся моцны «гнеў» на богазмагальнікаў, яны адступілі і вярнуліся ў сваю зямлю»* (3,22-27).

І тут без астралогіі не праглядаецца ніякага сэнсу. Я пазначу, што сузор'е Ракі Эрыдан кожны год апускаецца ў сакавіку ў кроў вечаровага зарыва, і пасьля гэтага на сьцяне неба з'яўляецца Пярсей з адсечанай галовай Мядузы ў руках. А пад выразам «гнеў» на богазмагальнікаў можна западозрыць ці камету, ці полымямёт метэарытаў.

Цяжэй паддаецца тлумачэнню наступнае паданне:

*«Каля таго ж часу, – працягвае аўтар, – адна ўдава із прароцкай сям'і, у якай пазыкадаўца меў намер забраць у рабства сыноў, калі яна не выплаціць абавязкаў памёршага чалавека, пайшла прасіць Бога-Ратавальніка пра дапамогу.*

*«– Што ў цябе ёсць у сядзібе? – запытаў ён.*

*«– Нічога, акрмя жбанка з маслам.*

*«– Пайдзі і набяры як можна больш жбаноў у суседзей, замкні за сабай дзьверы і налівай у іх із твайго жбанка.*

*«Яна зрабіла згодна з яго словамі і напоўніла маслам шмат жбаноў. Яна заплаціла, прадаўшы масла, усе свае абавязкі, і жыла на рэштку са сваімі дзецьмі».*

Астралагічнага сэнсу тут не праглядаецца, але ці не аналагічна гэтае апавяданне евангельскаму насычэнню тысяч народа некалькімі хлябамі?

А далей мы знаходзім ужо цалкам дзіўнае паведамленне:

*«Бога-Ратавальнік (Ялісей), – кажа аўтар, – сказаў аднай сунаміцянцы, якая прымала яго ў сваёй сядзібе:*

*«– Праз год у гэты самы час ты будзеш абдымаць сына».*

*Яна адразу зацяжарыла і нарадзіла сына ў той самы час, як прадказаў ёй прарок. Дзіцёнак вырас, пайшоў да бацькі на жніво, але раптам усклікнуў:*

*«– Галава мая, галава мая!*

*«Служка аднёс яго да маці, і ён памёр да поўдня на яе каленах»* (4, 16-20).

*«Яна пайшла і палажыла яго на ложак, дзе звычайна начаваў у іхнай сядзібе богачалавек (АЙШ-АЛЕІМ), засядлала асліху і загадала служцы:*

*«– Ідзі і вядзі! Не спыняйся, пакуль не скажу табе.*

*«Яна прыехала да Нагорнага Сада і ўхапілася за Бога-Ратавальніка. Служка яго, на імя Нізіна Прасьвятлення*[254] *выказаў намер адштурхнуць яе, але богачалавек загадаў яму:*

*«– Пакінь! У яе душа засмучана, а Грамабай схаваў ад мяне – чым»* (Цары, 4,27).

*Кабета паведаміла яму ўсё.*

*«– Вазьмі май кій у сваю руку, – загадаў ён служцы, – апераж свае сцёгны і бяжы. Калі сустрэнеш каго, не вітай, і калі хто будзе цябе вітаць, не адказвай! Пакладзі май кій на твар дзіцяці»* (4,29).

*Слуга пабег наперадзе абодвух і зрабіў, як яму сказалі, але не было ні голасу, ні паслухмянасьці ад дзіцяці. Ён вярнуўся да іх, калі яны былі яшчэ на палове дарогі, і сказаў:*

*«– Не абуджаецца.*

[254] גי־חזי (ГІ-ХЗІ) – даліна прасьвятлення (גיא־חזי).

*«Прарок прыйшоў, зайшоў у пакай і замкнуў за сабай дзьверы. Ён памаліўся Грамабою, лёг на дзіцё* (г.азн. зрабіў тое ж самае, што і яго настаўнік Грукочучы Прарок напачатку гэтага апавяданна)[255] *прыклаў свае вусны да яго вуснаў, свае вочы да яго вачэй, свае далоні да яго далоняў. Нагрэлася цела дзіцяці, і тады, прайшоўшы ўзад і наперад па пакоі, богачалавек зноў лёг на яго. Сем разоў чыхнуў дзіцёнак і расплюшчыў свае вочы. Прыйшла яго маці, кінулася ў ногі Прароку, кланялася яму да зямлі, і ён вярнуўся да Арбіты»*[256] (ІІ Цары, 4,38).

Мы бачым тут, як вышэйпрыведзеная астральная легенда пра адраджэнне месяца пасьля засланення яго сонцам раптам была метамарфізавана нейкім далейшым рэдактарам у такі кур'ёзны спосаб лячэння страціўшых прытомнасць. Але вельмі магчыма, што ён і ўжываўся ў старажытнасьці ў падобных выпадках, бо цалкам такое ж зрабіў, як мы бачылі вышэй, і Грукочучы Прарок (Ілія). Я лічу, што гаворка ідзе пра закрыццё месяцам аднай із буйных зорак.

А вось, у дадатак да гэтага, яшчэ вельмі просты спосаб і для лекавання атручаных.

*«Быў голад на зямлі, – працягвае аўтар. – Адзін із прароцкіх сыноў пайшоў у поле, знайшоў дзікую павойную расьліну і набраў з яе поўны прыпол пладоў. Прароцкія дзеці накрышылі іх у кацёл з сёрбаўкай, але, з'еўшы, раптам закрычалі* (ад болю ў жыватах):

*«– Богачалавек! Смерць у гэтым катле!»*

*А ён сыпнуў у кацёл простай мукі і сказаў:*

*«– Зараз налівайце і ешце без шкоды!*

*«І вось у катле не стала нічога атрутнага»* (4,41).

Аналагічна невычарпальнаму маслу Грукочучага Прарока, мы знаходзім падобнае ж і тут.

*«Нехта прыйшоў ад троеўласніка і прынёс богачалавеку із пачаткаў свайго хлебнага збору дваццаць маленькіх ячменных булачак і невялікі мяшочак сырых зернят.*

*«– Аддай іх людзям, хай яны ядуць! – сказаў Прарок свайму служцы.*

*«– Што я тут дам сотні чалавек? – запытаў той.*

*«– Аддай, – паўтарыў Бога-Ратавальнік, – наядуцца і яшчэ застанецца!*

*«Служка раздаў усім, і ўсё наеліся да сытасьці» (4,44).*

Вы бачыце, што адбылося амаль цалкам тое ж, што было і ў лягендзе пра хрысьціянскага ратавальніка! А вось, зараз ідзе і яшчэ адно апавяданне, якое нагадвае евангельскае, якое я ўжо прыводзіў у другай кнізе, але нагадаю і тут.

*«У цара горцаў быў вялікі вайскавы правадыр, вельмі паважаемы, але пракажоны, на імя Прыемны* (НЭМН). *Маленькая дзяўчынка, із багазмагальніцкіх палонных, якая служыла яго жонцы, сказала ёй:*

*«– О, калі б спадар май пабываў у Прарока ў маёй краіне! Ён адразу зняў бы з яго праказу* (ІІ Цары, 5,1-3).

*«Вайсковец перадаў гэта свайму ўладару, і тай выправіў яго да цара богазмагальнікаў з лістом:*

*«– Выпраўляю да цябе майго служку, каб зняць з яго праказу.*

*«Разадраў цар богазмагальнікаў сваё адзенне, атрымаўшы такі ліст.*

*«– Хіба я бог, які ажыўляе памёршых? – сказаў ён. – Ведайце ўсе і глядзіце ўважліва: ён падкопваецца пад мяне!*

---

[255] Гл. вышэй, а ў Бібліі І Цары, 17, 21.

[256] גל־גל (ГЛ-ГЛ) –круцячаяся кола, арбіта, выбух грыму.

*«Але Бога-Ратавальнік выправіў да яго паведаміць:*

*«– Навошта ты парваў сваю сукенку? Хай ён прыйдзе да мяне і даведаецца, чым з'яўляецца Прарок у богазмагальнікаў.*

*«Калі вайсковы правадыр горцаў на сваіх конях і калясніцы спыніўся каля ўваходу ў яго сядзібу, Бога-Ратавальнік выправіў да яго свайго служу сказаць:*

*«– Ідзі, памыйся сем разоў у рацэ Эрыдан* (зараз рака По ў Ламбардыі), *і тваё цела абнавіцца».*

Я зноў запытаю чытача: ці не нагадвае яму гэтае месца легенды пра лекаванне хрысьціянскім ратавальнікам пракажоных і пра хрысцільню Сілаамскую? Але вось тут і дадатак да яе, якога няма ў Евангеллі:

*«Угнявіўся вайсковы правадыр.*

*«– Я лічыў, – сказаў ён, – што Прарок стане перада мной, усклікне імя Грамабоя, свайго бога, пакладзе руку на пракажоннае месца, і знікне з яго праказа. Ці не лепшыя із ўсіх багазмагальніцкіх рэк Дар-Мешскія рэкі Абва і Фарфар*[257]*? Хіба я не мог бы памыцца ў іх?*

*«Ён павярнуўся і пайшоў у гневе прэч. Але яго служкі сказалі яму:*

*«– Бацька наш! Хіба ты не зрабіў бы нешта больш значнае чым гэта, калі б табе сказаў Прарок? А ён жа сказаў табе толькі: абмыйся і будзеш чысты!*

*«Ён пайшоў, нырнуў сем разоў у раку Эрыдан, як загадаў яму Богачалавек, і абнавілася яго цела, як цела маленькага дзіцяці.*

*«Ён вярнуўся да Прарока і сказаў яму:*

*«– Зараз я даведаўся, што няма бога на ўсёй зямлі, акрамя бога богазмагальнікаў! Прымі падарункі ад твайго служкі»* (5,15).

*Але Бога-Ратавальнік не пагадзіўся ўзяць што-небудзь, і ён паехаў дахаты. А Нізіна Прасьвятлення, слухаючы Прарока, пабег за ім і сказаў:*

*«– Май гаспадар выправіў мяне перадаць табе, што да яго прыйшлі із Аф-Рымскай гары два маладыя чалавекі із прароцкіх дзяцей. Дай ім талент срэбра і дзьве перамены адзення.*

*«Вайсковы правадыр даў яму два таленты і два кашалькі, акрамя двух змен адзення, а служка пакінуў іх у сябе. Бога-Ратавальнік запытаў яго:*

*«– Адкуль ты, Нізіна Прасьвятлення?*

*«– Я нікуды не хадзіў, – адказаў той.*

*«– Прысутнічала маё сэрца ў тым месцы, дзе павярнуўся да цябе тай чалавек са сваёй калясніцы, – адказаў яму Бога-Ратавальнік. – Ці час зараз браць адзенне і срэбра, ці алейныя сады і вінаграднікі, дробнае і буйнае быдла, рабоў і нявольніц? Хай жа яго праказа прыстане да цябе і тваіх нашчадкаў навек!*

*«І выйшаў ад яго служка ўвесь пракажоны, як снег»* (5,27).

Потым Бога-Ратавальнік здзейсніў яшчэ дзіва, хаця і здаючаяся параўнальна простым, але ўсё ж не менш дзіўнае для сучаснага фізіка:

*«У аднаго із прароцкіх дзяцей, калі ён сёк дрэвы для сядзібы на беразе Эрыдана, звалілася ў глыбіню вады сякера».*

*Як было яе дастаць?*

*Выявілася, што не было патрэбы нават і ныраць за ёй. Бога-Ратавальнік адсёк галінку ад аднаго ссечанага гэтай сякерай бярвяна, кінуў у ваду, і вось, сякера адразу ж усплыла да яе* (6,6). *Само сабай зразумела, што пасьля гэтага пра ўсёведанне Прарока пашырылася такая гучная слава, што калі цар горцаў*

[257] אבנה (АБНЕ) אמנה (А МНЕ) ад אבן (АБН) – камень, а פר־פר (ФР-ФР) лічаць за сучасны невялікі раўчук на імя Авадж паблізу Дамаска. Але цяжка дапусьціць, каб ён быў лепшым за ўсе іншыя рэкі.

*пажадаўісьці ваяваць з богазмагальнікамі, то адзін са служак палічыў сваім абавязкам папярэдзіць яго:*

*«– Прарок, які жыве ў іх, перадае свайму цару ўсё, што ты таемна загадваеш войску, і таму богазмагальнікі не патрапяць у твае засады.*

*«– А дзе ён зараз? – запытаў яго цар.*

*«– На Гары Закона* (Везувіі).

*«Цар выправіў туды коней, калясніцы і вялікае войска, і вось, падняўшыся раніцай, Служка Бога-Ратавальніка пабачыў, што гара аблажана.*

*«– На жаль, гаспадар мой! – сказаў ён. – Што нам рабіць?*

*«– Не бойся, – адказаў яму той. – Тых, хто з намі, больш, чым тых, хто супраць нас».*

*І адразу пасьля гэтых слоў Грамабой расплюшчыў служцы вочы, і ён пабачыў, што ўся гара навакол напоўнена вогненнымі канямі і калясніцамі.*

*«Горцы падышлі да яе, але Грамабай уразіў іх асляпленнем.*

*«– Гэта не тая дарога і не тай горад, – паведаміў ім сышоўшы да іх Прарок. – Ідзіце за мной, і я правяду вас да таго чалавека, якога вы шукаеце».*

*А замест таго ён прывёў іх у засаду да цара богазмагальнікаў.*

*«– Грамабой! Адкрый ім вочы! – сказаў ён.*

*«І вось, яны пабачылі, дзе знаходзяцца.*

*«– Ці не перабіць мне іх, бацька мой? – запытаў яго цар богазмагальнікаў.*

*«– Ці забіваеш ты мячом і лукам сваім тых, каго ўзяў у палон? – адказаў яму Прарок. – Прапануй ім лепш хлеба і вады, і хай ідуць да свайго цара.*

*«Ён наладзіў ім вялікі абед, і з таго часу горскае войска не хадзіла больш супраць богазмагальнікаў»* (Цары, 6,24).

Так эфектна заканчваецца новае дзіва Богачалавека. Аднак, у наступным жа радку цверджанне аўтара, быццам бы горцы ніколі больш не нападалі на богазмагальнікаў, цалкам скасоўваецца:

*«Пасьля гэтага Сын Клічу*[258]*, цар горцаў, – сведчыць новы прадаўжальнік гэтага зборніка лягенд, – сабраў усё сваё войска і аблажыў сталіцу богазмагальнікаў. У ёй пачаўся вялікі голад, так што асліная галава прадавалася па 80 сікляў срэбра і чвэрць коба галубінага лайна па 5 сікляў...*

*«– Дапамажы мне, васпан, май цар! – з плачам сказала цару богазмагальнікаў* (відаць, богаўзвышанаму Ёраму) *адна жанчына, калі ён праходзіў па сьцяне. – Мая суседка сказала мне: «давай з'ядзім сёння твайго сына, а заўтра – майго!». Мы зварылі і з'елі майго сына, а зараз яна схавала свайго».*

*Разадраў цар сваё адзенне, і тут усе пабачылі, што на яго целе была плахта.*

*«– Хай зробіць мне бог усё, што пажадае, і яшчэ больш таго, – усклікнуў ён, – калі сёння застанецца галава на плячах Бога-Ратавальніка* (за тое, што не дапагае)» (Цары, 6,31).

*Але, перш чым прыйшоў пасланы ад цара ў сядзібу, дзе разам са старшынамі сядзеў Богачалавек, тай сказаў:*

*«– Вось ідзе пасланец сына забойцы, каб зняць маю галаву, а вось тупат ног і самага пасланніка.*

*«Яшчэ ён не закончыў, як абодва зайшлі.*

---

[258] בן־הדד (БН-ЕДД), дзе БН азначае – сын, а ЕДД – клік, шум.

*«– Выслухайце слова Грамабоя! – паведаміў ім Прарок. – Заўтра каля брамы сталіцы, у гэты самы час, мера самай лепшай мукі будзе каштаваць толькі сікль і столькі ж дзьве меры ячменю.*

*«– Ці не зробіць Грамабай вакно на небе* (каб сыпаць уніз хлеб)? – *сказаў саноўнік, на руку якога абапіраўся цар. – Ці можа гэта быць?*

*«– Пабачыш сваімі вачамі, – адказаў яму Бога-Ратавальнік, – але толькі не будзеш есьці»* (Цары, 7,2).

*І вось, пад час змяркання таго ж дня чацьвёра пракажоных, якія сядзелі за брамай горада, падняліся, кажучы:*

*«– У горадзе голад, і мы ў ім памром, а калі будзем сядзець тут, то таксама памром. Спусьцімся лепш у стан горцаў, і калі нас там пакінуць жывымі, то мы будзем жыць. А ў іншым выпадку памром!»*

*Яны прыйшлі да мяжы стана, і вось, там няма ніводнага чалавека... Грамабай зрабіў так, што войску пачуўся грукат калясьніц, іржанне коней і шум вялікага войска.*

*«– Мабыць цар богазмагальнікаў наняў супраць нас гоцкіх*[259] *і міц-рымскіх цароў, – сказалі яны і пабеглі пад час змяркання, пакінуўшы свае шатры, аслоў, коней і ўвесь стан, якім ён быў, ратуючы толькі саміх сябе»* (Цары, 7,7).

*«Пракажонныя пілі і елі, набралі срэбра, золата і адзення, схавалі іх, і, вярнуўшыся, перадалі гэтую вестку праз брамніка сталіцы ў царскі палац»* (7,11).

*Цар* (богаўзвышаны Ёрам, адпавядаючы Валентыніяну ІІ) *падумаў, што гэта вайсковая хітрасць горцаў, і выправіў дзьве калясніцы з коньмі следам за іхным войскам. Калясніцы даехалі да Эрыдана, і ўся дарога туды была пакрыта рэчамі і адзеннем, кінутымі спехам.*

*Пасланыя вярнуліся, паведамілі пра гэта цару, народ выйшаў із горада, разрабаваў стан горцаў, і мера мукі і дзьве меры ячменю пачалі прадавацца па сіклю, як абяцаў Прарок* (7,16).

*«А саноўніка, які сказаў Прароку: «ці можа гэта быць?», растаптаў ціснуўшся ўваротах народ»* (7,19).

Яшчэ далей мы бачым і прадказанне пра будучую магутнасць Аўстрыі, бо ў другай кнізе «Хрыста» я ўжо дводзіў, што пад горадам дынастычнага кіравання Дар-Мешкам патрэбна разумець Буда-Пешт (ці Вену).

*«Бога-Ратавальнік аднойчы прыйшоў у гэты горад, калі ўладар (цірольскіх) горцаў быў хворы* (ІІ Ц., 8, 9). *Цар выправіў да Прарока свайго служку Празарліўца (Аза-Іла)*[260] *з дарункамі, даведацца, ці акрыяе ён, але Бога-Ратавальнік, утаропіўшы на служку свай погляд, доўга моўчкі плакаў.*

*«– Чаму плача май гаспадар? – запытаў яго Празарлівец.*

*«– Таму, што я ведаю, якое зло наробіш ты дзецям богазмагальніка, – адказаў той. – Ты спаліш іхныя ўмацавані, заб'еш іхных юнакоў і размазжыш іхных грудных дзяцей... Грамабай паказаў мне ў табе будучага цара Нагорнай Краіны* (Тыроля) (Цары, 8,12). *Ідзі і паведамі твайму гаспадару, што ён акрыяе, хаця я ведаю, што ён памрэ»* (ІІ Цары, 8,10).

*Той пайшоў і перадаў гэта, але на другі дзень, калі цару стала лепш, Празарлівец намачыў у вадзе коўдру, паклаў на яго твар і, забіўшы, запанаваў замест яго* (ІІ Ц., 8,15).

---

[259] גת (сярэдняе паміж ХТ і ГТ), згодна з сэнсам жудасны.

[260] חזה־אל (ХЗЕ-АЛ) – празарлівец бога.

*«– Падперажы сцёгны свае, – загадаў пасьля гэтага Прарок аднаму са сваіх вучняў, вазьмі гэтую пасудзіну з маслам, ідзі на вышыню Ўзгорка Сведчання*[261] *і адшукай там чалавека на імя Існы (ІЕУА)* (які храналагічна налягае на Хвядоса Вялікага), *сына Суда, сына Збавення*[262]*. Загадай яму выйсьці із асяроддзя яго братоў, завядзі ва ўнутраны пакай і, выліўшы масла на яго галаву, скажы: «згодна са словам Грамабоя – памазваю цябе ў цары богазмагальнікаў!» Потым адчыні дзьверы і бяжы без аглядкі»* (II Ц., 9,1-3).

*Хлопчык пайшоў і зрабіў так.*

*Тады Існы* (Хвядос Вялікі) *са сваімі ваярамі адразу ж паехаў верхам захапіць Горад Бога*[263]*, дзе ляжаў хворы цар Бога-Ўзнёслы* (Ёрам)*, і куды прыйшоў таксама і Бога-Дзяржаўны* (Ахазія, цар богаславячых, адпавядаючы кароткачасоваму Яўгену, наступніку Валентыніяна)*, наведаць яго.*

Тут, як мы бачым, характарыстыка біблейскага Бога-ратавальніка моцна разыходзіцца з характарыстыкай евангельскага Хрыста. Той не браў – згодна з евангеллямі – ніякага ўдзелу ў войнах і ў палітыцы, а гэты нават памазвае на царства бунтара і скідае двух цароў, як бачна із наступнай легенды. Гэта больш падобна толькі на Яна Залатавуста, аўтара Апакаліпсіса, пад уплывам якога Хвядос Вялікі вынішчаў шматбожыя культы. А вось і тыя рысы, якія збліжаюць Існага з Хвядосам Вялікім, акрамя іх адначаснасьці. Хвядос, які нарадзіўся ў 346 годзе, набыў сабе, – кажуць нам, – яшчэ пад час маладосьці рэпутацыю таленавітага стратэга. У 378 годзе готы, у бітве пры Адрыянапалі, зьнішчылі войскі Валента, які загінуў падчас уцёкаў, пасьля чаго пасад заняў Грацыян, суваладаром якога на Ўсходзе зрабіўся Хвядос. Але Максім, – працягваюць грэцкія гісторыкі, – скінуўшы Грацыяна, меў намер скінуць і Валентыніяна, але быў пераможаны Хвядосам пры Сісцыі. Потым франк Арбагаст забіў Валентыніяна і яго наступнікам абвясьцілі Яўгена. Аднак, Хвядос перамог і яго пры Аквілеі і стаў адзінаўладным над усёй імперыяй. Ён жорстка пераследаваў арыян і шматбожнікаў і ў 392 годзе выдаў эдыкт, якім безумоўна забараняліся ўсе шматбожныя культы. Памёр ён у 395 годзе.

Паглядзім жа, як гэта адлюстравалася ў біблейскай аперцэпцыі.

*«Вартавы, які стаяў на вежы боскага Горада, – паведамляе кніга «Цары», – пабачыў полчышча Існага* (Хвядоса) *і падняў трывогу.*

*«– Вазьмі вершніка, – загадаў яму цар богазмагальнікаў, – і выправі запытаць: ці з мірам?*

*«– Што табе да міру? – адказаў пасланцу новы памазанец, калі тай пад'ехаў. – Паварочвай за мной!*

*«Вартавы памедаміў, што пасланец не вяртаецца. Цар выправіў другога, але і з ім адбылося тое ж. Вартавы зноў паведаміў цару і дадаў, што гэта павінна быць Існы, які водзіць сваё войскі незвычайным строем.*

*«– Запрагайце! – загадаў цар богазмагальнікаў і выехаў сам насустрач войску, разам з Бога-Дзяржаўным, царом богаславячых. Ён сустрэў Існага на полі Меркурыя із боскага Горада*[264]*.*

*«– Ці з мірам? – запытаў ён.*

---

[261] רמת־גלעד (РМТ-ГЛЭД) ад רמות (РМУТ) – вышыня і ГЛЭД – узгорак сведчання יהוא (ІЕУА) замест יהו־או (ІЕУ-АУ) – воля Грамабоя ці проста мясцовае вымаўленне слова יהוה (ІЕУЕ) – Ягова, бог Грамабой.

[262] יהו־שפט (ІЕУ-ШФТ) – боскі суддзя נמשי (НМШІ) – выратаванага ад небяспекі (згодна з Зандэрсам).

[263] יזרע־אל (ІЗРЭ-АЛ) – належачы сямейству бога.

[264] חנבות (НБУТ) – Меркурый.

*«– Які можа быць мір пры распуцстве Шакалкі шатра боскага, тваёй маці, і пры шматлікасьці яе вяшчунстваў?*

*«Бога-ўзнёслы (Ёрам) павярнуў сваю колеснпцу назад і закрычаў:*

*«– Здрада, Бога-Дзяржаўны!*

*«А ў гэты самы час страла Існага ўразіўшы яго паміж плячэй, прайшла ў сэрца, і ён паваліўся на калены ў сваёй калясьніцы.*

*«– Кінь яго на гэтым полі! – сказаў Існы свайму саноўніку Сыну Пацінання*[265]*. Згадай, што сказаў Грамабой, калі мы з табай ехалі тут ззаду цара-Дзядзькі: «Я адпомшчу табе, цар-Дзядзька, на гэтым полі!»*

*Ён пагнаўся і за Бога-Дзяржаўным* (Ахазіяй) *і параніў яго на ўзвышшы Львяняці*[266]*, пры Струмені народа*[267]*. Той дабег да Горада Славы*[268] *і памёр.*

*«Калі Існы прыехаў у боскі Горад, Шакалка шатра нябёс насюрміла свае вочы, упрыгожыла сваю галаву і запытала яго, гледзячы із вакна:*

*«– Ці ўсё добра, спявак*[269]*, забойца свайго васпана?*

*«Ён падняў твар да яе акна і адказаў:*

*«– Хто там за мяне? Хто?*

*«Адтуль вызірнулі тры валахі.*

*«– Выкіньце яе! – загадаў ён ім.*

*«Яны выкінулі яе із вакна так, што кроў яе брызнула на сьцяну і на коней. Ён праехаў па ёй, потым напіўся, наеўся і сказаў* (II [III] Цары, 1-37):

«– Адшукайце гэту пракажоную і пахавайце, таму што яна ўсё ж царскага роду.

*«Але ад яе не знайшлі нічога, акрамя чэрапа, ног і рук: яе з'елі сабакі. Такім было слова Грамабоя, вымаўленае праз Грукочучага Прарока, на полі Надзелу Боскага:*

*«– З'ядуць сабакі цела Шакалкі нябеснага шатра і будзе яе труп як гной, так што ніхто не скажа: «гэта Шакалка шатра боская»* (гл. І [III] Цароў 21,23).

*«Існы пабіў статую Ўладара (БЭЛ), разбурыў яго храм і зрабіў із яго прыбіральню, што існуе і да гэтага дня, але ўсё ж не адмовіўся ад ерасі Ераваама, які завёў у грэх богазмагальнікаў: ад залатых цяльцоў у боскай сядзібе і ад тых, што ў сядзібе Суда»* (II Ц., 10,29).

*«А маці Бога-Дзяржаўнага, цара богаславячых* (Эталія)[270], *бачачы, што памёр яе сын, вынішчыла ўсё царскае племя і пачала валадарыць сама* (11,1). *Але сястра Бога-дзяржаўнага выратавала аднаго із яго сыноў, які зваўся Боскае Полымя* (Іааш), *і хавала яго сем гадоў у сядзібе Грамабоя.*

*«Пасьля заканчэння гэтага часу, сьвятар Багаслаў раздаў прыйшоўшым да яго сотнікам з іхнымі людзьмі дзіды і шчыты цара Пыла (Давыда), знаходзіўшыяся ў храме. Бегуны, кожны са зброяй у руцэ, сталі ад правага да левага баку храма каля ахвярніка, а Багаслаў вывеў да іх царскага сына і ўсклаў на яго вянок. Яго памазалі на царства з крыкамі:*

*«– Жыве цар!*

---

[265] בדקר (БДКР) בן־דקר (БІ-ДКР) – сын пранізваючага (згодна з Штэйнбергам).

[266] גור (ГУР) – ільвяня.

[267] ובל־עם (ІБЛ-ЕМ) – струмень народа.

[268] מגדו (МГДУ) – хвалебны, ад арабскага МГД.

[269] זמרי (ЗМРІ) – спявак, музыкант.

[270] עתליה (ЭТЛІЕ) – значэнне незразумела.

*«Эталія, пачуўшы галасы бегучага народа, пайшла ў сядзібу Грамабоя, і, вось, стаіць там цар згодна са звычаем каля слупа, князі і трубачы побач з ім, і весяліцца ўвесь народ.*

*«– Змова, змова! – закрычала яна і, разадраўшы сваё адзенне, пабегла назад праз конскі ход да царскай сядзібы, дзе і была забіта»* (II Цары, 11,16).

*А народ зайшоў у сядзібу Валадара, разбурыў яго выявы і забіў дараносца*[271]*, яго жраца, перад яго ахвярнікам* (11,18).

Так змешваецца легенда пра біблейскага прарока Бога-Ратавальніка(Ялісея) з астральнымі з'явамі і з палітычным жыццём таго часу. У гэтай лягендзе Бога-Ратавальнік малюецца не толькі лекарам і прарокам, прадракаючым будучыню, але таксама і змоўшчыкам, які пазбавіў улады з дапамогай інспіраванага ім вайсковага правадыра Існага двух зямных цароў: Бога-Ўзнёслага, цара богазмагальнікаў (Ёрама), каля сьцяны Боскага Горада, разам з яго маці Шакалкай шатра нябёс, і Бога-дзяржаўцу (Ахазію), цара багаслявячых, пасьля якога быццам бы запанавала яго маці Эталія, вынішчыўшая ўсё царскае племя, але пазней сама загінуўшая ад рукі першасьвятара, зацараваўшага Боскага Полымя (Іяаса).

Пазней прыдворныя забілі і самога Боскае Полымя, а ў богазмагальнікаў, быццам бы, запанаваў новы Бога-Дзяржаўны[272] (Іяахаз), які прытрымліваўся іераваамавай ерасі, а пасьля яго быццам бы і яшчэ новы Боскае Полымя (Іяас), не адступіўшы ад тай жа ерасі. Пры ім Бога-Ратавальнік смяротна захварэў, і Боскае Полымя прыйшоў да яго з плачам, усклікаючы:

*«– О, май бацька! О, багазмагальніцкая Калясьніца і яе вершнікі!*

*«А прарок яму сказаў:*

*«– Пакладзі свае рукі на лук, адчыні вакно на ўсход і стрэль!*

*«Той стрэліў.*

*«– Гэта страла тваёй перамогі над горцамі, – сказаў Бога-Ратавальнік. – Зараз вазьмі стрэлы і бі імі па зямлі.*

*«Цар стукнуў тры разу і спыніўся.*

*«– Патрэбна было біць пяць ці шэсць разоў! – з гневам усклікнуў богачалавек. – Тады ты цалкам перамог бы горцаў, а так пераможаш толькі тры разы!»*

*Тут прарок памёр, але яго парэшткі зрабіліся пазней жыццёдаючымі.*

*«Аднойчы хавалі аднаго чалавека, і спалохаўшыся наляцеўшага натоўпу, кінулі яго ў магіу гэтага прарока, і вось памёршы, дакрануўшыся да яго костак, ажыў падобна таму, як згодна з хрысьціянскім паданнем ажыў жыдоўскі хлопчык, дакрануўшыся да выкапанага із зямлі крыжа, на якім быў укрыжаваны хрысьціянскі богачалавек і Бога-Ратавальнік. А Боскае Полымя тры разы перамог горцаў і забраў у іхнага цара Бэн-Адада гарады, адваяваныя ім у свайго бацькі»* (II Ц., 13,25).

Такімі з’яўляюцца апавяданні, якія змяшчаюцца ў біблейскай кнізе «Цары», лічымыя некалі гісторыкамі старажытнага жыцця чалавецтва за асноўны падмурак усей «старажытнейшай гісторыі блізкага Ўсходу». Усе гэтыя «дзівы» старанна перапісваліся аж да самага заканчэння XVIII стагоддзя нават і ў свецкіх «сусветных гісторыях», а зараз яны паведамляюцца толькі ў «сьвятых гісторыях хрысьціянскіх краін», ды і то з папярэджваннямі, што ў іх прысутнічае «нейкі патаемны сэнс». У

---

271 מתן (MTH) – дараносец.

272 יהו־אחז (IEY-AX3) – богатрымаемы.

апошнім цвердажанні тэолагі выявіліся маючымі рацыю, таму што сэнс шмат якіх із такіх апавяданнаў, сапраўды, да гэтага часу быў «патаемным», схаваным за сямю пячаткамі, асабліва для не ведаючых астраномію, геафізіку, геалогію, параўнальную лінгвістыку, псіхалогію і іншыя сучасныя навукі. Але ён не такі ўжо таемны для ведаючых гэтыя навукі, каб было немагчымым яго расшыфраваць.

Калі легенды пра Грукочучага Прарока (Ілію): і можна палічыць амаль цалкам за чыста астранамічныя міфы пра Эліяса-Сонца, то міф пра Бога-ратавальніка (па-жыдоўску Ал-Ішэ, а ў грэцкім вымаўленні – Ялісея), на якога бог Сонца кінуў быццам бы свай плашч, толькі ў некаторых выпадках можна палічыць чыста астральным. Вядома, пра пачатак і гэтага міфа можна сказаць, што калі Ілія – сонца, то яго спадарожнік Ялісей – з'яўляецца месяцам, і кінуты на яго сонцам плашч – гэта сонечны цень падчас месяцовага зацьмення над сузор'ем ракі Эрыдан, аднак, дакладна вызначыць час грунтуючыся на адным гэтым указанні немагчыма. Падобныя зацьменні бываюць кожнае стагоддзе.

Ды і некаторыя дэталі абодвух паданняў яшчэ не цалкам зразумелы.

Хто такі служка гэтага Ялісея-Месяца Нізіна Прасьвятленні[273], на якога ён наклаў праказу вылекаванага ім вайсковага правадыра? Ці не бурае гэта ўжо зацьменне месяца? – Хто такі і сам вайсковы правадыр цара Сына Клічу (Бэн-Адада), на імя Ветлівы, вылекаваны пасьля сяміразовага апускання ў Раку Сыходзячых?

Асноўнае патрабаванне пры чытанні ўсіх старажытных уласных імёнаў – гэта адшукаць іх значэнне, бо ў старажытнасьці не было яшчэ інтэрнацыянальных імёнаў, нападобных нашых, а толькі асэнсаваныя найменні на сваёй мове. Але гэта часам вельмі цяжка зрабіць. Я карыстаўся тут збольшага слоўнікам Cruden'a, прыкладзеным да The English Version of the polyglot Biblie у выданні S. Bagster'a ў Лондане, а таксама і вялізным томам S. Mandelkern'a: Veteris Testamenti Concordanciae Hebraicae atque Chaldeicae. Lipsiae (1897 гада). Я карыстаўся, акрамя таго, слоўнікам О. Штейпберга: жыдоўскі і халдэйскі этымалагічны слоўнік да кніг старога запавету (Вільня 1878 года); кнігай Fabre-D'Olivet: La langue hebraique restituee et le veritable sens des mots hebreux retabli et prouve par analyse radicale. (Paris. 1815) і слоўнікам V. Gesenius'a: Hebraisches und aramaisches Handworterbuch (Leipzig. 1915). І часта атрымлівалася, што вызначаючыяся грунтуючыся на іх значэнні цалкам не дапасуюць да рэчаісных людзей пры іхным жыцці.

Сапраўды, мы ведаем рускія імёны: Любоў, Людзьміла, Надзея, Святаслаў, Леў; ведаем французкія – Ружа, Маргарыта; ведаем грэцкія: Сафія – мудрасць, Аляксей – мужны; ведаем лацінскія: Віктар – пераможац, Дора – залатая; але ніколі мы не чулі, каб нейкая маці назвала сваю дачку Вядзьмарка, Неразумная, Рожа, а сына Цмок, Змей ці Чорт. Ды і як яны самі, пасталеўшы, сталі б адгукацца на падобныя імёны, нават і не будучы царамі? Гэта немагчыма псіхалагічна, а пры гістарычных даследаваннях больш правільна і надзейна лічыцца з вельмі павольна зменлівай псіхікай людзей, чым з іхнымі капрызна-зменлівымі і большай часткай тэндэнцыйнымі паведамленнямі. Падобныя назвы цароў і дзеячаў, як часта прыводзімыя ў Бібліі, могуць быць толькі імёнамі, дадзенымі людзям за нейкія іхныя якасьці. Гэта прыметнікі да сапраўдных імёнаў дзеючых асоб, нападобе, напрыклад, прыметніка Жахлівы да цара Яна, ці Кароткі – да караля Піпіна.

[273] גי־חזי (ГІ-ХЗІ) – даліна прасьвятлення.

Але калі гэта так, то і астатнія царскія і іншыя імёны ў біблейскіх кнігах з ухвальным значэннем нападобе, напрыклад, імя́ першага цара юдаістаў – Раваам (што азначае: пашыральнік народа), ці ім́ аддзяліўшагася ад яго першага цара богазмагальнікаў – Ераваам (што азначае: заступнік народа) з'яўляюцца не дадзенымі ім ад нараджэння, а зноў толькі пасьмяротнымі найменнямі. Гэта тое ж, што дадаць словы Вялікі да Карла І, Набожны да нямецкага Рыгора і Заваёўнік да ангельскага Вільгельма.

Ні адно са старажытных нацыянальных імёнаў сур'ёзны дасьледчык не можа лічыць як сапраўднае імя пазначаемай імі асобы. Патрэбна было поўнае няведанне жыдоўскай мовы, каб пабудаваць на іх працягам сярэдніх стагоддзяў цэлыя дынастыі цароў «абранага народа боскага», які падзяліўся, падобна Рымскай імперыі з часу Кастуся І, на два царствы, якія то злучаліся адно з адным, то ваявалі адно супраць другога.

І патрэбна было, як я ўжо даводзіў у другай кнізе «Хрыста», поўнае грэбаванне геафізікай і палітычнай эканоміяй для таго, каб размясьціць іх у Палестыне, з усімі іхнымі суседзямі. І я зноў тут паўтараю тое, што гаварыў і раней.

Зірніце толькі на гэтую мапу, як яна прыкладаецца ў сучасных геаграфічных атласах. Вось, напрыклад, ваяўнічае племя Завулона, якое жыве, як паведамляецца ў Бібліі, «на беразе мора, пры карабельнай прыстані з мяжай да Сідона». (Быццё, 49,13) (Мал. 61).




Мал. 61

*Уяўляемае размеркаванне дванаццаці народаў у «Краіне качэўнікаў» (Палестыне па-жыдоўску. Са старай царкоўнай мапы).*

Як вы думаеце: наколькі велікая яго тэрыторыя? На добрым кані вы праедзеце папярок яе за дзьве гадзіны, а ўздоўж – за чатыры. Яна не больш 25 вёрстаў у шырыню і 50 вёрстаў у даўжыню, ды акрамя таго там не існуе і ніякай «карабельнай прыстані». Гэты лапік зямлі нідзе не прылягае да марскога берага, а па сваёй прыродзе можа мець толькі рэдкае незаможнае насельніцтва. Тое ж самае можна сказаць і ў дачыненні да іншых адзінаццаці плямён богазмагальнікаў.

І я зноў узнімаю пытанне, як на прыканцы другай кнігі «Хрыста»: якое наіўнае дзіця размалявала і размежавала на пляцоўкі згодна з міфічнымі «плямёнамі» вузкі лапік зямлі паміж марскім берагам і несуднаходнай ракай Шарыят-Эль-Кебірэ, гэтым ілжэ-Ярданам, бяручым пачатак ад запар заросшага трыснягом возера Бар-Эль-Гуле і ўпадаючага праз дзьвесьце вёрст у Мёртвае мора, на існаванне якога няма ні найменшага намёку ні ў Бібліі, ні ў Евангеллі? І якія дзіцяча-даверлівыя душы старанна перамалёўвалі ўсё гэта да гэтага часу, ні разу не падумаўшы, што гэта ж цацачная, а не рэчаісная геаграфія?

Уся гісторыя старажытна-жыдоўскага народа – адзін міраж сярэднявечча. Сапраўдную разгадку біблейскіх хронік знойдзе толькі той, каму атрымаецца дапасаваць іх, як спрабую і я, да гісторыі Рыма і Візантыі на пачатку сярэдніх стагоддзяў.

# Глава II.
# Езус – сын Сіраха і Езус – сын Ёсіфа.

Вось перад намі грэцкая кніга, пад назвай «Мудрасьць Езуса, сына Сірахава», назву якай дакладней было б перакласьці «Разважанні Ратавальніка, сына вярхоўнага царскага кіраўніка»[274]. Яе позняе хрысьціянскае паходжанне даводзіцца тым, што такай кнігі цалкам не існуе ў жыдоўскай бібліі, і таму мы можам выказаць здагадку, што тут зьмяшчаюцца павучанні, апакрыфікаваныя некалі «евангельскаму Ратавальніку».

Але чаму ж Езус названы тут сынам царскага намесьніка?

Можна думаць таму, што ён такім і быў. І гэтая здагадка падцвярджаецца той акалічнасьцю, што бацькам евангельскага Хрыста названы Ёсіф, г.азн. асоба, аднайменная з Ёсіфам Выдатным, намесьнікам міц-рымскага валадара, г.азн. таксама Сірахам.

Праўда, што ў генеалогіі Лукі Ёсіф пазначаны як сын «бога» [Іліі па-жыдоўску і Эліяса (сонца) па-грэцку], так што хутчэй за ўсё мог бы быць атаясомлены сам з евангельскім Хрыстом, але, ж, супярэчлівасць, фантастычнасць і позняе грэцкае паходжанне евангельскіх генеалогій ужо даўно даказана. Вось, напрыклад, супастаўленне, зробленае мнай згодна з ўзорам Марыі Валеўскай у яе кнізе «Тры радаводы Хрыста». Тыя імёны, у якіх абодва радаводы супадаюць, пастаўлены ў мяне ў агульным вертыкальным слупку, а якія не адпавядаюць адзін аднаму – касымі пасьлядоўнасьцямі. Мы бачым, што пасьля Давыда (што азначае:

[274] סרך (СРК) – вярхоўны кіраўнік, сатрап, слова пярсідзкага, кораня. Я буду перакладаць яго для кароткасьці – намесьнік. Па-грэцку гэтая кніга мае назву: Σοφία Ἰησου νιοΰ σιράχ.

умілаваны) яны сходзяцца першы раз толькі на Салатыіле[275] (што азначае: загад бога) і на яго сыне Зера-Бабелю (што ў перакладзе азначае: чужы брамы госпада). А потым абодва радаводы сходзяцца толькі на Ёсіфу, бацьку Езуса, ды і то толькі ў тым выпадку, калі палічыць, што ў Ёсіфа было адразу два бацькі: Якаў і Элій, а гэта эмбрыялагічна недазваляецца нават і ў тым выпадку, калі абодва яны былі адначоваса адружаны з адной і той жа жанчынай.

Грунтуючыся на тым, што згодна з кабалістычнымі меркаваннямі ў генеалогіі Мацвея павінна паўтарацца лічба сем, аж да Абрама (гл. лічбы збоку), некаторыя даводзяць, што бацькам апекуна Марыі Ёсіфа быў толькі адзін Элій, а Якаў быў бацькам іншага Ёсіфа, сапраўднага бацькі Марыі. Але калі б і так, то ўсё ж і ў Салатыіла (№14), бацькі вялікага біблейскага дойліда Зера-Бабеля выяўляецца два бацькі: Яхонія (№ 15); сын Ёсіі, і Нірый (№ 24), сын Мелхіі, што зноў сведчыць пра двайное адружанне і маці Зера-Бабеля.

Чаму ж здзіўляцца пасьля гэтага, што і самому Езусу, згодна з евангеллямі, таксама надаюцца два бацькі: Ёсіф і бог Грамабой, бо калі б Ёсіф не быў, хаця б напалову, бацькам Езуса, то навошта ж было яго наогул згадваць у радаводзе Хрыста, як зроблена ў I главе евангелля Мацвея?

Але ці сапраўды мы павінны абавязкова пагадзіцца з тэолагамі, што ў евангеллях не можа быць ніякай блытаніны, бо яны «прадыктаваны самім сьвятым духам»? Зразумела ж, што генеалогія Лукі сьвядома не адпавядае генеалогіі Мацвея: яна «выпраўляе» яе. А выпраўленне складаецца, відавочна, у тым, што Лука, які меў перад сабай радавод Мацвея, яшчэ выводзіўшага Езуса ад рымскага царскага прозвішча, не мог пагадзіцца з тым, каб ратавальнік сьвету паходзіў ад такіх грэшнікаў, як некаторыя із пазначаных Мацвеем рымскіх цароў, і таму сьвядома замяніў іхныя імёны на іншыя, пакінуўшы толькі Давыда. Але чаму ж ён не пажадаў прызнаць Якава дзедам Езуса і даў яму іншага дзеда: «бога» (Элія), вывеўшы яго ад Рысая (№ 21), другога сына Зера-Бабеля? Хутчэй за ўсё, што нагода была тая ж самая. Лінія Мацвея яшчэ помнілася, як лацінская арыстакратычная не толькі паміж Езусам і Зера-Бабелем, але таксама і паміж Зера-Бабелем і Давыдам.

Ужо адзін беглы пагляд на наша супастаўленне паказвае нам на паходжанне гэтых двух радаводаў. Відавочна, што да Мацвея і Лукі існаваў іншы, карокі, радавод, у якім змяшчаліся разам з «Вялікім Царом» (№ 1) толькі дзевятнаццаць чалавек, якія стаяць у нас (на табліцы XXXI) у сярэдняй паласе, пачынаючы ад заснавальніка Рымскай імперыі – бацькі-Рыма. Відавочна, пасьля Давыда (№ 29) у ім значыўся непасрэдна Салатыіл (№ 14), а пасьля Зера-Бабеля («N1 13) быў Ёсіф (№ 3), які лічыўся бацькам Марыі, а не апекуном. Але гэты спіс евангеліст Мацвей палічыў занадта малым, і ён дадаў да яго паміж Давыдам і Салатыілам чатырнаццаць богаслававячых цароў, пачынаючы ад Саламона і заканчваючы Еханаяй, а паміж Зера-Бабелем і Ёсіфам размясьціў дзевяць нейкіх першасьвятароў, пачынаючы з бацькі багаслаўя (АБ-Юды, № 12) і заканчваючы Якавам (№ 4). А евангеліст Лука, пісаўшы пазьней, не ўхваліў гэтых арыстакратычных дадаванняў і, замест чатырнаццаці цароў Мацвея, дадаў у першапачатковы спіс (із дзевятнаццаці чалавек) дваццаць нейкіх простых людзей, а паміж Зера-Бабелем і Ёсіфам дадаў васямнаццаць, давёўшы колькасць пакаленняў

[275] שאלתי־אל (ШАЛЦІ-АЛ) – загад бога.

паміж бацькам-Рымам да пяцідзесяці шасьці, г.азн. да 7*8, тады як у Мацвея мы маем сарок два, г.азн. 7*6.

## ТАБЛІЦА XXXI.

*Два, зросшыяся ў трох месцах, здані радаводу хрысьціянскага бога-месіі, пачынаючы ад Бацькі-Рыма.*

| | РОДОСЛОВИЕ ПО МАТВЕЮ (1, 1): | | РОДОСЛОВИЕ ПО ЛУКЕ (5, 23): | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Третьи 14 поколений (по Матвею, 1, 17). | | 7 × 6 = 42 — ОТЕЦ-РИМ = АБ-РАМ. — 57 △ | | ХУФУ = ХЕОПС | Они же по Абидосскому иероглифическому списку. |
| | | 41 — Исаак — 56 = 7 × 8 | | Дедеф-Ре | |
| | | 40 — Иаков — 55 △ | | Хеф-Ре | |
| | | 39 — Иудей — 54 △ | | Менкав-Ре | |
| | | 38 — Фарес — 53 | | Шепсес-Каф | |
| | | 37 — Ес-Ром — 52 | | Ус-Каф | |
| | | 36 — А-Рам — 51 | | Шах-Ре | |
| | | 7 × 5 = 35 — Ами-Надаб — 50 | | Кака | |
| | | 34 — Насон — 49 = 7 × 7 | | Неф-ерф-Ре | |
| | | 33 — Соломон — 48 | | Неус-Ре | |
| | | 32 — Боос — 47 | | Менку-Гор | |
| | | 31 — Овид — 46 | | Дедке-Ре | |
| | | 30 — Йеший — 45 | | Унас | |
| Вторые 14 поколений (по Матвею, 1, 17). | 7 × 4 = 28 — Соломон ↑ | | 29 — Давид — 44 | Дода (Тота) | |
| | . . . . . . | | Натан — 43 | Усск-Ре | |
| | . . . . . . | | Маттат — 42 = 7 × 6 | Мери-Ре | |
| | . . . . . . | | Маинан — 41 | Мерен-Ре | |
| | . . . . . . | | Малеай — 40 | Неф-Ерк-Ре | |
| | . . . . . . | | Ели-Аким — 39 | Ре-Цефамцаф | |
| | . . . . . . | | Ионан — 38 | Неф-Ерк-Ре | |
| | | | Иосиф — 37 | Менк-Ре | |
| | 27 — Ровоам | | Иудей — 36 | Неф-Ерк-Ре | |
| | 26 — Отец бога | | Симеон — 35 = 7 × 5 | Ерк-Ре Нево | |
| | 25 — Аса-Исус | | Левит — 34 | Дедке-Ре Сема | |
| | 24 — Иосафат | | Маттат — 33 | Ре-Хенду | |
| | 23 — Иŏ-Рам | | Ио-Рим — 32 | Мерен-Гор | |
| | 22 — Озия | | Ели-Езер — 31 | С. Неф-Ерк | |
| | 7 × 3 = 21 — Ио-Там | | Иосий — 30 | Неке-Ре | |
| | 20 — Ахаз | | Ир — 29 | Неф-Ерк-Ре | |
| | 19 — Езекия | | Елмодам — 28 = 7 × 4 | Неф-Ерк-Гор | |
| | 18 — Амасия | | Косам — 27 | Папа Сениб | |
| | 17 — Амон | | Адлий — 26 | С. Неф-Ерк-Эну | |
| | 16 — Иосия | | Мелхий — 25 | . . . Ку-Ре | |
| | 15 — Иехония ↓ | | Нирий — 24 | Неф-Ерку-ре | |
| Первые 14 поколений (по Матвею, 1, 17). | | 7 × 2 = 14 — Салатиил — 23 | | Неф-Ерку-Гор | |
| | | 13 — Зоро-Бабель — 22 | | Нефер-Ирк-Ре | |
| | . . . . . . ↑ | | Рисай — 21 = 7 × 3 | Неб-Хру-Ре | |
| | . . . . . . | | Иоанан — 20 | С. Анх-к-Ре | |
| | . . . . . . | | Иудей — 19 | Пата-Иб-Ре | |
| | . . . . . . | | Иосиф — 18 | Хеп-Ерк-Ре | |
| | . . . . . . . . . | | Семей — 17 | Нуб-Ку-Ре | |
| | . . . . . . . . . | | Маттатия — 16 | Хе-Хеп-Ерк-Ре | |
| | . . . . . . . . . | | Моаб — 15 | Хе-Ку-Ре | |
| | . . . . . . . . . | | Наггей — 14 = 7 × 2 | Мао-Эт-Ре | |
| | . . . . . . . . . | | Еслим — 13 | Мао-э-Хру-Ре | |
| | 12 — Аб-Иуд | | Наум — 12 | Тата-Ре | |
| | 11 — Ели-Аким | | Амос — 11 | Цесерк-Ре | |
| | 10 — Азор | | Маттатия — 10 | О. Хеп-Ерк-Ре | |
| | 9 — Цадек | | Иосиф — 9 | О. Хеп-Ерн-Ре | |
| | 8 — А-Ким | | Иоаннай — 8 | М. Хеп-Ерн-Ре | |
| | 7 × 1 = 7 — Ел-Иуд | | Мелхий — 7 = 7 × 1 | О. Хеп-Еру-Ре | |
| | 6 — Ели-Эзер | | Левит — 6 | М. Хеп-Еру-Ре | |
| | 5 — Маттан | | Маттатат — 5 | Мает-Неб-Рое | |
| | 4 — Иаков ↓ | | Элий — 4 | Цесар-Хепер-Ре | |
| | | 3 — Иосиф — 3 | | М. Пех-Тата-Ре | |
| | | [2 — Мария] — 2 | | М. Ре (*женщина*) | |
| | | 1 — БОГ-МЕССИЯ — 1 ВЕЛИКИЙ ЦАРЬ | | РА-МЕССУ ВЕЛИКИЙ ЦАРЬ | |

Але тут, дзякуючы непаразуменню, із рахунку выпала Марыя, пераведзеная із дачок у жонкі Ёсіфа, пры чым яшчэ не было прыдумана цнатлівае зараджэнне, пры якім уся гэтая генеалогія страчвала сэнс. Цікавей жа ўсяго тое, што на сьценах Абідоскага храма ў Ягіпце знойдзены іерагліфічны радавод Ра-Імшы Міамуна, г.азн. вялікага боганароджаага цара (па-грэцку Васіля Вялікага), прыведзеная ў мяне збоку табліцы XXXI, дзе паўтараецца пад іншымі імёнамі ўвесь радавод Хрыста із евангелля Лукі.

Адсюль выходзіць, што Абідоскі спіс складзены ужо пад час росквіту хрысьціянства, і яго аўтары атаясамлялі Рамзеса з Хрыстом.

Канчатковая выснова гэтага нашага супастаўлення зразумела: у радаводзе евангельскага ратавальніка сьвету можа лічыцца больш-менш верагодным толькі тое, што бацька яго меў імя Ёсіф, а дзед Якаў, празваны па-грэцку Эліясам, магчыма, за даследаванне гадавога руху сонца. Усё астатняе – фантазія.

Я зноў звяртаю ўвагу чытача на тое, што біблейская храналогія ўпершыню была выпрацавана Ёсіфам Флавіем і прытым гунтуючыся выключна на палёце яго ўласнай фантазіі і чыста дзіцячай самаўпэўненасьці ў тым, што ўсё, што прыходзіць яму ў галаву, з’яўляецца неадменнай праўдай. А кнігі Флавія былі цалкам невядомы пад час сярэдніх стагоддзяў і, як выказваюцца, «знойдзены» ў XVI стагоддзі на грэцкай мове, у рукапісах гэтага ж стагоддзя. У сваёй кнізе «Прарокі» я ўжо давёў, што ўсе гэтыя творы падложныя. Замест шматжонцаў, якімі былі «дзеці богазмагальніка» аж да 1030 года нашай эры, калі знакаміты Вормскі з'езд рабінаў, пад старшынством Гершома, выдаў пастанову пра манагамію жыдоў, Флавій малюе іх адзінажонцамі ужо ў свай час[276].

«Наш закон, – сцвярджае ён далей, насуперак таму, што гаворыцца ў Бібліі, – не дазваляе спусташаць краіну полымем ці ссякаць яе пладовыя дрэвы. Ён забараняе рабаваць забітых у бітве, а адносна палонных распарадзіўся не падвяргаць іх гвалту, асабліва жанчын»[277].

Усё гэта малюе ўжо мяккія норавы эпохі Адраджэння, што падцвярджаецца і выдатна развітым складам аўтара, са схільнасьцю да сафістычнага шматслоўя і да доўгіх складаных выказванняў.

Ніякай храналогіі біблейскіх апавяданнаў не існавала да Флавія, а таму немагчыма здзіўляцца і таму, што, напрыклад, аўтар карана[278] сцвярджае, быццам бы маці Езуса была Мірыям, сястра Майсея. Гэта цалкам не з’яўляецца прыкметай невуцтва складальнікаў карана, а толькі доказ таго, што арабскія сярэднявечныя храналагічныя звесткі пра біблейскія падзеі былі не падобныя на атрыманыя намі з грэцкіх апокрыфаў, якім мы да гэтага часу так слепа давяраем.

Каран з’яўляецца творам найбольш культурнага народа на працягу ўсяго сярэднявечча. Ён быў адрэктаваны, – кажуць нам, – пры халіфе Асману ў перыяд паміж 644 і 654 гадамі, і гэта рэдакцыя была абвешчана адзінай абавязковай для вернікаў, а таму і ігнараваць панаваўшую пазней у арабаў думку пра адначасовасць і блізкае сваяцтва Майсея і Езуса – усё адно, ці з'яўляюцца яны асобамі легендарнымі ці толькі легендарызаванымі, – мы не маем права.

Месцам стварэння карана цяжка, вядома, прызнаць Меку ці Медыну з нагоды глухменнасьці іхнага геаграфічнага становішча. Хутчэй за ўсё ён узнік у

[276] Ёсіф Флавій. Юдэйскія старажытнасьці, II, 22.

[277] Там жа, II, 29

[278] Каран, 3,30-33. Мірыям מרים (МРОМ) з’яўляецца множным лікам ад מר (МР) – міра, духмяная смала аравійскага дрэва.

Ніжнім Ягіпце пасьля яго заваёвы халіфамі, і значная частка арабскай літаратуры, якая адносіцца да Месапатаміі, Сірыі і Аравіі, павінна належаць маўрытанскай эпосе ў Паўднёвай Яўропе, асабліва ж Гішпаніі і Сіцыліі.

У дадзеным выпадку нам асабліва цікава звярнуць увагу яшчэ і на тое, што ў лягендзе пра Майсея, які вывеў народ боскі із Міц-Рыма, фігуруе Езус бэн Навін, г.азн. у перакладзе на рускую мову ратавальнік, сын Рыбы, што прыводзіць яго ў сувязь з сузор'ем Рыб, у якім знаходзілася кропка вясновага раўнадзенства толькі з пачатку нашай эры і знаходзіцца да гэтага часу, тады як раней была ў сузор'і Авена. Ды і сімвалам хрысьціянаў спачатку была выява рыбы. Гэта азначае, у «старазапаветнай Бібліі» мы знаходзім двух Езусаў: Езуса ад Рыб (Навіна) і Езуса сына царскага намесьніка, і абодва яны маюць такое вялікае падабенства з евангельскім Езусам, якое могуць мець у вобласьці легендарнай творчасьці толькі тры адгалінаванні, якія адыходзяць ад аднаго і таго ж кораня.

Пакідаючы збаку Майсея з яго супрацоўнікамі – Аронам і Езусам ад Рыб (Навінам), пра якіх было дастаткова паведамлена ў другай кнізе «Хрыста», я спынюся тут толькі на Езусе, сыне намесьніка (бэн Сіраха).

Кніга яго мудрасьці напісана, як я ўжо згадваў, па-грэцку, а не па-жыдоўску, гэтак жа, як і «Мудрасць цара Саламона», і таму павінна быць сярэднявечнага паходжання. Пра асобу яе аўтара нічога не вядома, акрамя таго, што і ён жыў у горадзе Сьвятога Замірэння і адносіцца тэолагамі да III стагоддзя да пачатку нашай эры.

Яшчэ Рэнан у V главе сваёй кнігі «Жыццё Езуса» паказаў, што шмат выслоўяў евангельскага Езуса толькі паўтараюць ці пераінакшваюць вказванні гэтай кнігі. Але я з гэтым не цалкам згодзен. Большасьці выслоўяў, прыпісваемых Езусу ў евангеллях, няма ў кнізе Езуса «Сіраха» і наадварот, але некаторыя супадзенні сапраўды існуюць. Так, напрыклад, мы маем выказванне Езуса ў Мацвея:

*«Калі вы будзеце даравáць людзям іхныя крыўды, то даруе вам і ваш нябесны бацька»* (7, 14).

А ў намесьнікавага сына Езуса гэтаму адпавядае выказванне:

*«Даруй блізкаму твайму крыўду і тады згодна з тваёй малітвай даруюцца і твае крыўды» (28, 2).*

У евангельскага Езуса існуе прыпавесць пра заможнага чалавека, які пасьля добрага ўраджаю сказаў сваёй душы:

*«– Шмат дабра ляжыць у цябе, душа, на шматлікія гады. Спачывай, еш, пі і весяліся!»*

*Але Бог адказаў яму:*

*«– Вар'ят! у гэтую ноч забяруць у цябе тваю душу; каму ж дастанецца тое, што ты нарыхтаваў?»* (Лука, 12, 16-20).

Гэта ж прыпавесць амаль літаральна паўтараецца і ў Мудрасьці Езуса, сына намесьніка.

*«Іншы робіцца заможным дзякуючы сваёй абачлівасьці і беражлівасьці, у гэта частка яго ўзнагароды. Ён скажа: «я знайшоў спакай і цешуся зараз маімі дабротамі», і не ведае, колькі пройдзе часу, калі ён памрэ і пакіне ўсё іншым»* (Езус Сірах, II, 16-18).

Такія супадзенні паказваюць, без сумневу, што абедзьве кнігі не падзелены тысячагоддзямі, а належаць тай жа эпосе творчасьці, а таму і ў «Мудрасьці» Езуса, сына намесьніка, мы маем толькі адну са шматлікіх сярэднявечных спроб перадаць

навуку Езуса. Гэта азначае і гэтай кнігай немагчыма грэбаваць як матэрыялам для высьвятлення гістарычнай асобы Хрыста.

Аднак і тут мы хутка расчароўваемся.

Усё, што тут завецца гучным імем Мудрасьць, цалкам не навука, а перадусім чыста побытавая практычная мудрасць, прыдуманая, відавочна, самімі кампілятарамі гэтай кнігі ад імя Езуса. І ў большасьці выпадкаў яны, сапраўды, носяць чыста евангельскі каларыт, хаця б гэта і не запазычанні із евангелляў.

*«– Дзеці! – гаворыцца ў трэцяй частцы, – паслухайце мяне, бацьку, і рабіце так, каб вам выратавацца, таму што ўладар ваш узвысіў бацьку над дзецьмі і зацьвердзіў суд маці над сынамі»* (3, 1-2).

А потым ідзе цэлы шэраг павучанняў. *«Не адводзь вачэй ад просячага і не давай чалавеку нагоды праклінаць цябе»* (4, 5). *«Не саромейся прызнавацца ў памылках і не затрымлівай плынь ракі»* (4, 30). *«Змагайся за праўду да сьмерці, і ўладар наш бог будзе змагацца за цябе»* (4, 32). *«На сходзе імкніся быць прыемным і кланяйся больш всокім, чым ты»* (4, 7). *«Калі хочаш набыць сябра, набывай яго пасьля выпрабавання і не хутка даручайся яму»* (6, 1). *«Калі сустрэнеш мысляра, хадзі да яго з ранняй раніцы, і хай нага твая зашаруе парог яго дзвярэй»* (6, 36). *«Пустая гаварыльня шмат-спрачаючагася падымае дыбкі валасы на галаве і затыкае вушы слухаючага»* (25, 14). *«Сэрца неразумнага – як кола ў экіпажы, а думка яго – як круцячаяся вось». «Смяшлівы сябар тое ж, што конь, які ржэ пад кожным вершнікам»* (33, 5-6).

*«Што за жыццё без віна? – працягвае ён на новую тэму. – Яно створана для весялосьці людзям. Ужытае ва ўмеранай колькасьці, яно – усцеха сэрцу і суцяшэнне душы. Але яно гара для душы, калі п'юць яго шмат і, пры гэтым, з раздражненнем і сваркай». «Яно павялічвае лютасць неразумнага да спатыкнення ног» (31, 29-35). «Не паказвай сябе адважным супраць віна, таму што шмат каго загубіла яно».*

*«Не сварыся з чалавекам моцным, каб калі-небудзь не атрапіць у яго рукі», – заводзіць ён зноў размову на вельмі практычную тэму. – «Не пачынай цяжбу з чалавекам заможным, таму што ён будзе мець перавагу перад табой»* (108, 1-2). *«Не давай у пазыку чалавеку, які мацней цябе, а калі дасі, то лічы сябе страціўшым дадзенае»* (8,15). *«Не аддавай жонцы душы тваёй, каб яна не паўстала супраць тваёй улады...». «Не заставайся доўга са сьпявачкай, каб не паланіцца табе яе мастацтвам». Не заглядайся на дзяўчыну, каб не спакусіцца яе хароствам» (9,2-5).*

*«Я пагаджуся,* – выказваецца ён яшчэ далей, *– лепш жыць з ільвом і цмокам, чым са злой жонкай. Злосць жонкі робіць яе твар змрочным, як у мядзведзя»* (25,18-19). *«Не ўхваляй таго, што ўхваляюць бязбожныя, і памятай, што яны не выправяцца да самага пекла»* (9,15).

Звярну ўвагу чытача на тое, што ў апошнім выслоўі проста заключана евангельскае сярэднявечнае ўяўленне пра пекла, у якое трапляюць толькі бязбожныя, тады як старажытны аід быў усеагульным прыстанішчам нябожчыкаў. Гэта новы доказ (калі такі яшчэ патрэбны пасьля ўсяго вышэйсказанага!) узнікнення гэтай кнігі ў тую ж эпоху, як і евангелляў. А далей змяшчаецца намёк і на самога Езуса Хрыста, хаця і прыпісаны тут яму ж самаму, як гэта часта бывае ў апокрыфах:

*«Шмат уладароў было на зямлі, а той, пра якога не думалі, атрымаў вянок»* (11,5).

Характарызуючы чалавечую мудрасьць, аўтар выказваецца:

«Сын мой! Ад юнацкасьці тваёй аддавайся навуцы, і ты знойдзеш мудрасць раней сваёй сівізны.

*«Для невукаў яна вельмі суровая, і маларазумны не застанецца з ёю, яна будзе на ім, як камень, і ён не замарудзіць яе скінуць». «Накладзі на ногі твае яе путы і яе ланцуг на тваю шыю, падстаў ёй твaё плячо і не гняціся яе ланцугамі». «Даследуй і шукай, і яна будзе спазнана табой» (6,20-38). «Стан сэрца, – заканчвае ён гэтае месца, – замяняе чалавечы твар на добры ці на благі: вясёлы твар з'яўляецца прыкметай сэрца, адчуваючага шчасьце, а стварэнне прыпавесьцей спалучаецца з напружанымі разважаннямі» (13,31-32).*

Такім чынам, уся «Мудрасьць» і тут, як і ў евангеллях, складаецца толькі ў стварэнні ўдалых выслоўяў ці «запаветаў» і ў прыдумванні побытавых алегорый нападобе баек Эзопа.

А ў чым жа заключаецца іншая, ужо існаваўшая тады, не побытавая, а навуковая мудрасьць, мудрасьць магіі, алхіміі, астралогіі і медыцыны? Мы так і не даведваемся гэтага ад аўтара. Чаму? Таму што складальнікі гэтай кнігі, відавочна, яе не ведалі, хаця і пісалі ад імя навуковага мудраца. Вось іх далейшыя выказванні, зводзячыяся цалкам да стылістычных выкрутаў.

*«Хто палічыць пясок мора, кроплі дажджу і дні вечнасьці?» (1,2)* – гаворыцца далей. – *«Крыніцай мудрасьці з'яўляецца слова ўсявышняга бога і шлях яе – яго вечныя законы»* (1,5). *«Каму вядомы яе корань? Хто выведаў яе мастацтва? Толькі адзіны наймудрэйшы і вельмі жахлівы, седзячы на сваім пасадзе, валадар наш. Ён стварыў яе, і бачыў, і памераў, і ўвасобіў ва ўсе свае справы і ў кожную жывую істоту праз сваю шчодрасць, асабліва ж шануючых яго»* (1,7-10). *«Не збяжыць ад яго грэшнік са сваім накрадзеным і не застанецца марнай перад ім цярплівасць праведніка». «Не кажы: я схаваюся ад валадара майго! Ён не згадае пра мяне са сваёй вышыні і не заўважыць сярод мноства людзей! Што яму мая душа ў невымяральным яго стварэнні? Вось неба, і над ім неба нябёс, дзе ён жыве, зямля і бездань вады вагаюцца ад яго наведвання; пры яго паглядзе скалынаюцца ад жаху горы і падмуркі сушы». «Хто будзе чакаць яго суда? Далёка гэта вызначэнне»* (16,15-22).

Із апошняга выказвання відаць, што ў часы аўтара ўжо існавала і чаканне хрысьціянскага жахлівага суда, узнікшага толькі пасьля Апакаліпсіса. Гэта азначае, кніга пісалася не раней заканчэння V стагоддзя, калі чаканні другога прышэсьця Езуса пачалі ўжо пераносіцца ў нявызначаную будучыню.

*«Я выйшла із вуснаў усявышняга, – лірычна выказваецца далей пра сябе «мудрасьць», – і падобна воблаку пакрыла зямлю... Я адна абыйшла нябеснае кола і хадзіла ў глыбіні марскай бездані. Я мела свае ўладанні ў хвалях мора і на зямлі ў кожным народзе і племені... Я ўкаранілася ў асяроддзі славутага народа, у спадчыннай вобласьці свайго гаспадара. Я выдала духмяны пах, як карыца і аспалат, як выдатная смірна, як халвані, анікс і стакты, як водар ладану ў сьвяцілішчы храма»* (24,13). *Я сказала: «палію май сад і напаю мае градкі, і вось канал май ператварыўся ў раку, і рака мая ператварылася ў мора. Я буду ззяць вучэннем, як ранішнім сьвятлом, і буду выліваць яго, як прароцтва, у воды вечныя»* (24,6-36).

Усё гэта, вядома, вельмі добра. Але ж гэта толькі паэзія, толькі апалогія ведам, а не іхны змест! Перагледзьце ўсю гэтую доўгую і шматслоўную, як усе сярэднявечныя творы, кнігу, дзе прыведзеныя тут мнай найбольш удалыя выслоўі і

месцы трапляюцца толькі, як бліскаўкі, у бясколернай і вялізнай шэрай камлызе пясчаніку, і вы знойдзеце тут толькі нешматлікія паведамленні пра сусьвет і яго з'явы.

Вось, напрыклад, хаця б паведамленне пра сем металаў старажытнасьці:

*«Што цяжэй за сьвінец і якое імя яму, як не дурны?»* – выказваецца аўтар у дваццаць другай частцы, паказваючы, што ў тай час ужо быў вядомы сьвінец. – *«Лягчэй несьці пясок, соль і камлыгу жалеза, чым неразумнага чалавека»* (22,15-16), – працягвае ён, паказваючы, што ў тай час было вядома выплаўленне жалеза із руды.

А яшчэ далей аўтар паведамляе:

*«Галоўныя патрэбы жыцця чалавека складаюцца ў вогнішчы, вадзе, жалезе, солі, пшанічнай муцэ, мёдзе, малаку, вінаградным віне, масле і адзенні: усё гэта набожным служыць на карысць, а грэшнікам можа павярнуцца на шкоду»* (39, 32).

Да навукі пра «прарочыя сны», грунтуючыся на якіх у старажытнасьці варажылі, аўтар ставіцца ўжо адмоўна:

*«Варожбаванне, адзнакі і сны – гэта мітусьня. Ад іх сэрца напаўняецца толькі марамі, як у вызваляючайся ад цяжарнасьці жанчыны. Яны шмат каго завялі ў зман, і спадзяваўшыяся на іх зведалі падзенне. Калі яны не будуць пасланымі ўсявышнім для навучання, то не прыкладай да іх сваёй душы»* (34,5-6).

Пра падставу з'яваў у жыцці сусьвету, як галоўны падмурак якіх б то ні было ведаў, аўтар выказваецца ідэальна проста:

*«Усе справы валадара нашага вельмі станоўчыя, і кожны яго наказ выконваецца ў свай час. Нельга ставіць пытанне: што гэта? для чаго гэта? Бо ўсё нам станавіцца вядомым у свай час»* (39,21-22).

Пра магчымасць атрымання сапраўднай вучонасьці аўтар выказваецца ў трыццаць сёмай частцы:

*«Кніжныя веды набываюцца пад час спрыяльнага перыяду вольнага часу. Толькі той, хто мала мае іншых заняткаў, можа набыць іх. Як можа зрабіцца мудрым той, хто кіруе плугам, хвошча бізуном, падганяючы валоў, заняты іхнай працай і разважае толькі пра цялят? Яго сэрца занята тым, каб праводзіць барозны, а розум клапоціцца толькі пра корм для цёлак. Дакладна так жа і цясьляр, і дойлід, які праводзіць ноч, як дзень. Разьбяр ці скульптар клапоціцца, перадусім, пра тое, каб разнастаіць формы, каб яго выява было падобнай на арыгінал і каб скончыць справу ў дасканалым выглядзе. Каваль сядзіць каля кавадла і думае пра жалезныя вырабы, ён пакутуе ад жару горна, жар ад полымя мардуе яго цела, яго аглушае гук молата, вочы накіраваны на мадэль пасудзіны, а сэрца на заканчэнне справы. Ганчар сядзіць і круціць сваімі нагамі кола, а рукой надае форму гліне; і сэрца яго накіравана на тое, каб добра закончыць пасудзіну і ачысьціць печку. Усе яны спадзяюцца на свае рукі, і кожны прымудраецца да сваёй справы. Без іх не пабудуецца горад і не будуць ў ім жыхары, але яны не займаюцца стварэннем маральных алегорый, не разважаюць пра грамадзянскія законы, не сядзяць на судзейскім месцы, прамаўляючы апраўданні ці асуджэнні, а падтрымліваюць побытавае існаванне, і іхная малітва толькі пра поспех іхнага майстэрства. Толькі той, хто мае час прысвячаць сваю душу разважанням пра законы ўсявышняга, будзе шукаць мудрасьці старажытных (!) мудрых людзей, практыкавацца ў прадказаннях пракокаў, даследаваць патаемны сэнс выслоўяў, падарожнічаць па землях чужых народаў, каб пазнаць добрае і злое сярод людзей. І калі вялікаму ўладару нашаму будзе дагодна, то такі чалавек будзе выказваць*

*словы мудрасьці...». «Шмат хто будзе славіць яго веды, і імя яго будзе жыць у родах родаў»* (38,24-39,12).

Усё гэта паказвае на тое, што складальнік кнігі быў далёка не «халдзэйскім пастухом», а жыхаром вялікага прыморскага горада з зародкамі культуры і са значным падзелам прафесій, не менш, чым пад час сярэдніх стагоддзяў. А пра тое, што краіна, у якай гэта напісана, была не вельмі паўднёвая, а знаёмая са снегам і лёдам, сведчыць наступнае, самае паэтычнае, месца гэтай кнігі:

*«О, веліч вышыні, цьвердзь чысьціні! О, выгляд неба ў яго хвалебнай з'яве! О, цудоўныя стварэнні ўсявышняга! Сонца абвяшчае пра вас пры сваім узыходжанні!*

*«Вось людзі распальваюць горны для плавільнай працы, але ўтрая больш моцна асляпляючае сонца паліць горы, дыхаючы полымем і бліскаючы сваімі прамянямі.*

*«Месяц пазначае час і служыць яго сьцягам, ён вызначае сьвяты, яго сьвятло змяншаецца пасьля дасягнення паўнаты, але ён зноў дзівосна ўзрастае пры сваіх зменах. Ён кіраўнік нябесных ваярстваў, хараства неба, славы зорак, валадар вышынь.*

*«Зоркі ззяюць адпаведна сваёй вартасьці і не стамляюцца на сваёй варце ноччу.*

*«Зірні на вясёлку і ўслаў стварыўшага яе: выдатная яна ў сваім ззянні. Велічным колам абдымае яна неба. Як распасьцёрла яе рука ўсявышняга!*

*«Згодна з яго воляй адчыняюцца сховішчы неба, вылятаюць із іх аблокі, як птушкі, і разбіваюцца камяні граду, падаючага на зямлю. Ад яго пагляду трасуцца горы і згодна з яго жаданнем вее цёплы паўднёвы вецер. Голас яго грому даводзіць да трапятання зямлю, і ад яго ідзе віхур і паўночная бура. Ён пасылае ўніз снег, падобны крылатым казуркам і падаючы, як саранча. Дзівіцца вока хараству яго бялізны і сэрца дзівяцца яго паданню. Рассыпаецца па зямлі шаць і, замярзаючы, робіцца вастраканечнай. Падзьме паўночны халодны вецер – і із вады робіцца лёд. Ён сцелецца на кожным яе ёмішчы, і вада як бы апранае латы. Снег грызе горы і як полымя абпальвае травы і абпальвае пустыню, але хуткім вылячэннем усяму служыць туман.*

*«Плаваючыя па моры паведамляюць пра небяспекі на ім, і мы дзівімся таму, што чуем сваімі вушамі, таму што там незвычайныя і цудоўныя справы, разнастайнасць розных жывёл і розныя роды пачвар»* (43,1-27).

Усё гэта выразна паказвае, што кніга «Мудрасьць Езуса» напісана не ў Месапатаміі і не ў Ягіпце, ці Палестыне, а на паўночных узбярэжжах Міжземнага мора і ўжо пад час перыяду поўнага развіцця яго берагавога мараплаўства, пад час эпохі вырабніцтва чыгуна і атрымання аднекуль салі, як аднаго із патрэбных рэчываў для звычайнага жыцця, нароўні з пшанічнай мукай і вінаградным віном.

Асабліва ж цікавае для нас заканчэнне гэтай «Мудрасьці», дзе аўтар пералічвае і характэрызуе вялікіх навукоўцаў, якія жылі, згодна з яго меркаваннем, ад глыбокай старажытнасьці да яго часу.

*«Ухвалім слаўных мужоў, бацькоў нашага пакалення! – паведамляе ён у сарок чацьвёртай частцы. – Яны давалі разумныя парады і прадказанні, кіравалі народам на нарадах і ў кніжным навучанні»., «Яны вынайшлі музычны лад і запісалі гімны. Людзі заможныя, адораныя магутнасьцю, яны мірна жылі ў сваіх сядзібах і былі паважанымі паміж сваімі суайчыннікамі. Паміж імі былі і такія, пра якіх не засталося памяці, якія зніклі, як быццам не існавалі і зрабіліся як быццам не жыўшымі», «але ў нашчадкаў знаходзіцца і іх добрая спадчына. А імёны*

*іншых жывуць із роду ў род. Людзі будуць доўга апавядаць пра іхную мудрасць, а царква аддаваць ім хвалу»* (44,1-14).

*«Пасьвечаны»* (Енах)[279] *быў узяты жывым на неба»* (44,15).

*«Правадыр» (Ной)[280]7 застаўся на зямлі пасьля патопу»* (44,16).

*«Не было падобнага бацьку-Рыму* (Абраму)[281] *ў славе»* (44,19).

*Дабраславенне спынілася на галаве Боганазіральніка* (Якава)[282] *і паўстаў ад яго муж літасьці, умілаваны богам і людзьмі Збаўца* (Майсей)[283], *набыўшы павагу ў вачах кожнай істоты»* (44,25-24). *«За вернасць і пакорнасць бог пасьвянціў яго і абраў сабе із усіх людзей. Ён даў яму магчымасць пачуць свай голас, завёў яго ў імглу і даў яму тварам да твару запаведзі, правілы жыцця і ведаў, каб ён даў Боганазіральніку адкрыцці і навучыў багазмагальніка сваім пастановам.*

*Ён узвысіў Асьветніка (Арона-Арыя)[284] із роду сьвятароў і пастанавіў з ім вечны запавет. «Ён апрануў яго сьвятарскім адзеннем із золата, гіяцынтавай поўсьці, кручанага вісона са словамі «адкрыццё і праўда»[285]. Ён упрыгожыў яго барвовай тканінай майстэрскай апрацоўкі, каштоўнымі камянямі ў залатай аправе гранільнай апрацоўкі з выразанымі на памяць напісаннямі* (знакаў Задыяка), *адпавядаючых колькасьці дванаццаці абласьцей богазмагальніка»* (45,7-13). *«Нічога падобнага раней яго не было ад веку». «Збаўца* (Майсей) *памазаў яго сьвятым маслам і абраў яго із усіх жывучых, каб прыносіць ахвяраванні і курэнні і духмянасьці ў памяць схілення ўладара нашага да свайго народа»* (45,20).

*«Дужым быў у змаганні Ратавальнік (Езус) і быў наступнікам збаўцы-Майсея ў прадказаннях». «Як ён праславіўся, калі падняў свае рукі да неба і выцягнуў меч* (камету) *на гарады! Хто да яго так стаяў?» «Ці не яго рукой спынена было сонца і адзін дзень быў як бы два? Ён заклікаў да ўсявышняга валадара, калі ворагі аблажылі яго з усіх бакоў, і вялікі валадар наш пачуў яго і з вялікай магутнасьцю кінуў каменны град на варожы яму народ і загубіў яго супернікаў на схіле гары* (Везувія), *каб паганцы ведалі яго поўнае ўзбраенне і тое, што ён верна ішоў за ўсёмагутным»* (46,1-8). *«Умілаваны сваім гаспадаром Сьцяг бога*[286] (Самуіл) *– яго прарок – заснаваў царства і памазаў цароў свайму народу». «Ён быў сапраўдным прарокам, і ў яго словах выяўлена праўдзівасць прадбачання». «Ён прадказваў нават і пасьля сваёй сьмерці і, узвысіўшы із глыбіні зямлі свай голас, прадказаў сьмерць цару (Пеклу-Савулу) і вынішчэнне беззаконнаму народу»* (46,23). *«Як сала* (старажытнай ахвярнай свечкі) *адрозніваецца ад мірнай ахвяры* (прасьвіркі), *так Умілаваны* (Давыд-Канстанцый-Хлор, ён жа Юлій Цэзар) *адрозніваецца ад багазмагальніцкіх дзяцей. Ён гуляў з ільвамі як з казлянятамі, і з мядзьведзямі – як з ягнятамі. Ці не зняў ён пад час юнацства ганьбу з народа, калі падняў руку на Перасяленца?»*[287] *«Ён паставіў спевакоў перад ахвярнікам, надаў сьвятам красу і з дакладнасьцю прызначыў іхны час»* (47,12).

---

[279] Енах הנוך (ХНУК) ад הניו (ХНІК) – прысвечаны ў таямніцы навук, па-грэцку Хрыстос, арабы завуць яго Idris (навуковец), бо каран (19, 57, 58) прыпісвае яму вынаходніцтва пісьменнасьці і пачатак усіх навук.

[280] Ной נח (НХ) ад נוח (НУХ) – азначае: правадыр, а таксама прыстанак качэўнікаў.

[281] Аўраам (אב־רם) азначае – бацька Рыма.

[282] Якаў י־עקב (І-ЭКБ) – боганазіральнік.

[283] Майсей (משה) азначае – ратавальнік, збаўца.

[284] Арон (אהרן) азначае – сьветач, роднаснае з אחרן – наступны, пасьлядоўнік.

[285] אורים ותמים (АУРЫМ і ТУМІМ) – адкрыццё і праўда.

[286] שמו־אל (НШУ-АЛ) – знак бога.

[287] Галіяф גלות – (ГЛЮТ) ад גלה – пазбаўляць прытулку, перасяляць

*«Міратворац* (Саламон), – вяртаецца ён зноў да Вялікага Цара, заснавальніка хрысьціянскай літургіі, – *валадарыў пад час мірных дзён, і заспакоіў яго бог з усіх бакоў, каб ён пабудаваў яму храм». – «Які мудры ты быў, Міратворац, у сваёй юнацкасьці, якім поўным розуму, падобна рацэ!» «Душа твая пакрыла ўсю зямлю, і ты напоўніў яе загадкавымі алегорыямі»* (47,17).

*«Але ты нахіліў пазней свае сцёгны да жанчын і заняволіўся ім сваім целам».* (47,22).

*«Таму ты пакінуў вар'яцтва людзям у тваіх нашчадках: беднага розумам Пашыральніка народа* (Раваама)[288] *і Заступніка народа* (Еравaама), *які завёў у грэх богазмагальнікаў і паказаў Аф-Рыму*[289] (Рыму) *шлях граху»* (47,28).

*«І падзялілася ўлада на двое і ўзнікла ад Аф-Рыма непакорлівае царства»* (48, 23).

*«Але паўстаў Грукочучы Прарок* (зноў зварот назад да Езуса пад імем прарока Іліі)[290]*, як полымя. Яго слова гарэла, як свяцільня. Ён навёў голад і замкнуў нябесныя дажджы і тры разы зводзіў полымя* (з дапамогай вывяржэнняў Вязувія). *Як уславіўся ты, Громабойны Прарок, тваімі дзівамі, і хто можа параўнацца з табай ў славе? Ты ажывіў памёршага, ты вывеў яго із пекла словам усявышняга, ты зводзіў да пагібелі цароў і шляхетных з іхных пасадаў, ты чуў на гары Нетраў* (Сінаі) *абвінавачанне і на гары Спусташальніка* (Харыве) *суд помсты*[291]*. Ты пастанаўляў цароў на адплату і пракокаў у свае наступнікі, ты падняты быў на неба палаючым віхурам на калясніцы з вогненнымі коньмі. «Шчаслівыя бачыўшыя цябе і ўпрыгожаныя тваім шанаваннем*» (48,1-11)..

*«Ты быў засланёны віхурам, а духам тваім напоўніўся Ялісей* (Ян Залатавусны)[292]. Не *завіхаўся ён перад князямі пры сваім жыцці, і ніхто не перасіліў яго, а пасьля сьмерці прадказвала яго цела, і дзівоснымі былі тады яго справы* (г.азн. існавалі яго «цудадзейныя парэшткі»)» (48,12-15).

*«Цар Езекія ўмацаваў свай горад і правёў у сярэдзіну яго ваду, прабіўшы жалезам скалу». «Саніахерым выправіў да яго Рапсака, які падняў сваю руку на слупную гару* (Сіён) *і шмат хваліўся ў сваёй гонарыстасьці», «але звярнуліся яны да літасьцівага гаспадара свайго, і сьвяты хутка іх пачуў з неба і выратаваў іх рукой Іса-Іі. Ён перамог войска краіны праваdыра, і яго анёл вынішчыў іх». «Пад час яго дзён сонца адступіла назад* (была адкрыта прэцэсія), *і бог дадаў жыцця цару»* (48,19-26).

*«Не было на зямлі нікога са створаных падобнага Прысьвечанаму* (Енаху, узятаму жывым на неба) *і не нарадзіўся такі муж як «Кратар Грамабоя»* (Ёсіф). *Уславіліся паміж людзьмі Шляхетны* (Сім) *і Прызначаючы на ўладу* (Сіф), *але вышэй усяго жывучага ў тварэнні – гэта Чалавек* (Адам)» (49,16-18).

Так заканчваецца сорак дзевятая глава «Мудрасьці Езуса» і калі рабіць высновы грунтуючыся па гэтай лічбе – сем разоў сем – і на заканчэнні Першым

---

[288] רהב־עם=רחב־עם (РХВ-ЭМ=РЕБ-ЭМ) – пашыральнік народа згодна з грэцкім вымаўленнем – Раваам.

[289] אפ־רים (АФ-РЫМ), дзе АФ ці АНФ (אנף) роднасна з АНХ (אנח) – уціскаць, гневацца (лацінскае angere). Гэта азначае: падняты нос, фанабэрыстасць. АФ-РЫМ лічыцца малодшым сынам Ёсіфа і, відаць увасабляе Рым, а старэйшы сын – Манасія, מ־נשה=מנשיא , азначае – той, хто пануе і, напэўна, уяўляе сімвал Візантыі.

[290] Ілія (אל־יהו = АЛ-ІЕУ) азначае – бог Грамабой; яго найменне – Феевіцянін (תשבי =ТШБІ) азначае – назад прыходзячы; із жывучых у Галаадзе (גל־עד – ГЛ-ЭД), а ГЛ-ЭД азначае – узгорак сведчання.

[291] Сінай (סיני – СІНІ) – ад лацінскага mons sinus – гара нетраў; згодна з Таргумам – Паўднёвы, а Хорэб (חרב = ХРБ) азначае – спусташальнік, гара спусташэння, лацінскае horribilis – жудасны.

[292] אל־ישע (АЛ-ІШЭ) азначае – богаратавальнік, а ў палавінным перакладзе: Усёмагутны Езуса.

чалавекам (Адамам), то гэтая частка спачатку была апошняй. Але ўжо ў старажытнейшых рукапісах мы бачым да яе і дадатак, пяцідзесятую главу, пра вялікага сьвятара Сымона, сына Оніі, ці інакш: Ёны.

Гэта імя з першага ж свайго вымаўлення ўражвае чытача, знаёмага з біблейскай літаратурай.

Хто такі гэты Сымон, сын Ёны (па-грэцку Іянійца), якога можна паставіць у шэраг з Майсеем, Аронам, Іліяй і з іншымі біблейскімі славутасьцямі? Перагледзьце ўсю біблію і евангеллі, і вы не знойдзеце ў іх нікога такога, акрамя апостала Пятра, сапраўднае імя якога і было Сымон, сын Ёны.

*«– Сымон, сын Іёніі? Ці шануеш ты мяне больш, чым яны?» – пытае яго ў евангеллі ажыўшы Езус. І ён адказвае яму:*

*– «Ты ведаеш, што я шаную цябе». А Езус яму сказаў: – «Пасі авечак маіх»* (Ян, 21, 15-17).

Гэта азначае, у пяцідзясятай дададзенай частцы «Мудрасьці Езуса» гаворка можа ісьці толькі пра апостала Сымона-Пятра.

А дзякуючы таму што гэтая частка, ва ўсякім разе, належыць сярэдзіне сярэдніх стагоддзяў, то ў найвышэйшай ступені цікава паглядзець, як яна характэрызуе гэтага «каменя (па-грэцку Пятра), на якім узведзена заходняя рымская царква», падобна таму, як усходняя візантыйская ўзнялася на Яне Залатавусьце.

Апостал Пятро, – кажуць нам каталікі, – быў першым рымскім папай, і вось як характэрызуе яго аўтар «Мудрасьці Езуса»:

*«Сымон, сын Оніі, вялікі сьвятар, пры сваім жыцці паправіў боскі храм і ўмацаваў храм нябёс. Пад час яго дзён было зменшана вадасховішча* (г.зн. недаследаваная паўднёвая частка неба, дзе размяшчаюцца вадзяныя сузор'і: Паўднёвая Рыба, Кіт, Рака Эрыдан, Карабель Арганаўтаў, Вадзяная Змяя і г.д.) *і акружнасць «Медзянага Мора»* (на якім плавае Зямля сваім паўднёвым полюсам).

*«Якім велічным быў ён сярод народа, пры сваім выходжванні із-за заслоны храма* (цалкам праваслаўны рытуал!). *Ён быў як ранішняя зорка сярод аблокаў, як месяц у поўню, як сонца, зіхацячае над храмам усявышняга, як вясёлка, зззяючая сярод велічных хмар!*

*Ён быў як кветкі ружы ад час вясновых дзён, як полымя у кадзіле з ладанам, як кованая залатая пасудзіна* (у праваслаўнай царкве), *упрыгожаная рознымі каштоўнымі камянямі, як алейнае дрэва з пладамі, як кіпарыс, узвышачыся сярод аблокаў.*

*«Калі ён браў сваё пышнае адзенне і апранаў ўсе свае велічныя ўпрыгожванні, то, узыходзячы да сьвятога ахвярніка, асьвятляў сваім бляскам усю акружнасць сьвяцілішча. Калі ён прынімаў ахвярныя долі із рук сьвятароў, стоячы каля вогнішча на ахвярніку* (згадаем, што і зараз на праваслаўным ахвярніку падчас набажэнства гараць тры вогнішчы ў агнічках з аліўкавым маслам, акрамя двух стаячых кандэлябраў па баках для свечак, ахвяруюемых вернікамі), *вакол яго быў вянок братоў* (дыяканаў), *як галіны кедра на Белай Гары* (Манблане), *і яны атачалі яго як фінікавыя галіны»* (50, 1-14).

*«Перад заканчэннем службы каля ахвярніка, каб завяршыць прынашэнне ўсявышняму усётрымальніку, ён працягваў сваю руку да ахвярнай чаркі, ліў у яе вінаградную кроў і выліваў яе да падножжа ахвярніка, як духмянасць нябеснаму цару ўсіх. Тады дыяканы ўсклікалі* («сьвяты, сьвяты, свецячы і г.д.), *трубілі кованымі трубамі перад усявышнім, і ўвесь народ падаў на калены, тварам на*

*зямлю і кланяўся спадару свайму, богу усётрымальніку, а сьпевакі* (на клірасе) *усхвалялі яго сваімі галасамі. У вялізным храме чуліся салодкія спевы і народ маліўся перад літасьцівым, пакуль здзяйснялася яго ўслаўленне* («слава ў вышніх богу» і інш.). *Такім было заканчэнне службы.*

*«А ён* (Сымон, сын Ёны), *выйшаўшы, паднімаў свае рукі на ўвесь сход дзяцей богазмагальніка, каб падаць ім дабраславенне»* (50, 16-22).

Але ж усё гэта – апісанне рытуалу старажытнай праваслаўнай службы, а ніяк не жыдоўскай, якой яна захавалася ў сінагогах! І адзенне, і ўтрыманне належаць грэцкай царкве. Чытаючы апісанне ерусалімскага ахвярніка карыстаючыся нікуды непрыдатнымі грэцкім і лацінскім перакладамі і ў яшчэ больш нікуды непрыдатнымі сучаснымі царкоўнымі перакладамі бібліі, мы, прамаўляючы па-чужому гучачыя для нас жыдоўскія сінонімы знаёмых нам службовых слоў, пачынаем далучаць да іх і чужыя ўяўленні. Блізкае і роднае нам пачынае здавацца чужым, як быццам бы ў выпадку калі вашу маці памылкова ў гутарцы назавуць іншым імем, і вы не здагадваецеся, што размова ідзе пра яе.

Аднойчы мне патрапілася кніга Цымермана «Дапатопны сьвет» у рускім перакладзе зробленым перакладчыкам не ведаўшым геалогіі. Замест «юрскай сістэмы» там стаяла «юрскія горы», замест «каменнавугальных пластоў» – «узгоркі каменнага вугалю». Атрымалася такая суцэльная лухта, што я, нават і ведаючы геалогію, у шмат якіх месцах ніяк не здолеў здагадацца, што мае на ўвазе аўтар. Здавалася, чытаеш штосьці яшчэ нечуванае.

Так і ў апісаннях біблейскага набажэнскага рытуалу. Пад найменнем Еговы не пазнаеш свайго ўласнага, памятаемага з дзяцінства, Хрыста. Пад найменнем «вогнішча на ахвярніку» не пазнаеш трох агнічак, якія гараць на праваслаўным ахвярніку падчас службы; пад найменнем «мірнага прынашэння із самай лепшай пшанічнай мукі» не пазнаеш прасвірак, пад імем «ахвяры ўсеспалення із туку (г.азн. сала) авечак і цялят» – не пазнаеш прыносімых і зараз да ахвярніка і абразоў сьвечак, хаця і ведаеш, што ніякае сала не гарыць інакш як у форме сьвечкі, ды ў агнічках з кнотам. А калі, нарэшце, здагадваешся пра гэта, то робіцца раптам зразумелым, што ў ранейшыя часы, калі пчалярства было яшчэ мала развіта, і царкоўных свечкавых заводаў не існавала, свечкі рабіліся самімі вернікамі із авечага і цялячага сала і падносіліся, як і зараз, для ўсеспалення перад ахвярнікам. «Мучное ж прынашэнне» складалася із прасвірак (што па-грэцку таксама азначае: прынашэнне). А другогая частка як мучнога, так і не мучнога прынашэння прыносілася як натуральная ўзнагарода сьвятарам за іхную службу і звычаі, нападобе пахавальнага звычаю, калі і да гэтага часу ў рускіх вёсках робіцца так жа, дзе плацяць сьвятару за набажэнства яйкамі, крупамі, мукай і г.д... Дзьве асобна размешчаныя ў мазках выявы раптам злучаюцца пры аб'яднанні па-іншаму вымаўляемых разнамоўных слоў грунтуючыся на іхным сэнсе ў адно, але яскравае і поўнае цэлае.

Праўда, што ўкаранілася з дзяцінства звычка спачатку вельмі абцяжарвае гэты працэс накладання. Здаецца неверагодным, што юдэйскі і праваслаўны храмы, аж да глыбіні сярэдніх стагоддзяў, былі адным і тым жа, і што юдаізм (г.азн. у перакладзе: богаслаўе) быў толькі аднай із праваслаўных сектаў. Я ўпэўнены, што і зараз гэтае маё выказванне рэзане слых як хрысьціянскага, так і юдэйскага чытача, хаця я і тлумачыў, і нават ужо не раз, што хрысьціянства па-старажытнагрэцку азначае проста пасьвячэнне і што гэта было найменне ўсіх пасьвячэннічых ці сьвятарскіх сектаў, у якіх немагчыма было зрабіцца жрацом самавольна, а патрэбна

было спачатку прайсьці вызначаны курс навучання, быць пасьвечаным у таямніцы тагачасных містычных і акультных ведаў, што і зацверджвалася, пасьля дасягнення дастатковай вучонасьці і пасьля задавальняючага адказу настаўнікаў, памазаннем; зноў жа цалкам аднолькавым як ў богаславячых (юдэяў), так і ў праваслаўных (хрысьціянаў).

Толькі пачынаючы з заканчэння сярэдніх стагоддзяў рытуал пачаў па-рознаму самастойна развівацца ў розных краінах. У каталікаў і рабіністаў пад уплывам Апакаліпсіса, адлюстраваўшым дзяржаўную царкву ў выглядзе продажнай жанчыны з залатой чаркай у руцэ (Апак., 17, 4-5), была вкінута із рытуалу чарка з віном, пра якую, як мы толькі-што бачылі, яшчэ згадваецца ў «Мудрасьці Езуса», як ужываемую Сымонам, сынам Ёны (ён жа Пятро), і відавочна ў Рыме ў храме Пятра. У рабіністаў было цалкам скасавана абмыванне, г.азн. хрышчэнне немаўлят сьвятаром, як рэлігійны звычай, замяніўшыся магаметанскім абразаннем, а ў каталікоў яно захавалася напалову, у выглядзе палівання бруйкай воды галавы ахрышчваемага. Усё гэта былі ўжо пазнейшыя сярэднявечныя дыферэнцыяцыі, і самі рабіны, хаця і чыталі біблію на яе першапачатковай мове, перасталі, нарэшце, пазнаваць першапачатковае адзінства сваёй рэлігіі і храмаў з тагачаснымі хрысьціянскімі. Дзякуючы асабістым сваркам і канкурэнцыі пазнейшых кіраўнікоў царквы – яна падзялілася на варожыя адна адной секты, але настаўнікі гэтых сектаў, хаця і рабілі выгляд, што не дакранаюцца да кніжак чужых ім навук, каб не апаганіцца, увесь час гэта рабілі цішком і, знаходзячы там нейкае відавочнае «ўдасканаленне», пераносілі яго ў свае тэксты, чым і тлумачыцца, што цэлы шэраг пазнейшых грэцкіх і лацінскіх дадаткаў быў перанесены ў жыдоўскія тэксты і зацямнілі яго першапачатковы сэнс.

Мы павінны прызнацца, што навукова асэнсаваных перакладаў Бібліі яшчэ не існуе ні на адной із навейшых моваў і не будзе, пакуль за гэта не возьмецца нейкі дасведчаны габраіст, атрымаўшы самую высокую прыродазнаўча-навуковую адукацыю і добра знаёмы з астраноміяй, астралогіяй, геафізікай, псіхалогіяй і іншымі сучаснымі навукамі.

* * *

Я разгледзеў тут «Мудрасьць Езуса сына царскага намесьніка», таму што яшчэ яе першапачатковыя чытанні пад час шлісельбургскага заняволення прывялі мяне да высновы, што гэтая кніга напісана пад час сярэднявечча і што яе Езус тоесны з евангельскім, а таму із яе можна здабыць дадатковыя паведамленні пра жыццё і вучэнне Езуса. З гэтай мэтай я і выпісаў тут із яе амаль усе выбітныя выслоўі і месцы і, як мне здаецца, дастаткова пераканаўча паказаў, што побытавая філасофія гэтай кнігі з'яўляецца аднастайнай з евангельскай і таму належыць тай жа эпосе творчасьці, хаця і не з'яўляецца плагіятам.

Гэтая кніга таксама малюе Езуса складальнікам кароткіх выслоўяў і запаветаў, відаць з'яўляўшыміся на пачатку сярэдніх стагоддзяў найбольш пашыраным напрамкам побытавай мудрасьці, а таксама і алегорый, маючых назву прыпавесьцей.

Таму мы павінны дапусьціць, што і рэчаісны Езус, як і іншыя яго адукаваныя сучаснікі, таксама не цураўся падобнага напрамку першабытнай літаратуры, меўшай тую перавагу, што падобныя сентэнцыі, пры цяжкасьці здабывання папірусу ці пергаменту, можна было напісаць на глінянай дошчачцы ці на кавалку драўнянай кары. Але што тут належыць яму і што напісана за яго кампілятарамі гэтай кнігі, ужо немагчыма сказаць. Навуковы бок яго вучэння цалкам пакінуты ў

цені, і нагода яго слупавання таксама замоўчана. Адзінае новае, што мы даведваемся пра яго із гэтай кнігі, змяшчаецца ў яе загалоўку: Езус сын Сіраха, што азн. Езус сын імператарскага намесьніка. А гэта азначае, ён, сапраўды, паходзіў із вельмі шляхетнай сям'і. Гэта робіць зразумелым і тай факт, што яго «слупаванне за праўду» і яго цудоўнае «ажыванне із памёршых» зрабілі такую вялікую сенсацыю ў тагачасным адукаваным сьвеце. Пакаранне сьмерцю простага цёмнага прапаведніка, якога ніхто не слухаў акрамя купкі непісьменных людзей у глухім кутку тагачаснага сьвету каля рымскага ўмацавання Эль-Кудс на мяжы пустыні, не вырабіла б у старажытных культурных колах ніякага ўражання і не выклікала б да жыцця вялікую літаратуру, ды і на месцы было б таксама забыта непісьменным насельніцтвам на працягу некалькіх наступных жа пакаленняў.

У сваіх гістарычных дасьледаваннях мы павінны цьвёрда памятаць, што ўсё на сьвеце, як ідэйнае, так і матэрыяльнае, вынайдзена чалавечым геніем, а не непісьменным старажытным натоўпам, які толькі надаваў нярэчыўным ідэям матэрыяльную абалонку, ды і то грунтуючся не на ўласнай ініцыятыве, а пад ціскам староньніх магутнасьцей. Нас часта збівае слова «народны эпас», якім пазначаюць стварэнне былін, і мы забываемся, што быліны таксама ствараліся не звычайнымі тагачаснымі земляробамі, пастухамі і рамесьнікамі, пра якіх аўтар толькі-што разгледжанай намі кнігі справядліва заўважае, што «іх сэрца прылягае да іхнай справы», а баянамі, г.азн. вылучнымі, згодна са сваім разумовым развіццём асобамі, якія спецыялізаваліся, пакінуўшы якую б то ні было іншую працу, у сваім мастацтве. Гэта і была першабытная, вельмі рэдкая сярод тагачаснага насельніцтва інтэлігенцыя, сілкаваўшаяся ад стала заможных гандляроў і князёў.

Тое ж самае можна сказаць і пра Езуса. Кожная рэлігія ўзнікала на вяршынях сучаснай ёй культуры і трымаецца ў нізах толькі да той пары, пакуль яе не пакінулі вярхі.

Гэта азначае, Ёсіф, евангельскі бацька Езуса, быў не толькі навукоўцай-дойлідам, але і намесьнікам імператара, відаць у Неапалітанскай вобласьці.

Другая ж і найбольш важная рэч, якую мы знаходзім тут, гэта толькі-што прыведзеная характарыстыка апостала Сымона-Пятра, якая малюе яго цалкам не ў тым выглядзе, як «Жыцці Сьвятых» ці грубы апокрыф Яўсевія Усялюбца: «Царкоўная Гісторыя».

Мы бачым, што Пятро, пасьля ажывання і зьнікнення Езуса, які вырабіў тым большае ўражанне, што ён быў сынам царскага намесьніка, не хаваўся ў Рыме «ў катакомбах», як нам надаюць, а, наадварот, здзяйсняў там свае службы ў «шырокім храме» з небывалай пышнасьцю, і таксама паходзіў не із сям'і бедных рыбакоў, а із заможнай і адукаванай грэцкай сям'і.

Калі ж была складзена разбіраемая намі зараз кніга ад імя Езуса? Згадванне пра Іезекііла паказвае, што гэтае месца было напісана ў ёй пасьля 453 года, калі адбылося злучэнне планет пад Змеятрымальнікам, падзея якая знаходзіцца ў падмурку прароцтва «Іезекііл». А згадванне пра цара Езекію, якога мы ўжо атаясамілі з Анастасіем (491-518)[293], паказвае, што «Мудрасьць Езуса» была канчаткова скампанавана не раней як у VII стагоддзі, г.азн. адначасова з евангеллямі, а таму яна і носіць відавочны адбітак «евангельскай Мудрасьці».

[293] «Хрыстос». Першая кніга. Частка III, гл. 3.

# Глава III.

## Цар Лекар і яго продкі.

(Эмбрыён рамана пра цара-Міратворцу.)

Разгледзім тут і яшчэ адну сярэднявечную аперцэпцыю жыцця, дзейнасьці і паходжання заснавальніка хрысьціянскага набажэнства, якая адрозніваецца ад папярэдніх тым, што яна мае выгляд гістарычнасьці.

Я ўжо згадваў, што першыя адзінаццаць главаў першай (а па-грэцку трэццяй) кнігі «Цары», якія паведамляюць пра цара-Міратворцу, маюць тай жа самы літаратурны каларыт, як і дзьве папярэднічаўшыя ім біблейскія кнігі, маючыя назву па-жыдоўску «Сьцяг Бога» (I і II кнігі «Цароў» па-грэцку): гэта фантастычныя гістарычныя раманы, дзе цудоўнае цалкам засланяе звычайнае і пабытавае. Вось чаму я і злучыў разбор іх усіх у адну трылогію: цар Пекла, цар Пыл і цар-Міратворац (Савул, Давыд і Саламон па-жыдоўску). Мы ж усе ўжо прызвычаіліся злучаць іх адзін з адным, як нешта выключнае. А наступныя адзінаццаць главаў першай кнігі «Цары» падобныя на сухі сярэднявечны летапіс, у якім (за выключэннем больш позняга дадатку пра Іллю-прарока, ўзнёсшагася, як Езус, жывым на неба, і пра яго вучня Ялісея) усё цалкам праўдападобна, гэтак жа, як і ў наступнай за імі апошняй «кнізе Цары».

Яны магчыма і з'яўляюцца не чым іншым, як лічачыміся згубленымі Consularii Italici у жыдоўскім, папоўненым, выкладанні. Іх літаратурны склад настолькі больш прымітыўны чым склад трылогіі «Сьцяг Бога», што сумнявацца ў іх большай старажытнасьці, чым гэтая трылогія, немагчыма. Уражанне атрымліваецца такое, як калі б метранпаж у друкарні памылкова прывярстаў сярэднявечную хроніку французкага двара да рамана Дзюма-бацькі «Тры Мушкецёры», а карэктар дапоўніў бы відавочную неадпаведнасць паміж абодвума часткамі створанага гэтым спосабам разнароднага апавяданна пераходным літаратурным мастком такога выгляду:

«Пасьля таго, як памёр трэцці мушкецёр, на французкі пасад уступіў Людовік такі-та, і пачалася вайна з ангельцамі, а пасьля яе заканчэння Людовік паехаў у Парыж, дзе і памёр, а замест яго на французкі пасад уступіў яго сын, які памёр праз тры гады» і г.д., у самым сухім выкладанні.

Акрамя таго, уявіце сабе, што пры гэтым друкарскім непаразуменні выявілася б яшчэ, што пазначаны Людовік валадарыў наогул не пасьля, а раней «Трох Мушкецёраў», якія жылі, згодна з Дзюма-бацькай, пры яго сыне, і выявілася б, што потым і сам сын зноў апісаны ў хроніцы праз пакаленне, але ужо без мушкецёраў, ды і характарыстыка ў летапісе дадзена яму цалкам іншая, чым у рамане Дзюма... І вось, вы атрымаеце тое самае, што мы бачым і ў I (III) кнізе «Цары», у якай цар-Міратворац, зноў выплывае праз пакаленне пад імем «цара Лекара».

Пачнём жа ад яго продкаў, якія паказаны яшчэ ў фантастычных абставінах, малюючых, з аднаго баку, падзел прыхільнікаў Езуса на месіянцаў і хрысьціянаў, а з іншага – на такі ж папярэднічаўшы падзел адзінабожцаў на прыхільнікаў Арыя і прыхільнікаў Мікалая Цудадзея.

Пасьля таго, як памёр цар Міратворац, трэцці цар знакамітых біблейскіх трох мушкецёраў – Савула, Давыда, Саламона, – «багазмагальніцкае царства

падзялілася, – паведамляе нам кніга «Цары», а з ёю і яе адгалосак «Параліпаменан», – паміж Раваамам (΄Ροβοάμ) і Еравваамам (Ἰε-Ροβοαμ па-грэцку)».

Ужо адно такое падабенства грэцкіх імёнаў абодвух суваладароў, у сувязі з ужо высветленай мнай у папярэднічаўшых кнігах «Хрыста» акалічнасьцю, што жыдоўская біблія напісана пад моцным уплывам грэцкай культуры, мімаволі наводзіць на думку, што гэта адно і тое ж імя, падзеленае тэндэнцыйна на два, і што насіў іх адзін і тай жа раздваіўшыся пазней чалавек, ці проста гэта блытаніна двух суваладароў, пры якай не разбярэш, да каго што ставіцца. Вядома, тая акалічнасць, што Раваам пішацца па-жыдоўску РХБ-ЭМ – пашыральнік народа, а Еравваам пішацца ІРБ-ЭМ – заступнік народа, скасоўвае такую думку, але і тут мы можам дапусьціць, што ІРБ-ЭМ пісалася спачатку І-РХБ-ЭМ, г.азн. богапашыральнік народа, і атрымаецца тое ж, што і па-грэцку.

Але мы бачылі ўжо («Хрыстос», кн. І), што Еравваам храналагічна налягае на Кастуся І, сына Канстанцыя Хлора, «вярхоўнага імператара імперыі Насарога» (Рым па-біблейску азначае Насарог[294], адкуль і паходзіць назва Рымскай імперыі, што з'явілася ў тай час, калі яе сталіцай яшчэ не быў «горад Насарог»).

Гэта азначае, Раваам не сын цара Міратворца, а хутчэй яго бацька, і Еравваам паўставаў не на цара Міратворцу, а на цара Пыла. Акрамя таго, пераблытана само сваяцтва.

Еравваам лічыцца заснавальнікам іераваамавай ерасі, што адпавядае Кастусю І, а ў астатнім біблейская легенда пра яго зведала больш позні перапрацоўкі, цалкам змяніўшыя яе выгляд.

Гэта вельмі добра заўважаецца пры параўнанні паданняў пра яго ў кнізе «Цары» з паданнямі кнігі «Параліпаменон», паўтараючай літаральна некаторыя, месцы першай кнігі, а ў некаторых маючай і самастойныя дадаванні, ці выключэнні із кнігі «Цары» таго, што ёй не падабаецца.

Вось, перадусім, выключанае із яе апавяданне. Аўтару «Параліпаменана», відавочна, не спадабалася, што «Заступнік народа» выведзены аўтарамі кнігі «Цары» із паўстанцаў супраць свайго валадара, і ён выкінуў усё гэтае паведамленне, якое я з гэтай нагоды цытую выключна грунтуючыся на кнізе «Цары» (для складнасьці выкладання, – таму што яно было цытавана мнай раней).

**Кніга «Цары» (Гл. II, 26).**

*«Служка цара Міратворцы* (Саламона па-жыдоўску*), Пашыральнік народа* (Раваам), *сын прарока ў Краіне Попелу із Царыды*[295]*, маці якога была пракажоная ўдава, паўстаў супраць свайго цара, калі тай будаваў насып і выпраўляў пашкоджанні ў горадзе Ўмілаванага»* (11, 27).

*Нагодай гэтага паўстання, – кажуць нам, – было тое, што яго сустрэў на дарозе прарок «Брат Грамабоя»* (выбухнуўшы з грукатам вогнены метэарыт, мал. 62*) із Умацавння Заспакаення* (неба), *разарваў сваё новае адзенне на дванаццаць лапікаў і сказаў гэтым Заступніку народа:*

*«– Вазьмі сабе дзесяць! Грамабой, бог богазмагальнікаў, кажа табе* (праз мяне)*: «я забіраю царства із рук дзяцей цара-Міратворца і даю табе із яго дзесяць народаў* (11, 31). *А сыну яго дам адзін, каб заставалася свяцільня Ўмілаванага,*

[294] Слова Насарог (РМ=РАМ) па-ягіпецку і па-халдэйску мае два галоўныя вымаўленні: РЫМ і РОМ (ці РАІМ), адкуль і магла ўзнікнуць легенда, што ён быў заснаваны не адным чалавекам, а дзвума (Ромулус і Рэм).

[295] צרדה (ЦРДЕ) па-грэцку Σαριδη (Сарыда) – сугучна з Сардыніяй (гл. ІІ, кн. І – па-жыдоўску, і кн. ІІІ – па-руску).

*майго служкі ва ўсе дні перад маім тварам у горадзе Сьвятога Замірэння, які я выбраў сабе для таго, каб жыло там маё імя».*

*«Цар-Міратворац»* (пасьля такога тлумачэння астралагамі дзесяці кавалкаў метэарыта, зваліўшыхся, на шляху «Заступніка народа») *пажадаў яго забіць, але ён збег у Міц-Рым да цара Шышака (ШІШК) і жыў там да сьмерці цара-Міратворца»* (11, 40).

Так заканчваецца гэтае цікавае месца, якое паказвае на паданне аскепкаў метэарыта на шляху Кастуся I, які лічыцца праваслаўнымі гісторыкамі за сына Канстанцыя Хлора, а тут абвяшчаецца сынам «прарока із Краіны Попелу» і ўзбунтаваўшагася падначалена.

Якая версія больш праўдзівая?

Мне здаецца – біблейская, бо фінал біблейскага падання, што пасьля гэтага знака цар-Міратворац, шукаў магчымасьці яго забіць, занадта адпавядае норавам старажытных валадароў, каб палічыць усё за простую фантазію аўтара кнігі «Цары». Дарэчы, мы ведаем, што старажытныя імператары забівалі за такія прадказанні і сваіх уласных дзяцей.

Аўтар «Параліпаменона», – як я ўжо паведаміў, – выкінуў гэта месца і пачаў сваё капіяванне з заканчэння гэтай (II) главы. Я прыводжу яго копію справа ад тэксту кнігі «Цары».



Мал. 62

*Выбух метэарыта з ляцячымі ад яго аскепкамі (з натуры).*

Біблейскае паданне пра тое, як Пашыральнік Народа страціў дзесяць абласьцей свайго бацькі.

| | |
|---|---|
| **Кніга I (III) Цары,** 11, 43.<br>*Спачыў цар Міратворац са сваімі продкамі, быў пахаваны ў Горадзе Ўмілаванага, і замест яго запанаваў яго сын Пашыральнік народа* (адпавядаючы Ліцынію, суваладару Кастуся I). | **I Параліпаменон** (9, 31)<br>*Спачыў цар-Міратворац са сваімі бацькамі і быў пахаваны ў Горадзе Ўмілаванага, і замест яго запанаваў яго сын Пашыральнік народа* (адпавядаючы Ліцынію, суваладару Кастуся I). |
| **Глава 12**<br>«*Ён пайшоў у Сінем* (ШКМ – Неапаль), *куды прыйшлі і ўсе богазмагальнікі ўцараваць яго. Пра гэта пачуў Заступнік народа, сын Прарока, які знаходзіўся ў Міц-Рыме* (МЦ-РЫМ). *Выкліканы адтуль з усім сходам богазмагальнікаў, ён паведаміў Пашыральніку народа:* | **Глава 10**<br>«*Ён пайшоў у Сікем* (ШКМ – Неапаль), *куды прыйшлі і ўсе богазмагальнікі ўцараваць яго. Пра гэта пачуў Заступнік народа, сын Прарока, які вярнуўся із Міц-Рыма* (МЦ-РЫМ). *З усім сходам богазмагальнікаў ён паведаміў Пашыральніку народа:* |
| *«– Бацька твай наклаў на нас цяжкае ярмо, палегчы нам жорсткую працу, і мы будзем табе служыць».* | *«– Бацька твай наклаў на нас цяжкае ярмо, палегчы нам жорсткую працу, і мы будзем табе служыць».* |
| *«Дакладна так жа і старэйшыны казалі:* | *«Дакладна так жа і старэйшыны казалі:* |
| *«– Калі ты зараз завабіш іх пяшчотнымі словамі, то яны будуць тваімі рабамі на ўсе дні...»* | *«– Калі ты зараз завабіш іх пяшчотнымі словамі, то яны будуць тваімі рабамі на ўсе дні».* |
| *«А маладыя людзі, сталеўшыя разам з ім, казалі:* | *«А маладыя людзі, сталеўшыя разам з ім, казалі:* |
| *«– Скажы гэтаму народу: май мезенец таўшчэй за сьцягно майго бацькі, калі ён наклаў на вас цяжкае ярмо, то я яшчэ павялічу яго; калі ён караў вас бізунамі, то я скарпіёнамі».* | *«– Скажы гэтаму народу: май мезенец таўшчэй за сьцягно майго бацькі. Калі ён наклаў на вас цяжкае ярмо, то я яшчэ павялічу яго; калі ён караў вас бізунамі, то я скарпіёнамі».* |
| *«На трэці дзень, калі Ераваам і ўвесь народ прыйшлі да яго за адказам, ён сказаў ім, як раілі маладыя людзі. А народ адказаў:* | *«На трэці дзень, калі Ераваам і ўвесь народ прыйшлі да яго за адказам, ён сказаў ім, як раілі маладыя людзі. А народ адказаў:* |
| *«– Што нам за справа да Ўмілаванага? Сын Існага (Ясея) не спадчына для нас. Ідзём па сядзібах, богазмагальнікі!»* (12, 16). | *«– Што нам за справа да Ўмілаванага? Сын Існага* (Ясея) *не спадчына для нас. Ідзём па сядзібах, богазмагальнікі!»* (12, 6). |

Чытач сам бачыць, што гэтае месца ў кнізе «Параліпаменан» перапісана із кнігі «Цары» слова ў слова і таму не мае значэння самастойнага гістарычнага дакументу. Але і першапачатковае апавяданне носіць відавочна казачны характар. Ніводзін нанова запанаваўшы цар, якім бы неразумным ён ні быў ад нараджэння, не прамовіў бы пры сваім уцараванні нічога падобнага. Цяжкія дзяржаўныя працы, вядома, маглі быць сапраўднай нагодай распадзення імперыі на дзьве часткі, але толькі гэта адно і можна тут палічыць намёкам на рэчаіснасць. Усё гэта толькі пераходны масток ад трох мушкецёраў да наступнай хронікі.

Працягнем жа паша параўнанне абедзьвюх кніг і далей.

Тут зноў мы бачым у кнізе «Цары» вельмі цікавае месца, таксама з нейкай нагоды прапушчанае аўтарам «Параліпаменона».

**Кніга «Цары», I (III), глава 12 (25-33).**

*«Заступнік народа* (Ераваам-Кастусь І) *забудаваў сьценамі Сіхем* (ШКМ), *на гары Аф-Рым, і пасяліўся там, потым пабудаваў Аблічча боскае* (ПНІ-АЛ) *і сказаў у сваім сэрцы:*

*«– Калі май народ будзе хадзіць для ахвяравання ў горад Сьвятога Замірэння, то вернецца ён да свайго валадара, Пашыральніка народа, і заб'е мяне».*

*Склікаўшы сабор* (Нікейскі?), *ён зрабіў двух залатых цяльцоў, аднаго ў Сядзібе бога* (Біт-Ал), *другога ў Судным Горадзе (ДН), і сказаў:*

*«– Даволі вам хадзіць у горад Сьвятога Замірэння! Вось твае багі, багазмагальнік, якія вывелі цябе із Міц-Рымскай зямлі!»*

Чытач сам бачыць, што гэта – паўтарэнне Аронавых залатых цяльцоў, а таму і дапасуецца да часу Арона-Арыя.

Народ пачаў хадзіць да Цяляці ў Судным Горадзе, і гэта стала пачаткам рэлігійнай памылкі. «Заступнік народа» (Ераваам-Кастусь) пабудаваў храм на вышыні, прызначыў сьвятароў не із лявітаў і прызначыў гадавое сьвята на пятнаццаты дзень восьмага месяца (калі тут будзем лічыць першым месяцам ліпень – пры сонцы ў Яслях Хрыста – то гэта прыпадае на 15 лютага, калі было ўсталявана «сьвята праваслаўя» са знакамітай анафемай усім іншаверцам), і сам падняўся на ахвярнік, каб здзейсніць каджэнне (Кастусь І быў абвешчаны кіраўніком царквы і амым вялікім «сьвятаром», Pontifex Maximus).

А потым ідзе ўжо чыста астральны дадатак, бо было б смешна надаваць яму гістарычнае значэнне:

**І (ІІІ) Кніга «Цары». Глава 13.**

*«У гэты самы час пасланец богаў* (г.азн. проста месяц у сваім шляху па небе) *з'явіўся із краіны багаслоўя і паведаміў* (праходзячы над сузор'ем Ахвярніка, у якім, напэўна, выбухнуў метэарыт).

*«– Ахвярнік, ахвярнік! Вось народзіцца сын у сядзібе Ўмілаванага, на імя Асія* (ІАШ-ІЕУ – Полымя Грамабоя, сугучна із імем Езус), *які заколе на табе сьвятароў вышынь і спаліць на табе чалавечыя косткі.*

*«Заступнік народа* (у сімвале сузор'я Стральца?) *працягнуў руку ад ахвярніка* (напэўна, быў дымавы след метэарыта), *сказаўшы:*

*«– Вазьміце яго!*

*«Але яго рука адзеравянела, а Ахвярнік рассыпаўся* (пырскі метэарыта зніклі, і сузор'е зайшло).

*«– Ушануй абліча твайго бога, – сказаў цар пасланцу богаў, – памаліся, каб я мог апусьціць маю руку.*

*«Пасланец богаў памаліўся, і рука цара стала, як раней.*

*«– Зайдзі да мяне ў сядзібу, – прапанаваў цар, – і падмацуй сябе ежай.*

*«– Калі б ты мне аддаў і палову сядзібы, – адказаў той* (у сімвале месяца), *– я не пайду з табай і не буду есьці хлеба і піць ваду ў гэтым месцы, таму што так загадаў мне Грамабой.*

*«Ён пайшоў іншым шляхаа* (г.азн, па іншы бок экліптыкі), *але адзін стары прарок, які жыў у Сядзібе Бога, даведаўшыся пра ўсё, што ён зрабіў, засядлаў Асла і, знайшоўшы сыходзячага пасланніка пад дрэвам бога* (АДЗЕ – сузор'е Ясляў Хрыста, зараз Рак)*, падмануў яго:*

*«– Анёл загадаў мне згодна з наказам Грамабоя: вярні яго, і хай з'есць ён тут хлеба і нап'ецца вады.*

*«Пасланнік богаў вярнуўся* (пры наступным колазвароце), *з'еў і напіўся, але калі яны яшчэ былі за сталом, стары прарок прадказаў яму:*

*«– За тое, што ты не паслухаўся наказу Грамабоя, тваё цела не ўвойдзе ў магільню тваіх продкаў.*

*«Ён засядлаў для яго Асла, і пасланннік богаў паехаў зноў* (па экліптыцы), *але яго сустрэў на дарозе Леў і забіў. Яго цела ляжала на шляху, а Асёл* (у сузор'і Рака) *і Леў стаялі побач яго. Калі пра гэта пачуў стары прарок, вярнуўшы яго з дарогі, ён засядлаў Асла, прывёз цела назад і паклаў яго ў сваёй магільні, кажучы:*

*«– На жаль, май брат!*

*«І завяшчаў пахаваць і сваё цела разам з ім».*

Пры літаральным разуменні гэта суцэльная недарэчнасць, а пры астральным – атрымліваецца сэнс.

Апошняе месца з’яўляецца – як мне здаецца – апісаннем месяцовага зацьмення паміж сузор'ямі Ільва і Рака (з яго двума Асламі) у самай пашчы Ільва. Тут зацьменні пад час першых стагоддзяў адбыліся толькі каля 31 ліпеня і 1 жніўня. Ці не было іх пад час валадарання Кастуся І? Зірнуўшы на маю класіфікацыйную табліцу месяцовых зацьменняў у V томе «Паведамленняў Навуковага Інстытута імя Лесгафта»[296], мы зараз жа і знаходзім пры Кастусю І цалкам такое звыш поўнае зацьменне, ноччу з 1 на 2 жніўня 315 года, у 20 гадзін 28 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, а ў Італіі і Грэцыі каля самай паловы ночы (пры Юпітары ў Авене і Сатурне ў Вадаліву). Яно было бачным на абшарах усёй Яўропы, паўночнай Афрыкі і Заходняй Азіі, вельмі глыбокае па фазе (14"4). А сонечных зацьменняў на працягу гэтага года не было бачна ў краінах Міжземнага мора. Акрамя таго, было адно, месяцовае, і пры Дыяклетыяну ў ноч з 31 ліпеня на 1 жніўня 296 года, таксама вельмі глыбокае звыш поўнае (16"0), у 20 гадзін 44 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы, бачнае і ў Яўропе, і ў Афрыцы, і ў Заходняй Азіі (пры Сатурне паміж Двайнятамі і Ракам і пры Юпітары ў пашчы Ільва). Сонечных жа зацьменняў не было і на працягу гэтага года. А раней і пасьля іх не было такіх месяцовых зацьменняў на працягу некалькіх стагоддзяў.

Вось і яшчэ адна легенда, таксама відавочна астралагічнага паходжання, з’яўляючаяся працягам папярэдняй.

**І Кніга «Цары», глава 14.**

*«У Заступніка народа* (Ераваама-Кастуся І) *захварэў сын Авія* (г.азн. Бацька бога, цалкам тое ж імя, як і ў сына яго сучасніка богаслаўячага Пашыральніка народа (Раваама), што паказвае на змешванне абодвух дасьледуемых намі зараз цароў).

*«Ён загадаў сваёй жонцы:*

*«– Пераапраніся і пайдзі ў Сілах* (ШЛХ) *да Брата Грамабоя, Прарока, прадказаўшаму мне, што я буду царом гэтага народа. Дай яму 10 хлябоў, жбан вады і сухароў і даведайся, што будзе з юнаком.*

*«Яна прыйшла да Брата Грамабоя, які быў ужо сляпы, але Грамабай папярэдзіў яго, і, пачуўшы шоргат яе ног, ён прамовіў:*

*«– Зайдзі, жонка Заступніка народа! Навошта табе было выдаваць сябе за іншую? Так кажа Заступніку народа Грамабой, бог богазмагальнікаў: ты зрабіў сабе іншых богаў і балваноў, мяне ж кінуў сабе за спіну. За гэта я вынішчу ў цябе кожнага, мачашчагася да сьцяны, раба і вольнага, і вымету нашчадкаў тваіх, як смецце, да чыстага: хто памрэ ў горадзе, таго з'ядуць сабакі* (Вялікі і Малы Сабака?), *хто ў полі, таго здзяўбаюць нябесныя птушкі* (Крумкач на Гідры?) *Ідзі ў*

[296] Гэтая табліца складзена Нінай Штаўдэ і мной.

*сваю сядзібу, і як толькі твая нага ўступіць у горад, памрэ твой дзіцёнак і аплачуць яго богазмагальнікі, і пакладуць у магільню, таму што ў ім адным знайшлося нешта добрае, на думку Грамабоя, із ўсёй сядзібы Заступніка народа* (14,13).

*«Жонка паднялася, прыйшла ў Адкуплены Горад і ледзь пераступіла парог сядзібы, як памёр іхны дзіцёнак».*

І тут у сьмерці Боскага Бацькі ў «Адкупленым Горадзе» мімаволі хочацца бачыць месяцовае ці сонечнае зацьменне ў Аўне. Але поўных сонечных зацьменняў не было ў Авене пры Кастусю І, а месяцовыя былі: 293 год 2 кастрычніка каля Грынвіцкай поўначы (14"3), усё бачнае ў нашым паўшар'і зямлі; і яшчэ 310 год 25 кастрычніка (13"9) таксама каля Грынвіцкай поўначы, бачнае цалкам і амаль поўнае пры Кастусю І; ды яшчэ ў 357 годзе 14 кастрычніка з фазай 10"1, вечарам пры ўзыходзе месяца ў 17 гадзін 37 хвілін ад Грынвіцкай поўначы.

*«Іншыя справы і войны Заступніка народа* (Кастуся І), – працягвае кніга «Цары», *– апісаны ў летапіснай кнізе багазмагальніцкіх цароў* (такой нідзе няма).

*«Ён валадарыў 22 гады і спачыў са сваімі продкамі»* (14, 20).

Усё толькі-што прыведзенае апавяданне (відавочна, таксама чыста астральнага характару, хаця сэнс і незразумелы) выкінуты аўтарам кнігі «Параліпаменон», перапісаўшым адсюль толькі апошні радок:

*«Ён валадарыў 22 гады і спачыў са сваімі продкамі».*

Зразумела, што і ў гэтай лягендзе няма нічога рэчаіснага, нічога гістарычнага, а ўсё адны астральныя назіранні, перамяшаныя, як у сне, з урыўкамі паданняў пра зямное жыццё «Заступніка народа», як, напрыклад, паведамленне, што яго галоўнай рэзідэнцыяй была, на думку аўтара, Турца (ТРЦЕ). Пры параўнанні яго біблейскага аблічча з візантыйскім абліччам рымскага імператара Кастуся І, акрамя падабенства ў апісанні іх абодвух, як ерасіярхаў і понтыфекс-максімусаў, мы бачым і некаторыя істотныя адрозненні. Згодна з візантыйскімі крыніцамі Кастусь І быў сынам Канстанцыя Хлора, вярхоўнага рымскага імператара, а Ераваам паказваецца тут сынам Прарока (НБТ). Існуюць і іншыя непагадненні з візантыйскімі паведамленнямі, якія мы пабачым далей пры выкладанні падзей яго жыцця. Яны лепш за ўсё вымалёўваюцца, калі мы прасочым гісторыю Іе-Раваама ў злучэнні з гісторыяй цара богаславячых Раваама, у якім даводзіцца зараз бачыць легендарызаванага Ліцынія, суперніка Кастуся І.

Вось легенда пра Пашыральніка народа (Раваама) згодна з І (ІІІ) Кнігай «Цары»:

**«Цары» (44, 24 і г.д.).**

*«Сорак адзін год было Пашыральніку народа, сыну цара-Міратворцы* (Саламона), *пры яго ўцараванні. Ён валадарыў 17 гадоў у горадзе Сьвятога Замірэння. Імя яго маці было Прыемная (НЭМЕ) із Амона. Богаславячыя ў гэты час раздражнялі бога Грамабоя больш за ўсіх сваіх продкаў: яны ўладкавалі ў сябе вышыні, слупы і дубравы на кожным высокім узгорку, пад кожным цяністым дрэвам. У іх былі распутнікі* (апакаліптычны выраз), *і яны здзяйснялі ўсе брыдоты народаў, якіх Грамабай прагнаў ад твару дзяцей богазмагальніка.*

*«На пятым годзе яго валадарання пайшоў міц-рымскі цар Шушак (ШУШК) на горад Сьвятога Замірэння, забраў скарбы царскага палаца із сядзібы Грамабоя з усімі залатымі шчытамі зробленымі царом-Міратворцам. Замест іх Пашыральнік народа зрабіў медзяныя шчыты, і, калі ён ішоў у храм, бегуны несьлі*

*іх перад ім, а потым вярталі назад у іхны пакой. І была ў яго з «Заступнікам народа» вайна ўсё жыццё.*

*«Ён спачыў са сваімі бацькамі і пахаваны ў Горадзе Ўмілаванага».*

Вось усё, што сказана пра гэтага цэзара ў кнізе «Цары». Пры супастаўленні яго з Ліцыніем мы бачым толькі адну недапасуючую акалічнасць. Згодна з візантыйскімі крыніцамі ён быў родам із Дакіі, адным із вайсковых правадыроў пры Канстанцыі Хлоры, вярхоўным рымскім імператару, а тут зроблены сынам цара-Міратворцы. А Кастусь, наадварот, быўшы, згодна з візантыйскімі крыніцамі, сынам Канстанцыя Хлора, зроблены тут вайсковым правадыром цара-Міратворцы. Ці выпадковая гэтая блытаніна, дзякуючы сугучнасьці імёнаў Раваам і Іе-Раваам? Ці гэта тэндэнцыйнае пераіначванне, каб выключыць Кастуся із радаводу Езуса? Ці не таму дачасна памёр і яго сын, Бацька Бога (Аб-Іе), тады як Ліцынію-Равааму дадзены замест яго такі ж сын «Бацька Бога» (Аб-Іе), які, як пабачым далей, і зроблены бацькам Асы, г.азн. Езуса?

Усё гэта паведамленне, – як я ўжо сказаў, – выкінута аўтарам кнігі «Параліпаменон», і замест яго ён перадае гісторыю Пашыральніка народа ў такіх словах:

*«Пашыральнік народа* (адразу пасьля сваёй неразумнай прамовы перад народам з нагоды «цяжкага ярма яго бацькі») *прыехаў у Горад Умілаванага са 180 000 лепшых ваяроў, каб вярнуць сабе адпаўшыя 10 дзяржаў, але Грамабай сказаў Чуючаму Бога (ШМЕ-ІЕУ), боскаму пасланніку:*

*«– Паведамі, каб кожны вярнуўся ў сваю сядзібу, таму што гэта зроблена мной.*

*«Яны паслухаліся і вярнуліся із паходу, а Пашыральнік народа пасяліўся ў горадзе Сьвятога Замірэння. Ёнператварыў ва ўмацаванні і іншыя богаслявячыя гарады, начыніў іх, прызначыў ім кіраўнікоў, наладзіў склады хлеба, аліўкавага масла і віна, шчытоў і дзідаў. За ім засталіся богаслявячыя і бэн-імінаўцы, а дыяканы (лявіты) пакідалі свае гарадзкія прадмесьці і ўладанні* (у іншых абласьцях) *і збіраліся да яго ад усіх межаў, бо «Заступнік народа»* (Кастусь І) *адлучыў іх ад сьвятарства, а ўслед за імі пераходзілі да яго і ўсе, якія пасьвяцілі свае сэрца таму, каб знайсьці бога богазмагальнікаў»* (11, 16).

*«Ён меў 18 жонак і 60 наложніц і ад іх 28 сыноў і 60 дачок. Ён прызначыў над імі князем Аб-Ію* (г.азн. Бацьку Будучага бога), *сына «Уціскаемай»* (цэрквы), *каб потым і ўцараваць яго» (ІІ Параліпаменон, 11, 22).*

Вось і ўсё пра Пашыральніка Народа із другой кнігі «Параліпаменон». А ў кнізе «Цары» ні пра якія гэтыя пабудовы умацаваняў Пашыральнікам народа няма ніводнага слова і невядома, адкуль пра іх даведаўся пазьнейшы аўтар «Параліпаменона».

Далей жа, у апошняй кнізе, ідзе такое апавяданне, пра якое ў кнізе «Цары» І (ІІІ), 14, 25 (як мы толькі-што бачылі) згадваецца толькі мімаходзь у некалькіх радках.

**ІІ Кн. Параліпаменан, 12, 2.**

*«На пятым годзе валадарання Пашыральніка Народа пайшоў міц-рымскі цар Шышак (ШІШК) на горад Сьвятога Замірэння з 1200 калясніц і 60 000 вершнікаў, набраных із Міц-Рыма, Лівіі (ЛУВ), Кія (КІ) і Куша (КУШ).*

*«Прарок «Слухаючы Бога» прыйшоў да Пашыральніка народа і богаслявячых князёў і сказаў:*

*«– Грамабай паведамляе: за тое, што вы пакінулі мяне, я аддаю вас Шышаку.*

*«Князі багазмагальніцкія змірыліся і сказалі:*

*«– Справядлівы Грамабой.*

*«А Грамабай адказаў на гэта свайму «Слухаючаму»:*

*«– За тое, што яны змірыліся, я хутка дам ім Збаўцу. А зараз яны будуць служкамі Шышака, каб ведалі, як служыць адразу і мне, і зямным уладам.*

*«І забраў Шышак скарбы царскай сядзібы і залатыя шчыты, пастаўленыя царом-Міратворцам у Сядзібе Грамабоя, а Пашыральнік народа зрабіў замест іх медзяныя шчыты. І адхіліўся ад яго гнеў Грамабоя. Яму быў 41 год, калі ён запанаваў, а валадарыў ён 17 гадоў.*

*«Яго здзяйсненні ад пачатку да канца апісаны ў запісах прарока Слухаючы Бога і празарліўца Сведкі (ЭДУ)».*

Хто ж такі гэты прарок «Слухаючы Бога»?

Яго імя пішацца ШМЕ-ІЕ і ўяўляе сабой, відавочна, тое ж, што і ШМУ-АЛ, г.азн. Самуіл па-грэцку, таму што і ІЕ і АЛ пазначаюць адно і тое ж: бог, і ўсё гэта разам азначае: слухаючы бога (ці сьцяг бога), ды і імя Сымон (ШМЕ-ОН) уяўляе сбой тое ж самае. Адносна Самуіла я ўжо паказваў, што ён з’яўляецца легендарызаваным Арыем (дублікат Арона кнігі Сыход), а таму мы можам сказаць тое ж і пра Сымона. А для міц-рымскага (г.азн. рымскага) цара Шышака (значэнне імя незразумела) у нас няма іншага выбару, акрамя Максенцыя, тагачаснага ўладара Рыма.

Пяройдзем зараз да другога пакалення ўяўных спадчыннікаў мудрага цара-Міратворцы (Саламона), а на самай справе яго продкаў, бо ён налягае больш усяго на самага Хрыста.

* * *

Назва другога (згодна з часам) князя багаслвячых – вельмі дзіўнае: Бацька бога Грамабоя (АБ-ІЕ)! Што гэта азначае?

Калі бог Грамабай быў евангельскім Езусам, то гэта быў бы яго бацька, евангельскі Ёсіф (ІУСФ), імя якога, калі верыць звычайным перакладам тэолагаў, азначае памнажэнне[297] і наводзіць матэматыка на думку, што гэта спачатку было найменне чалавека адкрыўшага табліцу памнажэння, таму што тлумачэнне аднаго із рэдактараў кнігі «Быццё», быццам бы падобнае імя было дадзена яму яго маці Авечкай (Рахіллю), якая чакала пры яго нараджэнні, што бог дадасць (ІСФ) ёй яшчэ новага сына (Быццё, 30, 24), не вытрымлівае, вядома, ніякай крытыкі. Ва ўсякім разе, значэнне імя Ёсіф на біблейскай мове (дадаваць) блізкае да значэння імя Раваам (пашыральнік народа). Але я ўжо згадваў, што імя Ёсіф можа быць перакладзена і як «Чарка Грамабоя» ці «Кратар Грамабоя». З нагоды важнасьці другога цара багаслвячых для нашага дасьледавання, разгледзім таксама паралельна адна другой дзьве першакрыніцы пра яго: біблейскую кнігу «Цары» і перапрацаваны выпіс із яе ў кнізе «Забытыя Здзяйсненні» (па-грэцку «Параліпаменон»).

| **І Кніга «Цары» (гл. 15).** | **ІІ Кніга Параліпаменон (гл. 13).** |
|---|---|
| *На 18-м годзе валадарання над богазмагальнікамі Заступніка народа* (Кастуся І), *сына Прарока, запанаваў над багаслвячымі Бацька бога Грамабоя* (АБ- | *На 19-м годзе валадарання* (над богазмагальнікамі) *Заступніка народа* (Кастуся І) *запанаваў над багаслвячымі Бацька бога Грамабоя* (АБ-ІЯ). *Тры гады ён* |

[297] יוסף (ІУСФ) звычайна выводзіцца ад יסף (ІСФ) – памнажаць.

| | |
|---|---|
| ІЯ). *Тры гады ён валадарыў у горадзе Сьвятога Замірэння, а імя яг маці Уціскаемая Царква* (МЭКЕ), *дачка Бацькі Заспакаення* (АБІ-ШЛУМ). | *валадарыў у горадзе Сьвятога Замірэння, а імя яго маці богападобная* (МІК-ІЕУ), *дачка Полымя боскага з Гары* (БТАУРІ-АЛ МЗ-ГБЭЕ). |
| *Ён падзяляў ўсе памылкі свайго бацькі, і сэрца яго не было аддана Грамабою, яго богу. Але дзякуючы Ўмілаванаму цару, яго бацьку, бог даў яму сьвяцільню ў горадзе Сьвятога Замірэння ў асобе яго сына (Асы-Езуса), заваладарыўшая пасьля яго і ўмацаваўшага гэты горад.*<br>*І была варожасць паміж Бацькам бога Грамабоя і Заступнікам народа на працягу ўсяго іх часу.* | *Гэтае месца адсутнічае ў «Параліпаменоне», ці яго цалкам не было і ў кнізе «Цары», калі із яе капіяваўся «Параліпаменон».* |

У кнізе «Параліпаменон» паведамляюцца і пазней прыдуманыя падрабязнасьці гэтай варожасьці, якіх няма ў кнізе «Цары»:

*«Бацька бога Грамабоя» вывеў адважнае войска із 400 000 лепшых людзей, а Заступнік народа* (Ераваам-Кастусь) *выступіў супраць яго з 800 000 лепшых, адважных люзей. Першы размясьціўся на вяршыні Гары Кімбраў* (ЦМРІМ), *аднай із Аф-Рымскіх гор, і сказаў* (хаця наўрад ці амаль мільён чалавек пад гарай мелі магчымасць пачуць хаця б адно яго слова, калі будзем глядзець на справу з рэалістычнага боку гледжання):

*«– Паслухайце мяне, Заступнік Народа і ўсе богазмагальнікі! Хіба вы не ведаеце, што бог Грамабай даў царства богазмагальнікаў Умілаванаму цару і яго нашчадкам згодна з запаветам солі* (евангельскае «вы соль зямлі»)? *Ці не вы прагналі сьвятароў Грамабоя, дзяцей Арона (Арыя) і лявітаў і пастаўляеце зараз у сябе, як і народы іншых земляў, сьвятарамі вашым не-багам кожнага прыходзячага з Цяльцом і з сямю Авенамі... Не ваюйце ж з Грамабоем, богам вашых бацькаў, таму што не здабудзеце посьпеху!*

*«А тым часам «Заступнік народа» выправіў адзін атрад яму ў тыл. Багаславячыя азірнуліся, і вось, ім бітва і спераду, і ззаду! Яны заклікалі да Грамабоя, а іхныя сьвятары затрубілі ў трубы... І адразу пабеглі богазмагальнікі ад багаславячых, і ўпала ў іх забітымі 500 000* (так!) *лепшых людзей... Бацька Грамабоя пераследаваў Заступніка народа, забраў у яго боскую Сядзібу* (БІТ-АЛ), *Стары Горад* (ІШНЕ-Чывіта-Векіа, гавань горада Рыма) *і Эфрон (ЭФРУН), з належачымі ім мясцовасьцямі. І ўжо не набіраў магутнасьці Заступнік народа ў дні Бацькі бога Грамабоя. А гэты ўзмацняўся, узяў сабе 14 жонак, і нарадзіліся яму ад іх 22 сыны і 16 дочак.*

*«Іншыя яго справы, з падзеямі і выказваннямі, апісаны ў паданні прарока Эды»*. (Такога падання не існуе.)

Нічога падобнага няма ў кнізе «Цары», і адзінства тэкстаў абедзьвюх кніг аднаўляецца толькі пры самым заканчэнні гэтай часткі славамі:

| | |
|---|---|
| *«Бацька Грамабоя спачыў са сваімі продкамі і быў пахаваны ў горадзе Ўмілаванага, і запанаваў сын яго Езус* (АСА) *замест яго* (І Цароў, 15, 8). | «Бацька Грамабоя спачыў са сваімі продкамі і быў пахаваны ў горадзе Ўмілаванага, і запанаваў Езус (АСА) замест яго (ІІ Параліпоменон, 13, 23). |

Параўноўваючы гэтыя два апісанні, мы бачым, што да кароткай, праўдападобнай нататкі ў кнізе «Цары» пра «Бацьку Грамабоя», які сам жыў яшчэ ў рэлігійных памылках сваіх продкаў, але якому быў дадзены Свяцільнк у асобе яго

сына Езуса (АСЫ), «Закінутая Кніга» (Параліпаменон па-грэцку), выкінуўшы паведамленне пра Сьвяцільніка, дадала сюды чыста фантастычнае і фізічна немагчымае ў старыя часы апісанне бітвы паміж цэлым мільёнам двумастамі тысячамі (!!!) лепшых ваяроў із богаславячых і богазмагальнікаў, з нагорнай прамовай Бацькі Бога Грамабоя да апошніх, хаця гэтага відавочна немагчыма было зрабіць нават і ў тым выпадку, калі б ён прамаўляў, прыставіўшы да вуснаў рупар, ці карыстаўся сучасным гукаўзмацняльнікам. Усё гэтае апісанне – відавочная фантазія, ці нейкая алегорыя, якую цяжка расшыфраваць, а таму я і не буду засяроджвацца на ёй.

Сутнасць жа справы ў тым, што «Бацька бога Грамабоя», у адзінай праўдападобнай характарыстыцы яго ў кнізе «Цары», названы потым і Бацькам Сьвяцільніка, што паказвае, што гэты Сьвяцільнік і лічыўся богам Грамабоем і евангельскім Хрыстом, бо храналагічна налягае на яго. Пяройдзем жа проста да яго, таксама параўноўваючы яго біяграфію грунуючыся на абедзвюх нашых першакрыніцах, радок за радком.

Паданне пра цара Асу (Езуса).

| **I (III) Кніга «Цары» (гл. 15, 8).** | **II Кніга Параліпаменон, гл. 13, заканчэне.** |
|---|---|
| *Спачыў Бацька Грамабоя з бацькамі сваімі, і пахавалі яго ў горадзе Ўмілаванага.* | *Спачыў бацька Грамабоя з бацькамі сваімі, і пахавалі яго ў горадзе Ўмілаванага.* |
| *І запанаваў цар Лекар (Аса-Езус), сын яго, замест яго.* | *І запанаваў цар Лекар (Аса-Езус), сын яго, замест яго.* |
| *На 20-ы год Заступніка народа* (Кастуся I) *багазмагальніцкага цара запанаваў Лекар над богаславячымі і 41 год валадарыў у горадзе Сьвятога Замірэння. Імя маці яго было Ўціскаемая* (царква) (МЭКЕ), *дачка Бацькі Заспакаення* (Авесалома). | *Пад ча яго дзён была спакойнай краіна дзесяць гадоў.* |

Але Кастусь I быў абвешчаны «Аўгустам» хутка пасьля сьмерці Канстанцыя Хлора (біблейскага Саламона) у 306 годзе. Цар Лекар – згодна з гэтай храналогіяй – нарадзіўся на яго 20-м годзе, г.азн. у 326-м, і валадарыў 41 год, г.азн. да 368 года, калі мы і вылічылі час слупавання евангельскага Хрыста грунтуючыся на месяцовым зацьменні 21 сакавіка 368 года[298]. Як бачыць сам чытач, тут абсалютнае пагадненне дат, і, акрамя таго, выходзіць, што да часу слупавання «Хрысту» было 42 гады, а да часу сьмерці Кастуся I у 337 годзе толькі 11 гадоў. А легенда пра загад цара Героя (Ірад па-грэцку) абрэзаць усіх немаўлят мужчынскай стаці, пераіначаны ў загад іх зарэзаць, магла ўзнікнуць дзякуючы рэчаіснаму загаду здзейсніць звычай абразання пасьля тлумачэння новага месяцовага зацьмення каля дзетароднага органа Вадаліва 12 жніўня 333 года, калі будучаму цару Лекару было сем гадоў. Зацьменне ж было добра бачным ў Італіі адразу пасьля заходу сонца і ўзыходу месяца ў поўнай фазе, а ў Грэцыі і Ягіпце хутка пасьля яго наступлення, калі месяц узышоў у Вадаліву ўжо абрэзаным.

Мы бачым, што храналагічнае супадзенне тут атрымоўваецца не толькі ў агульным, але і ва ўсіх дэталях, а таму і тоеснасць Асы і Езуса, а таксама Асы і Васы (Васіля Вялікага), з'яўляецца несумнеўнай.

Працягнем жа і далей наша супастаўленне паданняў пра яго ў двух нашых першакрыніцах.

---

[298] «Хрыстос». Першая кніга. Частка I, гл. III.

| I (III) Кніга «Цары» (гл. 15, 11). | I Кніга Параліпаменон, 14: 2. |
|---|---|
| Цар Лекар рабіў добрае і прыемнае для вачэй Грамабоя, як і Ўмілаваны, яго бацька. | Цар Лекар рабіў добрае і прыемнае для вачэй Грамабоя, свайго бога. |
| | Ён знішчыў ахвярнікі чужым богам і адхіліў вышыні, пабіў статуі, пасёк сьвятыя дрэвы і загадаў богаславячым шукаць толькі літасьці Грамабоя, бога сваіх бацькаў і выконваць яго законы і запаветы. |
| Ён выгнаў блудадзяў із краіны, выдаліў усіх стодаў, якіх зрабілі яго бацькі. | Ён адхіліў ва ўсіх богаславячых гарадах вышыні і слупы сонца. |

Пасьля гэтага паралелізм абедзьвюх кніг перарываецца. Нічога із павядамляемага пра Асу-Езуса далей няма ў кнізе «Цары». Усё гэта пазней дададзена аўтарам кнігі «Параліпаменон»:

### I Кніга Параліпаменон (гл. 14).

*«І сказаў цар Лекар богаславячым:*

*«– Пабудуем умацаваныя гарады і абнясём іх сьценамі з вежамі, брамамі і засоўкамі. Краіна яшчэ наша, таму што мы знайшлі сабе бога – Грамабоя, і ён даў нам супакай з усіх бакоў.*

*«У яго было ўзброеных вялікімі шчытамі і дзідамі із богаславячых (паўднёва-італьянцаў) 300 000 і із бэн-імінаўцаў (сіцылійцаў) 280 000, усё людзі адважныя, страляўшыя із лука.*

*«Супраць іх выйшаў Ззяючы (ЗРХ*[299]*)із Афрыкі* (Куша) *з войскам у мільён* (!) *людзей і 300 калясніц і дайшоў да Валадара Полымя* (МРАШЕ=МРА-АШЕ). *Цар Лекар узмаліўся Грамабою, свайму богу:*

*«– Грамабой! Ці не ў тваёй уладзе дапамагчы моцнаму ці нямогламу? Дапамажы ж нам, Грамабой, наш бог, таму што мы абапіраемся на цябе і дзеля твайго імя пайшлі супраць такой процьмы! Грамабой! Ты наш бог! Ды не пераадолее цябе чалавек!*

*«І вось, Грамабай уразіў афрыканцаў (КУШЫМ) перад яго тварам і перад тварам богаславячых. Яны пабеглі, і цар Лекар разам з быўшым пры ім народам пераследаваў іх да Гера (ГРР), і падалі афрыканцы, так што нікога жывога не засталося ад іх, таму што іх забіваў сам Грамабай і яго нябеснае ваярства. І ўсе гарады вакол Гера былі уражаны, таму што Грамабай навёў на іх жах.*

*«Ваяры цара Лекара абрабавалі іх усіх і набылі шмат здабычы. Яны спустошылі таксама буданы іхных пастухоў і прыгналі да сябе ў горад Сьвятога Замірэння вялікую колькасць дробнага быдла і вярблюдаў».*

### II Параліпаменон (гл. 15).

*«Тады сышло натхненне ад Грамабоя на Памагатага Грамабоя, сына Зацверджанага. Ён выйшаў насустрач цару Лекару я сказаў яму:*

*«– Слухай мяне, цар Лекар, і ўсе богаславячыя, і бэн-імінаўцы: Грамабай з вамі, пакуль вы із ім... Шмат будзе дзён у богазмагальнікаў без праўдзівага бога, і без навучаючага сьвятарста і без закона... У тыя дні не будзе міру ні ўваходзячаму, ні выходзячаму, таму што будуць вялікія хваляванні ва ўсіх жыхароў зямлі. Будзе ваяваць народ з народам і горад з горадам, таму што багі (АЛЕІМ) прывядуць іх у замяшанне рознымі бедствамі. Але вы ўзмацняйцеся і хай не саслабеюць вашы рукі, таму што будзе ўзнагарода за вашы справы».*

---

[299] Ягіптолагі лічаць яго за Азор-Хана, г.азн. Ашура-цара, наступніка міц-рымскага Шышака.

Так як сучасны навуковец не можа дапусьціць здзяйсненне падобных прароцтваў, то із гэтага атрымліваецца толькі такая выснова: усе гэтыя месцы напісаны вельмі позна. Яны дададзены аўтарам «Параліпаменона» ад сябе не раней заканчэння сярэдніх стагоддзяў.

**II Параліпаменон (гл. 15).**

*«Цар Лекар чуў гэтае прадказанне Зацверджанага (ЭДД) і выверг брыдоты із усёй зямлі богаславячых і із зямлі бэн-імінаўцаў* (Паўднёвай Італіі і Сіцыліі) *і із гарадоў, узятых ім у гарах Аф-Рыма, і абнавіў ахвярнік Грамабоя перад яго бабінцам.*

*«Ён а'яднаў з богаславячымі і бэн-імінаўцамі таксама аф-рымлянаў* (паўночных італьянцаў), *манасійцаў* (ламбардцаў*) і сымонаўцаў* (арабаў), *таму што яны ў вялікай колькасьці перайшлі да яго ад багазмагальніцтва, калі пабачылі, што Грамабай з ім.*

*«Яны* (г.азн. іхныя пілігрымы) *сабраліся ў горадзе Сьвятога Замірэння ў трэцім месяцы* (г.азн. у верасні, калі лічыць ад Ясляў Хрыста ў сузор'і Рака)*, у пятнаццатым годзе валадарання цара Лекара і прынесьлі ахвяры Грамабою з прыведзенай імі здабычы: сем соцень буйнага і сем тысяч дробнага быдла, і далі аброк служыць богу Грамабою, богу сваіх бацькаў, ад усяго сэрца і ад шчырай душы.*

*«– Кожны, хто не зробіць гэтага, ды памрэ, будзь ён вялікі ці малы, мужчына ці жанчына! – кляліся ўсе голасна, з крыкамі і гукамі труб і рагоў.*

*«І радаваліся ўсе богаславячыя гэтай клятве, таму што з усім сэрцам шукалі яны бога Грамабоя, і ён дазволіў ім сябе знайсьці. І даў ён ім супакай ад усіх суседзяў».*

Тут заканчваецца ўстаўка ў «Параліпаменон» і зноў пачынаецца літаральнае спісванне із кнігі «Цары».

| **I (III) Цары, гл. 15, ст. 13.** | **II Параліпаменон, гл. 15, ст. 13.** |
|---|---|
| *І нават сваю маці Мэку* (г.азн. уціскаемую царкву) *пазбавіў цар Лекар звання царыцы* (дзяржаўнай царквы) *за тое, што яна прыгатавала балвана для дубравы.* | *І нават Мэку* (г.азн. уціскаемую царкву), *сваю маці, пазбавіў цар Лекар звання царыцы* (дзяржаўнай царквы) *за тое, што яна прыгатавала балван для дубравы.* |
| *Ён пасек яе балвана і спаліў каля Чорнай ракі.* | *Ён пасек яе балвана, пакалоў яго на кавалкі і спаліў каля Чорнай ракі.* |
| *Вышыні ж не былі зьнішчаны пры цару Лекару, хаця сэрца яго было адданым Грамабою на працягу ўсіх яго дзён. Ён прынёс у яго храм рэчы, прысвечаныя яго бацькам, і рэчы, прысвечаныя ім самім: срэбра, золата і пасудзіны.* | *Вышыні ж не былі пры ім зьнішчаны ў богазмагальнікаў, але сэрца цара Лекара было аддана Грамабою. Ён прынёс у яго храм рэчы, прысьвечаныя яго бацькам, і рэчы, прысвечаныя ім самім: срэбра, золата і пасудзіны.* |
| *І была вайна паміж царом Лекарам і Васай, багазмагальніцкім царом, ва ўсе дні іхнага жыцця.* | *І не было ніякай вайны да 35-года валадарання цара Лекара.* |
| **I (III) Цары, гл. 15, ст. 17.** | **II Параліпаменон, гл. 16, ст. 1.** |
| *Васа* (грэцкае імя Васілеўс – цар), *цар богазмагальнікаў, пайшоў супраць богаславячых і пачаў умацоўваць Рому* (РМЕ, г.азн. горад Рым), *каб не хадзілі да цара Лекара* (да падэшвы Вязувія) *і не сыходзілі ад яго. Цар Лекар узяў усё золата і срэбра са скарбніц храма бога Грамабоя і* | *У 36-ы год валадарання цара Лекара Васа* (грэцкае імя Васілеўс – цар), *цар богазмагальнікаў пайшоў супраць богаславячых і пачаў умацоўваць Рому* (РМЕ, г.азн. горад Рым), *каб не хадзілі да цара Лекару* (да падэшвы Вязувія) *і не сыходзілі ад яго. Цар Лекар вынес усё* |

| | |
|---|---|
| *са свайго палаца і паслаў іх да сына Клічу, сына Высакароднага (ТБР-МІН), сына Прароцтва (ХЗІУН), горскаму* (цірольскаму) *валадару, які жыў у Дымешку, кажучы:* | *золата і срэбра са скарбніц храма бога Грамабоя і са свайго палаца і паслаў іх да Сына Клічу* (БН-ЕДД), *горскаму* (цірольскаму) *валадару, які жыў у Дар-Мешку, кажучы:* |
| *«– Ды будзе хаўрус паміж мнай і табай і паміж бацькамі* (нябожчыцамі?!) *нашымі. Скасуй свай хаўрус з багазмагальніцкім царом»* (каб ён перастаў умацоўваць Рым). | *«– Ды будзе хаўрус паміж мнай і табай і паміж бацькамі* (?!) *нашымі. Скасуй твой хаўрус з багазмагальніцкім царом»* (каб ён перастаў умацоўваць Рым). |
| *Сын Клічу паслухаўся яго і выправіў сваё вайска супраць багазмагальніцкіх гарадоў. Яны захапілі Эйан, Дан* (дунайскія землі славянаў) *і Струмень сядзібы Ціскоў* (Абел-Біт-Мэкс) *і ўсю лагавіну (КНРУТ) у Наўталінскай* (французкай) *зямлі. Калі Васа пачуў пра гэта, ён быў вымушаны спыніць сваё ўмацаванне Рыма і застаўся ў Турцы (Канстантынопалі?), а багаславячыя, сабраўшыяся згодна з загадам цара Лекара, вынесьлі із Рыма камяні і бярвёны і пабудавалі із іх Узгорак Бэн-імінавы і Вартаўнічую вежу (МЦФЕ).* | *Сын Клічу паслухаўся яго і выправіў сваё вайска супраць багазмагальніцкіх гарадоў. Яны захапілі Эйон, Дан* (дунайскія землі славянаў) *і Абел-Мім* (Струмень Вады) *і ўсе запасы ў Нафталінскіх* (французкіх) *гарадах. Калі Вааса пачуў пра гэта, ён быў вымушаны спыніць свае захады, а багаславячыя, сабраўшыся згодна з загадам цара Лекара, вывезлі із Рыма камяні і бярвёны і пабудавалі із іх Узгорак (ГБЭ) і Дазорную вежу (МЦФЕ).* |
| *Пра Празарліўца Дабрадзея няма ў «Кнізе Цары» ні слова.* | *Але Празарлівец Дабрадзей (ХННІ) прыйшоў да Асы і сказаў яму: «– Так як ты паспадзяваўся на горскага цара, а не на Грамабоя, твайго бога, то выратавалася яго войска ад тваёй рукі. Ці не былі Кушыты (КУШІМ) і Лівійцы (ЛУ-ВІМ) больш мацнымі калясьніцамі і шматлікімі вершнікамі? Але Грамабай аддаў іх у твае рукі, таму што ты спадзяваўся на яго. Яго вочы аглядаюць усю зямлю, каб падтрымліваць тых, чыё сэрца цалкам яму аддана, а ты тут зрабіў неразважліва. За гэта зараз будзе ў цябе вайна». Цар Лекар раззлаваўся на яго і заняволіў у вязніцу, як і некаторых іншых у тай час.* |
| *Усе іншыя здзяйсненні і ўсе учынкі яго, і гарады, якія ён пабудаваў, апісаны ў летапіснай кнізе богаславячых цароў. У старасьці ў яго хварэлі ногі. І спачыў цар Лекар са сваімі бацькамі.* | *Першыя і апошнія яго здзяйсненні апісаны ў кнізе цароў багазмагальніцкіх і богаславячых. У яго моцна захварэлі ногі на 39-м годзе яго валадарання. Але ў хваробе сваёй ён спадзяваўся не на Грамабоя, а на лекараў* і (таму*) памёр на 41-м годзе свайго валадарання.* |
| *Ён быў пахаваны ў Горадзе Ўмілаванага* (І Ц., 15, 24). | *Ён быў пахаваны ў магільнях, згатаваных ім для сябе ў Горадзе Ўмілаванага. Яго паклалі там на ложак, напоўнены водарамі і рознымі майстэрскімі мазямі, і спалілі для яго вялікую колькасць фіміямаў.* |

Вось і ўсё, што мы маем пра цара Лекара і яго продкаў у біблейскай кнізе «Цары» і ў тэндэнцыйна пашыраным у адных месцах, а ў іншых тэндэнцыйна скарочаным выкладанні тога ж самага прадмета ў кнізе, маючай назву па-грэцку

Параліпаменон, г.азн. Забытыя Справы (ці прыморскія апавяданні), а па-жыдоўску ДБРІ-Е-ІМІМ, г.азн. словы дзённыя ці словы марскія.

Я ўжо паказваў раней, што гэты «Параліпаменон» не з’яўляецца самастойным творам, а плагіятны выпіс із розных іншых біблейскіх кніг і, галоўным чынам, із кнігі «Цары». І толькі-што зробленае супастаўленне яе тэксту з тэкстам апошняй кнігі яшчэ раз навочна паказвае праўдзіасць маёй высновы.

Чытач бачыць сам, што ўсе маючыяся тут храналагічныя даты накладаюць біблейскага цара Лекара (Асу) на Вялікага Цара праваслаўных святцаў (Васіля Вялікага), а з ім і на евангельскага Лекара. Апошнія радкі гэтага апавяданна даводяць справу да самога 21 сакавіка 368 года, калі адбылося, згодна з маім вылічэннем[300], слупаванне Васіля Вялікага, але тут паведамляецца, што ў гэты час ён проста «спачыў і быў пахаваны ў Горадзе Ўмілаванага на ложку, напоўненым водарамі і мазямі, і ў гонар яго спалілі шмат фіміямаў».

Нічога падобнага не паведамляецца пра сьмерць іншых спадкаемцаў «Пашыральніка народа». Пра тое, што ён памёр толькі таму, што пры сваёй хваробе звяртаўся да лекараў, а не да бога Грамабоя, таксама нічога не гаворыцца ў кнізе «Цары», а толькі ў «Параліпаменоне», плагіiруючым яе частку.

Агульная ж выснова із усяго вышэйсказанага такая.

Евангельскі Хрыстос ці, дакладней, Вялікі Цар (Васіль Вялікі), Чэцці-Мінеяў, пададзены тут у выглядзе сапраўднага цара, сталіцай якога быў горад Сьвятога Замірэння, г.азн. Пампея каля падэшвы Вязувія, якому дапамагаў сам бог Грамабой, калі ён заклікаў яго на дапамогу, але меўшы таксама і сваё зямное войска і пасьпяхова ваяваўшы з іншымі царамі, нават і не звяртаючыся да Грамабоя, падобна біблейскаму Езусу, спыніўшаму сонца.

Наколькі гэтая варыяцыя міфа пра Хрыста праўдападобная?

Мы бачым, што ў ёй шмат відавочна тэндэнцыйнага не толькі ў цудоўных выпадках, але нават і ў апісаннях шматлікасьці яго ўласнага войска, не кажучы ўжо пра колькасць нападаўшага на яго чужазенага войска. Здабываць адсюль жмуткі рэчаіснага так жа цяжка, як аднаўляць сапраўдную гісторыю французкіх каралёў грунтуючыся раманах Дзюма-бацькі.

Тэндэнцыйнасць тут заўважаецца і пры жыццяапісанні яго продкаў: Кастусь І пад імем «Заступніка народа» зроблены не толькі ерасіархам, на што аўтар меў поўнае права са свайго месіянскага боку гледжання, але таксама і выключаны із ліку сыноў Канстанцыя Хлора, і, акрамя таго, некаторыя із перамог апошняга пераробены тут у паразы. Вядома, гэта звычайная манера вайсковых рэляцый да самага апошняга часу ў малакультурных народаў, ды і выключэнне са сваяцтва непрыдатных сыноў практыкавалася не раз у гісторыі.

Возьмем хаця б Зьміцера Самазванца ў Расіі (1605-1606). Чытаючы найбольш безстаронніх дасьледаванні пра яго, напрыклад, у манаграфіі Кастамарава, няцяжка пераканацца, што гэта быў не самазванец, а сапраўдны сын Яна Жахлівага, толькі выпраўлены ў Літву яго маці да князя Адама Вішнявецкага, вялікага змагара за праваслаўе, праз баянь, што Гадуноў яго атруціць. Але справа набыла нечаканы накірунак: закахаўшыся ў жарсную каталічку Марыну Мнішак, ён і сам схіліўся да каталіцызму і да польскай культуры, стаяўшай тады на больш высокай ступені, чым руская. Калі наступіў час вярнуць сабе маскоўскі пасад, то ён сапраўды зрабіў гэта не толькі з дапамогай суправаджаўшых яго із Літвы

[300] Гл. «Хрыстос». Першая кніга, ч. I, гл. III.

самаахвотнікаў, але і дзякуючы спрыянню рускага сьвятарства і выпраўляўшых яго ў Літву вяльможаў, адразу ж прызнаўшых яго сапраўдным царэвічам.

Але нечакана для іх ён выявіўся цалкам не прыдатным ні для рускага сьвятарства, ні для шляхты, і яны, насуперак яго маці, якая ўвесь час цьвердзіла, што ён яе сын, пачалі пашыраць пра яго чуткі, як пра самазванца Грышку Атрэп'ева. Вялікая роля, якую мела сьвятарства ў гэтай справе, і да гэтага часу выяўляецца ў падробленых парэштках «царэвіча Зьміцера», быццам бы забітага яго таварышамі ў Вуглічы, і ў штогадовай анафеме яго ўяўным забойцам, абвяшчаўшаяся паўсюль у Расіі 15 лютага на «сьвяце праваслаўя», каб заглушыць якія б то ні было размовы пра тое, што ў Маскве дзякуючы падбухторванню баяраў і сьвятарства ў 1606 годзе быў забіты (калі ён жа не быў і Тушынскім злодзеем) «спадкаеца рускага пасада».

Само сабай зразумела, што кожнае слова пра тое, што ў рэчаіснасьці быў забіты сапраўдны Зьміцер, а Ілжэ-Зьміцер ляжыць у вуглічскіх парэштках, пасьля гэтага набыло выгляд паўстання супраць праваслаўнай царквы, і на працягу ўсяго перыяду самаўладдзя ніхто із рускіх гісторыкаў не адважваўся публічна выказаць гэтае падазрэнне ў катэгарычнай форме.

А пашырыўшаяся ў народзе ілжывая ідэя, што нейкі Грышка Атрэп'еў мог быць прызнаны баярамі і сьвятарствам сталіцы за сапраўднага цара і два гады сядзець на маскоўскім пасадзе, адразу ж мела наступствам з’яўленне пераймальнікаў. «Калі ён змог сесьці на пасад, дык чаму б не сесьці і мне?» – думалі дзейныя асобы. Самазванцы пачалі множыцца як грыбы, аж да самага Ямяльяна Пугачова, але, вядома, іх ужо не прызнавалі ні баяры, ні сьвятарства, і яны нічога не дамагаліся, акрамя эшафота, нягледзячы на ўзброеную дапамогу спачуваўшых ім пластоў насельніцтва, якім яны абяцалі розныя палёгкі.

І вось, у параўнанні з гэтай эпапеяй палітыка-рэлігійнай хлусні і гістарычных апперцепцый, якімі нікчэмнымі здаюцца тыя пераіначванні, якія мы толькі-што бачылі ў паданнях іншаверца пра цара Асу і яго продкаў!

Гэта павінна быць адно із самых праўдападобных апавяданняў пра «Вялікага Цара», але і за яго мы не можам ручацца: не ўсё праўдападобнае – праўда. А астатнія апавяданні пра яго ўжо цалкам няпраўдападобныя, і іх даводзіцца даследаваць зараз не для таго, каб аднавіць сапраўднае маральнае і фізічнае аблічча чалавека, да якога яны дапасаюцца, а толькі каб высветліць, як гэтыя апавяданні самі маглі ўнікнуць.

Старажытная і сярэдняя рэлігійна-палітычная гісторыя еўрапейскіх народаў, ды і ўсяго астатняга чалавецтва, не будзе сур'ёзнай навукай да той пары, пакуль за крытычнае даследаванне яе першакрыніц і іхных дэрыватаў не далучацца не толькі астраномы і геафізікі, як я спрабаваў паказаць у двух папярэднічаўшых кнігах, але і філолагі-тэарэтыкі і псіхолагі, а разам із імі і лекары-псіхіятры.

# Частка чацьвёртая

## Евангельскі Хрыстос.

### Хрысціянскія аперцэпцыі асобы і дзейнасьці заснавальніка хрысьціянскага набажэнства і першыя спробы сентыментальнага рамана



Мал. 63

*Лекар Езус лякуе сьляпога. Евангельскае апавяданне ў аперцэпцыі сучаснага мастака. Із кнігі Les saints evangiles, aves les dessins de M. Bida*

# Глава I.

## Рэчаіснае і прывіднае ў нашых уяўленнях пра сябе і пра іншых.

Хто із нас не цікавіўся ў свай час тымі дзіўнымі ўплывамі лекараў псіхатэрапеўтаў на пацыентаў, якія паддаюцца, – як прынята выказвацца, – «наданню».

Вось, напрыклад, да такога лекара прыводзяць шаснаццацігадовую адукаваную дзяўчыну, якая пакутуе кантрактурай шыі, галава якай цэлых паўгода была шчыльна прыціснута курчай да левага пляча. Лекар усыпляе яе, просячы пільна глядзець на яго ланцэтны футляр, які ён трымае над яе лобам на адлегласьці лакця даўжынёй[301]. Яе вейкі пасьля некалькіх хвілін зачыняюцца з дрыгаценнем,

[301] Preier. Observations on the nature and treatment of certain forms of paralysis. 1855, p. 240.

такім характэрным пры пераходзе да гіпнатычнага стану, і, калі ён надыходзіць, ён злёгку пацірае скуру на процілеглай частцы шыі, каб выклікаць дзеянне адпаведных мязаў. Яе шыя разгінаецца вольна. Ён будзіць яе лёгкім штуршком, і яна прачынаецца цалкам здаровай.

Гэта дзіва, зараз – не дзіва... А што б сказалі евангелісты, калі б падобнае зрабіў іхны «Хрыстос»?

Вось іншая дзяўчына, якая страціла зрок пасьля таго, як яе стукнула па галаве паваленае бервяно... Яна пачынае зноў добра бачыць пасьля некалькіх сеансаў у лекара псіха-тэрапеўта.

Вось «глухая (быццам бы) ад нараджэння» дзевяцігадовая дзяўчынка пасьля некалькіх сеансаў паддаецца гіпнозу і раптам пачынае чуць адну ці дзьве сярэднія актавы музычных гукаў і набывае магчымасць вымаўлення[302].

Дык чаму ж лічыць дзівам гэтае ж самае, калі яго зрабіў: евангельскі настаўнік? Гіпноз жа практыкаваўся з даўняй пары.

Вось маці шматлікага сямейства, пасьля таго, як развіталася з целам сваёй памёршай сяброўкі, ўжо знаходзіўшайся ў стане гніення, не можа пазбавіцца ад трупнага паху, які паўсюль яе пераследуе на працягу года і двух месяцаў, як неадчэпны нячысты дух, наяўнасць якога адчувае толькі яна адна. Лекар псіха-тэрапеўт за некалькі хвілін вызваляе яе ад яго і надае ёй, што яна адчувае самыя лепшыя водары[303]. І яна ўсё гэта адчувае шмат дзён пасьля гэтага... Але ж гэта нават больш таго, што рабіў евангельскі чараўнік! Ён толькі выганяў нячыстых (г.зн. смярдзючых)[304] духаў, а не рабіў іх пры гэтым духмянымі!

Калі падобныя галюцынацыі з'яўляюцца ў неадукаванага чалавека, то ніякія намаганні не ў стане пераканаць яго ў іхнай нерэчаіснасьці нават і зараз. Ён зацята працягвае стаяць на сваім меркаванні, перакананы, што над ім смяюцца ці яго жадаюць ашукаць, калі кажуць адваротнае, хаця б яго адчуванні і былі занадта непраўдападобнымі. Гэта асабліва адбываецца са зрокавымі адчуваннямі нападобе таго, як паведамляецца ў евангеллі пра Езуса ходзячага па вадзе (хаця б само апавяданне і было навеяна астралагічным назіраннем месяца, плывучага па сузор'ю Рыб).

Хай, напрыклад, дасьведчаны псіха-эксперыментатар надасць малаадукаванаму слабавольнаму суб'екту, што ён, прачнуўшыся, пабачыць свайго знаёмага носячымся па паветры. Ён са здзіўленнем будзе назіраць, як тай пералятае з месца на месца, і ні за што не паверыць, што тай сядзіць увесь час на канапе і што іншыя гэтага не заўважаюць. Дакладна тое ж бывае і пры слыхавых галюцынацыях, якія ў слабым выглядзе нярэдка бываюць ў кожнага із нас, калі, напрыклад, нам пачуецца, што нас клічуць па імені. А ў некаторых людзей гэта бывае вельмі яскрава.

---

302 Monthly Journal of Medical Science. July 1853.

303 Тамсама, стар. 212.

304 Па-грэцку πνεύματα ἀχαθάρτα – смярдзючае, паганае паветра, газы.



Мал. 64

*Дзяўчынка, слухаючая нячутныя іншымі размовы. Па здымку, зробленаму ў Salperiere. із кнігі P. Regnard: Sorcellerie, Magnetisme, Morphinisme. 1887.*

«Я часта чую галасы, – жаліўся адзін адукаваны і ва ўсім астатнім здаровы пацыент л-ру Леру. – Як яны ўтвараюцца, я не ведаю, але яны для мяне такія ж выразныя, як і ваш уласны голас. І калі я павінен верыць у рэчаіснасць вашых слоў, то павінен верыць у рэчаіснасць і тых, якія даходзяць да майго слыху невядома адкуль». А вось і фатаздымак, дзяўчыны, якая слухае такія ж няіснуючыя галасы (мал. 64).

Усе гэтыя падманы зроку, слыху, густу, нюху і часта нават дотыку могуць быць, як мне здаецца, патлумачаны толькі тым, што ўсьведамляючая вобласць нашага мозгу атрымлівае свае ўражанні не непасрэдна ад органаў успрымання, а заўсёды праз пасярэдніка, які можа яе і падманваць. А так як ўражанні ідуць па нервах непасрэдна ў шэрае рэчыва галаўнога мозгу, тое яно і з’яўляецца неадчувальным перадатчыкам ва ўсьведамляючую вобласць мозгу ўсяго, што б ні рабілася шляхам рэфлексаў, падсьвядома. Але дзе ж гэтая ўсьведамляючая вобласць, якую можна і ашукаць? Навукай гэта яшчэ не вызначана, але, мне здаецца, шляхам выключэння ўсяго астатняга можна пераканацца, што яна – у мазжачку.

Я прызнаю, вядома, ад пачатку да канца ўсё, што паведамляецца ў сучаснай рэфлексалогіі, бо яшчэ гімназістам зачытваўся кнігай Сечанава: «Рэфлексы галаўнога мозгу» і назіраў, дзякуючы таму што жыццё давала магчымасць, за ўсім, што рабілася пазней пасьля ўсталявання мазгавай тапаграфіі для розных рэфлектыўных дзеянняў. Усё, што я тут выказваю новага, гэта толькі тое, што ніводзін рэфлекс не будзе намі ўсьвядомлены і ніводнае дзеянне не будзе ў нас адвольным, пакуль не дасць адгалінаванняў із кары мазгавых паўшар'яў у мазжачок, як адзіную вобласць нашага выразнага ўсьведамлення, а разам з тым і адвольных дзеянняў. І гэтая мая думка не супярэчыць эксперыментальным дадзеным і толькі адно анатамічна тлумачыць падманы нашага ўсьведамлення і прыводзіць псіхалогію і псіха-тэрапеўтыку ў сувязь з анатоміяй і фізіялогіяй галаўнога мозгу.

Вось што паведамляе нам сучасная навука пра ўладкаванне і дзейнасць нашага мозгу. У спінным і даўгаватым мозгу чалавека і хрыбетных жывёл шэрае актыўнае рэчыва з нейронамі размешчана ўсярэдзіне белага рэчыва, якое складаецца, галоўным чынам, із праводзячых токі нярвовых валокнаў, нагадваючых тэлефонныя правады. Сярод гэтых белых правадоў мы знаходзім тут

толькі асобныя вузлавыя злучэнні шэрага рэчыва, утрымліваючыя згуртаванні нярвовых клетачак, функцыяніуючых як рэфлекторныя цэнтры, г.азн. вызываючых міжвольныя абарончыя адказы пры раздражненні таго ці іншага месца цела.

А ў мазжачку і ў паўшар'ях вялікага мозгу шэрае актыўнае рэчыва размешчана не толькі ў выглядзе ўнутраных вузлавых згуртаванняў, але і ў выглядзе суцэльнага пласта (табл. XXXII, фіг. 2) на паверхні белага рэчыва, што напаўняе амаль усё нутро абодвух гэтых органаў і які складаецца са мноства белых нярвовых правадоў, што перакрыжоўваюцца ў паўшар'ях па разнастайных накірунках і злучаюць розныя аддзелы клетачак (мал. 65), якія напаўняюць шэрую кару і малога, і вялікага мозга ў вялізных колькасьцях, ніяк не менш за пяць мільёнаў у павярхоўным пласьце адных мазгавых паўшар'яў.

ТАБЛІЦА XXXII.

Чарапны мозг чалавека.



Фігура. 1

*Галава і шыя ў разрэзе спераду назад.*



Фігура. 3

*Вялікі мозг зверху.*



Фігура. 2

*Галаўны мозг размешчаны ў чэрапе ў вертыкальным разрэзе справа налева.*



Фігура. 4.

*Галаўны мозг знізу.*



Мал. 65
*Пірамідападобныя клеткі кары мазгавых паўшар'яў чалавека (із вобласьці лакалізацыі нюхальных адчуванняў, пры моцным павелічэнні пад мікраскопам).*



Мал.66.
*Нейрон галаўнога мозгу з протаплазматычнымі атажылкамі і з цыліндрычным доўгім атажылкам.*

Кожная із гэтых нярвовых клетак (нейронаў) з'яўляецца вельмі складаным утварэннем. Яна ўяўляе сабай мікраскапічную сукупнасць протаплазматычнага рэчыва, нагадваючага сваім выглядам амёбу і пусціўшага, як і яна, у розныя бакі протаплазматычныя адгалінаванні – дэндрыты, нагадваючыя сваім выглядам дрэвавыя карэньчыкі, а сваімі функцыямі – перакідныя дроцікі тэлефаністак, злучаючыя па меры патрэбы паміж сабай то тыя, то іншыя кнопкі тэлефоннай залы, тады як сама клетка больш за ўсё нагадвае зараджаную кнопку гэтай залы. Толькі адзін із яе атажылкаў вылучаецца паміж іншымі сваёй даўжынёй, таўшчынёй, валакністым уладкаваннем і разгалінаванасьцю і таму мае асобную назву – цыліндрычны атажылак (аксон, мал. 66). А пасярэдзіне протаплазматычнага нейронавага цельца знаходзіцца яшчэ ядро і пасярэдзіне ядра ядзерка, і ўсё гэта аточана мікраскапічнымі зярняткамі, раскіданымі ў сетцы волаконцаў (фібаілей), якія пашыраюцца і ў адгалінаванні.

У ніжэйшых жывёл, нападобе казурак, дэндрыты адных нейронаў, відаць, безперапынна пераходзяць у дэндрыты другіх, абумаўліваючы гэтым прыроджаныя

рэфлексы, а ў вышэйшых жывёл звычайна назіраецца толькі кантакт, што дае магчымасць і раз'яднанне, г.азн. узнікненне разнастайных новых індывідуальных рэфлексаў, у залежнасьці ад практыкавання.

Кожнае нярвовае валакно, ідучае ад вонкавых частак цела да галаўнога ці спіннога мозгу, ці наадварот, мае сваю ізалявальную абалонку, якая ў мазгу замяняецца грунтоўнай тканкай (неўралгіяй), запаўняючай усе прамежкі паміж нярвовымі валокнамі. Нарэшце такое валакно злучаецца з цыліндрычным атажылкам якога-небудзь нейрона, пры чым заўсёды атрымліваюцца два тыпы правадоў: у адных выпадках, калі цыліндрычны атажылак накіраваны да мазгавай кары, ток па нерву ідзе ад перыферыі ўнутр, і такія нервы маюць назву ўзыходзячых, прыносячых успрыманне, а ў іншых выпадках, калі цыліндрычны атажылак накіраваны ад кары мозга, утвараюцца сыходзячыя нервы, прыводзячыя ў рух ці цалкам у стан дзейнасьці адпаведныя органы цела. Але для таго, каб патрэбнае дзеянне наступала адразу пасьля ўспрымання, з кожным такім нейронам злучаны кантактам бакавыя адгалінаванні (калатэралі) асобнага асацыятыўнага нейрона, утвараючы такім спосабам складаны ланцуг. Такіх злучаючых нейронаў, без прадаўжэння цыліндрычных атажылкаў на перыферыю цела, асабліва шмат у самым вонкавым пласьце мазгавай кары, у шэрым рэчыве якога звычайна адрозніваюць шэсць пластоў:

1) нейра-гліяльны пласт, бедны нейронамі, але маючы вельмі шмат спалучаючых валаконцаў, ляжачых на самай паверхні,

2) пласт малых пірамідападобных нейронаў,

3) пласт вялікіх пірамідападобных нейронаў,

4) пласт зярнятак,

5) пласт шматкутных нярвовых клетак і

6) пласт верацёнападобных клетачак.

Але акрамя мазгавай кары нейроны-пасярэднікі, утвараючыя шматстайныя сувязі паміж узыходзячымі і сыходзячымі нярвовымі валокнамі, існуюць і ва ўсіх мясцовых сукупнасьцях шэрага рэчыва і ў – падкоркавых абласьцях галаўнога мозга. Пакінуўшы іх пакуль без увагі, я пазначу толькі, што розныя рэфлексы, як прыроджаныя, незнікаючыя, так і ўмоўныя, набываемыя на працягу жыцця шляхам досьведу і практыкаванняў і слабеючыя без іх, усе лакалізаваны ў кары мазгавых паўшар'яў у цалкам вызначаных абласьцях. Асабліва важнымі для іх вызначэння з'яўляюцца дзьве самыя глыбокія барозны нашых мазгавых паўшар'яў: Сільвіева баразна, якая ідзе пад скронню над вухам спераду назад (мал. 67 пад Hyp.), і Роландова баразна, якая ідзе ад сярэдзіны цемяннай часткі мозгу ў накірунку да вуха, зверху ўніз (мал. 67 пад M. inf.). Непасрэдна пад Сільвіевай баразнай размешчаны асацыяцыйныя моўныя нейроны, злучаючыя ў нас назіраемыя нашымі вонкавымі пачуццямі прадметы (і ўтвараючыяся дзякуючы ім абагульняючыя разуменні) з іхнымі моўнымі сімваламі (мал. 67, Sur. v.), і таму захворванне ці пашкоджванне гэтай вобласьці суправаджаецца зніkненнем магчымасьці размаўляць: чалавек выдатна чуе кожны гук і кожную размову, але яна робіцца для яго такой жа незразумелай, як і цурчанне раўчука. А чытаць і пісаць ён яшчэ не губляе здольнасьці. – Чаму? – Вельмі проста. Нейроны, злучаючыя назіраемыя сімвалы з іхнымі прадметамі, знаходзяцца не тут, а на верхнім баку Сільвіевай барозны, пры самым яе заканчэнні. А таму і чалавек, які набыў звычку чытаць моўчкі, абыходзіцца пры чытанні без ніжняга баку гэтай баразны. Яны для яго ўжо непатрэбны; патрэбна толькі яе задняя частка (Cec. v.). А пашкоджванне пісьмовай

вобласьці суправаджаецца ў яго толькі стратай памяці на значэнне літар: чалавек іх выдатна бачыць, ён і размаўляе, але адразу забываецца, што азначаюць літары альфабэту. Адсюль бачна, якім вялікім з'яўляецца адрозненне шмат чытаючага чалавека ад непісьменнага: у яго да асацыятыўнай працы думкі далучаецца новая вобласць мозгу.




Мал. 67

Лакалізацыі некаторых рэфлекторных цэнтраў у паўшар'ях галаўнога мозгу чалавека.
**Заштрыхаваныя вобласьці:** Sur. v. (Surditas verbalis) – месца, пры пашкоджванні якога ўзнікае моўная глухата: чалавек не губляе слых, але перастае адрозніваць значэнне слоў. Cec. v. (Caecitas verbalis) – месца, пры пашкоджванні якога пісьменны чалавек губляе здольнасць адрозніваць значэнне літар, хаця і добра іх бачыць. Aph. (Aphasia) – месца, пры пашкоджванні якога чалавек губляе здольнасць размаўляць, хаця і не губляе здольнасьці выраблць розныя рухі галасавымі органамі і вымаўляць невыразныя гукі. Agr. (Agraphia) – месца, пры пашкоджванні якога чалавек губляе здольнасць фанетычнага пісання, хаця і не губляе здольнасьці чарціць і маляваць.
**Вобласьці ў абадках без тушавання**. Hyp. (Hypoglossus) – месца, пры пашкоджванні якога чалавек губляе здольнасць рухаць языком (размаўляць і жаваць). M. s. (Membra superiora) – страта здольнасьці рухаць рукамі. M. inf. (Membra inferiora) – тое ж у дачыненні да ног. O. c. – тое ж у дачыненні да вачэй.
Зверху ўніз ад M. inf. знаходзіцца Роландова баразна. Злева направа (пад Hyp.) знаходзіцца Сільвіева баразна. 1, 2, 3 F. – тры лобныя звіліны; 1, 2, 3 T. – тры скроневыя; 1, 2, 3 0. З. – тры патылічныя звіліны. У лобных звілінах – утвараюцца складаныя, каардыніруючыя рэфлексы.

А вось і яшчэ мястэчка маючае блізкае дачыненне да літаратуры, пасярэдзіне верхняй часткі Сільвіевай баразны, пазначанае ў нас на малюнку праз Aph. (г.азн. Aphasia). Тут размешчаны асацыятыўныя нейроны, праводзячыя у нас з дапамогай сваіх протаплазматычных атажылкаў імпульсныя шляхі ад звыклых для нас думак і слоў да мязаў ратавай паражніны, з дапамогай якай мы маем магчымасць аднаўляць іх самастойна. Пры пашкджванні ці хваробе гэтага месца чалавек не

здольны нічога сказаць, хаця і не губляе здольнасьці жаваць і рабіць розныя рухі языком, і ўсё разумее. Але, як ён ні спрабуе вымавіць хоць бы нейкае слова, нічога ў яго не атрымліваецца, акрамя мычання.

Такім з’яўяецца вялізнае значэнне абодвух вонкавых краёў Сільвіевай баразны для чалавека: у яе злучаючых нейронах і іхнай дзейнасьці заключана галоўнае адрозненне чалавека ад не здольных размаўляць жывёл.

Не меншую цікавасць уяўляюць ускраіны і Раландавай баразны, якая ідзе ад цемянной часткі мозгу ўніз да вуха. Пры пашкоджванні яе верхняй часткі знішчаюцца нейроны з дапамогай якіх мы даём імпульсы нагам рухацца так ці інакш, ці непасрэдна пакідаем гэтай вобласьці магчымасць распараджацца ўсёй нашай хадай у тай час, як наша ўвага засяроджана на чым-небудзь іншым. Ніжэй гэтай часткі знаходзяцца нейроны, даючыя імпульсы рукам рабіць нейкую працу, хаця б і несьвядома для нас, як гэта бывае пры аднастайных механічных рухах рук. Яшчэ ніжэй размешчаны нейроны, рухаючыя мязамі нашага твару, а на самым нізе – кіруючыя рухамі нашага языка і сківіц. Усё гэта і паказана ў тлумачальных нататках на мал. 67.

Калі на сятчатцы нашага вока адлюстроўваецца, як у камеры-абскуры, нейкая сьветавая выява, яе нервы перадаюць выяву праз каленападобнае ядро, што знаходзіцца знізу вялікага мозгу, у яго патылічную частку, да размешчанай там дзюбаватай баразны (мал. 67, О. с. і ніжэй акрэсленай вобласьці). Пашкоджанне яе бакоў знішчае рэфлексы на зрокавыя ўспрыманні, так што сабака, у якай выразана гэтая вобласць, «забываецца», як патрэбна абыходзіць сустракаемыя перашкоды, і, нягледзячы на цэласць вока, бяжыць прама на перашкоды ці звальваецца ў абрыў. А чалавек, хаця і не прызнае сябе сляпым і кажа, што бачыць усё, але паказвае рукай на сьвечачыяся прадметы не туды дзе яны знаходзяцца, падае ў ямы і натыкаецца днём на ўсё.

Адсюль зрокавыя імпульсы накіроўваюцца па адпаведных правадах да пярэдняй часткі чатырохузгор'я на ніжнім баку мозгу, дзе знаходзяцца цэнтры, адказваючыя за рухі вока для лепшага агляду рэчаў. А па іншых правадах адтуль жа ідуць імпульсы і ў лобныя звіліны мозгу, дзе зрокавыя ўспрыманні асацыюющца са слыхавымі, накіраванымі ад Сільвіевай баразны; з нюхальнымі, ідучымі із нюхальнай вобласьці каля крукаватай звіліны паблізу пярэдняга канца тай жа Сільвіевай барозны; са смакавымі, ідучымі ад смакавай вобласьці над сярэдняй часткай Сільвіевай барозны, і з дотыкавымі, прыходзячымі ад дотыкавай вобласьці із абодвух краёў усёй Раландавй баразны, і г.д. Гэта азначае, лобная вобласць мазгавых паўшар'яў з'яўляецца крыніцай усіх нашых складаных рэфлексаў на разнастайныя ўплывы атачаючай прыроды. Але і яна, як мы бачым, з’яўляецца толькі складаным механізмам для ўзаемадзеяння нашага цела з атачаючым яго сьветам. Штучныя раздражненні ўсіх апісаных абласьцей мюць вынікам толькі міжвольныя, г.азн. рэфлектыўныя рухі адпавядаючых ім органаў цела.

Выяўляючаяся пры гэтым рухаючая магутнасць вельмі падобна на электрамагнітную, і на свежых трупах можа быць заменена апошняй, хаця труп ад гэтага і не робіцца сьвядомым, нягледзячы на разнастайныя рухі, выклікаемыя ў яго электрычным токам, накіраваным на адпаведныя лакалізацыйныя вобласьці.

Вось чаму сучасныя фізіёлагі і імкнуцца патлумачыць токі нярвовай энергіі ў нашым целе іянізацыяй нярвовага рэчыва, з чым немагчыма не пагадзіцца, за выключэннем таго, што гэтая іянізацыя, г.азн. распадзенне бялковых малекул на катыёны і аніёны, сама і з'яўляецца нагодай нашай жыццёвай дзейнасьці. Кожны ж

суп, які падаюць нам пасоленым за абедам, і кожны іншы слабы раствор мінеральных солей іянізаваны амаль цалкам у дачыненні да гэтых соляў, але ніякай электрарухаючай магутнасьці ў ім ад гэтага не ўзнікае. Таму не можа яе з’явіцца і ў нейронах ад аднай толькі іянізацыі іхнага рэчыва. Іянізацыя толькі адчыняе шлях для электрычнай энергіі, а ісьці па гэтамум шляху і прыводзіць што-небудзь у дзеянне могуць толькі яе аднастайныя элементарныя зарады, выдзяляемыя не паўсюдна, а ў нейкім прызначаным пункце і накіроўваемыя адпаведнымі акумулятарамі, якія звычайна маюць пласьцінкавае ўладкавнне, нападобе вальтовага слупа.

І вось пад паўшар'ямі вялікага мозгу мы і сапраўды маем нешта падобнае – мазжачок. У ім не існуе ніякіх вызначаных рэфлектыўных лакалізацый, акрамя функцыі кіравання рухомай стабілізацыяй нашага цела, што не патрабуе такога складанага органа і лакалізанаванай, звыш таго, у лобных долях вялікага мозгу, але важнасць яго значэння для нашага жыцця выяўляецца ўжо адным яго складаным уладкаваннем і асабліва абароненым размяшчэннем. А калі мазжачок з'яўляецца, сапраўды, акумулятарам і крыніцай нярвовай энергіі, то яго пашкоджанне павінна мець наступствам поўную страту якой бы то ні было ініцыятывы і працаздольнасьці, хаця б кровазварот, дыханне і астатнія фізіялагічныя працэсы, як кіруемыя цэнтрамі сімпатычнай сістэмы, і працягвалі яшчэ існаваць. І гэта, на самай справе, выяўляюць усе досьледы яго выдалення ў жывёл.

Тут жа можа знаходіцца цэнтр і таго, што мы завём нашым сьвядомым жыццём. Я ведаю, што некаторыя із сучасных фізіёлагаў не ўхваляюць слова сьвядомасць, зводзячы ўсё да рэфлексаў і цалкам адкідваюць псіхалогію, як не маючую досьледавага падцьверджавння, а выключна сама-назіральную вобласць чалавечай дапытлівасьці. Але ж і астраномія толькі назіральная, а не досьледная навука, і аднак жа яна не дарэмна лічыцца адной із самых дакладных навук. Гэта азначае, і ў дачыненні да саманазірання мы не можам аспрэчыць права на навуковае існаванне, а таму і ўсё, што я тут выказваю, з’яўляецца толькі спробай пагадніць дасьледную рэфлексалогію з назіральнай псіхалогіяй, аддаўшы першай увесь вялікі мозг і пакідаючы апошняй выключна мазжачок, як галоўную вобласць выпрацавання той жыццёвай, актыўнай энергіі, якая зараджае сабой, збольшага з дапамогай іянізаваных правадоў і збольшага шляхам індукцыі праз не праводзячыя асяроддзі, усё цела вышэйшых жывых істой і са зьнішчэннем якай застаецца замест усьведамляючай сябе і сама-назіраючай разумнай істоты адна пазбаўленая памяці, а таму не маючая самасьвядомасьці і працуючая пакуль толькі па інэрцыі, складаная машына, не выяўляючая ніякай унутранай ініцыятывы ў дзеяннях, таму што знікла іхная першакрыніца.

Я тут знарок ужыў слова «не маючая памяці машына». Памяць жа з’яўляецца атрыбутам кожнай самасьвядомасьці, у ёй мінулае камбінуецца з сучаснасьцю. Яна не пашыраецца на будучыню і таму да трох каардынат нашага прасторавага сьвету яна дадае толькі палову чацьвёртай каардынаты, характэрызуючую жыццё гэтага сьвету да сучасняга моманту, але грунтуючаяся на ёй мышленне збольшага пашыраецца і на будучыню.

Мазжачок з гэтага боку гледжання павінен быць таксама і органам успамінаў, вымушаючым зноў з'яўляцца із лакалізацыйных абласьцей вялікага мозгу адклаўшыяся там і паступова згасаючыя сьляды найбольш важных мінулых уражанняў, даходзішых калі-небудзь з іх да мазжачка. А калі гэтага не было ці амаль не было, як, напрыклад, калі чалавек дейнічаў у стане моцнага ап'янення, ці

пад уплывам нейкага іншага наркозу ці, нарэшце, у гіпнатычным стане, пры чым праводзячыя шляхі да мазжачка былі моцна ці цалкам затарможаны, то ў нас не могуць унікнуць і ўспаміны; а пры няпоўным тармажэнні, калі яшчэ заставаліся сьляды самаўсведалення, тады і ўспаміны пасьля прыходу да поўнай прытомнасьці выявяцца вельмі цьмянымі.

Толькі гэтым спосабам, як мне здаецца, і можна пагадніць дасьледную рэфлексалогію з сама-назіральнай псіхалогіяй, а асабліва – зразумець паходжанне зрокавых і гукавых галюцынацый і іншых падманаў пачуццяў. Патрэбна толькі строга размежаваць самаўсведамленне і інтэлект, бо першае можа быць цалкам сфармававым і ў мала-глыбакадумнага і мала-адукаванага чалавека, і ў дзіцячым веку яно не меншае, чым у сталым. Думае, г.азн. вечна камбінуе (вядома, чыста механічна і разнастайнымі скрыжаваннямі) разнастайныя сучасныя і мінулыя ўражанні толькі лобная частка паверхні паўшар'яў вялікага мозгу і пры яе пашкоджванні ў чалавека з'яўляецца прыдуркаватасць. Але толькі ўдалыя камбінацыі даводзіць яна да нашай сьвядомасьці, што і дае нам (ці нашаму мазжачку) ілюзію нашай сьвядомай творчасьці, а на самай справе творчая праца бывае заўсёды падсьвядомага паходжання, г.азн. прыходзіць у вобласць нашага выразнага ўсьведамлення із цемры мазгавых паўшар'яў ва ўжо гатовым выглядзе.

Кожны працэс сьвядомага засяроджвання думкі на чым-небудзь вызначаным складаецца ў тармажэнні усіх шляхоў, ідуць да лобнай вобласьці ад чужых для дадзенай працы лакалізацый іншых аддзелаў мозгу і ў растармажэнні ўсіх тых шляхоў, якія могуць прыйсьці на дапамогу прадмету нашага абдумвання. Але хто ж тут растарможвае і хто затарможвае? І вось, шляхам выключэння ўсяго астатняга, мы зноў падыходзім да мазжачка. Гэта азначае, гэта орган і нашай увагі, спрыяючы мышленню, але не актыўны ў ім удзельнік. Гэта толькі загадчык, які паказвае фактычным выпрацоўшчыкам думкі ў звілінах лобнай часткі вялікага мозгу агульны характар пажаданай імі працы. Ён дае, напрыклад, тэму для літаратурнага твора, але не асабіста стварае яго. Яе выконваюць без яго ўдзелу асацыятыўныя нейроны і прапануюць яму толькі свай гатовы прадукт.

Калі адгалінаванні асацыятыўных нейронаў лёгка рухомыя, то прадукт мыслення атрымаецца арыгінальным, а калі яны трывала злучыліся па нейкіх шляхах, то і мышленне пойдзе па звыклай каляіне і страціць самабытнасць; калі ў нейкай вобласьці правільная дзейнасць нейронаў парушылася, то пачнецца трызненне вар'ята, а пры простым назіранні навакольнага сьвету замест рэчаісных уражанняў з'явяцца пераіначаныя, маючыя назву падманаў пачуццяў.

Але падобнае можа быць зроблена і без пашкоджвання нейронаў лобнай часткі галаўнога мозгу, шляхам тармажэння ў слабавольных ці стомленых асоб тых ці іншых із праводзячых да іх шляхоў уздзеяннем чужой волі, з дапамогай загадаў.

Асабліва эфектнымі з'яўляюцца калектыўныя галюцынацыі, пра якія таксама паведамляецца ў евангеллях. Толькі для іхнага выклікання даводзіцца выкарыстоўваць, відаць, заўсёды ці ўдзеянне адмысловых лёткіх наркатычных рэчываў, ці ўплыў асобнага роду манатонных гукаў, пры чым аўдыторыя, вядома, не можа быць такой шырокай, каб тыя ці іншыя гукі маглі ахапіць яе ўсю.

Навукова пераканацца ў нерэальнасьці такіх уяўленняў лёгка з дапамогай кінематаграфіі, пры якім на стужцы, вядома, адлюстроўваецца толькі рэчаіснае. Гэта ўпершыню і зрабілі ў Індыі трое адукаваных ангельцаў, прысутнічаўшыя на пастанове аднаго факіра. Яны размяркавалі свае ролі так, каб адзін запісваў усё што бачыў, другі – усё што чуў, а трэцці рабіў адзін за адным імгненныя фатаграфічныя

здымкі ўсёй аўдыторыі. Запісы двух першых выявіліся цалкам падобнымі з усім, што чулі і бачылі не толькі яны самі, але і астатнія. Усе яны назіралі чароўнае сама-падніманне індускага хлопчыка на неба, па закінутай туды факірам вяроўцы, але фатаграфія не паказала нічога, акрамя глядзеўшага натоўпу, ды самога факіра, нібы з кімсьці размаўляючага з паднятай угору галовай.

Чым менш разумова развіта чалавечае згуртаванне, тым больш яно слабавольнае і схільнае да падначалянення чужому уплыву. Тым лягчэй атрымліваецца ў падрыхтаванага працяглым саматрэніраваннем псіха-эксперыментатара выклікаць у яго калектыўныя галюцынацыі нейкага із органаў адчуванняў. Юнацкі ўзрост больш схільны да гэтага, чым больш сталы, жанчыны больш, чым мужчыны. Вось чаму старажытная магія і карысталася для сваіх эксперыментаў пераважна хлопчыкамі ці дзяўчынамі. А зараз імі карыстаецца псіха-тэрапеўтыка (мал. 68).



Мал. 68

*Шэсць лёгка падпарадкоўваючыхся гіпнозу жанчын, застыўшых, страціўшы ўласную волю, у розных паставах пры рэзкім раптоўным гуку. Згодна са здымкам, зробленым Salperiere. Із кнігі P. Regnard: Sorcellerie, Magnetisme, Morphinisme. 1887.*



Мал. 69

*Загіпнатызаваная курыца, страціўшая на некаторы час здольнасць выйсьці із нададзенага ёй становішча.*



Мал. 70

*Трапічная казурка палачнік, загіпнатызаваная ў сядзячым становішчы.*



Мал. 71
*Яно ж, загіпнатызаванае якія стаяць на галаве.*

намаляваць на падлозе мелам белую рысу і прыціскаць да яе на працягу некалькіх хвілін галаву курыцы, так, каб рыса служыла працягам яе носа, то курыца будзе лічыць свай нос прывязаным да падлогі і не апрытомнее, пакуль не пройдзе некалькі хвілін (мал. 69). Мне самаму даводзілася, ідучы лесам за скачучай ад мяне жабай, рабіць з ёю падобныя досьледы. Як толькі, скокнуўшы, жаба падала галавай да мяне, я спыняўся і, гледзячы ёй прама ў вочы, паціху набліжаўся і нахіляўся да яе ўсё бліжэй і бліжэй. На прыканцы наша збліжэнне атрымлівалася даводзіць да такай ступені, што мае вусны набліжаліся да яе вельмі блізка і я лёгка мог бы схапіць яе сваімі губамі, але я, замест таго, паступова аддаляўся і вяртаўся да ранейшага становішча. Я нават ціха сыходзіў, а яна ўсё яшчэ працягвала сядзець, як раней, цалкам загіпнатызаваная.

Пад такія субгестывістычныя ўплывы здольны падпадаць не толькі людзі, але і жывёлы. Так, калі

Нават казуркі лёгка гіпнатызуюцца ад простага палохання (мал. 70, 71).

Наданні для здзяйснення наступных дзеянняў лёгка вырабляюцца над людзьмі, якія знаходзяцца ў стане гіпнозу, і для іх часта няма ніякай патрэбы даваць загады гучным голасам. Гэта атрымліваецца і пры ціхім, нават і пры ўяўным шэпце, і час выканання кожнага загаду можа быць працягнуты на дастаткова значны перыяд часу. Так, можна загадаць пацыенту заснуць, і ён будзе ляжаць, як памёршы, гадзінамі, да таго часу, пакуль яго лекар не прыйдзе і не загадае яму прачнуцца. Для сярэднявечнага натоўпу гэта заўсёды было не чым іншым, як ажываннем чалавека із памёршых, а таму і вялікі лекар старажытнасьці, міфічны Асклепій (ён жа Эскулап), нябесным сімвалам якога, таксама як і хрысьціянскага Ратавальніка, было сузор’е Змеятрымальніка, згодна з сярэдневечным паданнем, не толькі лекаваў жывых, але і ажыўляў памёршых.

На якіх уласцівасьцях чалавечай душы заснаваны ўсе гэтыя псіхічныя ўплывы людзей адзін на аднаго? Зародкі іх мы бачым паўсюдна ў атачаючым нас жыцці. Хай нехта хутка загадае вам:

– Падніміся!

І вы абавязкова зробіце гэта, калі не ставіцеся з падазрэннем да вымаўляючага. Дакладна гэтак жа зробіць і кожны пры нескладаным і хуткім моўным загадзе, калі ў яго тоне няма ваганняў, і вы ні ў чым не падазраеце загадваючага, і калі, акрамя таго, у вас няма дастатковага прамежку часу, каб самастойна абдумаць значэнне нададзенага нам дзеяння. Толькі ў гэтым апошнім выпадку вы можаце яго ці выканаць, ці не. Гэта азначае, у нашым мазгу існуе

падсьвядомы орган, спецыялізацыяй якога з'яўляецца выкананне даваемых яму загадаў, незалежна ад таго, ці паходзяць яны ад нашай уласнай сьвядома-валявай вобласьці мозгу патэнцыйнымі спалучэннямі элементаў вымаўлення, непазбежна ўзнікаючых пры кожным мышленні, ці гэта зрабіла чужая сьвядома-валявая вобласць, якая, як больш далёкая, павінна была ўжыць для гэтага ўжо не патэнцыйныя, уяўныя, а кінетычныя, чутныя вухам, камбінацыі знакаў мышлення – словы.



Мал. 72

Дзяўчына, застыўшая ў моста-падобным выглядзе ў прыпадку істэры-эпілепсіі са стратай сьвядомасьці. Евангельская «апантаная злым духам» Згодна са здымкам, зробленым ў Salperiere. Із кнігі P. Regnard: Sorcellerie, Magnetisme, Morphinisme. 1887.

У гіпнатычным стане, калі нервы, ідучыя із органа вашай актыўнай волі і рашэнняў, – згодна з маім уяўленнем, мазжачка, – часова затарможаны, застаюцца толькі непасрэдныя рэфлектыўныя сувязі паміж органам вашага слыху і шэрай карай паўшар'яў вялікага мозгу, а таму і вашы ўчынкі здзяйсняюцца падсьвядома, без ведама мазжачка. Тое ж самае адбываецца і пры істэры-эпілептычных прыпадках (мал. 72).

Усё гэта непасрэдна падводзіць нас да пытання пра сутнасць нашай сьвядомасьці. Што такое з псіхалагічнага боку гледжання наша думаючае, адчуваючае і ўсьведамляючае «я»?

Ці з’яўляецца гэта нечым адзіным, непадзельным, ці гэта – адзінства ў шматлікасьці, г.азн. мільёны падсьвядомых «я» ў нашым мозгу паўтараючых кожны псіхічны рух адзін аднаго, падобна таму, як гэты робяць камертоны, наладжаныя ва ўнісон, пачынаючыя выдаваць тай жа самы музычны тон, як толькі пачынае вібраваць адзін із іх?

Відаць, гэта так. Асноўнымі элементамі ўсяго існуючага ў прыродзе з'яўляюцца першапачатковыя атамы ўсёнапаўняючага сусьветнага асяроддзя. Але калі мы запытаем, што ж яны такое, то не будзем у стане адказаць нічога іншага, як толькі тое, што гэта асобныя, няўяўна малыя згушчэнні ці разражэнні чагосьці адзінага, неперарыўнага, усюдыіснага, усёнапаўняючага і бясконцага, таго, што

сучасная рэалістычная навука заве прасторай, а сярэднявечная містычная думка вызначала як усюдыіснуючага і ўсёнапаўняючага «стваральніка неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага», памылкова надзяляючы яго сьвядомасьцю, падобнай чалавечай. Тут старажытная тэалогія і сучасная навука сыходзяцца ў некаторых вызначэннях, як толькі мы прыйдзем да перакананьня, што наша трохмерная прастора з’яўляецца асноўнай сутнасьцю, а не пустэчай, таму што пустэча, г.азн. нішто, не можа мець ніякага працягу ці вымярэння. Абсалютны нуль не мае нават і зародка нейкай меры.

Такім чынам, трохмерная ўсёнапаўняючая суцэльная і ўсюдыісная прастора з’яўляецца падмуркам не толькі старажытнага, але і сучаснага навуковага мышлення. Але яна неаднастайная. У ёй, без разрыву суцэльнасьці, існуюць згушчэнні, як дадатныя элементы жыцця, і разраджэнні, як яе адмоўныя элементы, то набліжаючыяся адзін да аднаго, то аддаляючыяся адзін ад аднаго, і маючыя назву першапачатковых атамаў якога б то ні было жыцця ў Сусьвеце. З іхным удзелам усё ў ёй чыніцца і змяняецца, і ў гэтым сэнсе, хаця і з абмоўкай, іх можна прызнаць аналагічнымі сярэднявечнаму богу-сыну, народжанымі прасторай раней усіх стагоддзяў, нястворанымі, аднасутнымі са сваім бацькай-прасторай, у якой усё адбылося дзякуючы яго удзелу. Але гэты «сын прасторы» ўжо не адзінкавы, а толькі тоесны сам з сабай у сваіх незлічоных паўтарэннях у сваім бацьку, а таму адразу ж ўзнікае і другое філасофскае пытанне: «Ці не паўтараецца ён таксама і ў часе, ці ён мае па ім суцэльны працяг?». Іншымі словамі: ці працягваюцца атамы, як бясконцыя суцэльныя ніткі, у глыбіню мінулага і будучага, па шкале стагоддзяў, ці яны перарывістыя ў ёй, г.азн. знікаюць і зноў адраджаюцца, будучы перарывістымі ў часе, як і ў прасторы? Навука да гэтага часу глядзела на атамы сусветнай энергіі выключна з першага боку гледжання. Але ці абгрунтавана такое цверджанне? Мне здаецца, што не, і што ўсё існуючае ў нашай сьвядомасьці, г.азн. увесь наш Сусьвет, а ў ім і кожны атам у адзін і тай жа час і безперапыннае, і кінематаграфічнае. З гэтага апошняга боку гледжання, першапачатковы атам, як асноўны элемент усяго існуючага ў прасторы і часе, ад крышталя да чалавека, – не можа лічыцца рэзка адмежаваным ад атачаючай прасторы, г.азн. маючым нейкую паверхню.

Бо наша ж ўяўленне пра паверхню фізічных цел – чыста аптычнае. Толькі дзякуючы зрокавым абласьцям нашага мозгу мы можам уяўляць сабе паверхні фізічных цел ці, дакладней, фізічных працэсаў у іх замкнёным выглядзе. Пачуццё дотыку з'яўляецца тут толькі дапаможным фактарам. Яно паказвае нам толькі мяжу трохмернай прасторы, даступную перасоўванню органаў нашага цела. У тых выпадках, калі гэтая мяжа пранікальная, нападобе падзелу паміж вадай і паветрам, яно нам не паказвае яе, а, тым часам, для вока гэтая мяжа яшчэ даступная, як заканчэнне вобласьці, пранікальнай для тых ці іншых сьветлавых ваганняў.

З такога боку гледжання і першапачатковы атам, малюемы ў нашай сьвядомасьці нейкім адасабленнем у бясконцай трохмернасьці, з'яўляецца ў ёй на самай справе не амярцвелым, вечна нязменным чужым наданнем, а вечна пераменлівым, як хваля, і падобна ёй рытмічна пераходзячым са стану згушчэння ў стан разраджэння і наадварот, без рэзкай мяжы з нараджаючым яе сусьветным працягам.

Я паказваю гэта для выразнасьці на самай простай для нашага ўяўлення схеме, нісколькі не настойваючы на тым, што і ў самой рэчаіснасьці ўсё гэтак жа проста, як і на ёй.




Мал. 73
*Дынамічная дваістасць прасторавай безперапыннасьці. А. – Лінейная паслядоўнасць хваль. Вобласьці згушчэння рытмічна пераходзячая ў вобласьці разраджэння і наадварот. В. – Двухвымернае чарґаванне згушчэнняў рытмічна пераходзячых у разраджэнні, і наадварот (двухвымерная хвалявістасць). Уявіўшы шэраг такіх пластоў, накладзеных адзін на адзін так, каб пругкія згушчэнні аднаго прыпадалі насупраць разрэджанняў другога, атрымаем выяву трохвымернай пругка-хвалюемай прасторы, пры чым як згушчэнні гэтай прасторы (атамы), так і разрэджанні (анты атамы) будуць пераходзіць адзін у аднаго.*

Уявім сабе спачатку прастору аднамернай, у выглядзе слупа зліпшыхся паміж сабай чорных і белых гутаперчавых кубікаў, і няхай чорныя кубікі будуць сьціснуты белымі ва ўсім слупе, а потым гэтая анармальна сціскаючая магутнасць раптам знікне (мал. 73, А). Тады чорныя кубікі, дзякуючы сваёй пругкасьці, разсунуцца і дзякуючы інэрцыі, у сваю чаргу, сьціснуць белыя, і ўвесь слуп будзе ўяўляць сабай шэраг вечных пруткіх хвалепадобных ваганняў, калі толькі ён будзе бясконцым і ў яго элементах (кубіках) не будзе ўнутранага трэння. І гэтыя згушчэнні і разрэджванні могуць узнікаць не толькі ў тых жа самых месцах, але і рухацца ўздоўж слупа, як хвалі. Ідучы далей, мы можам перайсьці і да суцэльнага пласта, у якім безліч нашых слупкоў зліплалася адзін з адным так, што чорныя вобласьці аднаго чаргуюцца з белымі іншага, як на шахматнай дошцы (мал. 73, В). Хай чорныя часткі В зноў будуць абласьцямі згушчэння, а белыя – абласьцямі разраджэння складаючага іх пластавога асяроддзя і не рэзка адмежаваны адзін ад аднаго, а паступова і пругка пераходзячымі адна ў другую, як на нашай схеме. Тады, зрабіўшыся вольнымі, гэтыя вобласьці будуць бясконца пераходзіць адна ў другую, уздоўж двух, перпендыкулярных адзін да аднаго, вымярэнняў гэтага пласта, калі яму нідзе не будзе межаў.

Разгледзім зараз і трэцці выпадак. Размесьцім безліч такіх пластоў адзін на другі так, каб згушчэнне аднаго пласта накладалася на разрэджванне другога, што лёгка зрабіць уяўна і на нашай схеме. Тады і без тлумачэння стане зразумелым, што чарговыя вобласьці згушчэння і разрэджвання тут будуць пераходзіць хвалепадобна адна ў адну па трох, незалежных адзін ад аднаго, накірункам, даючы гэтым яскравую карціну вечна ўсхваляванай трохвымяральнай прасторы, як бы жывучай сваім унутраным жыццём.

Тут кожнае згушчэнне, г.азн. кожны першапачатковы атам не вечна існуе, а адраджаецца з кожным новым імгненнем, а ў прамежках нават пераходзіць у адмоўны стан, г.азн. у анты-атам. Прамежак ад аднаго ўзнікнення атама да другога

яго ўзнікнення будзе натуральнай адзінкай сусветнага часу. Непазбежнасць яго новага з'яўлення ў тым жа выглядзе выявіцца як закон захавання яго масы і энергіі, але із гэтай схемы мы не атрымалі б яшчэ магчымасьці тлумачэння таго разнастайнага творчага жыцця атамаў, якое мы назіраем у сусьвеце, калі б першапачатковыя атамы ўзнікалі і знікалі ў тых жа самых узаемных дачыненнях, як і раней. Для таго, каб патлумачыць сабе разнастайнасць з'яваў існуючых у прыродзе, а з ёю і ў нашай сьвядомасьці, патрэбна ўявіць, што акрамя гэтых элементарных першапачатковых атамных згушчэнняў і разрэджванняў існуюць яшчэ іншыя больш шырокія вобласьці згушчэнняў і разраджэнняў, уключаючыя ў сябе вызначаныя згуртаванні першапачатковых згушчэнняў і разрэджанняў, падобна таму, як у дзесяцічнай сістэме аб'ёмаў кожны кубічны метр уключае ў сябе тысячу кубічных дэцыметраў, і кожны кубічны дэцыметр тысячу кубічных сантыметраў і г.д. Тады, пасьля свайго пераходу ў адмоўны стан, кожны першапачатковы атам ужо не будзе адраджацца на ранейшай адлегласьці ад усіх сваіх шасьці найбліжэйшых суседзяў, а на большых ці меншых адлегласьцях ад іх, грунтуючыся па тым – разрэджваецца ці згушчаецца ўвесь прасторавы калектыў у гэтай вобласьці. Такім чынам, утвараецца малюнак шматстайных другасных збліжэнняў і разрэджванняў. І гэты малюнак будзе дасягаць усё большай і большай складанасьці, а збліжэнні і разрэджванні – усё большай і большай разнастайнасьці, у залежнасьці ад таго, колькі такіх вар'іруючых аб'ёмаў будзе заключана адзін ў адзін, і ці будуць яны знаходзіцца адзін да аднаго ў сувымяральных аб'ёмных дачыненнях, ці нават, можа, і ў несувымяральных. Акрамя таго, патрэбна браць да ўвагі і тое, што вобласьці згушчэння і разрэджвання павінны быць разнастайна арыентаваны, бо інакш было б цяжка патлумачыць паходжанне колападобных рухаў у сусьвеце, якія, як і кожныя іншыя пастуральныя рухі, з гэтага боку гледжання, могуць быць толькі фіктыўнымі, падобнымі пастуральным рухам хваляў. Але якая б ні была прырода атама – гэта адзіная ствараючая магутнасць у сусветным працягненні, часткай якога з'яўляецца і сам першапачатковы атам.

Такой з’яўляецца вяршыня сучаснай прыродазнаўча-навуковай філасофіі, якая здалёк ужо бачна для нашага разумовага пагляду, падобна вяршыні вялізнай снежнай гары досвіткам праз засланяючы яе схілы туман, яшчэ ляжычы у далінах паміж ёю і намі, стаячымі толькі на ўзгорку каля яе падножжа. Яна адна асветлена ружовымі прамянямі яшчэ не ўзыйшоўшага для нас сонца, імгла ляжыць паміж намі і ёю, і мы яшчэ не ведаем, як да яе дайсьці, хаця яе і бачым.

Падобнае ж заўсёды існавала ў навуцы: канчатковы вынік яе пошукаў часта быў вядомы задаўга раней, чым яе падрабязнасьці. Так, сферычная форма зямлі была вызначана за тысячу гадоў да таго часу, калі атрымалася адкрыць на ёй Амерыку і Аўстралію, нашмат раней, чым атрымалася аб'ехаць нават вакол Афрыкі і, хаця б у агульных рысах, намаляваць на мапе сапраўдную форму свайго ўласнага кантынента, Яўропы.

У нашых навукова-філасофскіх выcновах мы непазбежна прыходзім да ўяўленняў пра бясконцую і непадзельную прастору, як пра ўсё ўтрымоўваючую і, такім чынам, усё адчуваючую першапачатковую існасць; прыходзім да ўяўленняў пра творчы першапачатковы атам, гэты зародак нашага розуму, незлічоны ў сваіх праявах у прасторы і часе і шматстайным у сваіх камбінацыях, і атрымліваем уяўленне пра вечныя змены яго камбінацый, пра вечны яго рух, як пра ўсё-ажыўляючы і ўсё натхняючы трэцці пачатак (ἄγια πνεῦμα) старажытных алхімікаў і філосафаў. Гэтую «боскую тройцу Сусвету» чалавечая думка заўважыла яшчэ ў

тай час, калі навука была апранута ў містычнае адзенне. Яна малюецца нам і зараз. А ўсе прамежкавыя ступені паміж першапачатковым творчым атамам і тымі складанымі атамамі сучаснай хіміі, якія таксама адраджаюцца пры атачаючых нас касмічных умовах праз кожны элементарны момант часу, гэтыя ступені яшчэ нябачны для нашага разумовага позірку.

Не цалкам зразумелыя нам пакуль і суадносіны паміж нашым унутраным і навакольным сьветам. Анатомія і досьледная псіхалогія паказваюць нам, што ўвесь бясконцы Сусьвет канцэнтруецца ў нас у адным органе, які мы бачым на малюнку 74 і які мы завём нашым галаўным мозгам. Тут змешчана ўсё, што мы ведаем і адчуваем. Тут нават больш таго, што мы самі ведаем: тут яшчэ змешчаны цэлы сьвет нашага складанага падсьвядомага жыцця.

Мы ўжо бачылі, якімі з’яўляюцца дачыненні паміж нашым унутрымазгавым сьветам і сьветам навакольным, пра які нам даюць разнастайныя паведамленні органы нашых вонкавых пачуццяў, зрок, слых, нюх, дотык, густ і розныя, прыдуманыя намі, прылады: мікраскопы, тэлескопы, грамафоны, тэлеграфы, фатаграфічная і іншыя навуковыя прылады.



Мал. 74

*Чалавечы мозг. Выгляд зверху.*



Мал. 75

*Падыход нярвовых валокнаў да перыферычнай вобласьцііз магчымасьцю чыста індукцыйных уплываў.*

Мы ўжо бачылі як даходзяць да органа нашага выразнага ўсьведамлення паведамленні пра становішча нашага ўласнага цела, якое з'яўляецца для яго толькі неадлучаемай ад яго часткай таго ж навакольнага сьвету, якая паведамляе яму акрамя папярэдніх і цэлы шэраг іншых адчуванняў, якімі з’яўляюцца, напрыклад, пачуццё болю і асалоды, радасьці і смутку, бадзёрасьці і стомленасьці і г.д.

Але дзякуючы таму што гэтая галіна навукі яшчэ мала засвоена нашай агульна-адукаванай публікай, то, каб прадухіліць ўнікненне вялікіх аперцэпцый пры чытанні гэтай часткі, я патлумачу больш папулярна працу мозга.

Я ўжо згадваў на пачатку гэтай часткі, што лягчэй за усё гэта ўявіць сабе пры дапамозе параўнання нашага мозгу з тэлефоннай станцыяй вялікага горада. Усе яе сьцены поўняцца серыямі кнопак і злучаючых дратоў, ідучых ад кнопкі да кнопкі, падобна рухомых карэньчыкам амёбападобных клетачак шэрага нярвовага рэчыва мазгавай кары (мал. 75), і да кожнай кнопкі, як і да шэрай мазгавай клетачкі, ідуць яшчэ звонку із горада доўгія драты ад успрымаючага вонкавыя паведамленні тэлефоннага апарата.

Перад кожнай такай серыяй кнопак, злучаных з навакольным сьветам, сядзіць асобная тэлефаністка. Вось успыхвае агеньчык над аднай кнопкай, і яна бярэ канчык дроту; ёй паведамляюць нумар другога дроту, з якім жадаюць паразмаўляць, і яна злучае гэты канчык з канчыкам дроту абанента і, калі не цікавіцца размовай, адразу ж адлучае ад гэтага замкнёнага ланцуга двух правадоў свай навушны апарат і дае магчымасць выклікаючаму абаненту размаўляць з выклікаемым, як яны пажадаюць. Гэта будзе ўзор абсалютна падсьвядомай дзейнасьці нярвовай сістэмы нашага цела, калі, напрыклад, мы ўтрымліваем раўнавагу, стоячы, ці на хаду, і цалкам не ўсьведамляем прысутнасць тых складаных нярвовых імпульсаў, якія вырабляем для гэтага.

Але тэлефаністка, калі яна цікавячаяся і гаварлівая, можа зрабіць і інакш. Яна можа пакінуць ланцуг злучаным і з сабай і перадаваць сваім сяброўкам, сядзячым шэрагамі каля сьцен, усё, што гаворыцца па яе дроту і ўсе яе сяброўкі будуць у гэтым выпадку жыць яе ўражаннямі ў тым жа самым парадку, г.азн. будуць на некаторы час як бы ператварацца ў яе псіхічных двайнікоў, быць як бы адным непадзельным псіхічным цэлым з ёю.

Уявіце сабе яшчэ, што ўсе гэтыя тэлефаністкі, сядзячыя каля сьцен, ніколі не пакідаюць сваю залу і не атрымліваюць ніякіх іншых уражанняў із навакольнага сьвету, акрамя перададых сюды з дапамогай тэлефона. Але яны настолькі цікавячыяся і экспансіўныя, што кожная падслухоўвае і гучна паўтарае ўсё, што цікава для яе, а ўсе астатнія настолькі хуткія ва ўспрыманні, што паспяваюць запамінаць кожнае цікавае для іх слова. У такім выпадку мы зможам сказаць, што кожная тэлефонная зала жыве з ўсім калектывам сваіх тэлефаністак як бы сваім індывідуальным псіхічным жыццём. Але такое непасрэднае калектыўнае і ў тай жа час індывідуальнае існаванне магчыма, вядома, толькі ў тым выпадку, калі розных уражанняў звонку прыходзіць, як у безмазжачковых суставістых жывёл, не вельмі шмат адразу, і нашы тэлефаністкі не перабіваюць бязладна адна адну: інакш нічога не атрымаецца акрамя незразумелага ні для аднай із іх гвалту. Гэта азначае, у выпадку вельмі складаных і шматлікіх телефонадаў звонку, для прывядзення іх ва ўпарадкаваны стан і стварэння із гэтага нагрувашчвання разнастайных паведамленняў нечага сістэматызаванага, патрэбна, акрамя мясцовых аддзяленняў, яшчэ дадатковае меншае памяшканне, да якога ад кожнай тэлефаністкі ішоў бы дадатковы провад, і яна паведамляла б з яго дапамогай туды толькі свае найбольш

важныя ўражанні. Гэты асобны калектыў із вядомай колькасьці адмежаваных тэлефаністак мог бы з'яўляцца не толькі ўспрымаючай, але і сартуючай установай усяго горада ў яго гаспадарчых і разнастайных іншых узаемадачыненнях з іншымі гарадамі і вёскамі.

Нешта падобнае; як мы ўжо бачылі, і наладжана ў нас у мазгу. Усё яго белае рэчыва і складаецца із разнастайна-скамбінаваных, як драты тэлефоннай станцыі, белых нярвовых валокнаў, перадаючых у належныя месцы паведамленні, прыносімыя нервамі ад усіх частак нашага цела і ад усіх органаў нашых пачуццяў. Гэтыя правады тут разгаліноўваюцца, і частка іхных адгалінаванняў ідзе да шматлікіх малых пірамідападобных клетачак рэчыва шэрай кары двух паўшар'яў вялікага галаўнога мозгу, заўсёды маючыхся ў хрыбетных жывёл, і ад кожнай такай клеткі ідуць карэньчыкі ва ўсе бакі, здольныя то падаўжацца, то скарачацца і разнастайна злучацца з такімі ж адгалінаваннямі суседніх клетачак, падобна хістаючымся ад лёгкага ветрыку каласам збожжа, і ўздзейнічаючыя адзін на аднаго, напэўна, не толькі з дапамогай судатыкання, але і з дапамогай прынцыпу дзеяння бяздротавага тэлеграфа. Увесь павярхоўны шэры коркавы пласт паўшар'яў галаўнога мозгу і напоўнены імі, як калясьценныя крэслы залаў тэлефоннай станцыі заняты тэлефаністкамі. Пірамідападобныя клеткі, успрымаючыя слыхавыя ўражанні, размеркаваны, як мы бачылі, у скроневай частцы пад Сільвіевай баразнай мозгу; такія ж клетачкі, канцэнтруючыя ў сабе зрокавыя ўражанні, знаходзяцца, як мы бачылі, у патылічнай частцы. Клетачкі нюхальных і смакавых адчуванняў, відаць, размешчаны ў падмурку мозга, смакавыя – над Сільвіевай баразной, а клетачкі датыкальных ураженняў – у цемяннай частцы. Уся скронева-цемянная сярэдняя частка над Сільвіевай баразнай напоўнена больш значнымі нярвовымі клетачкамі, якія кіруюць рухамі розных мязаў, у лобнай жа частцы мазгавай кары размешчаны малыя пірамідападобныя клетачкі вышэйшай падсвядома-сартыруючай дзейнасьці.

Я выказваюся «падсьвядомай» таму, што паўшар'і галаўнога мозгу нагадваюць галоўную залу тэлефоннай цэнтральнай станцыі, куды збіраюцца ўсе паведамленні. Яны тут сартуюцца падсьвядома, і частка загадаў нашаму целу даецца таксама і адсюль машынальна, без удзелу агульнага кіруючага органа нашага мозгу. Найбольш жа важная частка паведамленняў ідзе па адмысловых правадах, як мне ўяўляецца, менавіта ў тую асобную, меншую, залу, якая мае назву малы мозг і ў якой, як мне здаецца, і засяроджваецца ўсё наша ўсьведамляемае жыццё, г.азн. усьведамляемае кіраванне нашым целам.

Я размяшчаю яго ў мазжачку грунтуючыся на цэлым шэрагу нагод. Першая нагода грунтуецца на чыста практычных меркаваннях: самы высокі орган усьведамлення, як найбольш патрэбны для існавання арганізму, не мог бы сфармавацца недзе наперадзе ці знадворку мозгу, з нагоды чаго ён бы зведваў пашкоджанні пры кожным удары па дадзенаму месцу, а абавязкова пад аховай як магчыма большай колькасьці пластоў астатняга, менш важнага, мазгавога рэчыва, Менавіта такім і выяўляецца мазжачок, размешчаны ў самай глыбіні і ў патылічнай частцы (фіг. 1 Табліцы 23).

Другая нагода – анатамічная: ад мазжачка ідуць тры пары нярвовых адгалінаванняў: адна пара да паўшар'яў вялікага мозгу, як да вобласьці падсьвядомай творчай думкі, другая – да Вароліевага моста і трэцяя – да даўгаватага мозгу для выканання падсьвядомых загадаў. Ніякая іншая самастойная частка мозгу не забяспечана такімі зручнымі шляхамі паведамлення.

Трэцяя нагода, гэта – эксперыментальна-біялагічныя меркаванні. Асноўная вобласць сьвядомага жыцця павінна характэрызавацца тым, што яе пашкоджванне імгненна пазбаўляе істоту прытомнасьці, а гэта мы і назіраем часьцей за ўсё пры ўдарах па патыліцы, якія пашкоджваюць мазжачок. Варта толькі ўтыркнуць хрыбетнай жывёліне хаця б шыла пад дрэва жыцця, г.азн. у пласціністыя пласты белага рэчыва мазжачка, якія нагадваюць пласьцінкі акумулятараў, як жывёла імгненна паралізуецца.

Чацьвёртая нагода – таксама эксперыментальна-біялагічная: пры выразанні мазжачка жывёла перастае сьвядома ставіцца да наваколля; яна будзе здольнай здзяйсняць, як і заўсёды, рэфлекторныя ўчынкі: адшмаргне, напрыклад, нагу, калі яе ўкалаць; яна будзе здольнай здзяйсняць і складаныя ўчынкі, напрыклад, плаваць, калі яе кінуць у ваду, г.азн. гэтак жа, як і мы ходзім, размаўляючы з іншымі і не ўсведамляючы рухаў сваіх ног; яна будзе жаваць і глытаць, калі ежу пакладуць ёй у рот, як і мы пад час размовы несьвядома ядзім, але не пазнае ежу, калі яе паднесьці да яе вачэй; яна будзе здольнай і прайсьці некалькі крокаў, але, з нагоды таго, што для паспяховага падтрымання раўнавагі пры хадзе патрэбна ўжо некаторая доля ўвагі да няроўнасьцей глебы, г.азн. сьвядомасьці, яна хутка ўпадзе і не здагадаецца, як падняцца.

Усё гэта паказвае, што органам нашай сьвядомасьці і ўвагі з'яўляецца мазжачок, і наша параўнанне яго з задні́м распарадчым кабінетам вялікай тэлефоннай станцыі, тэлефаністкі якога атрымліваюць самыя важныя паведамленні толькі із вялікай перыферычнай залы пра ўсё што робіцца навокал, відаць, дае праўдападобную ілюстрацыю адбываючагася ў сярэдзіне нашага мозгу. Яно ж тлумачыць і падманы нашага ўсьведамлення, г.азн. галюцынацыі: таму што і тэлефаністкі ж вялікай залы, атрымаўшы ад каго-небудзь загад ці змовіўшыся самі, маюць магчымасць і падманваць свай «асобны кабінет», і ён не будзе ў стане адрозніць іхны падман ад праўдзівых паведамленняў. Гэта ва ўсіх нас заўсёды і бывае пры гутарках: калі нехта хутка вымавіць незнаёмае нам замежнае слова, то клетачкі шэрага рэчыва вялікіх паўшар'яў амаль заўсёды перададуць яго ў вобласць нашага ўсьведамлення як сугучнае з ім знаёмае, а незнаёмы гук замежнай мовы перададуць як падобны з ім знаёмы гук роднай мовы. Пра гэта я ўжо паведамляў у лінгвістычным аглядзе.

Відаць, у мазжачку не існуе ніякай цэнтральнай ці вярхоўнай адзінай клетачкі, выключна канцэнтрыруючай у сабе сьвядомасць, і ўсе ядзеркі самых важных клетачак яго кары, падобна камертонам, наладжаным ва ўнісон, з'яўляюцца двайнікамі адна адной, шматразова паўтараючыя сьвядомае «я» нашай душы. У іх засяроджваецца асобная фізічная магутнасць, падобная на электрамагнітную, і не будзе нічога дзіўнага, калі пры вельмі нізкіх тэмпературах з іх можна будзе рабіць сапраўдныя магніты. Нават і не злучаныя адна з другой сваімі амёбістымі атажылкамі, асобныя пірамідападобныя клетачкі могуць індукцыйна адклікацца на кожную змену патэнцыялу адна адной, як антэны бяздротавага тэлеграфа, калі яны наладжаны ва ўнісон. А галоўным іхным узбуджальнікам можа служыць сталае ўзнікненне электра-псіхічнай энергіі ў пласцінках таго ж «дрэва жыцця», у мазжачку.

Зразумела, што для жыццядзейнасьці гэтых сьвядомых «я» нашай душы недастаткова аднай наяўнасьці іхнага існавання. Патрэбна, каб не толькі «дрэва жыцця», але і ўсё цела было зараджана тай жа энергіяй, блізкай да электрычнай і ўзнікаючай, з аднаго баку, ад трэння крыві ў валасных сасудах (асабліва мозгу), а з

другога – ад хімічнай энергіі дыхання, таму што, калі нейкім чынам вы знішчыце адну із гэтых дзейнасьцей, сьвядомасць адразу засынае, хаця б гэтым разам і не канчаткова: пры іхным аднаўленні нейкім штучным шляхам яна зноў вяртаецца, чаго не будзе ніколі пры незваротным пашкоджванні мазжачка ці даўгаватага мозгу над ім. Бо і тэлефонны ж дрот дзейнічае толькі тады, калі ён зараджаны з нейкага цэнтральнага пункту, а мы, вядома, не маглі б зрабіць ніводнага руху без выдаткавання нярвовай энергіі і яе пастаннага аднаўлення. Асабліва гэта заўважаецца пры назіранні падсьвядомай дзейнасьці сэрца. Кожную секунду аднекуль із цэнтральнай нярвовай сістэмы прарываецца праз ізалявальную перашкоду, як іскра із электрычнай машыны, разрад нярвовай энергіі праз «сімпатычную сістэму нерваў» у нашых грудзях, якая прымушае сэрца скарачіцца, і гэта «назапашванне да разраду» працягваецца ўсё жыццё з вельмі дакладнай раўнамернасьцю, пакуль нярвовая сістэма не разладзіцца праз нейкія побытавыя нягоды. У адваротным выпадку, адначасна з агульнай нярвовасьцю, надыходзіць і нераўнамернасць назапашвання яе зарадаў, і пачынаюцца перабоі ў працы сэрца, якія працягваюцца нярэдка цэлыя гады, пакуль не адновіцца раўнавага нярвовай дзейнасьці.

Такім чынам, мазжачок з’яўляецца, відаць, і акумулятарам нярвовай Энергіі, і органам нашай увагі. Ён узважвае ўсе разнастайныя ўражанні, якія атрымліваюцца ім ад органаў нашага цела праз нейроны мазгавых паўшар'яў, і робіць паміж імі выбар. Калі гэтых ўражанняў да яго прыходзіць вельмі шмат із лобнай часткі паўшар'яў, дзе падсьвядома перапрацоўваюцца ўсе зрокавыя, слыхавыя і астатнія, унутраныя і вонкавыя, імпульсы, то ён раз'ядноўвае сябе з цэлым шэрагам аддзелаў, паведамленні якіх яму ў гэты момант не цікавыя. Так, пры вельмі ўважлівым разглядванні нечага орган нашай увагі раз'ядноўваецца са звычайнымі слыхавымі ўражаннямі; вельмі ўважліва прыслухоўваючыся да нечага цікавага, ён адмяжоўваеца ад іншых уражанняў, напрыклад, зубнога болю, а засяродзіўшыся на ім, ён смутна ўспрымае, напрыклад, датыкальныя імпульсы, ды і ўсе іншыя.

Параўноўваючы анатамічнае развіццё органа ўвагі людзей адукаваных і неадукаваных мы бачым што яно мала адрозніваецца адзін ад аднаго, а таму і непасрэднае адчуванне свайго існавання ва ўсіх людзей больш залежыць ад стану іхнага кровазвароту ці дыхання, чым ад колькасьці ведаў і ад здольнасьці мышлення, залежачай ад разнастайнасьці слядоў шматлікіх мінулых уражанняў, засяроджаных у шэрым павярхоўным пласьце нярвовых клетачак лобнай часткі мазгавых паўшар'яў. Там, відаць, сапраўднае сховішча нашых ведаў і досьведу, падмурак нашай падсьвядомай дзейнасьці, надаючай мазжачку свае выявы і камбінуючай іх паміж сабай ў асацыяцыі ідэй.

У разнастайнасьці гэтай падсьвядомай дзейнасьці галоўнае адрозненне адукаванага чалавека ад неадукаванага, і яно непараўнальна большае, чым звычайна думаюць. Калі дзікун жыве амаль выключна назіраннем атачаючых зьмен, гукамі і пахамі, дастаўляемымі яму вонкавай прыродай, то высокаадукаваны і глыбакадумаючы чалавек бачыць іх толькі праз прызму сваіх ідэй і пагэтаму разглядае не толькі іхную паверхню, але і ўсю іхую глыбіню. Дзікун жыве амаль выключна існуючым момантам, культурны чалавек і сучаснасць назірае як быццам праз напалову празрыстыя выявы мінулага і будучага ў сваім мазгу і таму разумее сэнс сучаснасьці і набывае выключную здольнасць прадбачання будучыні. Акрамя таго, згадваючы пра сваё дзяцінства і ранняе юнацства, на працягу якіх ён

праходзіў стадыю развіцця дзікуна, ён набывае здольнасць разумець яго псіхалогію і спачувальна і зычліва ставіцца да яго, тады як дзікун, які ніколі не праходзіў праз стадыю разьвіцця адукаванага чалавека, цалкам не здольны разумець яго і, адчуваючы ва ўсіх яго меркаваннях і ўчынках нешта для сябе недасягальнае, заўсёды будзе ставіцца да яго забабонна-падазрона і таму затоена-незычліва. У неразуменні адрознення паміж сабай і дзікуном была трагедыя першых мысляроў, і ў ім жа трагедыя і шмат якіх сяброў чалавецтва.

Аналагічнае адрозненне падсьвядомай псіхічнай дзейнасьці адукаваных і неадукаваных людзей выразна павінен разумець сучасны культурны дзеяч. Толькі пры гэтай умове чалавечае грамадства набудзе ўстойлівую раўнавагу і будзе здольным без катастроф ісьці па свайму шляху ў далёкую сьветлую будучыню. Але для гэтага нават і хрысьціянам, ўзвялічваючым «бедных духам», патрэбна бачыць не толькі вартасьці, але і буйныя недахопы ў вучэнні евангелістаў пра шанаванне бліжняга.

Сапраўды адукаваны чалавек можа і заўсёды будзе паважаць свайго неадукаванага бліжняга, як адлюстраванне свайго дзяцінства, але гора і яму, і гэтаму бліжняму, калі ён будзе глядзець на непісьменнага «як на самага сябе», г.азн. уяўляць існаванне ў яго вялікага падсьвядомага мышлення і, дзякуючы яму, такую ж здольнасць разнастайных супастаўленняў і прадбачання. Ён можа і павінен шанаваць евангельскага «жабрака духам» і клапаціцца пра яго, але ніколі не павінен надаваць яму перакананне, што «менавіта яму, як не сапсаванаму ведамі, належыць царства нябёс». Царства нябёс, г.азн. найвышэйшая ступень шчасьця, заўсёды належала і будзе належаць, наадварот, толькі «вялікаму духам» і забяспечыўшаму сваё матэрыяльнае існаванне, і таму сапраўдная эвалюцыйная роўнасць ляжыць не ў імкненні параўнаць усіх людзей гунтуючыся на самым нізкім узроўні, а на самым высокім. Але высокі культурны ўзровень не падае падобна веснавому дажджу з неба, а даецца толькі дзякуючы зацятай працы кожнага здольнага да яго, а таму не можа быць створаны імгненна. У дачыненні да духоўных багаццяў гэта зразумела: яны – гэтыя багацці, ляжачыя ў сховішчы вялікіх паўшар'яў чалавечага мозгу і іх немагчыма дастаць адтуль і падзяліць паміж неадукаванымі. У дачыненні ж да багаццяў, якія забяспечваюць фізічны дабрабыт чалавека, можна сказаць толькі адно. Гэта не золата і срэбра, не дарагая мэбля і не рэчы з доўгім тэрмінам існавання. Гэта, перадусім, штодня спажываемая ежа, а потым штогод спажываемае адзенне і пасьля ўсяго гэтага жыллё, патрабуючае час ад часу рамонту і аднаўлення. Асноўная ўласцівасць усіх рэчаісна забяспечваючых жыццё чалавека рэчаў – гэта пазначаная вышэй неабходнасць іх пастаяннага аднаўлення, і яна дастаткова паказвае, што забяспечыць усё насельніцтва можа толькі яго ўласная зацятая штодзённая праца, і прытым праца не аднастайная для ўсіх, як мала прадукцыйная, а заснаваная на падзеле заняткаў згодна са здольнасьцямі і схільнасьцямі да яе асобных індывідаў.

Не так даўно, ужо падчас рэвалюцыі, адна народная настаўніца паведаміла мне пашыранае ў асяроддзі інтэлігенцыі былой царскай Расіі выказванне: «фізічная праца – непасільна цяжкая, і таму для яе палягчэння патрэбна прымусіць фізічна працаваць усіх».

Але яна цяжкая толькі для тых, у каго ад прыроды слаба развіты мязы, і наадварот разумовая праца яшчэ больш «непасільна цяжкая» для тых, у каго слаба разьвіты мазгавыя паўшар'і і іхныя антэны. Колькі штогод пачынаючых навучанне ў школах не здольны паспяхова давесьці сваё вучэнне да канца толькі таму, што

разумовая праца для іх непасільна цяжкая з нагоды мала-ёмістасьці вялікіх паўшар'яў іхнага галаўнога мозгу! У кожнай гімназіі старога рэжыму палова вучняў разыходзілася раней, чым даходзіла да пятага класа, і прытым ніяк не з нагоды беднасьці, а выключна таму, што патрабуемая разумовая праца для іх была цалкам непасільнай.

Сучасны грамадзкі дзеяч павінен цьвёрда памятаць, што з усіх відаў працы самай цяжкай для сярэдняга чалавека з’яўляецца менавіта праца разумовая, і цалкам працаздольнымі ў гэтай вобласьці з'яўляецца пакуль толькі нязначная меншасць. Менавіта таму яна і асабліва шануецца. Фізічная ж праца шануюецца мала менавіта таму, што да яе здольны  вялізная большасць насельніцтва.

Сілком прымушаць малаздольнага да разумовай працы дзіцёнка працаваць у разумовай вобласьці, а малаздольнага да фізічнай – выконваць яе, гэта азначае зрабіць малапрадукцыйнай як тую, так і другую. Дзяржава павінна кожнаму даць матэрыяльную магчымасць дасягаць вяршыні ведаў, але яна павінна загадзя прадбачыць, што да гэтай вяршыні дойдзе толькі нязначная меншасць, і таму рацыянальная школа, на кожнай сваёй ступені, павінна мэтанакіравана скіроўваць у лягчэйшую і не менш паважаемую і патрэбную вобласць фізічнай працы тых, для каго далейшае навучанне ўяўляецца непасільным.

Але вернемся да прадмета гэтай часткі майго выкладання – да з'яваў нашага падсьвядомага жыцця, таму што выразнае ўяўленне пра механізмы яго дзейнасьці патрэбна для слушнага разумення некаторых дзіваў, прыпісваемых «евангельскаму Хрысту» і іншым клерыкальным дзеячам. Галоўная роля ў псіхічным жыцці сфармаваўшагася чалавека належыць не «дрэву жыцця», у мазжачку (як выпадкова назвалі гэты акумулятар нярвовай энергіі вельмі ўдала анатамы эпохі Адраджэння), а мазгавай кары. «Дрэва Жыцця», калі яно і з’яўляецца зарадчыкам нашай жыццёвай энергіі, гэта – толькі больш-менш моцная дынамамашына, прыводзячая ў рух шматлікія станкі, ад дасканаласьці і колькасьці якіх залежыць прадукцыйнасць і дасканаласць выпрацоўваемых імі прадуктаў.

Нашы самыя арыгінальныя думкі здаюцца нам прыходзячымі ў нашу сьвядомасць невядома адкуль і сыходзячымі із яе невядома куды, замяняючыся ўсё новымі і новымі, як у калейдаскопе, толькі таму, што яны выпрацоўваюцца не ў мазжачку, гэтай асэнсаванай вобласьці нашай сьвядомасьці, а ў цёмным сховішчы паўшар'яў нашага вялікага мозгу.

«Дух дыхае, дзе хоча, – паведамляе нам евангеліст Ян (3,8), – яго прысутнасць бачыш, але не ведаеш, адкуль ён прыходзіць і куды ідзе».

А зараз мы ўжо ведаем, што ўсе праявы гэтага духу, ці, па-сучаснаму, натхненні, прыходзяць у вобласць нашай асэнсаванай сьвядомасьці із нашых уласных мазгавых паўшар'яў.

Адсюль жа прыходзяць у яе, – г.азн. у мазжачок, – і сны, і напалову сны, і мроі. Змена зрокавых адчуванняў пры нармальным сне бывае часта цалкам без колераў, як на гравюры, і гэтая акалічнасць, відаць, і дае нам лёгкую магчымасць адрозніваць бачанае ў сне ад бачанага ў рэчаіснасьці. Музычныя гукі таксама прыходзяць у сонную сьвядомасць толькі з нешматлікімі тыповымі абертонамі, дзякуючы чаму нярэдка бываюць больш чыстымі, чым у рэчаіснасьці. Наша сьвядомае «я» з гэтага боку гледжання з'яўляецца толькі калектывам сотняў тысяч бялковых нярвовых малекул, што сабраліся, як пупырышкі на распусьціўшымся вясной кусьце, на дрэве жыцця – мазжачку, у яго шэрым рэчыве. І ўсе яны жывуць

адным жыццём, аднай сьвядомасьцю, хаця і выключна пад штохвілінна змяняючымся наданнем асобных абласьцей вялікага мозгу.

Хай, напрыклад, хаця б адна малая пірамідападобная клетка пад Сільвіевай баразнай нашага мозгу атрымлівае ўражанні музычных гукаў ад гангенаўскіх валокнаў, якія знаходзяцца пад корціевымі дугамі нашага вушнога смаўжа. Цэнтральная бялковая малекула гэтай клеткі, пад Сільвіевай баразной, робіць дзякуючы гэтаму пасьлядоўны шэраг вядомых рытмічных ваганняў, і яны неадкладна перадаюцца суседнім малекулам гэтай вобласьці вялікага мозгу, праз атачаючае іх асяроддзе, падобна таму, як гук, выдаваемы прыведзеным у вібрацыю камертонам, неадкладна пераймаецца ўсімі камертонамі, размешчанымі каля яго і наладжанымі ва ўнісон з ім. Там гэтыя музычныя ваганні камбінуюцца з водгукамі раней пачутых музычных тонаў і імкнуцца паведаміць усё гэтае згуртаванне мазжачку па валокнах дрэва жыцця. Калі гэтае намаганне дастаткова моцнае, яно перадужае намаганні іншых частак вялікага мозгу правесьці ў мазжачок іншыя ўражанні, і мы будзем усьведамляць чуемую музыку не як упершыню пачутыя гукі, але на фоне гучання ўсіх іншых музычных гукаў калі-небудзь чутых намі. Дакладна тое ж адбываецца і із усімі іншымі непасрэднымі, напрыклад, зрокавымі ці нюхальнымі, уражаннямі. На шляху да мазжачка яны камбінуюцца, ці асацыююцца з ранейшымі ўражаннямі, лакалізаванымі ў адпаведных абласьцях кары вялікага мозгу і дакладна так жа перадаюцца адтуль праз лобную частку ў апрацаваным выглядзе, г.азн. скамбінаванымі з водгаласамі ўсіх ранейшых уражанняў, захоўваўшыміся ў падсьвядомай вобласьці кары мазгавых паўшар'яў. Такім чынам, усе асобныя часткі коркавага рэчыва вялікага мозгу жывуць заўсёды сваім уласным адмысловым падсьвядомым жыццём, існуючым і тады, калі орган, праз які яны атрымліваюць свае ўражанні ад навакольнага сьвету не дзейнічае (калі, напрыклад, вочы заплюшчаны ці вушы заткнуты). І ад усіх гэтых абласьцей, асабліва ад пірамідападобных клетак лобнай часткі нашага мозгу, у якіх знаходзіцца, відаць, іх агульна-камбінуючы падсьвядомы апарат мышлення, ідуць разнастайныя паведамленні ў вобласць нашай выразнай сьвядомасьці ў шэрым рэчыве мазжачка па адгалінаваннях дрэва жыцця.

Тут нашай сьвядомасьцю ўзважваецца адноснае значэнне гэтых разнастайных камбінацый уражанняў і адчуванняў і пасылаюцца сьвядомыя імпульсы для таго ці іншага дзеяння.

Такім чынам, мазгавыя паўшар'і з’яўляюцца субгесьцівіруючым, атрымліваючым і замацоўваючым ў сабе наданні, органам, а мазжачок з’яўляецца толькі яго слухачом і выканаўцам таго, што здаецца яму патрэбным. Ён робіць крытычны агляд сваіх разнастайных успрыманняў із вялікага мозгу і часта, даўшы дырэктыву, ужо займаецца аглядам іншых, адтуль жа атрымліваемых паведамленняў, а дадзенае ім заданне працягваецца механічна, як хадзьба, на выкананне якой, аднойчы яе пачаўшы, мы не звяртаем больш асоблівай увагі, ці як рухі сківіц і горла падчас ядзення.

Із усяго сказанага зразумела, што калі мы чым-небудзь (напрыклад, манатоннымі гукамі) усыпілі ў каго-небудзь мазжачок, не ўсыпіўшы яго мазгавых паўшар'яў, то яго ролю можа выконваць і наш уласны мазжачок, перадаючы паўшар'ям дасьледуемага намі індывіда адпаведныя наданні праз орган яго слыху, невядомыя для яго ўласнага мазжачка. І калі наша воля мацней за волю аб'екта нашага ўплыву, то гэта наданне застанецца і пасьля таго, як яго ўласны мазжачок абудзіцца ад свайго ўсыплення, г.азн. калі злучаючыя валокны паміж ім і

мазгавымі паўшар'ямі зноў зробяцца актыўнымі. Зразумела, што такім шляхам у чалавечы мазжачок можна уводзіць і чыста прывідныя ўяўленні із гэтых паўшар'яў, якія яго сьвядомасьцю будуць лічыцца цалкам рэчаіснымі. Можна і забараніць мазгавым паўшар'ям перадачу ў мазжачок таго ці іншага роду зрокавых ці слыхавых уражанняў, г.азн. часова ўсыпіць пасярэднічаючыя пірамідападобныя цельцы, як гэта бывае, калі нейкаму суб'екту забараняюць нешта бачыць ці чуць (падобна таму, як можна забараніць тэлефаністкам перадаваць у цэнтральны ўнутраны кабінет тай ці іншы род тэлефонных паведамленняў).

Такім чынам, субгесьція ці наданне з'яўляецца спецыфічным вынікам характэрных узаемадачыненняў паміж малымі пірамідападобнымі падсьвядомымі клетачкамі паўшар'яў вялікага чалавечага мозгу і клетачкамі сьвядомай дзейнасьці мазжачка.

Чым ніжэй і вужэй разумовае развіццё чалавека, тым меншую ролю ў яго псіхічнай дзейнасьці мае мазжачок і тым лягчэй паўшар'і яго мозгу могуць падпадаць пад уздзеянне субгесьціі староннiх асоб. Вось чаму на працягу ўсіх сярэдніх стагоддзяў нашай эры, а таксама і зараз у малакультурных краінах прывіднае непараўнальна больш дамешвалася да рэчаіснага, чым у нашы дні ў высокакультурных краінах.

Разважаючы пра механізм нашага мышлення, асабліва творчага, немагчыма не адзначыць вялікую аналогію дзейнасьці двух паўшар'яў нашага вялікага мозгу з дзеяннем двух кінематаграфічных апаратаў, праводзячых праз асьветленае месца шэраг выяваў, то сістэматычна падабраных у падсьвядомым складзе нашых мазгавых, паўшар'яў, то бязладных, мяркуючы па таму, наколькі моцна ўзбуджана наша ўвага, г.азн. сістэматызуючая іх магутнасць. Але ў чым жа складаецца гэта магутнасць? Мне здаецца ў тым, каб наладзіць ўсведамляючыя клетачкі нашага мазжачка на вызначаны тон, г.азн. так, каб яны адклікаліся толькі на вызначаныя нярвова-магнетычныя ваганні, прапускаючы гэтым із падсьвядомага хаосу галасоў агульнай тэлефоннай залы паўшар'яў нашага мозгу толькі асобныя галасы, застаючыся глухімі да ўсіх астатніх. Абодва гэтыя кінематаграфічныя апараты дзейнічаюць то паралельна адзін аднаму, то з часовымі адхіленнямі ад паралелізму, накладаючы разнастайныя выявы адну на адну, прыводзячы іх у супастаўленні і пакідаючы пры гэтым у цемры, г.азн. па-за вобласьцю ўсведамлення, усе свае пабочныя паведамленні (хаця ініцыіруючая роля ў чалавека і належыць звычайна леваму паўшар'ю).

Чым багацей і разнастайней запас паведамленняў, назапашаных у мінулым чалавекам (асабліва шляхам чытання), тым разнастайней магчымасць такіх незалежных супастаўленняў, і таму мышленне чалавека высока адукаванага багацей і разнастайней мышлення дзікуна, проста адпаведна таму, над чым у яго жыцці спынялася калі-небудзь яго сьвядомасць, бо ад усяго гэтага ў кары паўшар'яў мозгу засталіся ў яго невядомыя яму сьляды. Гэтае мышленне здзяйсняецца тым хутчэй, чым хутчэй рухаюцца ў чалавека абодва кінематаграфічныя апараты, і яно тым больш здольна да творчасьці, г.азн. арыгінальнага спалучэння падобных у тых ці іншых дэталях ўражанняў, чым больш незалежны адзін ад аднаго іхны ход. Абодва апараты маюць схільнасць асацыяваць свае выявы аднастайна, г.азн. калі левае паўшар'е вылучае із сябе адзін шэраг мінулых уражанняў, то яго ж вылучае і правае, таму што абодва яны атрымвалі іх некалі разам праз органы вонкавых адчуванняў, але часам яны пачынаюць ісьці паасобку, і тады замест успамінаў пачынаецца мышленне.

Але калі гэта так, то памяць пра доўгую пасьлядоўнасць падзей можа развівацца толькі у якасьці творчага мышлення, і наадварот – творчае мышленне можа развівацца толькі гунтуючыся на памяці. У вобласьці гістарычных навук амаль аж да Томаса Бокля вылучаліся навукоўцы з моцна развітай памяццю і таму менш здольныя да разнастайных супастаўленняў сваіх паведамленняў, чым у навуках разумовых, якімі спрадвеку з'яўляліся натуральныя і матэматычныя навукі. Ды гэта часам бывае і зараз.

Адзін із маіх сяброў, астраном, жанаты на вельмі начытанай гістарычцы, нядаўна жаліўся мне:

– Я і мая жонка ніколі не прыходзім да пагаднення пры ўсіх размовах пра старажытную гісторыю. Яна не давярае мышленню, як свайму, так і чужому, а я не давяраю памяці, як сваёй, так і памяці нашых продкаў, г.азн. гістарычнай традыцыі. Я жыву мышленнем і супастаўленнем, яна жыве верай і памяццю. Ад гэтага – цэлая трагедыя ў нашым ідэйным жыцці: мы перасталі размаўляць пра ўсё, акрамя гаспадаркі і палітыкі.

Цяжкасць разнастайных параўнанняў для нас абумаўліваецца, дарэчы, не аднай глыбінёй нашай веры ў тое, што нам перадалі продкі, але таксама і аднабаковасьцю нашай сярэдняй адукацыі, пры крайняй спецыялізацыі вышэйшай. Але выйсьце адсюль толькі адно – дасягненне рознабаковасьці ў адукацыі, якую дае сярэдняя, агульнаадукацыйная школа, а не ператварэнне факультэтаў, г.азн. адмысловых інстытутаў навукі, у дадатковыя агульнаадукацыйныя ўстановы, як некаторыя прапаноўвалі на пачатку нашай рэвалюцыі. Больш жа ўсё шкодзіць «павярхоўнасць» ведаў, бо абодва пражэктары ў мозгу, не, назапасіўшы вялікай колькасьці паведамленняў на працягу шматлікіх гадоў зацятай працы, будуць у такім разе крыва і наўскос блукаць па сваім мізэрным сховішчы паведамленняў і рабіць выродлівыя супастаўленні, уяўляючы, што ствараюць нешта вялікае.

Адзначу яшчэ, што практыка доўгага чытання і мышлення робіць больш хуткім наша разумовае жыццё. Полем нашай сьвядомасьці з’яўляецца, відаць, увесь павярхоўны пласт шэрага рэчыва нашага мазжачка, але на гэтай паверхні ў чалавека высокаадукаванага яскрава вымалёўваецца на працягу кароткага прамежку часу вялізная колькасць апрацаваных выяваў, тады як у неадукаванага толькі грубыя, невыразныя контуры без дэталяў, ды і то параўнальна павольна і цьмяна.

Лёгкая схільнасць абодвух кінематаграфічных апаратаў нашага мозгу засяроджвацца на нейкай упадабанай вобласці сховішча сваіх ведаў і трапляць туды, як у вір ці ў зачараванае кола, із якога цяжка выбрацца, абумаўлівае дакучлівыя ідэі, а параліч аднаго паўшар'я мае наступствам няздольнасць да якога б то ні было мышлення, калі палова сьвядомасьці яшчэ існуе і можа блукаць мудрагеліста, як патрапіцца, але не можа спыніцца ні на чым, бо для гэтага няма захапляючага ўплыву іншага апарата. Гэта ўжо трызненне вар'ята, а не выразная сьвядомасць.

Класічная псіхалогія падзяляе усе з'явы вашага душэўнага жыцця на тры аддзелы: розум, адчуванне і воля, і мы часам машынальна паўтараем гэта, не даючы сабе выразнай справаздачы ў тым, што гаворым.

Сапраўды, што ж такое воля? Ужо само ўтварэнне гэтага слова паказвае, што гэта нейкі «загад», але адкуль і як ён прыходзіць – незразумела. Дакладна тое ж можна сказаць і пра розум, што назва яго паходзіць ад слова ўменне.

Каб разабрацца ў справе, забудземся на некаторы час пра ранейшыя вызначэнні і паспрабуем высветліць сутнасць справы нанова шляхам саманазірання, як калі б мы раней нічога не чулі пра гэты прадмет. Што мы тады заўважым? Перадусім наступнае.

Усьведамляючая павярхоўная вобласць мазжачка, дзе знаходзіцца наша ўсьведамляючае «я», атрымлівае адмысловыя пведамленні пра жыццё навакольнага фізічнага сьвету праз нервы, ідучыя да яе ад нейронаў кары вялікага мозгу, якія, у сваю чаргу, атрымваюць свае ўражанні ад нерваў, ідучых да іх ад органаў, зроку, слыху, нюху, дотыку і густу.

Гэта азначае, **I аддзел нашага пачуццёвага** сьвядомага жыцця складаецца із уражанняў, прыходзячых із наваколля, размешчанага па-за нашым целам. Яны заўсёды арыентуюцца вышэйпералічанымі органамі нашых пачуццяў па прасторы і часу і злучаюць наша цела з навакольным асяроддзем у адно цэлае.

Потым, наша ўсьведамляючае «я» атрымлівае такім жа чынам, з дапамогай пасярэдніцтва нейронаў шэрага рэчыва вялікіх паўшар'яў, паведамленні пра з'явы, адбываючыяся выключна ў сярэдзіне нашага цела. Гэтае цела на справе з’яўляецца толькі неаддзяляемай часткай сусьвету і злучана з ім безперапыннасьцю, не меншай, чым наша рука злучана з нашым плячом, але, дзякуючы таму, што дадзеныя згуртаванні нярвовых валокнаў не выходзяць за межы гэтай вобласьці, яно здаецца нам індывідуалізаваным, як бы адлучаным ад усіх астатніх цел і ад усіх ўсведамляючых сваё «я» іншых людзей, чаго насамрэч няма. Такім з’яўляецца адчуванне болю, арыентуемым у нейронах, злучаных нервамі з рознымі абласьцямі нашага цела; такім з’яўляецца адчуванне голаду, арыентуемае ў нейронах, злучаных нервамі, галоўным чынам, са страўнікам, такое адчуванне стацевай схільнасьці, так сама арыентуемая больш за ўсё ў нейронах, злучаных нервамі з органамі прадаўжэння роду; такія ж і адчуванні жаху, радасьці, злосьці, шкадавання і ўсе іншыя самыя высокія і нізкія адчуванні, арыентуемыя ў нейронах галаўнога мозгу, злучаных нервамі з дапамоай «сімпатычнага спляцення» з сэрцам і з іншымі ўнутранымі органамі нашага цела. Як чыста ўнутраныя, яны здаюцца нам хаця і арыентаванымі ў часе, але цалкам не злучанымі з прасторай.

Гэта **II аддзел** нашага **пачуццёвага** жыцця. Карані ўсіх гэтых адчуванняў знаходзяцца, звычайна, таксама ў атачаючым нас наваколі па-за межамі нашага цела (напрыклад, нагода жаху, голаду, радасьці і ўсіх іншых ілжэ-ўнутраных пачуццяў), але яны даходзяць да нашага ўсьведамляючага «я» не шляхам непасрэдных правадоў, а цалкам перапрацаваўшыся ў адмысловых органах: голад у страўніку, жах ці радасць – у сэрцы і іншых органах кровазвароту, задышка – у лёгкіх, а хваравіты жар і дрыжыкі – у рэгулятарах тэмпературы нашага цела і г.д.

Такім з’яўляецца наша пачуццёвае жыццё з фізіялагічнага боку гледжання. Разгледзім зараз і разумовае жыццё.

Вобласць мазжачка, дзе размешчана наша ўсьведамляючае «я», увесь час атрымлівае ўражанні із шэрага павярхоўнага пласта мазгавых паўшар'яў, дзе засяродана падсьвядомая дзейнасць нашага мозгу. У гэты пласт мазгавых паўшар'яў прыходзяць водгаласы ўсіх імпульсаў, атрымліваемых намі із жыцця нашага лжэ-вонкавага і лжэ-ўнутранага сьвету, і застаюцца там у асобных нейронах ці ў іхных згуртаваннях, арыентаваных у розных абласьцях мазгавай кары, адпаведна роду адчуванняў і як бы вагаюцца ў іх, падобна стаячым хвалям паміж рыфамі марскога заліва, і імкнучыся пры кожным новым уздыме пераліцца зноў, як праз запруду, у сьвядомую вобласць нашага мозгу, у выглядзе ўспамінаў

пра аднойчы перажытае, г.азн. ствараючы адмысловую галюцынацыю ранейшага рэчаіснага ўражання, адрозніваемага нашым ўсьведамляючым «я» ад яго сучасных рэчаісных уражанняў толькі дзякуючы таму, што яно прыходзіць да яго хаця із тых жа мазгавых паўшар'яў, але ўжо з іншым каларытам. Калі такія стаячыя хвалі нейкага асобнага ўражання ў згуртаванні клетачак мазгавай кары не аднаўляюцца паўторнымі ўражаннямі ад рэчаіснасьці, ідучымі па тых жа шляхах, і не павялічваюцца ад рэзанансу, узбуджаемаму ў іх нейкімі роднаснымі ўражаннямі іншых клетачак тай жа вобласьці, то яны паступова слабеюць і забываюцца, г.азн. перастаюць час ад часу пераліваццa ва ўсведамляючую вобласць мозгу сярод іншых пераліваў. У адваротным жа выпадку яны застаюцца на ўсё жыццё, г.азн. пры кожным штуршку, павялічваючым амплітуду іхных ваганняў (ці, калі слабеюць уражанні рэчаіснага жыцця нашага цела, заглушаючыя іх, як, напрыклад, у сне ці гіпнатычным стане), яны могуць зноў пераліваццa ў гэтую вобласць у выглядзе мрояў. І я зноў тут паўтараю тое, што ўжо сказаў раней.

Чым большай з’яўляецца колькасць і разнастайнасць уражанняў засвоеных чалавекам на працягу мінулага жыцця, асабліва дзякуючы разнастайнаму чытанню, якое дае на працягу аднаго дня столькі ж уражанняў і думак, колькі непісьменнаму не набыць і за год жыцця, тым больш шматлікімі і разнастайнымі застаюцца іх вечна хвалюючыяся сьляды ў клетачках вялікіх паўшар'яў, і ўсе яны натоўпамі імкнуцца зноў праравацца ў тую вобласць нашага мозгу, дзе засяроджана наша сьвядомасць. Але сама іхная шматлікасць у разумова развітага чалавека мае наступствам тое, што яны набываюць здольнасць прабрацца туды толькі роднаснымі згуртаваннямі, часова адціснуўшы ўсе іншыя згуртаванні. Іхнае ўзаемнае спаборніцтва і пералівы з'яўляюцца для нашага ўсьведамляючага цэнтра ілюзіяй яго ўласнага, нібы адвольнага, мышлення, тады як усе яны прыходзяць у яго грунтуючыся на волі нярвовых індукцый із падсьвядомага сховішча двух паўшар'яў яго вялікага мозгу. У неразвітага чалавека асацыяцыі ідэй, г.азн. згуртаванні мінулых уражанняў, моцна перапрацаваных і разнастайна скамбінаваных ва ўмовах адсутнасьці ўсьведамлення паўшар'яў мозгу, невялікія і круцяцца звычайна каля найбольш блізкіх патрэб яго гаспадарчага і сямейнага жыцця ці такіх жа побытавых спраў сваіх суседзяў і суседак. А ў разумова развітага і ўсебакова адукаванага чалавека яны ахопліваюць усю вобласць сусьветнага жыцця, і ён пачынае адчуваць у сабе адлюстраванне ўсяго сусьвету, і вось усьведамленні кожнага старонняга чалавека пачынаюць здавацца яму толькі разнастайнымі варыяцыямі яго ўласнанага ўсьведамлення, пашырыўшыгася без перарывання на іншыя вобласьці агульнасусветнай прасторы, гэтай усё напаўняючай сусьветнай душы.

Такім чынам, стан мышлення з’яўляецца нармальным станам нашай сьвядомасьці, але характар гэтай з'явы бывае розным у розных людзей.

У малаадукаванага чалавека мышленне, – як я ўжо згадваў, – не толькі зводзіцца на колазвароту адных і тых жа нешматлікіх асацыяцый ранейшых уражанняў, але, пры кожнай самай малой нагодзе із навакольнага сьвету яго ўсведамляючы цэнтр увесь запаўняецца рэчаіснымі адчуваннямі гэтага сьвету праз зрок, дотык, нюх, слых ці паведамленнямі ад яго ўласнага цела (боль, нуда і іншыя «самаадчуванні»), ці ён пачынае прагна ўспрымаць чужыя прамовы, сілкавацца сховішчамі чужых мазгавых паўшар'яў, запамінаючы, як бачанае і пачутае ім самім, усё, што бачылі, чулі і назапасілі ў сваёй падсьвядомай вобласці іншыя, калі гэтае іхнае сховішча не вельмі вялікае і разнастайнае, параўнальна з яго ўласным.

У адваротным выпадку сьвядомая вобласць яго мазжачка перастае іх разумець, а пры спробах засвоіць – хутка стамляецца, г.азн. пачынае засынаць ці разглядаць і слухаць нешта чужое. Гэта мае назву стану неуважлівасьцці ў разумовым дачыненні.

А ў чалавека, які назапасіў дякуючы зацятай і доўгай разумовай працы вялікае і разнастайнае сховішча ведаў, г.азн. уражанняў, прыйшоўшых у падсьвядомую вобласць яго вялікага мозгу, выпрацоўваецца, наадварот, здольнасць пры кожным зручным і нават нязручным выпадку пагружацца ў іх, аддзяляючы сваё усьведамленне ад уражанняў навакольнага сьвету. Ён на дзевяць дзясятых пачынае жыць тым, што яму надае із падсьвядомай вобласьці яго ранейшае разумовае жыццё. Ідучы куды-небудзь, ён лёгка забываецца апрануць тое, што патрэбна; не пазнае на вуліцы свайго знаёмага, тады як неразвіты чалавек яшчэ здалёк усё заўважыць, але, замест таго, не здзейсніць за гэты час ніякай новай камбінацыі ўяўленняў.

Аднак, і ў разумова разьвітых людзей склад мышлення, г.азн. пасьлядоўныя згуртаванні і спалучэнні ўражанняў, прыходзячых у сьвядомасць із падсьвядомай вобласьці, не аднолькавыя. У адных – аднойчы злучыўшыяся ў нейкім накірунку протаплазматычныя адгалінаванні нейронаў мазгавай кары так і застаюцца ў гэтым становішчы, замацаваўшы аднойчы склаўшуюся асацыяцыю ўражанняў. Яны вызначаюцца вельмі добрай памяццю, але дрэнным творчым мышленнем, патрабуючым вялікай рухомасьці гэтых атажылкаў, так, каб кожны нейрон імкнуўся злучыцца то з тым, то з другім із суседзяў, як бы працягваючы руку то таму, то іншаму. Гэта азначае, здольнасць творчага мышлення, як я ўжо выказваўся, павінна абавязкова грунтавацца на дасканаласьці памяці, і наадварот. Гэта асобна можна сказаць пра адгалінаванні тых нейронаў, якія размяшчаюцца ў вялікіх бакавых лопасьцях мозгу Сільвіевай барозны і ў якіх назапашваюцца ў вобласць падсьвядомага лагічныя, г.азн. моўныя, пісьмовыя, дотакавыя (у сьляпых) ці іншыя сімвалы непасрэдна атрымліваемых уражанняў. Калі іхныя цыліндрычныя адгалінаванні трывала злучаны з адпаведнымі атажылкамі непасрэдных уражанняў ад органаў пачуццяў, то ўсе мімалётныя камбінацыі апошніх лёгка будуць выказвацца «лагічна», г.азн., у звычайных людзей, словамі. Чалавек будзе гаварлівы, але не глыбока мыслячы. Ён таксама будзе больш здольным памятаць чужыя апавяданні, чым выказваць уласныя непасрэдныя ўражванні. Ён будзе даверлівым, г.азн. схільным кіравацца больш не сваім, а чужым розумам, г.азн. перапрацаваным складам падсьвядомых уражанняў у чужых мазгавых паўшар'ях. Будзе лёгка падпадаць пад рэлігійнае, гіпнатычнае і розныя іншыя наданні.

Такім чынам, **III аддзел нашай псіхікі**, маючы назву сьвядомага мышлення, складаецца із дзейнасьці ва ўсьведамляючай вобласьці мазжачка разнастайных водгаласаў ранейшых непасрэдных уражанняў, застаўшыхся ў мазгавых паўшар'ях, вечна перапрацоўваючыхся і разнастайна камбінуючыхся паміж сабай з дапамогай рухаў протаплазматычных выспачак іхных асабістых нейронаў і ў злучаных з імі «лагічных нейронах» скроневых доляў Сільвіевай барозны. Гэтыя перапрацаваныя ў падсьвядомай вобласьці ўражанні, г.азн. ідэі, хаця і лакалізаваны ў розных месцах мазгавых паўшар'яў, але так як яны размешчаны цалкам у падсьвядомым жыцці, то і здаюцца толькі функцыяй нашай сьвядомасьці, па-за якой бы то ні было прасторай.

Некаторыя із іх, такія як, напрыклад, ідэі дабра і зла, добрага і благога, уяўляюць сабой вельмі складаныя камбінацыі шматлікіх ранейшых уражанняў і

сыходзяць у вобласць адчуванняў шматлікіх ранейшых пакаленняў, перадаўшых іх нам шляхам наданняў з дзяцінства, з дапамогай вялікай прылады культуры – здольнасьці размаўляць і вынайдзенай пісьмовасьці.

Зараз мы разгледзелі з сучаснага прыродазнаўча-навуковага боку гледжання сутнасць механізму тых абласьцей чалавечай псіхікі, якія класічная псіхалогія назвала пачуццём і розумам. Але што ж такое з гэтага боку гледжання наша «сьвядомая вольная воля?»

Прызнаўшы ўвесь вялікі галаўны мозг органам падсьвядомай нярвовай дзейнасьці, мы не знаходзім для вольнай волі іншага месца і органа акрамя мазжачка і яго «дрэва жыцця», падобнага на сістэму індуцыруючых адна другую пласьцінак у вольтавым слупе.

У гэты цэнтральны і асабліва старанна абаронены прыродай ад магчымасьці якіх бы то ні было пашкоджванняў орган прыходзяць дзякуючы злучаючых яго з усімі астатнімі часткамі мозгу нярвовым праваднікам, акрамя ідэй із мазгавых паўшар'яў і іхных лагічных сімвалаў ад скроневых звілін і розных успрыманняў органаў вонкавых і ўнутраных адчуванняў, таксама і заявы пра іхныя патрэбы, сярод якіх прысутнічаюць і вельмі важныя для самога існавання арганізма, напрыклад, патрэба ў ежы і пітве.

Гэтыя заявы, лакалізуючыся ў некалькіх, вызначаных для кожнай із іх, месцах вялікага мозгу і перапрацоўваючыся там, пасылаюць ва ўсьведамляючую вобласць шэрай кары мазжачка сфармаваныя ўражанні, а дзякуючы ім у «дрэве жыцця» ўзнікае воля зрабіць тое ці іншае, ці не рабіць таго ці іншага, і гэта выяўляецца ва ўзнікненні адчування сьвядомага жадання ці нежадання, а калі з розных абласьцей вялікага мозгу ідуць супярэчлівыя загады, – то пачуццём вагання паміж тым ці іншым. Калі гэтае ваганне спыняецца, із дрэва жыцця ідзе да перыферычных абласьцей вялікага мозгу імпульс даслаць нярвовы ток для ўзнікнення руху тым ці іншым мязам. Калі мязам дадзена цалкам вызначаная і даўно звыклае заданне, ужо пакінуўшае трывалыя сьляды ў вобласьці падсьвядомага жыцця, напрыклад, ісьці некуды, то далейшае выкананне і накірунак прайшоўшага праз сьвядомасць імпульса зноў перадаецца ў вобласць несьвядомага, а дзейнасць ўсьведамляючай вобласьці мозгу засяроджваецца на іншых пытаннях.

Гэта азначае, ІІІ аддзел нашай псіхікі – жаданне і воля нешта рабіць ці не рабіць – лакалізуецца ў «дрэве жыцця» пасярэдзіне нашага мазжачка. Гэта павінна быць акумулятар нярвовай энергіі.

Такай з'яўляецца рэзюміроўка ўсёй псіхалогіі здаровага чалавека з вылучаемага мнай анатамічнага і фізіялагічнага боку гледжання.

* * *

Пад час першых стагоддзяў нашай эры, калі чалавечая думка яшчэ толькі-толькі нараджалася на ўзбярэжжах Міжземнага мора, і жыццё было больш небяспечным і менш спакойным, простанародныя масы, – як я ўжо сказаў, – былі непараўнальна больш схільнымі падпадаць пад субгестыю, г.азн. сляпую веру і рабскае падпарадкаванне людзям узвышаючымся над імі духоўна і фізічна, чым гэта існуе зараз. Гэтая акалічнасць рабіла больш лёгкім і распрацоўку метадаў субгестыі, у якай спачатку бачылі сьвятое мастацтва, вялікую магутнасць, асобна дараваную багамі ганараваным імі людзям і толькі пазней, пад час сярэдніх стагоддзяў, пачалі лічыць за дз'ябалства, магчыма, таму, што гэтай магутнасьцю сапраўды пачалі злоўжываць .

У тыя часы, калі жыў той, каго мы завём евангельскім Хрыстом, яшчэ нават не існавала і ўяўлення пра чарцей, і спосабы ўжывання субгестыі ці магіі, якая яшчэ не падзялялася на чорную і белую, лічыліся сьвятым мастацтвам, асабліва ў дачыненні да псіхатэрапіі, г.азн. лекавання душэўна хворых.

Вось чаму і падобныя легенды пра Вялікага Лекара і Чараўніка, як ператварэнне вады ў віно на вяселлі ў Кане Галілейскай, хаджэнне па вадзе, перараджэнне і абуджэнне ім Лазара ці дачкі Іаіра ад наданага летаргічнага сну, ці нават насычэнне пяці тысяч чалавек некалькімі рыбамі, як пра тое паведамляюць евангелісты, ніяк не могуць быць прызнаны за не маючыя падставаў прыдумкі, а павінны быць разглядаемы, як маючыя нейкія карані ў рэчаіснасьці.

Усе адрозненне гэтых апавяданнаў ад сучасных толькі ў тым, што мы апісваем зараз такія з'явы з боку гледжання рэчаіснай навукі, а евангелісты, як дзеці свайго часу і асяроддзя, маглі іх разумець толькі з містычнага боку гледжання, на якім тады стаялі ўсе навукоўцы. А таму і прыпісаныя імі Езусу словы: «калі скажаце гары: пасунься са свайго месца, і не засумняваецеся ў гэтым, то праўду кажу вам адбудзецца згодна з вашым жаданнем», маглі быць прыпісаны яму аўтарамі з поўным перакананнем у іхную праўдзівасць.

І мы ж таксама можам сказаць з поўнай ўпэўненасьцю, што ў такім выпадку (г.азн. пры поўнай веры ў гэта) неадменна мела б месца адпаведная галюцынацыя. Але ці адрозніваў галюцынатыўнае ад рэчаіснага сам сапраўдны герай евангельскага рамана? Мы ўжо ведаем із папярэдняга, што людзі, розум якіх не падрыхтаваны сучаснай навукай, ніколі не адрозніваюць гэтага. Гэта азначае, мог не адрозніваць і «Вялікі Цар». Мы можам тут толькі адзначыць, што ў евангельскіх апавяданнях пра яго галоўныя ўжыванні субгестыі прыпісваюцца яму ў найбольш гуманітарнай форме: для лекавання хворых, а некаторыя, чыста дэманстратыўныя, выпадкі могуць быць разглядаемы як чыста навуковыя эксперыменты.

Разгледзім жа змест чатырох Евангелляў, захаваўшыхся ад X стагоддзя ў несумнеўным царкоўным ужыванні, як у рымскай, так і ў візантыйскай цэрквах, і таму дзякуючы выключнаму памнажэнню сваіх рукапісаў больш гарантаваных ад апакрыфічных дадаткаў і варыяцый, прымешваемых наступнымі рэдактарамі і кніжнікамі-перапісчыкамі да першапачатковага тэксту ўсіх сапраўды старажытных рукапісаў. Я толькі-што выказаўся: «з X стагоддзя», таму што большую старажытнасьць сучаснай літургіі, як праваслаўнай, так і каталіцкай, таксама лічу апокрыфам, і не без падставаў.

Самымі старажытнымі манускрыптамі Евангелляў (і Бібліі) лічацца Сінайскі манускрыпт (Codex Sinaiticus), захоўваемы ў рукапісным аддзяленні Ленінградзкай Публічнай Бібліятэкі, а потым Ватыканскі манускрыпт (Codex Vaticanus), Александрыйскі манускрыпт (Codex Alexandrinus) у Брытанскім музеі і манускрыпты Безы і Яфрэма Сірына (Codex Beza, Codex Ephraemi Syri) у Парыжскай нацыянальнай бібліятэцы.

Усе яны, без выключэння, былі знойдзены не раней XVII стагоддзя, а калі напісаны – наогул невядома. Упершыню паспрабаваў вызначыць іхны час нямецкі багаслоў Тышэндорф, кіруючыся, галоўным чынам, тым, што яны напісаны прапіснымі літарамі, без знакаў прыпынку і падзелу на словы, прыпісаў іхнае паходжанне пачатку сярэдніх стагоддзяў, а Сінайскі манускрыпт, атрыманы ім самім ад сінайскіх манахаў, – нават IV стагоддзю... Але гэтым жа самым почыркам пісалі і ў X стагоддзі. А калі я пяць гадоў таму назад даследаваў Сінайскі манускрыпт грунтуючыся на якасьці пергаменту, то адразу ж звярнуў увагу, што

яго лісты цалкам мяккія і гнуткія, тым часам, як нават пры 500-600-гадовым узросьце ад хімічнага ўплыву кіслароду паветра пергамент цьвярдзее і робіцца ломкім. З гэтага боку гледжання за самымі старажытнымі із вядомых нам манускрыптаў Евангелляў і Біблій ніяк немагчыма дапусьціць нават і тысячагадовага веку. Усе яны створаны пазней восьмага стагоддзя нашай эры, і, хутчэй за ўсё, нават значна пазьней.

Гэта бачна і па шмат якіх месцах іхнага зместу. Вось чаму я далей буду кіравацца, перадусім, астранамічным метадам вызначэння іхнага часу, а зараз разгледжу некаторыя дэталі старажытнай гісторыі, грунтуючыся на тым, што евангельскі Хрыстос быў слупаваны ў 368 годзе, 21 сакавіка.

Із сямі сусветных сабораў «Нікейскі»[305], як адносімы да 325 года, г.азн., за 43 гады да слупавання евангельскага «Хрыста», мог сфармуляваць толькі адзінабожжа, ці мікалаіцства, пра якое згадваецца ў Апакаліпсісе (2,6) і якое можа быць тоесным з евангельскім саддукействам[306]. Абедзьве секты былі хрысьціянскімі толькі ў старажытна-грэцкім сэнсе, гэтага слова, якое азначае сьвятарскія секты, у тым жа сэнсе як і ў нас існуюць «папоўскія» і «безпапоўскія» сектанты. На ім, напэўна, быў абвешчаны першы пункт сімвала веры, ўсталяваўшага чыстае адзінабожжа. Канстантынопальскі І сабор, які адбыўся ў 381 годзе, г.азн. усяго толькі праз 13 гадоў пасьля слупавання «Вялікага Цара», упершыню мог абвясьціць другі пункт гэтага сімвала пра бога-сына. Напэўна, ён і быў тым першым сходам празелітаў Езуса, на якім, згодна з лягендай Апостальскіх Здзяйсненняў, на іх апусьціўся «Сьвяты Дух».

Саборы Эфескі, у 431 годзе, і Халкідонскі, у 453 годзе, адбыліся раней канчатковага рэдагавання евангелляў, бо ва ўсе чатыры евангеллі, відавочна адной і тай жа рукой, зроблены ўстаўкі з указаннямі на супадзенне розных іхных месцаў з выказваннямі біблейскіх пракракаў, пачынаючыхся словамі: «гэта адбылося, ды спраўдзіцца вымаўленае пракракам», а потым паказваецца і само вымаўленае, напрыклад, із Ісаі: «вось панна прыме ва ўлонне і народзіць сына, і дадуць яму імя Імануіл, што азначае «з намі бог» (у Матв. 1, 22-23); ці: «народ гэты асьляпіў свае вочы і скамяніў сваё сэрца. Ён не бачыць вачамі і не разумее сэрцам, каб я мог дапамагчы яму» (у Яна, 12, 38-40), ці: «быў да злыдняў далучаны» (у Лукі, 22, 37), ці, нарэшце: «голас завучы ў пустыні: прыгатуйце шлях Уладару, прамымі зрабіце яму дарогі» (у Марка, 1, 3). Усе гэтыя дадаткі із прарока Ісаі зроблены настолькі аднастайна згодна са сваім спосабам ва ўсіх чатырох Евангеллях, што выяўляюць іх агульную карэктуру на нейкім із усеагульных сходаў хрысьціянскіх настаўнікаў. А так як прароцтва Ісаі, грунтуючыся на змешчаных у ім астранамічных указаннях, само напісана, як я даводзіў у сваёй кнізе «Прарокі», толькі ў 451 годзе нашай эры і пасьля яго, то натуральна і першыя ўстаўкі із яго ў евангеллі ніяк не маглі быць зроблены раней, чым на ІІ Канстантынопальскім саборы ў 553 года, ці на другім Нікейскім саборы ў 783 года. Да гэтага часу можа быць таксама аднесена і кананізацыя апошніх перакладаў жыдоўскіх кніг, якія не былі вядомымі раней, нападобе прароцтва «Даніїл», у якім відавочна апісана камета Мані-факел-фарэс, якая прайшла, як паказвае просты пераклад гэтых слоў, па сузор'ях Змеятрымальніка, Шаляў і Пярсея. А гэта было ўжо ў 568 годзе нашай эры[307]. А

[305] Я стаўлю «Нікейскі» ў двукоссе, бо тэалагічную лакалізацыю Нікеі (найменне якой азначае «Пераможны горад») я таксама мала схільны атаясамляць з турэцкім Ёнікам, як і Ерусалім із палестынскім Эль-Кудсам.

[306] Цэдэк ці сэдэк (צדק) па-жыдоўску азначае – сьвятар, а Мелхісэдэк – цар-сьвятар.

[307] Гл. маю кнігу «Прарокі», 1914 г.

пасьля каметы Данііла былі толькі III Канстантынопальскі сабор паміж 680-691 гадамі, ды Нікейскі паміж 783 і 787 гадамі, і потым падзяліўшыяся цэрквы – рымская і візантыйская – пачалі далучаць да сваіх канонаў новыя псеўда-жыдоўскія творы ўжо паасобку. Так, рымская царква ўключыла ў свой псалтыр жыдоўскі псалом 10-ы, які пачынаецца славамі: «Навошта, госпадзі, стаіш далёка, хаваешся ад нас падчас смутку?». Візантыйская ж царква яго не кананізавала, бо ў гэты час, г.азн. пасьля 783-787 гадоў, яна ўжо парвала яднанне і з юдэйствам, і з каталіцызмам, г.азн. перастала эвалюцыянаваць разам з імі, ўсё яшчэ знаходзіўшыміся ў ідэйным камунікаванні. Дзякуючы гэтаму ў грэкаў парушылася рымска-жыдоўская нумарацыя псалмоў, пачынаючы з 11-га (які ў візантыйцаў апынуўся толькі дзясятым), і аж да псалмоў 146 і 147, якія жыды і лаціняне аб'ядналі пазней у адзін нумар, каб, нягледзячы на далучэнне псалма 10-га, агульная колькасць псалмоў была роўнай 150 псалмам.

Усё тут зроблена так наіўна-прастадушна, што сучаснаму дасьледчыку, які звыкся з прыродазнаўча-навуковым метадам мышлення, адразу зразумелы ўвесь псіхічны механізм гэтага далучэння лішняга псалма, складзенага, магчыма, самім юдэем-перапісчыкам, і таго, як ён злучыў пазней пры заканчэнні два караценькія псалмы, каб прыстасаваць нумарацыю да той жа самай лічбы 150, і гэтым зрабіць сваю ўстаўку ўзаконенай. А пазней яна была запазычана і рымскай царквой, нанова адрэдагаваўшай свае кнігі ўжо пасьля «Нікейскага» сабора, г.азн. не раней як напачатку IX стагоддзя.

Пазней запазычванні ўжо адбываліся толькі паміж абедзьвума хрысьціянскімі цэрквамі, бо абедзьве, напрыклад, уключылі ў свае каноны «Тры Кнігі Макавеяў», якіх цалкам не існуе ў сярэднявечнай жыдоўскай літаратуры, ні ў арыгіналах, ні ў перакладах. Гэтыя кнігі разам з III кнігай прарока Эзры і з Мудрасьцю Езуса, Сына Намесьніка (Сіраха), з'яўляюцца, такім чынам, чыста хрысьціянскімі апокрыфамі самога заканчэння сярэдніх стагоддзяў, і таму яны могуць служыць для характарыстыкі толькі ідэй вельмі позьняга гістарычнага часу, а ніяк не першых стагоддзяў хрысьціянства.

# Глава II.

## Псіхалагічны метад дасьледавання евангельскіх аперцэпцый для рэстаўрацыі рэальнай асобы і дзейнасьці евангельскага «Вялікага Настаўніка» і яго далейшага лёсу.

Я знарок пакінуў дасьледаванне евангельскіх аперцэпцый жыцця і дзейнасьці «Вялікага Цара» на самы канец гэтага разддзела, бо ўсе яны, напісаныя па-грэцку, відавочна пераносяць падмосткі дзеянняў із Італіі ў Палестыну. Замест Міц-Рыма тут ўжо ўсюды стаіць Ягіпет (Αἴγυπτος), а замест Флегрэйскіх палёў Італіі – Сірыйскае ўзбярэжжа. Склад евангелляў робіцца ўжо такім гладкім, што пасьля кніг «Старога Запавету» іх можна бегла чытаць ад пачатку да канца без галавакружэння: як-быццам із вельмі трасучагася воза перасядаеш у тарантас. Гэты склад і гэтае перанясенне месца падзей у Палестыну, характаэрызуючыя не раней як VII стагоддзе нашай эры, і паслужылі пазней, па меры пашырэння евангельскага хрысьціянства па Яўропе, нагодай да крыжовых паходаў, а самі Евангеллі былі

напісаны, як я ўжо даводзіў у І кнізе, у прамежак VII-IX стагоддзяў. Ад іх жа пачынаецца юдафобства.

Але нават пры беглым чытанні Евангелляў немагчыма адразу не заўважыць, што яны ўсё ж такі ўяўляюць сабой не маналітныя творы, а складзеныя зборнікі цудоўных і нецудоўных апавяданнаў пра жыццё «Вялікага Цара», пашыраных ў асяроддзі публікі, збольшага, магчыма, яшчэ пры яго жыцці, а большай часткай ужо пасьля яго сыходу з падмосткаў, які, ва ўсякім разе, здаваўся таямнічым для ўсіх, лічыўшых яго самім ўчалавечыўшымся богам Грамабоем.

Усе гэтыя апавяданні, як я ужо не раз згадваў, размеркаваны выпадкова. Выразы: «у той дзень» ці «пасьля гэтага», злучаючыя іх і ўжытыя большай часткай толькі па аднаму на пачатку кожнай частачкі, – гэта толькі штучна пабудаваныя масткі паміж імі, дададзеныя да іх аўтарам, каб зрабіць чытанне на выгляд звязаным ад пачатку да заканчэння. Для таго, каб вызначыць, да якога часу жыцця Езуса адносіцца тое ці іншае із евангельскіх апавяданняў, маючых не чыста астральнае, а напалову легендарнае паходжанне, г.азн. ўяўляючых толькі ўпрыгожаны фантазіяй аўтара рэчаісны факт із жыцця заснавальніка хрысьціянскай царквы, патрэбна, перадусім, старанна вызваліцца ад нададзенай гэтымі пераходнымі «масткамі» пасьлядоўнасьці, і самому размеркаваць іх, кіруючыся чыста псіхалагічным метадам.

Возьмем хаця б легенду пра ўваход Езуса ў Ерусалім, калі шмат людзей, прыйшоўшых на сьвята, узялі пальмавыя галінкі і пайшлі яму насустрач, усклікаючы:

«– Асанна (г.азн. Усемагутны)! Блаславёны ідучы ў імя госпада! Цар богазмагальнікаў!»

Псіхалагічна адчувальны і адукаваны чытач сам можа бачыць, без далейшых маіх тлумачэнняў, што ўсё гэтае апавяданне гістарычна праўдападобна толькі ў тым выпадку, калі апісанае ў ім адбывалася ўжо пасьля «ажывання Езуса із памёршых», а ніяк не да яго слупавання.

Пры такім перанясенні часу падзей усё робіцца не толькі праўдзівым, але і непазбежным.

Сьвята Вялікадня ў жыдоў (арыян) працягвалася цэлы тыдзень, і ў гэты час чутка пра цудоўнае ажыванне «Вялікага Чараўніка», прыкутага да слупа Вязувія, павінна была ўжо абляцець усіх, сабраўшыхся ў Пампеі для сьвяткавання вялікага дня. Цалкам зразумела, што ўсе, у тым ліку і згадваемыя евангелістам Янам «грэкі», жадалі яго бачыць пасьля гэтага, і хаця ён да заканчэння сьвята, г.азн. праз тыдзень, не мог яшчэ цалкам паправіцца пасьля падзей на соме Вязувія – Галгофе, але натоўп не згаджаўся разыходзіцца, і яго пасьлядоўнікам нічога не заставалася рабіць, як пасадзіць яго, магчыма яшчэ перавязанага, на асла і правезьці ў храм, пры чым ён, хворы, зведаў яшчэ хрышчэнне вадой, дзякуючы наляцеўшай навальніцы, што і засталося ў згадванні пра ўдар грому падчас гэтай падзеі, а потым і ў лягендзе пра яго хрышчэнне, таксама перанесенай із заканчэння яго жыцця ў пачатак.

Такім уяўляецца міф пра «ўваход Хрыста ў Ерусалім» з прапанаванага мнай псіха-этналагічнага боку гледжання, згодна з якім у падмурку кожнага першабытнага і здаючагася загадкавым міфа ляжыць нейкі рэчаісны факт ці ў прыродзе, даючы пачатак натур-сімвалістычнаму паданню, ці, як тут, вылучны выпадак у рэчаісным жыцці асобы. Легенды іншага паходжання, як, напрыклад, халдэйскі міф пра стварэнне першага чалавека із гліны, на тай падставе, што слова

Адам на гэтай мове азначае адначасова і чалавек, і гліна, ці нападобе міфа пра трох сыноў Ноя (правадыра, Нехо па-ягіпецку) – Сіма, Хама і Яфэта (шляхты, чарнага люду і джэнтльмена), – настолькі выразна выяўляюць крыніцы свайго паходжання замацаваныя ў простай сімвалістыцы, што не выклікаюць ва ўважлівага дасьледчыка ніякіх непаразуменняў.

У апавяданні пра ўваход у Ерусалім ужо адчуваецца, праўда хаця і злёгку, пазнейшая астралагізацыя апавядання, таму што «Аслянём», на якога ніхто із людзей не сядае і на якім, – кажуць нам, – заехаў Езус, са старажытных часоў называецца зорачка ў сузор'і Рака, каля якай і пад якой, дасягнуўшы свайго самага высокага становішча ў «нябесным Ерусаліме», праз кожныя $27^1/_3$ дзён праходзіць па свайму задыякальнаму шляху Месяц, пастаўлены з часу яго зацьмення пры слупаванні Езуса ў містычную сувязь з яго асобай, як гэта яшчэ раней мяне даводзіў Немаеўскі, хаця ён, як мне здаецца, і дарэмна аспрэчвае рэчаіснае жыццё «Вялікага Цара» на зямлі. Потым, Марк дадае, быццам на наступны дзень пасьля свайго ўваходу «Вялікі Цар» зноў, але ўжо гэтым разам пешкі і без урачыстага сустракання, прыйшоў у Ерусалім із суседняга паселішча і, «адчуўшы голад, пабачыў здалёку смакаўніцу, пакрытую лістамі».

«*Ён пайшоў,* – паведамляе нам Марк, – *паглядзець, ці не знойдзе чаго-небудзь на ёй, але знайшоў толькі лісьце, таму што* (дадае аўтар, нечакана згадаўшы, што дапасаваў гэтае апавяданне не да верасня, а да сакавіка, да месяца вялікадня) *не быў яшчэ час смокваў».* Але, не звяртаючы ўвагі на сваю ўласную памылку ў пары года, Вялікі Настаўнік быццам бы сказаў ёй:

*«– Ад гэтага часу і навекі ды не смакуе ад цябе пладоў ніхто»* (11, 12-14).

І калі ён вяртаўся назад у паселішча на наступную раніцу, вучні быццам бы пабачылі, што смакаўніца, якую ён пракляў за тое, што не падаравала яму пладоў не ў час свайго пладанашэння, ужо засохла да кораня. А калі Пятро паказаў яму на гэта, ён, быццам бы, адказаў:

*«– Праўдзіва, праўдзіва кажу вам, калі веруючы загадае гары: падніміся і кінься ў мора, і не ўсумніцца ў сэрцы сваім, што гэта спраўдзіцца, то адбудзецца ўсё, што ні скажа».* (Цалкам не дапасуючы прыклад пасьля таго, як смакаўніца толькі-што не дала яму чакаемай ім садавіны.)

Так разрасталася ў міф першапачатковае зярнятка сапраўднага прыезду нядаўна слупаванага чараўніка ў горад Сьвятога Замірэння, пускаючы ад сябе адгалінаванні то ў астралогію, як галоўную крыніцу міфалогіі, то ў вобласць гіпнатычных наданняў, як падставу тагачаснай магіі.

Усё развіццё асобных евангельскіх легенд скіравалася тут на стварэнне незвычайных падзей і на распрацоўку таго, што, на думку аўтара, павінен быў выказваць герай яго апавядання ў «Ерусалімскім» храме пасьля такога свайго ўрачыстага прыходу ў яго. Дзякуючы таму, што Ян (Ян Дамаскін, як я паказваў ужо ў І кнізе) пісаў сваё евангелле толькі праз некалькі стагоддзяў пасьля сьмерці Вялікага Цара, грунтуючыся на чутках, і перанёс яго «заезд» за шэсць дзён да Вялікадня, замест таго, каб сказаць, што ён быў праз шэсць дзён пасьля яго, яго творчасць тут набыла адмысловы характар, мала прыдатны да таго, што мог бы сапраўды выказваць Вялікі Цар да свайго «ажывання із памёршых».

Усе яго павучанні большай часткай чыста сафістычнага роду і характарызуюць толькі сярэднявечную схаластыку і тэалогію сярэдніх стагоддзяў, а ніяк не рэчаісную асобу заснавальніка хрысьціянскай літургіі. Тое ж самае і ў іншых евангелістаў.

Так, Мацвей паведамляе, напрыклад, што ў гэты час на простае пытанне сьвятароў і старэйшын храма: якою ўладай ён упаўнаважаны вучыць у ерусалімскім храме? – ён быццам бы адказаў загадкай:

*«– Бацька загадаў кожнаму із двух сваіх сыноў: «пайдзі і папрацуй у маім вінаградніку». Першы сын адказаў: «не пайду», але пайшоў, а другі адказаў: «іду», але не пайшоў». Які із двух выканаў волю бацькі?*

*Сьвятары храма адказалі, вядома:*

*«– Першы».*

*А Езус ім быццам бы адказаў:*

*«– Так і адкупнікі падаткаў і прастытуткі перш за вас патрапяць у царства бога»* (Матв., 21, 27-31).

Але ж гэта не адказ, а грубы выкрут. Падобныя ж славесныя выкрутасы прыводзіць і Лука, даючы цэлы шэраг спрачальніцкіх практыкаванняў, якімі быццам бы захапляўся Вялікі Цар пасьля свайго ўрачыстага прыходу ў сталічны храм. І хаця царкоўныя аўтары, перапісваючыя гэтыя спрэчкі з асаблівым захапленнем, і сцвярджаюць, што ворагі «не змаглі злавіць яго ні на адным неасьцярожным слове перад народам і, дзівячыся дасьціпнасьці яго адказаў, замаўкалі» (Лука, 20, 26), але сучаснаму чытачу робіцца толькі крыўдна за «Хрыста», калі яму ва ўрачысты момант яго жыцця, замест навукі вечнай праўды, аўтары Евангелляў укладаюць у вусны толькі адны выкруты. Із вечнага ж у гэты перыяд яго жыцця прыпісана яму ўсімі евангелістамі, акрамя Яна, толькі адно выказванне.

Гэта – калі на пытанне: «*які самы вялікі запавет у законе*», – ён адказаў: «*ушануй бога твайго ўсім сэрцам тваім і ўсёй душой тваёю, і ўсім розумам тваім*», а другі запавет падобны яму: «*ушануй блізкага твайго, як самога сябе*» (Матв., 22, 35-39; Лука, 10, 25; Марк, 12, 28). Праўда, што з боку гледжання звычайнай гісторыі і яно адпадае, таму што зьмяшчаецца ў жыдоўскай кнізе Лявіт, створанай за тысячу гадоў да Хрыста, дзе проста паведамляецца: «*Шануй блізкага, як самога сябе*» (Лявіт, 17, 18), ды яшчэ дадаецца тое ж самае і не пра блізкага: «*калі прыхадзень паселіцца ў вашай зямлі, то ды будзе ён для вас, як тубылец, шануй яго, як самога сябе*» (Лявіт, 19, 34). Але, з майго боку гледжання, дапасуючага і кнігу Лявіт да сярэдневечча, яно лёгка магло быць запазычана туды якраз із вучэння Вялікага Цара. Вельмі магчыма, што толькі яно адно із усяго евангельскага і мае карані у рэчаіснасьці. Астатняе, у тым ліку і яго апакаліптычнае прароцтва пра хуткае знікненне сьвету, калі «*сонца пацямнее, і месяц не дасць сьвятла, і зоркі ўпадуць з неба, і захвалююцца нябесныя магутнасьці*» і «*пабачаць чалавечага сына, ідучага на аблоках нябесных з магутнасьцю і славай вялікай, і выправіць ён вестуноў сваіх з гучнай трубой, і збярэ абраных сваіх ад чатырох вятроў, ад краю да краю нябёс*» (Матв., 24, 29-31; Марк, 13, 24; Лука, 21, 25), – усё гэта так відавочна запазычана із Апакаліпсіса (1, 7), што надаваць яму гістарычнае значэнне ў якасьці прамоваў Вялікага Цара пасьля яго акрыяння было б занадта наіўна.

Псіхалагічна праўдападобнай і карыснай для аднаўлення наступнага жыцця цара багаславячых з'яўляецца, як гэта ні дзіўна, перш за ўсё легенда пра яго спакушэнне дз’яблам у пустыні.

Няма ніякага сумневу, што пасьля знаку на небе ў выглядзе месяцовага зацьмення пры яго слупаванні і пасьля прыпісанага яму вывяржэння Вязувія і землятрусу, яго публічнае з'яўленне на сьвяце Вялікадня жывым павінна было фанатызаваць натоўп да такай ступені, што ён быў гатовы неадкладна абвясьціць яго імператарам, замест Валента, і нават патрабаваць ад яго, каб ён адразу ж

каранаваўся. Аднак, – паведамляюць нам евангелісты, – ён ад яго схаваўся і нават адказаў рымскаму намесьніку, калі дапусьціць, што і тут была перастаноўка храналогіі апавядання:

«*– Царства маё не ад гэтага сьвету*» (Ян, 18, 36).

Ва ўсякім разе наша звычайная гісторыя нічога не паведамляе пра бунт ні ў Італіі, ні нават у Палестыне пасьля яго слупавання ў 368 годзе. Гэта азначае, «Настаўнік» (г.азн. Васіль Вялікі) пасьля таго, як яго прыхільнікі прывезлі яго на асле ў ерусалімскі храм, адмовіўшыся ад палітычнай кар'еры, як недапасуючай для яго сузіральнай і ўдумлівай душы, абраў кар'еру напалову духоўную, нападобе папскай, і схаваўся, нарэшце, і ад ворагаў, і ад сяброў у нейкую «пустыню».

З гэтага боку гледжання і аднесеная да яго часу легенда пра яго спакушэнне дз’яблам набывае нечаканы сэнс. Перадусім адзначым, што такога апавядання няма ў Яна. Упершыню яно з'яўляецца ў Марка, які дадаў яго, як асобна існаваўшае паданне (і, зразумела, грунтуючыся ўжо на ўласных меркаваннях), да апавядання Яна пра хрышчэнне Езуса ў Эрыдане (Ян, 1,32). Для нас жа, разумеючых, што ўся пасьлядоўнасць евангельскіх легендаў штучная, яно, як і апавяданне пра хрышчэнне, вядома, павінна з'яўляцца цалкам самастойным аб'ектам дасьледавання.

Згодна з этна-псіхалагічнымі меркаваннямі, неабходнасць якіх пры разборы кожнай легенды я ўжо пазначаў; апавяданне пра спакушэнне павінна быць ці цалкам адкінута, як чыстая фантазія, ці з вялікай доляй верагоднасьці павінна з'яўляцца працягам вышэйапісанага знікнення Езуса падчас навальніцы ад натоўпу, меўшага намер абвясьціць яго цэзарам пасьля ажывання. Асабліва гэта робіцца натуральным, калі дапусьціць, што і легенда пра хрышчэнне яго вадой і пра тое, што сам Езус (г.азн. Васіль Вялікі) будзе хрысьціць полымем і сьвятым духам, узнікла менавіта таму, што пры гэтым яго ўрачыстым уваходзе ў горад Сьвятога Замірэння, калі яго асла пераводзіў праз раку адзін із яго вучняў (Ян Залатавусны), наляцела сапраўдная навальніца і намачыла яго і ўсіх пераходзіўшых з ім убрад гэтую раку, хаця дзень хрышчэння і быў, грунтуючыся на астралагічных меркаваннях, прызначаны на 6 студзеня, калі апоўначы кульмінавала самая яркая зорка нашага неба Сірыус, а Вадаліў узыходзіў на ўсходзе.

Вось усё, што паведамляе Марк пра хрышчэнне, адносячы яго яшчэ далей да пачатку евангелля.

«*Калі ён выходзіў із вады, пабачылі разчыняючыяся нябёсы* (г.азн. маланку) *і голуба, апускаючагася на яго, і быў голас* (гром) *з нябёсаў:*

«*– Гэта сын май умілаваны, на якім мая любасць!*

«*Неадкладна пасьля таго Натхненне адвяло яго ў пустыню, і быў ён там сарок дзён* (г.азн. акурат да хрысьціянскага сьвята сямухі, лічачы, што прыход у Ерусалім быў праз тыдзень пасьля яго слупавання). *І сатана* (відаць, Пятро, які пераконваў яго абвясьціць сябе цэзарам, за што Езус, згодна ўжо з іншым евангеллем, назваў яго сатаной) *спакушаў яго, а вестуны боскія* (сузор'і) *служылі яму*» (Марк 1, 10-13).



Мал. 76.
*Спракушэне Езуса Дз'яблам у аперцэпцыі сучаснага ілюстратара Евангелляў. «І панёс яго Дз'ябал на высокую гару, і паказаў яму за адно імгненне ўсе царствы зямныя: усё гэта аддам тебе, – сказаў ён, – калі ты шануш мяне» (Лука, 4. 5). Із кнігі J.J.Tissot: «La vie de notre seigneur Jesus Christ».*

Вось і ўсё, што паведамляецца пра гэта ў Марка, які затым пераходзіць да іншых самастойных апавяданнаў пра Езуса. Мацвей жа развівае гэты сюжэт нашмат падрабязней:

«*Калі Езус,* – згодна з яго словамі, – *быў адведзены Натхненнем у пустыню, для спакушэння ад дз'ябла, і, прабыўшы без ежы сарок дзён і сарок начэй, адчуў* (нарэшце!) *голад, прыступіў да яго Спакусьнік, сказаўшы яму:*

*«– Загадай гэтым камяням зрабіцца хлябамі*!»

Езус адказаў яму словамі Другазаконня:

«– *Не адным хлебам жывы будзе чалавек, а таксама кожным словам, зыходзячым із вуснаў бога*» (Другазаконне, 8,9).

*«Спакусьнік паказаў яму ўсе царствы сьвету і славу іх і сказаў яму:*

*– Усё гэта ты атрымаеш, калі ўшануеш мяне!*

«Езус жа адказваў яму:

«– *Адыдзі ад мяне, сатана! Бо сказана: бога свайго ўшаноўвай і яму аднаму служы*» (Матв., 4,1-11).

А ў Марка гэтыя словы спакушаемы «Хрыстос» сказаў свайму ж вучню Пятру:

«*Адыдзі ад мяне, сатана! Бо ты думаеш не пра тое, што боскае, а пра тое, што чалавечае*» (Марк, 8, 33).

Тое ж самае амаль літаральна перапісана і ў Лукі (4, 1-12) і потым дададзена, што «*пасьля гэтага пайшоў Езус у Галілею*» (Галію), *прыйшоў ва «Ўвянчаны горад» і ачаў чытаць там із прарока Ісаі:*

«– *Дух бога Грамабоя на мне, і ён памазаў мяне дабравясьціць немаёмасным, лекаваць засмучаныя сэрцы, прадракаць палонным вызваленне, сляпым вяртанне зроку і абвясьціць боскае лета спрыяльнае*» (Іс., 61, 1-2).

Аднак, мы ўжо ведаем, што Галілея, сугучная з Галіяй, па-халдэйску азначае таксама і «Задыякальнае кола нябёс», а «Назарэт» (Увянчаны) азначае і сузор'е Авена; мы ведаем таксама, што слова «Ісая» азначае бог-ратавальнік, і згодна з астранамічнымі вылічэннямі часу шэрагу месцаў гэтай кнігі мы ўжо вызначылі, што яна была напісана толькі на прыканцы V стагоддзя нашай эры. Таму і цытата із яе не дае нам надзейных указанняў пра далейшы лёс «Вялікага Магістра акультных навук», і мы павінны шукаць нейкія іншыя першакрыніцы.

Некаторыя із легендаў пра яго (якой, напрыклад, з'яўляецца легенда пра пераўтварэнне) тлумачыліся проста снамі яго вучняў, але гэта малаверагодна, як я пакажу далей.

Ператварэнне сноў у гістарычныя міфы можа быць толькі пры існаванні вылучных умоваў, таму што сны бачыць кожны із нас пры няпоўным засынанні. Гэта не толькі ў чалавечым, але нават і ў перад чалавечым розуме (як мы часта заўважаем, напрыклад, у сабак) першыя парасткі тай вобласьці творчасьці, якую мы завём гульнёй фантазіі, ствараючай із выпадковых спалучэнняў асобных частак людзей і жывёлаў немагчымыя ў прыродзе камбінацыі нападобе цэнтаўраў, сфінксаў, ундынаў ці іншых чыста фантастычных істой (мал. 77-80), а із выпадковых спалучэнняў разнастайных па сваёй сутнасьці побытавых падзей і ўчынкаў – казачныя прыгоды, ці, пры дастатковым прывядзенні іх у адпаведнасць з рэчаіснасьцю, – алегорыі.

Сны наяве ці напалову сны з'яўляюцца падмуркам усёй нашай паэтычнай, літаратурнай, музычнай, мастацкай і навуковай творчасці, і чым больш яскравыя ў некага гэтыя напаловусны, тым больш рэльефнымі і магутнымі атрымліваюцца яго творы. У геніяльных людзей іх выразнасць мяжуе з рэчаіснасьцю і адрозніваецца ад яе толькі непараўнальна меншай дзейнасьцю ўспамінаў, г.азн. хуткім згасаннем змяняючых адна адну, як у калейдаскопе, выяваў. Із анатама-фізіялагічнага боку гледжання, гэта – змяняемасць сувязяў у гангліяпадобных атажылках шэрых клетачак кары вялікага мозгу, мікравагаючыхся там, як каласы ад ветру, і прыходзячых у гальванічныя судатыканні то з адным, то з іншым із суседніх атажылкаў. Як толькі яны замацоўваюцца нерухома, ці калі ў мазжачку, ці ўзбуджаючым апараце, няма дастаткова моцных стымулаў, каб прыводзіць іх у мікра-рух, – творчая фантазія перастае працаваць, і простая памяць замяняе творчасць. Чалавек павядоміць бачанае і пачутае, але не створыць нічога. Асацыяцыі ідэй, грунтуючыхся не на камбінаванні ўзнікаючых у мозгу выяваў із рэчаіснага сьвету, а толькі на камбінаванні згадваемых апавяданнаў пра яго, могуць стварыць толькі чыста схаластычны твор.



Мал. 77
*Дэман Бегемот згодна з Колэнам дэ Плансі.*



Мал. 79
*Дэман Асмадэй згодна з Колэнам дэ Плансі.*



Мал. 78
*Дэман Астарот згодна з Колэнам дэ Плансі.*



Мал. 80
*Дэман Адарым згодна з Колэнам дэ Плансі.*

Із усіх евангелістаў толькі Ян валодаў творчай фантазіяй і выпрацоваў із сябе яскравыя, хаця і аперцэпцыйныя выявы жыцця Хрыста, а астатнія евангелісты толькі запісвалі і бедна распрацоўвалі тое, што чулі ад атачаючых людзей.

Вось чаму лягендзе пра пераўтварэнне даводзіцца прыпісаць, як пабачым далей, чыста метэаралагічнае паходжанне. Значная частка лекавальных цудаў Езуса, як я ўжо згадваў у папярэдняй частцы, можа быць лёгка патлумачана гіпнатычным наданнем. Зразумела, што пасьля ажывання із памёршых у яго

павінна была з’явіцца незвычайнай магутнасьці здольнасьці ўздзейнічаць на натоўп, а асабліва на істэрычных хворых, якія лічыліся ў старажытнасьці ашалелымі, а таму і прыводзімыя ў евангеллях выпадкі паспяховага лекаваня такіх хворых з дапамогай аднаго дакранання да іх могуць быць цалкам гістарычнымі фактамі, але і гэта толькі ў тым выпадку, калі мы аднясём іх да часу пасьля яго ажывання із памёршых. Частка іх і аднесена першакрыніцай падобных дзіваў, Маркам, да часу следам за пераўтварэннем ці поўным акрыяннем «Вялікага Магістра».

Але мы не будзем тут спыняцца на лекавальных цудах евангельскага настаўніка, якія разгледзім далей. Мы разгледзім толькі легенду пра яго ўсшэсьце на неба, пасьля чаго пра яго ў Евангеллях знікаюць якія б то ні было паведамленні, якім было б магчыма надаць характар некаторай гістарычнасьці.

Пра яго ўсшэсьце на неба, пад час вызначанага візантыйскай царквай саракавога дня пасьля яго ажывання, нічога не паведамяецца ў Евангеллі Яна. Пра ўсё жыццё «настаўніка» следам за яго з'яўленнем, яшчэ параненым, перад Марыяй Магдалінай і пасьля таго, як яго, вядома, неаднаразова бачылі там і найбольш блізкія із яго пасьлядоўнікаў, у тым ліку і не верыўшы спачатку Днайнік (Тамаш), паведамляецца толькі ў апошняй главе, і гэтае месца, з нагоды яго важнасьці для разлядаемага пытання, ці акрыяў евангельскі чараўнік пасьля слупавання ці памёр, я прыводжу амаль цалкам:

*«Пасьля таго, як бачыў яго Двайнік,* – паведамляе Ян, *– зноў з'явіўся Езус сваім вучням пры Тыбрскім моры. Там былі Сымон, званы Камень, і Тамаш, званы Двайнік, і Нафанаіл* (Боскі Дарунак, па-грэцку Хведар) *із Каны Галілейскай, і сыны Шчодрага* (Заведэна), *і двое із іншых яго вучняў.*

*«Камень кажа:*

*«– Іду лавіць рыбу.*

*«А іншыя адказваюць яму:*

*«– І мы з табой.*

*«Яны пайшлі і адразу зайшлі ў лодку, але не трапілася ім і тую ноч нічога. Калі ўжо надышла раніца, ажыўшы Езус прыйшоў на бераг і кажа ім:*

*«– Дзеці! Ці няма ў вас нейкай ежы?*

*«Яны адказвалі:*

*«– Не.*

*«– Закіньце – сказаў ён ім, – па правы бок лодкі і злавіце.*

*«Яны закінулі, і ўжо не змаглі выцягнуць сетку ад вяікай колькасьці рыбы. Тады вучань, якога шанаваў Езус, кажа Каменю:*

*«– Гэта настаўнік!*

*«Камень аперазаўся сваім адзеннем (таму што быў голы) і кінуўся ў мора. А іншыя вучні прыплылі ў лодцы (якая была локцяў на дзьвесьце ад берага), цягнучы сетку з рыбай. А калі яны выйшлі на бераг, то пабачылі ўжо распаленае вогнішча і на ім рыбу і хлеб.*

*«– Прынясіце зараз рыбу, – сказаў Езус, – якую вы злавілі.*

«Камень *– Пятро – пайшоў і выцягнуў на зямлю сетку, напоўненую 153 вялікімі рыбамі».*

*І пры такой вялікай колькасьці,* – дадае аўтар, *– сетка не падралася*!

*«– Ідзіце, абедайце! – прапанаваў ім Езус. «Із вучняў ніхто не асьмеліўся запытаць яго: хто ты? ведаючы, што гэта ён.*

«*Так трэці раз з'явіўся Езус сваім вучням пасьля ажывання із памёршых*» (Ян, 21, 1-13).

Тут мы бачым яго ўжо здаровым, а потым змяшчаецца апавяданне, як ён пайшоў, узяўшы з сабай толькі аднаго Пятра. Гэта, хутчэй за усё, быў апошні раз,

калі Ян Залатавусны сустракаўся з Васілём Вялікім. А аднайменны з ім Ян Дамаскін заканчвае сваё Евангелле гэтак жа містычна, як і пачынаў.

*«Падчас абеду Езус запытаў Пятра:*

*«– Сымон Іёнін! Ці шануеш ты мяне?*

*«Той адказаў:*

*«– Так. Ты ведаеш, як я цябе шаную.*

*«Езус загадаў:*

*«– Ідзі са мной.*

*«Пятро пайшоў з ім, але, пабачыўшы, што і Ян таксама ідзе, запытаў Езуса:*

*«– А ён што?»*

*Езус адказаў яму ўнікліва:*

*«– Калі я маю жаданне, каб ён заставаўся, пакуль я не прыйду зноў, што табе да гэтага? Ты ідзі са мной.*

*«І пранеслася слова паміж вучнямі,* – заканчвае Ян сваё евангелле, – што вучань тай не памрэ» (Ян, 21, 23), г.азн., відавочна, ажыве ў асобе аўтара евангелля Яна.

Што ж пасьля гэтага сталася з Хрыстом?

Марк, таксама ніколі не бачыўшы Езуса, таму што жыў некалькімі пакаленнямі пазьней, у сваім прастадушным стылі піша, што пасьля ажывання ён з'явіўся спачатку перад Марыяй Магдалінай, якую раней быццам бы пазбавіў ад істэрычных прыпадкаў («выгнаўшы із яе сем нячысьцікаў»); потым з'явіўся «ў іншым выглядзе (?)» перад двума із вучняў, калі яны ішлі ў паселішча, і, нарэшце, паказаўся адзінаццаці, сказаўшы ім:

«– *Ідзіце па ўсяму сьвету і паведамляйце пра добрую вестку кожнаму стварэнню. Хто паверыць і ахрысьціцца, выратаваны будзе, а хто не паверыць, будзе асуджаны. Паверыўшых жа будуць суправаджаць нябесныя знакі. Імем маім яны будуць выганяць нячысьцікаў, будуць размаўляць на невядомых мовах, будуць браць у рукі змеяў, і калі вып'юць нешта атрутнае, то яно не пашкодзіць ім, і калі пакладуць руку на хворага, то ён акрыяе.*

«*І ён узнёсся на неба і сеў там па правы бок ад свайго Бацькі*» (Марк, 16, 12-19).

Мацвей, як гэта ні дзіўна, не перапісаў із Марка гэтае апавяданне, што вымушае выказаць меркаванне, што і да Марка яно было дададзена больш позьнім рэдактарам. У Мацвея толькі паведамляецца, што калі вучні ўпершыню «*сустрэлі свайго настаўніка жывым, яны ўхапіліся за яго ногі*», але ён сказаў ім:

«– *Паведаміце маім братам, каб ішлі ў Галілею* (Галію). *Там яны пабачаць мяне*.

«*Адзінаццаць вучняў пайшлі туды на гару, куды ім загадаў Езус і, пабачыўшы, пакланіліся яму, а некаторыя засумняваліся*» (Матв., 28, 10-17).

Не нашмат падрабязней паведамляецца нам пра ўсшэсьце і ў Лукі, але тут апавяданне набывае ўжо чыста фантастычны характар. Нечакана з'явіўшыся ў замкнутым пакоі «настаўнік» паказвае сабраўшымся вучням свае параненыя рукі і ногі, але, нягледзячы на гэта, есь з імі і п'е, а потым асабіста выводзіць іх із сядзібы. «*Правёўшы іх да сядзібы Літасьці, ён, падняўшы рукі,* – кажа Лука, – *благаславіў іх і пачаў аддаляцца ад іх і ўзносіцца на неба. Яны пакланіліся яму і вярнуліся ў горад з вялікай радасьцю і знаходзіліся пастаянна ў храме, славячы і багаслаўляючы бога*» (Лука, 24, заканчэнне).

Мы бачым адсюль, што тлумачэнне зьнікнення Езуса меркаваннем пра яго ўзнясенне на неба, да нашага здзіўлення, так і засталося без далейшай распрацоўкі нават у двух самых найбольш позніх Евангеллях. Чаму такі, на першы пагляд выдатны, зародак для ўзнікнення міфа так і не даў ніводнага парастка? Мне здаецца, патлумачыць гэта можна толькі адным: дадатак пра ўзнясенне быў адным

із самых апошніх. Першыя ж хрысьціяне, нават і пасьля з'яўлення Апакаліпсіса, усё яшчэ чакалі яго вяртання з нейкага месца на зямлі, а не з неба.

# Глава III.

## Евангелле Яна як гістарычны і псіхалагічны дакумент.

Пачнём разгляданне Евангелляў з Евангелля Яна, таму што яно больш чым іншыя мае характар гістарычнасьці. У ім, напрыклад, няма нічога пра нараджэнне Езуса ад Нябеснай Панны, як у Лукі (1,26); няма нічога пра астролагаў, пабачыўшых, згодна з Мацвеем (2, 1), яго зорку на небе і прыйшоўшых пакланіцца яму, ляжаўшаму ў ясьлях, першакрыніцу якіх мы таксама бачым у згуртаванні зорак «Ясьлі» ў сузор'і Рака. У ім нават не пазначаны імёны дванаццаці вучняў Езуса, першакрыніцу якіх, акрамя двух-трох рэчаісных, мы бачым у дванаццаці сузор'ях Задыяка, хаця пад канец шостай часткі і згадваецца пра гэтую лічбу і нават дадаецца, што дванаццатым вучнем быў «дз'ябал»[308].

У ім паказана толькі (у другай частцы), як Андрэй (па-грэцку Мужны) прывёў да Езуса із сядзібы Падмацавання (Віфсаіды) свайго брата Сымона, імя якога па-жыдоўску азначае Чуючы[309]. Езус, – паведамляе аўтар, – назваў яго Каменем, і на другі дзень, на шляху ў Галілею, знайшоў сабе яшчэ трэццяга вучня Піліпа (Вершніка), а гэты прывёў да яго яшчэ Богададзенага (Нафанаіла)[310], якога пабачыў пад смакаўніцай і якому Езус сказаў:

«*– Ад гэтага часу вы будзеце бачыць неба расчыненым і вястуноў бога* (сузор'і), *узыходзячымі і сыходзячымі да чалавечага сына*» (Ян, 1, 54).

Тут згадванне пра неба вымушае западозрыць, што ўсе гэтыя чатыры вучні ў Евангеллі Яна сімвалізуюцца чатырма кардынальнымі сузор'ямі неба, нападобе таго, як у Апакаліпсісе, і ў такім выпадку мужны Андрэй будзе як бы Пегас, замяшчаючы Рыб (сядзіба Падмацавання); Чуючы (Сымон), празваны Замыкаючым каменем скяпення, будзе як бы верхнім із Двайнят; Вершнікам будзе, вядома, Стралец, а для Натанаэла – Боскага Дарунку – застаецца Панна ці Валапас.

Іншых вучняў няма ў першых главах Яна, а ў апошніх згадваецца яшчэ пра трох: пра Двайнят (Тамаш азначае двайнік і ў такім выпадку сузор'е Рыб), пра богаслявячага (Юду) і, нарэшце, пра Юду, мужа-Ільва (Іскарыёта), які потым прывёў ваяроў на месца за струменем Кедравым, дзе знаходзіўся ў тай час Езус, але не здрадзіў яму, згдна з Янам, пацалункам за грошы, як паведамляецца ў іншых евангелістаў, а сам Езус, быццам бы, прапанаваў прыйшоўшым забраць сябе.

Лічачы тут і «вучня, якога шанаваў Езус», мы налічваем (згодна з колькасьцю планет) толькі сем відавочных і верных вучняў, із якіх два – Андрэй і Піліп – маюць грэцкія імёны.

Із дванаццаці апосталаў, пералічаных у Марка, і ў двух астатніх евангелістаў, спісаўшых з Марка, тут недастае Варфаламея, Мацвея – зборшчыка падаткаў, Левея-Фадзея, Сымона Кананіта і самога Яна з яго братам Якавам Завядзеевым.

---

[308] Διάβολος (дыявалас) – улавіцель, ад διά (дыа) – цераз і βόλος (болас) – закіданне сетак.

[309] Ад שמע־און (ШМЭ-АЎН), дзе ШМЕ азначае слых, слава, а АУН – магутнасць, а таксама і горад Он, па-ягіпецку горад Сонца – Геліяполіс; на ўсходнім беразе Ніла. Са звычайнага боку гледжання незразумела толькі, як у жыда быў брат грэк.

[310] נתן־אל (НТН-АЛ) – дадзены богам.

Потым паведамляецца пра двух таемных вучняў Езуса. Першым із іх быў Пераможац народаў (па-грэцку Нікадзім, магчыма, Арыён), згодна з перакананнямі арыянін (фарысей), якому Езус чамусьці не маючы бачнай нагоды сказаў пры першым позірк:

«*– Хто не народзіцца ад вады і натхнення, тай не можа патрапіць у царства бога. А натхненне дыхае, дзе пажадае, голас яго чуеш, але не ведаеш, адкуль яно прыходзіць і куды ідзе. Так бывае і з кожным народжаным ад натхнення*».

Зразумела, што «Пераможац народаў» нічога не змог адказаць на такія нечаканыя для яго словы.

Другім таемным вучнем быў Кратар Грамабоя, Леў Труны Госпада (Ёсіф Арымафей), і згадваецца толькі як браўшы ўдзел у пахаванні Езуса, разам з трыма Марыямі: «Марыяй Магдалінай, Марыяй Клеопавай і Марыяй, маці Хрыста».

Акрамя гэтых асоб, у евангеллі Яна згадваецца яшчэ пра Яна, ахрысціўшага Езуса і сведчыўшага пра яго словамі:

«*– Гэта – сын божы...*» (1, 36).

Потым паведамляецца пра Марфу, сястру Марыі, і пра іхнага брата Бога-Памагатага (Лазара), ажыўленага Езусам із памёршых пасьля таго, як ад яго ўжо адчуваўся трупны пах (гл. 11, 39).

Потым згадваецца па імені нейкі Дабрадзей (Ана), да якога ваяры спачатку павялі Езуса і які выправіў яго да свайго цесьця, патрыярха Следчага (Каіяфы), а той раніцай у чацьвер (20 сакавіка 368 года) выправіў яго ў спавядальню (прэторыю) да Дзіданосца (Пілата), каб ён аддаў Езуса на сьмяротнае пакаранне. Але Дзіданосец спачатку адмовіўся, распытваў дасланага і адсылаў шмат разоў туды і сюды, але, потым, кіраўнікі тагачаснага арыянства як быццам бы пачалі паграavailable жаць яму тым, што калі ён вызваліць «завучага сябе царом багаслаўячых», то пакажа сябе ворагам самога імператара. Тады Дзіданосец, быццам бы, дазволіў слупаваць яго каля шостай гадзіны перадвялікоднай пятніцы (19, 14), якая пачыналася тады не ад поўначы, як зараз, а ад вечара чацьвярга.

Час нараджэння і сьмерці Езуса тут не пазначаны: ні пра якога цара Героя (Ірада) не згадваецца. А першасьвятар Следчы, пра якога ў Евангеллі Марка і Лукі цалкам не згадваецца, і Пілат, г.азн. дзіданосец, да імя якога нават не дададзена «Понцій», як гэта зрабіў Марк, – абодва з'яўляюцца асобамі такімі цьмянымі, што грунтавацца на іх для ўсталявання храналогіі, акрамя нашай астранамічнай, было б вельмі легкадумным.

Такім з’яўляецца персанал, фігуруючы ў Евангеллі Яна.

Сутнасць рэлігійнага вучэня Езуса выкладзена ў ім вельмі невыразна. Гэтае Евангелле, як вядома, пачынаецца апафеозам стварaючаму слову, якое аўтар лічыць не простым спалучэннем гукаў, як мы зараз, а асобнай сутнасьцю нападобе адухоўленага газу.

Вылятаючы із вуснаў чалавека, яно стварае мімалётныя выявы, потым знікае са сьвету, а выходзячы із вуснаў бога, яно стварае доўгаіснуючыя прадметы і застаецца вечным, як і сам бог.

«*На пачатку было Слова і Слова было ў бога і Слова было бог*», – выказваецца Ян. – «*Усё дзякуючы яму было пачата а без яго не ўзнікла нічога із існуючага. У ім было жыццё, і жыццё было сьвятло людзям, і гэтае сьвятло ў цемры свеціць, і цемра не паглынае яго*». «*Быў чалавек, пасланы богам, імя яму Ян; ён прыйшоў, каб сведчыць пра сьвятло, каб усе паверылі праз яго. Было сьвятло праўдзівае, асьвятляючае кожнага чалавека, прыходзячага ў сьвет. У сусьвеце быў, і сусьвет праз яго пачаў існаваць, і сусьвет яго не пазнаў. Прыйшоў да сваіх, і свае яго не прынялі, а тым, якія яго прынялі,*

*даў уладу быць дзецьмі бога. Так Слова стала целам і жыло з намі, поўнае мілаты і праўды, і мы бачылі яго славу, як аднасутнага са сваім Бацькам». Ян сведчыў пра яго і гаварыў:*

*«– Гэта той, пра каго я паведаміў, што ідучы за мнай стаў наперадзе мяне, таму што быў пярвей мяне»* (гл. I, 1-15).

Тут нават цяжка зразумець, хто такі Ян... Шмат хто із дасьледчыкаў зараз думаюць, што гэтая асоба чыста міфічная, спісаная із сузор'я Вадаліва, тым больш, што і ў астатнім сваім тэксце Евангелле Яна не пазбягае дамешак ўяўнага. Але гэты дамешак надзвычай характэрны. Усюды пра Езуса тут гаворыцца не столькі як пра прапаведніка павагі да бога і чалавека, колькі як пра найвялікшага чараўніка, які валодаў усёй глыбінёй ведаў і ўсёй магутнасьцю, якую яны даюць. Ён малюецца цалкам падобным на Гермія ягіпецкіх міфаў, тройчы найвялікшага сына богаў Азірыса і Ізіды, адкрыўшага людзям усе акультныя боскія навукі: алхімію, медыцыну, астралогію, паэзію, матэматыку, і выкарыстоўваўшага іхныя цудоўныя ўласьцівасьці для паляпшэння жыцця атачаючых людзей.

Так у другай главе паведамляецца пра чыста алхімічнаеператварэнне Вялікім Чараўнікам вады ў віно падчас вяселля ў «Кане Галілейскай».

«*З нагоды таго што не хапала* (на вяселлі) *віна, то маці Езуса паведаміла яму пра гэта і сказала служкам:*

*«– Што ён загадае вам, тое і зрабіце.*

*«А тут было шэсць гліняных жбаноў, умяшчаўшых па дзьве і па тры меры вады для абмывання рук і ног гасьцей. Езус загадаў служкам:*

*«– Зачарпніце і нясіце да распарадчыкаў балю».*

*А калі распарадчык паспытаў ваду, ператварыўшуюся ў чырвонае вінаграднае віно, то яно выявілася такім добрым, што ён паклікаў маладога і сказаў яму:*

*«– Разумныя людзі падаюць на баляваннях спачатку лепшае віно, а потым, калі ўсе ўжо нап'юцца, горшае, а ты добрае збярог да гэтага часу.*

*«І паверылі ў яго вучні яго»,* – дадае наіўна аўтар (Ян, 2, 1-12).

Зразумела, што гэтая легенда магла ўзнікнуць толькі тады, калі ўжо сталі вядомымі некаторыя хімічныя ўзаемадзеянні раствораў, суправаджаемыя зменай колеру і саку вадкасцей пры іхным зліванні. Езус з такога боку гледжання характэрызуецца аўтарам Евангелля, перш за ўсё, як чалавек знаёмы са старажытнай алхіміяй, хаця можна дапусьціць і тое, што першы парастак гэтай легенды з’явіўся на нейкай строннняй глебе і толькі перасаджаны пагалоскай у біяграфію евангельскага Лекара, як дапасуючы да яго рэчаіснай дзейнасьці.

Сама назва мясцовасьці, дзе гэта адбывалася, Кана Галілейская, якая нідзе больш у Бібліі не сустракаецца, акрамя як у евангеліста Яна, хутчэй за ўсё нададзена ёй ужо пазней грунтуючыся на астралагічных меркаваннях, бо ў перакладзе з жыдоўскай яна азначае наогул «Падножжа Кола», а ў астральным сэнсе «Падножжа Задыякальнага пояса», па якому здзяйсняюцца кругавыя рухі планет. А тэрытарыяльна гэта вельмі старажытны італьянскі горад Каны (Cannae) у Апуліі, у Палестыне ж такога горада не вядома. Адзіны горад Ханэ, падобны на гэты, у Бібліі (Іез., 21-23) існуе ў халдэйскім перакладзе і згодна з тлумачэннямі Ераніма, Яфрэма і Мідраша-Рабі ў Халакітыдзе на ўсходнім беразе Тыгра, г.азн. вельмі далёка ад мяркуемага месца дзейнасьці Езуса.



Мал. 81

*Астралогія ў хірамантыі. Са старажытнага малюнка.*

Магчыма, што нагодай для легенды пра пераўтарэнне вады ў кроў было крывавае пераўтварэнне месяца ва Ўрне Вадаліва, г.азн. у Аўгусьце (пры сонцы ў Ільве), адбыўшаеся каля часу жыцця Васіля Вялікага. Але адзінае і пры гэтым дрэнна дапасуемае месяцовае зацьменне было толькі ў год 361-VIII-3, у 3 гадзіны 44 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы з глыбокай фазай (15"4) перад сьвітаннем. А пад час жыцця Яна Дамаскага была частковае ў год 695-VIII-29, у 21 гадзіну 10 хвілін ад Грынвіцкй паўночы, з фазай 10"9', паловуначное для +42° зямнай даўгаты, і поўнае – у год 723-VIII-20, у 21 гадзіну 18 хвілін ад Грынвіцкай поўначы (паловуначное на +41° зямнай даўгаты), але вельмі глыбокае, з фазай 19"8.

Найболей дапасуе тут зацьменне 695 года.

Разгледзім зараз і наступнае дзіва Езуса згодна з Янам. Яно мае чыста дывіністычны характар, калі пад словам «дывіністыка» мы аб'яднаем усе старажытныя навукі, навучаўшыя прадказваць будучыню людзей грунтуючыся на нязаўважаемых для звычайнага чалавека выразах вачэй, рысах твару, маршчынах на далонях рук (мал. 81) і на часе народжэння, а будучае чалавечых калектываў – грунтуючыся на руху аблокаў, птушак, зьвяроў, планет і г.д., для чаго існаваў адмысловы стан навукоўцаў чараўнікоў і прадказальнікаў, якія часта для празарлівасьці прыводзілі сябе ў экстатычны стан рознымі наркатычнымі сродкамі.

Стомлены Езус, прысеўшы, згодна са сведчаннем Яна, на шляху каля Самарыйскага (г.азн. Рымскага) гарада Сіхара, каля студні Богазмагальніка на ніве Кратара Грамабоя, паведаміў цалкам незнаёмай для яго жанчыне яе мінулае. Яна прыйшла да студні быццам бы «каля шостай гадзіны» (лічачы ад раніцы, г. азн. апоўдні, як атрымліваецца грунтуючыся на самым змесьце апавядання), каб набраць воды. Езус папрасіў у яе напіцца і сказаў, што замест яе калодзежнай вады, «якая толькі часова знішчае смагу», ён можа даць ёй «вады жывой», ад якай «п'ючы не будзе адчуваць смагі вавек». Самарыцянка папрасіла яго даць ёй такай вады, а ён замест адказу на яе пашэнне, раптам ні з таго, ні з гэтага, прапанаваў ёй прывесьці да яго яе чалавека.

«– *У мяне няма чалавека,* – адказала яна».

*А ён прамовіў:*

*«– Праўду ты сказала. У цябе было ўжо пяць мужоў, а той, якога ты зараз маеш, не чалавек табе»* (4, 18).

*Яна пабегла паведаміць пра гэта сваім знаёмым, кажучы ўсім:*

*«– Пайдзіце і паглядзіце, ці не сам гэта Вялікі Магістр».*

*«І шмат хто із самарыцян* (рымлян), – заканвае Ян гэтае паданне, – *паверылі ў яго грунтуючыся на словах жанчыны, якая сведчыла, што ён паведаміў ёй усё, што яна зрабіла, і ён прабыў там два дні»* (4, 39-40).



Мал. 82

*Езус і рымлянка, якай ён паедамляе яе інтымныя справы (Ян, 4, 7). Біблейская легенда ў аперцэпцыі сучаснага ілюстратара. Із кнігі Les saints evangiles, avec les dessins de M. Bida*

Тут, як бачыць сам чытач, евангельскі Настаўнік малюецца такім жа адгадчыкам думак і спраў атачаючых яго людзей, як і астатнія дывіністы, пра якіх нам паведаляюць старыя і новыя сведчанні розных «праўдзівых сведак». Перажыткі гэтай старажытнейшай прафесіі, злучанай з акультнымі ведамі, мы сустракаем і зараз на прыкладзе прафесійных хірамантаў, варажбітоў на картах, прадракальнікаў і чытальнікаў чужых думак. І не выклікае сумневаў, што некаторая магчымасць апошняй здольнасьці сапраўды існуе ў падсьвядомай вобласьці чалавечай душы, для якай могуць быць чутнымі і ў думках вымаўляемыя іншымі словы, у чым, відаць, і заключаецца першапатковая падстава нашых сімпатый і антыпатый да тых ці іншых людзей.

Цалкам магчыма, што і «Вялікі Цар» валодаў значнай доляй такай спагадлівасьці. А ў тым, што пасьля яго дзіўнага ажывання із памёршых і раптоўнага зьнікнення праз некалькі дзён ці тыдняў без следу із гістарычных падмосткаў пра яго лёгка ствараліся падобныя апавяданні на працягу усёй другой паловы IV стагоддзя і на працяг усяго V, а магчыма і VI, VII і VIII стагоддзяў, у гэтым наўрад ці можна сумнявацца.

Вяртаючыся да пытання вызначэння на геаграфічнай мапе месца падзей гэтага апавядання, мы зноў не знаходзім нічога прыдатнага для іх у Палестыне. Само найменне горада Сіхара нідзе больш не згадваецца ні ў Бібліі, ні ў Евангеллях, а згодна са значэннем яно можа быць і гандлёвым рынкам, і пустыняй, жыллём качэўнікаў і нават нечым астральным. А Самарыя ў прарокаў увесь час згадваецца ў сэнсе дзяржавы богазмагальнікаў, як супрацьпастаўленне дзяржаве богаслаўцаў і ў перакладзе на рускую мову азначае Вартаўнічы Горад, г.азн. італьянскі Рым.

Наступнае дзіва, із паведамляемых Янам, характэрызуе евангельскага Хрыста ўжо як лекара псіхатэрапеўта, які лякуе паралічных хворых наданнем.

«*Існуе,* – сведчыць Ян, – *у горадзе Сьвятога Замірэння* (Ерусаліме), *паблізу брамы Авена, купальня, называемая Сядзібай Літасьці, каля якой было пяць крытых праходаў* (астральна: шляхі пяці старажытных планет*), і Вястун бога* (камета?) *калі-нікалі злятаў у купальню, ускалыхваючы ваду, і тай хто першым заходзіў у яе пасьля гэтага, здаравеў, якою б ні пакутаваў хваробай.*

«*Тут быў,* – паведамляе Ян, – *чалавек, чакаўшы трыццаць восем гадоў. Езус, убачыўшы яго, ляжачага, сказаў яму:*

*«– Хочаш быць здаровым?*

*«Хворы адказаў:*

*– «Так. Але няма чалавека, які б апусьціў бы мяне першым ў купальню, калі ўскалыхнецца вада.*

*«Езус жа загадваючы сказаў яму:*

*«– Падніміся! Вазьмі ляжанку тваю і хадзі!*

*«І хворы адразу акрыяў, узяў сваю ляжанку і пайшоў»* (Ян, 5, 2-18).

Падобнае лекаванне нярвовых хворых шляхам загадваючага надання, што яны здаровыя, у наш час не толькі практыкуецца ў кляштарах, з дапамогай цудадзейных абразоў, але і эксперыментальна распрацоўваецца сур'ёзнай медыцынскай навукай, робячы з кожным дзесяцігоддзем значныя крокі наперад. Імі ж абумоўлена існаванне і асобнай спецыяльнасьці – лекар-псіхатэрапеўт.

Без сумневаў, што такі спосаб лекавання быў вынайдзены старажытнымі жрацамі яшчэ да часу жыцця евангельскага Хрыста, а таму і цалкам праўдападобна, што адна із яго спецыяльнасьцей складалася менавіта ў лекаванні «ашалелых», г.азн. істэрычных хворых шляхам загадваючага надання, што «нячысьцікі ўжо пакінулі яго». Асаблівую ўвагу звяртае на такія медычныя дзівы Езуса Марк, а з яго слоў і іншыя пазнейшыя евангелісты – Мацьвей і Лука.

Звяртаючыся да вызначэння месца падзей гэтага апавядання, мы, са звычайнага боку гледжання, зноў трапляем у тупік. На арабскай геаграфічнай мапе такой мясцовасьці зямнога шара, якую сучасныя хрысціяне лічаць месцам дзейнасьці Езуса і завуць Палестынай, ніякага горада Ерусаліма нідзе няма. Тое, што на еўрапейскіх мапах носіць назву Ерусалім, сярод мясцовых жыхароў мае назву са спрадвечных часоў Эль-Кудс, а ў старажытных рымлянаў мела назву Элія Капіталіна (Aelia Capitolina). У Бібліі, у кнізе «Езус»[311], гаворыцца, што горад, які атрымаў найменне горад Сьвятога Замірэння, зваўся раней Івюс[312], пра што зноў-такі не засталося ніякіх іншых паданняў сярод мясцовых жыхароў Эль-Кудса.

Першым згадваючым гэтае найменне гістарычным дакументам, старажытнасьць якога вызначана (як мы бачылі вышэй) дастаткова дакладна

---

[311] Езус, 18, 28. Параўнаеце таксама ў Кн. Суддзяў, 19, 10; Быццё, 10, 16; Захарыя, 9, 7.

[312] יבוס (ІВЮС) – магчыма ад urbs Iovis – горад Грамабоя.

астранамічнымі вылічэннямі, з'яўляецца Апакаліпсіс. Але і ў ім пад назвай Новы Ерусалім маецца на ўвазе неба ў сваім ранішнім выглядзе. У такім жа сэнсе Ерусалім часта сустракаецца і ў біблейскіх прарокаў. Пры агульным супастаўленні ўсіх маючыхся ў нас яго згадванняў даводзіцца зрабіць выснову (як я і паказваў ужо ў другай кнізе), што гэтае найменне ўжывалася вельмі часта і фігуральна (што дасьледчыку заўсёды патрэбна мець на ўвазе).

Само сабай зразумела, што ў Палестыне ніколі не было купальні, у якую сыходзіў бы калі-нікалі з неба анёл, каб усхваляваць яе ваду, бо там няма ніякіх прыкмет гейзераў ці часова бурлячых мінеральных крыніц. Такія маглі існаваць толькі на абшарах Флегрэйскіх палёў паблізу Вязувія. Само іхнае месцазнаходжанне каля Брамы Авена ў Сядзібе Літасьці дастаткова двухсэнсоўнае, і ўжо адна тая акалічнасць, што ў астралогіі сузор'е Авена мела назву, між іншым, Сядзіба Літасьці, вымушае зрабіць выснову, што абставіны вылячэння Езусам паслабленага цалкам узяты адтуль, хаця і навеяны ўздзеяннем ўжо вядомых ў тыя часы мінеральных лякуючых вод. Магчыма таксама, што анёлам каля брамы Авена была камета.

Амаль усе далейшыя дзівы, паведамляемыя Янам, ужо маюць тыповы адбітак старажытнай магіі, г.азн. выклікання галюцынацый шляхам надання, хаця тэмы і асабліва дэталі для іх і ўзяты, магчыма, таксама не із рэчаіснага жыцця евангельскага чараўніка, а перасаджаны ў яго біяграфію з іншых градак, напрыклад, із вобласьці астранамічных, псіхалагічных і біялагічных з'яваў, фантастычна пераінач<br>ыўшыхся ў першабытных розумах, якія прыводзілі іх у мудрагелістую сувязь з жыццём выбітных людзей. Так, у шостай частцы Езус перад вялікаднем, калі сонца праходзіць праз сузор'е двух Рыб, насычае дзвюма рыбамі і пяццю хлябамі (планетамі) пяць тысяч чалавек, пасьля чаго, згодна са сведчаннем Яна, рэшткаў ад іх набралася 12 карабоў (сузор'яў Задыяка).

Калі надаць гэтаму міфу астралагічнае паходжанне, то можна адзначыць, што перад жыдоўскім вялікаднем, роўна за шэсць гадоў да слупавання евангельскага Хрыста, г.азн. у сакавіку 362 г., у сузор'і Рыб, сапраўды, сыходзіліся Сонца, Месяц, Юпітар, Меркурыі і Венера, якія хутка пасьля вялікадня і разышліся па ўсіх дванаццаці сузор'ям Задыяка. З гэтага боку гледжання цалкам магчыма дапусьціць, што нагодай да апавядання пра рыб, як пра раўнадзённае сузор'е, было публічнае навучанне Езусам народа па астралогіі, а разам з тым магчыма зрабіць і выснову, што першапачатковай нагодай нянавісьці да Вялікага Настаўніка з боку тагачасных сьвятароў было яго імкненне вывесьці навуку із вобласьці таемных ведаў, даступных толькі пасьвечаным (г.азн. хрыстам) пасьля доўгага выпрабавання іх, і зрабіць яе набыткам кожнага дапытлівага розуму. Але пра гэта мы яшчэ пагаворым пазней.

Акрамя таго, пазначанае Янам месца павучання «па тай бок Галільскага мора» астранамічна азначае – па той бок Задыякальнага кола (Галіля).

Потым, патрэбна прыняць да ўвагі і тую важную акалічнасць, што каля гэтага самага часу, згодна са сведчаннямі габраістаў, была кімсьці апублікавана «найвялікшая таямніца першасьвятара» – дзевятнаццацігадовы цыкл маладзікоў, – дзякуючы чаму быў скасаваны прэстыж іерарха ў горадзе Сьвятога Замірэння, пераконваўшага іншых, што ён адзін можа прадказваць гэтыя нябесныя з'явы грунтуючыся на адмысловым паведамленні ад бога кожны раз, які кожны раз выпраўляў вястуноў з паведамленнем пра бліжэйшы дзень гэтай падзеі. Калі

дапусьціць, што гэты сакрэт і быў абнародаваны Езусам, то няма падставаў шукаць іншага тлумачэння варожага стаўлення да яго з баку арыянскага сьвятарства.

Потым у дзявятай главе Евангелля Яна паведамляецца, як факт (дайшоўшы да аўтара, відавочна, із дзясятых рук), вылячэння Езусам, у адну із субот, «сляпога ад нараджэння».

Ён зрабіў гэта надзвычай проста: плюнуў на зямлю і, прыгатаваўшы брудавы камочак із пляўка, памазаў ім вочы сьляпога і загадаў яму ісьці і памыцца ў Купелі Паслання (Сілаам, 9, 6), пасьля чаго сьляпы набыў зрок. Першакрыніцай гэтага апавядання з'яўляецца, магчыма, простае ўзыходжанне месяца ці сонца ў «сьляпым (г.азн. у стане зацьмення) выглядзе» над гарызонтам. Падобныя ўзыходжанні сонца ў міжземнаморскіх краінах былі ад пачатку нашай эры і да нашых дзён толькі:

у год 174-II -19 у Сіцыліі,

у год 695-II -19 каля Антыёхіі Сірыйскай і

ў год 1095-II -13 на ўсход ад Дамаска.

Гэта азначае, нічога падобнага не было пры жыцці евангельскага настаўніка, ці будзем мы храналазіваць яго грунтуючыся на царкоўным стылі – з пачатку нашай эры, – ці, на маім метадзе, атаясамляючы «Хрыста» з Вялікім Царом із Чэцці-Мінеяў. А пры Яну Дамаскім, якога я лічу аўтарам евангелля Яна, якраз такое «сьляпое ад нараджэння» сонца ўзышло каля самай Урны Вадаліва 19 лютага 695 года, калі знак Хрыста – месяц знаходзіўся паблізу яго і, можна сказаць, «намазаў яму вочы брудам»... Юпітар глядзеў на ўсё гэта із Авена, а Сатурн – з іншага баку із Казярога.

А ў наступных радках гаворыцца пра тое, як «фарысеі» (арыяне) дапытвалі набыўшага зрок:

«– *Хто адкрыў табе вочы?*

«*Яны не паверылі яго словам, што ён быў сляпым ад нараджэння, і запыталі яго бацькоў:*

«– *Ведаем,* – адказалі тыя, – *што гэта наш сын, і што ён нарадзіўся сьляпым, але не ведаем, хто дапамог яму.*

«*Яны баяліся,* – дадае аўтар, – *прыхільнікаў багаслаўя* (юдэяў), *якія змовіліся, каб той, хто прызнае Езуса Хрыстом* (г.азн. пасьвечаным у таямніцы навукі), *будзе адлучаны ад царквы*» (9, 22).

«– *Не ад бога,* – казалі арыянскія фарысеі, – *гэты чалавек, таму што не прытрымліваецца сядміцы* (суботы)».

А Езус быццам бы адказаў ім:

«– *Я прыйшоў у гэты сьвет, каб сляпыя набылі зрок, а бачучыя сталі сьляпымі»* (9, 39).

Уся гэтая серыя дзіваў заканчваецца ў Яна апавяданнем пра тое, як Езус ажывіў із памёршых аднаго свайго знаёмага, Бога-Памагатага (Лазара), г.азн., калі разумець літаральна, абудзіў яго ад летаргічнага сну, ўсё адно ці зроблена гэта было Езусам сапраўды, ці дададзена ў яго біяграфію з чужай практыкі.

«*Бога-Памагаты, сябар наш, заснуў, але я пайду абудзіць яго*, – сказаў ён, згодна са словамі Яна, сваім вучням. – *І ўсе яны пайшлі ў Сядзібу Літасьці, дзе той жыў, у пятнаццаці стадыях ад горада Сьвятога Замірэння*».

Прыйшоўшы туды, евангельскі чараўнік знайшоў, што яго сябар ужо чацьвёрты дзень ляжыць пахаваным у склепе.

«*Сёстры памёршага, Марфа і Марыя, падвялі яго да яго магільні і сказалі:*

«– *Калі б ты быў з намі, не памёр бы наш брат.*

«*Але ён, загадаўшы адваліць камень ад пячоры, крыкнуў гучным голасам:*

«*– Лазар! Ідзі прэч!*

«*І памёршы выйшаў із магільні, абвіты просьцінамі і па руках, і па нагах*» (11, 4-4).



Мал. 83
*Ажыўленне Езусам Лазара. Евангельская легенда ў аперцэпцыі сучаснага еўрапейскага мастака. Із кнігі «La Sainte Bible» з малюнкамі Густава Дарэ.*

Чытачу, знаёмаму з сучаснай практыкай гіпнатызму і лячэння наданнем нярвовых хворых, мімаволі здаецца, што ён чытае гэтае апавяданне не ў Евангеллі, напісаным больш за тысячу гадоў таму назад, а ў курсе сучаснай псіхатэрапіі. Евангельскі лекар і ў гэтым апавяданні нічым не адрозніваецца ў сваіх дзівах ад прафесароў XIX-XX стагоддзяў: Шарко, Рышэ, Бернгейма і іншых лекараў-псіхатэрапеўтаў. Знешні выгляд падзеі іншы, ён – сярэднявечны, але факты тыя ж самыя, якія назіраюцца і зараз. Ян Дамаскі ў VIII стагоддзі вызначае гэтыя падзеі як дзівы, а доктар Бернгейм у XIX стагоддзі так выказваецца пра гіпнатычныя ўздзеянні з боку гледжання сучаснай навукі:

«Кожны чужы загад, успрымаемы мозгам, мае імкненне мецць наступствам дзеянне. Калі я скажу каму-небудзь: «Падніміся!», то ён неадменна атрымае імпульс падняцца і паднімецца, калі не пераадолее гэты імпульс ўласнай воляй. Калі я скажу: «вунь бяжыць сабака!», то ў кожнага ў мозгу з'явіцца мімалётная выява сабакі і ўзнікне тэндэнцыя ўявіць яе позіркам, як сапраўды бегучую сабаку. Кожнае чужое наданне мае тэндэнцыю рэалізавацца ў нас. Гэта азначае, кожны чалавек паддаецца чужому наданню, але гэта імкненне мозгу ўвасобіць успрынятае ім із старонняга мозгу ўяўленне ў нармальных не спячых людзей абмяжоўваецца ўплывам сьвядомых магутнасьцей мозгу, выяўляючыхся ў розуме, увазе і разважлівасьці і складзенага з іх кантраліруючага апарата.

«Яны-та і дзейнічаюць у якасьці тармажэння чужога надання.

«Усё, што паслабляе кантраліруючы апарат мозгу, палягчае рэалізацыю надаваемага ўяўлення. Такім з’яўляецца ўздзеянне ўсыплення, калі кантрольны апарат мозгу не працуе і таму бязмежна вырацоўвае фантастычнае. Такім жа з’яўляецца ўздзенне якога б то ні было сродку, адцягваючага мозг ад ураженняў навакольнага сьвету. Дасягнуўшы гэтага памяншэння ўвагі, вы набываеце магчымасць надаць чалавеку выразна і цьвёрда адаваемымі загадамі ўсё, што вам пажадаецца».

Так выкажаца і кожны іншы сучасны навуковец, а чараўнік VIII ці IX стагоддзя і ўсе яго пацыенты лічылі галюцынацыі сапраўднымі з'яўленнямі істот із чужога сьвету.

Такімі былі і евангелісты. Яны шчыра апісвалі неверагодныя падзеі нападобе хаджэння Езуса па вадзе, як рэчаісныя факты. Але гэта былі толькі наданні Езуса, калі яго вучні сапраўды былі іх сведкамі, ці былі далучаны да яго біяграфіі з чыёйсьці іншай дзейнасьці. Адна астралогія не мела б наступствам стварэнне із факту ўзыходжання сонца ў сьляпым выглядзе міфа пра вылячэнне сьляпога, калі б рэчаіснае жыццё ўжо не давала б выпадкаў вылячэння сьляпых. А што практыка наданняў сапраўды існавала пад час сярэдніх стагоддзяў ў асяроддзі пасьвечаных у акультныя навукі, пра гэта сведчаць не адны евангельскія апавяданні! Такая ўлада над людзьмі захоўвалася тады як вялікая таямніца ў храмах Захаду і Ўсходу, і яна перадавалася толькі пасьвечаным (г.азн. хрысьціянам, ці назарэям) пасьля папярэдняга вывучэння іх усім астатнім навук таго часу і толькі пасьля таго, як навучэнец прызнаваўся таго годным і кляўся захоўваць у таямніцы ад усіх чужых. Гэта, відаць, і была апошняя і самая высокая ступень пасьвячэння ў акультныя навукі.

Ці быў пасьвечаны ў такую самую высокую ступень і Вялікі Цар Чэцці-Мінеяў, евангельскі Езус?

Для таго, каб не збівацца на ілжывую дарогу пры разгляданні гэтага пытання, нам патрэбна цьвёрда памятаць ужо сказанае мнай спачатку, што ён ніколі не быў простым цесьляром.

Перадусім, у Палестыне, Сірыі і Ягіпце драўляных сядзіб ніколі не будавалі, а таму не было і цесьляроў. Там жылі ці ў намётах (качэўнікі), ці ў сядзібах із каменя, пасьля таго, як стала вядомай ўласцівасць загартаванага вапняку хутка цьвярдзець пасьля яго гашэння вадой пад уплывам паветра і гэтым цэментаваць пакладзеныя адзін да адзін камяні ў адно цэлае. Пабудова сядзіб тады была не рамяством, а вельмі высокім мастацтвам, патрабуючым ведаў, а таму і евангельскі Хрыстос, і яго бацька не былі ні цесьлярамі, хадзіўшымі з сякерай, ні мулярамі, працаваўшымі з лапаткай для вапны. Яны былі тым, кго мы зараз называем архітэктарамі і дойлідамі, а гэта было такое высокае званне, што радаводы вышэйшых дойлідаў запісаны і да гэтага часу на сьценах ягіпецкіх храмаў нароўні з радаводамі цароў.

І ён сам, і яго бацька Ёсіф, і яго маці Марыя, і яго браты, Якаў, Ёсія, Юда, Сымон, і некалькі сясьцёр (Марк, 6,3) належалі да самага высокаадукаванага стану грамадства. Ён набыў, – кажуць нам, – адукацыю ў Міц-Рыме. Евангеллі ўсюды завуць яго «настаўнік». Але і гэтае слова ў нашым перакладзе не дае нам правільнага ўяўлення. У грэцкім тэксце стаіць «дыдаскол» (Мацвей, 8, 19), а ў лацінскім «Magister» – магістр[313].

Гэта азначае, евангельскі Хрыстос меў званне магістр, і гэта было не простым пазначэннем таго, што ён некага самавольна чамусьці вучыў, а афіцыйнае званне, азначаючае, што ён меў права вучыць, г.азн. меў навуковую ступень. Яшчэ больш паказвае на гэта яго другое найменне Хрыстос, што ў правільным перакладзе, як мы бачылі, азначае пасьвечаны ў найвышэйшую ступень акультных ведаў.

Але дзе ж ён мог быць пасьвечаны ў яе, г.азн. атрымаць званне Хрыста? Хутчэй за ўсё у Александрыі, якая была ў тай час цэнтрам сусветнай культуры і яшчэ існавала (да 389 года) знакамітая Александрыйская бібліятэка. Там, відаць, ён

[313] У італьянскай версіі maestro, у французкай maitre, у ангельскай master, у нямецкай Meister, усё гэта – толькі асобныя вымаўленні першапачатковага звання магістр, г.азн. доктар магіі.

і правёў сваю маладосць у руплівых занятках, перш чым перасяліцца ў Італію, да падножжа Агнядыхаючай гары, на якай і быў слупаваны.

Адзначым яшчэ раз, што ніводзін із двух першых евангелістаў, ні Ян, ні Марк, не абмовіліся ніводным словам пра тое, дзе ён нарадзіўся і жыў і што рабіў да трыццаці гадоў. А паданне Мацвея пра збяганне яго бацькі з усім сямействам у Ягіпет (атаясамляемы з Міц-Рымам) і пра вяртанне адтуль быццам бы яшчэ падчас яго дзяцінства, а таксама і паданне Лукі, быццам бы пасьля гэтага яго бацькі «хадзілі з ім кожны год у горад Сьвятога Замірэння на сьвята Вялікадня, па-першае, занадта позьнія для таго, каб быць надзейнымі, а па-другое, даводзяць век Езуса толькі да дванаццаці гадоў (Лука, 3, 42). Пасьля гэтага, пра адрэзак роўны амаль васямнаццаці гадам, у іх ні слова не паведамляецца пра яго жыццё. Толькі ў прароцтве Осіі, напісанным не раней V стагоддзя, паведамляецца, відавочна, пра таго ж Езуса:

«*Із Міц-Рыма паклікаў я сына майго*» (Ос., 11).

На пачатку хрысьціянскай эпохі заснаваў там сваю грэцкую школу найвялікшы із навукоўцаў старажытнасьці – Клаўдый Пталямей, у адзін і тай жа час і географ, і астраном, і фізік, і геаметр, першы із вызначыўшых заканамернасць у бачных рухах нябесных сьвяціл і даўшы некаторую магчымасць прадказання іхнага будучага становішча. І хай прыпісваемыя яму зараз творы і з'яўляюцца прадуктамі пазнейшых дапаўненняў і нават перамен, але і таго, што без сумневаў застаецца на яго долю, цалкам дастаткова, каб прызнаць яго найвялікшым із астраномаў, спраўдным бацькам гэтай навукі.

І калі ў IV стагоддзі і евангельскі «настаўнік», – як я ўжо згадваў не раз, – пачаў публічна вучыць, што сусьвет цалкам не кружок сушы і мора, пакрыты шкляным купалам, а шар, вакол якога рухаюцца на крыштальных празрыстых колах планеты, а над імі штосутачна круціцца і апошняя шкляная сфера зорак, то ўражанне, выробленае гэтым на прыхільнікаў ранейшай легенды пра стварэнне сьвету на працягу шасьці дзён, павінна было быць пдобным на тое, якім было і ўражанне ад вынахдніцтва Каперніка руху зямлі на сярэднявечных тэолагаў. Яно з'яўлялася разбурэннем сядміцы стварэння, шкодным вучэннем, якое патрэбна было абявязкова знішчыць, і ці не ў гэтай акалічнасьці заключалася адна із нагод паглыблення рэлігійных звад сярод монатэістаў у IV стагоддзі? Ці не ў гэтым, – паўтару я зноў, – заключалася сапраўдная нагода для асуджэння «Вялікага Цара», які парушаў сядміцу тварэння, як пасьля і сістэма Каперніка стала нагодай асуджэнні Галілея, Джардана Бруна і іншых пасьлядоўнікаў Каперніка? І само абвінавачванне, быццам «Вялікі Настаўнік» парушаў спакай сёмага дня (суботы), ці не з’яўляецца простай алегорыяй таго, што ён аспрэчваў толькі-што згаданае вучэнне пра шасьцідзённае тварэнне і пра заспакаенне бога ад якой бы то ні было дзейнасьці на сёмы дзень?

Праўда, яго вучань Ян у Апакаліпсісе падзяляе, відаць, яшчэ біблейскія пагляды на ўладкаванне сусьвету, калі толькі яго словы «пра чатыры куты зямлі» не маюць дачынення да кантынентаў.

Я не лічу, вядома, гэтыя свае заўвагі за нешта большае, чым проста пытанні, але яны мімаволі ўзнікаюць, калі пачынаеш думаць пра сапраўдныя нагоды асуджэння «Вялікага Настаўніка», таму што агучаная нагода яго абвінавачвання, быццам бы ён самавольна называў сябе царом багаслвячых, толькі адна падстава, відавочна прыдуманая яго ворагамі.

Із усяго першапачатковага развіцця легенды пра яго не выклікае сумневаў, што ён быў асуджаны не за спробу забраць у рымска-візантыйскіх імператараў іхнае зямное царства, а за імкненне завалодаць царствам нябесным.

«– *Царства маё не ад гэтага сьвету*, – адказаў ён, згодна з Янам, на пытанне Дзіданосца (Пілата), да якога яго прывялі сьвятары для зацверджання іхнага сьмяротнага прысуду. – *Калі б маё царства было на гэтым сьвеце, то служкі мае баранілі б мяне, але царства маё не тут.*

«– *Гэта азначае,* – сказаў яму Пілат, – *ты ўсё ж цар?*

«– *Ты праўду кажаш, што я завуся цар*, – адказаў яму Вялікі Цар (па-грэцку Васіль Вялікі), – *але я прыйшоў у сьвет толькі для таго, каб сведчыць пра праўду. Кожны, хто шануе праўду, слухае май голас.*

«– *Што такое праўда*? – запытаў Дзіданосец, і, выйшаўшы, адказаў сьвятарам:

«– *Я не бачу ў яго ніякай віны. У вас існуе звычай каб я вызваляў на вялікдзень аднаго із вашых асуджаных: калі жадаеце, вызвалю вам цара багаслаявячых?*

*«Але ўсе закрычалі:*

*«– Не яго, а Сына Сораму* (Варавву).

*«А той быў рабаўнік»* (Ян, 18, 33-40).

«*Ваяры,* – працягвае Ян, – *вартаваўшыя Вялікага Цара, сплялі вянок із цярноўніка і ўсклалі яму на галаву. Яны апранулі яго ў чырвоную накідку і білі па шчоках, кажучы:*

*«– Дабры дзень, цар багаслаявячых!*

*«Пілат зноў выйшаў і сказаў ім:*

*«– Вось чалавек!*

*«– Слупуй яго! Слупуй! – закрычалі сьвятары і іхныя служкі.*

*«– Слупуйце самі, – адказаў той, – а я не знаходжу ў ім віны.*

*«– Згодна з нашымі законамі ён варты смерці, – адказалі яны* (Ян, 19, 2-7). *– Калі ты вызваліш яго, ты не сябар імператару; кожны, хто называе сябе царом* (Васілём па-грэцку), *– супернік імператара.*

*«Тады Дзіданосец аддаў яго ім на слупаванне. Яны ўзялі яго і павялі»* (19, 16).

Ці не падобна ўсё гэта на тое, як каталіцкія сьвятары асуджалі пазней на вогнішча тых, хто прапаведаваў вучэнне Каперніка? А вучэнне ж пра шарападобнасць зямлі было не меншым ударам па таму ўладкаванню сьвету, якое ляжала ў падставе першапачатковага касмаганічнага вучэння.

Пазней я яшчэ не раз вярнуся да магчымых падставаў асуджэння Вялікага Цара, а таксама і да дэталяў яго вучэння, і да пытання пра тое, што з ім было пасьля ажывання із памёршых, а зараз зноў вернемся да Евангелля Яна.

Ажыўленнем Бога-памагатага (Лазара) заканчваецца ў ім тая частка, якая больш усяго характэрызуе сярэднявечныя пагляды на магутнасць навукі і тых, хто пасьвечаны ў яе таямніцы. Ва ўсёй гэтай першай частцы адчуваецца толькі вера аўтара ў тое, што яму павядомілі іншыя пра шануемага настаўніка, знікшага пасьля сваёй урачыстасьці ад сваіх вучняў з абяцаннем вярнуцца да іх пазней, але ўсё яшчэ не вярнуўшагася. А ў наступных главах (асабліва пачынаючы ад XVIII главы) характар выкладання ў Яна цалкам змяняецца. Усё цудоўнае, напісанае грунтуючыся на чутках, заканчваецца, і пасьля некалькіх главаў, у якіх Ян спрабуе ўкласьці ў вусны Езуса свае ўласныя ўяўленні пра яго вучэнне, пачынаецца апавяданне, сапраўды праўдападобнае і амаль цалкам пазбаўленае міфічнага адцення. Яно носіць усе прыкметы капіявання запісу, захаваўшагася ад сведкі ці ад чалавека, які чуў з першых вуснаў. Такім, напрыклад, з’яўляецца апавяданне пра арышт Настаўніка.

«– *Езус*, – паведамляе аўтар, – *выйшаў са сваімі вучнямі за Чорную раку* (Кедрон), *дзе быў сад... Ведаў гэтае месца і богаславец (Юда), яго здраднік, таму што Езус часта збіраўся там са сваімі вучнямі. Узяўшы атрад служак ад першасьвятароў і фарысеяў* (арыян), *ён прыйшоў туды з ліхтарамі і свяцільнямі і са зброяй*».

*Настаўнік выйшаў і запытаў у іх*:

*«– Каго вы шукаеце?*

*«– Езуса Пасьвечанага.*

*«– Гэта я, – сказаў ён».*

*І вось, яны ўсе адступілі ад яго і ўпалі на зямлю. А Сымон, у якога быў меч, стукнуў першасьвятарскага раба і адсёк яму правае вуха. Імя рабу было Цар* (Малх пажыдоўску).

«– *Пакладзі меч у ножны, – загадаў Езус Пятру, – Няўжо не піць мне чарку, якую даў мне бацька?*

«*Ваяры і служкі звязалі Езуса і павялі спачатку да Дабрадзея, цесьця Следчага, які быў у тай год першасьвятаром»* (18, 1-13).

Нягледзячы на поўную шчырасць гэтага апавядання, у ім усё ж існуюць рысы чыста тэндэнцыйнага, прыдуманага пазней, як, напрыклад, пра паданне ваяроў на калені перад Настаўнікам, ці пра яго словы Пятру.

Усё далейшае ў Евангеллі Яна, г.азн. як «шануемы вучань» здалёк сачыў разам з Пятром, куды вядуць Вялікага Цара, як ён пракраўся ў двор сядзібы першасьвятара, добрага знаёмага сваіх бацькоў, дзе ён і сам бываў; як ён завёў туды пазней і Пятра, якога западозрыла прыслуга і які тры разы адрокся ад свайго дачынення да справы, а потым і пра тое, як слупавалі Езуса, дыхае такай шчырасьцю, што не можа быць цалкам прыдуманым.

Няма, вядома, ні найменшага сумневу, што першая палова Евангелля Яна, г.азн. большасць паведамляемых Янам дзіваў, з'яўляецца толькі праўдзівай перадачай легенд, развіўшыхся ўжо пасьля цудоўнага ажывання евангельскага Хрыста. Але калі нават іхныя парасткі і былі перасаджаны, як я ужо аднойчы выказваўся, у яго біяграфію з чужых градак, то выгадаваць на ёй такое раскошнае дрэва, як міф пра Езуса-Назарэя, аддаўшага сябе ў ахвяру за грахі сьвету, яны маглі толькі ў тым выпадку, калі і сапраўднае жыццё яго давала для іх прыдатную глебу, г.азн. калі гэта быў сапраўды Вялікі Настаўнік з глыбокімі ведамі, з вялікай схільнасьцю да праўды і справядлівасьці, да людзей і да ўсяго ў сьвеце. Пры ўсёй маёй схільнасьці тлумачыць хрысьціянскія, ды і цалкам рэлігійныя міфы зорнымі ці сейсмічнымі з'явамі ў прыродзе, я не магу, аднак, усюды знайсьці дастаткова выразных сьлядоў выключна зорных уплываў у апавяданнях Евангелля Яна.

«*За Езусам*, – паведамляе ён у 18 главе, – *пасьля яго арышту сачылі Сымон Камень і другі вучань, які быў знаёмы з першасьвятаром, і таму вольна зайшоў у двор яго сядзібы, а Пятро застаўся за дзьвярамі. Але пазней другі вучань выйшаў і завёў яго*» (18, 16).

*«Рабыня-брамніца запытала Пятра:*

*«– І ты ці не із вучняў гэтага чалавека?*

*«Але ён сказаў:*

*«– Не.*

*«Служкі развялі на двары вогнішча, таму што ноччу было холадна, і яны грэліся. Пятро таксама стаў каля іх і грэўся.*

*«Зяць першасьвятара Дабрадзей запытаў Езуса пра яго вучэнне, а ён адказваў яму* (ўнікліва):

«*– Я выказваўся відавочна перад усім сьветам, я павучаў заўсёды на сходах і ў храме і таемна не прамаўляў нічога. Запытай слухаўшых мяне.*

*«Адзін са служак, стукнуўшы яго па шчацэ, сказаў:*

*«– Так ты размаўляеш з першасьвятаром?*

*«Езус жа адказаў яму:*

*«– Калі я сказаў дрэннае, пакажы, што дрэннага, а калі добра, то за што ты б'еш мяне?*

*«Дабрадзей,* – паведамляе далей аўтар, – *выправіў Езуса звязаным да першасьвятара Каіафы, і тут зноў атачаючыя запыталі ў Пятра:*

*«– І ты ці не із вучняў яго?*

*«Ён зноў адрокся і адказаў:*

*«– Не.*

*«Адзін із рабоў першасьвятара, сваяк таго, якому Пятро адсёк вуха, заўважыў:*

*«– Ці не бачыў я цябе з ім у садзе?*

«*Пятро арокся ў трэцці раз і пасьля гэтага адразу заспяваў певень»* (18, 17-29).

У гэтым простым апавяданні ўсе прыкметы ўражанняў сьведкі, у памяці якога ўся гэтая выява пакінула незабыўныя сьляды. Хай Евангелле Яна напісана толькі праз некалькі стагоддзяў, але гэта павінна быць уключаны ў яго першапачатковы запіс. Тут адчуваецца не тэндэнцыйнае саманаданне, як хаця б у папярэдняй 17 главе, дзе аўтар перадае (як бы) літаральна апошнюю размову Езуса з яго вучнямі на чыста міфічнай таемнай «вячэры», укладаючы ў яго вусны не толькі тое, што ён сапраўды мог выказваць, але і тое, што згодна з глыбокім перакананнем аўтара ён павінен быў выказваць, а такім чынам і выказваў. Падобныя саманаданні не рэдкія ў палкіх душах пад час вельмі юных гадоў і асабліва відавочна выяўляюцца ў дзяцей, якія часта кіруюцца правілам: «калі я хачу, каб так было, то гэта так і ёсць». А потым чалавек так звыкаецца з творамі свайго ўласнага ўяўлення, што ўжо не адрознівае іх ад рэчаіснасьці і паведамляе пра ніколі не адбываўшыяся падзеі несьвядома, сам верачы сваім словам, грунтуючыся на нейкай інэрцыі думкі і цалкам не ўзважваючы крытычна свае паведамленні, з усімі прыкметамі поўнага ўнутранага перакананьня ў сваёй праўдзівасьці. У гэтым сэнсе евангелле Яна з'яўляецца зборнікам не толькі гістарычных, але і псіхалагічных дакументаў, пачынаючы з другай паловы IV стагоддзя.

Чытаючы толькі-што прыведзенае простае апавяданне пра тое, як палестынскія законнікі арыштавалі Езуса і прывялі яго ноччу да свайго першасьвятара, адчуваеш кожны крок юнака Яна. Выйшаўшы, відавочна, із прывілеяванай сям'і і ставіўшыся да Езуса з напалову дзіцячай глыбокай павагай, як да зберагальніка вялікіх акультных ведаў і крыніцы таямнічай магутнасьці, якую яны даюць, ён патрапіў нейкім чынам да яго ў лес за Чорнай ракай з рамантычным імкненнем да незвычайнага, і зараз, усхваляваны гэтай выявай, але занадта юны, каб браць у ёй актыўны ўдзел, ён запамінае кожнае слова, кожны жэст, кожную драбную дэталь, адбываючуюся перад яго вачамі, і ўсё захоўвае ў сваім розуме на ўсё жыццё. Потым ён запісвае ўсё, і гэты запіс трапляе ад Яна Залатавуста да іншага Яна, Яна Дамаскага, душа якога, як камертон, наладжаная з ім ва ўнісон, цалкам успрымае гэты запіс і дапаўняе яго іншымі аднастайнымі запісамі і апавяданнамі.

Гэтае месца так псіхалагічна праўдзіва, што нават сучасны сярэдні раманіст не здолеў бы яго падрабіць.

А далей, у 19 главе Евангелля Яна зноў адчуваецца не сведка, а толькі перадатчык апавяданняў сьведак. Бачна нават, што аўтар там фантазіруе, сцвярджаючы, быццам сам быў пры слупаванні Езуса. Напэўна, пасьля таго, як Езуса павялі ў прэторыю, Ян Залатавусны ўжо не меў магчымасьці туды прайсьці і праспаў у Пятра ўсю гэтую трагічную ноч, не чакаючы, што Езуса пакараюць сьмерцю да вялікадня. І гэта тым больш праўдападобна, што і самога Пятра не было пры слупаванні.

А праз некалькі радкоў далей, вы зноў адчуваеце апавяданне сьведкі.

Вельмі псіхалагічна праўдападобна тое месца ў 20 главе Евангелля, дзе апісваецца, як аўтар бег з Сымонам-Пятром у нядзелю раніцай да пустай пячоры, дзе быў пахаваны Вялікі Настаўнік.

«*Пад час першага дня тыдня,* – кажа ён, – *Марыя-Магдаліна прыходзіць да магільні рана, калі было яшчэ цёмна* (г.азн. каля шасьці гадзін раніцы, грунтуючыся на нашым сучасным рахунку), *і бачыць, што камень адвалены. Бяжыць да Сымона-Пятра і да іншага вучня, якога шанаваў Езус* (г.азн. да самога аўтара ўрыўка, які відаць быў у тай час у Пятра), *і кажа ім:*

*«– Забралі Настаўніка із магільні і не ведаю, дзе паклалі яго.*

«*Пятро і іншы вучань адразу пабеглі да пячоры разам, але іншы вучань бег хутчэй за Пятра і прыбег першым. Нахіліўшыся, ён пабачыў ляжаўшыя пялёнкі, але не зайшоў у пячору* (відавочна, спалохаўшыся). *Услед за ім прыходзіць Пятро, заваходзіць у пячору і бачыць адны ляжаўшыя пялёнкі і хусьцінку, якой была абвіта галава Езуса, ляжачай не разам з пялёнкамі, а асобна звітай* (як і была на галаве Настаўніка) *на іншым месцы. Тады зайшоў і іншы вучань, які прыйшоў першым да пячоры, пабачыў і паверыў, бо яны абодва яшчэ не ведалі із пісання, што яму накаванавана ажыць із памёршых. І абодва вучні вярнуліся да сябе, а Марыя засталася ў пячоры і плакала*» (гл. 20, 1-11).

Тут, відаць, заканчваецца ўсё, чаму «любы вучань» сапраўды быў сведкам у гэты дзень, бо яго астатнія апавяданні пра двух анёлаў, з'явіўшыхся перад Марыяй Магдалінай у пячоры, пра цудоўнае з'яўленне тут жа перад ёй Езуса, пра тое, як ён вечарам гэтага ж дня размаўляў з вучнямі, сабраўшыміся ў замкнёнай сядзібе, дзе яго паклалі хворага, і як праз тыдзень ён пераканаў у сваім ажыванні і не верыўшага ў гэтую падзею Двайніка (Тамаша), напісана відавочна грунтуючыся на апавяданнях іншых, таму што тут рэчаіснасць перамяшана з фантазіяй, што з'яўляецца ў гэтым выпадку, аднак, такім жа гістарычным фактам, як і сама рэчаіснасць, калі мы хочам ведаць не адзін шкілет, а таксама і душу падзей, прывёўшых да ўзнікнення сярэднявечнага хрысьціянства.

У апошні раз любы вучань бачыў евангельскага Настаўніка пасьля яго «ажывання», – як я ўжо згадваў вышэй, відаць, толькі праз некалькі тыдняў, калі разам з Пятром паехаў раніцай на лоўлю рыбы ў Тыбрскім моры і, пачуўшы голас Настаўніка, папрасіўшага ў іх чаго-небудзь з'есьці, першым пазнаў яго і сказаў Петру:

– Гэта Настаўнік».

Але тут уяўленне юнака было ўжо да такой ступені экзальтавана, што кожны звычайны ўчынак ці слова яго Настаўніка здаваліся яму цудоўнымі.

Агульнае ўражанне пры чытанні Евангелля Яна застаецца такое, як быццам бы яго аўтар містычна атаясамляў сябе з непасрэдным вучнем свайго Хрыста. І гэта цалкам магчыма для сярэднявечнага пісьменніка, які дапускаў існаванне перасялення душ. Матэрыяламі ж для стварэння апавядання служылі для яго збольшага ўрыўкавыя запісы сведак, захаваўшыяся ў копіях, і збольшага ўласныя высновы грунтуючыяся на астралагічных меркаваннях, ці такія ж высновы яго

папярэднікаў і сучаснікаў, лічыўшых, што ўсе зямныя падзеі дэтэрмінуюцца нябеснымі з'явамі, вывучаючы якія дасьведчаны чалавек можа выведаць як будучае так і мінулае жыццё чалавецтва і асобных гістарычных дзеячаў, не маючы патрэбы для гэтага ў нейкіх запісах ці дакументах.

# Глава IV.

## Хрыстос, як лекар і навуковец згодна з евангеллем Марка.

Наколькі гістарычна Евангелле Марка?

Я ўжо даводзіў у першай кнізе «Хрыста», што яно не магло з'явіцца раней VII стагоддзя нашай эры, таму што цытуе біблейскіх прарокаў, пісаўшых у V і VI стагоддзях, і я ўжо пазначаў, што верагодным аўтарам яго быў Марк Афінскі, які жыў паміж 626-725 гадамі нашай эры. Я даў там і абрыс біяграфіі, гэтага «сьвятога» і таму пераходжу тут непасрэдна да характарыстыкі яго Евангелля.

Яно напісана, без сумневаў, раней, чым Евангеллі Лукі і Мацвея, таму што вялікая частка яго зместу літаральна перапісана ў іх, а іхныя дадаткі да яго, асабліва ў Мацвея, з'яўляюцца пазнейшымі паданнямі, бяручы да ўвагі ўжо адну іхную відавочную неверагоднасць. Таму Евангелле Марка патрэбна браць за падмурак пры дасьледаванні першапачатковых евангельскіх аперцэпцыі жыцця заснавальніка хрысьціянскай царквы.

У адрозненні ад Евангелля Яна, якое характэрызуецца натхнёнай згодна з тым часам паэзіяй і высокай апрацаванасьцю склада, евангелле Марка дыхае наіўнай прастатой. Тры-чатыры із яго апавяданнаў, як, напрыклад, пра насычэнне пяці тысяч чалавек дзьвюма, відавочна, нябеснымі рыбамі і пяццю хлябамі (планетамі) (6,38), існуюць амаль літаральна перапісанныя ў Евангеллі Яна, а некаторыя іншыя напісаны ў Марка больш простай мовай. «Ерусалім у яго таксама не Пампея, а палестынскае мястэчка Эль-Кудс, і Эрыдан не рака По, а Шарыят-Эль-Кэбірэ ў Палестыне.

Возьмем хаця б самы пачатак Евангелля Марка.

«*Згодна з напісанным пракарам Малахіяй* (3,1): *«Я выпраўляю анёла свайго прыгатаваць шлях твай перад табой»*, *і згодна з напісанным пракарам Ісаяй* (40,3): «*Марны лямант завучага ў пустыні: прыгатуйце шлях валадару, прамымі зрабіце сьцежкі яго*», *– з'явіўся, – кажа ён, – грэк*[314], *хрысьцячы ў пустыні і навучаючы пакаяльнаму купанню для даравання грахоў. Да яго выходзіла ўся качэўніцкая* (палестынская) *краіна і жыхары Эль-Кудса і ахрысьціліся ад яго ў рацэ Шарыят-Эль-Кэбірэ* (ілжэ-Ярдане), *выказваючы свае грахі. А грэк насіў адзенне із вярблюжынага воласа і скураны пояс на сваіх сцёгнах, еў саранчу і дзікі мёд і навучаў:*

«*– Ідзе за мнай больш моцны за мяне, у якога я нявартых, нахіліўшыся, развязаць рэмень абутку. Я хрысьціў вас вадой, а ён будзе вас хрысьціць сьвятым духам.*

«*І прыйшоў у тыя дні Ратавальнік із Царскага горада*[315] *і хрысьціўся ад грэка ў рацэ Шарыят-Эль-Кэбірэ. І калі ён выходзіў із вады, усе пабачылі раскрываючыяся нябёсы і духа, як голуба, які сыходзіў на яго, і быў голас з нябёс:*

*«– Гэта май умілаваны сын, на якім мая любасць.*

---

[314] Ян (יון = ІУН) па-жыдоўску азначае – грэк, іяніец, а таксама і голуб, таму што Яна (יונה = ІУНЕ) азначае – галубка.

[315] Назарэт ад נזר (НЗР) – найяснейшы сан, памазанік, сьвятар, цар.

«*І неадкладна пасьля гэтага дух павёў Ратавальніка ў пустыню, і ён быў там сарок дзён спакушаемы сатаной, жыў са зьвярамі, і вестуны неба служылі яму*» (Марк, 1, 4-15).

Але я ўжо даводзіў, што легенда пра хрышчэнне «Ратавальніка» з’яўляецца той жа самай легендай, якая прыводзіцца ў «Жыціях Сьвятых» пра хрышчэнне Вялікага Цара (Васіля Вялікага па-грэцку), і што, акрамя таго, яна тут размешчана няправільна на пачатку яго дзейнасьці. У рэчаіснасьці ж падзея хутчэй за ўсё мела месца пад час апошняга перыяду жыцця «Вялікага Цара», калі пры пераходзе ім уброд рэчкі пры урачыстым уступленні не ў Эль-Кудс, а ў Пампею, пасьля «ажывання із памёршых», на асьле, якога вёў яго вучань Яніец (Ян), у суправаджэнні некалькіх тысяч з захаленнем суправаджаўшых яго людзей, наляцела навальніца і ахрысьціла іх усіх вадой з неба, а праляцеўшы напалоханы голуб[316] і моцны выбух грому ці нават полыя Вязувія далі нагоду для ўзнікнення легенды пра тое, што «Вялікі Цар» будзе хрысьціць агнём. І толькі ўжо пасьля хрышчэлнк Яніец, ён жа, напэўна, Ян Залатавусны, увёў хрышчэнне ў хрысьціянскі рытуал у якасьці ўспаміна пра тое, як ён сам мімаволі ахрысьціў свайго настаўніка.

Пакуль я адзначу тут толькі адно.

Уся гэтая натуральная, анахранізаваная і дэзлацыраваная евангельская перадача, відаць, праўдзівага факта (як і ўвесь далейшы змест брашуркі Марка) яскрава паказвае, што аўтарам гэтага Евангелля быў чалавек, ужо не ведаўшы Езуса асабіста і не браўшы ўдзел у нейкіх падзеях яго жыцця. Але ён шчыра і, з суб'ектыўнага боку гледжання праўдзіва, перадаў усё, што чуў ад сваіх продкаў і сучаснікаў, нават не із трэцціх, а із дзясятых рук, з рознымі фантастычнымі дадаткамі і з вялікімі аберацыямі думкі і памяці.

Толькі з гэтага боку гледжання, г.азн. з боку гледжання існавання чутак, хадзіўшых у сёмым стагоддзі па ўсёй Грэцыі, Ягіпту, Македоніі, Малой Азіі, а таксама і па Заходняй Яўропе, пра месію, быццам бы слупаванага прыхільнікамі Аронава закона і ажыўшага на трэцці дзень, нам і важна вывучаць гэтае Евангелле і пры тым не ў якасьці гістарычнага дакумента, а толькі ў якасьці першапачатковага яшчэ вельмі наіўнага і маленькага сентыментальнага рамана. Яно на тры чвэрці напоўнена апавяданнямі пра здзейсненыя Вялікім Царом дзівы, із якіх тры ці чатыры прыводзіць і Ян, апрацаваўшы іх па-свойму.

Не цяжка бачыць, што да першапачатковага ствала тут пазней прырасталі новыя галінкі, як і ў толькі-што прыведзеным апавяданні пра Янійца – хрышчэльніка, які ў Евангеллі Яна яшчэ не суправаджаецца голасам з нябёс. Прырасло тут да першапачатковага апавядання і тое, што Хрышчэннік быццам бы сілкаваўся саранчой і хадзіў амаль голым, нападобе сірыйскага дэрвіша-манаха ці нашага юродзівага, тады як гэта характэрызуе ўжо больш познюю стадыю хрысьціянства. Дакладна так жа і да апавядання пра насычэнне пяці тысяч чалавек двума хлябамі і пяццю рыбамі (гл. 6) у Марка дададзена і другое апавяданне пра такое ж насычэнне яшчэ «чатырох тысяч чалавек сямю хлябамі (планетамі) і некалькімі рыбкамі» (гл. 8,5).

Адразу бачна, што апошняе паведамленне з’яўляецца толькі простым адгалінаваннем першага міфа, асобна дайшоўшага да Марка із іншых вуснаў. Яно служыць толькі яскравым прыкладам уласьцівасьці міфаў размнажацца шляхам дзялення, падобна ніжэйшым жывёлам, нападобе гідраў, мядуз і ўсіх мікраарганізмаў цалкам.

---

[316] Яшчэ раз адзначу, што імя Ян азначае не толькі іяніец-грэк, але і – голуб, бо Яна (ІУНЕ) азначае – галубка.

Адметнай рысай Евангелля Марка з'яўляецца шматлікасць апавяданнаў пра лекаванне Езусам «апантаных нячысьцікамі», г.азн. згодна з нашымі сучаснымі ўяўленнямі істэрыкаў, істэрычак і цалкам пакутуючых ад прыпадкаў хворых, і пра лекаванне апантаных «нячыстымі духамі», г.азн.. пакутуючых кішэчна-страўнікавымі хваробамі. *Так, у Вёсцы Суцяшэння* (Капер-Наўме), – згодна са сведчаннем Марка, *– ён забараніў на сходзе крычаць «апантанаму нячыстым духам»* (г.азн. страўнікаваму хвораму)[317], *і дух з крыкамі выйшаў із яго жывата, а атачаўшыя ў жаху ўсклікнулі:*

«*– Што гэта за новая навука, што і духамі смярдзючымі загадвае, і яны падпарадкоўваюцца ёй*!

«*І разышлася пра яго пагалоска па ўсім наваколлі* (1,23-28), – заканчвае Марк, *– і прыносілі да яго ўсіх хворых. Ён лекаваў пакутуючых рознымі хваробамі, выгнаў шмат у каго нячысьцікаў і не дазваляў нячысьцікам казаць, што яны ведаюць пра тое, што ён Хрыстос»* (1,34).

У іншым месцы гэтага яго Евангелля распавядаецца, як адзін чалавек каля паляўнічага шатра[318] прывёў да яго свайго сына, з дзяцінства апантанага «нямым духам», г.азн. падучай хваробай, хапаўшым яго час ад часу і кідаўшым на зямлю, пры чым ён выпускаў пену із вуснаў, скрыгатаў зубамі і дранцьвеў. Ён зваліўся на зямлю і на вачах «Лекара» валяўся перад ім.

*«– Як даўно здаылася гэта з ім?» – запытаў Лекар яго бацьку.*

*«– З дзяцінства, – адказаў той.*

«*– Дух нямы і глухі! –* вымавіў тады Езус. *– Я загадваю табе: выйдзі із яго і надалей у яго не заходзь!»*

*І вось, нямы дух ускрыкнуў і, моцна скалынуўшы юнака, выйшаў із яго, а юнак зрабіўся як памёршы, і шат хто казалі, што ён памёр. Але Езус, узяўшы яго за руку, пацягнуў, і ён падняўся.*

*Вучні Вялікага Цара, якіх ён таксама навучыў лячыць ашалелых, г.азн. істэрыкаў* (наданнем), *запыталі яго сам-насам:*

*«– Чаму ж мы да цябе не змаглі дапамагчы яму?*

*– Гэтая парода духаў, –* адказаў ён ім, *– не можа выйсьці із чалавека інакш, як ад малітвы і паста»* (г.азн., ад дыеты) (2,17-29).

Аднак жа і сам евангельскі настаўнік, – згодна са сведчаннем таго ж Марка (6,2-5), – не мог вылекаваць нікога на сваёй радзіме, дзе ўсе атачаючыя яго ведалі. Калі ён павучаў там на сходах па суботах, яны скептычна заўважалі:

«*– Адкуль у яго можа быць мудрасць? Ці не былы гэта дойлід, сын Марыі, брат Якава, Ёсіі, Юды і Сымона? Ці не тут паміж намі яго сёстры?*

«*– Не бывае ўшанавання прарока толькі на яго радзіме, а больш за ўсё сярод сваіх родных і пад сваім дахам, –* адказаў ім на гэта Езус.

«*І не мог ён там, –* дадае Марк, *– здзейсніць ніякага дзіва*» (6,5).

Усе гэтыя апавяданні пра медычныя подзвігі Езуса-Васіля, – зноў паўтараю, – не могуць лічыцца гістарычна непраўдападобнымі, бо спосабы лячэння нярвовых хвароб наданнем практыкаваліся, напэўна, і раней чацьвёртага стагоддзя. Толькі іхнаму апісанню тут нададзены адмысловы сярэднявечны каларыт, які малюе не адзін толькі голы факт, але і стаўленне да яго само апавядальніка. Вялікі магістр, г.азн. Хрыстос, у Евангеллі Марка паўстае перад намі, як і ў Яна, перадусім лекарам, набыўшым славу, перш за ўсё, некалькімі ўдалымі вылечваннямі

---

[317] Τό πνεΰμα, τό άχάθαρτοη – гадкае паветра, г.азн. матэрыяльна ўяўляемы сьмярдзючы дух.

[318] בית־עירה (БІТ-ІРЭ) – шацёр палявання, лоўчы.

істэрыкаў, адпаведным чаму з'яўляецца і яго імя Езус, якое азначае ратавальнік, лекар.



Мал. 84.
*Ажыўленне дачкі Сьвятланосца (Іяіра) у аперцэпцыі царкоўнага мастака XIX стагоддзя.*

Іншыя апавяданні таго ж Марка, калі яны, – зноў скажу, – не перасаджаны ў біяграфію Вялікага Цара з чужай градкі, таксама мімаволі наводзяць на думку, што ён сапраўды быў добрым псіхатэрапеўтам.

Возьмем хаця б апавяданне Марка пра ажыўленне ім із памёршых, г.азн. абуджэнне ад летаргічнага сну, дванаццацігадовай дачкі Асьветніка[319], кіраўніка грамадзкага сходу, у прысутнасьці сваіх вучнях Пятра, Якава і Яна, хаця менавіта Евангелле прыпісваемае Яну і не згадвае пра гэта, а замест таго паведамляе пра ажыўленне Лазара, ужо тры дні ляжаўшага ў магільні.

«*Ён прыйшоў у сядзібу кіраўніка грамадзкага сходу*, – кажа Марк, – *і пабачыў, там плачучых і гучна лямантуючых пра яго памёршую дачку.*

*«– Чаму вы плачаце?* – сказаў ён ім. – *Дзяўчынка не памёрла, а спіць*».

*Ён узяў яе за руку і загадаў:*

«*– Дзяўчына, табе кажу, падніміся!*

«*І яна адразу ж паднялася і пайшла»* (5,38-43).

І гэта, як бачыць чытач, апісана цалкам так, як і зараз апісваюцца абуджэнні загіпнатызаваных хворых сучаснымі псіхіятрамі, пры чым аб'ектамі досьледаў звычайна і бываюць дзяўчыны.

А ў іншым месцы Марк распавядае, як Езус вылечыў паслабленага, г.азн. паралічнага, у вёсцы Суцяшэння[320], загадваючым тонам сказаўшы яму:

*«– Падніміся, вазьмі пасьцель тваю і ідзі дадому»* (2,3-4).

Але ж не без поспехаў робіцца падобнае і зараз...

Потым, евангельскі магістр – згодна з Маркам – паднімае за руку з ложка і цешчу свайго вучня Пятра, відаць, ляжаўшую ў прыпадку істэрыі, палічаную атачаючымі за гарачку, *«і яна паднялася і пачала ім спакойна служыць»* (1,30).

---

[319] יאיר (ІАІР) – ад אור (АУР) – сьвятло.

[320] Капер-Наўме (כפר־נחום = КПР-НХУМ) – вёска суцяшэння.

Цалкам магчыма паверыць апавяданню Марка і пра тое, як «жанчына, пакутаваўшая ад празмерных крывавыцяканняў на працягу дванаццаці гадоў, пазбавілася ад сваёй хваробы, дакрануўшыся да яго адзення ў натоўпе».

«*Езус,* – сведчыць Марк, – *адчуўшы, што выйшла із яго магутнасць, павярнуўся да натоўпу і запытаў:*

*«– Хто дакрануўся да майго адзення?»*

*Жанчына ўпала перад ім на калені і паведаміла яму ўсю праўду. А ён адказаў ёй:*

«*– Дачка мая! Цябе выратавала твая вера. Ідзі спакойна і будзь здаровай*» (5,25-34).

Чытач сам бачыць, што дадатак пра выйшаўшую «магутнасць» ўзяты тут із сярэднявечнай практыкі надання, а сам факт акрыяння ад простага датыку да евангельскага «магістра», вядома, быў магчымым толькі падчас поўнага бляску яго славы, г.азн. пасьля яго «ажывання із памёршых».

Калі мы будзем кіравацца не выпадковым месцазнаходжаннем у Евангеллі Марка такіх розных чутак, меўшых пашырэнне пра Вялікага Цара пад час наступных пакаленняў, а размяркуем згодна з іхнай псіхалагічнай магчымасьцю, то, без сумневаў, павінны размясьціць і гэтае апавяданне ў самым канцы Евангелля, далучыўшы яго да легенды пра яго ўрачысты прыход у горад Сьвятога Замірэння, калі падобнае сапраўды магло мець месца.

Але як бы мы ні глядзелі на чароўныя апавяданні пра «Хрыста», паведамляемыя прастадушным Маркам, – ці будзем лічыць іх за простыя вынікі чыстай старажытнай фантазіі, разгуляўшайся на прыканцы IV стагоддзя нашай эры і працягваўшайся ўсё V, VI і VII стагоддзі пад ўражаннем цудоўнага «ажывання слупаванага Настаўніка із памёршых», ці бачыць у іх больш-менш дакладную перадачу рэчаісных фактаў із яго жыцця і галюцынацый яго вучняў, а то і цэлага натоўпу, якія мелі месца пасьля яго слупавання, – гэта нам усё адно. «Сын бога Грамабоя» ў Евангеллі Марка, як і ў Евангеллі Яна, выглядае не столькі прадвеснікам нейкіх новых навуковых ці рэлігійных ідэй, колькі знакамітым у сваёй краіне лекарам, без якой бы то ні было палітычнай ці рэлігійнай афарбоўкі. Нават і само вучэнне пра тое, што ён «сын бога», відавочна ўзнікла ўжо пасьля яго «ажывання», а ён сам, – кажуць нам, – называў сябе, большай часткай, толькі «чалавечым сынам», а калі і «боскім, то ў тым жа сэнсе, як называў і тых, хто захоўвае наданні бацькі богаў.

Дык у чым жа, – паўтараю яшчэ раз, – была нагода нянавісьці да яго першасьвятара Дасьледчыка[321] і ўсяго арыянскага (фарысейскага), фактычна нічым не адрозніваўшагася ад яго, сьвятарства таго часу? Няўжо толькі ў тым, што ён лепш за іх лекаваў хворых і зрываў у суботу прыдарожныя каласы на шляху? Але гэта ўжо занадта наіўна прыдуманнае тлумачэнне. Ці гэтай нянавісьці цалкам не існавала, ці яго зненавідзелі за прадказанне хуткага знішчэння Пампеі ад вывяржэння Вязувія, ці, – паўтару яшчэ раз, – яна магла ўзнікнуць дзякуючы таму, што ён не хаваў ад чужых людзей таямніц тагачасных акультных навук, паведамляўшыхся толькі абраным у храмах пры пасьвячэнні іх у самую вышэйшую із навуковых ступеняў, што, відаць, суправаджалася звычаем памазання, з нагоды чаго Езус і меў назву Хрыстос, г.азн. памазанец, і гэтае слова пазначала цалкам не месію, г.азн. будучага бога, а выключна магістра навук.

Згадаўшы, што рэлігія была ў тай час толькі агульнай філасофіяй тагачасных навук, што веданне сьвятара цалкам злівалася з веданнем навукоўцы і што навука

[321] Даю такі пераклад грэцкага напісання Каіафа грунтуючыся на Крудэне.

захоўвалася ў глыбокай таямніцы ад усіх неазнаёмленых, мы можам сабе ўявіць, у які жах павінна была прывесьці тагачасных, замкнёных у сваім коле, акультыстаў адна думка пра тое, што ён пачаў адкрываць таямніцы іхнай магіі, алхіміі, медыцыны і астралогіі пад голым небам кожнаму жадаючаму, нават дзецям, якія згодна са сведчаннямі усіх евангелістаў (Марк, 10,14; Матв., 18,10), асабліва ахвотна хадзілі яго слухаць, а разам з тым, магчыма, пачаў выкрываць і іхныя шарлатанствы, здзяйсняемыя дзеля павелічэння сваіх прыбыткаў, шляхам развіцця забабонаў у насельніцтве.

Толькі з гэтага боку гледжання і будзе псіхалагічна зразумелым асуджэнне яго першасьвятаром «Дасьледчыкам» і яго калегамі на пакаранне сьмерцю каля слупа Вязувія пад выглядам папярэджвання такім спосабам вулканічнага вывяржэння.

Але ці існуюць, – запытаюць мяне, – у евангельскіх апавяданнах нейкія намёкі на яго палеміку з тагачаснымі настаўнікамі-сьвятарамі? Існуюць, і нават не адзін. Вось, напрыклад, два намёкі адразу.

«*Шмат народу,* – паведамляе нам Марк, – *слухалі яго з задавальненнем... І паведамляў ён у сваім вучэнні: сьцеражыцеся тлумачальнікаў закона Збаўцы* (Майсея), *маючых схільнасць хадзіць у доўгім адзенні, каб прынімаць вітанні ў народных сходах, сядзець наперадзе ўсіх і ляжаць першымі на баляваннях»* (Лука, 12, 38-40). *«Вы (*сьвятары*) не маеце ў сабе павагі да бога*», – укладае ў яго вусны Ян. – «*Не думайце, што я вас буду вінаваціць перад нябесным бацькам: абвінаваціць вас Збаўца* (Майсей), *на якога вы спадзеяцеся*» (Ян, 5, 15).

Мы знаходзім і іншыя падобныя месцы ў Евангеллях, а адносна яго публічных павучанняў, нападобе «нагорнай прамовы», мне няма патрэбы на іх спыняцца: яны ўсім вядомыя.

# Глава V.

## Крыху із царкоўнай гісторыі навукоўцы Ратавальніка Ўлады (Сакрата-Схаластыка).

Ці існавалі апосталы Пятро і Павел?

Калі тры апошнія главы евангелляў апісваюць сапраўдныя падзеі, то і асоба апостала Пятра, пра якога аўтары так шмат выказваюцца, павінна быць толькі тэалагічнай аперцэпцыяй нейкай рэчаіснай асобы, а не чыста легендарнай фігурай, намаляванай пазней, як некаторыя іншыя вучні, нападобе Двайніка (Тамаша), ці Сына Вадаліва (Варфаламея), дададзеных сюды па аналогіі з дванаццаццю знакамі Задыяка. І калі заснавальнік хрысьціянскага набажэнства Вялікі Цар (па-грэцку Васіль) быў евангельскі Хрыстос, то і Пятра мы можам знайсьці ў гісторыі хрысьціянства гэтага ж самага часу, г.азн. пад час валадарання Валента і пазьней, але ён павінен быць ужо значна старэйшым чым Ян Залатавусты (347-407 г.г.), які даў нагоду да ўзнікнення легендаў пра Яна Багаслова. І сапраўды, такога дзеяча мы і знаходзім у галоўнай ці нават адзінай складнай першакрыніцы гісторыі хрысьціянскай царквы IV стагоддзя – у сярэднявечнай «Царкоўнай Гісторыі», якая прыпісваецца «навукоўцу Ратавальніку Ўлады» (па-грэцку Сакрату-Схаластыку), і (з некаторымі іншымі падрабязнасьцямі) у кнізе Ззяйсненняў Апостальскіх.

Вось што паведамляецца ім.

*Калі імператар Валет* (памёршы ў 378 годзе, г.азн. праз дзесяць гадоў пасьля вылічанага намі ў першай кнізе «Хрыста» часу слупавання Езуса) *жыў у Антыёхіі Сірыйскай* (Сакр., IV, 21), *тады ў «назіральнікі Александрыйскага таварыства хрысціянаў* (прызнаўшага адзінасутнасць Езуса і бога) *быў абраны самы красамоўны і набожны муж Пятро». «Арыяне»* (тоесныя, як я ўжо згадваў, з евангельскімі фарысеямі) *паведамілі пра тое цару Валенту ў Антыёхію. Згодна з загадам Валента Пятро быў, быццам бы, закуты і зняволены ў вязніцу, яго прыхільнікі разагнаны, і «назіральнікам» быў прызначаны арыянін* (фарысей) *Люцый, які адразу ж пачаў пераследаваць далучыўшыхся да Пятра пустыннікаў і гностыкаў, «праводзіўшых жыццё ў малітвах, лекаваўшых хваробы і выганяўшых нячысьцікаў»* (г.азн. лекаваўшых з дапамогай наданняў згодна з прыкладам Васіля Вялікага). «*Яны*, – паведамляе Сакрат-Схаластык, – *зведалі высьмейванне і збіванне; агаляемыя, звязваемыяі, пабіваемыя камянямі, яны гінулі ад мяча, бадзяліся па пустынях у авечых і казіных шкурах, зведвалі недахопы, бедствы і «азлабленне»* (Кн. IV, гл. 24).

У Здзяйсненнях жа Апосталаў гаворыцца пра гэты час, г.азн. пра самыя блізкія гады пасьля слупавання Езуса-Васіля, так:

«*У тыя дні меў месца вялікі пераслед царквы ў горадзе Сьвятога Замірэння, і ўсе, акрамя апосталаў, разышліся па розных месцах. Стэфана* (пабітага камянямі) *пахавалі людзі поўныя глыбокай пашаны і плакалі над ім. Савул* (Павел) *катаваў царкву, заходзіў ў сядзібы, забіраў мужчын і жанчын і выпраўляў іх у вязніцы. А разышоўшыяся хадзілі і павучалі. Так Піліп прыйшоў у адзін самарыйскі* (рымскі) *горад і навучаў Хрысту. Пры гэтым нячыстыя духі выскоквалі з вялікім лямантам із жыватоў шматлікіх апантаных імі, і шмат хто із паслабленых і кульгавых акрыялі»* (8, 17).

А потым, у XV главе Здзяйсненняў Апосталаў паведамляецца пра пераслед пры цару Герою (Іраду), у якім немагчыма не пазнаць сакратава імператара Валента.

«*Ірад падняў рукі на некаторых із належаўшых да царквы і забіў мячом Якава, брата Яна. Услед затым ён захапіў і Пятра пад час дзён праснакоў і пасадзіў у вязніцу, маючы намер пасьля вялікадня вывесьці яго народу. Але, вось, вястун божы з'явіўся Пятру, і сьвятло асьвяціла вязніцу. Вястун штурхнуў Пятра ў бок і вымавіў:*

*«– Апяражыся і абуйся, надзень адзенне і ідзі за мной.*

*«Пятро выйшаў і пайшоў услед за ім.*

*«Яны прайшлі адну вуліцу, і другую, і жалезныя вароты горада самі адчыняліся перад імі... І раптам вястуна не стала.*

*«Агледзеўшыся, Пятро прыйшоў да сядзібы Марыі, маці Яна, называемага Нябожчыкам* (Маркам), *дзе шмат хто сабраліся на малітву* (12, 1-12). *А цар Герай, не знойшоўшы Пятра, аддаў суду вартаўнікоў і загадаў пакараць іх сьмерцю. Потым цар выправіўся із Краіны богаславячых у Цэзарэю* (г.азн. Сталіцу*) і там застаўся*» (12,19).

Тут дзеянне толькі перанесена із Міц-Рыма ў Нагорную вобласць (Сірыю). Да гэтага часу ўжо адбылося далучэнне Савула (Паўла) да хрысьціянства пад уплывам нейкага ўразіўшага яго здарэння ў прыродзе.

Зараз зноў пяройдзем да Ратавальніка Ўлады, бо Здзяйсненні Апосталаў не згадваюць больш пра Пятра.

«*Збегшы із вязніцы*, – паведамляе ён, – *Пятро* (г.азн. ужо Пятро IV стагоддзя нашай эры!) *прыйшоў у Рым, дзе яго прыняў тамтэйшы першасьвятар Дамас, і адтуль ён пісаў лісты «ўсім цэрквам», выкрываючы ў несправядлівасьці Люцыя». Калі ж грэцкі філосаф Фемістый пераканаў Валента спыніць пераследаванне прызнаючых адзінасутнасць Езуса* (Вялікага Цара) *з богам, і Валет выправіўся жыць у Канстантынопаль, то Пятро з ахоўнай граматай ад рымскага першасьвятара Дамаса*

*вярнуўся пасьля выгнання Люцыя ў горад Аляксандра і, «прадзейнічаўшы» там некалькі гадоў, памёр, пакінуўшы наступнікам свайго брата Цімафея* (Кн. IV, 3-7).

А згодна з царкоўнымі міфамі апостал Пятро быў пакараны сьмерцю ў Рыме.

Усё гэта згодна з Ратавальнікам Улады было гадоў праз 8-10 пасьля вылічанага намі часу слупавання «Хрыста», незадоўга да сьмерці Валента, ганіцеля прыхільнікаў адзінасутнасьці богачалавека з богам – яго бацькам.

Цікава, што каля гэтага ж перыяду мы знаходзім і злучаемага царквай з апосталам Пятром апостала Паўла ў асобе новацыянскага «назіральніка» Паўла, сучасніка Яна Хрызастома.

Новацыяне, нараджэнне якіх Ратавальнік Улады адносіць без якіх бы то ні было доказаў да III стагоддзя, былі, – запэўніваюць нам, – адэптамі малаазійскай рэлігійнай секты ў Фрыгіі і Пафлагоніі, якія аб'ядналіся толькі пад час валадарання Валента на саборы ў Пазе каля крыніц Сангары. Яны пастанавілі вялікоднічаць у суботу, як і месіянцы, а не пад час наступнага за ёю дня, і забаранілі дапускаць да сваіх рэлігійных сакрамэнтў прыносячых ахвяры ідалам ці здзейсніўшых пасьля хрышчэння нейкі сьмяротны, грэх. Аднак, гэтыя пастановы строга не выконваліся, і некаторыя іхныя «назіральнікі», каб выйсьці із цяжкага становішча адносна часу Вялікадня, святкавалі яго на працягу двух дзён, г.азн., «у суботу, і ў нядзелю» (IV, 23).

Але кім жа былі гэтыя «назіральнікі»? Хутчэй за ўсё гэта былі астролагі-назіральнікі, вызначаўшыяся грунтуючыся на назіранні зорак час святаў і маладзікоў. Іхнае грэцкае найменне – біскупы – таго ж кораня як і тэлескопы і мікраскопы, што азначае разглядванне, а пазней, калі астралогія аддзялілася ад хрысьціянскай царквы, яны ператварыліся із назіральнікаў за небам ў наглядчыкаў за сваімі субратамі.

Павел быў, – сведчыць Сакрат, – вельмі адукаваным чалавекам і выкладаў спачатку рымскую літаратуру, але потым, каля вылічанага намі часу слупавання Вялікага Цара (г.азн. каля 368 года), зрабіўся прапаведнікам адзінасутнасьці яго і бога, у поўным пагадненні з паведамленнем Лукі ў Здзяйсненнях Апосталаў пра тое, як Павел, сустрэўшы жывым слупаванага Езуса на шляху ў Дар-Мешк, неўзабаве ператварыўся ў яго зацятага прыхільніка. Пад час валадарання Феадосія I, г.азн. паміж 378 і 395 г.г., ён быў абраны «назіральнікам» у Пеларгоне, і ўсімі лічылася за вялікі цуд, што падчас пажару ў гэтым горадзе, 17 жніўня, калі полымя вынішчыла значную частку горада, яно не закранула храм, у якім маліўся Павел. Новацыяне доўга сьвяткавалі гэты дзень і прыпісвалі Паўлу шмат якія іншыя цуды.

«Ён быў такім вядомым дзякуючы сваёй дабрыні і глыбокай веры ў Езуса, што, калі памёр, напачатку V стагоддзя, прызначыўшы сваім наступнікам Маркіяна, усе секты суправаджалі яго цела», – дадае Ратавальнік Улады (Сакрат па-грэцку).

Я не маю магчымасьці далей спыняцца на прыкладах параўнання евангельскіх дзеячаў з living рознымі асобамі, пра якія згадвае царкоўная гісторыя IV і V стагоддзяў[322]. У гэтым кароткім нарысе я спрабаваў толькі паказаць, што перанясенне жыцця евангельскага Хрыста з першага стагоддзя нашай эры (у якім, як даказаў Дрэвэ і іншыя прыхільнікі яго метаду дасьледавання, ніколі яго і не было) у IV стагоддзе не толькі не супярэчыць сапраўды гістарычным паведамленням гэтага стагоддзя, але непасрэдна паказвае нам на існаванне тады асоб, даўшых пачатак легендам пра апосталаў Езуса.

---

[322] Іхнае параўнанне зроблена мнай ў асобнай частцы першай кнігі «Хрыста».

Рэлігійна-філасофскае вучэнне пра будучы шчасьлівы век, калі на зямлі будзе валадарыць сам стваральнік сусьвету і спыніць на ёй існаванне якога б то ні было гора і хваробы, узнікшае, напэўна, толькі ў IV стагоддзі, эвалюцыянавала з кожным годам, адпаведна са змяняючыміся ўмовамі чалавечага існавання і псіхікі. Свай сярэдневечны апакаліптычны характар яно набыло толькі напярэдадні V стагоддзя, і гэта цалкам адпавядала не толькі ўмовам тагачаснага грамадзянскага і разумовага жыцця, але і з'явам самай прыроды.

Так, за пяць гадоў да вылічанага намі слупавання евангельскага Настаўніка, г.азн. каля 363 года, «моцны землятрус, – паведамляе Ратавальнік Улады, – за адну ноч знішчыў камяні старажытных падставаў храма ў горадзе Сьвятога Замірэння (г.азн. у Пампеі ці Геркулануме) і раскідалаў іх усе, разам з бліжэйшымі будынкамі. Ад гэтай падзеі жыхары горада і яго наваколля прыйшлі ў жах, і пагалоска пра яго сабрала туды шмат пілігрымаў з далёкіх месцаў» (кн. III, гл. 9).

Імператар Юльян (361-363 г.г.), – паведамляе Сакрат, – выдаткаваў сродкі на аднаўленне храма, але пажар ад полымя, зваліўшагася з неба (г.азн. ад лавы Вязувія), «знішчыў молаты, далаты, пілы, сякеры, скоблі і ўсё, што было ў майстроў для будоўлі. І ў наступную ж ноч, дадае ён, на адзеннях богаславячых з’явіліся сьветлавыя выявы крыжа» (кн. III, гл.. 20). Чытач сам бачыць, што гэта ўжо падобна на старажытныя апісанні вывяржэння вулканаў...

Потым, пад час першага консульства Валента, г.азн. якраз каля вылічанага мнай часу слупавання Вялікага Цара, у Малой Азіі і ў суседніх з ёю абласьцях Міжземнага мора адбыўся землятрус, разбурыўшы шмат гарадоў, і мора змяніла свае берагі, бо ў некаторых месцах так разлілося, што там, дзе раней хадзілі, пачалі плаваць, а ад некаторых месцаў мора так адступіла, што дно зрабілася сушай» (Сакрат, кн. III, 3).

А пад час другога консульства Валента, г.азн. праз некаторы час пасьля слупавання і «праз 10 гадоў пасьля разбурэння «Нікамедыі», новы землятрус разбурыў Нікею і Віфанію (мясцовасьці, якія яшчэ патрэбна лакалізаваць), а неўзабаве пасьля гэтага была знішчана вялікая частка Гермы ў Дарданэлах (IV, 33). Потым быў моцны недарод і голад у Фрыгіі» (IV, 16). Што ж нам яшчэ патрэбна для ўзгаднення евангельскіх і гістарычных «акалічнасьцей падзей»?

* * *

Так узнікла евангельскае паданне пра тое, што ў момант слупавання Хрыста быў землятрус. «Заслона храма, – паведамляюць Марк і Лука, – разадралася на дзьве часткі зверху да нізу» (Марк, 16, 38; Лука, 24, 45). А самы апошні із чатырох евангелістаў, Мацвей, ужо паведамляе пра гэта з няпраўдападобнымі дадаткамі:

«*Заслона ў храме,* – паўтарае ён, – *разадралася на-двое, зверху да нізу, і зямля ускалыхнулася, і камяні патрэскаліся, і труны адчыніліся, і шмат якія парэшткі памёршых сьвятых ажылі і, выйшаўшы із трун, пасьля ажывання Езуса, прыйшлі ў сьвяты горад і былі заўважаны шмат кім. Сотнік жа і тыя, якія пільнавалі Езуса, назіраючы землятрус і ўсё адбываючаяся, застрашыліся і казалі:*

«*– Праўду ён быў сын божы*» (Марк, 28, 51-54).

Дакладна таксама і дадатак Лукі пра сонечнае зацьменне, якое не магло быць пад час поўні пры слупаванії Езуса, быў дададзены, вядома, грунтуючыся на запісах пра сонечнае зацьменне 15 красавіка 367 года, калі яно ўзышло ў Рыме ў

выглядзе вузкага сярпа (8"8), якраз у нядзелю праз два тыдні пасьля вялікадня, прыпадаўшага на 1 красавіка[323].

Не менш цікава адзначыць і некаторыя іншыя нябесныя з'явы, адбыўшыяся каля часу жыцця Вялікага Цара (у IV стагоддзі), напрыклад, з'яўленне некалькіх новых яркіх зорак, камет, сонечных зацьменняў і дажджоў знічак. Але дзеля складнасьці выкладання мне будзе зручней паведаміць усё гэта ў наступных главах, дзе я таксама, як і раней, буду імкнуцца выказвацца не сваімі словамі, а ўласнымі выказваннямі першакрыніц, не замоўчваючы няпраўдападобнасьці, каб, па-магчымасьці, захаваць тагачасны характар апавядання. Так, на маю думку, патрэбна рабіць пры кожным выкладанні старажытнай ці сярэднявечнай гісторыі, каб мы мімаволі не навязвалі дзеячам даўно мінуўшых пакаленняў сваю ўласную псіхіку і разумелі, што маем справу не з фатаграфіямі былых падзей, а толькі з аперцэпцыямі аўтараў. Без пастаянных цытат із першакрыніц і без ілюстравання апавядання ўрыўкамі са старажытных помнікаў пісьмовасьці, малярства, адзення і архітэктуры, нават і безстаронняя гістарычная кніга ўяўляе тое ж, што курс апісальнай астраноміі, геаметрыі, фізікі, батанікі, заалогіі і г.д. без тлумачальных малюнкаў і чарцяжоў. Чытанне такіх кніг робіцца амаль марнай справай, у сэнсе вывучэння прадмета. Яно бывае толькі абуджальнікам уласнай фантазіі чытача і ва ўсякім разе дае нам горшыя аперцэпцыі, чым чытанне добрага гістарычнага рамана, дзе ўсё ж бачыш жывых людзей, а не манекенаў.

# Глава VII.

## Народзіны і паходжанне евангельскага хрыста.

Згодна з паведамленнем двух евангелістаў, вялікі евангельскі чараўнік і настаўнік быў народжаны дзяўчынай без удзелу мужчыны. Згодна з паведамленнем Лукі, гэта было прадказана ёй арханёлам «Боскім Віцязем» (Гаўрыілам па-жыдоўску) пад час шостага месяца года, г.азн. у сакавіку, лічачы пачатак года ад верасьня, ці ў жніўні (сьвятым месяцы), калі лічыць ад сакавіка па-рымску (што, вядома, не перашкаджае нараджэнню богачалавека ў снежні ўсяго праз чатыры месяцы, бо яно адбылося незвычайным шляхам).

«– *Жыві і не бойся, Марыя!* – быццам бы сказаў ёй боскі віцязь. – *Ты народзіш сына і назавеш яго Ратавальнік* (ці Лекар). *Ён будзе вялікі і атрымае найменне Боскі Сын.*

*Грамабай дасць яму пасад Умілаванага, яго бацькі, і будзе ён вечна валадарыць над нашчадкамі Боганазіральніка.*

*«– Як гэта можа здарыцца, калі я не адружаная*? – запытала яна.

«– *На цябе сыдзе* (замест чалавека) *сьвяты дух,* – адказаў «Боскі Віцязь» – *і ахіне цябе магутнасць усявышняга.*

«– *Хай будзе, як ты кажаш,* – адказала яна, – *і адразу пабегла да сваёй сваячкі «Клятве бога*» (Лізаветы) *пагутарыць пра такое дзіўнае абяцанне»* (Лука, 1, 27).

А ў Мацвея мы чытаем, што «Боскі Віцязь» прыляцеў не да яе, а да заручанага з ёю паважаемага чалавека на імя Кратар Грамабоя (Ёсіф), які меў

[323] Ці не таму 1 красавіка і лічыцца днём падманаў, што пад час адно із гэтых нядзельных дзён усімі чакаемы Хрыстос не прыйшоў на зямлю? Першакрасавіцкія вялікадні, пачынаючы з 209 года, былі: у 210, 283, 294, 305, 367, 378; 389, 400, 462, 473, 484 гг. Хутчэй за ўсё першакрасавіцкі падман прыпадае на 378 год (пасьля сьмерці Васіля Вялікага, г.азн. евангельскага Хрыста).

намер выправіць Марыю да бацькоў за тое, што яна ў момант заручын з ім выявілася ўжо цяжарнай, г.азн., выказваючыся зразумела і навукова-выразна, а не як-небудзь у тумане, каб чытач не ўяўляў сутнасьці справы, з ёю ўжо адбылося ўсё тое, што паказана на малюнку 97 у розных яго фазах.

«– *Ёсіф, сын Давыда,* – сказаў яму «Боскі Віцязь», – *не бойся, нягледзячы на гэта, прыняць Марыю да сябе ў якасьці сваёй жонкі, таму што яна народзіць ад сьвятога духу».*

«*І гэта,* – заканчвае Мацвей, – *адбылося* (няйнакш як) *для таго, каб спраўдзілася прароцтва* (Ісая, 7, 12): *«зачне Панна і народзіць сына, і назавуць яго «З-намі-бог».*

Такім чынам, тут Лука падцверджвае Мацвея, і Мацвей Луку, а Марк і Ян чамусьці маўчаць на гэты конт. Каб раз і назаўсёды скончыць з такім дзіўным зачаццем, разбяром яго навукова.




Мал. 94

*Песьцік кветкавай расьліны ў разрэзе. У сярэдзіне семязавязі. Зверху патрапіўшыя на лычык кветкавыя парушынкі, пускаючыя парасткі да семязавязяў. Адна із іх дасягяае семязавязі і апладняе яе. Як вынік яе драбнення ўтвараецца насенне.*




Мал. 95

*Жаночае яечка рыбы (ікра), а – жыўчык; в – ядро яйкавай клеткі; с – абалонка, не даючая магчымасьці ўвайсьці іншым жыўчыкам. Пасьля растварэння жыўчыка ў ядры пачынаецца яго драбненне з утварэннем вакол кожнай дробнай долькі клетачкі, не аддзяляючайся ад іншых, і із іх утвараецца рыбка.*




Мал. 96

*Аплодненае жаночае яечка (два верхнія моцна павялічаныя малюнкі) прырастае карэньчыкамі сваёй абалонкі да паверхні жаночай маткі. Яго паступова дзелячаяся надвое ядро ўтварае вакол кожнай сваёй дробавай долькі ўсе новыя і новыя клеткі. Частка іх утварае мязы і нервы, другая вылучае із сябе вапну і ўтварае косткі. Праз некалькі месяцаў ужо ўтвараецца дзіцё, плаваючае ў вадкасьці, змешчанай у перапончатым мяшку, і сілкуючаяся праз пупавіну (сярэдні малюнак) крывяной сывараткай маці.*




Мал. 97

*Налева (D) – развіццё зародка кошкі; у сярэдзіне (E) – малпы; направа (F) – чалавека на тых жа першапачатковых стадыях. a – вока; o – вуха; k1, k2, k3-жабравыя шчыліны, знікаючыя пазьней; s – хвост; f – пярэднія, b – заднія канцавіны.*

Як наогул адбываецца зачацце жывёл і расьлін? У кветкавых расьлін пылінка із тычынак кветкі пераносіцца ветрам, ці казуркамі, на лычык песьціка, праз які пускае карэньчык да размешчанай у яго паражніны семязавязі (мал. 94.). Ад зліцця з імі гэтага карэньчыка нутро семязавязі пачынае драбніцца і выспявае насенне, із якога пасьля яго патраплення на вільготную глебу вырастае такая ж расьліна.

У жывёл адбываецца падобнае. Толькі ролю пылінак выконваюць сперматазоіды, саспавячуючыя ў стацевых органах самца (ці мужчыны), якія пры стацевым судатыканні ўпырскваюцца ў жаночыя стацевыя органы і, пранікаючы ў яйкаклетку, якая замяняе ў іх семязавязь расьлін, зліваюцца з яе ядром (мал. 95), пасьля чаго яно набывае здольнасць падзяляцца, а прадукты дзялення, вырастаючыя ў новыя клетачкі, камбінуюцца вызначаным чынам, утвараючы першапачатковую форму жывёлы таго ж віду, як і яго бацькі (мал. 97 і 98).

Якім жа чынам у панны Марыі яйкавая клетачка пачала дзяліцца,без мужчынскага сперматазоіда, якога згодна з евангеллямі Мацвея і Лукі замяніў сьвяты дух?

Вядома, нам могуць сказаць, што акрамя апісанага мной такога двухстацевага зараджэння існуе і нестацевае, калі галінкі расьліны і некаторыя ніжэйшыя жывёлы памнажаюцца простым аддзяленнем. Могуць сказаць, што цнатлівае зараджэнне існуе нават у шмат якіх сямействах казурак, у ніжэйшых ракападобных (Phillopoda) і ў калаўратак, і мае адмысловую назву партеэнагенеза[324]. Дзякуючы яму, у самак звычайнага шаўкапрада (Lasiocampa Pini) адкладзеныя неаплодненыя яйкі могуць даваць гусеніцу і ператварацца ў лялечку, а із яе – у канчатковыя формы як самцоў, так і самак, хаця значна часьцей яны паміраюць на даволі ранніх стадыях развіцця. У шмат якіх перапоністакрылых казурак, у тлей (мал. 98), у сеткакрылых і ў вееракрылых цнатлівае зараджэнне зрабілася нават адным із пастаянных спосабаў размнажэння.




Мал. 98

*Кляновая тля. a – самец; b – самка, здольная да апладнення; c – самка, размнажаючаяся партэнагенетычным шляхам (згодна з Філіпчанка).*

У саленобій і псіхей із партэнагенезных яечак утвараюцца толькі самкі на працягу некалькіх пакаленняў, перш чым адбудзецца апладненне самцом. Тлі адкладаюць восенню аплодненыя яйкі, із якіх вясной выходзяць бязкрылыя самкі, размнажаючыяся таксама партэнагенезным шляхам да самай восені.

У ракападобных і калаўротак усё лета адбываецца цнатлівае размнажэнне і толькі восенню адкладваюцца аплодненыя самцом яйкі. У іх яны даюць толькі самак. А ў перапончатакрылых, якімі з'яўляюцца пчолы, восы, чмялі, пільшчыкі, яны даюць толькі самцоў. Пры ўсіх гэтых выпадках цнатлівае зараджэнне

[324] Ад грэцкага παρθένος – дзеўка і γενέσις – нараджэнне.

адрозніваецца ад стацевага тым, што пры першым драбленні ў яечку самкі выштурхваецца толькі адно накіроўваючае цельца, а не два.

Гэта азначае, з чыста біялагічнага боку гледжання, партэнагенезіс лічыцца магчымым, але толькі не ў людзей ці ў хрыбетных жывёл, у якіх ён цалкам адсутнічае[325],* так што цнатлівае зараджэнне евангельскага Хрыста – сярэднявечная недарэчнасць. Надаючы ёй сур'ёзнае значэнне, лёгка прыйсьці, чытаючы евангелле евангеліста Мацвея, і да магчымасьці андрагенезісу, г.азн. да магчымасьці нараджэння мужчыны мужчынай без удзелу жанчыны: ва ўсіх жа продкаў Хрыста, акрамя яго маці, евангеліст Мацьвей пазначае толькі мужчын на працягу шматлікіх пакаленняў, чаго мы ўжо не знаходзім нават і ў казурак.

«*Аўраам*, – паведамляе ён, – *нарадзіў Ісака, Ісак нарадзіў Якава, Якаў нарадзіў Юду і яго братоў, Юда нарадзіў Фарсу* і г.д.» (Мацвей, гл. 1). І гэта не памылка ў рускім перакладзе, але ўзята непасрэдна із грэцкага арыгінала Евангелля Мацьвея і захоўваецца ва ўсіх яго перакладах, як старажытных, так і новых. Вось, напрыклад, у мяне зараз пад рукай восем Евангелляў: грэцкае, лацінскае, французкае, італійскае, гішпанскае, нямецкае, ангельскае і рускае: ва ўсіх іх паведамляецца тое ж самае[326].

Гэта азначае, што тут ніяк не простая абмоўка Мацвея, а нешта ўспрымаемае сур'ёзна.

– Але як жа, – запытае мяне злосна сучасны чытач, – хто б там ні быў, мог уявіць падобную недарэчнасць? Не размнажаліся ж Аўраам, Ісак, Якаў і ўсе астатнія продкі Езуса простым пачкаваннем, як расьліны і некаторыя із ніжэйшых жывёл?

– Так! – адкажу я. – Евангеліст Мацьвей і меў намер сказаць якраз нешта падобнае. Згодна ж з сярэднявечнымі уяўленнямі ўсе людзі – і мужчыны, і жанчыны – зараджаліся выключна «ад семені сваіх бацькаў», а «ўлонне маці» з'яўлялася для іх толькі чымсьці нападобе гнязда, у якім здзяйснялася разьвіццё гэтага семені, так што маці дзіцяці з'яўлялася для яго толькі карміцелькай, а не актыўнай удзельніцай яго зараджэння, як гэта атрымліваецца згодна з высновамі сучаснай эмбрыялогіі, паказваючымі нам, што пры зачацці дзіцёнка ядро яечкай клеткі яго маці зліваецца са сперматазоідам бацькі (мал. 99). Вось чаму ў Бібліі і гаворыцца, што тай ці іншы із яе дзеячоў паходзіць «ад семені Аўраама ці Давыда», а не ад яйкавай клеткі Сары, ці ад забранай Давыдам жонкі яго вайсковага правадыра Ўрыі.

Гэта азначае, у Евангеллях як партэнагенезіс, так і андрагенезіс пры народзінах Езуса лічацца фактамі, хаця яны пры больш блізкім вывучэнні і несумяшчальныя адзін з адным, і ўвесь радавод павісае ў паветры, як толькі мы паверым, што Ёсіф быў не бацькам, а чужым апекуном панны Марыі... Я ўжо паказваў вышэй і іншыя непагадненні ў Бібліі, згодна з якімі ў некаторых продкаў Езуса выяўляюцца адразу два бацькі.

---

[325]* На сучасны момант ужо знайдзены ў яшчарак... (VVU)

[326] У італійскім: Abraham engendro a Isaac, Isaac engendro a Iacob...
У лацінскім: Abrahamus genuit Isaacum, Isaacus autem genuit Iacobum...
У грэцкім: Άβραάμ έγέννησε τον Ίσαάχ, Ίσαάχ δε έγέννησε Ίαχωβ...
У французкім: Abraham engendra Isaac, Isaac engendra Jacob...
У нямецкім: Abraham zeugete Isaac, Isaac zeugete Jacob...
У ангельскім: Abraham begat Isaac, and Isaac begat Jacob...
У гішпанскаям: Abraham engendro a Isaac. Y Isaac engendro a Iacob...
І ў рускім: Аўраам нарадзіў Ісака, Ісак нарадзіў Якава і г.д

Зразумела, што для сучаснага адукаванага чалавека пагадзіцца на такое генеалагічнае дрэва з пачкаваннем аж да «Хрыста» няма ніякай магчымасьці, і таму нам застаецца толькі патлумачыць яго цнатлівае зачацце неяк больш асэнсавана. І я пакажу зараз, што першапачатковае ўзнікненне гэтай легенды прасьцей за ўсё патлумачыць астралагічна.




Мал. 99

*Адзін са сперматазоідаў бацькі пранікае ў яйкаклетку маці (ў жанчыны яна не больш за галоўкі шпількі) і зліваеццаіз ёю. Пасьля гэтага прадукт зліцця пачынае сілкавацца лімфай маці і падзяляцца на злучаныя паміж сабой клетачкі, із якіх складаецца зародак дзіцяці.*

Справа ў тым, што сярод задыякальных сузор'яў існуе адно, якое мае назву па-грэцку Партэнас, г.азн. па-руску Панна, і кожны год сонца (Эліяс па-грэцку, таго ж кораня як і жыдоўскае слова Эл – бог) уваходзіць у гэтую Панну праз яе галаву і выходзіць із яе жывата каля восеньскага раўнадзенства. Гэта і ёсць цнатлівае зачацце Хрыста, якое і зараз адбываецца штогадова ў верасні без удзелу чалавека Панны.

Аднак, сама звычайнасць гэтай з’явы выключае магчымасць узнікнення грунтуючыся толькі на ёй адной такай незвычайнай легенды, якую я толькі-што прывёў, і таксама ўсталяванне візантыйскага новага года пачынаючы з 1 верасня, г.азн. з таго дня, калі мы знаходзім у каляндарах і сьвята Езуса-Рыбы (Навіна), якога мы ўжо атаясамілі з евангельскім Хрыстом[327].

Вось чаму мы і павінны шукаць на лесьвіцы стагоддзяў такі выпадак, калі б само сонца дало нам тут нейкі знак, г.азн. нарадзілася пад час дня 1 верасня юліянскага злічэння.

Ад пачатку нашай эры мы маем толькі тры такія выпадкі:

1. Сонечнае адраджэнне ў Панне 1 верасня 34 года ў 11 гадзін 16 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, прайшоўшае пасьля поўнага зацьмення праз Сахару із Атлантычнага ў Індыйскі акіян.

2. Сонечнае адраджэнне ў Панне 1 верасня 536 года ў 13 гадзін 20 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, пасьля зацьмення, прайшоўшае ў колападобным выглядзе із Грэнландыі праз Ірландыю і праз увесь заходні бераг Італіі ў Ягіпет і ўздоўж Чырвонага мора.

3. Сонечнае адраджэнне ў Панне 1 верасня 1076 года ў 7 гадзін 47 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, пасьля зацьмення, пачаўшагася колападобна ў Заходняй Сахары і прайшоўшага ў такім выглядзе ў Аўстралію.

---

[327] «Хрыстос». Другая кніга.

Із гэтых трох дапасуе толькі сонечнае зацьменне 536 года, пры жыцці Дыянісія Малога, памёршага ў 540 годзе, які, як вядома, першым і пачаў лічыць гады «ад нараджэння Хрыстова». Але, як мы бачым адсюль, ён лічыў Хрыстом яшчэ біблейскага Езуса (Езуса-Рыбу – Навіна) і прызначыў час яго нараджэнне на 1-е верасня, грунтуючыся на тым, што сонца ператварылася ў кола пад галовай яго маці – нябеснай Панны...

Пачынаючы з гэтага моманту хрысьціянская царква і пачала, напэўна, лічыць год не ад сакавіка, як было ў арыян, а ад верасня, г.зн. пачаўся «візантыйскі год». І гэта ж, напэўна, дало нагоду пры ўзнікненні евангелляў у VII-IX стагоддзях нашай эры сцвярджаць, што Дыянісій Малы (Dionysius Exiguus), славянін, прыбыўшы ў Рым і зрабіўшыся там абатам, «вызначыў нараджэнне Хрыста» на 753 год ад заснавання Рыма (ці наадварот: заснаванне Рыма вызначыў за 753 гады да «нараджэння Хрыста»). Калі да гэтай лічбы мы дададзім яшчэ зрух у 342 гады ад верагоднага пачатку дзейнасьці заснавальніка хрысьціянскай літургіі (Васіля Вялікага), то і атрымаем да заснавання Рыма ўяўляемы час першага із біблейскіх цароў Савула (мінус 1905 год).

Адзначу яшчэ, што ў тым жа месяцы верасні 8-мы дзень пазней пачаў лічыцца і днём нараджэння багародзіцы, г.зн. пачаткам выходжання Панны із-за сонца.

Бачным у Яўропе із сонечных зацьменняў на гэты дзень ад пачатку нашай эры было толькі адно: 8 верасня 378 года, у 11 гадзін 2 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы, прайшоўшае ў колападобным выглядзе па ўсёй Сахары ад Атлантычнага акіяна ў Ціхі і бачнае на ўсіх узбярэжжах Міжземнага мора. Іншых падобных зацьменняў не было да часу друкавання Бібліі Гутэнбергам.

У верасні ж, на 14 дзень, прызначана таксама і сьвята «Ўзвядзення крыжа госпада», г.зн. праходжанне сонца праз перакрыжаванне нябеснага экватара і экліптыкі ў тай жа Панне-багародзіцы, плачучай каля крыжа, на якім штогод крыжуецца яе сын – сонца. Із сонечных зацьменняў, бачных у Яўропе, на гэты дзень мы не знаходзім ніводнага, а із месяцовых на ўзыходзячым скрыжаванні экліптыкі і экватара ў Рыбах маем толькі:

14 верасня 387 года ў 4 гадзіны 26 хвілін ад Грынвіцкай поўначы са звыш поўнай фазай (11"6), калі месяц перад узыходам сонца ў Панне апускаўся на захадзе да зямлі, як у магілу, цалкам зацямніўшыся на перакрыжаванні экліптыкі і экватара ў сузор'і Рыб насупраць Панны.



Мал. 100
*Нованароджаны чэрвеньскі Месяц заходзіць пад Яслямі сузор'я Рака паміж дзьвюма зорачкамі, якія мелі назву Асёл і Асьліха.*

Так было напачатку сярэдніх стагоддзяў. А пазней, ужо у VII-VIII стагоддзях, пачалася на падставе не спраўдзіўшыхся чаканняў Хрыста сварка паміж арыянамі (першапачатковымі юдэямі) і хрысьціянамі, якія, аддзяліўшы Вялікага Цара (Васіля Вялікага) ад біблейскага Езуса (Езуса-Рыбы-Навіна), перанесьлі яго нараджэнне на 1 студзеня, калі сонца бывае ў Стральцу, а месяц, стаўшы зараз сімвалам бога-сына, мог такім жа чынам нарадзіцца ў сузор'і Ясляў (зараз Рак), г.азн. мог узысьці пад час поўневага вечара у выглядзе нова-месяцовага сярпа, і адразу крыху пазьней павялічыцца да свайго поўнага круглага выгляду (мал. 100).

Аднак, грунтуючыся на праваслаўных святцаў, мы бачым, што на 1 студзеня прызначана не нараджэнне Езуса, як павінна вынікаць грунтуючыся на сучасных тэалагічных уяўленнях, а абразанне госпадава і яшчэ тэзаімяніны Васіля Вялікага, г.азн. Вялікага Цара, заснавальніка хрысьціянскай літургіі, із біяграфіі якога спісана частка евангельскіх паданняў пра Хрыста.

Ужо сама назва «абразанне госпадава»[328] паказвае, што тут гаворка ідзе пра няпоўнае (абрэзанае) зацьменне сонца ці месяца, адбыўшаяся 1 студзеня.

Але, пераглядаючы ўсе зацьменні сонца на гэты дзень, мы знаходзім ад пачатку нашай эры і да друкавання Біблії толькі два, бачныя ў басейне Міжземнага мора:

1. Сонечнае зацьменне ў Стральцу 1 студзеня 865 года ў 13 гадзін 24 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы, якое прайшло ад Гудзонава заліва праз Лондан у Скандынавію і было бачным у частковым, г.азн. абрэзаным, выглядзе па ўсёй Заходняй Яўропе.

2. Сонечнае зацьменне ў Стральцу 1 студзеня 1386 года ў 10 гадзін 32 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы, прайшоўшае ў поўным выглядзе праз Рым і каля паўдня праз Канстантынопаль, але яно выглядае ўжо вельмі позным.

Гэта азначае, сьвята абразання госпадава магло мець сваёй першакрыніцай абрэзанае зацьменне сонца 1 студзеня 865 года, патлумачанае астролагамі як наказ

[328] Па-жыдоўску מולת (МУЛТ) – толькі пра звычай абразання; па-грэцку: абразанне крайняга цела.

неба наладзіць гэтую ўрачыстасць. У адпаведнасьці з гэтым знаходзіцца і тая акалічнасць, што пра абразанне Езуса згадваеца толькі ў адным евангеллі Лукі (2, 21), час жыцця якога я ўжо аднёс у першай кнізе да прамежку 850-946 гг., атаясаміўшы яго із Лукой Грэцкім. Тут адно вызначэнне пацмацоўвае другое, і мы можам сказаць, што гэтае сьвята амаль напэўна было ўсталявана менавіта Лукай Грэцкім.

Адсюль вынікае, што сьвяткаванне дня Васіля Вялікага на 1 студзеня магло быць прызначана грунтуючыся на месяцовым зацьменні прыпадаўшым на гэты ж дзень.

А такія зацьменні былі толькі:

1 студзеня 112 года ў 22 гадзіны 56 хвілін, г.азн. пад час ночы з 1 на 2 студзеня, вельмі глыбокае (19"5), якое ўсё было бачна каля поўначы. Але яно хутчэй адносіцца ўжо да 2 студзеня і было раней Васіля Вялікага.

Потым, падобныя зацьменні знікаюць аж да VII стагоддзя, калі адбылося два:

1. Зацьменне месяца ноччу з 1 на 2 студзеня 614 г. у 22 гадзіны 32 хвіліны (перад Грынвіцкай поўначчу, а на ўсходзе каля самай поўначы), абрэзнае са значнай фазай 7"6, калі месяц быў абрэзаны больш за палову.

Яно першае прыдатнае, калі лічыць пачатак сутак ад поўначы.

2. Зацьменне месяца вечарам 1 студзеня 652 года ў 16 гадзін 49 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, г.азн. вечарам, неўзабаве пасьля заходу сонца і ўзыходу месяца. Яго максімальная фаза была 6"7, пры гэтым было абрэзана крыху больш за палову месяца.

Яно падыходзіць вельмі добра.

3. Наступнае падобнае ж зацьменне месяца было толькі 1 студзеня 1135 года, у 23 гадзіны 42 хвіліны (каля Грынвіцкай поўначы, з вялікай фазай 9"5), але яно як быццам бы здарылася занадта позна, каб даць нагоду да ўсталявання тэзаімянінаў Васіля Вялікага і нават пачатку года ад гэтага моманту.

Тое ж самае можна сказаць і пра звыш поўнае (19"2) зацьменне месяца 1 студзеня 1154 года, у 17 гадзін 19 хвілін ад Грынвіцкай поўначы.

Зараз нам застаецца толькі паглядзець, ці не было нейкіх сонечных ці месяцовых зацьменняў, якія маглі б быць палічаны за загад прызначыць нараджэнне Хрыста на 25 снежня, канчаткова аддзяліўшы гэтым асобу евангельскага Езуса як ад біблейскага Езуса (Рыбы-Навіна), так і ад Вялікага Цара Чэцці-Мінеяў.

Із месяцовых зацьменняў, бачных 25 снежня, мы ад пачатку нашай эры маем толькі:

1. Звыш поўнае (14"6) месяцовае 25 снежня 307 года ў 19 гадзін 47 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. У Італіі і Грэцыі яно было каля 8 гадзін вечара, калі снежаньскае сонца зайшло гадзіны чатыры таму назад і зарыва даўно знікла. Але ў такім выпадку Вялікаму Цару пад час яго слупавання ў 368 годзе было б ужо каля 61 гадоў, што, дарэчы, хутчэй за ўсё так і ёсць.

2. Звыш поўнае (16"6) месяцовае 25 снежня 809 года ў 18 гадзін 59 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. І яно ў Італіі і Грэцыі было бачным гадзіны праз тры пасьля таго, як зайшло сонца, і месяц падняўся ўжо даволі высока на цалкам пацямнеўшым небе.

Із сонечных жа зацьменняў мы знаходзім ад пачатку нашай эры толькі адно прыдатнае:

Колападобнае 25 снежня 1098 года, прайшоўшае із Атлантычнага акіяна праз Марока, Грэцыю і Крым да Табольска. У частковым выглядзе яно было добра бачным каля поўдня ў краінах каля Міжземнага мора.

Магчыма дапусьціць, што толькі да гэтага часу (ці да 809 года) і адбылося поўнае аддзяленне евангельскіх хрысьціянаў ад месіянцаў, і здзейснілася канчатковае перасяленне Вялікага Цара на берагі Мёртвага мора, з паніжэннем яго ў цесляры.

А перад гэтым легенда пра Панну і яе боскага сына пашырылася да самай Індыі, аперцэпцыйна падзялілася на шэраг варыяцый, частку якіх я і паказваю на мал. 101.

Але як бы вы ні глядзелі на гэта, а ўсё ж адзіным сур'ёзным рашэннем пытання пра цнатлівае зачацце Хрыста і пра яго паходжанне з'яўляецца толькі астранамічнае, хаця, акрамя такога вырашэння, пад час найноўшага часу (як гэта ні дзіўнае!) ўзнікла яшчэ і гіпотэза пра яго нараджэнне із пшанічнага зерня.

Вось як выкладае гэтае вучэнне адзін із нашых таленавітых дасьледчыкаў біблейскіх кніг, Н. Румянцаў[329].

Паказаўшы спачатку ў цікавым нарысе, што ягіпецкі «Памагаты» (Азірыс) і месапатамскі «Мяцежнік» (Мардук), і Сірыйскі «Бог» (Адоніс), ён жа «Таямнічы» (Тамуз), і элінскі Атыс маюць тыя ж самыя асноўныя рысы, як і евангельскі Хрыстос (мал. 101), г.зн. ажываюць із памёршых і святкуюцца ў адзін і тай жа час, ён пытае:

«Кім жа былі ўсе яны, так моцна шануемыя, забіраемыя бязлітаснай сьмерцю пад час росквіту сваёй юнацкай прывабнасьці і магутнасьці, аплакваемыя пры пахаванні і ў славе ажываючыя?

«Адказ быў дадзены ўжо Гункелем, – адказвае ён, – бачыўшых у іх сонечных і расьлінных багоў». Усе яны, – скажам мы, – былі багамі расьліннасьці, хлебнага поля, нівы, збожжа ў вінаградніку, а іхнай маці, сястрай і ўмілаванай была наогул багіня прыроды і асабліва багіня зямлі. Разгледзім для падцверджання гэтай высновы некалькі прыкладаў.

[329] М. Румянцаў. «Велікодная Міфалогія», Выд. Атэіст. Масква, 1924 г.



*Юнона з Марсам (згодна з Мальверам).*



*Індыйская Панна з немаўлём Крышнай са знакамі Задыяка колам (згодна з Ірэміасам).*



*Дэметра (г.азн. богамаці) з Бахусам (згодна з Мальверам).*




*Дыяна (згодна з М. Брока).*



*Ягіпецкая багіня Гатор з немаўлём Азірысам (згодна з Іерэміасам).*




*Салісбюрыйская багародзіца (згодна з М. Брока).*

Мал. 101

«Плутарх робіць адну каштоўную заўвагу: «Кажуць, што Азірыс пахаваны, калі закопваюць насенне ў зямлю; што ён вяртаецца да жыцця і зноў прыходзіць (ажывае), калі пачынаюць з'яўляцца парасткі».

«Ён жа паведамляе, што пры наступленні часу сяўбы ягіпецкія земляробы закопвалі ў зямлю насенне з такія ж звычаямі, якія здзяйсняюцца пры пахаванні памёршых; тым самым яны сімвалічна хавалі Азірыса, гэтага бога і душу хлеба.

«Другі старажытны пісьменнік, Дыядор, паведамляе, што ягіпецкія сяляне, зразаючы першы колас, выдавалі жаласныя крыкі і заклікалі Ізіду, бо лічылі, што апошняя надзявае жалобнае адзенне і смуткуе па сваім чалавеку і брату, калі настае час жніва, зразання хлябоў.

«Паглядзім зараз на Тамуза-Адоніса.

«Адоніс, – паведамляе рымскі пісьменнік Ампан Марцэлін, – Гэта – сімвал пладоў зямлі, дасягнулых сваёй спеласьці; так вучаць і перадаюць пам таемныя рэлігіі»[330].

«Выдатна ведаючы рэлігіі старажытнага сьвету Фрэзер піша:

«Лепшы доказ, які мы маглі б узяць, каб паказаць, што Адоніс быў богам расьліннасьці, а асабліва – збожжа, даюць нам так званыя «садкі Адоніса»... Цалкам натуральна лічыць, што яны малююць Адоніса ці тлумачаць яго сутнасць. Яны ўяўляюць бога ў яго першапачатковым выглядзе, у выглядзе расьліннасьці, тады як фігуркі, якія знаходзяцца ў сувязі з садкамі і разам з імі кідаюцца ў ваду, малююць яго ў чалавечым і больш пазьнім выглядзе»[331].

«Аналагічная ідэя хаваецца і ў выяве і кульце Атыса.

«Адно із найменняў, – кажа тай жа Фрэзер, – якое давалі Атысу, было «багаты». Пры звяртанні да яго, ён называўся «зялёным (ці жоўтым) коласам зжынаемай пшаніцы»; у яго пакутах, у яго сьмерці і ў яго ажыванні бачылі лёс саспелага коласа, зразаемага жнеярамі, збожжа, назапашваемага ў хлебны свіран, пазней адраджаючагася да новага жыцця пасьля свайго пасеву ў зямлю»[332].

«Недахоп месца не дазваляе нам, – кажа Н. В. Румянцаў, – павялічыць колькасць прыкладаў і адпаведных доказаў: дарэчы, думаецца, і без таго зразумела, што ў асобе ўсіх гэтых ратавальнікаў хаваецца адзін і той жа бог збожжа, коласа, нівы. Лёс збожжа – гэта лёс боскага пакутніка і ратавальніка, чыё ажыванне праз сьмерць і пахаванне – заклад дабрабыту для людзей на зямлі і шчасьлівага жыцця за труной.

«Гэта яна – зямля, сагрэтая прамянямі веснавога сонца, аплодненая веснавымі дажджамі, нараджае свайго красуна-сына, які расьце разам з павялічваючымся да яго каханнем багіні, але пад ударамі гарачых праменяў сонца, ці пад жахлівым подыхам восені і зімы памірае пад час самага росквіту сваіх здольнасьцей і хараства, сыходзіць у падземнае царства, і зямля восеньскімі раўчукамі плача над ім, апранаецца ў жалобу, шукае яго. Ён памёр надоўга? На палову года, – адказваюць адны міфы, – на восень і зіму. На тры зімовых месяцы, – адказваюць іншыя. Але толькі да вясны, да яе пачатку, да весновага раўнадзенства, – дваццатых дзён сакавіка! Тады ажывае расьліннасць, тады пачатак прац на полі,

[330] Марцэлін. «Гісторыя», 19, 1.
[331] Фрэзер. «Адоніс», стар. 184.
[332] Фрэзер. «Залаты колас», т. III, стар. 165.

тады ажыванне расьліннага ратавальніка пасьля трохмесяцовага-трохдзённага знаходжання ў труне».

І вось, такім жа чынам із пшанічнага зярнятка, а не ад дзеўкі Марыі, якая жыла на зямлі, і не ад зорнай Панны на небе быццам бы вырас і евангельскі Хрыстос... Выходзіць, што гэтае зерне, хаця і належала да аднасемядольнай расьліны, пусьціла нават не адзін, а цэлы пучок сьцяблоў, падняўшыхся сваімі каласамі, да самога неба.

Аднак, нягледзячы на сведчанне Багацея (Плутарха) і Боскага Дарунка (Дыядора) і нават самога Аміенскага графа Марцэліна, міжвольна хочацца сказаць, што тут больш гульні розуму, чым яго сур'ёзнай працы. Сьвята пшанічнага жніва магло, вядома, сьвяткавацца з даўніх часоў у паўднёвых краінах каля дня вяснового раўнадзенства, пад час той жа падзеі, калі адбылося і слупаванне Вялікага Цара, і гэта магло даць нагоду для аб’яднання абедзьвух урачыстасьцей разам, а таксама даць нагоду для параўнання яго «трохдзённай сьмерці» са знаходжаннем пасеянага збожжа ў зямлі, як зроблена і ў евангеллі Яна (12, 24): «калі пшанічнае зерне, патрапіўшае ў зямлю, не памрэ, то так і застанецца адным, а калі памрэ, то ператворыцца ў шмат іншых». Але comparaison n'est pas raison (параўнанне не доказ), – справядліва заўжаюць французы, – і для таго, каб з простага штогадовага пасеву пшаніцы змаглі вырасьці ўсе падрабязнасьці евангельскага сентыментальнага рамана пра Хрыста, з яго шматлікімі цудоўнымі здзяйсненнямі і размовамі з Марфай і Марыяй, з вучнямі і не вучнямі патрэбны былі іншыя, больш важкія падставы, чым звычайнае штогадовае вырастанне ўсіх аднагадовых расьлін із іхнага насення, патрапіўшага ў зямлю.

Артур Дрэўс, Румянцаў і Немаеўскі зрабілі вялізную справу. Яны паказалі, што карані большасьці евангельскіх паданняў хаваюцца ў старазапаветнай Бібліі, у элінскіх, ягіпецкіх, месапатамскіх і індускіх паданнях. Пад усім, што яны паведамляюць з гэтай нагоды, я гатовы падпісацца абодвума рукамі. Але яны спыніліся на палове дарогі, як быццам бы спалохаўшыся ўзнікаючага перад імі лагічнага заканчэння – перагляду ўсёй старажытнай храналогіі і новай лакалізацыі біблейскіх і евангельскіх паданняў, – і паспяшаліся схавацца за «пшанічнымі каласамі», хаця яны і занадта малыя для такіх магутных людзей. Але без гэтых каласоў яны відавочна патрапілі б у такое ж становішчы, у якім нярэдка апыналіся хрысьціянскія бацькі, калі дзеці іх пыталі:

«– Хто стварыў неба і зямлю?

«– Бог! – адказвалі яны.

«– А хто стварыў бога?..»

Згодна з толькі што прыведзеным тлумачэннем, на гэтае апошняе пытанне патрэбна было б адказваць:

«– Ён утварыўся із пшанічнага зерня!»

Гэта, вядома, было б больш дасьціпна, чым вывядзенне стваральніка сусьвету ад «дзяўкі Марыі», нарачонай Ёсіфа, шляхам партэнагенезісу, але не больш праўдападобна.

Гэта азначае, адрозненне паміж мнай і толькі-што цытаванымі аўтарамі складаецца толькі ў тым, што іхнае пшанічнае зерне я замяняю сапраўды выбітным рэчаісным чалавекам IV стагоддзя, заснавальнікам праваслаўнай літургіі, Васілём Вялікім, а час узнікнення міфаў пра Крышну-Хрыста, пра Бога-Адоніса і нават пра самога бога-Азірыса вызначаю не раней як V стагоддзе нашай эры (што будзе даказана ў наступных тамах і з дапамогай астранамічных вылічэнняў). А з’яўленне

саміх евангелляў я аднёс ужо да пярэдадня Крыжовых паходаў грунтуючыся на доказах, размешчных мной ў першай кнізе «Хрыста».

У выніку ў мяне атрымліваецца тое ж, што і ў Дрэўса, Румянцава і Немаеўскага: евангельскія паданні таго ж паходжання як і біблейскія, і ягіпецкія, і індускія, але толькі згодна з маімі высновамі яны вырасьлі не із пшанічнага зерня, а із рэчаісных выбітных з'яваў прыроды і грамадзкага жыцця IV стагоддзя нашай эры ў цэнтры культурнага жыцця таго часу – наваколлі Вязувія, пад грукат яго вывяржэнняў.

# Частка пятая

## Астралогія ў евангеллях



Мал. 102

*Зорка паказваючая тром астролагам шлях да Ясляў Хрыста. Біблейская легенда ў аперцэпцыі мастака XIX стагоддзя. Із кнігі J. J. Tissot; La Vie de notre seigneur Jesus Christ.*

## Глава I.

### Прыход Хрыста ў Ерусалім.

Кананічныя евангеллі праваслаўнай царквы ўяўляюць вельмі цікавыя ўзоры для навуковага дасьледавання законаў сярэднявечнай творчасьці, калі для чалавечай думкі не было яшчэ такога вялікага літаратурнага матэрыялу, як зараз, а таму і сама думка была вельмі элементарнай у параўнанні з нашай сучаснай.

Цалкам зразумела, што самы дапытлівы па прыродзе чалавек пад час сярэдніх стагоддзяў, аж да вялізнага памнажэння кніг з дапамогай друкарскага станка, не меў магчымасьці шмат чытаць, а таму і чытаў кожную даходзіўшую да яго кнігу гэтак жа павольна, як мы чытаем прыходзячыя да нас прыватныя лісты, разбіраючы асобна кожную літару. Беглае чытанне з’яўляецца здабыткам друкавальнага станка, а разам з ім і беглае мышленне, і беглае пісанне нашых

звыклых літаратараў. Да вынаходства Гутэнберга (1456 г.) самы геніяльны аўтар не змог бы быць такім пладавітым ў сваіх творах, як нават сярэднія із сучасных белетрыстычных пісьменнікаў, якія пішуць томавыя творы, не зазірнуўшы нярэдка пры гэтым ні ў адну чужую кнігу, а абмяжоўваючыся толькі ўнутранай перапрацоўкай аперцэпцый атрыманых імі із сотняў папярэдне прачытаных кніг і із асабістых назіранняў, калі іхныя кнігі здаюцца нам хаця б і да некаторай ступені арыгінальнымі і цікавымі. Вось чаму я і стаўлюся скептычна да старажытнасьці ўсёй класічнай літаратуры.

Для таго, каб выразна бачыць, якім цяжкім было мышленне пісьменніка нават пад час хрысьціянскага перыяду, я пакажу тут у параўнальнай табліцы, перадусім, паведамленні ўсіх чатырох евангелістаў пра ўваходжанне ў горад Сьвятога Замірэння (Ерусалім) таго, каго яны называюць яго жыдоўскім найменнем Ратавальнік (Езус).

## Уваход «Вялікага Цара» ў горад Сьвятога Замірэння.

(Чатыры евангельскія аперцэпцыі той жа падзеі.)

| Ян, 12,1. | Лука, 19,29. | Марк, 11,1. | Мацьвей, 21,1. |
|---|---|---|---|
| За 6 дзён да Вялікадня прыйшоў Ратавальнік у Сядзібу божай Міласьці (Біт-Анію), дзе быў богапамагаты (Лазар по-жыдоўску), якога ён ажывіў із памёршых. | Калі Ратавальнік наблізіўся да Сядзібы Пашчы (Біт-фагіі) і да Сядзібы Боскай Літасьці (Біт-інії), да гары, маючай назву Боская (Элiёнская, пераіначаная ў Алейная), ён выправіў дзвух вучняў, кажучы: | Калі наблізіліся да горада Сьвятога Замірэння (Іера-Саліму), да Сядзібы Пашчы (Біт-фагіі) і да Сядзібы Боскай Літасьці (Біт-інії), ён выправіў дзвух вучняў, кажучы: | Калі наблізіліся да горада Сьвятога Замірэння (Іера-Саліму) і прыйшлі да Сядзібы Пашчы (Біт-фагіі) да Боскай (Эліонскай) гары, Ратавальнік выправіў дзвух вучняў, кажучы: |
| Там згатавалі яму вячэру, і богапамагаты быў адым із ляжаўшых з ім. Марфа служыла, а Марыя, узяўшы фунт чыстага каштоўнага нардавага масла (із карэнняў расліны Andropogon nardi, якая расьце ў Афрыцы і Заходняй Азіі), памазала ім яго ногі і абцёрла іх сваімі валасамі. Уся сядзіба напоўнілася водарам. Багаслаўны Ваяр-Лёў (Юда-Іскарыёт па-біблейнаму), вучань Ратавальніка, меўшы намер здрадзіць яму, прамовіў: – Чаму б не прадаць гэтае масла за трыста дынарыяў і не раздаць бедным? Ён сказаў гэта не таму, каб клапаціўся пра бедных, а таму, што быў драпежнік і насіў з | [Нічога, падобнага паведамленню Яна пра духмянае масла і пра ажыўленага Ратавальнікам Богапомагатага, няма ў астатніх евангелістаў.] | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| сабой у скрыначцы, што туды апускалі. – Пакіньце яе! – адказаў Ратавальнік. – Яна зберагла гэтае масла на дзень майго пахавання. Жабракоў вы заўсёды маеце з сабой, а мяне не. Шмат хто із багаслаўных, даведаўшыся, што ён там, прыйшлі не толькі дзеля яго, але таксама каб пабачыць і Богапомагатага, якога ён ажывіў. Архіярэі ж (οἱάρχιερέει) вырашылі забіць і Богапомагатага, таму што праз яго шмат хто паверыў у Ратавальніка. | | | |
| (Апавяданне пра Асла, навеянае штогадовым падарожжам месяца на Асьле ў сузор'і Рака за тыдзень да Вялікадня, у Яна прыведзена далей.) | – Ідзіце ў супрацьлеглае мястэчка. Вы знойдзеце там маладога Асла, на якога ніхто із людзей ніколі не сядаў, і калі хто запытае: навошта адвязваеце яго? то адкажыце, што ён патрэбен Валадару. | – Ідзіце ў мястэчка, што проста перад вамі. Адразу каля ўваходу вы знойдзеце маладога Асла, на якога не сядаў ніхто із людзей, і калі хто скажа: што гэта вы робіце? то адкажыце, што ён патрэбен Валадару. І ён адразу выправіць яго сюды. | – Ідзіце ў мястэчка, што проста перад вамі, і адразу знойдзеце там прывязаную Асьліху і Маладога Асла, і калі хто скажа вам нешта, то адкажыце, што яны патрэбны Валадару, і ён адразу выправіць іх. І ўсё гэта было, каб спраўдзілася прароцтва (Ісая, 62,41, і Захарыя, 9,9), якое абвяшчае: скажыце дачцэ Слупавой горы: вось твой цар ідзе да цябе, рахманы, седзячы (адразу!) на Асьлісе і маладым Асьле, сына пад'ярэмнай (гараскоп Ілліна дня, 20 ліпеня юліянскага стылю, лічачы «цара» за сонца, а не за месяц). |
| [Спасылка на Ісайю і Захарыю прыведзена далей.] | [Спасылкі на Ісайю і Захарыю няма.] | [Спасылкі на Ісайю і Захарыю няма ў Марка.] | |
| На наступны дзень шмат народу, прыйшоўшага на сьвята, пачуўшы, што ён ідзе ў горад Сьвятога Замірэння, узялі пальмавыя галіны і выйшлі да яго насустрач, усклікаючы: | Выпраўленыя пайшлі і знайшлі Асла. Яны адказалі стаяўшым як было загадана, прывялі да яго і, накінуўшы на асла сваю вопратку, пасадзілі яго на яе. І калі ён ехаў, шмат хто слалі па дарозе сваё адзенне. А калі ён | Выпраўленыя пайшлі і знайшлі Асла. Яны адказалі стаяўшым, як было загадана, прывялі да яго Асла, паклалі на яго сваю вопратку, і ён сеў на яе. І шмат хто слалі сваё адзенне на яго шляху. А шмат хто зразалі галіны з дрэваў | Вучні пайшлі і зрабілі, як ён загадаў. Прывялі да яго Асліху і Маладога Асла, паклалі на іх сваё адзенне, і ён сеў на яго. І шмат хто із народа слалі свае адзенні на яго шляху. А іншыя рэзалі галіны з дрэваў і клалі на яго шляху. І папярэднічаўшы, і |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | наблізіўся да спуску з Боскай гары, уся шматлікасць яго вучняў пачала ў радасьці голасна славіць бога і ўсе бачаныя імі дзівы, усклікаючы: | і клалі на яго шляху. I папярэднічаўшыя, і суправаджаўшыя ўсклікалі: | суправаджаўы народ усклікаў: |
| – Усёмагутны (ХСН)! Блаславёны ідучы ў імя Грамабоя! Цар багаборцаў! А ён, знойшоўшы маладога Асла, сеў на яго згодна з напісаным (у Захарыя, 9,9): «не бойся, дачка Слупнай гары! Вось ідзе твой цар, седзячы на маладым Асьле!». Вучні спачатку не зразумелі значэння гэтага месца ў прарока, але згадалі, калі ён уславіўся. | – Блаславёны цар, ідучы ў імя Грамабоя! Мір у нябёсах і слава ў вышыні! | – Усёмагутны! Блаславёны ідучы ў імя Грамабоя! Блаславёна царства Ўмілаванага, нашага Бацькі, будучыня ў імя Грамабоя! Усёмагутны (ХСН) у вышыні! | – Усёмагутны! Сын Умілаванага! Блаславёны ідучы ў імя Грамабоя! Усёмагутны (ХСН)! Увесь горад прыйшоў у рух, калі ён у яго зайшоў. – Хто гэта? – пыталі жыхары. – Гэта Ратавальнік, – адказвалі ім, – прарок із горада прысвечаных (Назарэта па-жыдоўск). |

Пасьля гэтага Ян яшчэ дадае:

«*Быўшыя з ім раней сведчылі, што ён выклікаў богапамагатага* (Лазара) *із труны, ажывіўшы яго, а фарысеі* (арыяне) *разважалі паміж сабой:*

«*– Мы не паспяваем ні ў чым! Увесь сьвет ідзе за ім!*

«*Грэкі ж, якія прыйшлі на сьвята, папрасілі яго вучняў, Вершніка* (Піліпа) *і Мужнага* (Андрэя па-грэцку), *пра дазвол ім бачыць Ратавальніка, а Езус адказаў ім*:

«*– Прыйшоў час праславіцца чалавечаму сыну. Калі пшанічнае зерне, патрапіўшы ў зямлю, не памрэ, то так і застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе шмат іншых зерняў* (наіўна для батаніка!). *Душа мая ўсхвалявалася... Бацька, праслаў тваё імя!*

«*– Уславіў і ўслаўлю! – прагучаў грукат із вышыні.*

*«– Гэта грымнуў гром! – гаварыў стаяўшы тут народ, а іншыя адказвалі:*

*«– Не! Гэта анёл з неба гаварыў з ім!»*

Так заканчвае Ян сваё апісанне ўваходу ў Ерусалім. Марк не згадвае пра нейкі гром, а толькі паведамляе:

*«Ён вучыў у храме кожны дзень, а архіярэі, і пісары, і ўладары народа шукалі сродкі загубіць яго, але не маглі, таму што ўвесь народ быў за яго і неадступна яго слухаў».*

А Мацьвей з Лукой, замест голасу з неба, прыпісваюць самаму Ратавальніку вельмі буяны апошні ўчынак:

«*Зайшоўшы ў храм, ён выгнаў із яго ўсіх прадаваючых і купляючых, перакуліў сталы мяняльшчыкаў і лаўкі прадаючых галубоў і прамовіў:*

*«– У пісанні сказана: мая сядзіба завецца сядзібай малітвы, а вы зрабілі із яе ясьлі разбойнікаў!»* (Ісая, 56, 7; Ерамія, 7, II).

Такім было скандальнае заканчэнне, згодна з Лукой і Мацьвеем, прыхода Хрыста ў Ерусалім. Лічачы гэта прыдумкай іх саміх, звернемся да разглядання асноўнай часткі апавядання.

Зірніце яшчэ раз на папярэднічаючае параўнанне чатырох тэкстаў. Перадусім адзначце элементарную форму выказванняў у Марка (у III слупку), амаль без

дадатковых сказаў і без стылістычных адступленняў. Такім складам пісаў бы зараз толькі дзіцёнак. І такім прастадушным дзіцём, хаця магчыма і з сівізнай у валасах, ён сапраўды і быў, а ўсе яго папярэднікі і сучаснікі былі яшчэ больш прастадушнымі, таму што нават і наступныя пакаленні палічылі яго наіўныя апавяданні пра Хрыста за прадыктаваныя яму самім богам, стваральнікам неба і зямлі. Таму нават адна думка пра тое, каб, напрыклад, грэк Фукідыд мог напісаць сваю шматтомную гісторыю вайны за гегемонію над Міжземным морам за 400 з лішкам гадоў да пачатку нашай эры, ці каб іншы грэк Эўклід у Александрыі мог так сістэматычна вывесьці адну із другой амаль усе тэарэмы элементарнай геаметрыі, – здаецца такой жа абсурднай з сучаснага эвалюцыйнага боку гледжання, як і існаванне калі б там ні было моцнай мараходнай дзяржавы на Сірыйскім узбярэжжы, дзе мяркуецца існаванне старажытнага Ціра, ці моцнага сухапутнага царства ў Лаконскай цясьніне, дзе зараз размешчана грэцкая вёсачка Спарці.

Дзясяткі два ранейшых маленькіх запісаў сваіх папярэднікаў, зробленых пра тую ж самую асобу на асобных лістках папірусу, Марк склаў разам, нападобе кніжкі, імкнучыся надаць ім выгляд пасьлядоўнасьці, пранумараваў іх, лічбамі I, II, III, IV і г.д., і яны ператварыліся ў евангельскія кароценькія частачкі. Да пачатку кожнага новага апавядання (г.азн. частачкі) ён дадаў элементарны пераходны масток ад папярэдняга апавядання ў выглядзе самых простых слоў нападобе: «праз некалькі дзён пасьля таго (г.азн. папярэднічаўшага апавядання) Езус пабачыў таго», ці нападобе: «адтуль (г.азн. нібы із папярэднічаўшага месца) ён пайшоў туды» (г.азн. у месца, дзе адбываецца дзеянне новага апавядання) і г.д. І вось атрымаўся невялікі гістарычны, сентыментальны раманчык, ці хутчэй казка, як бы із жыцця шануемага вялікага навукоўца, а Мацвей і Лука дапоўнілі гэта сваімі ўласнымі здагадкамі ці сабранымі сярод сваіх сучаснікаў пра яго ж іншымі чуткамі.

Зірніце ж зараз яшчэ адзін раз на маё супастаўленне.

Вось гэтыя тры «евангелісты» сядзяць на ёй, як жывыя: Лука (слупок II) налева ад Марка, а Мацвей (слупок IV) направа ад яго і перапісваюць на лісты пергаменту, старанна і марудна, кіёчкамі, абмакнутымі ў разведзеную клеем сажу, змест яго кніжкі, маючай назву «Добрая вестка» (Евангелле), пакінуўшы за ёй той жа загаловак. Дзе-нідзе яны выпраўляюць яго склад, перастаўляючы ўзад ці наперад тое ці іншае яго слова, часам замяняюць яго новым, згодна з іхным меркаваннем больш прыдатным; часам дадаюць цэлае выказванне ці нават невялікае апавяданне, але асноўны тэкст Марка ўсюды праглядае ў іх, як косткі шкілета із-пад скуры схуднеўшага чалавека. Відаць, як пасьля кожнага свайго дадавання кампілятары зноў зазіраюць у яго, каб не збіцца, і, набраўшыся ўпэўненасьці, перапісваюць із яго цалкам выказванне ці два.

Такой выяўляецца элементарная творчасць сярэднявечных аўтараў, і больш складанай яна не магла быць, бо яшчэ не было магчымасьці атрымаць дастатковай колькасьці слушных уражанняў і аперцэпцый ад папярэднічаўшых ім пісьменнікаў, яшчэ больш элементарных, чым яны.

І паказаны тут мнай так навочна працэс пісьменніцтва Лукі і Мацьвея не быў праявай зніжэння ўзроўню літаратурнай творчасьці іхнага часу пасьля ўяўнага «класічнага росквіту», а, наадварот, ён быў вяршыняй разумовай творчасьці, магчымай для чалавека ў той час. Класічная літаратура з'яўляецца ўжо наступнай прыступкай, пераходным зьвяном паміж гэтай клерыкальнай (евангелічнай і біблейскай) літаратурай і нашай сучаснай. Не прайшоўшы праз гэтую самую

*уладаўцамі, ахвотна слухаўшых яго. Але навошта мне працягваць апісанне яго ўчынкаў? Я зараз паведамлю пра такую справу, якая, згодна са справядлівасьцю, павінна быць перададзена нашчадкам пісьмова.*

*«Адзін ашуканец, прыкідаючыся хрысьціянінам, некалькі разоў хрысьціўся і дзякуючы гэтай хітрасці збіраў грошы. Ён хрысьціўся і ў арыян, і ў македанянаў і, не ведаючы каго б яшчэ ашукаць, ён, нарэшце, прыйшоў да навацыянскага назіральніка Паўла і паведаміў яму, што палымяна жадае хрысьціцца ад яго рукі. Павел прыняў яго прашэнне, але абвясьціў, што зробіць гэта не раней, чым пасьля навучання яго ў веры і калі ён праўдзе з ім шмат дзён у пасьце. А ў таго не было вялікага жадання пасьціць, і ён пачаў яшчэ дбайней маліць пра неадкладнае хрышчэнне. Павел, не жадаючы засмучаць такога руплівага прыхільніка, купіў яму сьветлае адзенне і, загадаўшы напоўніць хрысьцільню вадой, прывёў да яе ашуканца. Але ад нейкай невядомай боскай магутнасьці вада ў хрысьцільні зьнікла. Прысутныя і сам Павел падумалі, што яна выцякла праз адтуліну знізу, із якой яе звычайна і выпускалі. Старанна заканапаціўшы адтуліну, яны зноў напоўнілі хрысьцільню, але вада раптам зноў зьнікла, ледзь быў да яе падведзены гэты юдэй. Тады Павел* (якога, магчыма, папярэдзілі, і ён сам усё наладзіў) *сказаў яму:*

«*– Паслухай, ты ці хітруеш, ці прыняў ужо хрышчэнне.*

*«І вось збегся ўвесь народ, і хтосьці, пазнаўшы ашуканца, засведчыў, што ён быў юдэем і ўжо ахрышчаны біскупам Атыкам.*

«*Вось якое дзіва здзейснілася ў руках новацыянскага біскупа Паўла!*» (Сакрат-Схаластык, VI, 17).

Прыведзенае намі вышэй апавяданне пра ўкрыжаванне хрысьціянскага юнака і гэтае пра Паўла, які ў тай жа самы перыяд часу пакінуў выкладніцкую дзейнасць і перайшоў да аскетычнага жыцця першых пасьлядоўнікаў «Вялікага Цара» і пачаў хрысьціць паганцаў і арыян-юдэяў, вельмі магчыма прыняць за гістарычнае ўказанне на тыя ж самыя падзеі, якія апісаны ў евангеллях і ў Здзяйсненнях Апосталаў. Праўда, Сакрат адносіць Паўла да пачатку валадарання Хвядоса II, г.зн. ужо да V стагоддзя, тады як вылічаны намі год пакарання сьмерцю евангельскага Хрыста быў незадоўга да ўцаравання Хвядоса I. Аднак, памылка ў размеркаванні матэрыялаў па валадараннях лёгка магла здарыцца, бо ўся «Царкоўная гісторыя» Сакрата-Схаластыка ўяўляе сабой не складнае апавяданне, а проста зборнік паданняў, у значнай частцы анекдатычнага характару, толькі павярхоўна сістэматызаваны па перыядах валадарання рымска-візантінекіх імператараў. У яго большай часткай нават не пазначаецца, ці была згадваемая падзея напачатку дадзенага яму валадарання ці на прыканцы...

Паведамляючы гэтыя апавяданні Сакрата пра ўкрыжаванага юнака і пра Паўла, я хачу паказаць толькі адно: гістарычны фон, асабліва ў дачыненні да псіхічнага жыцця людзей, у іх той жа самы, які мы знаходзім і ў евангеллях. Нават імёны дзеячаў часта тыя ж самыя.

# Глава IV.

## Легенда пра адсячэнне галавы Яна Хрышчэьніа 29 жніўня як астралагічнае тлумачэнне крывавага зацьмення месяца ў сузор'і Вадаліва 29 жніўня 695 года нашай эры.

Евангельская легенда пра паднясенне жонцы цара Героя (Ірада па-грэцку) галовы Яна Купацеля на талерцы скачучай дачкой, вядома, храналагічна злучана з

прызначэннем хрысьціянскага сьвята на 29 жніўня ў памяць гэтай цалкам непраўдападобнай у зямным сэнсе падзеі.

Я ўжо пазначаў, што гэтай легенды няма ні ў Яна, ні ў Лукі, а толькі ў Марка і Мацьвея, і што, акрамя таго, нават і простая думка, што нейкая дзяўчынка-скакуня не збегла, напалохаўшыся, пры адным выглядзе чалавечай галавы, паднесемай ёй катам на акрываўленай талерцы, проста недарэчная, нават і дапасуючы дзеянне да першага стагоддзя нашай эры. Вось чаму і тут мне даводзіцца шукаць, перадусім, астралагічнага тлумачэння, тым больш, што дзень 29 жніўня з'яўляецца адным із 20 дзён, пад час якіх якраз і адбываюцца месяцовыя зацьменні і ператварэнні месяца ў крывавы выгляд у хрышчэльніку зорак – Вадаліве. У гэты дзень месяц, сапраўды, можа здавацца акрываўленай талеркай, на якую пасадзілі не толькі галаву, але і цалкам усяго Яна Купацеля.

Усё гэта вымушае думаць, што сьвята адсячэння галавы Вадаліва ўзнікла толькі пад час сярэдніх стагодзяў, дзякуючы часоваму ператварэнню месяца пад гэтым сузор'ем у крывавую талерку 29 жніўня.

Але гунтуючыся на якіх падставах было б магчымым гэта зрабіць?

Мы ведаем ужо, што згодна з патрабаваннем папы (ці свецкага валадара сярэднявечнай дзяржавы) патлумачыць нейкую незвычайную з'яву на небе астролаг не меў права не адказваць, ці адказаць, што нічога не разумее, не рызыкуючы «страціць сваю ўласную галаву» за такое няведанне, і таму ён павінен быў знайсьці нейкае тлумчэнне. А самым простым спосабам у дадзеным выпадку было, вядома, сказаць:

«– Крывавая талерка пад нябесным знакам Яна Купацеля з'яўляецца адмысловым знакам бога, выяўяючым яго патрабаванне неадкладна прызначыць сьвята 29 жніўня ў памяць таго, што ў гэты дзень была адсечана, згодна з загадам цара Героя (Ірада), галава Хрыстова Хрышчэльніка і паднесена на акрываўленай талерцы жонцы яго брата, за сужыццё якай з царом Героем крытыкаваў яго Купацель.»

Такое тлумачэнне з патрабаваннем усталявання новай царкоўнай урачыстасьці і адкрыццё людзям дзякуючы нябесным сьвяцілам новага цікавага эпізоду із жыцця Хрыста было, вядома, вельмі прыемным для сьвятарства сярэдніх стагоддзяў. Было б недарэчным аспрэчваць іх, і, вось, было ўсталявана нібы самім небам новае сенсацыйнае сьвята і выяўлены новы сенсацыйны эпізод із жыцця евангельскага богачалавека для занясення ў гісторыю хрысьціянства.

Параўнаем жа з гэтага боку гледжання апавяданні пра яго ў Марка і Мацьвея.

Легенда пра паднясенне галавы Купацеля Яна Ірадыядзе на акрываўленай талерцы.

| Марк, 6,17. | Мацьвей, 14,1. |
|---|---|
| «Цар-Герай (Ірад па-грэцку) узяў Янійца (Яна) і пасадзіў у вязніцу за Ірадыяду, жонку Вершніка (Піліпа), свайго брата, таму што адружыўся з ёю, хаця Ян гаварыў яму: | «Цар Герай (Ірад па-грэцку) узяў Іянійца (Яна), звязаў і заняволіў у вязніцу за Ірадыяду, жонку Вершніка (Піліпа), свайго брата, таму што Ян гаварыў яму: |
| «– Немагчыма табе жыць з жонкай свайго брата. | «– Немагчыма табе жыць з ёю. |
| «Ірадыяда ж злавалася на яго, жадала яго сьмерці, але не магла пагубіць, бо Ірад баяўся яго, ведаючы, што ён чалавек | «Цар жадаў забіць яго, але баяўся народа, які лічыў Яна за прарока. (Сведчанне Марка пра паслухмянства Ірада Янійцу выпушчана |

| | |
|---|---|
| справядлівы і сьвяты, і шмат што рабіў, слухаючыся Яна. | Мацвеем» як недарэчнае.) |
| «Калі цар Герай з нагоды святкавання дня свайго нараджэння наладзіў баль сваім вяльможам, палкоўнікам і старэйшынам, дачка Ірадыяды, зайшоўшы, скакала перад ім і вельмі дагадзіла яму і ўсім баляваўшым разам з ім. | «У дзень яго нараджэння дачка Ірадыяды скакала перад сходам яго гасьцей і вельмі дагадзіла яму. |
| «– Прасі ў мяне, чаго пажадаеш, – сказаў ён ёй з клятвай, – і я дам табе нават да паловы майго царства. «Яна выйшла і запытала ў маці: «– Чаго прасіць? «– Прасі галаву Яна Купацеля, – адказала тая. | Ён з клятвай абяцаў ёй даць усё, што яна пажадае. |
| «Дачка паспешна пайшла да цара, кажучы: | «А яна дякуючы падгаворванню маці: сказала: |
| «– Хачу, каб ты даў мне зараз жа на талерцы галаву Купацеля. | «– Дай мне тут на талерцы галаву Купацеля. |
| «Вельмі засмуціўся цар, але не мог парушыць сваёй клятвы перад балюючымі з ім і, выправіўшы збраяносца, загадаў прынесьці галаву Купацеля. «Той пайшоў і адсёк яму галаву ў вязніцы (пад час азмрочыўшайся ночы). | «Вельмі засмуціўся цар, але не мог парушыць сваёй клятвы перад балюючымі з ім і выправіў збраяносца адсекчы галаву Купацелю ў яго вязніцы (пад час азмрочыўшайся ночы). |
| «Ён прынёс яе на талерцы, аддаў дзяўчыне, а яна паднесла сваёй маці». | «Яе паднеслі на талерцы дзяўчыне, а яна аддала сваёй маці». |

Такай з’яўляецца легенда пра паднясенне дачкой Ірадыяды галавы Яна Купацеля на акрываўленай талерцы. Цікава, што Мацьвей, перапісваючы гэта ў Марка, не толькі не распрацаваў, але нават скараціў апавяданне, ці ж дадаткі ў Марка зроблены наступнымі перапісчыкамі. Магчыма, што яго гістарычнай першакрыніцай служыць сапраўдны ўспамін пра тое, як легендарны цар-Герай, г.азн. Юлій Цэзар, адбіў Клеапатру ў свайго ягіпецкага суваладара, але гістарычнае тут усё ж толькі дадалося да астралагічнага падання, узнікшага з нагоды ператварэння месяца ў крывавую талеку пад хрышчэльнікам зорак – Вадалівам пасьля яе «адсячэння» ў частковым выглядзе ценню зямлі.

Іншага тлумачэння гэтага (у іншым выпадку цалкам недарэчнага) апавядання я не бачу, ды і супадзенне яго даты – 29 жніўня – з часам месяцовых зацьменняў якраз у Вадаліве было б вельмі неверагодным, калі б было простай выпадковасьцю. Вось чаму я і лічу сябе маючым права паспрабаваць вызначыць астранамічна як час узнікнення гэтага сьвята так і адпавядаючай яму легенды.

Поўныя зацьменні ці ператварэнне месяца ў крывавую талерку пад Вадалівам[339], бачныя на абшарах краін, атачаючых Міжземнае мора, былі, пачынаючы з мінус IV стагоддзя, толькі:

1. У мінус 366 годзе, 30 жніўня, у 1 гадзіну 33 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы (г.азн. у ноч ад 29 на 30 жніўня). Але яно адбылося ўжо бліжэй да раніцы 30 дня і прытым у глыбокай цёмнай фазе 16"0, мала падобнае да акрываўленую талерку. Прытым жа ў гэты час яшчэ не існавала хрысьціянства.

[339] Як бачна на маіх табліцах у томе «Паведамленні Навуковага Інстытута імя Лесгафта».

2. У 155 годзе нашай эры, 30 жніўня, у 0 гадзін 4 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы (г.азн. у ноч ад 29 на 30 жніўня), але і яно было вельмі глыбокім па фазе 17"4 і таму мала падобным на акрываўленую талерку.

3. У 174 годзе, 29 жніўня, у 23 гадзіны 36 хвілін перад Грынвіцкай поўначчу з фазай 13"0. Першае, якое можна лічыць прыдатным, калі прызнаць пачатак хрысьціянства ў II стагоддзі нашай эры, на што мы не маем ніякага права.

4. У 611 годзе, 29 жніўня, у 5 гадзін 1 хвіліну ад Грынвіцкай поўначы, фаза 22"0, цэнтральнае над – 75° Грынвіцкай даўгаты. У Заходняй Яўропе мог быць бачным толькі пачатак пры ўзыходжанні сонца і заходжанні месяца.

5. У 676 годзе, 29 жніўня, у 2 гадзіны 7 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, глыбокае (фаза 18"7), цэнтральнае над – 32° Грынвіцкай даўгаты, выдатна бачнае па ўсёй Яўропе, Афрыцы і Заходняй Азіі да раніцы. (Першае прыдатнае.)

6. У 695 годзе, 29 жніўня, у 21 гадзіну 10 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, амаль поўнае (фаза 10"9), цэнтральнае над +42° Грынвіцкай даўгаты. Выдатна бачнае каля поўначы па ўсёй Яўропе і Афрыцы і пасьля поўначы ў Заходняй Азіі. Другое цалкам прыдатнае, бо было падобным на крывавую галаву на талерцы сярпа месяца.

Пасьля гэтага было толькі ў 1151 годзе вельмі слабое (фаза 4"0) у ноч з 28 на 29 жніўня, у 23 гадзіны 25 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, цэнтральнае над +8° Грынвіцкай даўгаты, але яно ўжо відавочна не магло патрапіць у евангеллі Марка і Мацьвея.

Лічачы, што Марк Афінскі, аўтар евангелля Марка[340], памёр у 726 годзе, ён выдатна мог назіраць зацьменне 695 года, за трыццаць гадоў да сваёй сьмерці.

Бяручы да ўвагі ўсё гэта, даводзіцца дапусьціць, што сьвята адсячэння галавы Янійца Хрышчэльніка было ўсталявана, дзякуючы ператварэнню месяца ў крывавую талерку, у ноч ад 29 на 30 жніўня 695 года, пад Вадалівам.

У гэты час сонца было ў Ільве, і сузор'е Панны набліжалася да яго на захадзе ў крывавай паласе вечаровага зарыва. Юпітар быў у Авене, на ўсход ад месяца, Сатурн паміж Стральцом і Казярогам на захад ад месяца, а Марс у Ільве за сонцам. А апоўначы на ўсходзе падымаўся ў вышыню, як збраяносец, Пярсей з прыўзнятым мячом, трымаючы галаву Мядузы, із якай штогадова ляцяць, як краплі крыві, пырскі метэарытаў-персіядаў, і скакала (калі жадаеце!) прыкутая зараз Андрамеда перад царом Цэфеем і яго жонкай Касіяпеяй, сваёй маці (мал. 112).



[340] «Хрыстос». Першая кніга, частка IV, глава III.

Мал. 112

*Сузор'і Цэфея, Касіяпеі, Андрамеды і Пярсея з галавай Мядузы, із якіх, згодна з думкай Немаеўскага, спісаны: цар Ірад, Ірадыяда, яе дачка і кат, нясучы галаву Яна Купалы (хаця яна была і мала падобнай на галаву Мядузы!).*

Дастаткова добрая ілюстрацыя да сьвята адсячэння галавы на акрываўленай талерцы!

Гэта азначае, што можна сказаць з упэўненасьцю, гэтае сьвята было ўсталявана ў 695 годзе евангелістам Маркам.

І тут астранамічнае тлумачэнне, як і ўсюды ў папярэднічаўшых выпадках, паказвае нам на вельмі позьні час узнікнення тых міфаў, якія ляглі ў падмурак як біблейскіх, так і евангельскіх паданняў, і разам з тым скасоўвае ўсталяваўшуюся храналогію старажытнай гісторыі.

# Глава V.

## Легенда пра насычэнне мноства людзей пяццю хлябамі з дзвума рыбамі перад вялікаднем.

(Успамін пра сыходжанне планет у сузор'і двух Рыб.)

Калі вы, чытач, калі-небудзь ўважліва назіралі за небам тыдні за тры да хрысьціянскага сьвята вялікадня (прыпадаючага заўсёды на першую нядзелю пасьля раўнадзённай поўні ў Панне), то не маглі не заўважыць, як чоўнападобны месяц плыве пасярод сузор'я двух Рыб для таго, каб злучыцца тут са сваім бацькам сонцам[341]. А потым той жа месяц ажывае «праз тры дні» ў сузор'і дзяцей-Двайнят.

Гэтая выява ўжо даўно звяртала на сябе асаблівую ўвагу старажытных астролагаў, як знаходзячаяся ў простай сімвалічнай сувязі з хрысьціянскай пасхаліяй, а таму і ўсё незвычайнае на небе перад такім важным сьвятам здавалася ім асабліва сімвалістычным. У такім выпадку як можна здзіўляца таму, што ўвесь сярэднявечны хрысьціянскі сьвет быў моцна ўсхваляваны, калі пад час самога раўнадзенства 21 сакавіка, тыдні за тры да вялікадня, тут, у сузор'і двух Рыб, каля самай кропкі веснавага раўнадзенства, сабраліся ўсе пяць іхных планет, г.азн. усе акрамя сонца, знаходзіўшагася ўжо за Дзвума Рыбамі ў Авене, і месяца, сімвала евангельскага Хрыста, які спяшаўся да яго як да свайго бацькі, праз гэтае ж воднае месца, дзе заўсёды плаваюць нябесныя рыбы?

Ці патрэбна дзівіцца і таму, што тут едзе, – згодна з адным паданнем, – у сімвале чоўнападобнага месяца сам Хрыстос у чоўне, а згодна з іншымі паданнямі – ён жа тут ідзе па вадзе, як па сушы?

Ці патрэбна здзіўляцца, нарэшце, і таму, што пры падобных умовах хто-небудзь параўнаў і самі планеты з кругленькімі хлябамі, ледзь віднеючыміся ў далечыні, якімі можна насыціць астралагічна тысячы людзей, пры чым і пасьля гэтага, калі планеты ўжо разышліся ў розныя бакі, імі напаўняюцца паступова ўсе дванаццаць пляцёнак каардынатнай сеткі неба, адпавядаючыя дванаццаці знакам Задыяка (мал. 113)?

---

[341] Нагадаю, што звеставанне заўсёды бывае пры поўні ў Панне, а сыходжанне сьвятога духа (ці сямуха) – калі сонца набліжаецца да самага верхняга становішча каля Двайнят, а месяц знаходзіцца ў самым ніжэйшым становішчы ў Стральцу ці ў Казярогу.

Але як толькі вы засвоіце гэта, вам перастане здавацца недарэчным і евангельскае паданне пра тое, што «Вялікі Настаўнік» насыціў пяццю хлябамі і двума рыбамі падчас свайго павучання незадоўга да жыдоўскага вялікадня, святкуемага звычайна за некалькі дзён перад хрысьціянскім, чатыры тысячы чалавек. Гэта зноў будзе чыста астралагічны міф, і прыкметы астралізацыі адаб'юцца нават і ў яго варыянтах. Прачытайце ж іх перадусім у маім параўнанні.




Мал. 113

*Сузор'е двух Рыб і астатнія дванаццаць хлебных кошыкаў Задыяка.*

Легенда пра насычэнне народа пяццю хлябамі з двума рыбамі перад вялікаднем.

| Лука (9,11). | Марк (6,34). | Мацьвей (1-ы тэкст 14,14). | Мацьвей (2-і тэкст 13,30). |
|---|---|---|---|
| Народ, празнаўшы, дзе ён (*г.азн. евангельскі настаўнік у сімвале месяца*) пайшоў да яго, і ён размаўляў з усімі пра нябеснае царства, а патрабуючых лячэння лекаваў. | Ён (*евангельскі настаўнік*) выйшаў (*перад набліжэннем Вялікадня згодна з Янам, 6,4*) і пабачыў шмат народу. Ён зліտаваўся над людзьмі, таму што яны былі як авечкі без пастуха, і пачаў вучыць іх шмат чаму. | Ён (*евангельскі настаўнік у сімвале месяца*) выйшаў (*перад набліжэннем вялікадня, згодна з Янам, 6,4*) і пабачыў шмат народу. Ён злітаваўся над людзьмі і лекаваў іхныя хваробы. | Ён (*евангельскі настаўнік у сімвале месяца*) прыйшоў да Галілейскага мора. Да яго там прыступіла шмат народу, кладучы да яго ног сваіх кульгавых, сьляпых, нямых, знявечаных, і ён іх лекаваў. І ўвесь народ дзівіўся і славіў бога |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | богазмагальнікаў. |
| Калі дзень пачаў схіляцца да вечара, дванаццаць вучняў (*у сімвале дванаццаці сузор'яў Задыяка)* падышлі да яго, кажучы:<br>– Адпусьці іх, каб пайшлі ў навакольныя паселішчы купіць сабе хлеба. Ім тут няма чаго есьці. | Нарэшце, вучні падышлі да яго, кажучы:<br>– Тут пуста, а час позні. Адпусьці іх, каб пайшлі ў навакольныя паселішчы і вёскі купіць сабе хлеба. Ім тут няма чаго есьці. | Калі надышоў вечар, вучні падышлі да яго, кажучы:<br>– Тут пустое месца, а час позні. Адпусьці іх, каб пайшлі ў паселішчы купіць сабе ежы. | Ён паклікаў сваіх вучняў і сказаў ім:<br>– Шкада мне людзей. Яны ужо тры дні знаходзяцца пры мне, і няма чаго ім есьці. Адпусьціць жа іх галоднымі не пажадана, каб не саслабелі ў дарозе. |
| – Вы самі дайце ім ежы, – прапанаваў ён.<br>– У нас тут няма больш пяці хлябоў з двума рыбамі.<br>– Ужо ці не пайсьці нам купіць ежы для ўсіх гэтых людзей?<br>Іх было больш чым пяць тысяч. | – Вы самі дайце ім хлеба, – прамовіў ён ім у адказ.<br>– Ці не пайсьці нам купіць хлеба дынарыяў на дзьвесьце, каб даць ім?<br>– Колькі ў вас хлябоў? – запытаў ён. – Ідзіце і паглядзіце.<br>Яны, паглядзеўшы, адказалі:<br>– Пяць хлябоў з двума рыбамі. | Няма патрэбы ім ісьці. Вы самі дайце ім ежу, – сказаў ён.<br>– У нас тут толькі пяць хлябоў з двума рыбамі (*г.азн. пяць планет у сузор'і двух Рыб*). | – Адкуль нам здабыць у пустыні столькі хлеба, каб насыціць усіх гэтых людзей? – адказалі вучні.<br>– Колькі ў вас хлябоў? – запытаў ён.<br>– Сем хлябоў (*ужо ўсе сем планет!*!) з нешматлікімі рыбкамі, – адказалі яны». |
| – Пасадзіце ўсіх шэрагамі, па пяцьдзесят у шэраг, – загадаў ён».<br>І яны пасадзілі ўсіх. | Ён загадаў вучням пасадзіць усіх на зялёнай траве, шэрагамі па сотні і па пяцідзесяці, і ўзяў пяць хлябоў з двума рыбамі. | – Прынясіце іх мне сюды, – загадаў ён, і прапанаваў людзям легчы на траву». | Ён загадаў людзям легчы на зямлю. |
| Паглядзеўшы на неба, ён узяў пяць хлябоў з двума рыбамі, блаславіў іх, разламаў і даў вучням, каб раздалі народу. | Паглядзеўшы на неба, ён блаславіў хлябы, разламаў і даў вучням для раздачы. І падзяліў на ўсіх дзьве рыбы. | Паглядзеўшы на неба, ён блаславіў пяць хлябоў і дзьве рыбы, разламаў хлябы і даў вучням, а яны людзям. | Узяўшы сем хлябоў з рыбамі, ён падзякаваў бога, разламаў і даў вучням, а яны людзям. |
| І ўсё елі і насыціліся. | І ўсё елі і насыціліся. | І ўсё елі і насыціліся. | І ўсё елі і насыціліся. |
| І паклалі астатняе ў дванаццаць пляцёнак (*аддзелаў Задыяка, пераплеценых сеткай нябесных каардынат*). | І паклалі кавалкі хлеба (*г.азн. пяць планет*) і рыб у дванаццаць напоўненых (*зоркамі*) пляцёнак: (*дванаццаць сядзіб* | І паклаў астатнія кавалкі ў дванаццаць напоўненых пляцёнак. | І паклалі астатнія кавалкі ў сем напоўненых пляцёнак. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | *Задыяка*). | | |
| | А еўшых было каля пяці тысяч чалавек. | А еўшых было каля пяці тысяч чалавек, акрамя жанчын і дзяцей. | А еўшых было чатыры тысячы чалавек, акрамя жанчын і дзяцей. |
| (*Заканчэння гэтай легенды з хаджэннем па моры, як па сушы, маючагася ў Мацьвея, Марка і Яна, – у Лукі няма, а змешчана апавяданне пра пераўтварэнне.)* | І адразу прымусіў вучняў зайсьці ў човен і выправіцца на другі бераг да Біт-Сайды, пакуль ён адпусьціць народ. (*А потым і сам пайшоў за імі туды ж па моры, як па сушы,. 6,48.*) | І адразу прымусіў вучняў заайсьці ў лодку і выправіцца на другі бераг, пакуль ён адпусьціць народ. Пад час цьвёртай жа варты ночы пайшоў ён да іх, ідучы па моры, хаця была моцная бура (14,25). | І, адпусьціўшы народ, падняўся на карабель і прыплыў у Магдалінскую вобласць. (*Г.азн. месяц прайшоў у выглядзе чоўна ўсё сузор'е Рыб, якое, вядома, уяўляе не сушу, а мора.*) |

Параўнаўшы адзін з адным гэтыя чатыры прыклады, чытач сам зразумее і нагоды іхных адрозненняў.

Цікавей усяго тое, што ў Мацьвея гэтая легенда існуе ў двух варынтах: у першым фігуруюць, як і ў іншых евангелістаў, толькі пяць планет у выглядзе пяці круглых хлябоў у сузор'і двух Рыб, а ў другай ужо ўсе сем планет у некалькіх рыбах. Артадаксальныя тэолагі сцвярджаюць, што гэта два розныя выпадкі рэчаіснага накармлення тысяч людзей у пустыні некалькімі хлябамі і рыбамі, але наша парадковае параўнанне абодвух варыянтаў навочна паказвае, што і другі варыянт Мацьвея проста спісаны з першага, радок за радок, толькі колькасць хлябоў і пляцёнак заменены на іншую лічбу. Чаму? І гэта зразумела. Складальнік другога варыянту ведаў, што гаворка тут ідзе пра планеты ў сузор'і Рыб, але ўжо не быў сведкам гэтага выпадку, а таму далучыў сюды і Паўднёвую Рыбу, і Кіта, як суседнія, а колькасць планет узяў агульную.

«Усіх планет не пяць, а сем», – разважаў ён і выправіў ранейшую колькасць, ды і дванаццаць аддзелаў Задыяка, у якія яны потым патрапілі, выправіў на сем, бо сем планет не могуць напоўніць адразу дванаццаць сузор'яў, а толькі пасьлядоўна.




Мал. 114

*Сузор'е двух Рыб на перакрыжаванні нябеснага Экватара і Экліптыкі, дзе сыходзіліся перад вялікаднем пяць планет, толькі ў 670 годзе нашай эры перад вялікаднем 14 красавіка.*

Колькасць накормленага народа сімвалізавана тут колькасьцю зорак на небе, якую пазнейшы аўтар палічыў роўнай чатыром тысячам, а не пяці. І вось атрымалася два варыянты, якія і патрапілі ў рукі Мацьвея, а ён прастадушна размясьціў першы варыянт у 14-ую, а другі (псеўда выпраўлены) у 15-ую частку свайго евангелля...

Для астранамічнага вызначэння часу апісанага тут праходжання месяца праз сузор'е Рыб за два-тры тыдні да вялікадня, нам патрэбна, відавочна, браць першы варыянт, і тады атрымаецца наступнае.

Ад пачатку нашай ары і да нашага часу ўсе пяць планет – Сатурн, Юпітар, Марс, Венера і Меркурый – сыходзіліся ў передвелікодны час у сузор'і двух Рыб толькі ў 670 годзе, як бачна із прыкладзенай табліцы XXXVIII. У тым годзе першая пасьляраўнадзённая поўня была 2 красавіка, калі Настаўнік (месяц, ён жа Езус), ужо перайшоў па вадзе двух Рыб, як па сухому, на другі бераг неба, г.азн. у яго паўночнае паўшар'е, і прыйшоў у Авена. Велікодная нядзеля у тым годзе была 14 красавіка.

ТАБЛІЦА XXXVIII.

Злучэнне планет у сузор'і Рыб.

| У сузор'і Рыб | | Становішча Марса для дат, прыдатных адносна Юпітара і Сатурна. |
|---|---|---|
| Сатурн | Юпітар | |
| -6,24 | -5,57 | У сакавіку 6 года Марс быў на процілеглым баку неба. Не дапасуе. |
| +23,22 | +30,01 | |
| +52,68 | 53,74 | Пад час маладзіка 5-6 сакавіка 53 года Марс быў паміж Казярогам і Вадалівам. У Рыбы прыйшоў толькі пры маладзіку 4 красавіка, калі сонца ўжо перайшло ў Авена. Не дапасуе |
| 82,13 | 89,32 | |
| +111,59 | 113,05 | |
| 141,05 | 148,63 | |
| +170,50 | 172,36 | |

| | | |
|---|---|---|
| 199,96 | 196,08 | Адсутнічаюць злучэнні Юпітара і Сатурна. |
| 229,42 | 231,67 | |
| 258,88 | 255,39 | |
| 288,33 | 290,98 | |
| 317,79 | 314,70 | |
| 347,25 | 350,29 | |
| 376,70 | 374,01 | |
| 406,16 | 409,60 | |
| 435,62 | 433,32 | |
| 465,08 | 468,91 | |
| 494,53 | 492,63 | |
| 523,99 | 528,21 | |
| +553,45 | 551,94 | У сакавіку 552 года Марс пераходзіў із Авена ў Цяля. Не дапасуе. |
| 582,90 | 587,52 | |
| +612,36 | 611,25 | У сакавіку 611 года Марс быў у Шалях. Не дапасуе. |
| 641,82 | 646,83 | |
| +671,27 | 670,56 | У сакавіку 670 года Марс заходзіў у сузор'е Рыб. Маладзік быў 26 сакавіка, поўня 9 красавіка, Вялікдзень 14 красавіка. Венера раніцамі ішла праз сузор'е Рыб (каля 20° сучасн. даўгаты) да верхняга злучэння з Сонцам. Дапасуе. |
| 700,73 | 706,14 | |
| +730,19 | 729,87 | У сакавіку 730 года Марс пераходзіў із Казярога ў Вадаліва. Не дапасуе. |
| 759,62 | 753,59 | |
| +789,10 | 789,18 | У сакавіку 789 года пераходзіў із Авена ў Цяля. Не дапасуе. |
| 818,56 | 824,76 | |
| +848,02 | 848,49 | У сакавіку 848 года ішоў па Скарпіёну. Не дапасуе. |
| 877,47 | 872,21 | |
| +906,93 | 907,80 | У сакавіку 907 года заходзіў із Вадаліва ў Рыбы. Маладзік быў 16 сакавіка, поўня 30 сакавіка, вялікдзень 7 красавіка. Але Венера была ў Авене (каля 40° сучаснай даўгаты). Не дапасуе. |
| 936,39 | 931,52 | |
| +965,84 | 967,11 | |
| 995,30 | 990,83 | |
| +1024,76 | 1026,42 | Адсутнічаюць злучэнні Юпітара і Сатурна. |
| 1054,22 | 1050,15 | |
| 1083,67 | 1085,73 | |
| 1113,13 | 1109,46 | |
| 1142,59 | 1145,04 | |
| 1172,04 | 1180,63 | |
| 1201,50 | 1204,35 | |
| 1230,96 | 1228,08 | |
| 1260,41 | 1263,66 | |
| 1289,87 | 1287,39 | |
| 1319,33 | 1322,97 | |
| Адзіны выпадак сыходжання ўсіх планет у сузор'і Рыб ад пачатку нашай эры да XIV стагоддзя быў толькі 26 сакавіка 670 года. | | |

Толькі ў 670 г. усё дапасуе, і, акрамя таго, калі чытач памятае, што я паведамляў у II кнізе пра пераход Езуса Рыбнага (г.азн. ад сузор'я Рыб, па-жыдоўску Навіна) праз раку Эрыдан, пры чым яе вада расступілася перад ім[342], то ён пабачыць, што гэтая падзея дала адразу дзьве легенды: адну толькі-што павядомленую хрысьціянска-грэцкую ў евангеллях, і другую месіянска-жыдоўскую

[342] «Хрыстос», Кніга 2. Стр. 268-275.

ў біблейскай кнізе Езус. А я ўжо давёў у II кнізе «Хрыста», што біблейскі Езус Рыбны і евангельскі Езус Іхтыс – з'яўляюцца толькі двума міфічнымі варыянтамі адной і тай жа асобы: заснавальніка хрысьціянскай літургіі Васіля Вялікага, які жыў у IV стагоддзі. І Навін, і Іхтыс у перакладзе аднолькава азначаюць рыба, пры чым рыба і была сімвалам хрысьціянаў, таму што ІХТЫС на грэцкай мове анаграматычна азначае Езус Хрыстос, боскі сын, Ратавальнік[343].

Із гэтага бачна, што легенда пра кармленне евангельскім настаўнікам чатырох тысяч народа пяццю хлябамі з двума рыбамі ўзнікла такім чынам.

Пад час вясновага раўнадзенства 670 года ўсе пяць планет, ды і месяц з імі, сышліся ў сузор'і Рыб, тым часам як сонца рыхтавалася ўступіць у сузор'е Авена, які прыносіцца ў ахвяру ў полымі сьвітання. Што гэта азначае? Мы ведаем, што такое спалучэнне тлумачылася астралагічна, як наступленне сусьветнага патопу і канца сьвету ў глыбіні вады, і таму, вядома, усе астролагі, а з імі і хрысьціянскае насельніцтва, з жахам чакалі падобнага жарснага тыдня. Але вось прайшла нават і «сьветлая хрыстова нядзеля», і нічога не здарылася. Што было рабіць астролагам, як хрысьціянскім, так і арыянскім? Толькі адно.

– Гэта было не прадказанне (бог злітаваўся, бачачы агульныя маленні!), а толькі нагадванне пра тое, як Хрыстос некалі накарміў народ пяццю хлябамі з двума рыбамі, пасьля чаго прайшоў па моры, як па сухому, – запэўнівалі хрысьціянскія астролагі, ствараючы гэтым новую легенду пра Езуса.

– Гэта было, – сцвярджалі, не згаджаўшыяся з імі, арыянскія, – нагадванне пра тое, як Езус перайшоў праз раку Эрыдан нібы па сухому, перад тым, як упалі сьцены Месяца (Ерыхона) перад трубнымі гукамі яго ваяроў.

Так стварыліся адразу дзьве легенды. А цікавей усяго тое, што Марк Афінскі, якога ў першай кнізе Хрыста я ўжо атаясаміў з евангелістам Маркам і першым прыводзіць гэтую легенду, і жыў якраз у гэты час. Ён быў сведкам гэтага спалучэння планет на сарок чацьвёртым годзе ад свайго нараджэння, калі верыць царкоўным паведамленням, што ён нарадзіўся ў 626 годзе нашай эры. І ён жыў пасьля гэтага спалучэння яшчэ 55 гадоў, бо памёр згодна з тымі ж паданнямі ў 725 годзе ў глыбокай старасьці і меў час ператварыць у легенду пра Езуса напалохаўшае яго некалі злавеснае спалучэнне планет: нездарма ж тэолагі пераконваюць, што ўсе евангеллі былі прадыктаваны «сьвятым духам».

Не вяртаючыся больш да іншых, нікчэмных варыянтаў гэтага падання ў пазьнейшых евангелістаў Лукі і Мацьвея, перапісаўшымі ўвесь падмурак із Марка толькі з некалькімі папраўкамі (як я паказаў у сваёй табліцы), я прывяду тут толькі больш самастойнае апавяданне пра гэты ж «цуд Езуса» із евангелля Яна, якое я прыпісваю Яну Дамаскіну, нарадзіўшамуся згодна з царкоўнымі паданнямі ў 676 годзе нашай эры, г.азн. праз шэсць гадоў пасьля толькі-што патлумачанага перадвелікоднага сыходжання пяці планет у Рыбах[344].

Ён паведамляе амаль тое ж самае (Ян, 6,1).

«Пасьля гэтага (г.азн. лекавання паслабленага) ляжаўшага (ў сімвале Вадаліва) у купальні Авечай брамы, званай сядзібай Літасьці, з пяццю крытымі хадамі (планетнымі арбітамі), куды сыходзіў штогадова вястун бога лекаваць аднаго із хворых, пайшоў Ратавальнік (у сімвале месяца) на другі бок Галільскага мора (на паўночнае паўшар'е

---

[343] Па-грэцкі: Іеćус Хрысťас Тéу Ійас Сатэр. Узяўшы анаграматычна толькі першыя, надрадковыя літары, атрымліваем: ІХТЫС – рыба.

[344] Пра яго існуе асобная частка ў першай кнізе «Хрыста».

неба), у Тыберыяду, і за ім: ішло (у сімвале зорак) шмат народу, таму што бачылі дзівы, якія ён чыніў над хворымі.

«Ён узышоў на гару (экліптыкі) і сядзеў там са сваімі; вучнямі (сімвалізуемымі планетамі). Набліжаўся вялікдзень, сьвята богаславячых. Падняўшы вочы і бачачы, што шмат народа (у сімвале зорак) ідзе за ім (у суткавым руху неба), ён сказаў Вершніку (па-грэцку Піліпу ў знаку сузор'я: Вазнічага):

«– Дзе нам купіць хлябоў, каб накарміць іх?

«Ён сказаў гэта, выпрабоўваючы яго, бо ведаў, што збіраўся зрабіць.

«– І на дзьвесце дынарыяў не купім мы хлябоў, – адказаў Наезнік, – каб кожнаму із іх дасталася хаця б патроху.

«А Мужны (Андрэй-Пярсей), брат Сьцяганосца (Сымона-Арыёна), адзін із яго вучняў, прапанаваў:

«– Тут у аднаго хлопчыка ёсць пяць ячменных хлябоў, з двума рыбамі. Але што яны для такога натоўпу?

«А Езус адказаў:

«– Загадайце ўсім легчы.

«І лягло каля пяці тысяч чалавек на траве, якай тут было шмат.

«Езус, падзякаваўшы бога, узяў хлябы, раздаў вучням, а вучні лежачым, ды і кавалкаў ад двух рыб даў ён усім, колькі хто пажадаў.

«Калі ўсе насыціліся, ён паведаміў вучням:

«– Збярыце астатнія кавалкі, каб нічога не знікла.

«І збіраючыя напоўнілі дванаццаць пляцёнак кавалкамі ад пяці ячменных хлябоў, застаўшыміся недаедзенымі».

Мы бачым, што і тут легенда прыведзена амаль у такім жа выглядзе, як у Марка, і гэта паказвае, што тлумачэнне яе было тым жа самым ва ўсіх хрысьціянскіх грэкаў таго часу. Евангелле Яна было напісана Янам Дамаскіным не больш чым праз восемдзесят ці дзевяноста гадоў пасьля нябеснай падзеі, палічанай Маркам за адкрыццё мінулай дзейнасьці Езуса, і яго астралагічны сэнс яшчэ не згубіўся.

Услед за ім і Ян паведамляе пра падарожжа Езуса па моры ў такім выглядзе:

«Калі надышоў (новы) вечар, яго вучні пайшлі да мора (у якім плаваюць нябесныя рыбы) і, зайшоўшы на карабель, выправіліся на той бераг у Вёску Суцяшэння (Капернаум).

Дуў моцны вецер і мора хвалявалася, але, праплыўшы каля дваццаці пяці ці трыццаці стадый (градусаў даўгаты), яны пабачылі яго (у сімвале месяца), ідучага па моры да чоўна, і спалохаліся. Але ён адказаў ім:

«– Гэта я. Не бойцеся!

«Яны пажадалі прыняць яго да сябе, але карабель ужо прыстаў, да берага (гарызонту), куды яны плылі».

Так заканчваецца апавяданне у Яна.

Марк паведамляе амаль тое ж самае, але ўжо пускае Езуса каля самага берага ў лодку (6,51), а Мацьвей, перапісаўшы ўсё ў Марка, яшчэ дадае такі эпізод:

«– Настаўнік! Калі гэта ты (а не здань ідучая па вадзе), – сказаў яму Пятро (у сімвале сузор'я Арыёна каля Карабля), – то загадай і мне ісьці да цябе па вадзе.

«– Ідзі! – загадаў яму Езус.

«Пятро выйшаў із чоўна і пайшоў да яго па моры, але спалохаўся моцнага ветру і патроху пачаў тануць.

«– Ратуй мяне, гаспадар! – закрычаў ён.

«А Езус, падтрымаўшы яго рукой, адказаў:

«– Навошта ты ўсумніўся, малаверны?

«Яны зайшлі ў човен, і вецер адразу сціх, а быўшыя ў чоўне пакланіліся яму, кажучы:

«– Праўда, што ты сын Грамабоя».



Мал. 115

*Хаджэнне па вадзе Евангельскага магістра акультных навук у аперцэпцыі сучаснага ілюстратара Евангелля. (Ян, 6, 19). Із кнігі Les saints evangiles, avec les dessins de M. Bida.*

Так з цягам часу разрасталася легенда ўжо шляхам чыста псіхалагічнай творчасьці. Мацьвей, згодна з маімі высновамі, жыў паміж 757 і 826 гадамі нашай эры, г.азн. праз 200 гадоў пасьля апісваемай нябеснай падзеі, і за гэты час да першапачатковай гісторыі, вядома, былі зроблены дадаткі.

# ГЛАВА VI.

## «Пераўтварэнне госпадава» як міф астральнага паходжання.

(Марк, 9,2-8; Лука, 9,28-36; Мацьвей, 17, 1-8.)

Усе вандраўнікі распавядаюць, у які панічны жах прыводзяць сонечныя і месяцовыя зацьменні нават і сучасных дзікіх насельнікаў нашай планеты і колькі размоваў бывае пазьней у глухіх краінах пра значэнне такіх з'яваў.

Але яшчэ большы жах і яшчэ больш цудоўныя апавяданні мелі наступствам гэтыя з'явы ў старажытнасьці, і цалкам натуральна і зразумела, што аўтары біблейскіх кніг, – пагалоўна ўсе містыкі і астролагі, – не маглі не стварыць цэлага шэрагу легендаў з гэтай нагоды. Так вечаровае зацьменне сонца ў Грэцыі, Ягіпце і Сірыі, калі яно вечарам 15 сакавіка 359 года клалася спаць каля Андрамеды, паслужыла нагодай для стварэння легенды пра Сонца-волата (Самсона пажыдоўску), якога абстрыгла (г.азн. пазбавіла волас-праменяў) падступная Даліла-Андрамеда[345]. Поўнае сонечнае зацьменне 29 чэрвеня 512 года ў Двайнятах, калі чырвоная нітка сонечнай храмасферы здавалася із Афінаў і Канстантынопаля абвіўшайся каля рукі аднаго із Двайнят (ці падобнае ж зацьменне, бачанае із Рыма

345 «Хрыстос». Першая кніга, ч. II, гл. II.

20 чэрвеня 545 года), дало нагоду да біблейскай легенды пра тое, як зацяжарыўшая ад «прабацькі Юды родапачынальніка «юдэяў » Пальма, нарадзіла Двайнят, першаму із якіх была прывязана на руку чырвоная нітка, каб пазначыць яго першынство, але ён схаваў сваю руку назад пад дзённы блакіт[346].

Колападобнае сонечнае зацьменне пад носам сузор'я Панны, прайшоўшае праз Рым і Неапаль у Ягіпет 1 верасня 536 года, дало нагоду да легенды пра тое, як Служка Боганазіральніка, г.азн. астранома (Якава па-жыдоўску), знайшоў яму жонку і павесіў ёй на нос залатое кола. Абрэзанае, г.азн. частковае зацьменне сонца, бачанае 10 лютага 305 года на фаласе Вадаліва, перад уступленнем на імператарскі пасад Канстанцыя Хлору, паслужыла нагодай да легенды пра тое, як бог пажадаў забіць гэтага «Майсея», але яго жонка «Прамяністая зараніца», схапіўшы камень, адрэзала ў бога кончык фаласа і, кінуўшы на зямлю, прамовіла:

«Зараз ты мне нарачоны па крыві», – пасьля чаго абрэзаны бог адышоў ад яе чалавека[347] (і потым загадаў абрэзвацца ўсім).

Чорнае месяцовае зацьменне 21 сакавіка 368 года перад самым раўнадзенствам пад час слупавання евангельскага Вялікага Цара было пачаткам цэлага цыкла містычных легендаў пра Хрыста, і, нарэшце[348], абрэзнае зацьменне месяца 22 лістапада 670 года паслужыла нагодай да легенды пра аблогу трубнымі гукамі Ерыхона (найменне якога па-біблейску і азначае месяц), і яно ж, відаць, паслужыла нагодай для ўсталявання ў магаметанаў (эмблемай якіх да гэтага часу з'яўляецца месяц) звычаю абавязковага абразання, якое магло быць прыведзена ў выкананне толькі пасьля Магамета каліфамі, калі яны сталі свецкімі валадарамі, якія мелі магчымасць прымусіць насельніцтва выканаць такую сваю дырэктыву, не звяртаючы ўвагі на лямант усіх маці[349].

Пасьля ўсіх гэтых прыкладаў вялізнага ўплыву зацьменняў на рэлігійныя ўяўленні сярэднявечнага чалавецтва чытач не здзівіцца, што адно із іх было нагодай усталявання і сьвята пераўтварэння госпада, прызначанае на 6 жніўня юліянскага стылю, калі сонца бывае ў сузор'і Ільва, а месяц можа зацямніцца толькі ў сузор'і хрышчэльніка зорак Вадаліва перад самай яго хрысьцільняй, г.азн. Урнай.

Чытач, мала знаёмы з месяцовымі зацьменнямі, магчыма яшчэ не ведае, што акрамя сапраўдных зацьменняў месяца бываюць пад час поўні таксама і яго пераўтварэнні. Справа ў тым, што наша зямная ноч з’яўляецца з'явай толькі мясцовай у нябеснай прасторы: гэта конус зямнога ценю сярод вечнага дня, які ззяе нязменна вакол яго на абшарах усёй сонечнай сістэме, нават і за межамі Няптуна, хаця б дзень там быў і нашмат больш цьмяным для нашага вока, чым у нас.

[346] «Хрыстос». Другая кніга, стар. 583.
[347] «Хрыстос». Другая кніга, стар. 186.
[348] «Хрыстос». Першая кніга, ч. I, гл. III.
[349] Сведкай таго, у які жах прыводзіў маці гэты звычай на самым пачатку, служыць біблейская легенда пра загад міц-рымскага «валадара» забіць у жыдоў усіх дзяцей мужчынскай стаці ў часы Майсея (Дыяклетыяна), а таксама і евангельская легенда пра таго ж Дыяклетыяна пад імем цар Герой (Ірад па-грэцку азначае герой), які загадаў забіць мячом усіх дзяцей мужчынскай стаці. Іхнае прымусовае абразанне лічылася маці за іхнае забойства, пакуль яны не пераканаліся, што ад гэтага іхныя дзеці не паміралі. «Былі чутны, – сьведчыць евангеліст Мацьвей з гэтай нагоды, – плач і галашэнне і крыкі вялікія ў Раме (Рыме): то Авечка (Рахіль, г.азн. прыхільніца сузор'я Авена) аплаквала сваіх дзяцей і не магла суцешыцца, таму што іх няма» (2,17). – І гэта ж самае дададзена, і прытым цалкам недарэчна, і ў прароцтва «Ерамія» (31,15).




Мал. 116

*Конус зямнай ночы і каўпак пунсовага світання над ёю (у разрэзе). S – сонца. Лявей зямля. V-нармальная мяжа зямнога ценю. MA – пераломленыя зямнай атмасферай прамяні. D – пераменнае заканчэнне конуса поўнай ночы. Калі месяц пры зацьменні ўвесь зайдзе ў яго – будзе чорнае зацьменне месяца, калі пройдзе вышэй – ператворыцца ў пунсовы месяц.*

Вяршыня гэтага конуса зямнай ночы пры звычайных умовах заходзіць за перыгейную адлегласць месяца ад зямлі, і таму месяц перастае быць бачным, як і іншыя рэчы, ноччу, па меры таго, як заходзіць у вяршыню гэтага цёмнага конуса. Але адлегласць месяца ад зямлі значна большая у яе апагеі, чым у перыгеліі, а конус нашай ночы заўсёды накрыты пунсовым каўпаком зямной паловуцені, адпавядаючай нашаму сьвітанню, і такога ж колеру як світанне (мал. 116). Калі атмасфера зямлі знізу больш чыстая, гэты яскрава-пунсовы каўпак нашай ночы пашыраецца з нагоды павялічваючагася пераламання сонечных прамянёў зямным паветрам, скарачаючы гэтым конус ночы, вяршыня якога ўжо перастае даходзіць да арбіты месяца, асабліва да яе апагейнай часткі. Тады месяц, заходзячы толькі ў гэты пунсовы каўпак, не знікае, а толькі набывае інтэнсіўны пунсовы колер, як кучавыя і пёрыстыя аблокі пасьля заходу сонца ў прамянях ніжняй часткі таго ж самага каляровага каўпака зямнай ночы. Гэта ўжо не зацьменне месяца, а толькі яго пераўтварэнне із блакітнавата-бляклага ў яскрава-пунсовы, як воблакі пасьля заходу сонца.

Апошняе такое яго «пераўтварэнне» мне давялося назіраць 14 жніўня 1924 года[350], і, чытаючы пазней гэтае евангельскае апавяданне, я адразу зразумеў, што і яно мела нагодай цалкам падобную ж з'яву, так што з’явілася магчымасць вызначыць нават і яго час чыста астранамічным шляхам.

Справа ў тым, што сьвята пераўтварэння прызначана царквой, і, вядома, адразу ж пасьля яго назірання і тлумачэння, на 6 жніўня, ды і паведамленне пра яго ў Мацьвея і Лукі пачынаецца словамі «праз шэсць дзён».

Гэта азначае, мне патрэбна было толькі адшукаць усе поўныя, ці амаль поўныя месяцовыя зацьменні, прыпадаючыя на ноч ад 6 на 7 жніўня (у Вадаліву). А гэта не цяжка было зрабіць проста грунтуючыся на табліцах месяцовых зацьменняў на кожны месяц, складзенымі згодна з табліцамі Генцэля і надрукаванымі мнай у V томе Паведамленняў Навуковага Інстытута імя Лесгафта.

Там мы адразу знаходзім, што прыдатнае месяцовае зацьменне, пачынаючы ад 412 году да пачатку нашай эры, калі «Сьвята пераўтварэння» відавочна яшчэ не магло быць усталявана, адбылося першы раз толькі пад час ночы ад 6 на 7 жніўня 556 года нашай эры, калі месяц, ўвайшоўшы (згодна з сярэднім вылічэннем) цалкам у пунсовы каўпак зямнай ночы[351], павінен быў здавацца пераўтвораным з усіх месцаў зямнай паверхні, із якіх ён быў бачным каля Грынвіцкай поўначы (у 23

[350] Звыш поўнае (20"0) у Вадаліву ў 20 гадзін 21 хвіліну ад Грынвіцкай поўначы, пры чым месяц набыў цалкам малінавы колер, а ноч зрабілася вельмі цёмнай.

[351] Фаза 10"1 пры разліку без паловуценю.

гадзіны 24 хвіліны), а лепш за ўсё ў Італіі, дзе сярэдзіна прыпадала якраз на палову ночы, і ў Грэцыі і ў Александрыі, следам за поўначчу, пад час валадарання Юстыніяна.

Наступнае зацьменне ў ноч ад 6 на 7 жніўня 594 года было ўжо горшым, бо пры ім месяц пагрузіўся ў паўцень толькі напалову. А потым не было зацьменняў ноччу 6 жніўня аж да нашых дзён[352].

Такім чынам, для пераўтварэння месяца мы маем толькі адно рашэнне: 6 жніўня 556 года, пры Юстыніяну.

Але як жа яно магло быць прынята за сімвал таго, што здарылася быццам бы з евангельскім Хрыстом за 200 гадоў назад?

Я ўжо паказваў, што няма нічога прасьцей гэтага.

Згадаем толькі легенду пра сны міц-рымскага «валадара», патлумачаныя Ёсіфам Выдатным. Валадар збірае ўсіх астролагаў і тлумачальнікаў сноў, патрабуючы патлумачыць бачанае, пад пагрозай адсекчы галовы не здольным патлумачыць. Згадаем легенду пра вогненны надпіс Мані-Факел-Фарэс, для тлумачэння якога збіраюцца ўсе навукоўцы, якіх выратоўвае Данііл. Згадаем, што пад час сярэдніх стагоддзяў усе валадары трымалі пры сабе астролагаў і патрабавалі ад іх пад пагрозай сьмерці тлумачэння ўсяго незвычайнага, здзяйсняемага на небе, і вы зразумееце ўсё.

Справа была, відавочна, у тым, што пад час ночы ад 6 на 7 жніўня, згодна з нашым грамадзянскім злічэннем, рымскі папа, у суправаджэнні двух кардыналаў (ці сам Юстыніян), бачыць на небе дзіўную выяву: поўны месяц перад Урнай Вадаліва паступова перамяняе свой колер на выразна-пунсовы, нават фіялетавы, як воблака пад час вечаровага зарыва, а лёгкія зямныя аблокі, затуляючыя яго як быццам бы празрыстым адзеннем, маюць на сабе сьветлае вясёлкавае кола, з выявай крыжа пасярэдзіне, і на ім направа і налева два ілжывыя месяцы, г.азн. адбываецца тая дастаткова нярэдкая з'ява, якая ў метэаралогіі мае назву галас (мал. 117, 118, 119 і 120).

---

352 На пярэчанне, што кожная ноч з'яўляецца прамежкам ад папярэдняга дня да наступнага, можна адказаць, што сьвята пераўтварэння, як дзённае, магло быць прызначана пасьля поўначы ад 5 на 6 жніўня ці перад поўначчу ад 6 на 7 жніўня, а таму патрэбна пашукаць зацьменняў, пазначаных 6 ці 7 днямі жніўня. Але ніводнае із іх не дапасуе: зацьменне 7 жніўня 35 года было ў 5 гадзін Грынвіцкага вечара, г.азн. ад 7 на 8 жніўня. Зацьменне 7 жніўня 54 г. было бачным толькі на досьвітку гэтага ж дня. Зацьменне 7 жніўня 100 года было вечарам ад 7 на 8 жніўня. Зацьменне 5 жніўня 490 г. – вечарам гэтага ж дня, і было бачным толькі заканчэнне пры ўзыходжанні месяца. 5 жніўня 510 г. – таксама; 5 жніўня 529 г. – таксама. Гэта азначае, наша рашэнне – 6 жніўня 556 года – адзінае. Із сонечных жа зацьменняў 6 жніўня мы маем пасьля пачатку нашай эры толькі зацьменне 324 г. перад Нікейскім саборам у сузор'і Ільва (Юды), бачнае ў абрэзнай форме ва ўсім басейне Міжземнага мора, якое магло даць нагоду да загаду абавязковага абразання дзяцей, але наўрад ці да ўсталявання сьвята пераўтварэння.







Мал. 117

*Launch Ператварэнні: сонца 10 студзеня 1514 года і месяца 17 сакавіка ў Вюртэмбергу. (Із кнігі: «Die Wunder Gottes in der Natur» aus den Schriften des erfarnen und gelehrnten Philosophie; 1744 гады, стар. 112.) Вось якімі ўяўляліся аперцэпцыйна сонца і месяц нашым продкам!*







Мал. 118

*«У 1521 годзе 7 студзеня ў Вене, – паведамляе і малюе аперцэпцыйна Лікасфен, – з'явіліся адразу тры сонцы паміж 6 і 7 гадзінамі, і бачылі вясёлку з трыма месяцамі над ёю». «У 1553 годзе ў Цюрыху бачылі тры сонцы адразу ў дзіўным атачэнні і вось як замалявалі іх із царквы» (тамсама, стар. 114)*




Мал. 119

*Сярэднявечная клерыкальная аперцэпцыя пераўтварэння евангельскага Настаўніка перад Пятром, Якавам і Янам, спаўшымі знізу. Направа стаіць Ілія, а налева (без барады) Майсей. (Із рукапісу «Тварэнняў Рыгора Назіянзіса» № 512 Парыжскай нацыянальнай бібліятэкі.)*



Мал. 120

*З'яўленне «бліскучага адзення» на сонцы ці месяцы з нагоды пераламання іх праменяў у правільна арыентаваным ледзяным пыле ў верхніх пластах атмасферы.*

Пазней усё гэта засланяецца хмарай, із якай грукоча гром, а калі хмара праходзіць, месяц зноў з'яўляецца, але ўжо адзін і ў сваім звычайным выглядзе.

Спешна збіраюцца мясцовыя астролагі.

– Патлумачце, што азначае гэты нябесны знак? Што нам патрэбна рабіць? – загадвае ўсемагутны валадар.

Адказаць: не ведаем! – азначае адразу страціць сваю рэпутацыю навукоўцы, калі не страціць галаву. Патрэбна неяк выкручвацца, і, вось, самы дасьціпны із астролагаў выратоўвае іхнае становішча, адказваючы, не збіваючыся:

– Гэта – патрабаванне нябёсаў прызначыць на 6 жніўня штогадовае сьвята пераўтварэння госпада. Праўобразам бога-бацькі з’яўляецца сонца, праўобразам бога-сына з’яўляецца месяц. Пераўтварэнне месяца перад табай і тваімі двума спадарожнікамі з’яўляецца знакам былога пераўтварэння бога-сына перад сваімі трыма вучнямі, а два месяцы, з'явіўшыяся па яго баках, па-сутнасьці сімвалы з'явіўшыхся пагутарыць з ім Майсея і Іллі.

Тлумачэнне прынімаецца з задавальненнем, і патлумачыўшы атрымлівае вялікую ўзнагароду. Свята прызначаецца з адпаведным гімнам у славу перамяніўшагася Хрыста, і да легендаў пра яго дадаецца новая, тры варыянты якой я і паказваю тут, дадаючы ў дужачках свае тлумачальныя нататкі для высьвятлення яе астральнага шкілета. Прачытайце яе з імі і вы пабачыце самі, як мае тлумачэнні адразу аднімаюць ад яе ўвесь містычны сэнс.

Легенда пра пераўтварэнне.

| Лука, 9, 25-36. | Марк, 9, 2-8. | Мацьвей, 47, 4-8. |
|---|---|---|
| Дзён праз восем, узяўшы Пятра, Яна і Якава, падняўся ён на гару памаліцца. | Праз шэсць дзён (*г.азн. 6 жніўня*) узяў ён Пятра, Якава і Яна і павёў іх асобна на высокую гару і пераўтварыўся перад імі. | Праз шэсць дзён (*г.азн. 6 жніўня*) узяў ён Пятра, Якава і брата яго Яна і павёх іх адных на высокую гару і пераўтварыўся перад імі. |
| І калі маліўся, перамяніўся выгляд яго твару, і адзенне яго (*празрыстыя аблокі*) зрабілася белым, бліскучым. | Адзенне яго (*аблокі*) зрабілася бліскучым, вельмі белым, як снег, як не зможа на зямлі зрабіць ніякі бялільшчык. | Твар яго прасвятліўся, як сонца (*дадае Мацьвей*), адзенне ж зрабілася белым, як снег. |
| І вось два мужы размаўлялі з ім, якія былі не кім іншым, як Майсеем і Іллёй. | І з'явіліся перад імі Ілля і Майсей і размаўлялі з ім. | І, вось, з'явіліся перад імі Ілля і Майсей, размаўлялі з ім. |
| З'явіўшыся ў арэоле, яны паведамілі пра сыход, які належыць яму здзейсніць у горадзе Сьвятога Замірэння. | (*Гэтага дадатку ў Лукі пра арэол і пра размову з прарокамі няма ні ў Марка, ні ў Мацьвея, гэта асабістае меркаванне Лукі.*) | |
| І калі зыходзілі ад яго, Пятро сказаў: | Пры гэтым Пятро сказаў: | Пры гэтым Пятро сказаў: |
| – Настаўнік! Добра, каб так усё заставалася. Наладзім тры сядзібы: адну табе, другую Майсею і трэццюю Іллі. | – Настаўнік! Добра, каб так усё заставалася. Наладзім тры сядзібы: адну табе, другую Майсею і трэццюю Іллі. Ён не ведаў, што кажа ад перапалоху. | – Настаўнік! Добра, каб так усё заставалася. Наладзім тры намёты: аддзін табе, другі Майсею і траццi Іллі. |
| Але калі ён прамаўляў гэта, з'явілася воблака і засланіла ўсё. Яны вельмі спалохаліся, калі прагучаў із яго грукат, гаворачы: | Але з'явілася воблака, засланіўшае ўсё, і з воблака пачууўся грукат, гаворачы: | Але з'явілася воблака, засланіўшае іх, і з воблака пачуўся грукат, гаворачы: |

| | | |
|---|---|---|
| – Гэта май умілаваны сын: слухайце яго! | – Гэта май умілаваны сын: слухайце яго! | – Гэта май умілаваны сын, на якім мая любасць. Слухайце яго! |
| (*Апісанага ў Мацьвея дакранання месяца-Ратавальніка да вучняў няма ні ў Марка, ні ў Лукі.*) | | Пачуўшы гэта, вучні вельмі спалохаліся і зваліліся на свае твары. Але Ратавальнік, нахіліўшыся, дакрануўся да іх і сказаў:<br>– Падніміцеся! Не бойцеся. |
| І пасьля таго, як прагучаў гэты голас (*воблака прайшло і*), застаўся ён адзін. | (*Калі прайшло воблака*) яны раптам паглядзелі навокал, але нікога больш не бачылі, акрамя яго аднаго. | Падняўшы свае вочы ўгару (*калі прайшло воблака*), яны нікога ўжо больш не бачылі, акрамя яго аднаго. |
| І вучні нікому не паведамілі ў тыя дні пра тое, што бачылі. | А калі яны сходзіліі з гары, ён загадаў ім нікому не паведамляць пра ўсё гэта бачанае. | А калі яны сыходзілі з гары, ён забараніў ім паведамляць пра гэтае бачанне, пакуль сын чалавечы не ажыве із памёршых. |

Уласна кажучы, тут і заканчваецца апавяданне пра пераўтварэнне. Апошні радок пра забарону паведамляць пра гэта прыдумана для таго, каб патлумачыць, чаму ніхто не ведаў да 6 жніўня 556 года пра такія, адноўленыя астралагічна, падзеі із жыцця «Вялікага Цара». А новы перапісчык ужо не ведаў нагоды такой абмоўкі, але палічыў, што калі б гэтага ніхто нікому не паведаміў, то не ведалі б пра гэта і не прысутнічаўшыя там Марк, Лука і Мацьвей. Вось чаму ён дадае тлумачэнне: «Не паведамляйце пра гэта, пакуль чалавечы сын не ажыве із памёршых». І, вось, усё ўладзілася ў лягендзе пра пераўтварэнне, а тым, хто пярэчыў, што Майсей і Ілля не маглі размаўляць з Езусам, бо (згодна са звычайнай храналогіяй) памёрлі задаўга да яго, дадзены такі ўскосны адказ:

| | | |
|---|---|---|
| (*Ніякай такай размовы няма ў Лукі.*) | – А як жа кніжнікі кажуць, што Ілля павінен быў жыць раней? – запыталі вучні. | – А як жа кніжнікі кажуць, што Ілля павінен быў жыць раней? – запыталі яго вучні. |
| | – А я вам кажу, што Ілля зноў прыйшоў, але да яго паставіліся, як пажадалі. | – А я вам кажу, што Ілля зноў прыйшоў, але да яго паставіліся, як пажадалі. |
| (*Адпаведнага месцы няма ў Лукі*.) | (*Адпаведнага месца няма ў Марка*.) | І вучні зразумелі, што ён мае на ўвазе Яна Хрышчэльніка (*Вадаліва, у якім перамяніўся месяц*). |

Параўноўваючы адзін з адным паралельныя месцы трох варыянтаў, мы бачым і тыя нескладаныя дадаткі ці выпраўленні, якія зрабілі ад сябе Мацьвей і Лука ў прастадушным апісанні Марка, і нават можам патлумачыць, чаму яны іх зрабілі.

Так, у першым жа радку мы бачым, што ў Марка і Мацьвея пераўтварэнне паказана праз шэсць дзён. І яно сапраўды было ноччу пасьля шостага заходу сонца ў сьвятым месяцы жніўні, а Лука замяніў гэтую лічбу на восем дзён, таму што, напэўна, лічыў шлях месяца да Вадаліва ад нагі Змеятрымальніка.

А ў апошніх радках, як я і паказаў тлумачальнымі нататкамі ў дужках, нам даецца наіўнае тлумачэнне таго, чаму пра «пераўтварэнне» ніхто не ведаў да 556 года.

– Ён забараніў паведамляць каму б там ні было, – адказвалі на такое натуральнае пытанне астролагі.

Але гэтага было дастаткова толькі для сучаснікаў падзеі, а таму, калі астральнае паходжанне легенды забылася, але яшчэ памяталі, што такога сьвята не было пры ранейшых пакаленнях, узнікла новае пытанне:

– А як жа даведаліся Мацьвей і Лука, не быўшыя нават у ліку дванаццаці апосталаў, пра гэту падзею?

Давялося дадаць, што забарона з нейкай нагоды была зроблена толькі да часу ажывання Езуса. Але навошта? Чаму? І вось Лука, які капіяваў Марка ўжо нашмат пазьней, выключыў усе гэтыя тлумачэнні, як больш непатрэбныя: звыкшаяся са сьвятам паства забылася пра яго больш позняе паходжанне і больш не задавала такіх пытанняў.

Так з дапамогай прыродазнаўства і чыста псіхалагічных меркаванняў тлумачыцца нескладаны ход думкі і творчасьці сярэднявечнага пісьменніка.

Без гэтых тлумачэнняў легенда пра пераўтварэнне здаецца цалкам не маючай сэнсу. Навошта патрэбна было ісьці на нейкую гару? Навошта перамяняць на паўгадзіны ці на гадзіну сваё аблічча і колер свайго адзення? Навошта патрэбна было прыходзіць Майсею і Іллі размаўляць з ім на гэтую гару, ды і пра што размаўляць? І навошта было патрэбна забараняць паведамляць каму б там ні было пра такое дзіва, калі менавіта і патрэбна было ўсім паведаміць?

«Бедныя духам» мне, вядома, запярэчаць:

– Гэта недаступна чалавечаму розуму!

Але ў такім выпадку навошта ж гэта і напісана якраз для людзей? А із няверуючых «упрасьціцелі ўсяго» адкажуць:

– Гэта апісаны нейчы сон!

Аднак, агульны характар біблейскіх апавяданняў дастаткова паказвае, што яны не соннік, а менавіта містычныя кнігі, і што ключом да разгадвання іхных містычных месцаў з'яўляецца амаль заўсёды астралогія, як першабытная навука пра неба і яго жыццё, быццам бы дэтэрмініруючае зямное жыццё, як рэчаісныя рэчы дэтэрмінуюць свае цені.

# Глава VII.

## Легенда пра Юду Іскарыёта[353] і пра таемную вячэру на зямлі і на нябёсах.

Евангельскую «таемную вячэру» можна бачыць, як я ўжо згадваў раней, пад час кожнага яснага вечара на небе, і таму мне застаецца тут толькі высьветліць некаторыя яе дэталі.

Сярод дванаццаці сузор'яў Задыяка, прыведзеных у сімвалічную сувязь з дванаццаццю апосталамі Хрыста, ўпершыню пералічаных Мацьвеем, няцяжка атаясаміць значную частку. Так, выходзячы са становішча, што апосталы пералічаны ў яго ў тай жа пасьлядоўнасьці, як і адпавядаючыя ім сузор'і Задыяка, і што Змеятрымальнік над Скарпіёнам павінен пазначаць самага Хрыста, пад якім схаваўся здраджваючы яму богаславец (Юда па-жыдоўску), мы лёгка прыходзім да высновы, што Мацьвей кіраваўся такай схемай:

[353] Іскарыёт па-жыдоўску азначае Муж, як Леў (АІШ-К-АРЫЕ), а імя Арый па-жыдоўску азначае Леў.

Скарпіён у яго быў знакам Богаслаўцы (Юды) здрадзіўшага Змеятрымальніку-Хрысту.

Стралец направа ад яго, на павароце сонца да лета пад Арлом, пазначаў евангеліста Яна, знакам якога і быў потым Арол. І Стралец пастаўлены тут таксама направа, побач са Змеятрымальнікам, як і паведамляецца ў евангеллі Мацьвея пра шануемага вучня, ляжаўшага на грудзях свайго настаўніка.

Казярог, стаячы паміж цэнтаўрам-Стральцом, Пегасам; і Малым Канём, – Піліп, імя якога і азначае: канявод.

Вадаліў адпавядае Варфаламею, імя якога і азначае; сын Вадаліва.

Двайняты-Рыбы сімвалізуюць Тамаша, імя якога і азначае: Двайняты.

Авен, пачынаючы старажытны год, сімвалізуе першага згодна з царкоўным вучэннем евангеліста Мацьвея, хаця спадарожнікам яму і дадзены ў царкоўных выявах не Авен, стаўшы згодна з больш раннім цыклам паданняў прадстаўніком прыносімага ў ахвяру Хрыста, а Леў.

Цяля сімвалізуе Якава Алфея, пры чым Алфей і азначае, між іншым, боскае цяля[354].

Двайняты сімвалізуюць у Мацьвея апостала з падвойным імем – Сярэдні божы (Леўвей) і Ўзвялічаны богам (Фадзей).

Рак адпавядае Сымону Кананіту, імя якога азначае: Знак Канона (г.азн. адвеса, царкоўнай пастановы).

Леў адпавядае ваяўнічаму апосталу Пятру.

Панна, з якай пачынаўся візантыйскі год, штучна прыведзена ў сувязь з Андрэем Першапакліканым (Валапасам?) і нарэшце:

Шалі пад Валапасам прыведзены ў сувязь з апосталам Якавам, аднайменным з біблейскім Якавам-Валапасам.

А таемны вучань Нікадзім, г.азн. пераможца зборышча, адпавядае не патрапіўшаму ў Задыяк Арыёну, і другі таемны – вучань Ёсіф Арымафейскі – Геркулесу, як бы непасрэна слухаючаму Езуса Змеятрымальніка.

Чытач бачыць сам, што адпаведнасьць тут такая поўная, што лепшага немагчыма і жадаць, маючы на ўвазе, што не ўсе дванаццаць апосталаў Мацьвея ўяўляюць сабой чыстыя сузор'і Задыяка, а існуюць сярод іх і рэчаісныя асобы, якімі, напрыклад з’яўляюцца: Ян Багаслоў, спісаны із Яна Залатавуста, Сымон-Пятро, заснавальнік папства, і некалькі іншых, сапраўдных вучняў ці братоў Васіля Вялікага, якіх, перадусім, і давялося Мацьвею (ці таму астролагу, у якога ён браў свай пералік) размяшчаць штучна, таму што рэчаісных адпаведнасьцей паміж імі і знакамі Задыяка, вядома, не было.

Але менавіта дзякуючы гэтаму тут непазбежна адразу ж ўзнікалі і непагадненні, асабліва таму, што Мацьвей даў свай спіс без матывавання. Так, Лука, пералічваючы апосталаў, пераняў пасьлядоўнасць Мацьвея толькі для першых шасьці апосталаў: Пятра, Андрэя, Якава, Яна, Піліпа і Варфаламея. Наступных за імі Тамаша і Мацьвея, магчыма дзякуючы простай апісцы памяняў месцамі (табліца XXXIX). А двух апошніх – Леўвея-Фадзея і Сымона Кананіта ён не толькі пераблытаў месцамі, але нават і пераіначыў іхныя імёны, як бачна на нашай параўнальнай табліцы.

ТАБЛІЦА XXXIX.

Сузор'і і апосталы.

[354] У Другазаконні: שגר־אלפיך (ШГР-АЛФІК) – нараджаемае быкамі тваімі (7,13); таксама ў псалмах (напр.. 8 псалом).

| Сузор'і згодна з Пталямеем. | Апосталы згодна з Мацьвеем (гл. 10). | Апосталы згодна з Лукой (гл. 6). |
|---|---|---|
| Леў | Сымон-Пятро | Сымон-Пятро |
| Панна пад Валапасам | Андрэй | Андрэй |
| Шалі | Якаў Завядзееў | проста Якаў |
| Скарпіён пад Змеятрымальнікам | Юда пад Хрыстом | Юда пад Хрыстом |
| Стралец | Ян | Ян |
| Казярог | Піліп | Піліп |
| Вадаліў | Варфаламей (сын Вадаліва) | Варфаламей (сын Вадаліва) |
| Дзьве Рыбы | Тамаш Двайняты | Евангеліст Мацьвей |
| Авен | Мацьвей | Тамаш-Двайнік |
| Цяля | Якаў Цяльцоў | Якаў Цяльцоў |
| Двайняты | Леўвей-Фадзей | Сымон Змагар, брат Хрыста |
| Рак | Сымон Кананіт | Юда Якаўлеў, брат Хрыста |

Усё гэта азначае, што Лука ўжо невыразна разумеў астральны сэнс парадку пералічэня Мацьвея, але, лічачы за факт, што ў заснавальніка хрысьціянскай літургіі быў асабліва важны вучань і нават брат – Юда Якаўлеў, – ён і яго дадаў пад канец спіса, выключыўшы для гэтага не маючага для яго ніякага значэння Леўвея-Фадзея.

Уся махінацыя Лукі тут такая празрыстая, што пра яе не варта і разважаць, а толькі даводзіцца прапанаваць чытачу зірнуць на маю табліцу.

Лічачы евангелле Лукі напісаным ужо ў IX стагоддзі нашай эры Лукой Эладзкім, мы можам прыйсьці да высновы, што пад час эпохі Адраджэння астральнае паходжанне амаль паловы апосталаў Езуса было цалкам забыта, хаця ідэя пра іх «містычныя» ўаемадачыненні з дванаццаццю знакамі Задыяка і працягвала існаваць і аднаўляцца пры кожным параўнанні таемнай вячэры Хрыста з астралагічнымі мапамі неба. Навочны доказ гэтага мы бачым ў выдатнай кнізе, якую паказаў мне аднойчы Каміл Фламарыён у сваёй бібліятэцы ў Парыжы ў 1908 годзе. Гэта пышна размаляваны фаліянт астранома-каталіка Жуля Шылера 1661 года, здымак з якога ў чатыры разы паменшаны і пазбаўлены фарбаў я і размяшчаю ў Astronomie populare Фламарыёна (мал. 121, 122). Вось як там нанова рэстаўраваны толькі-што прыведзены мнай пералік Мацьвея (табл. XL).

ТАБЛІЦА. XL.

Нябесная таемная вячэра Жуля Шылера – 1661 года.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Авен | Сымон-Пятро. | | Шалі | Піліп |
| Цяля | Андрэй Першапаклікaны | | Скарпіён | Варфаламей |
| Двайняты | Якаў Завядзееў | | Стралец | Евангеліст Мацьвей |
| Рак | Ян Багаслоў | | Казярог | Сымон Кананіт, ён жа Зілат |
| Леў | Тамаш | | Вадаліў | Фадзей-Леўвей (Юда Іскарыёт) |
| Панна | Якаў Алфееў | | Рыбы | Матфій (абраны замест Юды) |

Мы бачым, што ўсе апосталы тут перанесены на новыя месцы, із якіх ніводнае не супадае з размшчэннем Мацьвея, што і зразумела, таму што Мацьвей, як я ўжо сказаў, пазначыў іхнае размяшчэнне без матывавання, а Жуль Шылер, відавочна, лепш ведаў тэалогію, чым астралогію, і не валодаў жыдоўскай мовай. Здраднік Юда тут ужо цалкам выгнаны з неба (відавочна, у пекла) і замешчаны нейкім Матфіем, наогул не прысутнічаўшым на евангельскай вячэры, а быў абраны

астатнімі адзінаццаццю ў сваё асяроддзе пазней, з мэтай аднавіць астральную колькасць дванаццаць, пасьля таго, як у «зрынуўшагася», – згодна са сведчаннем Здзяйсненняў Апосталаў, – Юды Іскарыёта расселася ўлонне і выпалі ўсе вантробы, што было вядома ўсім жыхарам горада Сьвятога Замірэння, якія назвалі гэтае месца Акелдама, г.азн. «Месца Крыві» (Здзяйсненні Апосталаў, 2, 18). Тут пад выявай выбухнуўшага ўлоння Юды апісаны, відавочна, зноў выбух метэарыта ў сузор'і, пазначаўшым тады Юду.

Але ці дакладна гэта было ў Скарпіёне, як у Мацьвея? У гэтым можна вельмі сумнявацца, таму што астральнае размяшчэнне Мацьвея наўрад ці было каму-небудзь вядома, акрамя яго самога ды самых блізкіх яго знаёмых. І гэта тым больш верагодна, што прыкметы папярэдніх, а таксама наступных такіх жа пошукаў бачны, між іншым, і ў размеркаванні сьмярцей дванаццаці апосталаў па градусах нябесных даўгот, як яны пазначаюцца месяцамі і днямі іхнай сьмерці.



Иаков I Фома Филипп
Иоанн Иаков II Варфоломей

Мал. 121

*Таемная вячэра на нябёсах (1 палова).*



Еванг. Матвей Фаддей Петр
Симон-Кананит Матфий Андрей

Мал. 122

*Таемная вячэра на нябёсах (2 палова).*

Падумаем толькі: якім чынам маглі б быць вызначаны дні сьмерці нават і такіх апосталаў, як «Сын Вадаліва», і некалькіх іншых, якія відавочна ніколі не існавалі на зямлі? Вядома, хутчэй за ўсё толькі адным спосабам: адносна з месяцам і днём сьмерці месяца, гэтага старажытнана правадыра па небу ў адпавядаючым кожнаму із іх, на думку аўтара, сузор'і. Кожнае месяцовае зацьменне сярэднявечнаму астролагу не толькі магло, але і павінна было ўяўляцца перш за ўсё асобным пасланнем для царквы таго, што ў гэты самы менавіта дзень і памёр адпаведны апостал, і што яму менавіта тут патрэбна наладзіць памінкі.

Так, сапраўды, і думалі напярэдадні Крыжовых паходаў. Возьмем для прыкладу аднаго із самых выдатных нашчадкаў Васіля Вялікага – рымскага папу Ільва I Вялікага (каля 380-461), які ўзвялічыў папскую ўладу на Захадзе і быў прылічаны абедзьвума цэрквамі да сваіх сьвятых. Дзень сьмерці гэтага Ільва (магчыма якраз апостала Леўвея)[355] і прызначаны на люты, калі месяцовыя зацьменні бываюць у Ільве, яго цёзку, і якраз на 18 лютага, калі прыпадаюць пасьля яго сьмерці зацьменні месяца толькі на: 18 лютага 919 года ў 18 гадзін 3 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы са звыш поўнай фазай 14"2, ды яшчэ зацьменне 18 лютага 1440 года з амаль поўнай фазай 11 "7, якое, зразумела, пазнаватае.

Грунтуючыся на першым із іх, г.азн. на пачатку X стагоддзя, і быў, вядома, усталяваны момант яго перасялення на неба ў сваё ўласнае сузор'е.

---

[355] Леў па –біблейску אריה (АРЫЕ-АРЫЙ) і לביא (ЛВІА-ЛЕВІЙ).

Разгледзім жа з гэтага боку гледжання і некаторых іншых апосталаў, лічачы, што прызначальнікі падобных сьвятаў таксама былі мала знаёмыя з Мацвеевым упарадкаваннем іхнай астралізацыі, як і Жуль Шылер, толькі-што цытаваны мной.

Вось Варфаламей, імя якога, як я ўжо згадваў, азначае сын Вадаліва[356], і мы бачым, што яго сьмерць і прызачана на жнівень, калі месяцовыя зацьменні бываюць у Вадаліве; і ў каталікоў прызначана менавіта на 24 жніўня, г.азн. на дзень, у які першае із такіх зацьменняў пасьля пашырэння Апакаліпсіса прыпадала толькі на 918 год, у 17 гадзін 39 хвілін ад Грынвіцкай поўначы, калі месяц у Італіі і Грэцыі ўзышоў ужо ў зацьменні, дасягаўшым звыш поўнай фазы (15"0). А пасьля падзелу цэркваў, адбыўшагася ў 1054 годзе, візантыйцы яшчэ перапраўілі 24 жніўня на 25-е грунтуючыся на частковым месяцовым зацьменні ў Вадаліве 25 жніўня 1121 года, меўшага фазу 3"0 у 3 гадзіны 1 хвіліну ад Грынвіцкай поўначы.

Вось «Двайняты» (Тамаш) прызначаны каталіцкай царквай на 21 снежня, калі месяцовыя зацьменні прыпадаюць на закачэнне яго сімвала – сузор'я Двайнят... І гэта, відавочна, з'яўляецца царкоўным водгаласам зацьмення 1154 года, першага і адзінага, прыпадаўшага на гэты дзень пасьля сьмерці «Вялікага Цара».

Але «двайнятамі» (тамашамі) на небе з'яўляюцца не адны Двайняты, а таксама і двайняты Рыб. Дык чаму ж дзівіцца, калі Ўсходняя царква яшчэ раней прызначыла сьмерць Тамаша грунтуючыся на зацьменні 6 кастрычніка 1009 года ў 22 гадзіны 43 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы са звыш поўнай фазай (18"5). Гэта, вядома, і было першае ўсталяванне сьмерці ніколі не існаваўшага на зямлі апостала-Двайнят, і мы бачым нават і нагоды непагаднення абедзьвух цэркваў. Справа ў тым, што ў 1054 годзе першапачатковая агульная царква распалася на Ўсходнюю і Заходнюю, і Заходняя ў 1154 годзе нанова вызначыла сьмерць Тамаша грунтуючыся на зацьменні 21 снежня 1154 года ў Двайнятах, а Ўсходняя ўсё яшчэ сімвалізавала яго сваімі Дзвюма Рыбамі. Так апостал «двайнят» і памёр два разы...

Але тое ж самае здарылася і з іншымі апосталамі і старажытнымі сьвятымі, акрамя апостала Андрэя, святкуемага абодвума цэрквамі 30 лістапада, напэўна, грунтуючыся на звыш поўным (19"5) месяцовым зацьменні пад Змеятрымальнікам 30 лістапада 1099 года ў 16 гадзін 4 хвіліны ад Грынвіцкай поўначы. Усе іншыя апосталы атрымалі па дзьве сьмерці, г.азн. кожная царква вылічвала асобна, што і дае для гэтых усталяванняў эпоху каля XI стагоддзя нашай эры. А армянская царква прызначыла апосталам яшчэ і трэцюю сьмерць цалкам у іншыя дні года... Тры разы памерці! Сапраўды сумная доля нават і не для сьвятых!

Цалкам зразумела таксама, што пасьля таго, як з дапамогай гэтага метада было замешчана (у кожнай царкве асобна) палова сузор'яў Задыяка, ён пачаў аднолькава лёгка даваць як выпадкі патраплення новых зацьменняў на пустыя месцы, так і дублікаты. А на апошняе із дванаццаці незамешчаных сузор'яў кожнае асэнсаванае і хуткае патрапленне зацьменняў месяца зрабілася ўжо цалкам неверагодным, ды і чакаць зручнага выпадку не было часу. Абедзьве канкуруючыя цэрквы, натуральна, жадалі хутчэй закончыць свае святцы, і таму яны пачалі карыстацца кожным адсячэннем месяца для таго, каб вызначыць з яго дапамогай дзень «адсячэння галавы» таго ці іншага сьвятога, для якога гэта яшчэ не было ўсталявана. Так і замясьціліся ўсе дні года.

Поўны разбор хрысьціянскіх святцаў метадам месяцовых зацьменняў можа вельмі добра вызначыць іхную гісторыю. Але я тут не маю часу распрацоўваць

---

[356] בארֿדולהֿמי (БАР-ДОЛЕ-МІ) – сын Вадаліва.

гэтае пытанне і таму вяртаюся да далейшых наступстваў «таемнай вячэры» на нябёсах.

Сярод дванаццаці сузор'яў Задыяка Юду шукалі, як я ўжо згадваў, не толькі ў сузор'і Скарпіёна, джаліўшага над нябесным Ахвярнікам ўзносіўшагася да неба Змеятрымальніка, але і ў сузор'і Ільва, таму што найменне Іскарыёт азначае Мужяк-Леў.

У евангеллі Яна пра яго толькі паведамляецца:

«*Перад сьвятам вялікадня, ведаючы, што прыйшоў час перайсьці із гэтага сьвету да бога, свайго бацькі, Езус канчаткова ўшанаваў жывучых на гэтым сьвеце». Ён падняўся на сваёй апошняй вечарыне, «зняў адзенне, аперазаўся ручніком і пачаў* (у сімвале месяца, абыходзячага дванаццаць сузор'яў) *мыць ногі вучням і абціраць іх». Запрацівіўся гэтаму толькі Сымон* (апошняе сузор'е, прыпадаючае на маладзік). *Калі ж абмыванне было скончана, ён із хваляваннем вымавіў:*

*«– Праўду, праўду кажу вам, адзін із вас здрадзіць мне».*

*Вучні паглядзелі навокал, не разумеючы, каго ён мае на ўвазе, і адзін із іх, якога асабліва шанаваў Езус, ляжаўшы на яго грудзях, запытаў:*

*«– Хто гэта?*

*«– Той, каму я падаў памочаны кавалак хлеба, – і, памачыўшы ў соль, падаў яго Юду-Сіманаву-Іскарыёту, сказаўшы яму:*

*«– Тое, што намераны зрабіць, рабі хутчэй.*

*«І зайшоў пасьля гэтых слоў у «Богаслаўца» сатана, і ён, узяўшы кавалак, выйшаў. Была ноч, і ніхто із ляжачых не зразумеў, навошта Езус кажа гэта. А ён сказаў астатнім:*

*«– Уславіцца зараз чалавечы сын і бог уславіцца ў ім. – Новы запавет даю вам: шануйце адзін аднаго, як я шаную вас... Дзеці! Не доўга ўжо мне быць з вамі... Куды я іду, туды вы не можаце пайсьці* (Ян, 13). *Але калі прыгатую вам месца, прыйду зноў і вазьму вас з сабой, каб і вы былі там, дзе я»* (14,3).

Такім чынам, атрымліваецца, што сам Езус выправіў Юду выдаць сябе і нават прыспешваў... Настолькі ж малапраўдападобныя без астралістыкі і паведамляемыя Янам дэталі здрады.

«*Езус,* – паведамляе ён (у главе 18), – *пайшоў са сваімі вучнямі за Чорную раку, дзе быў сад... А Юда, здраднік яго, ведаў, што Езус часта збіраў там сваіх вучняў і, узяўшы атрад служак першасьвятара і фарысеяў* (г.азн., згодна з нашымі атаясамленнямі, арыянаў), *прыйшоў туды з ліхтарамі, свяцільнямі і са зброяй* (заўважым, што рымскіх ваяроў тут яшчэ няма, а толькі служкі тагачасных сектаў). *Езус жа, ведаючы пра ўсё, што з ім будзе, выйшаў і сказаў ім:*

*«– Каго вы шукаеце?*

*«– Езуса Пасьвечанага, – адказалі яму».*

*А ён адказаў:*

*«– Гэта я! Калі шукаеце мяне, не чапайце іх* (г.азн. яго вучняў!).

*«Сымон жа, у якога быў меч, выцягнуў яго, стукнуў першасьвятарскага раба і адсёк яму вуха, а імя раба было Цар* (відаць, зорка Рэгул у Ільве, да якай у жарсны чацьвер перад вачамі экзальтаванага аўтара праляцеў метэарыт, адкінуўшы ад сябе, як вуха, аскепак). *Але Езус сказаў Пятру:*

*«– Пакладзі меч у ножны. Няўжо мне не выпіць чарку, якую даў мне бацька?*

*«Тады тысячны правадыр і служкі богаслвячых узялі Езуса і звязалі яго»* (Ян, 8, 1-12).

Мы бачым, што і тут няма нават намёку на тое, каб Юда паказаў нейкім жэстам на Езуса ваярам. Езус сам назваў ім сябе. Уся здрада Юды тут зводзіцца да таго, што Юда, быццам бы паведаміў фарысеям пра месца, дзе адбываліся таемныя

сходы вучняў Езуса. Юда па-жыдоўску азначае проста «Багаславячы», як зваліся прыхільнікі чыстага адзінабожжа, і мы бачым, што апавяданне пра яго ў Яна мае цалкам не рэчаісны характар. Асоба Юды як быццам увасабляе тут у сабе ўсю тагачасную секту арыян. Бо сама ж Юдэя ў перакладзе азначае «Краіна богаслаўя», у адрозненні ад паганскай Самарыі (Паўночнай Італіі) і Галілеі (Галіі), якая ў перакладзе азначае «Кола» і не раз ужываецца для пазначэння задыякальнага кола.

Такай з'яўляецца цьмяная, яшчэ дрэнна персаніфакавая вызначаная, фігура Юды ў евангеллі Яна.

Тут месца дзеянне, відаць, ужо перанесена з неба на зямлю, і евангельскае апавяданне пад формай здрады аперцэпцыйна перапрацоўвае рэчаісны факт адмовы часткі першапачатковых хрысьціянаў, меўшых назву багаславячыя (юдэі), прызнаваць боскае паходжанне «Езуса» пасьля таго, як ён не сраўдзіў іхнае чаканне пра свой «хуткі прыход на зямлю». Як жа было застаўшымся вернымі не абазваць здраднікам кіраўніка гэтых адрачэнцаў? Гэта заўважаецца і ў далейшых апавяданнах.

У евангеліста Марка мы маем пра яго толькі блытаныя паведамленні. Паведамляецца пра прысутнасць Юды на таемнай вячэры. Яшчэ раней гэтага Юда, быццам бы, пайшоў да сьвятароў, каб паведаміць пра свайго настаўніка (Марк, 14, 10). А праз некалькі радкоў, калі Езус еў з вучнямі паску (нягледзячы на тое, што, як выяўляецца далей, да вялікоднага дня заставалася яшчэ больш за суткі!) аўтар ужо забыўся пра гэты ўжо здзейснены ўчынак і кажа ад імя Езуса тое ж, што і ў Евангеллі Яна:

«– *Праўду, праўду кажу вам, адзін із вас, ядучы разам са мной, здрадзіць* (а не здрадзіў) *мне*».

І на іхнае пытанне: «*Хто гэта?*» адказаў:

«– *Адзін із дванаццаці, макаючых разам са мнай хлеб у сподак*» (14, 10-20).

Пазней Езус быццам бы дадаў:

«– *Але гора таму, які здрадзіць чалавечаму сыну. Лепш бы яму не нарадзіцца»* (14, 21).

Пра тое, што Юда пасьля гэтага сышоў, вядома, тут ужо не паведамляецца, бо ён, згодна з Маркам, здрадзіў яму яшчэ раней гэтай вячэры, а таму застаецца невядомым і тое, калі ён разам з Езусам макаў хлеб у сподак.

Месцам арышту Езуса тут ужо называецца не Чорная рака, а Алейная Даліна[357] (Гефсіманія). Там Езус, быццам бы, пакінуў астатніх вучняў і, узяўшы з сабай толькі Пятра Якава і Яна, пайшоў у пустое месца, дзе пачаў тужыць і маліцца, кажучы:

– «*О, Бацька*! *Усё для цябе магчыма! Пранясі гэту чарку міма мяне* (14, 36).

І сузор'е Чаркі сапраўды прайшло побач з месяцам, які набліжаўся да пасткі Ільва.

Вучні, згодна са словамі Марка, заснулі. Ён прыходзіў да іх два разы і будзіў, прыйшоў і ў трэцці раз і паведаміў ім: «*Вы ўсё яшчэ спіце? Падніміцеся і пойдзем. Вось набліжаецца здрадзіўшы мяне».*

*Тады падышоў Багаславячы* (Юда), *адзін із дванаццаці, і разам з ім шат людзей з мячамі і каламі ад сьвятароў, праўнікаў і старэйшын. Здраджваючы яму даў ім знак, вымавіўшы:*

*«– Каго я пацалую, тай і з'яўляецца ім. Вазьміце яго і вядзіце асьцярожна».*

*І адразу падышоў да Езуса:*

---

[357] Згодна з Cruden'у.

«– *Настаўнік! настаўнік!»* – сказаў ён і пацалаваў яго (астральна: Леў дакрануўся да месяца ніжняй часткай сваёй пасткі).

«*А яны наклалі на яго рукі і павялі*» (Марк, 14, 41-46).

Пра тое, што было далей із Юдай, у Марка нічога не паведамляецца, як і ў Яна, і асоба ж самога Юды выступае ў яго вельмі цьмяна, хаця дадатак пра пацалунак і персаніфікуе яго.

У больш пазьняга евангеліста Мацьвея да вышэйпрыведзенага апавядання Марка дадаецца яшчэ і новая дэталь пра продаж Езуса за трыццаць срэбранікаў.

«*Адзін із дванаццаці вучняў, маючы імя Юда Іскарыёт, пайшоў да першасьвятароў і сказаў ім:*

*«– Што вы дадзіце мне, калі я перадам яго вам?»*

*Яны прапанавалі яму трыццаць срэбных манет. І з таго часу ён стаў шукаць зручнага выпадку для здрады* (Мацьв., 26, 14-16).

Потым, пасьля амаль літаральнага перапісвання ўсяго вышэйпрыведзенага із евангелля Марка пра пацалунак, дададзена і апошняя рыса гэтай легенды, ужо канчаткова склаўшаяся да таго часу ў галоўных сваіх дэталях:

«*Богаславец, пабачыўшы, што Езус асуджаны, пакаяўся і вярнуў трыццаць срэбранікаў сьвятарам і старэйшынам, кажучы:*

*«– Зграшыў я, разліў кроў нявінную.*

«*Потым ён пайшоў і павесіўся*» (Мацьвей, 27, 3-5).

Усё гэта, з некаторымі варыяцыямі, перапісвае і чацьвёрты евангеліст Лука, але, акрамя таго, дадае яшчэ і пра лекаванне Езусам адсечанага Пятром вуха ў першасьвятарскага служкі «Цара» (Лука, 22, 53).

Мы тут выразна бачым, як пасьлядоўна развівалася легенда пра Юду-здрадніка з дапамогай розных побытавых меркаванняў, а таксама без сумневаў з астральнай дапамогай, як гэта ўжо паказвалі і да мяне.

Месяц жа і зараз, сімвалізуючы бога-бацьку, праз кожныя чатыры тыдні пераходзіць пад пасткай сузор'я Ільва, па-жыдоўску Арыя, і потым ідзе далей пад згуртаванней дробных зорачак, рассыпаных як манеткі ў сузор'і Валасы Веранікі і прыходзіць «на крыж», г.азн. на перакрыжаванне нябеснага экватара з нябеснай эклектыкай, каля якога стаіць Панна, яго маці.

Але гэтая нябесная з'ява, як самая звычайная, вядома, не магло б паслужыць падставай для стварэння легенды, якая магла з'явіцца толькі таму, што месяц і сапраўды некалі памёр на гэтым крыжы, г.азн. адбылося месяцовае зацьменне, якое магчыма тут толькі пад час велікадня пры сонцы ў Рыбах, ці ў Авене.

Пры такіх акалічнасьцях і адбылося гістарычнае зацьменне 21 сакавіка 368 года падчас вылічанага намі ў першае кнізе «Хрыста» слупавання «Вялікага Цара». Падрабязнасьці пра Юду арыяніна[358], які выдаў яго пацалункам, узяты проста із праходжання месяца за суткі да «яго сьмерці на крыжы» пад вуснамі гэтага Ільва, а нябесная таемная вячэра з дванаццаццю апосталамі (сузор'ямі), назіраемая на небе пад час кожнай жарснай ночы ў выглядзе дванаццаці сузор'яў Задыяка, якія месяц абыходзіць, як бы абмываючы ім ногі, надала экзальтаваным гледачам астатнія падрабязнасьці легенды.

# Эпілог

[358] איש־כ־אריה (АЙШ-К-АРіЕ) – Муж-як-Арый, г.азн. Леў, што і перароблена ў Іскарыёта.

Запаветы евангельскага хрыста



Мал. 123
*Заснавальнік хрысьціянскага набажэнства ў аперцэпцыі сучаснага мастака. Езус, які марыць на беразе мора (Мацьвей, 13, 1). Із кнігі Les saints evangiles, avec les dessins de M. Bida.*

# Глава 1.

## Змест вучэння Езуса згодна з яго выкладаннем у евангеллях.

«Вучэнне Езуса, – запэўніваюць нас сучасныя тэолагі, – было чыста маральным. Ніякіх новых навуковых ісьцін ён не адкрываў людзям».

Але чытач ужо бачыў із папярэдняга, што існуюць важкія нагоды сумнявацца ў гэтым, і я нават схіляюся да таго, што яго, як пазьней Галілея і Джардана Бруна, засудзілі менавіта за новыя ідэі ў астраноміі, у ліку якіх была тады сістэма сусьвету Пталямея...

Але будзем часова прытрымліваццa агульнапрынятага погляду і паглядзім, што із маральных павучанняў «Вялікага Цара» пазначаюць евангелісты.

Не цяжка бачыць, што пад іхным выглядам як Марк, так і Ян выкладаюць толькі свае ўласныя думкі, а больш усяго і падрабязней усяго яны развіваюць сваю ўласную містычную дактрыну пра тое, што ён быў не кім іншы, як сынам бога Грамабоя – стваралька неба і зямлі, сышоўшым із крышталічнага купала нябёсаў на зямлю для таго, каб адкупіць грахі сусьвету, назапашаныя з часоў грэхападзення

першых людзей, і што пасьля свайго слупавання і ажывання ён, хаця і знік кудысьці без следу, але ўсё ж зноў прыйдзе і запануе на зямлі, узнагародзіўшы ўсіх верыўшых у яго прыход. Задаўшыся выключна гэтай апошняй мэтай, Марк і Ян выпусьцілі із-пад увагі ўсё астатняе, і таму пра сапраўдную навуку «магістра Езуса» яны толькі выпадкова абмоўліваюцца дзе-нідзе некалькімі фразамі, ды і астатнія два евангелісты ці перапісваюць усё цалкам із Марка, ці ўкладаюць у вусны «Хрыста» толькі свае ўласныя разважанні.

Увесь чыста маральны бок вучэння Вялікага Цара рэзюмуецца Янам толькі ў некалькіх радках пры апісанні таемнай вячэры, якой, аднак, у яго запоўнены цэлых пяць главаў. Але і гэтыя радкі, вядома, апокрыф, таму што выказваемае Езусам, магло быць выказана ім толькі пасьля свайго ажывання, а ніяк не да яго. Следам за чуллівым апавяданнем, як евангельскі маэстра, «узяўшы ручнік, аперазаўся ім і, наліўшы вады ў рукамыйніцу, пачаў мыць ногі сваім вучням і выціраць іх ручнікам, ён, – згодна са сведчаннем Яна, – сказаў:

«*– Ведаеце, што я вам зрабіў? Вы завеце мяне настаўнікам і гаспадаром, а я даў вам прыклад паслужлівасьці»* (Ян, 13, 13).

Потым праз некалькі радкоў, відавочна дададзеных чужай рукай (13, 17), ён, – згодна са словамі Яна, – кажа:

«*– Дзеці! Нядоўга ўжо быць мне з вамі. Будзеце шукаць мяне, але не знойдзеце, і куды я пайду, вы не зможаце пайсьці. Даю вам новы запавет: шануйце адзін аднаго, як я вас шанаваў»* (13, 34).

Гэты ж новы запавет Ян паўтарыў ад імя свайго настаўніка і ў наступнай частцы, дадаўшы ў якасьці тлумачэння:

*«– Не існуе шанавання большага чым, калі нехта душу сваю пакладзе за іншых»* (15, 13).

Але ці сапраўды такі запавет быў новым?

Ці належыць гэтае выказванне і сапраўды заснавальніку хрысьціянскай царквы, ці яно выпісана Янам із кнігі «Лявіт», дзе мы таксама чытаем: «ушануй блізкага твайго, як самага сябе» (Лявіт, 19, 18).

Калі так, калі гэта сапраўды быў новы запавет, упершыню выказаны «Вялікім Царом» у IV стагоддзі нашай эры, то і ў саму кнігу «Лявіт» ён патрапіў не раней заканчэння IV стагоддзя нашай эры із сапраўдных выслоўяў Васіля Вялікага. Усё астатняе ў апісанні «таемнай вячэры», у тым ліку і кавалак хлеба, пададзены быццам бы Езусам Юду са словамі: «што робіш, рабі хутчэй», і сыход Юды пасьля гэтага на здраду, і апошняя малітва Езуса пасьля сыходу Юды: «Зараз услаў мяне, бацька, славай, якую я меў у цябе раней існаванняч сусьвету і г.д.» (17, 6) бо ўсе ж гэта больш нагадвае сон, чым рэчаіснасць!

Гэта і быў просты сон у Яна, хаця ён магчыма і быў навеяны яму зоркамі. Але псіхалагічна ён магчымы, і допушчальны, калі словы пра шанаванне блізкага былі вымаўлены на нейкім іншым сходзе. Але ці можна бачыць у іх новы запавет? Не! Такія словы маглі быць толькі канстатаваннем ужо існаваўшага ў чалавечым асяроддзі бескарыслівага пачуцця шанавання, якое не адмаўлялі і самыя высокія прадстаўнікі таго пакалення. Героі ж, ахвяраваўшыя сваім жыццём за іншых, існавалі і ў да-хрысьціянскія часы, яны існуюць і ў асяроддзі сучасных нехрысціянаў. Гэта не новы запавет, ужо толькі дзякуючы аднаму таму, што гаварыць шануючаму чалавеку: «шануй!» – не мае сэнсу, а гаварыць гэта няздольнаму шанаваць, усё адно, што размаўляць з глухім, ды, акрамя таго, такое

пачуццё і мела магчымасць узнікнуць толькі дзякуючы ўзаемнасьці, а не згодна з наказам:

*Таму, хто сам маўчыць, і рэха не адкажа,*
*І хто не кахае сам, ні ў кім кахання не сустрэне.*

Ні ў Марка, ні ў іншых евангелістаў гэтага запавета няма, ці, дакладней, няма парады развіваць у сабе зародкі гэтага пачуцця.

Разглядаючы ўтрыманне Евангелля Марка цалкам, здзіўляешся яго ідэйнай беднасьці. Тут, акрамя фактычнага апісання слупавання Езуса і яго ажывання із памёршых, мы знаходзім толькі апісанне яго медычнай дзейнасьці, ды яго спрэчкі з арыянскімі сьвятарамі наконт сэнсу таго ці іншага месца ў біблейскім пяцікніжжы, калі ён, да таго ж, не заўсёды мае рацыю. Потым, сустракаюцца прыдуманыя аўтарам абяцанні ад імя Езуса ўзнагароды тым, «хто паверыць, што ён сын боскі». Тое ж самае і ў астатніх евангелістаў. Толькі ў дзясятай частцы Евангелля Лукі ён сказаў аднаму свайму прыхільніку арыгінальную згодна з тым часам, але, у дачыненні да ўсіх людзей адразу, абсалютна ні на што не прыдатную маральную сентэнцыю:

«*– Пайдзі, і ўсё, што маеш, прадай, а грошы раздай жабракам, і за гэта будзеш мець скарбы на нябёсах».*

А калі тай адышоў засмучаным, таму што ў яго была вялікая маёмасць, Езус быццам бы сказаў вучням:

– « *Лягчэй вярблюду прайсьці праз вушка іголкі, чым заможнаму патрапіць у царства нябеснае»* (18, 25).

Тут мы бачым першы зародак таго наіўнага ідэалістычнага камунізму, – найбольш схільнымі да якога, насупраць гэтай сентэнцыі, заўсёды выяўляліся, аднак, менавіта толькі з дзяцінства забяспечаныя людзі, у якіх вызваленне ад фізічнай працы і, дзякуючы гэтаму, дэталёвае знаёмства з абстракнымі навукамі давалі месца пышнаму развіццю альтруістычных пачуццяў.

Ці быў Езус родапачынальнікам гэтага першабытнага сацыялізму яшчэ не ведаўшага, што дадатковая каштоўнасць фізічнай працы, г.азн. выраб матэрыяльных прадуктаў першай неабходнасьці ў колькасці большай, чым можа спатрэбіцца для штодзённага спажывання працуючым ў гэтай вобласьці разам са сваёй сям'ёй, з’яўляецца адзіным рухавіком інтэлектуальнага, грамадзкага і эканамічнага прагрэсу чалавецтва не толькі на працягу ўсяго таго перыяду яго гістарычнага жыцця, калі асноўнымі адзінкамі грамадства з'яўляецца індывід, але нават і ў такі, калі грамадства ўжо цалкам бы паглынула асобу, як у пчол, мурашак і тэрмітаў?

Вядома, гэта цалкам магчыма, таму што паўтараецца і ў прыпісваемым яму другім недарэчным у дачыненні да ўсіх людзей адразу запавеце:

– «*Калі маеш дзьве кашулі, аддай адну із іх немаючаму*» (і, такім чынам, пры выпадку мыцця апошняй, застаўшайся у цябе, хадзі галым!).

Нагодай да ўзнікнення такога падання пра вучэнне Вялікага Цара магла быць толькі яго ўласная адмова ад матэрыяльных асалод дзеля духоўных, што, вядома, было магчыма толькі тады, калі іншыя добраахвотна бралі на сябе абавязкі забяспячэння яго ўсім патрэбным для жыцця.

У падобным жа, збольшага сентыментальным, выглядзе мы знаходзім у Мацьвея ад яго імя цэлы шэраг выслоўяў, асабліва адлюстраваўшыхся ў агульна вядомым нагорным павучанні ў Евангеллі Мацьвея (5, 3-16).

*«Шчасьлівыя бедныя духоўна, таму што ім належыць царства нябеснае».*

*«Шчаслівыя плачучыя, таму што яны суцешацца».*

*«Шчасьлівыя рахманыя, таму што ім дастанецца зямля запаветная».*

*« Шчасьлівыя згаладалыя і жадаючыя праўды, таму што яны насыцяцца».*

*« Шчасьлівыя міласьцівыя, таму што яны будуць памілаваны».*

*« Шчасьлівыя чыстыя сэрцам, таму што яны пабачаць бога».*

*« Шчасьлівыя прымірыцелі, таму што іх назавуць сынамі бога».*

*« Шчасьлівыя гнаныя за праўду, таму што ім належыць нябеснае царства».*

Гэтага павучання няма ні ў Яна, ні ў Марка. Яго ж пачатак ёсць у 6 главе Лукі, дзе яшчэ дададзена:

*«Ударыўшаму цябе па шчацэ падстаў і іншую».*

*«Забіраючаму ў цябе верняе адзенне не перашкаджай забраць і ніжняе».*

Але апошні запавет наўрад ці хто выконваў інакш як у трапічных краінах, дзе сапраўды людзі ходзяць голымі... У халодных жа краінах, асабліва зімой, ён цалкам недарэчны.

Такім чынам, чытач бачыць сам, што выказванні нагорнага павучання пра шчасьце плаксівых і неразумных зваліся нарэшце проста да абсурду.

Зразумела, што толькі адно падобнае маральнае павучанне ніколі не было б здольным зрабіць «Вялікага Цара» настаўнікам, пакінуўшым незнішчаемыя сьляды ў гісторыі чалавецтва. Ды і тыя, хто навучаў яму ад яго імя, не надалі б людзям нічога акрамя крывадушнасьці ды ляноты.

Ніякіх намёкаў на тое, каб падобнымі павучаннямі ён сьвядома імкнуўся да таго, каб стварыць рэспубліканскі настрай у грамадстве, г.азн. параўнаць усіх у правах, мы таксама не маем у евангеллях. Наадварот, евангеліст Лука малюе яго ў гэтым дачыненні хутчэй нават манархістам ці індыферэнтам, таму што калі «ірадыяне» (г.азн. прыхільнікі Цэзара) прыйшлі злавіць яго на слове і запыталі: «ці даваць падаткі імператару ці не даваць?», то ён быццам бы папрасіў іх паказаць яму манету і запытаў:

*«– Чыя на ёй выява і надпіс?»*

Яны адказалі:

*«– Імператара».*

А ён быццам бы сказаў:

*«– Аддайце ж імператару тое, што яму належыць, а боскае аддайце богу*».

Іншымі словамі, ён загадаў усім плаціць падаткі спраўна (12, 16).

Розныя прыпавесьці Езуса, існуючыя ў Евангеллях, нападобе, напрыклад, параўнання слоў «праўды з насеннем, падаючым то на дарогу, то на камяні, то на ўрадлівую глебу, пры чым адно засыхае, другое дзяўбуць птушкі, а трэццяе шматкроць прыносіць свай плён», больш дапасуе да вобласьці паэтычнай творчасьці і не паведамляе ніякай новай ці нават старай маральнай ці навуковай ісьціны. Да такай жа чыста паэтычнай творчасьці адносяцца і прыпісваемыя Езусу прадказанне пра будучы жахлівы суд, калі «паўстане народ на народ і царства на царства, і будуць вялікія землятрусы па месцах і галаданні, і моры, і жудасныя з'явы ў прыродзе, і вялікія знакі на небе», «і будуць зацьменні сонца, месяца і зорак, а на зямлі засмучэнне народаў і непаразуменне, і мора захвалюецца, і людзі будуць задыхацца ад жаху ў чаканні таго, хто ідзе на сусьвет, і магутнасьці нябесныя завагаюцца і пабачаць сына чалавечага, ляцячага на воблаку з магутнасьцю і славай вялікай» (Ян, 21, 10-25).

Для паэмы – гэта добра, а для рэчаіснага навуковага прадказання цалкам не прыдатна.

Адзінае сапраўды новае і часам, на гора сабе, выконваемае жанчынамі ў маральным павучанні Езуса, як яно выкладаецца евангелістамі, – гэта прызнанне за

імі права «вольнага кахання», якое выяўляецца ў дэманстратыўным апраўданні жанчын, пакінуўшых сваіх чалавекаў дзеля іншых ці проста маючых некалькіх чалавекаў. Такім з'яўляецца яго спачуваючае стаўленне, – згодна з Янам, – да самарыцянкі, сустрэтай ім каля студні, меўшай ужо пяць чалавекаў, і той, якога яна мела на той час, не быў з ёю адружаны (Ян, 4, 18), і да нявернай жонкі, якую прывялі да яго, згодна з тым жа Янам, тлумачальнікі закона, якім ён сказаў:

– «*Хто із вас без граху, хай першы кіне ў яе камень*» (Ян, 8, 7).

А больш усяго пра яго асаблівую сімпатыю да жанчын маючых шмат мужчын сведчыць тое, што самыя галоўныя із яго спадарожніц, нападобе Марыі Магдаліны, былі менавіта із іх. Але і гэты «запавет», лёгка выконваемы пад час юнацтва, прыводзіць жанчын да сумнай і самотнай старасьці а таму нават і ў наш час не можа быць рэкамендаваны ні жанчынам, ні мужчынам.

Цікавей жа ўсяго тое, што такіх шматмужніх апавяданняў не перапісаў із Яна ніводны із іншых евангелістаў, якія мелі, відавочна, па гэтаму пытанню ўжо іншы погляд, г.азн. лічылі грэшнымі якія б то ні было ўзаемадачыненні мужчын і жанчын, нават пасьля адружання, што цалкам характэрызуе ўсё сярэднявечнае манаскае хрысьціянства, стаўшае, такім чынам, у поўную супярэчнасць з тым, чаму, згодна з Янам, вучылі Езус і сам бог-бацька ў Бібліі. Мацьвей, напрыклад, укладае ў вусны Езуса нават ухвалу такай жахлівай справе, як сама-кастрацыя:

«*Існуюць скапцы, якія нарадзіліся такімі із улоння маці, існуюць аскопленыя людзьмі, а існуюць і такія, якія самі аскапілі сябе дзеля царства нябеснага: той, хто можа зразумець гэта, хай зразумее* (Матв., 19, 12).

Заўважу, што і само слова «манах» ці «інак» па-грэцку азначае: валах, г.азн. кастрат.

Як патлумачыць такую метамарфозу стаўлення апошніх евангелістаў да жанчыны? Мне здаецца толькі тым, што жанчына аж да эпохі Адраджэння лічылася цалкам няздольнай да якой бы то ні было разумовай працы і да развіцця, а толькі да кахання ці да нянавісьці, і таму магла быць толькі непераадольваемай перашкодай для навукоўцы, які прывязваўся да яе замест навукі і, такім чынам, паступова выдаткаваў час дзеля зямных клопатам, а не небу. Жаданне пазбавіцца раз і назаўсёды ад гэтай небяспекі, якая, як нячысьцік-спакусьнік, падпілноўвала кожнага, прысвячаючага сябе навуцы, і вымушала, – як мне здаецца, – першых навукоўцаў збягаць у кляштары, якія спачатку былі толькі мужчынскімі, пакуль і містычна наладжаныя жанчыны не пачалі пераймаць у мужчын. Але і ў кляштарах збягаўшых, замест прыродных спакус, пачыналі падпілноўваць яшчэ горшыя дэманы, розныя ненатуральныя заганы, і ў выніку мог узнікнуць звычай самаахвотнай кастрацыі ўсіх манахаў, якія дзякуючы гэтаму і набылі назву інакі.

Крыніцай жа ўяўлення пра жанчыну, як пра пасудзіну, напоўненую living рознымі брыдотамі, з'явілася, як мне здаецца, простая памылка першага із перепісчікаў Апакаліпсіса Яна.

Ужо шмат гадоў таму назад, вывучаючы гэту кнігу ў Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскага умацавання, а потым і ў Шлісельбургскім умацаванні, я звярнуў увагу на тое, што пад імем «жанчыны, седзячай на пасадзе крывавым» (17, 3), аўтар разумеў тагачасную візантыйскую царкву, а таму і выказванне ў папярэдняй частцы «пра сто чатыры тысячы адкупленых ад зямлі, не апаганіўшыхся з жанчынай» (14, 4) я зразумеў, як і патрэбна было, грунтуючыся на далейшым утрыманні Апакаліпсіса, у тым сэнсе, што яны не далучыліся да панаваўшай тады мікалаіцкай» царквы. А, тым часам, першыя із перапіснікаў, дрэнна засвоіўшыя

сэнс кнігі, зразумелі гэтае выказванне ў агульным яго значэнні і нават паставілі слова «жанчына» ў множным лік, чым замацавалі деградаваўшы сэнс. Адбылося гэта, як я ўжо даводзіў у сваёй кнізе «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры», на самым канцы IV стагоддзя. Гэтая памылка перапішчыка, разам з ашамляючым уражаннем, выразбленым Апакаліпсісам на яго сучаснікаў, і магла паслужыць пазней для развіцця манаскай адружальна-нянавісьці ў хрысціянаў не раней V стагоддзя, а потым і да ўзнікнення скопніцтва. Сам евангеліст Мацьвей быў, як сведчаць паданні, скапцом, але із усяго павядомленага Янам і із таго, што ўсе астатнія евангелісты старанна выключылі са сваіх твораў спагадлівае і нават пяшчотнае стаўленне Езуса да занадта легкадумных жанчын, відаць, што ў скопніцтве сваіх маласьвядомых пасьлядоўнікаў, а потым і ў заснаванні манаства Вялікі Цар быў цалкам невінаваты.

Ён тлумачыў, – паведамляюць і Ян, і Марк, і астатнія пазнейшыя евангелісты, – сьвятое пісанне. Але ж амаль усе біблейскія кнігі, акрамя легендаў першай часткі кнігі Быцця, былі напісаны, як я ўжо паказваў, пасьля яго і нават згадваюць пра яго самога[359]. А «Быццё» зьмяшчае ўсё тагачаснае прыродазнаўства, распрацаванае самай наіўнай із усіх старажытных навук – кабалой, прыводзілаўшай рэчы (фенамены) у цесную сувязь з іхнымі найменнямі (наменамі) і спрабаваўшай, шляхам разлажэння жыдоўскіх найменняў на літары і склады, аднавіць уласцівасьці і паходжанне пазначаючых імі рэчаў. Змест гэтай кнігі, складаючы да таго часу сакрэт касты пасьвечаных, Вялікі Цар, відаць, і імкнуўся зрабіць набыткам усіх імкнучыхся да ведаў. І падцверджаннем маёй думкі служыць тое, што самым важным творам Васіля Вялікага (ён жа евангельскі Хрыстос) з'яўляюцца яго павучанне пра «Шэсць дзён тварэння», дзе надзвычай цікава трактуецца пра жыццё і паходжанне ўсёй прыроды.

І калі «Вялікі Цар» сапраўды публічна выказаў хаця б дзесятую долю таго, што выкладаецца ў гэтых, прыпісваных яму, павучаннях, і ілюстраваў іх змест выявамі прыроды і зорнага неба, то пра яго лекцыі, па справядлівасьці, можна было сказаць, што ён насычаў імі тысячы людзей, прагнучых праўды. З гэтага боку гледжання трагедыя яго жыцця была цалкам падобнай на трагедыі жыцця і іншых гістарычных людзей, якія спрабавалі адным парывам сваёй уласнай бязмежнай прыязнасьці падняць непадрыхтаваны і маларазьвіты натоўп на недасягаемую для яго вяршыню. Ён прыйшоў да іх абвясьціць праўду, як ён яе разумеў, а яны, хаця і верылі яму, але не абаранілі яго ад ворагаў, а калі здарылася дзіва яго збавення ад сьмерці каля жэрала Вязувія, яны палічылі яго за сына бога Грамабоя і зараз жа выказалі жаданне, каб ён сеў на пасад зямнога цара, а іх пасадзіў на месца прагнаных царадворцаў, якіх яны і прымусілі б служыць сабе, як самі ім служылі, цалкам не падазраючы, што калі дзясяткі людзей падымуць сабе на плечы аднаго, то змогуць яго несьці і ён ім можа быць нават карысным, паказваючы з вышыні, куды патрэбна ісьці, а калі дзесяць сядуць на плечы аднаго, то ў выніку зараз жа зваляцца на зямлю і апынуцца ніжэй, чым былі раней.

У выніку сваёй настаўніцкай дзейнасьці (не дарэмна ж яго завуць ва ўсіх евангеллях настаўнікам) яму давялося не толькі рызыкнуць сваім жыццём, але і схавацца пасьля свайго выратавання ад сьмерці ў пустыню, каб пазбавіцца ад сваіх шматлікіх прыхільнікаў, якія паверылі, нарэшце, у яго і патрабавалі ад яго таго, што ім здавалася найвышэйшай узнагародай для чалавека: укаранавання на імператарскі пасад і ўсталявання такога ўсеагульнага бяздзейнага жыцця, калі,

---

[359] Гл. першую і другую кнігі «Хрыста».

згодна са словамі Мацьвея «*не сеюць, не жнуць, не збіраюць у жытніцы, а бацька нябесны корміць ўсіх*» (Матв., 6, 26).

«*Ды і пра адзенне навошта клапаціцца?* Пагледзіце на палявыя лілеі, як яны растуць: не працуюць, не прадуць, але і сам Саламон ва ўсёй сваёй славе не апранаўся так, як кожная із іх. Калі ж траву палявую, якая сёння існуе, а заўтра будзе кінута ў печ, бог так апранае, то наколькі больш вас, малаверы?» (Матв., 7, 28-31).

Што ж дзіўнага, калі пасьля такіх экстравагантных абяцанняў, якія часам даюцца і зараз, хаця і ў іншай форме, першы прадвесьнік прыходу царства боскага на зямлю збег паўтары тысячы гадоў таму назад ад сваіх уласных вучняў, абяцаўшы ім у суцяшэнне «вярнуцца хутка» (Апак., 22, 12), але не з'явіўся і да гэтага часу!